УДК 821.161.3.09+929 Барадулін
ББК 83.3(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова і тэксталагічная падрыхтоўка
Наталлі Давыдзенка

Заўвагі
Наталлі Давыдзенка і Ірыны Сляповіч

*У тэксце захоўваюцца некаторыя асаблівасці аўтарскай мовы.*

Укладальнік і выдавецтва выказваюць шчырую падзяку
кампаніі TFYN,
Юрыю Зісеру,
Тамары Церах
за дапамогу ў выданні кнігі.

**Барадулін, Р.**

**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 5. 1989–1991 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка ; 2-е выд. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 340 с. [4] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).

ISBN 978-985-7227-32-7.

Пяты выпуск «Дзённікаў і запісаў. 1989–1991» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна яскрава адлюстраваў новы час нашай гісторыі — перабудова, дэмакратыя, галоснасць, а за імі нечаканае знікненне СССР і нарэшце — незалежнасць Беларусі і іншых рэспублік былога Савецкага Саюза. Адбыліся паездкі паэта ва Украіну, Узбекістан, Таджыкістан і Туркменію, а таксама ў Кітай і Францыю. Выйшлі новыя кнігі вершаў і перакладаў, ішло напружанае творчае і грамадскае жыццё. Том папоўнілі не друкаваныя раней у зборніках вершы, а таксама фотаздымкі і малюнкі сяброў.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-32-7**

# Ад укладальніка

*У прадмове да папярэдняга, чацвёртага, тома (выпуска) «Дзённікаў і запісаў. 1983–1988» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна было заўважана, што ім, можна сказаць, заканчваецца вялікі — савецкі перыяд нашай агульнай гісторыі ў складзе СССР. І сапраўды так. Падзеі 1989–1991 гг., занатаваныя ў пятым томе, гэта пярэдадзень знікнення СССР і з'яўлення новых ці адроджаных дзяржаў. Кожны новы дзень прыносіў немагчымыя яшчэ ўчора падзеі і здарэнні. На слыху «перабудова», «дэмакратыя», «галоснасць», мітынгі і шэсці — на Курапаты, у гадавіну Чарнобыля; I з'езд народных дэпутатаў у Маскве. Гучныя, вострыя, гарачыя выступленні ягоных удзельнікаў напружана слухаюць па радыёпрыёмніках паўсюдна — на працы, у крамах, у транспарце. Перад Домам урада галадае (!) рабочы, які патрабуе, каб ягоную тэлеграму зачыталі на з'ездзе. У Беларусі ўтвараецца аддзяленне Міжнароднага аб'яднання пісьменнікаў — ПЭН-клуба — ПЭН-цэнтр, і Р. Барадулін яго першы прэзідэнт. Ён сябра Беларускага Народнага фронта і ўдзельнік ягоных соймаў. Камуністы пачынаюць здаваць партыйныя білеты. У Мінску ўпершыню збіраецца Сусветны кангрэс беларусістаў, і на яго з'язджаюцца не толькі вучоныя-славісты, але і беларусы замежжа. 19 жніўня 1991 г. у Маскве адбываецца спроба дзяржаўнага перавароту — помнае ГКЧП; 25 жніўня аб'яўляецца незалежнасць БССР, а ўжо 8 снежня 1991 г. кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны падпісваюць у Белавежскай пушчы сумеснае Пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Адначасова імкліва скачуць цэны, таннеюць грошы, апустошваюцца паліцы магазінаў, — уводзяцца талоны на прадукты харчавання. І — вялікая сямейная радасць: нараджэнне ўнучкі!*

*Яшчэ працягваюцца паездкі, да якіх Рыгор Іванавіч вялікі ахвотнік: у 1989 г. у Талін, на вечарыну Беларускага таварыства; у Кіеў, на святкаванне 175-годдзя Т. Шаўчэнкі; у Ташкент, на 100-годдзе ўзбекскага паэта Хакімзадэ Ніязі Хамзы; у Пскоў і Маскву, на Пушкінскае свята паэзіі. У 1990 г. — у Фрунзе, на юбілей кыргызскага паэта А. Асмонава; у 1991 г. у Ашхабад, на Дні туркменскага паэта Махтумкулі; неаднаразова ў Вільнюс. У 1990 г., у складзе дэлегацыі савецкай інтэлігенцыі, — вялікае плённае, уражлівае падарожжа ў Кітай, а ў 1991 г. у Варшаву і Парыж, на асамблею ПЭН-клуба.*

*Ні на дзень не перарываецца выдавецкая праца паэта. Ён рупіцца пра 6-томны Збор твораў В. Быкава, «Выбранае» Я. Пушчы, разам з В. Ліўземніекам рыхтуе беларуска-латышскае выданне М. Багдановіча, працуе над*

*штогоднікам «Братэрства», пестуе маладых паэтаў. Ён ездзіць і па Беларусі па справах прапаганды беларускай літаратуры, у Віцебск і Оршу на вечарыны памяці У. Караткевіча, на Шагалаўскія чытанні, у Петрыкаў, дзе руплівасцю і на сродкі паэта І. Шклярэўскага высаджваецца лес.*

*У адпачынак Рыгор Іванавіч з’язджае ў Дамы творчасці літоўскай Ніды, Кішынёва і латышскіх Дубултаў. Але як заўсёды адпачынак для яго — працяг напружанай творчай працы — новыя вершы і безліч перакладаў: Пастарнак, Мандэльштам, Пушкін, Эмінеску, Каратынскі, Райніс, Вальеха.*

*«Перабудова» жыцця на новы лад прынесла паэту і асабістыя трывогі — душэўны сум і смутак, адчуванне ўзросту, амаль безвыходнасці і агульнай галечы. І ён ратуе душу Ушачамі, куды едзе ў любы зручны момант — удыхнуць роднага паветра, наслухацца сакавітай мовы ад апошняй радні — Марыі Рыгораўны і запісаць ад яе народныя песні. А яшчэ ўсё часцей ён ходзіць у Мінску на знакамітую Камароўку — пачуць трапнае слова, пазіраць за людам паспалітым, каб, як сам адзначае ў дзённіку, адчуць пульс жыцця.*

*Выходзяць з друку кнігі: у ягоным перакладзе «Рубаі» А. Хаяма і М. Шагала «Паэзія» (1989), «Гарэла свечка… = Свеча горела…» Б. Пастарнака (1990); мінскае выданне ягоных вершаў у перакладзе на рускую мову «Белая яблоня грома» (1989), зборнікі новых вершаў «Самота паломніцтва» і дзіцячых — «Кобра ў торбе» (1990). Новы час дае падставы і для новых сатырычных тэм. У «Вожыку» друкуюцца эпіграмы на вядомых персон палітычнага і грамадскага жыцця, назапашваюцца вясёлыя і з’едлівыя нізкі «Дзіцячыя цвялілкі для дарослых», «Хвіліны мычання: Жывёльная лірыка» і інш., якія не заўсёды трапляюць у друк, застаючыся ў рабочых блакнотах. У пятым томе надрукаваны больш за сем дзясяткаў вершаў, якія ён не ўключаў у свае пазнейшыя зборнікі, і канечне ж, шчодра рассыпаныя паэтам віншаванні, прысвячэнні і пажаданні сябрам і знаёмым.*

*Некаторыя недрукаваныя вершы, найчасцей сатырычныя, засталіся і па-за гэтым томам. Яны пазначаны ў тэксце наступным чынам: падаецца назва і першы радок, напрыклад: «Старайся!: Старайся, пакуль малады на гады…» [у блакноце; ці — у дзённіку]. Адной зорачкай пазначаны дадатковыя запісы з дакладнай датай, трыма — толькі годам. Курсівам выдзелены занатаваныя рыфмы, асобныя радкі, назвы гарадоў, у якіх пабываў паэт.*

*Пяты том дзённікаў адлюстраваў новы час, але і ён не апошні, і, спадзяюся, чытачоў яшчэ чакае не менш насычаны і цікавы працяг.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1989

*13 студзеня, пятніца*

«Была б шыя, а чорт галаву прышые», — Марыя Мальдзісова[1].

*21 студзеня, субота*

На сваім пяцідзесяцігоддзі Фёдар Яфімаў[2] казаў, што душа гадоў не адчувае, яна маладая па-ранейшаму. Яно, відаць, ёсць перасяленне душ. Душа — гэта ж і ёсць дух, які пакідае адно старое котлішча і, малады, перасяляецца ў маладую харАміну. Кругазварот жыцця і духу. І не проста прыгожая фраза: душа скача, яна маладая, яна скакаць хоча…[3]

*25 студзеня, панядзелак*

* * *

*(Р.[4])*

Рыхтык далёкая ты,
Тая, дагэтуль якую кахаю,
Гэтак блуканец, стамлёны да краю,
Згадвае светлы пачатак вярсты.

Рыхтык далёкая ты,
Тая,
Якая пяшчотай карае.
Гэтак Адам,
колісь выгнаны з раю,
Фігавыя ненавідзеў лісты.

Рыхтык далёкая ты,
Сум мой развідніла мроя чужая,
Значыць, яшчэ мне бяда пагражае,
Значыць, баюся яшчэ пекнаты.

---

[1] Мальдзіс Марыя Карлаўна (1932–2009), жонка А. Мальдзіса.
[2] Яфімаў Фёдар Архіпавіч (н. 1933), беларускі паэт, перакладчык, крытык.
[3] Гл.: На заручыны (21.01.89) // Міласэрнасць плахі. С. 147.
[4] Бабіцкая Рынальда Пятроўна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Ёй прысвечаны вершы 70-х гг.

*29 студзеня, нядзеля*

Цікава напісаны гімн СССР (яўна сталінскай[1] рукой пры ўдзеле [...] Міхалкава[2]-папіхалкава): «Союз *нерушимый* республик *свободных Навеки* сплотила *великая* Русь». І разам з тым у канстытуцыях усіх правадыроў і павадыроў — права нацый на самавызначэнне. Дык ён жа *непарушны*, яго ж *навекі* ўзяла ў жалезныя абдоймы Русь, і не якая, а толькі вялікая, бо ўсе астатнія — малыя.

* Васіль Быкаў[3] (па тэлефоне): «Я твае вершы чытаю, як мёд п'ю».

*3 лютага, серада*

Васіль Быкаў: «Добрых людзей Бог падбірае, яны і там патрэбны. А свалату і СНІД не бярэ! (Пра смерць Анатоля Анікейчыка[4].)

*5 лютага, нядзеля*

У трамваі. Вася малады, але абцопканы, Дуня старэйшая, таксама пакамечаная. Ён: «Аферыстка. Учора казала: «4 рубля, и я твоя на всю жизнь». А сёння не тое. Аферыстка. Не люблю маладых, люблю старэйшых». Яна: «Ты шалік не так закруціў». Вязе Васю да сябе.

*11 лютага, субота*

*Талін.* Вечар у Беларускім таварыстве. Спявае «Дзянніца»: «Гарэла сасна, палала, пад ёй дзеўка стаяла...» У зале і малыя, і старыя, і паджы́лыя. У старэйшых успрыняцце са слязамі. Саліст пяе, раптам голас зрываецца: «Ой, прабачце, не магу...» Зноў паўза, і зноў: «Ой, прабачце, не магу...» Зала прыязна рэагуе. «Ты ж у мяне е́дна (адна)». Цікавая форма *адной* і *еднай*.

---

[1] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[2] Міхалкоў Сяргей Уладзіміравіч (1913–2009), рускі паэт і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1971). Герой Сацыялістычнай Працы (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1942, 1950, 1978), Ленінскай прэміі (1970).

[3] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986). Гл.: За словам Быкава іду! (22.01.89) // Міласэрнасць плахі. С. 23.

[4] Анікейчык Анатоль Аляксандравіч (1932–1989), беларускі скульптар, педагог. Прафесар (1981). У 1978–1989 гг. заг. кафедры Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Народны мастак БССР (1972). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1974). Гл.: Памяці роднага сябра (3.02.89) // Міласэрнасць плахі. Мінск, 1992. С. 174.

Пытанні. А чаго памёр Караткевіч[1]? Што зрабіў Машэраў[2] для культуры і мовы? А вось пытанне: «Што новага ў беларускай музыцы?» І мне цяжка адказаць дакладна і кампетэнтна. Трэба ў комплексе ведаць усёткі ўсю культуру сваю, каб не апынуцца на сцэне ўвагі без штаноў.

«Вясна, вясна, вясеначка, дзе ж твая дачка-паненачка?» Адна жанчына: «Як стане невыносна самотна, еду дамоў на Навагрудчыну, паплачу, і лягчэй стане. І назад сюды, у Эстонію».

*12 лютага, нядзеля*

Талін. На купчысе павінна было быць больш як 30 кг срэбра. Выходзілі на балконы пакланіцца. Звон адбіваў час аднолькава для пана і слугі, для пані і служанкі, і ніхто месца гэта не абудзіць. Олеў. Жонка выдала: і [неразб. 1] жаба і змяя. Вулкі [вузкія], з вакна ў вакно пацiснуць руку [можна]. Пліта Дон Жуана, [можна] загадаць жаданне. Вузкая вулка — хай пройдзе маладзенькая.

*13 лютага, панядзелак*

Талін — дамоў. [Адрас чужой рукой:] Валерий Чижык. 200036, Таллин, ул. Лумисте, д. 3, кв. 84, т. дом. 327–909. Театр драмы им. Кингиссеппа, ст. инженер, тел. 44–20–65. Народный фронт Эстонии.

*17 лютага, пятніца*

Вышэйшая партшкола. Сустрэча. «Чартаскубіца» (М. Мушынскі[3]).

*** Сямейны падрад. Мы ўсе, зямляне, маем адзіны сямейны падрад перад Зямлёй, з малой і вялікай літары. А мы па-барбарску нішчым усё.

*20 лютага, субота*

* * *

Пластайся, галяпуй, бяжы,
Кульгай, валюхай, тупай
Да той, яшчэ да той мяжы,
А потым — да наступнай.

---

[1] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна).

[2] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[3] Мушынскі Міхась (Міхаіл Іосіфавіч; 1931–2018), беларускі крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1978), член-карэспандэнт (1991). У 1979–2002 гг. заг. аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

Прастуй да ламаты ў крыжы,
Як зух, свой дух выхоўвай.
Імчы, чашы да той мяжы,
А потым — да чарговай.

Не бойся сонца, ні імжы,
Разветразь порткі клёшней.
Спяшай да той, да той мяжы,
І ўрэшце — да апошняй!

*21 лютага, нядзеля*

* * *

Усплываюць,
Як затанулыя караблі,
Вытыркаюцца, як ацалелыя палі:
«Мы ёсць, мы былі, мы былі…
І ты нас кахаў,
І цябе мы кахалі…»

Ім рупіць
У роспачы рання забіцца,
Абы не забыцца табой,
Не забыцца.

Затоку імклівасці
Літасцю будзіш.
Ты іх не забудзеш,
Ты іх не забудзеш…[1]

*24 лютага, пятніца*
*[п. Ушачы.]* У Марыі Рыгораўны[2]. Прыязджае зяць да цешчы.
— Як доўга не быў.
— Мы ў дзве змены як пчолкі [робім].
— Чаго ж прыехаў?
— 2000 рублёў [трэба].

*25 лютага, субота*

[Запісы за Марыяй Рыгораўнай:] Пайшла слава да Аршавы; жыві, пакуль галава сядзіць; як памёр свёкар, і мяса трэба ўзяць, і гарэлка дара-

[1] Параўн.: Навелы (29.08.93, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. Мінск, 1995. С. 125.
[2] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

гая, але закапалі, стол зробілі; не з мясам, дык хлеб з квасам; тая рыба, што асця́ многа, лешч, ён касця́ны; там есці мала, недахваткі.

Ішоў я, йшоў,
А тады віжу:
Стаіць басішча,
Узяў мяне за валасішча
І падняў пад небясішча.
А там не па-нашаму.
Стаіць цэркаўка,
З пірагоў збіта,
Блінамі накрыта,
Баранкам замкнёна
І паўлітра ўваткнёна.
А ў цэркаўкі
Стаіць палок
З аўсяны снапок,
Ногі стрыжанёвыя,
Пуза кісялёвае.
А поле маё, поле,
Якое заўтра свята?
— А заўтра свята памінкі,
Усіх завуць,
І старых, і малых,
І кажуць:
Тата, мама, дзед і баба,
Хто на гэтай зямлі жываў,
Хлеб-соль ядаў,
І самі йдзіце,
І маленькіх рабят вядзіце.
Амінь!

Дзяды ядуць у мясаед, сядуць вячэраць, кашу ядуць. Пад вакно падойдзе стары: «Тата, мама, дзед і баба» і г. д. (тры разы паўтараюць).

! Ты да мяне, я да цябе,
Болей ні да кога.
Любі мяне, а я цябе,
Болей анікога.

Райвыканком — пасяўны орган савецкай улады. Га.на мне ўсякага расказваець, слухаць не хачу. Мікалай Іванавіч Міхальчанка ў калгасе імя Леніна: «Механізатар 38, вадзіцель 17, а па акладзе 40 — колькі капеек. Механізатарам 10,4 капеек, а ўпраўленцам 37,6 капеек. Калгаснікам [га-

ворацы]: «Бярыце зямлю ў арэнду». — «Не трэба нам пакуль». Цішыня, рэплікі: «Сёння вазьмі, а заўтра ў Сібір паедзь. Сёння Гарбачоў[1], а заўтра невядома хто».

Пытанне Мікалая Іванавіча Міхальчанкі: «Як вызнаецца заканадаўца мод, класік? Хто класік? Хто вызначае?»

* Пятро Трафімаў[2] [расказвае; кажа мясцоваму хлопцу]:

— Вярбуюць на спадарожнік, на ўсім гатовым, даюць 2 скрынкі гарэлкі.

Пятруша залатарыў, з вядром і чарпаком [пайшоў] да Дар'і Піліпаўны:

— Хачу на спадарожнік.

— Хто цябе накіраваў?

— Трафімаў, ён старшыню возіць.

А праз два дні Гагарын[3] паляцеў.

*26 лютага, нядзеля*

Дарэмна штодзённа шчырую,
Сырая зямля не сагрэе мяне,
І я не сагрэю сырую[4].

*

Адзін я, адзін, як і Сусвет.
І мне і Сусвету сцюдзёна.
Жыву я
Ці толькі шукаю свой след,
Што ўцёк ад мяне утрапёна.
Я толькі тая кропелька цяпла,
Якой баліць,
Якая вочы
Яе на глум нябёсам аддала
Зняверанасць,
Ад зайздрасці сляпая.

*Ушачы–Мінск, дарога*

[1] Гарбачоў Міхаіл Сяргеевіч (н. 1931), савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1985–1991 гг. Генеральны сакратар ЦК КПСС, у 1990–1991 гг. прэзідэнт СССР. Лаўрэат Нобелеўская прэміі міру (1990).

[2] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.

[3] Гагарын Юрый Аляксеевіч (1934–1968), першы лётчык-касманаўт СССР. Герой Савецкага Саюза (1961). Гл.: У космас ([1995]) // Здубавецьця. Мінск: Выд. ТАА «Паліфакт», 1996. С. 20.

[4] Гл.: «Жыву я...» (26.02.89, Ушачы — Мінск) // Міласэрнасць плахі. С. 39.

*28 лютага, аўторак*

Званю Нілу Гілевічу[1], кажу, што па нормах паэзіі «Выбранае» адзін том (15 аркушаў). І Танку[2], і Пімену[3] па 1-му тому. Ніл: «Што ты мяне хочаш суцешыць, што побач з Танкам і Панчанкам. І наогул, чаго так хвалюешся? У ЦК вызначаюць, хто чаго варты і колькі каму тамоў». Расказваю па тэлефоне Васілю Быкаву. Васіль: «Зусім чалавек асвіннеў. Ну, што ж, яму цяпер ЦК усё замяняе. Там ягоная апора».

*5 сакавіка, нядзеля*

«Старайся!: Старайся, пакуль малады на гады…» [у блакноце].

*Ці не лепей*

Хоча ўпэўнена кожны паэт
На зямлі свой пакінуць след,
Быццам мала да нас пахадзілі,
Натапталі і наслядзілі.
Ці не лепей яно, калі
Так прайсці, як на небе аблокі,
Як вясновы дождж па раллі,
Каб і рунь і трава ўзышлі.
І, кусаючы хлеб, на зямлі
Усміхнуўся прапраўнук далёкі?

*7 сакавіка, аўторак*

Лозунг над праспектам: «Да здравствует единство и солидарность трудящихся женщин всего мира!» Як быццам жанчына, якая працуе як жанчына — не жанчына, абавязкова яна павінна быць у робе, з мазалямі.

---

[1] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фалькларыст, перакладчык. У 1980–1989 гг. 1-шы сакратар праўлення СП БССР. У 1989–1997 гг. старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (ТБМ). У 1990–1996 гг. старшыня пастаяннай камісіі ВС РБ па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). Народны паэт БССР (1991). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

[2] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). У 1971–1990 гг. старшыня праўлення СП БССР. Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).

[3] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

*** У школе праходзілі верш Петруся Броўкі[1] «Падарунак». У прыватнасці, былі радкі: «У нашым калгасе жанчынам пашана, і ложыць старая ручнік вышываны». На памяць: «Жанчынам пашуць…»

*8 сакавіка, серада*

*Кіеў.* Паход з Валодзем Арловым[2] у Лаўру.

*9 сакавіка, чацвер*

Зноў паход. На Падоле ўсё па-руску і нейкія кафэ-тэатры і розныя рэкламы. Успамінаю, ходзячы па Кіеве, Уладзіміра Караткевіча.

Паседжанне, 175-годдзе Т. Р. Шаўчэнкі[3]. Дзядусь[4] адкрывае па-ўкраінску, а наш[5] […] двух слоў не звяжа па-беларуску. Сівы як конь Бандарчук[6] чытае Тараса па-ўкраінску. Вітаюць ад украінцаў Канады, ЗША (першыя эмігранты прывезлі Біблію і «Кабзара»[7]). Чаму б на Купалаўскія[8] святы не запрасіць з «праклятага» капіталістычнага свету? Беларусы, як мухі ў сыраватцы, і лапкі загрузлі, і крылцы падмоклі. Прадстаўнік ЮНЕСКО[9] па-французску, а перакладчык адразу па-ўкраінску. У нас у Таварыстве

[1] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі паэт, празаік, перакладчык, гісторык. У 1988–1997 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986). Гл.: Дзень, калі ўпала страла (10.01.89) // Дзень паэзіі-89. Мінск. С. 42.

[3] Шаўчэнка Тарас Грыгор’евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак. Гл.: Сакавіцкі сон (4.03.89) // Міласэрнасць плахі. С. 153.

[4] Магчыма, Шчарбіцкі Уладзімір Васільевіч (1918–1990), украінскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, 1-шы сакратар ЦК УКП (1972–1989). Герой Сацыялістычнай Працы (1974, 1977).

[5] Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе Сакалоў Яфрэм Яўсеевіч (н. 1926), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1987–1990 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[6] Бандарчук Сяргей Фёдаравіч (1920–1994), рускі акцёр, кінарэжысёр, сцэнарыст, педагог. Заслужаны артыст РСФСР (1950). Народны артыст СССР (1952). Герой Сацыялістычнай Працы (1980). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1960), Дзяржаўнай прэміі СССР (1952, 1984), Дзяржаўнай прэміі імя братоў Васільевых (1977), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1982), прэміі Амерыканскай кінаакадэміі «Оскар» (1969).

[7] Адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў Т. Шаўчэнкі (1840).

[8] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[9] ЮНЕСКО (UNESCO) — Арганізацыя Аб’яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры.

дружбы «імя Ваніцкага»[1] ўсё па-руску. Прадстаўнік з ЮНЕСКО паходжанец з Маўрыкіі. Да паловы другой гутарка з Ігарам Іванавічам[2] і Барысам Ільічом[3]. Уцёк. Не магу [вынесці] начных балдзенняў. Сялянскі характар маю. І дужа паэтычна выводзіцца ён як жаваранак. Але калі смажаны певень дзёўбае ў азадак, і інтэльсовы прахопліваюцца.

*10 сакавіка, пятніца*

*г. Канеў.* Магіла Кабзара. А ўсё-ткі крыж глядзеўся лепей. Казённыя прамовы. У музей. Урад і ніжэйшыя чыны расфуфыраныя. Жаліцца ўкраінская песня, як трава з-пад асфальту русіфікацыі прабіваецца, ніцее, кляʹвае. Бабка ў плюшаўцы, у галёшах, у валёнках, хусцінка чысцейшая на свята. Вось яна, Украіна, на колькі яшчэ дзесяцігоддзяў уперад.

*г. Чаркасы*. Усе машыны з нумарамі ЧК; над школай абвалілася літара: *слава* — *лава* КПСС. Хацінкі абкладзеныя цэглай, утульна, свежа-вяснова, маладзічок, як піяла, стаіць — поўдзень. Наш нахілены, а тут нечапаны. І ўсё ж тут мазгі неяк лянуюцца — поўдзень.

*11 сакавіка, субота*

Ад’езд з Чаркас. Радзіма Тараса. Ля помніка выступае: згарэў музей у Канадзе (Таронта), хай наш урад паможа. У натоўпе: «... а Канада пшаніцай». Магіла маці ў гародзе ля копанкі. Маці засталася ахоўваць матчаніцу. Жыла 50 год. Студня новая, ручка на вечку студні з каровінага рога. Прадзедаў вялікі праўнук паганы нясе муць па-руску, потым ідзе каля азалелых школьнікаў:

— Как живёте?

— Хорошо.

— Очень хорошо.

Абед у Морынцах. Адзін з праўнукаў: «Украіна гіне. Хіба мала Чарнобыля?» Шум. Пасля яго халуй з «Вітчизны» — за сакратара тост і за даму з Саўміна. Усе ўрачыстасці, паколькі на ўрадавым узроўні, нагадваюць Хрышчацік — шмат граніту, трывала, нязрушна і, вядома ж, без малейшай праявы натуральнай чалавечай усмешкі, цеплыні. Як падмянілі ўкраінцаў, заўсягды гаманкіх, шумных. Моўчкі. Па парадку. Праз зубы.

---

[1] Ваніцкі Арсеній Мікалаевіч (1933–2001), старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (1984–2001).

[2] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі РФ (1999). Ураджэнец Беларусі. Гл.: Бульбяная балада (29.01.89) // Міласэрнасць плахі. С. 34.

[3] Алейнік Барыс Ільіч (1935–2017), украінскі паэт, публіцыст. Акадэмік АН УССР (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1975), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1983), Міжнароднай прэміі імя Г. Скаварады (1994). Герой Украіны (2005).

*12 сакавіка, нядзеля*

Ад’езд з Кіёва, дзе ўсё кіёва.

[Адрасы чужой рукой:] 199226, Ленинград, Октябрьский пр-т, д. 2, кв. 79. Черкашин[1] Геннадий Александрович; 232051, Вильнюс, ул. Чарно, д. 26, кв. 49., тел. 75–44–12. Стасис Сабонис[2]. Паслаць «Аблаву» В. Быкава!

*14 сакавіка, аўторак*

Еду тралейбусам. На рагу Горкага і 3-га Пасялковага завулка чорны каток як не трапіў пад колы. Тралейбуснік прасігналіў. Выйшаў, гляджу, ледзь ідзе каток. Зірнуў — лепей бы не бачыць! — у яго, чорненькага, абдажджэлага, вочы ў нечым белым. Яшчэ зірнуў — аж гэта наша залатая моладзь выкалала яму маладзенькаму, і яны выцеклі. Далей еду — цыганка з пустым вядром. І вядро не бачу. На павароце дамоў старая кабеціна нясе поўнае, крыху расплёхане вядро з калонкі. Гляджу ёй у вочы — яны зношаныя, збалелыя. Няўжо вылюдкі, нашчадкі нашых гестапаўцаў, спакойна глядзяць у вочы сваім бацькам і знаёмым? Навошта ім вочы? Каб выколваць іншым… Васілій Гросман[3]: «Священное право всякого народа иметь своих героев, святых и подлецов».

*** [Пра фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»[4].] Прыслужнікі ўдушлівага перыяду нашай нядаўняй гісторыі асудзілі яго на 22 гады пазбаўлення волі на экране. Фільм дзясяткі разоў рэдагавалі, перакройвалі, выразалі. Усю «крамолу», як у Сярэднявеччы, аддалі агню. Фільм уратавалі лёс і магутны беларускі талент Уладзіміра Караткевіча. І ў знявечаным рэабілітаваным фільме жыве дух Уладзіміра Караткевіча, бо ў ім таленавіты пісьменнік дзейнічаў і як актор.

*15 сакавіка, серада*

Ля ўвахода ў стары будынак Дома друку натоўп. Транспаранты патрабуюць зняць кантроль над друкам, абараняюць Зэкава[5], супраць новага часовага Бельскага[6], які падпісаў артыкул Ніны Андрэевай[7]. Міліцыя

---

[1] Чаркашын Генадзій Аляксандравіч (1936–1996), рускі пісьменнік, публіцыст, журналіст, вучоны фізік, гісторык і філосаф, марак і грамадскі дзеяч.

[2] Сабоніс Стасіс (1925–2006), літоўскі пісьменнік.

[3] Гросман Васілій Сямёнавіч (1905–1964), рускі празаік, публіцыст, нарысіст.

[4] Фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні: Жыцце і ўзнясенне Юрася Братчыка». Кінастудыі «Беларусьфільм» (1967). Рэжысёры У. Бычкоў і С. Скварцоў. Сцэнар У. Караткевіча. Фільм адноўлены ў 1989 г.

[5] Зэкаў Анатоль Мікалаевіч (н. 1955), беларускі паэт і празаік. У 1985–1989 гг. гал. рэдактар газ. «Чырвоная змена».

[6] Бельскі Уладзімір Пятровіч (н. 1955), беларускі журналіст. У 1989–1996 гг. гал. рэдактар газ. «Чырвоная змена».

[7] Андрэева Ніна Аляксандраўна (н. 1938), расійскі палітычны дзеяч. Яе артыкул ў газ. «Советская Россия» «Не могу поступаться принципами» быў афіцыйна аб’яўлены маніфестам антыперабудовачных сіл.

ходзіць, як кот каля сала. Нейкая дама з «каланізатараў» — вайскоўцам: «Што даюць? Па што чарга?» А мы пра дэмакратыю.

*30 сакавіка, чацвер*

*На першае красавіка*

Мацуйся, красун красавік,
Вітаю тваё красаванне,
Зялёнае галасаванне
Травы — за апуджаны рык
Вады, што зрывае масты,
Зганяе нямоглыя крыгі.
Вітаю шалёныя ўздрыгі,
Няхай разяўляюць раты
Шырэй нераты,
Каб вірамі
Круціла падступнасць рака,
Каб бегла насмешка дварамі
На першае красавіка,
Нібы з забыцця сваяка,
Ты лесавіка адшукаеш,
Ачахнеш на час ад нуды,
Ды толькі вясною гады
Ніяк свае не адшукаеш
На першае красавіка.

*3 красавіка, панядзелак*

На працу. 15-працэнтны любімец народа Н[іл] Г[ілевіч] пакрыўдзіўся Пячэннікаву[1], што ў выдавецтве абразілі яго асобу, прапанаваўшы яму аднатомнік. А ён марыць пра Збор твораў (і пры жыцці). Спіс, які падаў СП пад дыктоўку Н. Г., уключаны ўсе супрацоўнікі СП, толькі няма ні спадчыны, ні рэабілітаваных. Што там нейкі Багдановіч[2] з такім прамавержцам, як лагойскі аракул! Напісаў ліст у «Художественную [литературу]» адносна Уладзіміра [Караткевіча]. [...]

*4 красавіка, аўторак*

Цэлы табун выдаўцоў у Саўкі[3]. Выданне кніг «Памяць». Рост нацыянальнай самасвядомасці — праграмная мэта партыі (С. П[аўлаў]). Пыта-

[1] Пячэннікаў Валерый Андрэевіч (1941–2015). У 1986–1991 гг. сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

[2] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

[3] Паўлаў Савелій Яфімавіч (н. 1934), беларускі гісторык, партыйны дзеяч і публіцыст. У 1971–1989 гг. заг. аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ, у 1989–1992 гг. рэктар Інстытута палітalогіі і сацыяльнага кіравання. Кандыдат гістарычных навук (1971). Прафесар (1990).

юць з нас як з разумных, а плоцяць як дурням. Дырэктрыса СШ № 81 Мінска дала загад галасаваць за Галко[1] і першакласнікам: «Калі вашыя бацькі не будуць галасаваць за Галко, вам добрых ацэнак не бачыць». Малыя ў плач. Бацькі ў школу. Дырэктрыса тады намякнула: «Пажадана ўсім за Галко галасаваць». Правалі́ўся на выбарах, а яго ў кіраўнікі справамі Саўміна — дзяліць ікру, дублёнкі, кватэры, дэфіцыт. А [Сакалоў] прысягнуў, што Галко будзе дэпутатам насуперак экстрэмістам. Вось так.

*5 красавіка, серада*

Прыехаў Шклярэўскі. Паездка ў Петрыкаў садзіць дрэвы[2].

*г. Петрыкаў.* Размова ў райкоме. Амалоджаны апарат. Разгублены. Не ведае, за што трымацца. У раёне тысячагектарныя плантацыі мяты (не сабачай, а культурнай), дзівясіла, кмену, бо ў Петрыкаўшчыне ўтрыманне кіслароду на 2 % болей, чым ва ўсёй Беларусі. У райкоме нават шыльды пры ўваходзе толькі па-руску. А ў размове гаварыць могуць і на роднай мове. Толькі загад, толькі як скажуць наверсе.

*6 красавіка, чацвер*

Царква, а цяпер кафэ, бар.

Караніся, гадуйся, купайся ў сонцы,
Гулкай птушкай пялегвай мары,
Хай цябе з раз'юшаным стронцыем
Абмінаюць чорныя хмары.

Садзім дрэвы. Глуха ў полі над Прыпяццю. Адзін жаўрук як напамін пра вясновы шум і свіст. Памідоры, кажа шафёр, ледзь адскочыць расада, і вянуць. Чарнобыль дыхае, Чарнобыль жывы, ён яшчэ доўга будзе дыхаць у патыліцу жыццю. Жах! Землятрус — страсенне мозгу зямнога шара. Мы самі хочам разбурыць сцены дома, у якім мы жывем. «Мы садзім дрэўцы...» [накід у дзённіку].

*7 красавіка, пятніца*

Ад'езд з Петрыкава. Буслы на коміне чысцяць гняздо. У царкве ў Петрыкаве служба. *Звеставанне,* якраз і буслы. Сёння і птушка гнязда не ўе.

Ляснік кажа, што лес Шклярэўскага пасаджаны ў хаатычным парадку. Ігар паўтарае гэты выраз і цмокае, а мне тлумачыць: птушкі не любяць

[1] Галко У. Р., 1-шы сакратар Мінскага гаркама партыі.

[2] Гл.: Лес Ігара Шклярэўскага (2.06.90) // Міласэрнасць плахі. С. 175.

лясоў, пасаджаных у радкі, — скразнякі, неяк віць гнёзд. «Воўк пытаецца ў сабакі…»[1], «У надпрыпяцкім лесе»[2].

*8 красавіка, субота*

Абед у Небышынца[3]. Някляеў[4], Казько[5], Яфім Лапушын[6]. Званок Васілю. «Политический собеседник»[7] зноў вылівае цэбры на святыя галовы Адамовіча[8] і Быкава. Галко і Якавенка[9] (пляменнік Навуменкі[10]) зноў у кандыдаты — у дэпутаты захацелася, засвярбелася. Якавенка — проста […]-правакатар па асноўнай працы, публіцыстыка і экалогія — дах. І ўзначаліць БНФ[11] імкнуўся, каб высунулі ў дэпутаты. Карэктура В. Казько ў «Юности» (будзе № 6) пра ўсе мінскія сумныя падзеі. Дакладна, мудра, дасціпна. Публіцыстыка сапраўднага празаіка.

*9 красавіка, нядзеля*

Ігар [Шклярэўскі] у Серагі — фамільную вёску на Случчыне, дзе палова магілак з прозвішчам ягоным, не паехаў. Нага. Тромбы. Гады. Самотны ён і безабаронны. Проста ў Маскве даводзіцца паказваць сябе і сярдзітым, і дужым, і непадступным, каб не праглынулі. Званіў Васіль, шукаў

---

[1] Гл.: Лясная ўсмешка (7.04.88) // Міласэрнасць плахі. С. 47.

[2] Гл.: У надпрыпяцкім лесе (7.04.89) // Тамсама. С. 104.

[3] Небышынец Вадзім Канстанцінавіч (н. 1938), беларускі літаратуразнавец, перакладчык.

[4] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. У 1987–1999 гг. гал. рэдактар час. «Крыніца». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998), прэміі Е. Гедройца (2013), Літаратурных прэмій Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2014) і імя Н. Арсенневай (2017). Намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

[5] Казько Віктар Апанасавіч (н. 1940), беларускі празаік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1977), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[6] Лапушын Яфім Сямёнавіч, адвакат. Бацька Р. Лапушына.

[7] «Политический собеседник» — грамадска-палітычны час. ЦК КПБ (1987–1992).

[8] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. У 1987–1994 гг. дырэктар Навукова-даследчага Інстытута кінамастацтва (Масква). Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

[9] Якавенка Васіль Цімафеевіч (1936–2018), беларускі пісьменнік. З 1990 г. прэзідэнт Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль». У 1991–1996 гг. гал. рэдактар міжрэспубліканскага сацыяльна-экалагічнага штотыднёвіка «Набат».

[10] Навуменка Іван Якаўлевіч (1925–2006), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік РБ (1995). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Доктар філалагічных навук (1969), член-карэспандэнт (1972), акадэмік АН БССР (1980). Прафесар (1971). У 1982–1992 гг. віцэ-прэзідэнт НАНБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1972).

[11] Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» (БНФ) — грамадскі рух (з 1988).

«[Политический] собеседник». У Небышынца слуцкая свежаніна. Гутарка з Ігарам. Ён сапраўдны паэт, тонкі чалавек.

*10 красавіка, панядзелак*

Званіў Васілю, каб у Камвыдзе СССР каго знайшоў, бо рэжуць 3-томнік Уладзіміра Караткевіча да 2-х [тамоў]. У Васіля. «Я да яго цяплейшы быў (пра Астаф'ева[12]). Тарас[13] зрабіў даслоўны пераклад, я выдыхся, правячы. З еўрапейскіх моў як перакладаюць на рускую — меншыя страты, бо руская літаратурная мова шмат брала з іх, адышла ад народнай. Адны мы няшчасныя, уплыў нашай мовы на рускую малы (раней, гістарычна было). Для мяне чалавек [вызначаецца] па адносінах да Сталіна».

У Ігара. Ад'езд. Ад Ігрунова[14] Ігару ліст і шыкоўны букет руж Лідзе [Шклярэўскай]. Лепей рускі інтэлігент, чым нацыянальны бот. На пероне сустрэліся з Ігруновым — праводзіў дачку[15]. Сам сціплы, і жонка сціплая.

*11 красавіка, аўторак*

З раніцы званіў Ганад[16], заўтра паедзем на Ушаччыну.

Паседжанне з кнігагандлярамі.

*12 красавіка, серада*

Паездка ва *Ушачы.* Пратаптаўся асфальт. Дамовіўся з будаўнікамі, абяцалі закончыць да 1 мая. Да Марыі Рыгораўны. Ужо ходзіць па двары на мыліцы. Убачыла нашу фуру: «Немцы ў такіх вазілі ў лагеры». Шалёная хуткасць — у 16 з Мінска, а ў 23 ў Мінску.

Пажаданне [неразб. 1]: ! «Хлеб-соль!» — «Ядзім, ды свой!»

*13 красавіка, чацвер*

На працу. Паход да Дзяльца[17], каб уставіць у план Шахаўца[18].

---

[12] Астаф'еў Віктар Пятровіч (1924–2001), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1975), Дзяржаўнай прэміі СССР (1978, 1991), Дзяржаўнай прэміі РФ (1995, 2003).

[13] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[14] Ігруноў Мікалай Сцяфанавіч (1932–2016), рускі журналіст і партыйны дзеяч. У 1987–1990 гг. 2-гі сакратар ЦК КПБ.

[15] Ігрунова Наталля Мікалаеўна (н. 1957), рускі літаратар, крытык. 1-шы нам. галоўнага рэдактара час. «Дружба народов» (Масква).

[16] Чарказян Ганад Бадрыевіч (н. 1946), курдскі паэт, празаік. У 1982–1993 гг. інжынер-тэхнолаг мінскага ўчастка Слонімскай фабрыкі «Гасцінічная мэбля».

[17] Дзялец Міхаіл Іванавіч (1918–1999), старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю (1973–1989).

[18] Шахавец Уладзімір Міхайлавіч (1918–1991), беларускі празаік, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1979).

Раман Лубкіўскі[1]. Адпачывае ў «Іслачы»[2]. Абед у «Планеце». Публіка — суценёры, рэкецёры, кааператыўшчыкі. Погань. Раман чытае верш. За суседнім столікам маладая яшчэ прафесіяналка платнай мілосці з вачыма нерухомымі ад гарэлкі і наркотыкаў, крые матам. І раптам, калі Раман скончыў чытаць, заляскала ў ладкі. Пасля падыходзіць: «Мне дужа падабаліся вершы. Ці можна пасядзець паслухаць?» Ледзь адгаварыліся. І нават панэльніцу цягне да багемы.

Паседжанне Аргкамітэта БНФ, як падпольшчыкі.

Сігнал «Белой яблони грома»[3]. Во гэта тэмп!

*14 красавіка, пятніца*

Праца. Да Навума[4]. Падшукаць матэрыял Ваніцкаму.

Сцэнка. Каля нашага парфумнага магазіна малады хлопец з дзяўчынай. Адчыняе бутэльку з напоем аб скамейку. Кажу: «Давай памагу». Адкаркаваў і падаю бутэльку і корак. Ён мне: «Выкіньце». (Корак мне дазволіў выкінуць.)

*15 красавіка, субота*

Прыходзіла Ілона[5]. Прынесла «Белавежскую» — якраз Бурсаву[6] на сувенір. Заўтра выязджае на машыне. Званіў яму. Званіла Ларыса Давідаўна Фінкельштэйн[7]. Запрашала на выстаўку Бялова[8] ў «Мутным воку»[9].

*16 красавіка, нядзеля*

У кафэ. Настаўніца гісторыі адной са школ Мінска: «Як музыка гучыць беларуская мова. У нас у школе выкладчыкі беларускай спрабуюць гаварыць. Адна толькі на ўроках. Маладзейшыя дзве прыйшлі — толькі на беларускай гавораць. Я была паспрабавала на гісторыі загаварыць па-беларуску, дык яны мне: «Гаварыце па-чалавечы». Вось яна, «мудрая»

---

[1] Лубкіўскі Раман Мар'янавіч (1941–2015), украінскі паэт, перакладчык, дыпламат. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1977). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя П. Тычыны (1979), Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі (1992), прэміі імя В. Незвала (1984, Чэхаславакія), прэміі імя П. Гвездаслава (1988, Славакія), Ars Translatijnis (2008, за перакладчыцкую дзейнасць).

[2] Новы Дом творчасці СП БССР «Іслач» каля Ракава.

[3] Бородулин Р. Белая яблоня грома. М.: «Молодая гвардия», 1988.

[4] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

[5] Барадуліна Ілона Рыгораўна (н. 1962), мастачка; дачка.

[6] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (н. 1927), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыве ў Маскве.

[7] Фінкельштэйн Ларыса Давыдаўна (н. 1959), беларускі мастацтвазнавец, арткрытык, галерыст, педагог. Артдырэктар галерэі «Брама» (з 1991).

[8] Бялоў Віктар Уладзіміравіч (н. 1961), беларускі мастак.

[9] Так паміж сабой называлі кафэ Дома работнікаў мастацтва.

нацыянальная палітыка ў дзеянні! Прыехаў Ваня [Бурсаў]. У Маскве галасавалі: калі член [партыі] — адразу выкрэслівалі, калі беспародны (б/п[артыйны]), пакідалі.

*17 красавіка, панядзелак*

Тлумнае паседжанне СПК[1]. У БДУ фільм Цвяткова[2] пра Караткевіча. Невялікае слова перад [паказам казаў].

*18 красавіка, аўторак*

На працы абмеркаванне перакладных кніг. Сяргей Шупа[3] добра аналізаваў. Цэлы дзень з паперкай наконт кватэр. У [газ.] «М[осковских] Н[овостях]» пра расстрэл сям'і Раманавых[4]. Нарэшце дабяраюць да кораня. А то ўвесь час лісцінкі цярэбяць. Корань глыбей.

«Не цюркі, ні славяне...» [у блакноце].

*19 красавіка, серада*

Сход СП. Тáрас, Будзінас[5], Шэрман[6]. Праца над Лубкіўскім[7].

*20 красавіка, чацвер*

Лубкіўскі. Да Ваніцкага. У кнігарню. На працы ўзяць Хведаровіча[8] — заўтра вечар. 19.00 — да Якава Абрамавіча[9]. Званок з «Лит[ературной] газеты», глядзець тэле.

---

[1] СПК — Савет працоўнага калектыву.

[2] Цвяткоў Юрый Мікалаевіч (1941–2011), беларускі аператар, кінарэжысёр, сцэнарыст. У 1980–1989 гг. дырэктар творчага аб'яднання мастацкіх фільмаў пры кінастудыі «Беларусьфільм», у 1989–1993 гг. кіраўнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[3] Шупа Сяргей Анатольевіч (н. 1961), беларускі перакладчык. У 1987–1991 гг. ст. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Раманавы, з 1613 г. царская, з 1721 г. расійская імператарская дынастыя. Апошні імператар Мікалай II і яго сям'я расстраляны бальшавікамі ў 1918 г.

[5] Будзінас Яўген Дамінікавіч (1944–2007), рускі празаік, публіцыст. У 1982–1991 (?) гг. спецыяльны карэспандэнт час. «Дружба народов» па БССР і Прыбалтыцы.

[6] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1977–1989 гг. заг. рэдакцыйна-выдавецкага сектара Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР. У 1989–2001 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.

[7] Лубкіўскі Р. Пялёсткі святла. Мінск, 1990.

[8] Хведаровіч Мікола (сапр. Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904–1982), беларускі паэт, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат прэміі венгерскага агенцтва па літаратуры і мастацтву «Артысіуз» (1981).

[9] Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994, ЗША), аднакашнік; фармацэўт.

*21 красавіка, пятніца*

Сустрэча з Раманам Лубкіўскім. Нарада ў Галіны Шаранговіч[1]. У панядзелак у 15.00 Раман будзе. Паэму пра Скарыну перадаць[2]. Званок ад Кішчанкі[3]. Быць у яго ў нядзелю а 11 раніцы.

*22 красавіка, субота*

У аўтобусе: «Чаго спяшаешся, ціснешся, паспееш яшчэ падняць сваё бервяно!»

Прыходзіла жонка Пушчы[4] з дачкой, прынесла фота. Яна па-беларуску, дачка (настаўніца ў Мінску) толькі па-руску.

Клуб завода імя Леніна. Творчы вечар Ларысы Іванаўны Сімаковіч[5]. Яе дзеткі пяюць, сама свае творы [выконвае], апрацоўку народных. Дзеці кранаюць да глыбіні душы. І ўсё гэта, разам з тым, як у эміграцыі. Мы, беларусы, ужо амаль не гаспадары ў сваёй хаце. Адна частка некалі уцалявала бут пана Пілсудскага[6], а другая, і нарэшце ўся, бот вусатага [Сталіна] з Крамля. Як вока трывожна-праславянска адпачывае на нацыянальным арнаменце. Сімаковіч захавала расу на народных песнях.

Калі прарастае раса,
Карэнне душу аплятае.
А песня то злая аса,
То пчолка, на мёд залатая.

*23 красавіка, нядзеля*

Майстэрня Кішчанкі. Савіцкі[7], каб стаць дэпутатам, паехаў да акадэміка Ліхачова[8], святога вучонага: «Я за рускіх, а мяне ў Беларусі таму не любяць. І яўрэі прыедуць з петыцыямі».

---

[1] Шаранговіч Галіна Андрэеўна (н. 1939). У 1984–1997 гг. заг. рэдакцыі літаратуры народаў СССР выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Гл.: Самота паломніцтва: Лера-паэма ([1988]) // Самота паломніцтва. Мінск, 1990. С. 7. *Скарына* Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык Бібліі на беларускую мову, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік.

[3] Кішчанка Аляксандр Міхайлавіч (1933–1997), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1980). Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1980, 1996).

[4] Пушча Язэп (Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902–1964), беларускі паэт. Быў рэпрэсаваны.

[5] Сімаковіч Ларыса Іванаўна (н. 1957), беларускі кампазітар і харавы дырыжор. Заснавальніца дзіцячага фальклорнага калектыву «Госціца».

[6] Пілсудскі Юзэф Клеменс Гінятавіч Касьчэш (1867–1935), польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Першы кіраўнік адроджанай Польскай дзяржавы, заснавальнік польскай арміі.

[7] Савіцкі Міхаіл Андрэевіч (1922–2010), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1972). Народны мастак СССР (1978). Акадэмік НАНБ (1995). Герой Беларусі (2006). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1973), Дзяржаўнай прэміі СССР і РФ (1970, 1980, 1996).

[8] Ліхачоў Дзмітрый Сяргеевіч (1906–1999), рускі літаратуразнавец і гісторык культуры. Член-карэспандэнт (1953), акадэмік АН СССР (1970). Член шэрагу замежных АН і ганаровы

Прыехаў позна. З рамеснага вучылішча Кішчанка ледзь не загрымеў у руднікі ўранавыя. З Максімавіча стаў Міхайлавічам. Перакладаў Лубкіўскага.

Паэту, мастаку, празаіку
Алесю Кішчанку, якога
Люблю
І колерамазаіку
Лічу прадвесніцаю Бога.

*24 красавіка, панядзелак*

На працы. Лубкіўскі заўвагі [зрабіў] па сваёй кнізе. Сіпакоў[1], кажа, не адчуў у маіх вершах рытм, памер. Ён іх ні ў чыіх не чуў. Гэта ж пра пераклады Уітмэна[2] Сіпаковым Бярозкін[3] сказаў: «Уітмэн без яец!»

Засядаў аргкамітэт па аб'яднаным пленуме саюзаў. Ніл, як помнік, прайшоў каля Будзінаса і Тáраса. Прыгадалася ўшацкая прымаўка: вялікі пень, ды дуплен!

*25 красавіка, аўторак*

Узяў білеты на Ушачы на 1-е. З Лявонам[4] падпісалі карэктуру «Самоты паломніцтва». Дужа памог мне як малады Бог. І добрае вока ў яго, і тонкі густ. На жаль, такіх Дранькоў-Майсюкоў сярод маладых гола. «Я хадзіў дэманстраваць адзінства…»[5]

*26 красавіка, серада*

Сёння дзень жалобы Чарнобыля. І 60 год Слюнькову[6]. І ён тушыў пажар інфармацыі і жаху. У нас партсход. Усё гуляюць члены ў згуртаванасць, сваю важнасць, адказнасць. Чытаюць закрытае пісьмо. У канцы амаль кожнай інструкцыі дакладу прарабатваць — «постоянно» стабіль-

---

доктар універсітэтаў. Быў рэпрэсаваны (1928–1932). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952, 1969), Міжнароднай прэміі імя братоў Кірыла і Мяфодзія (1979), Дзяржаўнай прэміі РФ (1993).

[1] Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1973–1989 гг. заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Маладосць». Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Уітмен Уолт (1819–1892), амерыканскі паэт.

[3] Бярозкін Рыгор Саламонавіч (1918–1981), беларускі крытык, літаратуразнавец. Быў рэпрэсаваны. Гл.: Рыгор Бярозкін (6.01.91) // Міласэрнасць плахі. С. 151.

[4] Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч (н. 1957), беларускі паэт, празаік. 1982–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Гл.: І я (25.04.89) // Міласэрнасць плахі. С. 119.

[6] Слюнькоў Мікалай Мікітавіч (н. 1929), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Заслужаны работнік прамысловасці БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). У 1987–1990 гг. член Палітбюро ЦК КПСС. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

ныя спецыялізаваныя групы — [неразб. 1]. Маўклівы мітынг са свечкамі, з чорнымі харугвамі: «Чарнобыль — наш боль». І харугвы з імёнамі гарадоў Магілёўшчыны і ўсіх, што пацярпелі. Міліцыянты і «мастацтвазнаўцы» ў цывільным, як узведзеныя куркі, як зведзеныя сківіцы. Гадзіна маўчання. Гадзіна смутку. Гадзіна жалобы. Гадзіна адчаю.

*27 красавіка, чацвер*

Зайшоў на пленум; як пачуў голас 15%-га «любімца народа» Ніла — проздзверы. Алергія пачынаецца ад ягонага голасу і суконна-патрыятычнага твару. Трэба думаць і змагацца, каб было каму гаварыць на нашай мове. Выміранне (Чарнобыль паскорыў) і азвярэнне. Хто каго, хто хутчэй!

*28 красавіка, пятніца*

На працы. Лідзія Мікалаеўна Мазанік[1] уклала два тамы Язэпа Пушчы. Аж першыя сівыя валасы з’явіліся. Такіх бы шчырых тысячу на Беларусь, і ўзрадзілася б наша Крэўшчына. Пушчу давялі, што ў апошнім вайсковым білеце [запісана] — «рускі» і родная мова — «руская». Знайшла нават дадзеныя з вайсковага білета — рост, памер процігаза, усё пазнаходзіла. Як сцэнь сама зрабілася. Удава паэта, Пушчыха, [атрымлівае] пенсію 40 рублёў. І разганіся. А тэрмін спадчыны сыходзіць у верасні сёлета. Хадзіў да Жанны[2]. Можа, што зробім.

Да Наталлі Сямёнаўны[3]. Пераклады вершаў Валодзі [Караткевіча] Та́рас зрабіў добра. Сястра жыве клопатамі брата, абразы ў брата цаляюць у яе. Як зрабіў Ваўкадамчык[4] [...].

*29 красавіка, субота*

Шкляра [Шклярэўскі] званіў. Ён узначальвае свята Пушкінскае. «Бяру дружыну з князёў паэзіі. Перасорціцу, што помняць усе свае вершы і таксяк два вершы Пушкіна[5], не бяру».

Шукаў колькі дзён Артханава[6] — і раптам у ГУМе Шкляра: «Усе Артханавы ў Аляксеевых перапісваюцца, а ён з Юрыя Аляксеева стаў Глебам Артханавым».

---

[1] Дакладней, Мазанік Людміла Мікалаеўна, супрацоўніца Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР.

[2] Шалянок Жанна Сцяпанаўна, заг. планавага аддзела выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Кучкоўская Наталля Сямёнаўна (1922–2003), сястра У. Караткевіча.

[4] Глобус Адам (сапр. Адамчык Уладзімір Вячаслававіч; н. 1958), беларускі паэт і празаік, мастак, выдавец. Гал. рэдактар уласнага выд-ва «Сучасны літаратар». Сын В. Адамчыка.

[5] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт.

[6] Артханаў Глеб (сапр. Аляксееў Юрый Ігаравіч; н. 1954), рускі паэт, перакладчык.

Гарадскія галубы ў былым лясныя, яны таксама сяляне, што гарадскімі сталі. Цяпер лясных галубоў і не даклічышся[1]. «Беларусы…»[2]

*30 красавіка, нядзеля*

Вялікадне, Вялічка! «Хрыстос васкрос!» Самы светлы дзень у жыцці, колькі помню сябе[3]. Чамусьці блакітны колер мне заўсягды звязаны з Вялікаднем. Ці, можа, гэта была першая кашуля новая і цэлая, ці вочы неўміручасці і вечнасці блакітна зірнулі ў маю душу. Мыцца, абмыць твар вадой, дзе ляжыць свянцонае яечка. Разгавецца свянцоным яйкам, спачатку пабіцца яйкамі, разгавецца сырам з маслам, свянцонай соллю. Пазубíць яйка, выбраць мацнейшае — яно меней пафарбавалася цыбуляй. Найбольш вопытныя докі ўмеюць выбраць маца́к. Помню, як бацька заўсёды няспешна зубіў кожнае яечка. Помню ракаватыя, даўгаватыя ягоныя зубы. Чамусьці запомніў найбольш зубы. Потым качаць яечкі. На першы дзень Вялікадня б'юцца дзюбкамі яечка, а пасля пухой. Бывала, махлявалі — налівалі ў біток смалы. Вялічка. У Польшчы нават саляная капальня так завецца. Паганскае свята, хрышчэнне — яно вечнае, пакуль хоць адна жывая душа трывае.

*1 мая, панядзелак*

На *Ушачу*! У новай хаце ўсё не маміна. А ў вачах мне стаіць тая хата. І ўсе рэчы на тых жа месцах. А паколькі стаіць на тым жа месцы, дык і дамавікі тыя ж, і на вуліцы ўсё сваё, роднае. Здаецца, толькі на дзень-другі з'ехаў і зноў дамоў вярнуўся. Гэта прывязанасць душы, гэта душа адсюль нікуды надоўга не з'язджала!

Прыходзіла Зоя Канстанцінаўна [Касцючэнка], суседка, маму глядзела, бо з партызан медсястра. Толькі па даўніх суседзях можна зразумець, як шмат часу мінула, як ты сам змяніўся.

*2 мая, аўторак*

Уваходзіны на скорую руку. Яшчэ, дзякуй богу, жывыя суседзі, якія маму ведалі. На магільнік з Марыяй Рыгораўнай. Соснік вырас. Каб гахнула сасна, дык усё б размяжджуліла. Тут людзей ляжыць бог ты мой бог, 80 гадоў хаваюць. Ляжыце са святымі, адпачывайце і нас дажыдайце. На магільніку палілі вогнішчы, смецце са сваяцкай магілкі на суседскую [скідваюць], — усё, як у людзей. Хоць бы падумалі, што самім тут жа навечна сяліцца.

---

[1] Гл.: «А лясныя галубы… (30.04.89) // Міласэрнасць плахі. С. 25.

[2] Гл.: «Беларусы…» (29.04.89) // Самота паломніцтва. С. 262.

[3] Гл.: Вялікадне (30.04.89) // Міласэрнасць плахі. С. 211.

*3 мая, серада*

Да Івана Сцяпанавіча Роўбы[1]. Трэба афармляць разлік за хату з ПМК[2].

Сакалоў сказаў: «Ніякой перабудовы, як кіравалі, так і кіраваць. Выбівайце малако, едзьце ўказваць на пасяўную». Роўба: «Добра, мне калгас трапіўся добры. Абы меней перашкаджаць стараўся». Бульба мокрая, зраслася, як са свайго гароду — не мокла. Па магазінах (трэба абжывацца ў які ўжо раз!), на прылаўках гола, хоць шаром пакаці.

У Марыі Рыгораўны абед [запісы]: Кепска каля Віцебска, а каля Воршы яшчэ горшы; бліны пашлі каля Дзвіны; дзякуй за тую, сыграйце другую; з цюрмы прышоў аж з Сібіру. Прыслаў пісьмо з цюрмы: «Мама, пішаш, што хворая, я скора прыеду». Дык ей пісьмо ў гроб паклалі. !

Нейкая растрывожаная душа — і дома, і ўжо нібыта ў гасцях. Няма сталага месца.

*4 мая, чацвер*

Ад'езд у Мінск. І не хочацца, бо тут неяк адразу ж прыжыўся, бо ўсё роднае, сваё. Вандэя[3] на месцах яшчэ страшнейшая. У райкомах партыі прапануюць здаваць білеты (хоць гэты пачын у Саюзе мае шырокі водгалас, асабліва ахвотна рабклас кладзе свае чырвоныя, хлебныя некалі, кніжкі), хто звязаны з нефармаламі. Ва Ушачы дасюль даюць на месяц бутэльку гарэлкі і дзве віна, пры гэтым запісваецца нумар і серыя пашпарта. Дэмакратыя, дзе корань слова «краты»!

У Мінску. У пераходзе метро сустрэў Анатоля Клышку[4], ён нагадаў мне маю даўнюю: «Цвярозы ты ці выпіўшы, а наш часопіс выпішы!» Трэба вершаваныя 2 радкі на «Полымя».

Можна забыць год нараджэння, пол і імя,<br>
Нельга забыць падпісацца на «Полымя».

Толькі падпісчыкаў «Полымя»<br>
Не возьмеш рукамі голымі!

---

[1] Роўба Іван Сцяпанавіч (1936–2006), інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

[2] ПМК — Перасоўная механізаваная калона.

[3] Вандэя, правінцыя Заходняй Францыі, якая сталася цэнтрам раялісцкіх, а па сутнасці сялянскіх мецяжоў у час Вялікай Французскай рэвалюцыю і Дырэкторыі 1789–1794 гг. і таму рэвалюцыянерамі-сакюлотамі было забіта, па ацэнках розных гісторыкаў, ад 500 тыс. да 1 млн чалавек. У савецкія і перабудовачныя часы найменне Вандэя выкарыстоўвалася як контррэвалюцыя наогул.

[4] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. Заслужаны работнік культуры РБ (1994). У 1986–1990 гг. заг. аддзела крытыкі час. «Полымя».

Званіла Галя Шаранговіч, заўтра а 12-ай на пенсію Віра[1]. Трэба прывітанне.

*5 мая, пятніца*

Праводзіны Віры. Сустрэча з Машай[2], яна едзе на Кубу. Вечарам няма святла. Кавалак «Позірку» [Цэнтральнае ТБ, Масква] паглядзеў. Была Ілона. [...] Сучаснае дзіцё.

*6 мая, субота*

Казлова, 6. Аднесці фота. Нейкі кааператыў робіць для школ. Галоўліт[3] зняў верш «Працяг вякоў»[4] пра бел-чырвона-белы сцяг. Бедны Лявон Дранько мокры прыйшоў з гэтага Безгалоўліта, які не мае літасці з часоў Сталіна. Яшчэ нейкі дзьмухавец там пагражаў, што разбяруцца з тымі, што на Першамай неслі бел-чырвона-белыя сцягі. Наш дырэктар[5] і пальцам не варухнуў, каб памагчы. З ЦэКа [...] Лазоўская[6] яму важней. Можа, некалі і дырэктару будзе трэба помач. Дар зá дар, а дарам — ніц.

Званіў Быкаву. 9-га будзем выступаць ад Аргкама БНФ. Успомніўся ўшацкі прыгавор: фіц выйграў, фіц прайграў. Сустрэў жонку аднаго нашага аанаўца. Перакладчыцай у політэхнічным: «Тут усе хоць пад адным каўпаком. А там жа ціснула, давіла шпігаванне. І не ведаеш, хто за табой сочыць і што на цябе напіша». Згадзілася са мной, што тут у нас роўнасць у жабрацтве.

*7 мая, нядзеля*

16.00 — да Ал. Кішчанкі ў майстэрню. Апавядальнік ён цікавейшы, нячым мастак. Сядзеў у яго да дажджу. Званіў Васілю.

*8 мая, панядзелак*

У Міры[7] банкет, ёй 25 + 25, а 19-ай гадзіне. Да Яшы [Серпера] ў аптэку, лекі Васілю: teofedrin, eufilin. Званіў з Вушачы Пятро, робіць праводку ў хаце. Вячэра ў «Планеце». Амаль усе старыя знаёмыя. Яшаў бацька

---

[1] Жыжэнка Вірынея Пятроўна (1927–2012), заг. рэдакцыяй мастацкага афармлення выд-ва «Мастацкая літаратура» (1972–1990).

[2] Андруковіч Марыя Канстанцінаўна (н. 1948), беларускі журналіст і кінарэжысёр. У 1968–1995 гг. рэжысёр студыі «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

[3] Галоўліт — Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў.

[4] Гл.: Працяг вякоў (7.11.88) // Міласэрнасць плахі. С. 88.

[5] Грышановіч Валерый Мікалаевіч (1947–2007), беларускі паэт. У 1987–1993 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[6] Лазоўская Ганна Сцяпанаўна, начальнік Галоўліта пры ЦК КПБ.

[7] Салавей Міра Захараўна (Залманаўна), зямлячка; жонка Я. Серпера. Гл.: «Ушацкая — а гэта значыць...» (8.05.89) // Толькі б яўрэі былі!.. Мінск: «Кнігазбор», 2011. С. 225.

стары. Серпер — карэнны ўшацкі — яшчэ трымаецца. Успомнілі ўсіх, хто жыў, хто памёр.

*Наталлі Давыдзенка*[1]
*на альбоме «Вяртанне»*[2]

Тут мне дарагая
Люба′я праталінка.
Ушаччына гэта.
Угледзься, Наталінка.

*9 мая, аўторак*

Раненька да Васіля. Перадаў лекі, паперы выдавецкія. Потым ад рога вуліцы Танкавай да Ямы[3], дзе пахаваны вязні гета і жыўцом закапаны дзіцячы сад. Мітынг. Выступаў Быкаў. Як святога ўспрымалі яго, кожнае ягонае слова. Скала з уражлівым сэрцам і смуткаватымі вачыма. Яго любяць, паважаюць. Гэта адзіны *народны*, каго народ прызнае сваім. Выступалі Та́рас, Баторын[4], Букчын[5], Сёмуха[6], нават Адам Глобус — абы быць пры падзеі. Я з кароткім словам і перакладам верша Марка Шагала «Мой народ»[7] выступіў.

*10 мая, серада*

Іду на працу. Пераход. Прыбіральшчыца зрывае лозунгі з партрэтамі дэпутатаў магчымых, змывае сцены і кляне: «Каб табе мазгі прыклеіла!» Палітыка і жыццё заўсёды разыходзяцца.

---

[1] Давыдзенка Наталля Аляксееўна (псеўд. Наталіч Марына; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1984–1997 гг. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Барадулін Р., Ждановіч В. Вяртанне: Альбом. Мінск, 1988.

[3] «Яма» — памятны абеліск, пастаўлены ў 1947 г. у Мінску на месцы пахаванняў яўрэяў мінскага гета ў 1941–1943 гг., расстраляных фашыстамі. У 2000 г. на яго месцы паўстаў мемарыяльны комлекс ахвярам Халакосту.

[4] Баторын Фелікс Барысавіч (сапр. Хаймовіч; н. 1948), беларускі і яўрэйскі паэт і перакладчык; урач.

[5] Букчын Сямён (Самуіл Уладзіміравіч; н. 1941), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1972). У 1985–1993 гг. ст. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

[6] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (н. 1936), беларускі перакладчык. У 1972–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992).

[7] Гл.: Шагал М. Паэзія. Мінск, 1989. Пер. Р. Барадуліна і Л. Бярынскага. (Малафарматнае выданне.) *Шагал* Марк (1887–1985), беларускі і французскі мастак і графік. *Берынскі* Леў Самуілавіч (н.1939), рускі і яўрэйскі паэт, перакладчык.

*11 мая, чацвер*

9.00 — сустрэча з Сямёнам Саламонавічам[1]. Білет на Ташкент.

*12 мая, пятніца*

У СП. Будзінас. Кнігарня. «Белая яблоня [грома]». Званок Шкляру. Ждановіч[2] расказваў, а яму бацька ўспомніў. Пасля Першай імперыялістычнай у шпітале ляжалі параненыя, яны хадзілі па хатах галодныя, прасілі. Іх называлі шпільтанцы.

На плошчы Леніна перад Домам урада галадае чалавек. Раней пра такое мы чыталі толькі ў вестках з таго, капіталістычнага, свету. Галадае, значыць пратэстуе, дамагаецца свайго, каб ягоная тэлеграма была зачытана на з’ездзе[3]. Ён падтрымлівае думку і голас нашага Алеся Адамовіча. Ён супроць палавіністай дэмакратыі, супроць падзелу мітынгаў на санкцыяваныя і несанкцыяваныя. Даволі нахадзіліся людзі з партрэтамі Брэжнева[4] і Чарненкі[5]. Нават плацілі арганізацыі з фондаў адпаведных тым, хто нёс партрэты і плакаты. Цана залежала ад памеру і цяжару. І вось галадае не прадстаўнік ненавіснай функцыянерам інтэлігенцыі, а рабочы. А ў нашай рэспубліцы па-ранейшаму верхні эшалон улад палохае інтэлігенцыю, Народны фронт, што яны спусцяць на экстрэмістаў рабочы клас. І рабочы сёння новы. Адной трансляцыі з’езда мала. Трэба, каб была наладжана сувязь непасрэдна дэмакратычных дэпутатаў з народам, з шырокай прадстанічасцю. Загаварыць можна ўсё, толькі ніякімі прамовамі з былым мысленнем нельга загаварыць боль народа, ягоныя турботы пра хлеб надзённы.

Люба Бандарчык 78–74–53.

* * *

Прырос,
Як да раніцы лог,
Прывык,
Як да цемрадзі лён,
А як адвыкаць?
Як цень
Да цябе прысох,

---

[1] Элькінд Сямён Саламонавіч, супрацоўнік СП БССР.

[2] Ждановіч Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

[3] І з’езд народных дэпутатаў СССР (25 мая — 9 чэрвеня) 1989 г.

[4] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума ВС СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

[5] Чарненка Канстанцін Усцінавіч (1911–1985), Генеральны сакратар ЦК КПСС (1984 —1985). Герой Сацыялістычнай Працы (1976).

А як адмакаць?
(Мой смутак замком залёг.
А чым адмыкаць?)
Мой смех пад замком аглох.
А чым адмыкаць?

*Адказ на пытанне «Литературной газеты»*

*— У каждого свой Пушкин. Что Вы открываете в нём для себя сегодня (какими гранями)?*

— Как-то страшновато произносить: «Мой Пушкин». Будто бы присваиваешь сокровище. «Мой» можно только с добавлением «кумир, Бог, вершина». Ибо перед Пушкиным всегда трепещешь, робеешь, как школьник, не выучивший урок, перед любимым учителем, особенно когда, набравшись наглой смелости, переводишь Пушкина на родной язык. Пушкин — всеобъемлющий талант, рассчитанный на много столетий вперёд, дающий ответы на все вопросы литературные и жизненные. Думаю, что в наше время Александр Сергеевич не вступил бы в общество «Память»[1], а поддержал бы Народные фронты во всех республиках, чьи «сердца для чести живы». Пушкин первый расщепил атом единой и неделимой Российской империи, услышав «всяк сущий в ней язык». И сегодня у Пушкина надо учиться интернационализму, бережному и решительному обращению со словом, объединяющим века и народы.

*13 мая, субота*

Ляцім на *Ташкент.* У Краснадары пасадка. 40 хвілін проста на траве [стаім] (малых вядуць пісаць і какаць, дарослыя кураць), на фоне небакраю тапалі, у шарэнгу па адной. Трава высокая. Недзе жаўрукі. Са мной ляціць татарка Эльміра. Дачушка Хрысця, у Ташкенце сын Янка. Бабуля бацькава ў Пінску прадае кветкі. Малы крычыць: «Я — беларука!» Ахвотна, аж з карэннем, рве кветкі каля ўзлётнай паласы. У бабы нельга рваць — усё на продаж. На святы прыбытак вызначаецца на тысячы. Цюльпаны адцвілі — памідоры, гуркі, ружы. Сама татарка, татарскую ведае слаба, узбекскай цярпець не можа. Дзіця не павінна судакранацца з узбекскімі дзецьмі, бо заразіцца. Узор дружбы народаў! Пляменнік хоча паступаць у МГИМО[2], бо бацька быў знаёмы праз знаёмага з Брэжневым. Прозвішча мужа Харашун. Наша, прыгожае, годнае!

---

[1] Нацыянальна-патрыятычны фронт, вядомы як Таварыства «Памяць» (з 1980).

[2] МГИМО — Московский государственный институт международных отношений = Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў.

[Адрас:] 103055, Москва, ул. Новолесная, д. 6а, кв. 138. Мицкевич[1] Л. М.

*14 мая, нядзеля*

У аэрапорце сустрэлі. Гатэль «Узбекістон». Пакуль усё афармляў (у штабе хлопцы, узбуджаныя намі, ускочылі ў майках і чорных трусах. Прыгадаліся маладыя гады і п'янкі. І абавязкова — Караткевіч). Далі нумар. Дзяжурная звоніць уніз: «Чаму гэты нумар далі: у мяне там спіць дачка. Вы да раніцы паспіце ў іншым». Усё сваё.

З рускага перакладу пераклаў: Хамза Хакім-задэ[2] «Стрэл, ірві цішыню нямую!». «Если меня спросите, что со мной, — отвечу: — Ягоды разлуки в пищу мне попали». (З узбекскай народнай песні). Унізе кіёск. Розныя французскія духі. Гадаю, «Чорную магію» купляць і яшчэ якія?

— Колькі «Чорная магія»?

— 110.

— Рублёў?

— Долараў.

Забыўся, што я ў савецкай краіне. За мяжой я, савецкі, не магу нічога купіць, што хачу, бо савецкі, і дома нічога, што хачу, купіць не магу, бо савецкі. Замкнутае кола!

У СП. Барад-улін (сын дакумента, оглы — улін).

*г. Тэрмез.* Забытым «кукурузнікам» [ляцелі]. У аэрапорце ўсё, як у добрыя часы застою. Карнай. Танцы дзяўчат. Школьнікі. Хакім аль Тэрмізі[3] (IX–XV) [неразбр. 1], святое месца мусульман. Выходзім, салдацікі пяюць: «Привыкли наши руки к автоматам!» ЮНЕСКО аб'яўлены год Тэрмізі. Як сюды трапіць хто, калі гэта закрыты горад, бо ён ваенны? У аўтобусе, якім вязуць нас, на першым сядзенні справа сядзеў Лігачоў[4]. Даваў указанні. Пасля яго ўказанняў і мароз не страшны, які пабіў цвет. Цвітуць зыркімі чырвоны агеньчыкамі лімоны. Субтропікі. Нават збіраюцца вырошчваць каву. Смерць Бразіліі!

---

[1] Сыцкевіч (Васманава) Л. М., стрыечная сястра Рыгора Іванавіч па бацьку. Міцкевіч — дзявочае прозвішча бабулі.

[2] Хакім-задэ Ніязі Хамза (1889–1929), узбекскі паэт, драматург, грамадскі дзеяч. Народны паэт УзбССР (1926).

[3] Мазар Хакім аль-Тэрмізі (месца пакланення) — культавае збудаванне над пахаваннем святога. Аль-Хакім ат-Тэрмізі (? — 936/938), прадстаўнік сярэднеазіяцкага суфізму.

[4] Лігачоў Ягор Кузьміч (н. 1920), расійскі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1983–1990 гг. сакратар ЦК КПСС.

*15 мая, панядзелак*

Музей Леніна[1]. Экскурсавод непаўторна-хітры і мудры. Мост ≈ 900 м, будаваўся 2 гады, каштуе 40 млн. Цераз рэчку горад Хайратон — Hairaton. Мост ганьбы і няславы Саланг-гара. Калгас «49 год Кастрычніка». Сустрэча. Вазы руж. У зале адны чорныя галовы, як галавешкі, чарнеюцца. Выступае Усман Азімаў — сучасны малады чалавек, напорысты, зоркі, быў у Кітае, у захапленні, як шмат там усяго. Нам, кажа, праз сто год можа такое і не сніцца. У нас магчыма Кампучыя. На вечары чытае палка верш Хамзы кіргіз Булдурсун Абдукарымаў, перакладчык. Ікрам Атамуратаў — добры паэт, маладзейшая змена аксакалаў. Толькі яшчэ ў Сярэдней Азіі паэзія ў пашане і ў масавым успрыманні, у Еўропе практычнай і ўсё спазнаўшай дамы яна нават не далікатэс, а як нешта архаічнаўспамiннае. Пасля вайны з Германіі прывезены акардыён прыйшоўся шырока ў усіх аулах, маленькіх ансамблях, трыо: бубен, рубаі і акардэон.

На мосце жах. Прыехала 40 тысяч сустракаць. 10 тысяч загінулых бацькі прыехалі. Маці ходзіць і ўсе групы сустракае з гранёным ранцікам: «Іван! Я цябе чакаю!» Хоць ведае, што загінуў, а ўсё спадзяецца. Другія з хлебам[2].

У 1951 годзе следчы загарнуў у газету «Правда» кавалак кабеля, дрота, і, б'ючы па галаве Саіда Ахмада[3], прыгаворваў: «Ах, ты праўду не любіш, праўды баішся!»

Зямля перасмяглая, пускаючы ваду, зямля камянее. Вада з адстойнікаў без мінералаў — чыстая, халодная і таму не спажыўная. Старшыня Аграпрома таджык па нацыянальнасці, жонка узбечка, дзеці на ўзбекскай мове адукацыю [атрымліваюць]. Ён сам, каб не забыцца таджыкскую мову, выпісвае кнігі і газеты на таджыкскай. Беларуска Маруся ў 1944 годзе выйшла за таджыка — 11 дзяцей, сама чытае Каран, шануе веру і звычаі.

*16 мая, аўторак*

На вуліцы Хамір ош [?] — цеставы (уп) [?]. *Сайроб* — пачатак вады, чынара 850 год. Раней была школка ў дупле. І ахалодна, і ўтульна. Да рэвалюцыі мактаб, 1920 год — сельсавет, 1932–1934 гг. — салдацкая бібліятэка, 1936 г. — магазін. Рост 26 м, перыметр дупла 7 м. Перавал Сайробакі 4 тыс. м. Трава, як палын, пахне горка — шува́к. Дзе яна расце, там шмат золата. Кветка, як званочак, — чучмама́. Корань — салодкі часнок.

[1] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

[2] Вывад савецкіх войск з Афганістана (1988–1989).

[3] Хусанхаджаеў Саід Ахмад (1920–2007), узбекскі пісьменнік, драматург. Народны пісьменнік УзбССР. Заслужаны дзеяч мастацтваў УзбССР. Герой Узбекістана (1999). Быў рэпрэсаваны.

Шуваком мятуць хату. Чорны палын — арча́, арчовыя гаі ў гарах. На шашлык для паху, калі смажаць, галінку [кладуць].

*г. Дэхканабад.* Сустрэча ў школе. На перавале народны паэт (увесь род паэтаў) экспромты [складаў] ў гонар гасцей. Дзеткі [выконвалі] нацыянальныя танцы. Хлопцы хто ў ботах вайсковых, белых ад пылу, гразь спёкі, дзяўчаткі ў галёшыках. Цікавая асаблівасць малдаван цягнуць коўдру на сябе, увесь час звяртаць на сябе ўвагу. Гэта, відаць, адзнака малакалькаснасці і невысакарослаcці. І атрымліваецца ўражанне мітуслівасці і назойлівасці.

Калі назваць зборнік «Вішшо»[1].

І колькі мне яшчэ віша
Ушацкае адшчодрыць лета?
Падбілася мая шаша…

Бахшы — народны сказіцель Кахар Рахімаў. Народныя спевакі пяюць самую папулярную песню (ніякое вяселле без яе не абыходзіцца) на верш Усмана [Азімава]. Малодшы сын Кахара Бахрам імправізуе ломкім голасам, як здушаным крыкам, хрыпеннем. Нешта ад каргыраа.

*г. Шахрысабз* (Зялёны горад). Старадаўні горад, месца турызму, радзіма Цімура[2], бацька Цімура [тут] пахаваны. Мячэць — блакітны купал. Маўзалей-усыпальніца, бацька і духоўны настаўнік Цімура. Пад адной усыпальняй шэйх Шамсідзін. Магіла нашчадкаў Улугбека[3]. Камень з выемкай, дзяцей ад коклюша [лячылі], ваду [сабіралі] і цераз кош [?] пілі. Цімур пры жыцці заказаў сабе ўсыпальню, саркафаг. Хазраты-імам, рэшткі былога ансамбля 1380–1404 гг. Магілы 2-х сыноў Тамерлана. Святы імам. «Астаткі маіх сяшчэннікаў, каб магілы маіх сыноў былі спакойныя; калі мяне і маіх сыноў не любяць, дык святога ўспомняць; побач [пабудаваць] мячэць, каб маліліся і зноў жа — пакінулі ў спакоі магілы сыноў».

Аксарай[4]. 1380–1404 гг. 50 м басейн з золата, самыя любімыя жонкі Тамерлана купаліся. Калі не было вады — налівалі малако. Па свінцовых жолабах падымалася вада з гор. Султан — цень алаха на зямлі, а на другой сцяне толькі султан — цень Тамерлана. Пакараў дойліда. «Калі ты сумняваешся ў нашай сіле і моцы — зірні на гэты гмах» (надпісы). Мяса на калках павешалі. Пасля прыйшлі, дзе звэндзілася, падсіверылася, — там будавалі, бо абдзімалася ветрам.

[1] Гл.: Вішшо (1.01.90) // Міласэрнасць плахі. С. 215.

[2] Цімур (Тамерлан; 1336–1405), сярэднеазіяцкі дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, эмір (з 1370), стваральнік дзяржавы са сталіцай у Самаркандзе.

[3] Улугбек Мухаммед Тарагай (1394–1449), сярэднеазіяцкі дзяржаўны дзеяч, вучоны, асветнік. Унук Цімура. З 1409 г. правіцель Самарканда.

[4] Палац Аксарай, пазней прэзідэнцкая рэзідэнцыя.

*г. Кітаб*. Дзве чынары — равесніцы Тамерлана. Жывуць чынары да 1000 год, а пасля ў адну ноч сама запальваецца і згарае. Кітабская міжнародная шыротная станцыя імя Улугбека, арганізавана ў 1930 г., шырата 39° 8 мін. 325 ясных начэй у год бывае, 60–50 м над морам, вывучэнне мацерыкоў, полюсаў, рух іхні, падзорная астраномія, фірма Цэйса, дыяметр 40 см, фокус 3 м, 5 тон, 2 фотакамеры, у 500 раз павелічэнне. Фота каметы Галея, як гарачая кропка. Сатурн ў самбрэра, як лімон [?], як у маленстве Карлас Шэрман. Альбом, дзе мёртвыя зоры [сфатаграфаваны ?] на ўспамін вечнасці. Убачыў твар Поўні, як цеста круглага, паторканае пальцамі. Поўня — «светлае будучае» нашае планеты. Дзяжурны вечнасці[1]. «Я цяпер падабаюся дзвюм…»[2]

*17 мая, серада*

Гісарскае вадасховішча, Сувамбары, была рака Аксу і рака Карасув, 16 год будавалася, вышыня плаціны 140 м [нераб. 3]. Дом адпачынку. Дзе Айбек[3] напісаў свой першы твор (тлумачыць Усман [Азімаў]). Філіял камунізму. Янгі-кішлак, цёплы яшчэ асфальт да школы, аж ногі вязнуць, як у расійскай гразі. У зале адна касіць вачамі, як чорнымі агенчыкамі, як чорнымі вугольчыкамі, дужа дабяла напальваюць, бровы зведзены не ад злосці — ад мілосці, салодкай мілосці, зведзены рысай, як падведзена рыса пад маёй надзеяй. Адно што адчуваюць — зайздрасць да ўзбека, якому яна належыць. «Сквар: Чорнае полымя чорных вачэй…» [у блакноце].

Ходжа-Інгар [ён жа г. Шахрысабз] — радзіма Цімура.

*г. Каршы.* Магільнік. Мэблевы магазін. БНР — балгарскія вырабы, гарнітуры. Нашыя кіраўнікі пашалелі б, убачыўшы БНР[4].

*г. Чымкент*. Па мэтаўмовах селі ў Казахстане. Прыляцелі з дажджом. У гасцініцы малады хлопец са штаба са мной гаворыць па-ўзбекску, а з азербайджанцам з Баку па-руску. Той крычыць: «Я па-руску не разумею». — «Зараз пагавару з табой па-ўзбекску», — (хоць мовы дужа блізкія). Мяне за свайго [прымае].

---

[1] Гл.: Дзяжурны па вечнасці (18.05.89, Кітаб, Ташкент) // Міласэрнасць плахі. С. 109.

[2] Гл.: «Я цяпер падабаюся дзвюм…» (16.05.89) // Тамсама. С. 42.

[3] Айбек (сапр. Ташмухамедаў Муса; 1904/1905–1968), узбекскі паэт. Народны пісьменнік УзбССР (1965). Акадэмік АН УзбССР (1943). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946), Дзяржаўнай прэміі УзбССР імя Хамзы (1962).

[4] Супадзенне: БНР — Балгарская Народная Рэспубліка (у сапраўднасці Народная Рэспубліка Балгарыя) і БНР — Беларуская Народная Рэспубліка (1918–1921). Не была прызнана шэрагам вядучых дзяржаў. Па Рыжскай дамове 1921 г. незалежнай беларускай дзяржавай была прызнана БССР.

*18 мая, чацвер*

Разбудзілі стукам у дзверы а палове шостай (па Ташкенту) замест 6.30. І не спаць, ні ўставаць. Туркі!

*г. Фергана*. Аргана — чорная лагчына. [Пасёлак] *Шахімардан*. Мітынг. Адкрыццё помніка Хамзу. Мусульманін не плача, толькі можа выцерці вочы канцом чалмы (самая гігіенічная тканіна). Калі памірае, тут жа ў дарозе [?] ў чалму. Нельга чалму ў зямлю [класці].

*г. Рыштан.* Горад майстроў ганчароў праязджаем. Тамерлан кульгавы купіў 100 майстроў для Рэгістана, а пасля знішчыў.

*Ферганскі канал*. Старшы брат, як гусеніца тутоўніка 1,5 тоны з'ядае, так і старэйшы брат з'ядае з усіх рэспублік.

*г. Каканд*. Тэатр імя Хамзы. Вечар. У спёцы невераемнай ускладанне вянкоў да помніка Хамзы на адкрыцці помніка ля маўзалея. «Чалом вам, сябры. Вядомае выслоўе: няма прарока ў сваёй Айчыне — тут, у Узбекістане, аспрэчана. Выступаючы перад рабочымі, дэхканамі, навучэнцамі, можна было пераканацца, як любяць паэта ўсенародна. Некалі мы спявалі:

От Москвы, до самых до окраин,  
С южных гор до северных морей  
Человек проходит как хозяин  
Необъятной родины своей.

Нельга быць неабдымным гаспадаром неабдымнай прасторы. Гэта нагадвае беспамернага старшыню беспамернага безгаспадарлівага калгаса. Кожны павінен быць гаспадаром сваёй зямлі, сваёй хаты, свайго ўчастка, тады будзе толк і адказнасць. Няма неабдымнай абстрактнай дружбы, толькі дружба, якая спавядае ўзаемапавагу, узаемалюбоў, узаемапранікненне ў душы людскія, спаконвякоў яднае людзей. Хамза быў песняром такой дружбы. Дазвольце па-славянску пакланіцца святым мясцінам. Хай будзе вечнае слова Хамзы. Хай будзе вечная ўзбекская мова, якая дала свету вялікага паэта».

Палац Дудахр-хана. Кіпчак[1] (узбек. нац. з 99 народ.). Урда [палацавы комплекс] Худаяр-хана 1873 г. [пабудаваны ў 1871 г.], да рэвалюцыі 334 мячэці [было], усе ўзарвалі.

Пасля вячэры ад'езд на Ташкент. Лазіз Пулатавіч Каюмаў[2], цікавая размова пра яго жыццё, літаратуру. Заўтра выступаць са словам пра Хамзу. Калі па-руску [выступаць], свістаць [будуць] студэнты і моладзь, калі толькі па-ўзбекску, дык астатнія ж людзі ёсць.

---

[1] Кіпчакі — саманазва полаўцаў.

[2] Каюмаў Лазіз Пулатавіч (1930–2004), узбекскі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1965). Заслужаны дзеяч навукі Узбекістана.

*19 мая, пятніца*

Раніцай схадзілі з Аўрэлам Чакану[1] па крамах. Пуста, як і ў вялікай матухне галазадай Расіі. Прачысты вечар Хамзы ў тэатры Наваі. Слова пра Хамзу Лазіз Каюмаў. Кавалачак па-ўзбекску, а рэшту па-руску сказаў.

У Малдавіі бачыў, якія ж тады цыганы ў Афрыцы, утрая чарней за неграў. Пакуль старэйшы рускі брат цісне і цісне славян, балтаў, малдаван, неўпрыкмет падымае галаву і набірае сілу панцюркізм і колькасна, і якасна. Успомніць нас, ды будзе позна. «Да партрэта Ферганскай даліны: На шчоках даліны не злічыш маршчын…» [у блакноце].

*20 мая, субота*

Перапытаў паў-Ташкента, пакуль знайшоў Галоўпаштамт. Адаслаў камяні — кнігі. Цвікоў забіваць пасылкі няма. Малатка таксама. Хто спрытнейшы, забіваюць каменем. Назад ад уперад да светлай будучыні, да яшчэ святлейшага каменнага веку. Банкет. Азербайджанская прыказка: калі ты выхоўваеш сына, ты выхоўваеш воіна, калі ты выхоўвываеш дачку, ты выхоўваеш нацыю.

Да сябе ў катэдж [запрасіў] Бярэзнікаў[2]. Як мастак ён мысліць пасвойму. Саід Ахмад [запрасіў] на гарэлку на лімонных шкурынках. Цвіце джыда. Калі цвіце джыда — жанчыны вар’яцеюць. Шалёны пах. «Паслі мяне…»[3]

* * *

Усё ў прыродзе
У злагадзе, згодзе
Жыве на Усходзе, —
Пра чынару легенда такая:
Як дзесяць вякоў
Чалавечых спаткае,
Чынара адчуе —
Яна старая,
Сама запальваецца
І згарае,
Каб з попелу
Маладая чынара
Цягнулася ў неба,
Як наіўная мара.

---

[1] Чакану Аўрэл Іванавіч (1943–2014, ЗША), малдаўскі паэт, празаік, перакладчык.

[2] Дакладней, Бярэзікаў Яўгеній Яфімавіч (н. 1935), рускі пісьменнік і мастак. Кандыдат юрыдычных навук (1974).

[3] Гл.: «Паслі мяне…» (20.05.89) // Міласэрнасць плахі. С. 139.

*21 мая, нядзеля*

Прылёт у Мінск. Дома Валі нехта расказваў. Кабета з Мінска па дарозе на цягнік зазірнула ў гастраном. Там давалі грэчку. Яна да чаргі: «Я на цягнік, дазвольце ўзяць». Накіравалася да загадчыцы. Тая выйшла да чаргі: «Жанчына з Беларусі, ёй засталося жыць 5 год, дазвольце ўзяць пару кілаграмаў грэчкі». Чарга расступілася і адхінулася, як ад нябожчыцы.

*Ілоне*
*(на «Белой яблоне грома...»)*

Я рад, што ў садзе чалавецтва
Ёсць яблынька мая адна,
Дачушкай Ланачкай завецца яна!

*22 мая, панядзелак*

На працу. 12.00 — да Ганада. Хаджу як разбіты — баляць ногі, галава. [...]

*23 мая, аўторак*

Радзік Лапушын[1], прачытаўшы «Белую яблоню грома»: «Чытаў, як «Запіскі паляўнічага». Адчуваю, што гэта было, але не ўяўляю. Усё знікла, змянілася». Адчуванне іншага пакалення, якое вырасла ў горадзе. Жывая прырода ім ужо, як урок па батаніцы, заалогіі.

19.00 — СП. Аргкамітэт па сумесным пленуме саюзаў. Шмат гаворым і мала робім — лозунг нашага часу. На ўсіх узроўнях. Падвозіў шафёр нейкага сярэдняга халуйка. «Мне, — кажа, — пярэчылі некаторыя, але я за Шушкевіча[2] галасаваў. Пісьменнік такі ёсць». Тлумачу, што бацька сядзеў, што правільна галасаваў. «Я, — зноў працягвае, — пабачыў, што Галко на партрэтах вочы павыколвалі, пазакрэслівалі. Думаю, не дарэмна. Я і выкрэсліваў. Ды судзіць яго, гада, трэба за 30 кастрычніка[3], сталінскі гад.

---

[1] Лапушын Радзіслаў Яфімавіч (н. 1960), рускі паэт, літаратуразнавец. У 1987–1990 гг. аспірант, у 1990–1998 гг. выкладчык рускай літаратуры філфака БДУ. Доктар філалогіі (2006). З 1998 г. жыве ў ЗША. Гл.: «І чысціня, і глыбіня...» (21.01.89) // Міласэрнасць плахі. С. 134.

[2] Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч (н. 1934), беларускі фізік; дзяржаўны дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1970), член-карэспандэнт НАНБ (1991). Прафесар (1972). У 1986–1990 гг. прарэктар БДУ, у 1989–1991 гг. 1-шы нам. старшыні, у 1991–1994 гг. старшыня ВС РБ. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988). Сын С. П. Шушкевіча (1908–1991).

[3] 30 кастрычніка 1988 г. быў жорстка разагнаны мітынг-рэквіем у дзень памінання продкаў Дзяды каля Маскоўскіх могілак, замоўлены Беларускім фондам культуры і суполкай маладых літаратараў «Тутэйшыя» пры СП БССР. Мітынг быў дазволены і адразу забаронены Мінскім гарвыканкамам, несумненна, не без удзелу Мінскага гаркама партыі і яго 1-га

Рэклама супроць яго пайшла. Гэта 20 год назад мы былі рабамі, цяпер іншыя!»

*24 мая, серада*

Па радыё даярка з Лепельшчыны Градзюшка: «Вярхушкі шумяць, а ў нас у нізіне не чуваць, такая яна, перабудова». Да Та́раса. У Рэні [жонкі] дзень нараджэння. Рэдактура галоўная чытае Лявона [Дранько-Майсюка]. Чарга па гарэлку, як у Маўзалей [неразб. 1]. «Дазвол»[1].

*25 мая, чацвер*

Зборы на хапку ў Вушачу. *Бягомель.* Танцы.

Дрынчыць, дрындычыць,
Трэба горла прамачыць.

*

Што вы, хлопцы, прыунылі,
Мілыя саколікі?
Ці вы выпіць захацелі,
Чэрці-алкаголікі?

Што робіцца з нашай жаробіцы? Дажыліся кулікі: ані солі, ні мукі.

*п. Ушачы.* [Запісы, якія не ўвайшлі ў «Вушацкі словазбор...»[2]]: Жывець, скрыпіць, як кола якое; прыбраў многа ўчора — трох баб хавалі; мальчыняты дуроныя; вось і няма ні расола, ні пасола.

Барана ўкраў. Малы:

— Пуп наеўся круп. [...] Гэта брушко ела мяско.

— А дзе бралі?

— Бацька чорта зарэзаў, як барана.

— А дзе?

— У сабакі пад хвастом.

*26 мая, пятніца*

Прадаюць куранят па 36 капеек штука, бяруць у карабок з-пад абутку. Хлопец дастае, як камячкі жывыя, рухавая. На машыне крытай: «Кураняты». Упраўленне хіміі Пятро заве *хімдым*. Хлопцы ставяць тэлефон, родам з нашага раёна: «А шнур каратка́вы». І армія, і служба, а слова хатняе прарвалася.

---

сакратара У. Галко. Гл.: Дыктант 30 кастрычніка 1988 года (2.09.88) // Міласэрнасць плахі. С. 110.

[1] Гл.: Дазвол (24.05.89) // Тамсама. С. 120.

[2] Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна. Мінск: «Кнігазбор», 2013.

*** *У бальніцы не да маладзіцы, а на волі дзяўчат даволі.*

*27 мая, субота*

Ушачы. Мікалай Іванавіч: «Партработнікі ні ў чым канкрэтна не разбіраюцца, толькі туманна; галоўнае, даваць указанні. Калі ён за што канкрэтна возьмецца, тут жа ўбачаць, што нічога не можа».

[Запісы:] Цяпер цішыня, як ціхае лета; аб гэтым хлíбалу ты хутка есці захочаш; хоць не цішком, дык вечарам; тады яны *націшка міржкамі*; шматок пасядзела; пакуль я к сваім схадзіла (на магільніку), дык яны ўжо яго ўтапталі (нябожчыка); на пасміхішча.

Стронцый, як раматуз, уеўся ў косці дрэў. У Лепелі на станцыі маладзіцы ў дзіцячых калясках прывезлі прадаваць радыску, цыбулю. Як малых, пагойдваюць. На прыпынках спітыя, забітыя мужчыны, спрацаваныя кабеты. Райцэнтры — месцы атупення, дэградацыі. Няма былых мястэчак са сваімі абліччамі, традыцыямі, людзьмі. У пасёлках гарадскога тыпу, як іх казённа ахрысцілі, аднастайная маса, якая чакае, каб што ўхапіць у краме. А з навакольных вёсак цягнуцца з яшчэ большага беспрасвецця, бо тут, у райцэнтрах, кватэры з усімі выгодамі — вада з крана цячэ і за вугал хадзіць зімой не трэба. Дый нешта можна купіць. Заганнае замкнутае кола, якое замкнуў Вялікі Кастрычнік.

*28 мая, нядзеля*

Канцэрт майстроў Кубы ў філармоніі. Усё па-старому, начальства сядзіць адпаведна на месцах. Госці адпаведна. Кубінскі джаз, рок-група «Праект». Калі натуральна, дык аж перапонкі лопаюцца, а прыемна.

* * *

Патраціўшы сілы свае ўсе,
Наш век на вачах пастарэў.
Раматусам стронцый уеўся
У косці людзей і дрэў.

Пайшлі на падушкі стружкі,
І помніць ваколле, калі
Хмялелі ад досвітку птушкі
І пчолы спякотна гулі.

Гушчэча душу ці прыме,
Скупаўшы ў пякельнай жарстве?
У могільніка
У сасновай чупрыне
Пакуль яшчэ шчэбет жыве.

*29 мая, панядзелак*

На працы ўсе ля тэлевізара. Палітшоў, як вялік яшчэ статак бараноў са статусам дэпутата!

Залатая саломінка аржаная,
За цябе з надзеяй, паломнік,
Я хапаюся[1].

*30 мая, аўторак*

*г. Пскоў.* На Пушкінскія святы прыляцелі на дзень раней. Каля гатэля «Рыжскі» тэрмінова [паклалі] асфальт, лапяць будынкі. Побач будуюцца гасцініцы «Інтурыст» і «Івантурыст». Усё ў горадзе па талонах. Чаю нават пачак на чалавека не выпадае на квартал. Мыла таксама па талонах.

Зайцаў[2] Вячаслаў Кандратавіч, тэл. 36–52–68;

*31 мая, серада*

г. Пскоў. Непадалёку ад гатэля стары драўляны дом. Бярвенне круглае, моцнае, аж хочацца пагрукаць па ім, каб пачуць здаровы звон. Гэты дом стварае даставернасць, што горад стары, што не па камсамольскаму пачыну ўзнёсся часова і беспрытульна. Вуліцы крыху гарадскія, крыху местачковыя. Пыл.

*1 чэрвеня, чацвер*

г. Пскоў. Экскурсія. Магільнікі — старыя пахаванні. Насельнікі манастыра. Ізборская крэпасць, XIV ст., абарона даліны дужа складаная. Печаране. Праз вароты ў тумане шведы прайшлі. Нашчадак ручая, як прарыў пячоры. Сабор Міхаіла Архангела — галоўны сабор. Сэты[3] — народнасць эстонцаў, свая царква драўляная, казанні па-сэтанску, дыялекце эстонскай [мовы]. Храм Ніколы ра́тара (ратнага) — і вежа, і арсенал, і надбрам'е.

Іван Грозны[4] злосны на ізбаран за здраду, за адносіны з Курбскім[5]. Абезгаловіў Карнілія, а цела працягвала стаяць, тады ўзяў цела і перанёс. Ад цара зямнога да нябеснага пасланы. Крывавы спуск завецца, па якім нёс цела Карнілія Іван Грозны. Успенскі сабор 1473 г., званіца, вочапны звон, вочапам разгойдвалі. Ізвор — крыніца. Ізборск стаіць на крыніцах.

---

[1] Гл.: «Загон сваіх дужых дзён...» (3.06.89, Пушкінскія Горы) // Міласэрнасць плахі. С. 138.

[2] Зайцаў Вячаслаў Кандратавіч (1917–1992), літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1954).

[3] Сэту, ці сэта — малалікая фіна-угорская група, якая жыве ў Эстоніі і на Пскоўшчыне.

[4] Іван IV Васільевіч Грозны (1530–1584), вялікі князь усяе Русі (з 1533), першы рускі цар (з 1547).

[5] Курбскі Андрэй Міхайлавіч (1528–1583), рускі князь, баярын; пісьменнік. У 1564 г. збег у Літву.

Новую крэпасць на гару Жураўю [перанеслі] ў 1330 (2) г. Каменны Нікола (XIV ст.). Заха́б — праход. Пскоўскае возера, возера Заліта, Талабскія астравы раней называліся. Яўг. Храмаў[1]: «Летась кэдэбіст казаў: «Косы мы навастрылі, чакаем, каб трава нарасла». Разлік на Грузію, каб менш спачувалі, бо па традыцыі на рынках грузін бачаць». Калі з вострава прывозяць нябожчыка, як не даюць мыла — не прымаюць.

Плывём па рацэ Вялікай — карміцельцы, паіцельцы і заступніцы Пскова. На берагах прыгожа выдаюцца пароды, з якіх і дамы, і храмы, і крэпасці [будуюцца]. Ігар Шклярэўскі тлумачыць — працяг Віцебшчыны. Трэба нам было і гэтыя землі. Якой бы большай і да аднаго месца была б Беларусь наша.

*2 чэрвеня, пятніца*

У Пскоўскім крамлі — ушацкае слова *кром*. Да помніка. Пушкін з Арынай Радзівонаўнай — адзін з цёплых помнікаў. Маякоўскаму[2], скажам, такі і прысніцца не мог. Выйшаў на сцэну, а мікрафон нізка. Мікіта Міхалкоў[3] падышоў і падвысіў. Падзякаваў яму і сказаў, што дарасту да Вас, буду расці да Вас. Яшчэ адзін успамін аб судатыкненні з вялікім. «Галава два вухі Гоніць руль два колы».

*3 чэрвеня, субота*

Па дарозезе ў *Пушкінскія Горы* вёскі Салаўі, *Шабаны*.

Пушкін ствараў, тварыў мову пад будучы час Расійскай імперыі, карыстаўся багатай сыравінай народнай мовы. Ён бачыў заўтрашні дзень сваёй мовы. А нацыянальныя паэты (мала таго што замураваныя ў глухую сцяну сацрэалізму) торкаюць пальцы ў спіцы жалезнага кола русіфікацыі. Як самы паратунак — двухмоўе. Мяркуюць, што і дом, і садзік, і інстытуцкі гародзік будуць рускія, а нацыянальная мова — бедная наймічка, служанка, можа, каго і зацікавіць, можа, хто і па кнігах пачне вывучаць. Яна як замежная, як эксгуміраваная будзе. Знікне раса, жарства, зямля на каранях. Як штучная чорная ікра, і пахне, а смаку не мае.

У Міхайлаўскім за час ссылкі [Пушкін] прачытаў 12 телег (вазоў) кніг. У *Трыгорскім* — «По бровкам не ходите», наогул, напісана не «наведвальнікі», а «паломнікі». У гэтым павага і навасць. Дом культуры Пушкінскіх Гор. Мясцовая паэтка: «Мусор здесь из избы не выносят, Потому что и мусора нет».

---

[1] Храмаў Яўгеній Львовіч (сапр. Абельман; 1932–2001), рускі паэт, перакладчык.

[2] Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт.

[3] Міхалкоў Мікіта Сяргеевіч (н. 1945), рускі кінарэжысёр, акцёр, сцэнарыст, прадзюсар. Заслужаны артыст РСФСР (1976). Народны артыст РСФСР (1984). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, Дзяржаўнай прэміі РФ (1993, 1995, 1999), прэміі Амерыканскай кінаакадэміі «Оскар» (1995).

*4 чэрвеня, нядзеля*

Пушкин бессмертен бессмертием языка, который создавал он на многие столетия вперёд, бессмертен бессмертием духа народа, чей дух гранил он, укреплял в нём веру. И через сто лет после смерти сберёг Пушкин эти светлые места, этот храм от кровавой руки разрушения сталинского террора. И пока живёт слово Пушкина, будет жить славянский мир, разноликий и разноязычный (над магілай Пушкіна).

Інтэлігентны, разумны Яўген Храмаў: «Мая бабка караімка». Пытаюся: «Ці ведаеш караімскую?» — «Дый бабка не ведала, бо яна была з інтэлігентнай сям'і». Вось разуменне інтэлігентнасці.

*5 чэрвеня, панядзелак*

*Масква.* Да Івана Цярэшкавіча [Бурсава]. З вакзала. Потым па Маскве. «Гэтакіх цягнікоў няма…»[1]

*6 чэрвеня, аўторак*

Масква. Вечар Пушкіна ў Беларускім таварыстве імя Францыска Скарыны. Алесь Каўко[2] — душа суполкі. Такіх бы Каўкоў у Мінск, і як мага болей! Быў бы толк. Ганна Паўлаўна Рыжкоўская чытае «Край паэтаў». Анатоль Санько[3] — кампазітар наш. Жыве тут.

«Магчыма…»: Памяці Я[нішчыц][4]. На вечары суполак. Мімаходзь. Ад'езд з Масквы.

[Адрас чужой рукой:] Москва-119034, ул. Кропоткинская, д. 12, Госмузей А. С. Пушкина, зав. отдела книжных фондов Врубель И. Н. ! Ірына Мікалаеўна Урубель. «Тэл. 258–96–10 хат., Чакаю! — *Каўка* (застаўся, як і жадаў Рыгор 30 год таму, шчырым і рашучым)».

*8 чэрвеня, чацвер*

Пытанне: «Значэнне спадчыны. Як разумею паняцце спадчыны і яе значэнне для беларускага народа ў сённяшні час», — 1–1,5 стар.

Спадчына — спачыць, спадчына — спачатку. *Спадчына* — у гэтым глыбінна беларускім слове гучыць і спачын, спачыць і спачатку. Гэта ўсё, што спачывае ад свайго часу, але спачывае да часу, каб пачаць з пачатку

[1] Гл.: «Гэтакіх цягнікоў няма…» (5.06.89, Масква. N.) // Міласэрнасць плахі. С. 71.

[2] Каўка Аляксей Канстанцінавіч (н. 1937), рускі і беларускі гісторык, архівіст, літаратуразнавец, перакладчык, грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук (1991). У 1988–1990 гг. старшыня Рады Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Ураджэнец Беларусі.

[3] Санько Анатоль Канстанцінавіч (н. 1949), расійскі кампазітар. Кандыдат мастацтвазнаўства (2001). Ураджэнец Беларусі.

[4] Янішчыц Яўгенія Іосіфаўна (1948–1988), беларуская паэтэса. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1986). Гл.: Магчыма… (6.06.89, Масква) // Міласэрнасць плахі. С. 127.

дзейнічаць, даць пачатак новаму на добрай старой аснове матэрыяльнай і духоўнай. І ў самой мове розняцца спадчына духоўная, непераходная, спаконная і абмежаваная сваім бытаваннем, канкрэтна матэрыяльная, якая завецца словам не такога ўзвышанага гучання — *спадкі.* Нездарма яна сэнсава рыфмуецца са словам *манаткі.*

** Адказы на пытанні тэлебачання*

1. Ад з'езда чакаў я большай рашучасці, большай дэмакратычнасці вырашэнняў глабальных і самых мізэрных на першы погляд пытанняў, мізэрных, але з якіх складваюцца глабальныя пытанні. Мне запярэчаць, што усяго адразу нельга вырашыць. Згодны. Але трэба ставіць пытанні так, каб бачылася перспектыва вырашэння. А то ўсё складваецца ў доўгую скрынку камісій і падкамісій, якія і загубяць, як было гэта на працягу 70 гадоў, усё важнае, усё значнае загавораць. У нашых чыноўнікаў, апаратчыкаў, функцыянераў вопыт загавораў, замоў мацнейшы, чым у шаптух.

Чакаў, што дадуць слова беларускім дэпутатам, абраным дэмакратычна, а не ад грамадскіх арганізацый. Бо нашае афіцыйнае крыло выглядала ў сваіх прамовах, як і ў залатыя для іх часіны культу і застою. Добра, што ў крыла гэтага не хапіла крыла засланіць арла Алеся Адамовіча. Хоць ён сказаў пра наш боль.

2. Пра культуру гаварылася неяк па-засцянковаму сарамяжліва, па рэгіёнах, хоць культура ў нас ва ўсіх значэннях гэтага слова на нізкім узроўні. Гаварылася па рэгіёнах, але мала хто звязваў культуру з нацыянальным пытаннем. Бо няма культуры наогул, а ёсць культура канкрэтнага народа, канкрэтнай нацыі. Знікае нацыя — знікае культура. Масавая культура — гэта армія ў адной уніформе. Калі б далі слова, сказаў бы: давайце навядзём парадак спачатку кожны ў сваёй хаце, а пасля будзем вучыць суседзяў. А то брыдкавата, калі пачынаюць вучыць прыбалтаў, армян, грузін.

3. Крызіс эканамічны, сацыяльны, духоўны пачаўся даўно, толькі пра яго маўчалі. Ды што далёка хадзіць — сёння па ўсесаюзнаму радыё наш Еўтух[1] вызначае «весьма сложное положение в экономике». Так цнатліва-сарамяжліва, як гімназістачка. Толькі ў мастацтвах чалавек можа знайсці падтрымку і апору, бо сапраўднае мастацтва не на гэтую хвіліну, а на вечныя пытанні дае адказ, умацоўвае веру ў душу.

4. Разбурэнне храмаў адбылося не толькі на зямлі, разбурылі храмы ў душы, храмы душы. Атэізм наш — узор невуцтва і бескультур'я. Рэлігія

[1] Еўтух Уладзімір Гаўрылавіч (1932–2010), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1986–1990 гг. 1-шы нам. старшыні ВС БССР.

далучае душу да космасу, ачышчае ад бруду зямнога. Дый і асноўныя пастулаты нашай ідэалогіі — амаль даслоўныя цытаты з Бібліі.

5. Ва ўсе часы ў нашай хаце на покуце вісела ікона. Радыё побач. Маміны малітвы аберагалі мяне. Рэлігія памагла мне лепей зразумець прыроду, адчуць еднасць з ёй.

*9 чэрвеня, пятніца*

Пахаванне Анны Навумаўны — маці Навума Кісліка. Страшэнная гэта рэч — крэматорый. Казённым голасам, завучаныя казённыя словы. Труна апускаецца, як у апраметную, толькі механізаваную апраметную.

У цырульні па радыё слухаў, як выкручвалі рукі акадэміку Сахараву[1] на славутым з’ездзе.

*10 чэрвеня, субота*

Сёння 80 год маме! Магла б жыць. Маглі б радавацца адзін аднаму...[2] У царкве заказаў памянуць. «Новыя святцы»[3]. [«Ахвярынка»[4].]

*11 чэрвеня, нядзеля*

Тэрмінова дабіваў 3 санеты Лаківачыча Огнена. Прыдуманыя, халодныя, а мае намер палохаць, жахаць чытача. Еўрапейскі холад у славянскай абалонцы. І не еўрапейскія, і не славянскія — ніякага роду санеты.

Прыходзіла Лана са сваім[5] [...]. Лана расхвалявалася. Заўтра ёй да ўрача. Чакае некага. І я, як гэта ні дзіўна, чакаю, хвалююся, хачу працягу свайго [...]. Не ведаю. Як гэта людзі на зямлі жывуць без дзяцей? Хоць адна жаўна, і тая з га.на, але свая кроў, сваё ціхае шчасце недзе глыбока ў душы.

*12 чэрвеня, панядзелак*

На працы здаў Галіне Андрэеўне [Шаранговіч] і Сёмуху хвасты па перакладах. Барыс[6] казаў, пасля таго, як Іван Гаўрылавіч[7] паабяцаў дырэктару закінуць на выдавецтва аркан, дырэктар — жвавы камсамолец —

[1] Сахараў Андрэй Дзмітрыевіч (1921–1989), рускі фізік, грамадскі дзеяч і праваабаронца. Акадэмік АН СССР (1953). Герой Сацыялістычнай Працы (1953, 1956, 1962). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1953), Ленінскай прэміі (1956), Нобелеўскай прэміі міру (1975).

[2] Гл.: Маме на васьмідзесяцігоддзе (23.03.89) // Міласэрнасць плахі. С. 143.

[3] Гл.: Новыя святцы (7–10.06.89) // Тамсама. С. 102.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Застацца за ўсё страшней... (10.06.89) // Халодная памяць вады. Мінск: Мінска-Каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2010. С. 472.

[5] Клімін Канстанцін Васільевіч (н. 1960) , муж Ілоны Барадулінай.

[6] Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. У 1986–1993 гг. заг. рэдакцыі перакладной замежнай літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1991).

[7] Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). У 1987–1996 гг. старшыня Беларускага фонду культуры, адначасова ў 1989–1996 гг. гал.

даў загад падлічыць грошы і колькасць кніг у Барыса і ў мяне. Брыдка, нібы ў бялізне вошы шавеляцца.

Пасля пазваніў Галі — гэта ўказанне дырэктару ад Дзяльца, а Дзяльцу яшчэ нехта (можа, які наш Л-ч).

*13 чэрвеня, аўторак*

На працы сустрэча з Паўлам Вераб'ёвым[1]. Здаем ягоны першы вершазборнік. Рэліктавы на яго ўзрост і на наш час чалавек сваёй чысцінёй, далікатнасцю. Штохвіліны гатовы заплакаць. Далібог, такія ўжо даўно пераваліся. На свет прыйшлі Ваўкадамчыкі[2].

Паехаў на ўчастак. Накід верша знайшоў[3]. Едзем на ўчастку. Каля возера штучнага, што пад Мінскам. Дзікая качка пераводзіць дзяцей цераз асфальт двухбаковарухай дарогі. Мы аж замерлі, ці перавядзе? Перавяла!

*14 чэрвеня, серада*

З Ілонкай па горадзе.

Пазнаючы чаўны па стырнах,
Як бы ў бухту сутоння
Не скіроўвалі вы іх.
Адчуваў раз'юшаны Пастарнак[4]
Ступні пяцістопнага ямба вывіх[5].

*Высокае дрэва прыкмеціць пярун...*

*15 чэрвеня, чацвер*

Та́расу перадаць «Белую яблоню грома». У яго пераклады выдатныя! Нарэшце набраўся нахабнасці ўзяцца за пераклады Барыса Пастарнака. Смеласць гарады бярэ, а нахабнасць прадмесці.

---

рэдактар час. «Спадчына». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979).

[1] Вераб'ёў Павел Віктаравіч (н. 1958), беларускі паэт. Працаваў ў раённым і рэспубліканскім друку. Гл.: Ранішні і безабаронны (1990) // Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995. С. 111.

[2] Адамчык У. В. (Адам Глобус) і ягоны брат: Адамчык Міраслаў Вячаслававіч (псеўд. Шайбак Міраслаў; н. 1965), беларускі пісьменнік. У 1989–1991 гг. супрацоўнік час. «Бярозка», з 1991 г. — выд-ва «Сучасны літаратар».

[3] Гл.: Чаканне і адчай ([1989]) // Міласэрнасць плахі. С. 51.

[4] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

[5] Гл.: Перакладаючы Барыса Пастарнака (18.06.89) // Міласэрнасць плахі. С. 125.

*16 чэрвеня, пятніца*

Нахабнею. Перакладаю. Чытаў Та́расу. Нешта спадабалася. Пазнаў. Чамусьці лезуць у галаву пасля высокай паэзіі дурныя радкі ўшацкага жыцця: «Калі свіння на кнаразоў…» [у дзённіку].

Да Навума. Сем дзён па Анне Навумаўне. Але болей пра палітыку, пра падзеі размова ідзе. Савецкі чалавек гэтак звінчаны генеральнымі канструктарамі, што проста пра жыццё і гаварыць не ўмее.

*17 чэрвеня, субота*

На Камароўку. Як перад канцом свету народу.

*18 чэрвеня, нядзеля*

«Васіль! Жыві ў вяках!..»[1] У Васіля дома. Якраз ён нарадзіўся на Тройцу. І сёння Тройца. Адзін дзень да 65-годдзя. Была радня па Ірыне Міхайлаўне [жонцы], Адамовічыха[2]. Цікава сказаў пра Жураўлёва. Напярэдадні разіў ход з'езда змяніць, а назаўтра на трыбуне бязглуздзіцу нёс. Пераквалі нашыя доблесныя органисты, відаць. Стомлены Васіль, калі зблізку глядзець, асабліва ў застоллі. На ім столькі трымаецца ў нас. Беларусь, дзякуючы Быкаву, мае добрае імя.

*19 чэрвеня, панядзелак*

Званіў Дубянецкі[3] — ісці ў Гарсавет наконт з'езда БНФ. Пасля пазваніў, што не трэба масавасці, так сказаў нібыта Зянон[4]. Ім відней. Я за!

Цікавыя сялянскія жыццёвыя канцэпцыі ў бацькі Васіля Шаранговіча[5], каваля: 1) Як ёсць, так і добра; 2) неяк будзе; 3) жыццё пакажа.

«Чакалі»[6].

---

[1] Надпіс на кн. «Белая яблоня грома». Гл.: Дажыць да зялёнай травы…: Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960–2003). Львів: «ВолЯ», 2008. С. 35.

[2] Адамовіч Вера Сямёнаўна (1929–2014), жонка А. Адамовіча.

[3] Дубянецкі Міхаіл Фёдаравіч (1927–1990), беларускі перакладчык.

[4] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н. 1944), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). У 1976–1996 гг. навук. супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ. Заснавальнік і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1988–1999). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання. Гл.: Торф гісторыі (19.08.88) // Міласэрнасць плахі. С. 193.

[5] Шаранговіч Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі мастак, графік, педагог. У 1986–1989 гг. прарэктар, у 1989–1997 гг. рэктар Беларускай акадэміі мастацтва. Прафесар (1981). Народны мастак Беларусі (1991). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[6] Гл.: Чакалі! (19.06.89) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. Мінск: «Юнацтва». 1996. С. 11.

*20 чэрвеня, аўторак*

У Вярхоўны Савет наконт з'езда БНФ. Усіх інфармуе *Мікуліч*[1]. *Міхасёў*[2] заяўляе, што заявы БНФ у Гарвыканкаме няма. Тлумачэнні дае *Вяч. Жыбуль*[3]. *Іван Навуменка* супроць БНФ, бо будуць мітынгі і экстрэмісты. «Падобна, што ствараецца партыя і райкомы. Не веру. Толькі мітынгі, балбатня, экстрэмізм. Што за гэтым стаіць? Амбіцыя. У «Салідарнасці»[4] дык ёсць рабочыя. Мы ідзем да перыяду ляманту, крыку. Я катэгарычна супроць БНФ, бо няма ў славянскіх рэспубліках». *Сыраегіна*[5]. Роўна старэе, партдама. *Зянон Пазняк* маналогам (як ён назваў) тлумачыць ўсё, што да чаго.

*21 чэрвеня, серада*

Да Навума. Адзін, без маці. Пастарэлы і разгублены.

*Навуму Кісліку*
*(на «Белой яблоне грома...»)*

Навум — ты геній, не пярэч.
Я гэта ведаў да Антона[6],
Калі ва Ўшачах лез на печ
Зімой
І грэўся там натхнёна...

*[1989]*

*22 чэрвеня, чацвер*

На кінастудыю. Запіс пра Караткевіча для тэле. Вадзім Спрынчан[7] адыходзіць на вольны хлеб. Шкада. Душа дужа шчырая. Адукаваны. Уражлівы. «Беларускаму Народнаму Фронту» [у дзённіку]. «Хоць на вышках жыў у зацішку...» [у блакноце].

---

[1] Мікуліч Уладзімір Андрэевіч (1920–2000), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1985–1990 гг. нам. старшыні Прэзідыума ВС БССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1958).

[2] Міхасёў Уладзімір Іванавіч (н. 1938), старшыня Мінскага гарвыканкама (1985–1990).

[3] Жыбуль Вячаслаў Васільевіч (н. 1948), беларускі крытык. Кандыдат філалагічных навук (1985). У 1979–1991 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя. Я. Купалы.

[4] «Салідарнасць» — польскі Незалежны самакіруемы прафсаюз (з 1980).

[5] Сыраегіна Людміла Мікалаеўна, нам. начальніка Упраўлення па справах сацыяльна-культурнага комплексу Упраўлення справамі СМ БССР.

[6] Бялевіч Антон Пятровіч (1914–1978), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Рыгор Іванавіч любіў успамінаць, як аднойчы ў цёплай кампаніі Бялевіч настойваў: «Навум, ты геній!..» Кіслік сціпла аднекваўся. І тады Бялевіч уз'юшыўся: «Маўчы, такі-растакі! Сказаў геній, значыцца, геній!!!» (*Пераказ Н. Давыдзенка*.)

[7] Спрынчан Вадзім Браніслававіч (н. 1950), рускі паэт, перакладчык. У 1982–1989 гг. заг. рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Сын Б. Спрынчана.

*23 чэрвеня, пятніца*

На працы праводзілі Вадзіма. Дырэктар перадаў патрабаванне партулад, каб Арлоў не ўваходзіў у раду [БНФ], інакш выключаць з шэрагаў слаўнай [партыі].

*24 чэрвеня, субота*

*Вільнюс*. З'езд БНФ. Адкрывае Зянон. Хор спявае. Зянон Пазняк аб'яўляе вядучых. Хадыка[1] аб'яўляе парадак. Рытуал пратакола.

Даклад *Зянона*: «Насаджаўся русіфікаваны жаргон. Бюракратычны тып нацыянальнага нігілізму, ніводнай школы ў гарадах. Рэспубліка, як нарыхтоўчая кантора, нарыхтоўваем нават там, дзе радыяцыя. Генацыд сталінізму, генацыд [неразб. 1], генацыд Чарнобыля».

*Конан[2].* Філасофскія нататкі. Полацкае веча.

*Вергіліус*, сакратар «Саюдзіса»[3].

*Вадзім Несцярэнка[4]* пра МАГАТЭ[5] і паседжанне АН. «Трэба нам ад клопатаў пра ўсё чалавецтва [пераходзіць] да клопатаў пра кожнага чалавека».

Перапынак. Зачытваецца ліст *Васіля Быкава* да з'езда.

*Алесь Бяляцкі[6]. Юры Дракахруст[7]* (Мандатная камісія).

---

[1] Хадыка Юрый Віктаравіч (1938–2016, ЗША), беларускі вучоны-фізік; мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1978). Прафесар (1984). З 1980 г. загадчык лабараторыі Інстытута фізікі НАНБ. Нам. старшыні Беларускага Народнага фронту (1988–2007).

[2] Конан Уладзімір Міхайлавіч (1934–2011), беларускі філосаф, гісторык, літаратуразнавец. У 1986–1991 гг. ст. навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права НАНБ, у 1991–2011 гг. заг. аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філасофскіх навук (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[3] Чапайціс Вергіліус Юозас (н. 1937), літоўскі перакладчык; сакратар «Саюдзіса», член Парламента ЛР (да 1991). «Саюдзіс» — грамадска-палітычны рух Літвы (1988–1990).

[4] Дакладней, Несцярэнка Васіль Барысавіч (1934–2008), беларускі вучоны ў вобласці ядзернай энергетыкі. Доктар тэхнічных навук (1968). Член-карэспандэнт АН БССР (1973). Прафесар (1969). У 1991–2008 гг. дырэктар Інстытута радыяцыйнай бяспекі НАНБ. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1979).

[5] МАГАТЭ — Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі.

[6] Бяляцкі Алесь (Аляксандр Віктаравіч; н. 1962), беларускі літаратуразнавец і грамадскі дзеяч, праваабаронца. У 1989–1998 гг. дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча. У 1991–1996 гг. дэпутат Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў. З 1988 г. сябра Аргкамітэта БНФ.

[7] Дракахруст Юрый Аляксандравіч (н. 1960), беларускі журналіст і палітолаг. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1986). У 1982–1991 гг. навук. супрацоўнік Інстытута матэматыкі АН БССР, у 1991–1993 гг. ст. навук. супрацоўнік Інстытута эканомікі НАНБ. Сын А. Дракахруста.

*Пятро Садоўскі*[1]. Моўны аспект. Русіфікацыя — адзін з прыёмаў. Дзяржаўная ахова культуры і мовы народаў. Пад інтэрнацыянал [неразб. 2].

*Ан.* [?] *Жураўлёў.*

*Мікола Гайдук*[2] (Беласток): «Мы тысячагадовы народ».

*Рэдактар газеты «Саюдзіс»*[3]: «Спадзяемся, што ідзе [?] апошняя рэвалюцыя XX стагоддзя, і шчаслівая толькі дзяржава, народ, як адзінае [?] перастварае у народ як нацыю. Аднаўленне духу і цела народа, уваскрашэнне нацыі».

*Тамара Белабокая*. Праблемы здароўя, экалогіі, санслужба. «Палова народжаны толькі здаровыя дзеці. У сувязі з Чарнобылем трэба свае санітарныя нормы ў рэспубліцы».

*М. Ткачоў*[4] (Гародня). «Нацыянальная сімволіка. Пагоня — наш радавод, перадславянская гісторыя, калі вораг нападаў, усе мужчыны на коні і даганяць ворага і адбіраць палоннікаў. Народны звычай XIV стагоддзя. 1387 г., герб Пагоня на гробаўцы [?] Ягайлы[5], на сцягах Каліноўскага[6]».

*Эстонец*. «Сцяг Эстоніі і наш бел-чырвона-белы махаюць наўзаем».

*Станіслаў Шушкевіч*. «Радыяцыя і лёс нацыі. Вырашыць пытанні, якія мусяць быць выбары ў рэспубліцы. БНФ пакажа, што ёсць [?] сілы. Дыялог і цярпенне».

*Сяргей Язерскі*[7]. «Хваравіты стан псіхічнага [здароўя] людзей».

*Хадыка*. «Духоўнае адраджэнне. Разам з жывёлінай гінуць і крывасмокі, якія харчуюцца. З жывёліны не можа існаваць грамадства без рэлігіі уніяцкай царквы (забараніць атэізм за кошт дзяржавы)».

*Айцец Ян Матусевіч*[8] уніяцкага касцёла. «Хрысціянства і беларускі народ». 1–2 кастр. 1988 г. у Лондане.

---

[1] Садоўскі Пётр Вікенцьевіч (н. 1941), беларускі мовазнавец, палітык, дыпламат. Кандыдат філалагічных навук. Дэпутат ВС РБ (1990–1992).

[2] Гайдук Мікола (Мікалай Раманавіч; 1933–1998), беларускі пісьменнік, публіцыст, перакладчык, гісторык, педагог, грамадскі і рэлігійны дзеяч (Польшча, Беласток). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986).

[3] Йозакіс Арвідас, рэдактар газ. «Навіны Саюдзіса».

[4] Ткачоў Міхаіл Аляксандравіч (1942–1992), беларускі гісторык, археолаг, грамадскі і палітычны дзеяч. Доктар гістарычных навук (1987). Прафесар (1989). У 1989–1992 гг. заг. рэдакцыі, гал. рэдактар выд-ва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі». З 1989 г. нам. старшыні сойма БНФ.

[5] Ягайла Уладзіслаў (каля 1350–1434), вялікі князь літоўскі (1377–1392), польскі кароль (з 1386).

[6] Каліноўскі Кастусь (Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; 1838–1864), лідар беларускага нацыянальнага вызваліцельнага руху, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве. Пакараны царскімі ўладамі.

[7] Язерскі Сяргей Андрэевіч (1937–2010), урач, выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.

[8] Матусевіч Ян (1948–1998), беларускі рэлігійны дзеяч; праваслаўны святар, у 1979 г. перайшоў у каталіцтва. У 1979–1990 гг. пробашч касцёла ў в. Баруны Гродзенскай вобл.,

*Тамара Раманькова*[1] (Магілёў). Пра культуру. Нацкультура і мова.

*Сяргей Кузняцоў*[2] (Рыга, [суполка] «Світанак»).

*Барыс Ракіцкі*: «1) Характар руху. Мы ўсе думаем, што жывем пры сацыялізме, гэта хлусня. Мы ў таталітарнай дзяржаве. Таталітарызм прынізіў народ ва ўсіх яго паняццях. Антытаталітарная рэвалюцыя.

2) Сэнс улады. Усе, хто забраў усю ўладу, не будзе задаволены ніякімі рухамі. Быццам бы БНФ рвецца да ўлады. Народ — мае права на ўладу. Слепакі тыя, хто думае, што ўлада — гэта сіла. Можна мець сілу і не мець улады. У дэмагогаў любімыя паняцці — паралельныя структуры.

3) Вы — мужнае двоеўладдзе. Не народ дэстабілізуе абставіны, гэта ўлада не чуе. Канфрантацыя непасбежна. Рэвалюцыя — свята адраджэння народа, а грамадзянская вайна — бойка па свяце.

4) Добра, што няма комплексу апазіцыі. БНФ павінен усвядоміць сябе прадстаўніком народа. У апазіцыі знаходзіцца ўлада. Народ — такая сіла, якая яшчэ не ўсведамляе сябе».

*Анатоль Сідарэвіч*[3]*.* Курапаты і Кабылянскага чарада[4] пад Воршай (Галоўліт не дае называць апошнюю).

*Сяргей Антончык*[5] (рабочы) пратэстуе, што ад імя рабочых усё падпісваецца, сацыяльны СПІД дэмагогіі жыве і цяпер.

*Уладзімір Карпаў: «*Эксперымент удушша ў Беларусі. Пісьмо Гарбачову — з цяжкасцю адрозніваю па партрэтах Малафеева[6] ад Сакалова. Можа, з апаратчыка атрымаецца апаратчык машыннага даення».

*Сямён Букчын. «*Крызіс Беларусі. Функцыянеры ўсе прымаюць змены як чарговую кампанію. Даклад суперстар. Расчалавечванне чалавека, 90 млн.».

*Лявон Тарасенка*[7]. «[У] 1993 і 1995 годзе сумныя гадавіны раздзелу Літвы і Польшчы, каб у межах Літвы 1996 г.».

---

у 1990–1993 гг. пробашч касцёла 1-й Мінскай грэка-каталіцкай парафіі св. Язэпа.

[1] Раманькова Тамара (пам. 1998), выкладчык фізікі; ініцыятар стварэння Магілёўскага філіяла аб’яднання «Мартыралог Беларусі».

[2] Кузняцоў Сяргей Юр’евіч (н. 1961), урач, грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Латвіі («Світанак»). Доктар медыцынскіх навук.

[3] Сідарэвіч Анатоль Міхайлавіч (н. 1948), беларускі гісторык, крытык, палітолаг. У 1987–1992 гг. супрацоўнік час. «Крыніца».

[4] Курапаты і, дакладней, Кабыляцкая гара — месцы масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян у часы рэпрэсій 30 —40-х гг. XX ст.

[5] Антончык Сяргей Антонавіч (н. 1957), апаратчык хімводаачысткі Мінскага вытворчага аб’яднання імя Леніна. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС 12-га склікання.

[6] Малафееў Анатоль Аляксандравіч (н. 1933), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1978–1990 гг. 1-шы сакратар Гомельскага, Мінскага абкамаў КПБ, у 1990–1993 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[7] Тарасенка Лявон, рэдактар экалагічнай газ. «Папаратнік» (1990); дэпутат ВС 12-га склікання (1990–1995).

*25 чэрвеня, нядзеля*

*Альгіс [Балтакіс[1]]:* «Няма болей сіл баяцца!»

Пряцяг з’езда. *Вячорка[2]* пра нацыянальны сцяг — нацыянальныя колеры. «Слова пра паход [Ігаравы]»[3], чырвоны сцяг, першае ўпамінанне выявы 1541 год, трыяда.

*Юра Дракахруст* склад чытае: пенсіянераў 7, беспартыйных 3, кааператараў 2.

Тэлеграма ад *Зоські Верас[4]*.

Выступае *Г. С. Прыма* з дзіцячага садка: «У дзяцей лыжка не падае, калі прыстаўлена да грудзей».

*Габрусёў[5]:* «Гэта палітычны прысуд нашаму ўраду, што з’езд не ў аМінску. Няўклюднае кіраўніцтва нашага ўрада».

*Сядоў[6]:* «7 % за Вандэю, астатнія за БНФ. 22 % КПСС, 3 % вайскоўцы».

Падлікі. Супроць мяне 54. Старшыня Пазняк, Ткачоў, Хадыка.

*26 чэрвеня, панядзелак*

Прыезд у Мінск. Званіў Казько наконт рахунку. Званіў я Шкляру. У яго ўчора дзень нараджэння.

*27 чэрвеня, аўторак*

На працу. Вычытаў-такі уступ Ігруновай да Віктара. Падрыхтаваць Паўла Вераб’ёва. Заходзіў Галубовіч[7]. Шукае працу. Надзея на Генадзя Бураўкіна[8]. Расказваў, як яшчэ даўно п’яны Сыс[9] казаў, што яму напляваць і на «Тутэйшых», і на ўсю рэвалюцыю. «Мне трэба прабіцца, і я ведаю, як прабіцца».

---

[1] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).

[2] Вячорка Вінцук (Валянцін Рыгоравіч; н. 1961), беларускі палітык, мовазнавец, выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа.

[3] «Слова пра паход Ігаравы» — помнік старажытнарускай культуры XII ст.

[4] Верас Зоська (сапр. Войцік Людвіка Антонаўна (1892–1991), беларуская пісьменніца, грамадска-культурніцкая дзяячка.

[5] Габрусёў Сяргей Арцёмавіч (н. 1946), старшыня Магілёўскага гарвыканкама (1990–1993).

[6] Сядоў Валерый (1952–2016), супрацоўнік Інстытута філасофіі і сацыялогіі АН БССР.

[7] Галубовіч Леанід Міхайлавіч (н. 1950), беларускі паэт. У 1989–1994 гг. рэдактар гал. рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання.

[8] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1978–1990 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. У 1990–1994 гг. прадстаўнік Беларусі ў ААН. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол РБ. Дэпутат ВС (1980–1990). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980).

[9] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт. У 1985–1989 гг. ст. тэхнік у Рэспубліканскім радыётэлецэнтры.

Учора вечарам Ул. Лайкоў[1] — дырэктар школы. Просіць значок з Пагоняй на фоне бел-чырвона-белага [сцяга]. «А як зволяць?» — пытанне. «У мяне карова, гаспадарка. Не баюся».

*28 чэрвеня, серада*

*Вільнюс*. Клімас Рамунас[2], 61–73–44, [час.] «Пяргале», [неразб. 1], 37. Куксо[3] расказваў яму: маскоўская птушкафабрыка. Маладым пеўнікам перавязваюць адну ножку. Пасля, калі рэзаць, на перавязанай ножцы далікатнае мяса (для Крамля), а мускулістую ножку адкідваюць.

* Альгіс [Балтакіс]: «Дружба — паняцце кругласутачнае».

[Звесткі для сяброўскіх радкоў у «Братэрства-89»[4].]

*Валянцінас Свянціцкас[5]:* крытык, манаграфія пра Балтакіса, жонка — беларуска.

*Ёнас Мікелінскас[6]*: псіхалагічная «Краіна чорных ялін»; год 10 назад [напісаная] і толькі выйшла «Дзе роўныя палі», прэмія Літвы, 1-я частка, трылогія, як сувязь мін[улых] пакаленняў.

*Сідзітас Гяда[7]*: прымае ў СП; бацька добра разумеў па-беларуску; родам з Гродна; «лічу напалову гудам сябе»; [бацька] быў уніятам, выдаваў фа[льшывыя] дакументы ў 1905-м у Амерыку, вярнуўся ў 1914 г., хаваўся ў снезе як царскі чыноўнік і памёр, і тады трапіў у Літву. «Я гістарычны літвін, як Міцкевіч, мне міла чуць па-беларуску, мой бацька гаварыў па-беларуску. Мы былі дваране, у Гродна прадзед быў пісарам. Калі я чую беларускую мову, мне здаецца, што мае прадзеды гаворац. Нельга пісаць паэзію мовай «Правды» і «Известий». Калі б я мог пісаць па-беларуску, я быў бы па-беларуску». *Крыўда, калі ласка*, — гаворыць Сігітас. «Шкада, што гіне мова, уяўляю вайну з Польшчай, але не ўяўляю вайну з Беларуссю».

---

[1] Лайкоў Уладзімір Піліпавіч (н. 1953), беларускі настаўнік, краязнавец. З 1979 г. дырэктар Мётчынскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага р-на Мінскай вобл. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы».

[2] Клімас Рамунас (1945–2002), літоўскі журналіст.

[3] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік. Жыве ў Маскве.

[4] «Братэрства» — штогоднік перакладаў з літаратур народаў СССР (1982–1990); выданне выд-ва «Мастацкая літаратура». Гал. рэдактар А. Русецкі, потым Р. Барадулін. *Русецкі* Аляксей Сцяпанавіч (1912–2000), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1981).

[5] Свянціцкас Валянцінас (н. 1948), літоўскі крытык і эсэіст. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Літоўскай Рэспублікі (2014).

[6] Мікелінскас Ёнас (1922–2015), літоўскі пісьменнік, публіцыст, педагог. Заслужаны настаўнік ЛітССР (1965). Заслужаны дзеяч культуры ЛітССР (1982). Лаўрэат Нацыянальнай прэміі ЛР (2002).

[7] Гяда Сідзітас (1943–2008), літоўскі паэт, драматург, эсэіст, крытык, перакладчык.

*Плацяліс*[1]: Друскенікі. *Вітаўтас Рубавічус*[2], паэт.

Нам. рэдактара «Пяргале» *Р. Клімас.*

*Мушынскас Даніэліс*, кансультант па прозе, піша апавяданні.

*Вайчунайтэ*[3]. *Бернотас*[4].

[Адрас чужой рукой:] 232043, Вильнюс, ул. Эрфурто, 40–48. Кейдошюс[5] Пятрас Петрович.

*29 чэрвеня, чацвер*

*Да Ганада.*

Студэнт, здаючы залікі,
Сэнсу аддай даўгі —
Запомні: Быкаў вялікі,
Гілевіч — проста даўгі.

*Вельмі проста*

Навошта падлікі,
Навошта дэбаты —
Быкаў — вялікі,
Гілевіч — цыбаты[6].

На працы габлююць паркет і фарбуюць — філіял пекла.

*30 чэрвеня, пятніца*

Раптоўна зваліла тэмпература. Пракачаўся ў ложку. [...] Званкі адбілі мазгі. Усім спатрэбіўся, калі злёг. Не змог паехаць на Сіманаўскае[7] свята [паэзіі] ў Магілёў.

---

[1] Плацяліс Карнеліус (н. 1951), літоўскі паэт і перакладчык.

[2] Рубавічус Вітаўтас (н. 1952), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Доктар філасофскіх навук.

[3] Вайчунайтэ Юдзітэ (1937–2001), літоўская паэтэса, перакладчык, драматург. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1986).

[4] Бернотас Альбінас (1934–2012), літоўскі паэт, празаік, перакладчык.

[5] Кейдошус Пятрас (1924–2006), літоўскі паэт; уласны карэспандэнт «Литературной газеты» па Літве.

[6] Гл.: Савось Авось. Маленькая розніца (29.06.89) // Дзень паэзіі-91. Мінск, 1991. С. 221.

[7] Усесаюзныя Сіманаўскія чытанні (з 1988). *Сіманаў* Канстанцін (Кірыл) Міхайлавіч (1915–1979), рускі пісьменнік, сцэнарыст, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1943, 1946, 1947, 1949, 1950), Ленінскай прэміі (1974). У час Вялікай Айчыннай вайны ваенны карэспандэнт і сведка подзвігу воінаў легендарнай 172-й дывізіі пры абароне Магілёва. К. Сіманаў завяшчаў развеяць ягоны прах над знакамітым Буйніцкім полем.

*1 ліпеня, субота*

[…] Штодзень, штогод адчуваю сябе ўсё самотней і самотней. Блякнуць фарбы жыцця, стома садзіцца на плечы. А навокал — імперскія парадкі. Гіне нацыя душэўна і фізічна. Знікае мова. Змрок. Наведаў Навума — самага разумнага і таленавітага рускамоўнага паэта ў нас і не толькі. Па тэле слухаў самога, па нацпытанню выступаў.

*2 ліпеня, нядзеля*

Амаль цэлы дзень перабіраў паперы і газеты. «Гэта было партызанскай зімой»[1].

*3 ліпеня, панядзелак*

Прыходзіла Ланачка. Чакае маленькае кугíкала. […]

*4 ліпеня, аўторак*

На працы. З Радзікам пісалі адносіну наконт рахунку для Шклярэўскага. На званках амаль дзень. Штораз туманней, куды звяртацца. А Шклярэўскаму патрэбны рахунак.

*5 ліпеня, серада*

Каля 4-х ночы званок. Ілонка. Хутчэй да яе. На «Хуткай» у 4-ю клініку. Праз 5 хвілін — унучачка[2]! 2,8 кг. Я цяпер афіцыйны дзед. Пад вечар з Радзікам ездзілі. Праз вакно паказала дачка дачку сваю. Нешта ад вечнай мадонны ў Ілоны-вароны. Нейкі іншы душэўны стан. Адчуўся ход. Хачу пераемнасці.

*6 ліпеня, чацвер*

Да Васіля, падпісаць ліст. Хворы, стомлены, але рашучы. З Нікалаем Як. Пасяджэнне сойма БНФ у Доме кіно. *З. Пазняк:* «Паважаныя дэпутаты». Арганізацыйныя пытанні. Рэкамендуюцца ў Праўленне: Вячорка, Івашкевіч[3], Жыбуль, Марачкін[4] і т. д. Сакратары: Вячорка, Івашкевіч, Жыбуль, Марачкін. Данута[5] сядзіць — уся местачковасць і засцянковасць. […]

---

[1] Гл.: Запозненая падзяка Гутэнбергу (5.03.91, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 114.

[2] Кліміна Дамініка Канстанцінаўна (н. 1989).

[3] Івашкевіч Віктар Антонавіч (1959–2013), беларускі журналіст, палітычны дзеяч, адзін з заснавальнікаў БНФ.

[4] Марачкін Аляксей Анатольевіч (н. 1940), беларускі мастак, педагог. З 1975 г. з перапынкамі выкладчык, у 1990–1996 гг. заг. кафедры Беларускай акадэміі мастацтва (БАМ).

[5] Бічэль Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса, празаік. У 1982–1995 гг. ст. навуковы супрацоўнік, заг. літаратурнага аддзела (Музея М. Багдановіча) Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

*7 ліпеня, пятніца*

[…] Да Ілонкі. […] У «цалёвачку» купілі маленькай пасаг.

*8 ліпеня, субота*

Выйшаў «ЛіМ». Далі ўсечанае і добра падрэдагаванае вітанне з’езду БНФ. Вось табе і галоснасць, але ў рамках Галоўліта.

Цікавае гэта адчуванне сябе дзедам. Яшчэ да канца не ўсвядоміўшы, хвалюемся, турбуемся, мітусімся і не ведаем, куды сябе падзець. А змена табе ўжо ідзець.

* * *

*Валі*[1]

Пі мёд жыцця,
Бядзе пакінь гаркоту,
Хоць мёду ў сотах побыту не шмат.
Пакуль ладдзя маўчання мае квоту,
Сягай душой за сонны далягляд.
Адчуй на міг сябе ў тлумлівым свеце
Жаданай госцяй, сеўшы на куце.
Хай дзён тваіх у бога на прыкмеце
Зялёна дрэва радасці расце!

*9 ліпеня, нядзеля*

Сёння 50 Валі. Нічога не робім. […] Можа, сёння возьмем Ланачку і ўнучачку з раддома.

Не аддалі. Ілоначка не зусім здарова.

*10 ліпеня, панядзелак*

На працу. Сустрэча з Карласам. Ён едзе ў Пінск здаваць бацькаву хату. Бацька тут, у Мінску. Параіў яму ў якасці самай трывалай валюты ў раёнах — узяць гарэлкі.

Нарэшце забралі маленькую ўнучачку з раддома. Унікальная гэта з’ява — жыццё, яго паўтарэнне, яго працяг у асабліва блізкіх табе крэўных істотах. Смяецца, смокча губкамі, плача. Нават, здаецца, першыя слёзы на вочках. Хай іх меней будзе ў жыцці!

---

[1] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), беларускі філолаг; жонка. У 1967–1994 гг. ст. рэдактар выд-ва «БелЭ».

*11 ліпеня, аўторак*

Нарэшце з'ездзіў на ўчастак. Ціха. Парна. Ноччу тут ішоў дождж, казаў Асіпенка[1], ціхі-ціхі і роўны. Зайшоў да Тáраса. Чарговы адказ у «Литгазету» наконт Шалянковай напісаў. У альтанцы квадратовы Вялюгін[2] сядзіць.

*12 ліпеня, серада*

Тыражная камісія. Цiснуць, каб меней кніг было па-беларуску. Родная партыя і яшчэ раднейшы ўрад вырашылі: плачце бабрамі па роднай мове, а мы захаваем усё, як было.

*13 ліпеня, чацвер*

Казько паказаць афармленне. Наконт Радзіка, дзе зборнік? [...]

*14 ліпеня, пятніца*

На *Ушачу.* Толькі на месца і становіцца душа ў роднай мясцінцы, у родным мястэчку, у родным местачку, мейсцечку. Ніхто нікуды не ляціць, не капыціць, спакойна нясець ваду ў сýдах, коцяць калясачку з унукам. Да нахабнасці з цікавасцю разглядаюць кожнага новага, кожнага прыезджага, наезджага, заезджага. Як быццам і адарваліся ад вёскі, але свой гародчык, свае соткі па-сялянску цупка трымаюць іх, бо кормяць надзейней, чым крама.

*15 ліпеня, субота*

Адыходжу ад тлуму, баючыся расплíхаць тую ціхую радасць наезду ў Вушачу.

Неяк смешна, што пры жыцці не маглі падзяліць ці славу, ці ўладу два генералы КДБ — Зэйдэль-Вольскі[3] Віталь і Максім Лужанін[4] (Каратай — чорны жарабец, кэдэбісцкая мянушка Беразняк). [...] Неяк трапілася мне пісанне Максіма Лужаніна:

---

[1] Асіпенка Алесь (Аляксандр Харытонавіч; 1919–1994), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1981).

[2] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

[3] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

[4] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1965).

Ну, няхай сабе піць і есці
Вам давалі з савецкіх рук.
Як жа смелі вы здрадай і месцю
Сватаць кайзеру Беларусь?!

*«Беларускім нацдэмам», 1930*

Учора ехалі праз некалькі ліўняў.
*Твар неба перасмыкнуўся Нервоваю бліскавіцай.*

*16 ліпеня, нядзеля*

Увесь дзень крукам
Над Пастарнакам,
Аддаўся мукам,
Але са смакам.

*17 ліпеня, панядзелак*

З Вадзімам Браніслававічам [Спрынчанам] здымалі пытанні па перакладах Пушкіна. У Навума. 40 дзён, як памерла Анна Навумаўна. Здаецца, яшчэ ўчора сядзела ў сваім крэсле, частавала, прымала.

*18 ліпеня, аўторак*

Сёння дзень нараджэння Ланы[1]. Узяць у Любы[2] трохтомнік «Святы...».

*19 ліпеня, серада*

Лісце зялёнае, зыркія гронкі,
Восень, багатая на цеплыню[3].

*20 ліпеня, чацвер*

Паседжанне сойма. Вядзе Пазняк. Стварэнне камісіі па выбарах у Саветы. «Філосаф»[4].

---

[1] Гл.: Ілоне на пятае ліпеня (18.07.89) // Міласэрнасць плахі. С. 146.
[2] Магчыма, Турбіна Любоў Мікалаеўна (н. 1942), руская паэтэса, перакладчыца. У 1984–2000 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Кандыдат біялагічных навук (1971).
[3] Гл.: Асіметрычнае (19.07.89) // Міласэрнасць плахі. С. 141.
[4] Гл.: Філосаф (20.07.89) // Міласэрнасць плахі. С. 129.

*21 ліпеня, пятніца*

Прыехаў Фелікс Бахчынян[1]. Трэба ехаць на Ушаччыну. Тэл. 39–16–43. «Два»[2]. У гасцях у Радзіка Лапушына. Рэдкі чалавек і паэт. Такіх маладых у наш век няма.

* * *

На маіх вачах стагоддзе знікла
З рэкамі, у якіх было купацца можна,
З лесам, у якім збіраць грыбы
Льга было і есці ўсё лясное —
Ягады, касцянкі і арэхі лушчыць.
Пад жажджом стаяць, казалі,
Каб падрасці малому.
На маіх вачах стагоддзе знікла,
У якім яшчэ хацелі людзі
Чуць і бачыць,
Слухаць, спачуваць,
Пры нагодзе светла весяліцца,
У бядзе апошнім падзяліцца.
На маіх вачах стагоддзе знікла,
Добрае, старое.
Памянем яго![3]

*22 ліпеня, субота*

* * *

А селянін, вядома, мае зуб
На гараджаніна,
Што на асфальце
Пячэцца, смажыцца
І хваліць суп
З палоніка нуды —
Сварлівай свацці.

Лягчэй развесяліць,
Чым рассяліць
Двух з аднапакаёвае кватэры.
Адзін звыкаецца гуркі саліць,
Другі хваліць і хлеб, і вечар шэры.

---

[1] Бахчынян Фелікс Бардугімеосавіч (н. 1950), армянскі паэт, перакладчык, літаратуразнавец.
[2] Гл.: Два (21.07.89) // Міласэрнасць плахі. С. 26.
[3] Гл.: Памінаю (5.08.89) // Тамсама. С. 112.

*23 ліпеня, нядзеля*

Галава, як у міністра — тупая і цяжкая, толькі шапку насіць. «Стоп-кран»[1]. «Надзённы клопат не ля зорных трас…» [у дзённіку].

*24 ліпеня, панядзелак*

На працы з Радзікам. Да Навума. Наведаць Та́раса. Наконт гасцініцы Ліўземніеку[2].

*** За адну АЭС — А. С. Пушкін. 27–16–65 Фларыян[3]. Гатова ўсё катова. Луцэя. Испытание на прочность и на порочность.

*25 ліпеня, аўторак*

З Феліксам. На Ушачу. У аўтобусе: «У *куцяк* стаў вандзэлкі». «Б'е ў галаву мача…» [у дзённіку].

*26 ліпеня, серада*

*[п. Ушачы.* Большасць запісаў за М. Р. Трафімавай ад 26–29 ліпеня ўвайшлі ў «Вушацкі словазбор…»:] ! Я сягоння Пецьку хацела казаць, што сягоння будуць госці: увосні сніла, што парасят заганяла; цэлы дзень парадкавалі хату, наводзілі парадак, які магчыма навесці.

*** Сівагуй, аднаяй, а вось формы бяз'яй няма (геніталіі).

*27 ліпеня, чацвер*

[Марыя Рыгораўна:] Раней пойдзем да Арыны, [пагаворым] то аб Качаны, то аб Дворню, німа з кім пагаварыць; ідуць з работы — трох-трох; выпаркі — рабяты такія зладзеі; цыгань панаехала; на хлебы ў нас ураджай радзіўся.

Іван Сцяпанавіч [Роўба казаў]: 500 га ва Ушацкім раёне (за Кублічамі) і 500 га лесу ў Глыбоцкім раёне — цэлы масіў будзе высечаны. І закладуць пітомнік амерыканскія прадпрымальнікі, каб прадаваць потым лес у Еўропе і нам жа. І без таго высечаны лес Ушаччыны, Віцебшчыны пад тапор, пад сякеру. Знішчаць лёгка. Ад Чарнобыля пакуль ацалеў, дык ад інвалюты не змог.

[1] Гл.: Стоп-кран (23.07.89) // Міласэрнасць плахі. С. 130.

[2] Ліўземніек Віктар (сапр. Ліўзеніек; 1936–2015), латышскі паэт, празаік, перакладчык, крытык.

[3] Няўважны Фларыян Ян (1929–2009), польскі літаратуразнавец, русіст, украініст, перакладчык. Доктар габілітаваны. Прафесар Варшаўскага ўніверсітэта.

*28 ліпеня, пятніца*

Пад самую раніцу на гарышчы сон. Міша Стральцоў[1] жывы. Алена[2], ягоная жонка, нарадзіла дзяўчынку, сасíць яе, а тая ўжо гаворыць. Я хвалю нашых жонак, а Міхасю чытаю двухрадкоўі: «Будуць і поспехі, і тыражы, —Дружа, здароўем сваім даражы». І так мне было добра, што мы з Міхасём, і так мне стала горка і сумна, калі прачнуўся.

*Цэнтр райцэнтра 28 ліпеня 1989 года*

У мутнай калюжыне
купаюцца мурзатыя галубы,
Дробны фраер з жонкай вязуць каляску —
седунок з малым.
Жонка, маладая маці,
трымае ў руцэ японскі маг,
Які на ўсю глотку гарлае, нудзячы ціш.
На ўсім ходу грузавікі нясуцца
ў слупах пылу.
На легкавушцы нехта шукае зацень,
парушаючы правіла руху.
Некалькі дэкласіраваных местачкоўцаў
разважаюць,
Дзе знойдуць узяць у горла.
Ва ўсіх дарослых і палудуркаў адна трывога:
Дзе выпіць, дзе пахмяліцца, дзе здабыць.
І так дзень за днём цэлыя гады цягнуцца,
Усе размовы пра бутэльку —
адну святую, на якую моляцца.
Бедныя вернікі!

*28 ліпеня 1989 — май 1995*

*

Заходзьце,
Не абыходзьце,
Стаю з краю',
Дзёшава аддаю,
З пылу, з жару,
Па пятаку пару.

---

[1] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна).

[2] Стральцова Алена Дзмітрыеўна (н. 1945), фотааператар Дома друку; жонка М. Стральцова.

[Марыя Рыгораўна:] І чомбар у лесе дзікій на ўзмежках, даўней чомбару назбіраюць.

Бегла цераз масток,
Ухапіла кляновы лісток,
Не піла, не ела —
Галадзюшанькая.

Па радыё дэпутатка выступае. Марыя Рыгораўна: «Во язык, мусіць, на кавадле адкавалі, цэлы вечар лапочаць». З Зайчыкам[1] на Ваўчэнскае возера. Пазараслі сцежкі. У алешніку маліннік і ажыннік. На Ваўчэнскім апошні раз мама Ілоне вязала качачак з аеру і пускала на ваду[2].

*29 ліпеня, субота*

[Марыя Рыгораўна:] Узяла скавараду ў рукі, ён — *паджога* гэты — пад руку; не куецца, дык плешчацца.

У мястэчку маім каб чыркнуў дзе верабей, каб засвіргатала ластаўка.

Усё звёў на самоў хвост катэгарычны прагрэс. Здаецца, лісцё і трава з падзялененага эластыка. У мястэчку маім не чуваць ні шчэбету, ні чаркату, хіба зрэдку каркат пачуеш. Толькі яшчэ захаваліся галасы у сасновай чупрыне магільніка, птушкі просяць у сваіх вясковых суседзяў, у нябожчыкаў, абароны ад людской бяздушнасці, ад усёзнішчэння рукі прагрэсу; і штучны таксама местачковец лес.

*30 ліпеня, нядзеля*

Да Ілоны. Да Навума.

*31 ліпеня, панядзелак*

На працу. Да Ладуценкі[3]. Сустрэча з Віктарам Ліўземніекам. Да Юзафа Пучынскага[4]. Цікавыя эцюды з мокрымі дахамі. Аж, здаецца, дах зараз абтрасецца, як сабака, з рэчкі ці возера вылезшы. Цікава задумана. З рухам. З дэталямі палатно «На Салаўкі!». Хлопчык, як з апраметнай, трымаючыся за плот, глядзіць, як мінулае ў будучыню. Толькі галава. Спалохаздзіўленыя вочы, і далоні, што ўчапіліся ў жардзіну плоту.

Званіў Васілю Быкаву. Заўтра а 12-й у выдавецтве.

---

[1] Зайчык, Заяц, Зая — хатняя мянушка жонкі.

[2] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971). Гл.: «З Ваўчэнскім возерам апошні раз...» ([10.89, Ніда]) // Міласэрнасць плахі. С. 50; Планета Матуль ([1990]) // Тамсама. С. 48.

[3] Ладуценка Мікалай Дзмітрыевіч, гал. урач паліклінікі СП БССР.

[4] Пучынскі Юзеф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак.

*1 жніўня, аўторак*

Па ліўню да Быкава. Занёс яму карты з нашымі мясцінамі. Як школьнік пасляваенны кніжцы ўзрадаваўся. Доўга пачаў разглядаць і ажываць душой.

*2 жніўня, серада*

На працы СПК. Да Навума, каб пераклаў.

*3 жніўня, чацвер*

Ранішні званок Шкляры, СП СССР дае сто тысяч Гомельскай і Магілёўскай абласцям.

Сойм БНФ [«Пакт Молатава — Рыбентропа і яго вынікі для Беларусі».] Даклад *Грыцкевіча*[1] (Анатоль Пятровіч). Усе дамовы 30-х гадоў працягваліся да 31 снежня 1945 г. (так спадабалася дата Сталіну). Луі Барту[2] прапанаваў Усходні пакт, каб звязаць рукі Гітлеру[3]. Мюнхенскае пагадненне развязала рукі Гітлеру. Чэхаславакія не папрасіла дапамогі ў СССР. Першае сутыкненне з Гітлерам у Іспаніі, «так званае» — любімы выраз Сталіна і нашых сталіністаў, і С[акалова]. Клайпедскі край забралі ў Літвы. Без Польшчы і Прыбалтыйскіх рэспублік трохбаковы пакт, ≈ 42 тыс. афіцэрскага корпусу было знішчана Сталіным. Абвешчанне Польскай Сацыялістычнай Рэспублікі ў 1920 годзе. «Известия» 2 жніўня 1939, заява ТАСС[4]. Перамовы з Германіяй вяліся СССР сакрэтна. Заклік Сталіна аб супрацоўніцтве СССР з усімі краінамі Гітлер зразумеў. Літвінаў[5] заменены Молатавым[6]. Рыбентроп[7]: «На Балтыйскім моры ўсім стане месца — Германіі і СССР». Цягнуліся англа-французскія перамовы. Смялей было нападаць на Польшчу, заручыўшыся дамовай з СССР аб ненападзе. Савецкі арыгінал знішчаны або ў спецсховах. У ноч на 24 жніўня Пратакол пад-

---

[1] Грыцкевіч Анатоль Пятровіч (1929–2015), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. Доктар гістарычных навук (1986). Прафесар (1987). У 1975–2006 гг. заг. кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

[2] Барту Жан-Луі (1862–1934), французскі палітычны і дзяржаўны дзеяч; прэм'ер-міністр Францыі.

[3] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[4] ТАСС — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза.

[5] Літвінаў Максім Максімавіч (сапр. Валлах Макс; 1876–1951), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1930–1939 гг. наркам замежных спраў СССР.

[6] Молатаў Вячаслаў Міхайлавіч (сапр. Скрабін; 1890–1986), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, дыпламат. У 1939–1949 гг. наркам, міністр замежных спраў СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1943).

[7] Рыббентроп Іаахім (1893–1946). У 1938–1945 гг. міністр замежных спраў фашысцкай Германіі. Ваенны злачынец. Пакараны па прыгаворы Міжнароднага ваеннага трыбунала ў Нюрнбергу.

пісаны і адразу стаў вядомы Захаду. Дагавор 23 жніўня 1939 г. і сакрэтны Пратакол да яго развязалі рукі Гітлеру. Аб'ектыўна спрыялі і з ахвярамі ўз'яднання Беларусі і Украіны аб'яднацца ў сваіх межах. «Новая и новейшая история», № 3, 1989. Дэпартавана з Заходняй Украіны і з Заходняй Беларусі 10 % насельніцтва з верасня 1939 г. па чэрвень 1941 г. 28 верасня 1939 г. Дамова аб граніцы і сяброўстве. Люблін немцам, Літва СССР. Перадача Віленскай вобласці Літве. Сталін прапанаваў Прыбалтыйскім дзяржавам [дагавор] аб дапамозе. Адразу Эстонія і Латвія [пагадзіліся], Літва ўпіралася. Тады Літве аддалі Віленскую вобласць.

*Сокалаў-Кубай*[1] пра Вільню. У залежнасці, у склад якой дзяржавы ўваходзіла Літва.

*Юры Хадыка*. Падзел спадчыны Расійскай імперыі.

*З. Пазняк*. «Касцельныя палякі ў Вільні. Змова дэфензівы з ГПУ[2]. Сяляне былі даведзены да адчаю, тавары ў 10 разоў танней, чым у Варшаве. Акаўцы[3] вынішчалі беларускую інтэлігенцы. «За 50 год не будзе ніводнага беларуса», — заявіў міністр. У Савецкай Беларусі генацыд, у Польшчы вынарадаванне. Што лепей — у дзвюх турмах ці ў адной?»

*4 жніўня, пятніца*

Цэлы дзень па гаспадарцы, па закуплі ўсяго, каб брыцца-галіцца ў запас. Сум са мной, як самы верны сябра, толькі зрэдчас пакіне, дазволіць пабыць на самоце і адразу ж спахопліваецца, нібыта я не магу без яго ні быць, ні дыхаць.

*5 жніўня, субота*

Сёння ўнучачцы 1 месяц. Прыходзіў майстра рамантаваць машынку. Расказваў пра аднаго рабочага.

— Ты п'еш?

— Не. Толькі на рабоце, бо дамоў я павінен прыйсці цвярозы.

Таму і нейкую дэталь спартачыў Ізю Якаўлевічу [майстар па друкачках], бо п'яны на працы. Савецкі падыход да працы. У гнілым па нашых ацэнках капіталізме такі стаханавец[4] і дня не папрацаваў бы — выгурылі б.

---

[1] Сокалаў-Кубай Генадзь Генадзьевіч (1942–1998), беларускі мастак, мастацтвазнавец, педагог.

[2] ГПУ = ДПУ, Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (люты — снежань 1922 г.).

[3] Акаўцы — байцы Арміі Краёвай, падпольнай ваеннай арганізацыі, якая дзейнічала ў 1942–1945 гг. на акупаванай фашысцкай Германіяй тэрыторыі Польшчы, Украіны, Беларусі і Літвы. Падпарадкавалася польскаму эміграцыйнаму ўраду ў Лондане.

[4] Стаханавец — удзельнік масавага руху наватараў і перадавікоў вытворчасці ў СССР за павышэнне прадукцыйнасці працы (з 1935). Па імю яго пачынальніка шахцёра А. Г. Стаханава (1905/06–1977);

Вяскоўка ў аўтобусе з добрай мовай распавядае, як участковаму шафёр прывёз сена, выпілі («не бойся, я з міліцыяй зладжу», — участковы суцяшаў), паехалі, участковаму стала душна, замест шыбкі адчыніў дзверцы, вываліўся, і задні колы пераехалі гарляк. Шафёр пад следствам, участковы (такі добры, дакладваў начальству, што ў ягоным участку самагонку не гоняць) у магіле. Пра хлопчыка — «такі панятлівы».

Вечар з Радзіславам Лапушыным. Ёсць жа яшчэ разумныя, тонкія маладыя людзі. Баюся за яго. Дужа сумленны, дужа ранімы.

*6 жніўня, нядзеля*

Схадзілі з Валяй паглядзелі «Апошні імператар», пра Кітай, а як пра нас. Гэта наогул канспект XX стагоддзя.

*7 жніўня, панядзелак*

У касцёле Быкаў аб’яўляе Беларускі цэнтр ПЭН-клуба[1]. 8 квот на савецкую літаратуру. 3 — з давайны Прыбалтыцы. Адна руская, астатнія беларуская, украінская, закаўказская, малдаўская. Ініцыятыўная група па 20 чалавек. Старшыня [прэзідэнт] — Р. Барадулін, віцэ-прэзідэнты А. Разанаў[2] , Ул. Арлоў, сакратар — К. Шэрман.

*8 жніўня, аўторак*

Раніцай іду на працу вуліцай з драўляных дамоў. Адна палова дамоў знесены, і дошкі, і плот каля дамоў насупроць. Іх таксама знясуць, а яны збіраюць ламачча. Пасля таго, як ва Ушачы зрабілі вуліцу гета, многія цягнулі вархопкі яўрэяў. А неўзабаве, у блакаду, ім ўсё не спатрэбілася.

*9 жніўня, серада*

Запіс на радыё ў Васі Макарэвіча[3]. Паход з Радзікам па горадзе. Да чаго ён чароўны, да чаго безабаронны. Аж страшна за яго.

Засеў за машынку перадрукаваць свае вершы. І люблю друкаваць, і не люблю. Але неяк супакойвае і разам з тым нервуе.

---

[1] ПЭН-клуб (P. E. N., скар. ад англ. poets — паэты, essayists — нарысісты, novelists — раманісты). Міжнароднае аб’яднанне пісьменнікаў, заснаванае ў 1921 г. англійскімі пісьменнікамі Дж. Галсуорсі (1867–1933) і К. Э. Даўсон-Скотт (1865–1934). Рэгіянальныя аб’яднанні мянуюцца ПЭН-цэнтрамі.

[2] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; н. 1947), беларускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1990), Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя Н. Арсенневай (2018).

[3] Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч (1939–2017), беларускі паэт, нарысіст. У 1979–2003 гг. спецкарэспандэнт Беларускага радыё. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1994).

*10 жніўня, чацвер*

Сустрэча з Ілонай. Нарэшце унучачцы даюць імя Дамініка. Перадрукоўваю і праўлю пераклады Пастарнака.

*11 жніўня, пятніца*

У выдавецтве. Дадумаўся ўкладальнік Гніламёдаў[1] у 3-м томе анталогіі[2] даваць характарыстыкі жывым. Відаць, Ніл папрасіў. А Зуёнак[3] (паднільнік) чырванее, […] — і так, і сяк. Няйначай самому хочацца, пакуль сакратар, пагрэцца ў казённых эпітэтах.

Пераходзяць вуліцу. Чырвонае святло. Нейкі гусь з кульком семак чорных, тут жа есць, тут жа і плюе, а на пальцы залатая пячатка. Сімвал заможнасці. Семкі — прыналежнасць да *раб*класа.

*12 жніўня, субота*

Цэлы дзень дома за машынкай.

Прыходзіла Лана. Працаваць працаваў, а дачка без кута свайго. Худзенечкая, змучаная.

*13 жніўня, нядзеля*

Безвылазна ў хаце. За машынкай.

*14 жніўня, панядзелак*

Хварэў.

*15 жніўня, аўторак*

Запіс на радыё. Не варочаецца ў мяне язык па-расійску. Ад мамы з бацькам пастаўлена беларускае вымаўленне. Апошняя хваля беларускіх літаратараў, якія гавораць з беларускім акцэнтам (бо думае па-беларуску), моладзі наадварот цяжка па-беларуску. Штучна. А называюць гэта гарадской мовай. Не іхняя віна, бяда агульная.

Да вечара мучала мяне адна графаманка. За ўсю размову хоць жывое слова сказала: «Сівераю я, не замужам». За гэта *сівераю* варта было слухаць 3 гадзіны лухты.

---

[1] Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч (н. 1937), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. У 1976–1998 гг. нам. дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ, з 1977 г. адначасова заг. аддзела. Доктар філалагічных навук (1987), член-карэспандэнт НАНБ (1994). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка (1996).

[2] Анталогія беларускай паэзіі: У 3-х т. 1989–1993.

[3] Зуёнак Васіль Васільевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1982–1989 гг. сакратар, у 1990–1998 гг. старшыня СПБ. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1982).

*16 жніўня, серада*

Партсход на працы. Арлоў разумна выступіў. Па тэле ўсесаюзны КВН (Вярхоўны Савет), білі Эстонію. Адзін літовец з клёкам, — наш Таразевіч[1] двух слоў сам звязаць не можа, усё жыццё пісалі. А Варатнікоў[2] (русский уценённый барин) нават вымаўляе *осѐдлость.*

«Там, дзе сонца шалёна ўцалуе зямлю…» [у дзённіку].

*17 жніўня, чацвер*

Раніцай на радыё пра нацпытанне пастанова. У духу «единой и неделимой» імперыі.

*18 жніўня, пятніца*

Да Ганада. Пераверў на рахунак перасялення з зон Магілёўшчыны і Гомельшчыны 700 руб. Званіў Шкляру. Прыехаў Ліўземніек. Прыехаў Эмін[3].

*19 жніўня, субота*

Учора ў «Сталічным» гастраноме. Касірка. Каля яе са шрамамі фраер. Яна кажа яму, што выкупіла 5 тамоў Караткевіча. Сапраўды народны Уладзімір Сямёнавіч.

З раніцы пазваніць Геворгу [Эміну]. СПІД = сталінскі псеўдаінтэрнацыянальны дурман (дыверсія). Пра Шамякіна[4]: «Бескаляровы чалавек, адно вуха на ЦК настаўлена. Прырода трагічная, а ў Вані вочы адпачываюць. Пасля землятрусу азербайджанцы слалі тэлеграмы: «Жадаем штогод». Эмін давёў да слёз душу «Памяти» Гр. Распуціна[5], калі яго ў роднай Расіі, у ягоным жа горадзе, пабілі […], Эмін сказаў: «У Арменіі нават апошні злачынца, калі б даведаўся, што ахвяра — паэт, пісьменнік, адпусціў бы і папрасіў прабачэння». […]

---

[1] Таразевіч Георгій Станіслававіч (1937–2003), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1985–1989 гг. старшыня ВС БССР, у 1989–1991 гг. старшыня Камісіі па нацыянальных і міжнацыянальных адносінах Савета нацыянальнасцяў ВС СССР. Кандыдат тэхнічных навук (1967).

[2] Варатнікоў Віталій Іванавіч (1926–2012), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1988–1990 гг. старшыня Прэзідыума ВС РСФСР. Герой Сацыялістычнай Працы (1986).

[3] Эмін Геворг (сапр. Мурадзян Карлен Грыгор'евіч; 1919–1998), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951, 1976).

[4] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). У 1980–1992 гг. гал. рэдактар выд-ва «БелЭ імя П. Броўкі». Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[5] Распуцін Валянцін Грыгор'евіч (1937–2015), рускі празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1987).

*20 жніўня, нядзеля*

На ўчастку трохі паліваў дрэвы. Уся сям’я ад малых да старых толькі пра сваё здароўе [дбаюць]. Саюз трутняў.

*21 жніўня, панядзелак*

На працы. З Ілонай. Косця надумаў нарэшце перапісацца на беларуса. Унучцы Дамінічцы, Домначцы хочуць даць падвойнае прозвішча.

Уступ да кнігі Уладзіміра Лісіцына[1] закончыў. Невялічкі. Шмат урыўкаў з ягоных да мяне лістоў.

*22 жніўня, аўторак*

На працы. З Віктарам Ліўземніекам. Задумалі выдаць двухмоўна М. Багдановіча. Нешта ўпіраецца ў нашае *ў.* Набярэм мы. (У латгальцаў, нашых суседзяў блізкіх, таксама *ў* ёсць.)

*23 жніўня, серада*

«Дома-Ніка-Дамініка»[2]. Па радыё слухаў народныя хоры са Смаргоншчыны. Аж заплакаў. Да таго беларуская інтанацыя, беларуская стыхія, якую знішчаюць. «І пры сонцы, і пры зорцы, пры месячыку Цалаваў ты цёмнай ночкай мяне, казачыку».

*24 жніўня, чацвер*

На працы выбары загадчыка [рэдакцыі] паэзіі. Мікола Мятліцкі[3] і Дайнека[4]. Начальства дамовілася, а я ў дурным становішчы. Дырэктар, і Серафім[5], і Галя [Шаранговіч] — добрыя гусі. Групаўшчына дробнага пакрою, навошта было ўцягваць Міколу, хоць і ён не анёл, а дакладней, анёл з пагонамі [...]. У нас дырэктары апаратчыкі, а гэты яшчэ з камсамольска-маладзёжным ухілам. [...] Адзінае карыснае, што на Савеце працоўнага калектыву перавялі перасяленцам Магілёўшчыны і Гомельшчыны — 5 тысяч. А наогул наш савет — піянерская арганізацыя.

---

[1] Лісіцын Уладзімір Сяргеевіч (1944–1973), беларускі паэт. Лісіцын У. Беларусь — мая калыска. Мінск, 1990. Гл.: На радзіме — усё паэзія... (1990) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 82.

[2] Гл.: Дома-Ніка-Дамініка (23.08.89) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. С. 6.

[3] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт. У 1983–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[4] Дайнека Леанід Марцінавіч (н. 1940), беларускі пісьменнік. У 1972–1989 гг. адказны сакратар час. «Маладосць». У 1989–1993 гг. заг. рэдакцыі паэзіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1988), Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

[5] Андраюк Серафім Антонавіч (н. 1933), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1981–1993 гг. гал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук (1966).

*25 жніўня, пятніца*

Званіў Адамовіч, прыехаў, званіў ад Быкава.

*26 жніўня, субота*

Цэлы дзень дома. Кепска з Ілонай. Даб'юць яны мяне.

*27 жніўня, нядзеля*

*Warszawa.* Аўтобусам на экскурсію ў Варшаву. На хвіліна забягаў Фларыян Няўважны. У яго ўжо ўнукі. Жартаваў: «Чаму гэта мы не пажанілі нашых дзяцей?» Па старым месце паход з Драньком. Амаль як у Парыжы, столік, кава, ветлівая паненка з абслугі. Сцены дамоў — пад Варшаву года 13-га. Надпісы з яцямі і цвёрдымі знакамі па-руску, унізе па-польску. Дух старога горада, як дамавік, жыве асабліва ў старамейсцейскім кутку. У Расіі і царскай, і цяперашняй дух горада, гарадскі дамавік — гарадавы (цяпер участковы). Яшчэ духі — дамушнікі, навушнікі-стукачы. Увесь расійскі набор, чым узбагачаецца вялікая руская мова.

*28 жніўня, панядзелак*

Warszawa. Чорны кот (кошка) на страсе дома, які ўцалеў ад вайны. І цяпер а 12-ай ночы можа бачыць кошку. Па дажджовай Варшаве. Вячэра са стрыптызам. Меў рацыю парторг — мярзотнае відовішча.

*29 жніўня, аўторак*

Warszawa. З раніцы па Маршалкоўскай. У крамах чэргі, чэргі ў аптэках, толькі ганор польскі і трымае нацыю. У пераходзе вулічны ансамбль: «Augusta, Augusta, Augusta…» «Мусіш: Завяне цвет» [у дзённіку].

*30 жніўня, серада*

Пасля варшаўскага дажджу ў Мінск. Наш нават зімнейшы. Польшча хоць нейкая Еўропа. А ў нас — непрабудная Азія ў савецкім разуменні гэтага слова. Усё ціснe на душу, на свядомасць, задуха духу.

Узяліся распінаць рэспублікі Прыбалтыкі, а на самой справе тры дзяржавы. Усё мелі да «вызвалення» і, нарэшце, вызвалілі ад усяго — ад дабрабыту, ад волі, ад права быць народам. Пакольқі крадзенае пячэ, паліць кішэні і далоні, зрабілі штучную міграцыю. Насыцілі і перанасыцілі Прыбалтыку расійскім смеццем, брудам, недаробкамі.

*31 жніўня, чацвер*

«Былі ў бацькі тры сыны…» [накід; у дзённіку]. Сустрэча з Ліўземніекам. Заўтра адлятае. 9–10 верасня прыедзе на свята паэзіі ў Вушачу.

*1 верасня, пятніца*

Як пах гэты дзень спелай восенню і крыху прытомленым сонцам у Вушачы! Ён быў чакана-нечаканы. І абноўка з болей чым сціплых грошай мамы. І навыперадкі ў школу! Тут, у горадзе, усё тлумна-будзённа. А яшчэ чэргі і табуны ў магазінах расійскіх галадранцаў ды суседзяў з Украіны. Пазваніў Вальдэмар Калінін[1]. Сустрэліся. Трэба яму кніжку выдаць у арыгінале (па-цыганску) і ў перакладзе на нашу мову. Напаўцыган ведае бліскуча англійскую, свабодна беларуску, рускую і, вядома ж, цыганскую ці цікавіцца ўсім цыганскім. Вось табе і цыганы. А наш Дземянцей[2] двух слоў на трасянцы не звяжа і так званы прэзідэнт так званай рэспублікі. Па дзяржаве і прэзідэнт!

Вагнер[3] бег на Галоўпаштамт (толькі прыехаў з Канады), каб адаслаць партытуру ў Парыж. Расказаў Вальдэмару, як у Польшчы выбіралі цыганскага караля, Яна Квіта. Вальдэмар быў рады. Яго дзядзька едзе ў Амерыку. Перамовы, каб ён на цыганскую пераклаў біблію. «Табе дадзены талент ад Бога, дык і слаў Госпада!» Шмат расказваў якраз пра беларускіх цыганоў. Нашы працавітыя, рускія — гультаі.

*2 верасня, субота*

«Дыктант 30 кастрычніка 1988 года»[4].

*3 верасня, нядзеля*

Правіў уступ да Аўрамчыка[5]. Рабіў урэзку да Пастарнака. На Камароўку. «Пасля Чарнобыльскае навалы…» [накід; верш[6]].

* Калі *небосклон* перакласці як *небасхон.*

*4 верасня, панядзелак*

Праца. З Радзікам. Дадаў ён вершы. І пераклады з Максіма Багдановіча. Параіў мне скараціць верш. Малады розум спрытнейшы.

---

[1] Калінін Вальдэмар Ільіч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Хірасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыганская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі.

[2] Дземянцей Мікалай Іванавіч (н. 1930), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1979–1989 гг. сакратар ЦК КПБ.

[3] Вагнер Генрых Матусавіч (1922–2000), беларускі кампазітар, педагог. У 1962–1995 гг. выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Прафесар (1988). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963). Народны артыст БССР (1988).

[4] Гл.: Дыктант 30 кастрычніка 1988 года» ( 2.09.89) // Міласэрнасць плахі. С. 110.

[5] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; 1920–2017), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

[6] Гл.: Жалоба (3.09.89) // Міласэрнасць плахі. С. 106.

*5 верасня, аўторак*

Лятучка. Гаварыльня. Выдавецтва, дзякуючы і цыкоўскаму гадаванцу Валерыку [Грышановічу], і быкалобаму Серафіму паступова, але наўхільна заплывае га.ном, прытым смярдзючым. Свінні любяць свой смурод.

*6 верасня, серада*

Нарэшце і ў нас на восьмым дзясятку народнай улады (як называюць яе ўпарта) пачалі крышыцца дамы, гарэць лясы, разбівацца самалёты і разам з імі — нашы ідэі.

З Валянцінам Рабкевічам[1] правілі пераклады Пушкіна нашых майстроў нявечнага пяра. Не думаюць, што могуць перакладаць. У тым уся памылка. А пераклады пасляваенныя — з п'янай галавы амаль класікаў. Жах! І цяперашнія яшчэ першыя. Грахоўскі[2] і Сіпакоў нават памеру не могуць вытрымаць, а горла, а пыха — болей чым ва ўсёй рускай класікі залатога часу.

* * *

Калі і прадасі,
Усё адно была ты,
Была маёю і ў мяне была
Закончанай страфой
Нясканчанай балады,
Апошняй чарай
Смутнага стала.

Калі і прадасі,
Табе дадуць не болей
За твой паўтор,
За смешны мой давер,
Чым я, які плаціў
Наіўнасцю і воляй
І першы раз тады,
І зноў цяпер.

Калі і прадасі,
Усё адно калісьці

[1] Рабкевіч Валянцін Іванавіч (1937–1995), беларускі перакладчык, літаратуразнавец. У 1975–1995 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук.

[2] Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002), беларускі паэт, празаік. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Коласа (1992).

Успомніш,
што наіўныя не ўсе
На радасць звабнай хітрасці
перавяліся.
Што ж, выбірай —
Купец тавар нясе!

*7 верасня, чацвер*

На працы. Мітусня. Паперы. З Галяй [Шаранговіч] дамовіліся амаль пэўна на двухмоўнага Пастарнака. Занёс вершы ў «Полымя» і «Маладосць». У калідоры на першым паверсе выдавецтва Сіпачок, чырванеючы, […], партфункцыянер Бутэвіч[1] і Быкалоб [Андраюк]. Як маленькая гайня. Аж хвастамі круцяць.

*8 верасня, пятніца*

Ад'езд на *Ушачу*. У Марыі Рыгораўны.

*9 верасня, субота*

Ушачы. На польскім магільніку знесены тры надмагільныя пліты (1819–1884 г. на адной), у дробныя цуркі разбіты бутэолькі ад аэразолю — прагрэс. Усе магілы парытыя, як кратамі. Касцёл [неразб. 1] разбіраецца. Яшчэ вітражыкі засталіся.

На магільніку. Каля мамы. Як дома, спакойна, і прысутнасць гаспадыні адчуваецца. Дробна-дробна дрыжыць павуцінка. Цыркулі іглінак сасновых хочуць выкругліць круг абмежаваны. «Ссыплецца змрок з латака…»[2]

У Міколы. Яго ўзялі ў абком. Гаспадарнік дзівіцца, што нічога рабіць не трэба. Адпачынак. Прывозяць і прадаюць прадукты. Сталоўка добрая. Так і робяць функцыянераў. Засмоктвае гультайства і адносны дабрабыт.

*10 верасня, нядзеля*

Ушача. […] Аўтобусная станцыя. Аўтобус «Ушачы — Бычкі», да Васіля [Быкава] на радзіму.

*** В[ёска] Бычкі. Адсюль ён пайшоў у свет прыгожага і ў свет страшэннага [1979]. [В. У. Быкава[3]:] «Васіль удаўся па бацьку. Бацька любіў газеты чытаць. Пры цару 4 класы [скончыў], кажную газету прачытае. Любіў гаварыць пра палітыку. Мама была да гаспадаркі, колькі настольнікаў

---

[1] Бутэвіч Анатоль Іванавіч (н. 1948), беларускі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік, перакладчык, публіцыст. У 1987–1990 гг. нам. загадчыка ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ, у 1990–1992 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку.

[2] Гл.: «Ссыплецца змрок з латака…» (9.09.89) // Міласэрнасць плахі. С. 15.

[3] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016) , сястра В. Быкава.

наткала. Спакойная. У бацькі характар стражэйшы, на маму ўспадзець, пакрычыць і атойдзіць [1975]. А радосці было, што вярнуўся браток мой Васілёк. Каб божачка даў здароўя, каб крэпенькі быў [1984]. Васіль не прысядзіцца (хвалюецца).

*11 верасня, панядзелак*

Мінск. На працы. Камсамолец [Грышановіч] даў ініцыятыву — даць 2 зарплаты, а сам на кірмаш. Можа б, там яго купілі.

Дакументальны фільм пра Чурбанава[1] , а аж 3 разы выступаў Дашук[2].

Банапартызм — комплекс недаросткаў. Словы цягне, каб важней.

*12 верасня, аўторак*

На працы з Рабкевічам пекліліся над перакладамі Пушкіна. Паўдня змарнаваў на паседжанні СПК. Наша кошачка — галоўбух[3], ёй па галаве бух ці ў ногі бух, скала. Галоўнае, што, здаецца, удалося перавесці на Гайнаўскі музей 10 тысяч рублей, з-за гэтага варта было засядаць.

*13 верасня, серада*

Не разгінаючы спіны, над Пушкіным. Грачанікаў[4] даперакладаўся, што пячны гаршчок стаў начным.

*14 верасня, чацвер*

На працу заходзіў Быкаў: «Радыенукліды, як блохі, скачуць па Беларусі». У нядзелю ад’язджаем. Васіль намаляваў мне цэлую схему, як ехаць да ягонага гаража. Лявон Дранько просіць паказаць ручку: «Як слоік, закручваецца». (Гэта яшчэ сялянскае ўспрыняцце.)

*15 верасня, пятніца*

З таксістам у Дыягнастычны цэнтр. «Калі рускаму паказваеш тоўстае сала ў сажань: «Што яно, склеена?» — дзівіцца галодны расіянін.

Учора Васіль паехаў аўтобусам. Машына па-сялянску як конь — на пільную патрэбу, дый нервы.

---

[1] Чурбанаў Юрый Міхайлавіч (1936–2013), расійскі генерал-палкоўнік (1981–1988). У 1983–1986 гг. нам. начальніка Галоўнага упраўлення унутраных спраў СССР. У 1987 г. арыштаваны па падазрэнню ў карупцыі, адбыў тэрмін (1989–1993). Зяць А. Брэжнева.

[2] Дашук Віктар Нічыпаравіч (н. 1938), кінарэжысёр, сцэнарыст, пісьменнік. Народны артыст БССР (1989). Заслужаны дзеяч мастацтваў (1977). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[3] Кармызава Паліна Сяргееўна, гал. бухгалтар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Грачанікаў Анатоль Сымонавіч (1938–1991), беларускі паэт, перакладчык. У 1982–1991 гг. гал. рэдактар час. «Маладосць». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

! Як Караткевіч сядзеў у бакоўцы, каб не падпісаць ліста супроць так званых бебурнацаў[1].

*** [Без даты.] Васіль, як у хляве з канём, з машынай, учора прабіў кола, ехаўшы з лецішча.

*16 верасня, субота*

Да Карласа. Да Радзіка. Лапушын [Яфім] расказваў, як адзін сведчыў супроць: «Кожны раз, як я прыходзіў да яго ў госці, ён мне ставіў ікру».

*17 верасня, нядзеля*

На *Ніду!* Раніцай на таксі да Васіля, з ім у гараж — і на курс. Шукалі бензіну ў Смаргоні. Няма. Васіль, відаць, не з той дарогі выехаў на галоўную. Адразу з легкавой малады хлопец, два бамбізы з фургона. Матыпераматы, цягнецца жалезнай рукой пралетарыяту да горла да Васіля. Гегемон у дзеянні. А што рабілася ў 17-м! І ўявіць цяжка.

Ніда! Сходзіў да мора, кінуў 5 троек, каб 5 разоў вярнуцца.

*** «Поўдзень. Даходзім да таліі дня», — С. Вальеха[2].

Алесіку красоўкі 23,5; ланцужок на шыю.

Слухай сюды!; пухá, пýплы, пýпліцца (пра воўну).

*18 верасня, панядзелак*

Nida. У першую ноч прысніўся Міхась Стральцоў. П’яны-п’яны. Твару не разгледзець. Я так расхваляваўся, што ён зноў стаў піць, аж заплакаў і прачнуўся. Чамусьці Ліна Каўрус[3] чытала свае дзіцячыя вершы пра катоў і сабак. П’яны Міхась — гэта ад учарашняга званка. […]

Васіль настолькі ўшацкі, што нават яблыкі ўшацкія з мамінага саду мае як вялікі гасцінец прыняў і з ахвотай кусаў за рулём. Грапштэйн, казаў, у народзе завуць грапштына. За сталом у Нідзе літоўка, якая 3 гады была вегетарыянкай, цяпер, праверыўшы сябе на характар, перайшла зноў на звычайную ежу. Васіль: «Вегетарыянства як сацыялізм, крыху паспрабаваўшы, галоўнае, у час пакінуць».

На беразе заліва. Сабака, які зрэдчас аббрэхвае пахаджан, дзеці гуляюць. Лічылкі. Жмуркі. З першых слоў па-літоўску. На зямлі, дзе колькі вякоў натуральна гучыць гэтая мова, з халадком, з падсветкай знутры, як бурштын, аж здаецца, што яна рудаватая, як і літоўка.

---

[1] Бебурнац — беларускі буржуазны нацыяналіст. Гл.: І коскі з месца не зрушу!.. // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 196.

[2] Вальеха Сесар (1892–1938), перуанскі паэт, публіцыст, драматург. Вальеха С. Чорныя геральды. Мінск, 1993. Пер. Р. Барадуліна.

[3] Каўрус Ліна Іванаўна (н. 1950), беларускі філолаг. У 1986–1994 гг. рэдактар, ст. рэдактар, заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура».

У Васіля глядзеў тэлеперадачу пра арцель Туманава. Адзін сказаў пра вядомую хваробу: па-кітайску гэта — чырвонае вока (зайздрасць). Васіль пайшоў да сябе ў пакой і нешта запісаў.

*19 верасня, аўторак*

З галаўным болем падняўся [...] Перасяліўся ў 22-гі пакой 4-га корпуса. Утульней. Па галаве не ходзяць. Званіў Карласу і Лане. [...] Цікавыя даволі вершы цыганскія ў Вальдэмара Калініна з Віцебска. Некалькі перакладу. Прасіў. Нават верш пра Шагала. Па-цыганску ўбачыў майстра. Мне пажадаў, каб дапамагала зорка шанцавання і мядзведзя. Аж я нейкія радкі пачаў пра гэтае[1].

*20 верасня, серада*

Пасля «Архіпелага ГУЛАГа»[2] праз усю ноч сніліся кэдэбісты. Жах! Ажно праспаў у час снеданне. Усе газеты перадрукоўваюць пашляціну пра Ельцына[3]. Хай ён не мёд, але так нельга. Званіў Карласу, ён сказаў, што газета італьянская — з бульварнай жоўтай прэсы. Дайшлі ў перабудове!

Вечарам выйшаў пад зорнае неба — два зайчыкі паскакалі назад у падлесак.

Пражэктар — паэтычны вятрак — жне неба.

*21 верасня, чацвер*

Яшчэ адна клятва [Сакалова] на хлебным білеце ляснула — Ніла правалілі ў акадэмікі! Прайшоў Лойка[4]. Маці партыя свайго падскрэбіша (Ніл уступіў у славутыя шарэнгі пазнавата, каб рухацца па службе) не можа аблашчыць з ранейшай сілай.

«Вясновы адвячорак»[5].

---

[1] Гл.: Зорка шанцавання і мядзведзя (19.09.89, Ніда) // Міласэрнасць плахі. С. 122. Верш прысвечаны В. Калініну.

[2] Гісторыка-мастацкі твор А. Салжаніцына. *Салжаніцын* Аляксандр Ісаевіч (1918–2008), рускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны (1945–1953). У 1974 г. пазбаўлены савецкага грамадзянства. У 1974–1994 гг. жыў у Швейцарыі і ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1990).

[3] Ельцын Барыс Мікалаевіч (1931–2007), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1990–1991 гг. старшыня ВС РСФСР, у 1991–1999 гг. Прэзідэнт РФ.

[4] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1969). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1990), прэміі імя У. Пічэты (2003). Гл.: Незабыты экспромт (1.05.91, Парыж) // Евангелле ад Мамы. С. 439.

[5] Гл.: Дабранач! (22.09.89, Ніда) // Міласэрнасць плахі. С. 60.

*22 верасня, пятніца*

Сцяжынкай Бложэ[1] да мора. Знайшоў «курынага бога» — Караткевіч называў так каменьчык з дзірачкай. Валодзя казаў, на шчасце. Пазалетась з Бложэ і Плацялісам і жонкай Бложэ, як каты рыбу, лавілі бурштын. Не злавіў сёлета нічога. З Васілём уздоўж заліва. «Для мяне ў ЦК ісці — лепей да дантыста ці аднолькава». Сакалоў: «Для мяне ці педэраст, ці паэт — аднолькава». (Па душах размова.)

*23 верасня, субота*

Званіў Радзіку. «ЛіМ» даў вершы без «Дыктанта 30 кастрычніка 1988 года». Ці Анатоль[2], ці Галоўліт.

*24 верасня, нядзеля*

Спёка пад 20°. Пралётам у вырай лета спынілася на колькі часу. Вечарам цёмным чую лопат за шторай. Фрамуга адчынена. Думаў, начніца. Аж гэта маленькая-маленькая птушачка. На жалезіне па чарзе спрабуе чысціць лапкі. Падае. Праз колькі хвілін — вылятае. Ці душа чыя, ці навіна; добрая ці благая?[3]

*25 верасня, панядзелак*

*Экспромт*

Сум ходзіць след у след, як цень,
А без цябе пражыты дзень
Нікчэмны, марны, нецікавы.
Здаецца, ты даўно была.
А без цябе, што без святла.
Ды помню — валасы, як травы,
Шапталі нешта ў цішыню.
Я ўдзячны вечару і дню,
Дзе віўся смутку дым гаркавы.
Тваю спякоту я таю.
Душу не выстудзіць маю
Далёкі халадок атавы…

Васіль: «Выклікаў у свой час Рудак[4] (нам. КДБ) і пачаў расказваць, як ён у партызанах. Паліцэйскі прозвішчам Быкаў. Зайшлі да яго, ён частуе.

---

[1] Бложэ Вітаўтас Пятрас (н. 1939), латышскі паэт, перакладчык.

[2] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. У 1986–1990 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[3] Гл.: Вестка (24.09.89, Ніда) // Міласэрнасць плахі. С. 124.

[4] Рудак Аркадзь Дзянісавіч (1911 — ?), нам. старшыні КДБ БССР (1960–1971).

«Я (Рудак) выдзернуў парабелум і яму збоку ў скронь — мазгі па ўсёй сцяне». А Васіль яму, як уласаўца прывязалі да гарматы, да тормаза адкату. Недзе ў 1971-м Васіль з Клейнам[1] ідуць цёмным вечарам [Гродна]. Паміж КДБ і хатай Клейна падыходзяць двое (дэмібістаў [?]), адзін пачынае біць Клейна па твары, разбівае акуляры. Другі дае Васілю ў бок. Васіль да яго, а ён з нажом: «Жывот распару, гад». Другі, ссінячыўшы Клейна: «Даруй, сябра». Правакавалі. Колькі вынес Васіль! Адзін ён і пан Бог ведае.

Паглядзеў [к/ф] «Кабарэ». Некалі ў Швецыі глядзеў усляпую, бо тэкст разумеў на працэнт.

*26 верасня, аўторак*

Сазваніўся з Карласам. Трэба было мець адрас і тэлефон М. Тычыны[2]. У Васіля [ глядзеў] праграму «Час». На шыю кааперацыі накінулі пятлю. Цяпер чарга за нацыянальным пытаннем. Васіль не любіць у тэатры відовішча, яму па душы псіхалагізм, драма на малой плошчы, дзе мала актораў.

*27 верасня, серада*

Прыйшла пошта. Радзік даслаў мне «ЛіМ». «Калі цябе няма…»[3] Хадзілі з Васілём на егіпецкі фільм «Яна і д'яблы». Багна і золата. Вечная тэма. Васіль, выходзячы: «Хоць паглядзелі, якія балоты ў Егіпце. У нас жа ўсё паасушылі». Калі парыжскі выдавец (збіраецца выдаць шасцітомнік Васіля па-руску) спытаў, хто б мог аформіць, Васіль назваў Заборава[4]. (Васіль прызнаўся, што Забораў правільна пісаў пра [М.] Савіцкага ў лісце перад ад'ездам. «Я вінаваты крыху перад Заборавым.)

*28 верасня, чацвер*

Па літоўскай праграме ТБ дакументальны фільм пра Літву як дзяржаву. Увесь урад Смеˊтана[5] аб'язджае гарады. Фэст. Фальварковец у кад-

---

[1] Клейн Барыс Самуілавіч (н. 1928), беларускі гісторык, выкладчык. Доктар гістарычных навук (1989). Прафесар (1990). У 1979–1992 гг. выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. У 1974–1979 гг. праследаваўся савецкімі ўладамі. З 1992 г. жыве ў ЗША.

[2] Тычына Міхась (Міхаіл Аляксандравіч; н. 1943), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік, перакладчык. Доктар філалагічных навук (2001). З 1970 г. супрацоўнік, ст. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

[3] Гл.: «Калі цябе няма…» (27.09.89) // Босая зорка. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2001. С. 129.

[4] Забораў Барыс Абрамавіч (н. 1935), беларускі мастак. З 1980 г. жыве ў Францыі.

[5] Сметана Антанас (1874–1944, ЗША), літоўскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, публіцыст; юрыст. Прэзідэнт Літоўскай Рэспублікі (1926–1940).

ры падкручвае вус. Васіль: «Кожны народ павінен жыць сваёй сямейкай, а не па класаваму прызнаку...» «Можа, не трэба было...»[1]

*29 верасня, пятніца*

Дачытваў «Чарнобыльскі сшытак» Гр. Мядзведзева[2] ў «Новом мире». Жахлівыя факты, хоць трохі праўды. Раздражняе графаманская манера гаварыць прыгожа.

*30 верасня, субота*

Сёння Геворгу Эміну 70 год. Даў тэлеграму ад імя свайго і ад Васіля. Васіль даў тэлеграму ў Мінск. Сёння там мусіць быць мітынг па Чарнобылю. Званіў Карласу. Казалі, што міліцыянты рыхтуюцца.

Фільм «Высокі бландзін з белым чаравіком»[3]. Гэты фільм дужа некалі насмяшыў Васіля (па словах Ірыны Міхайлаўны [жонкі]), бо дурная тайная паліцыя — радня нашым быкалобым дэбістам.

* * *

Жыву табой, жыву табой,
Адной табою,
Люблю твой грэх, твой смех,
Твой боль,
Люблю да болю.
Мой дзень, мой кон,
Мой неспакой
Ты ў свеце гэтым.
Пашлюць у пекла за табой —
Пайду з імпэтам.
Каб у сівую даўніну
Быў я Адамам,
Ахвяраваў бы рабрыну
І гэтым самым
Задобрыў Бога
І, відаць,
Падвёў бы рысу,
Прасіў бы мне
Не Еву даць —
. . . . . . . . . . . . . . .

*Верасень, Ніда*

---

[1] Гл.: «Можа, не трэба было...» (28.09.89) // Міласэрнасць плахі. С. 72.
[2] Мядзведзеў Грыгорый Усцінавіч, рускі пісьменнік і публіцыст; інжынер-атамшчык.
[3] Кінакамедыя французскага кінарэжысёра Іва Рабэра (1920–2002) «Высокі бландзін у чорным чаравіку» (1972).

*1 кастрычніка, нядзеля*

Раніцай у Васіля. Чытаю «Хроніку Быхаўца»[1]: « ... і там, у Крэве, на пятую ноч, вялікага князя Кейстута[2] ўдавілі каморнікі вялікага князя Ягайлы, адзін з іх зваўся *Прокша*, які даваў яму ваду, а былі і іншыя: брат Мосцер і Кугук і Лісіца Жыбянцяй. Такі быў канец вялікага князя Кейстута. ... А вось імёны забітых князёў літоўскіх: князь Андрэй Кейстуцевіч Полацкі, брат ягоны князь Дзімітры Бранскі, князь Іван Дзімітравіч *Скіндыр*...» (Ва Ушачах ёсць карэннае прозвішча Шкіндар.) У летапісу ёсць і князь Фёдар Патрыкеевіч Вольскі («арганіст» — з органаў бяспекі — Віталь узяў сабе замест Зэйдэля княскае прозвішча). Ягайла Вітаўту[3] казаў: «Сам ведаю, што старэйшая прыгажэйшая, але ў яе вусікі, а гэта азначае, што яна дзеўка моцная, а я чалавек стары і не маю смеласці на яе спакусіцца».

* * *

*[N.]*

Я забываюся табе сказаць,
Што я табе даўно сказаць збіраўся,
Што я гачу прадоністую гаць,
Якую кожны загаціць стараўся,
Каб выбрацца на тыя паплавы,
Каб выбіцца на тыя пераходы,
Дзе, як у песні, ходзяць журавы
Паразумення, згоды і лагоды.
Ды мой высока ў небе журавель,
Адбілася ад рук мая сініца.
У вырай — аж за трыдзевяць зямель
Імкнецца мой адчай,
Каб ім прысніцца.
І іх, і свой адчай дагнаць хачу,
Ніхто не хоча мне дапамагаць.
Стараюся наўзгадзь
І гаць гачу...

*2 кастрычніка, панядзелак*

Сазваніўся з «Полымем». Усё як быццам нармальна. Дабівае мяне Вальеха.

---

[1] «Хроніка Быхаўца» — найбольш поўны агульнадзяржаўны летапісны звод Вялікага княства Літоўскага (адзіны спіс канц. XVII —пач. XVIII стст.).

[2] Кейстут (? — 1382), князь тракайскі і жэмайцкі. З 1345 г. суправіцель брата, вялікага князя літоўскага Альгерда (1345–1377).

[3] Вітаўт (1350–1430), вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (з 1392).

*3 кастрычніка, аўторак*

Ішоў на пошту. Спыняюць два мужчыны. Гутэн таг, пасля па-руску: «Дзе можна папіць піва?» Адно нямецкае прывітанне адзін ведае і вырашыў, што я літовец. Цікавыя зрухі ў мазгах мігрантаў.

Разважалі з Васілём, што трэба пастановай урада вызначыць адзін горад, які ўвесь час мяняць імёнамі сканалых правадыроў. Лепей, каб такога горада рэальна не існавала. Тады яшчэ стварыць у Маскве новую газету гэтага горада, якая б асвятляла, як ідзе перабудова ў ім, як ён дасягнуў поўнага дабрабыту. Хацелі схадзіць у кіно. Прыйшлі. Нас прыйшло двух. Узбекфільм. Для нас не сталі круціць. У Заходнім Берліне Васіль глядзеў фільм з перакладчыцай удваіх (вялізны кінатэатр).

Па дарозе дамоў [гаварылі]. Зянон ратуе гонар усёй беларускай інтэлігенцыі. Ніл умее гасіць усе выбухі. Выгодны для ЦК. Дзякуючы яму СП яшчэ болей інертны.

*4 кастрычніка, серада*

Снедаем. Ірына Міхайлаўна кажа, што сабачка Рудзька (Rudzi) не есць, што мы ядзім. Васіль: «Сабака ж пастаноў не чытае». Васіль з 4-х гадзін не заснуў. Абалкін[1] (у тон з Ельцыным) вяшчае — «1 год улада, а потым дыктатура, экстрэмізм у сусветных маштабах».

Вечарам праходка. Мы самыя бедныя, беларусы. Няма ў нас нідзе заступнікаў. Калі разваліцца імперыя, Прыбалтыка гатовая да самастойнасці, а ў нас яшчэ конь не валяўся. Баягузы. Успамінае, як у Кублічах першыя трактары сцягвалі крыжы. Пасля ўсё раскралі. З рыз увесь раён пашыў цюбецейкі. Ушацкія мусульмане. З фаліянтаў з царкоўнай вяззю рабілі самалёцікі і пускалі. Адно суцяшае, што нам засталося меншае пражыць. А што будзе з дзецьмі і ўнукамі?

*5 кастрычніка, чацвер*

Крыху па мястэчку з Васілём. Меў намер разам з заходнегерманскім празаікам і драматургам Хіпгартам (шаноўны занятак і крыніца даходу ў яго псіхіятрычная ягоная клініка, літаратура — хобі) напісаць кнігу. Ваявалі на адным участку фронту (там жа і Бёль[2], але ён сімуляваў дыфтэрыю, як казаў Васілю). Два позіркі на адзін і той жа момант на ўсё. Леўчаў[3] даваў Дом творчасці. Але раптоўна памёр нядаўна. Быў толькі на год старэй за Васіля. Магла б быць цікавая кніга.

---

[1] Абалкін Леанід Іванавіч (1930–2011), рускі вучоны-эканаміст, дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН СССР (1987), акадэмік РАН (1991). У 1989–1990 гг. нам. старшыні Савета Міністраў СССР.

[2] Бёлль Генрых (1917–1985), нямецкі пісьменнік, крытык, публіцыст. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1972).

[3] Леўчэў Любамір (н. 1935), балгарскі паэт, празаік.

Вячэра. Рыба. Васіль успамінае, як у Селішчах хадзілі ў касцёл, а перад касцёлам прадавалі дробную смажаную рыбку. Дужа яна тады смачная была! У касцёл не дужа любіў хадзіць, бо бабулькі сачылі, каб усе, хто ўваходзіць, цалавалі распяцце. Васіля ксцілі ў Кублічах. Помніць прычасце — салодкую маленькую лыжачку кагору. Васіль пра яду: «Пра нешта смачнае толькі помніцца да калгасаў. А ў калгасе толькі бульба, і той да новай не хапала. Травяʼнікі ў рот не лезлі».

«Хронікі Быхаўца». «І калі прыйшоў вялікі князь Аляксандр пад Браслаў да ракі Буг, паны літоўскія пачалі ў яго пытацца: «Літасцівы гаспадар наш, куда, твая літасць, ідзеш з намі?» І князь Аляксандр адказаў: «Калі б мае думкі ведала сарочка, якая на мне, я спаліў бы яе».

* * *

*[N.]*

Я не буду хлусіць сабе,
Што пражыць без цябе магу,
Я не буду маніць табе,
Што з табой праганю тугу.

Праўду я сабе не скажу,
Як скажу, што цябе няма,
Я з’іначу ўсё, ўсё скажу,
Як скажу, што любіў дарма.

Што любіў, што люблю дарма
І самоту, і цішыню.
Ты цяпер вырашай сама.
Праўду я кажу ці маню.

*6 кастрычніка, пятніца*

Апавяданне Уладзіміра Зазубрына[1] «Щепка» ў «Нашем современнике». «Большевизм — это временное болезненное явление, припадок бешенства, в который выпало сейчас большинство русского народа… Свобода есть бесстрашие… Чека есть орудие классовой расправы… Если расправы, так, значит, — не суд».

З Васілём праходка. Гісторыя Карпюка[2]. «Арганісты» працуюць штампамі, але надзейнымі.

---

[1] Зазубрын Уладзімір Якаўлевіч (сапр. Зубцоў; 1895–1937), рускі пісьменнік. Рэпрэсаваны.

[2] Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920–1992), беларускі пісьменнік. У 1978–1992 гг. сакратар Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1986). У час вайны — удзельнік падпольнай дыверсійнай групы, быў арыштаваны немцамі і высланы ў лагер; здзейсніў пабег, партызаніў, ваяваў у радах Савецкай арміі. У 1972 г. была распачата і разбіралася

*7 кастрычніка, субота*

Дзень чарговай, брэжнеўскай, Канстытуцыі. Нацыянальныя сцягі і чырвоны там-сям. «Огонёк», «Крокодил» накрываюць, як вечкам, жахамі.

Пазваніў Ілоне. Хворая. [...]. Дождж. Настрой адпаведны. Толькі Вальеха прымушае мяне працай забіваць адчай.

*8 кастрычніка, нядзеля*

Званіў Ілоне. Хварэе. [...] Званіў Радзіку — хоць нейкая радасць ад чалавечага святла. Рата Вальехі, якую ўзяў з сабой сюды, падыходзіць да канца. Як перакладаў, аж ненавідзеў падчас, а цяпер дарагім і родным стаў паэт. Як з братам расстаюся, хоць не надоўга.

З Васілём [паглядзелі] мексіканскі фільм «Лёс баксёра». У Васіля нешчаслівая лічба 11 і 111. У Германіі былі далі 111 нумар, але папрасіў («я чалавек прымхлівы»), каб памянялі. І ўсё роўна 3 дні з тэмпературай. А з поўдня ехалі ў аўтаматычную багажню, і толькі 11-ты нумар быў вольны. Ледзь ад аўтобуса не адсталі. Дапамог нейкі хлопец. А Васіль заўсёды ставіць на адну і тую ж лічбу.

Русапяты падымаюць гвалт, што не маюць свайго ЦК, КДБ і АН. Васіль кажа, што тэлеграму карціць паслаць: забірайце наша ўсё — ЦК, усю КДБ з картатэкай сексотаў і палову акадэміі з боўшамі[1], малашкамі[2], яўменавымі[3]. (Дарэчы, прасіў, каб Васіль спрыяў Яўменаву стаць сакратаром па ідэалогіі, дык ладней на месца [Савелія] Паўлава наш квадратнаморды Таразевіч.)

*9 кастрыніка, панядзелак*

Дазваніўся да Ілоначкі. [...] Паслаў Ілоне сотню.

Васіль збіраецца ў дарогу, троху рэчаў перасылаю ім, бо ён жа на машыне. З Васілём паглядзелі дзве серыі індыйскіх слёз — «Парама». Абавязковы хэпіэнд, «кепіэнд» у Васіля.

Заўтра раньком едзіць (захацелася сказаць па-ўшацку).

---

справа, нібыта ён атрымліваў нейкія грошы ў лагеры і, значыцца, супрацоўнічаў з немцамі. Паўторна да гэтага паклёпу звярнуўся час. «Политический собеседник».

[1] Боўш Віктар Іванавіч (н. 1930), беларускі філосаф і праваавед. Доктар філасофскіх навук (1982). Прафесар (1987). У 1989–1995 гг. нам. дырэктара Інстытута філасофіі і права НАНБ.

[2] Малашка Аляксей Мітрафанавіч (н. 1931), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1973). Прафесар (1975). У 1973–1991 гг. заг. кафедры гісторыі КПСС Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта.

[3] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі філосаф, пісьменнік. У 1982–2002 гг. заг. аддзела навуковай інфармацыі НАНБ. Доктар філасофскіх навук (1977). Прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

*10 кастрычніка, аўторак*

Сабраўся Васіля праводзіць а восьмай. Забег без 25-ці. Памахаў ім рукой услед. І сумна, і няўтульна стала без негаваркога на словы і субяседлівага душой ушацкага Васіля, Уладзіміравага сына.

* * *

*[N.]*

Даймалі мяне маразы,
Няўвагі, знявагі, знямогі,
І снегам вашчыў палазы
Развілак расстайнай дарогі.

Ды ты апаліла мяне,
Як не спапяліла дыханнем,
І снег пакарыўся вясне,
Растаў ён, не стаўшы расстаннем.

Як доля загон свой дажне
І дзень мой кароткі настане,
Яно застанецца ўва мне,
Тваё застанецца дыханне.

*11 кастрычніка, серада*

Ад’ехалі Галіна Карнілава[1] і Сяргей Ларын. Добрая маскоўская пара. Пакінулі мне Рудзі, а калі перакладаць — Рудзьку. І Васіль пра яе клапаціўся, і яны, цяпер мая чарга быць сабачым таткам.

*12 кастрычніка, чацвер*

Тэлеграму Котаву[2]–50. Званіў Васілю, была Ірына Міхайлаўна. Званіў Ілоне. Баліць галава. Настрой як перад канчынай. На нейкім абрыве стаю.

*Толькі*

Ля дзюн іду. Бяжыць перада мной
Сучэначка рудая з імем Рудзі.
Не ў страхі ёй заліў з яго спіной,
Ні выпадковы воўк,
                    а толькі людзі.
І мне не ў страхі лес,
                    страшней браты
Двухногія, двухрукія, якія
Прайшлі ў сваім прагрэсе шлях круты

---

[1] Карнілава Галіна Пятроўна (н. 1928), руская пісьменніца.
[2] Котаў Міхаіл Іосіфавіч, супрацоўнік выд-ва «Мастацкая літаратура».

Да лазера
ад каменя і кія.
Мне страшна за сабаку кожны міг,
Што цвеліцца вясёлым мокрым рэхам.
Мы з ім безабаронныя ўдваіх
І можам бараніцца толькі брэхам.

*13 кастрычніка, пятніца*

Маё любімае чысло прынесла дождж, сум. Званіў Васілю. Пашкоў[1] пайшоў у ЦК. Туды яму і дарога. Выбіваюцца кожны па-свойму, хто ў людзі, хто ў Рудзі!

*14 кастрычніка, субота*

Лепей не абяцаць. Пакутую з перакладамі Рэлеса[2]. Пішу на тэму. Званіў Карласу. Наш камсамолец-дырэктар хоча зрабіць пад уплывам Ніла. І так бы прынялі ў саюз хлопчыка. Комплекс банапартызму. Асабліва калі камсамольская закваска, лепей сказаць закіска, гэта страшнавата. Такія за 70 год дроў наламалі ў маштабах краіны.

Хадзіў да мора па рудаце[3]. Уперадзе, як купіна жаўталісця, Рудзі. Дабіваю чарговую паэму Рэлеса. Хто дапаможа старому яўрэю, які не выракся сваёй мовы?

*15 кастрычніка, нядзеля*

Дазваніўся да Валі. Слёзы. [...] Старасць мяне чакае, калі дажыву, сумная.

*16 кастрычніка, панядзелак*

З Рудзі на мора. Над хаткамі нізка верталёт, і Рудзі брэша на яго якраз так жа, як на варону, аж падскоквае, хоча дастаць.

Званіў у Мінск.

Хадзіў на «Цыганку Азу», фільмы імя Даўжэнкі[4] жах.

---

[1] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст. 1979–1989 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя». З 1989 г. кансультант гуманітарнага аддзела ЦК КПБ. У 1991–1996 гг. нам. гал. рэдактара час. «Тэатральная Беларусь», гал. рэдактар «Цэнтральнай газеты». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

[2] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі і рускі празаік і паэт.

[3] Гл.: «У кастрычніцкае ранне...» (14.10.89, Ніда, на беразе мора) // Міласэрнасць плахі. С. 21.

[4] Даўжэнка Аляксандр Пятровіч (1894–1956), савецкі кінарэжысёр, драматург. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1949), Ленінскай прэміі (1959, пасмяротна).

*17 кастрычніка, аўторак*

Дачытаў «Доктара Жывагу». Гэта паэтычная проза, проза паэта не ў традыцыйным ключы. Які багаты пастарнакаўскі свет. Тут ёсць схаваная палеміка з традыцыйным, савецкім паказам рэвалюцыі і так званых белых. Гэта не шолахаўскія дзяды Шчукары[1]. Цяпер зразумелі, чаму накінуліся тады сталінскія беркуты ад літаратуры.

Цікавыя факты. Палякі скупліваюць у Вільні скрынкамі запалкі і ... пашпарты. Бо па пашпартах можна купіць такі-сякі дэфіцыт.

* * *

*[N.]*

Пакуль жыву, датуль раўную
Цябе,
І буду раўнаваць,
Як сквар хмурынку праліўную,
Як серп густую сенажаць.
Маліцца і адначасова
Такое выдумаць змагчы
Пра любую,
Што нават слова
Назваць адмовіцца ўначы,
Без сведак слова,
Што ніколі
Не чула сораму,
А тут
З табой пайсці гатова ў колле,
Свой болю вынесці прысуд.
Абразы кулю разрыўную
У думках шлю,
Хай пал саб'е.
Кахаю, значыць, раз раўную,
Сябе раўную да цябе,
Цябе раўную да сябе.

*18 кастрычніка, серада*

Дні пачалі цягнуцца, як у ссылцы. Трэба, значыць, дамоў. Глядзеў польскі фільм пра маладых наркаманаў «Я — супроць». Перавёў усё

[1] Дзед Шчукар, герой рамана М. Шолахава «Узнятая цаліна». *Шолахаў* Міхаіл Аляксандравіч (1905–1984), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Ленінскай прэміі (1960), Нобелеўскай прэміі (1965).

ў другую праекцыю. Аж дурна стала. Добра, што «Огонёк» з Нуйкіным[1] прыйшоў. Яшчэ мярзотней стала, у якой імперыі жыву.

* * *

Качан капусты, выпхнуты прыбоем,
Маркотна сірацее, круглатвары,
На ўзмор'і, як дзяцюк з вясковым болем
Пры шуме гарадскім на тратуары.
Адчаем цёмнай прорвы паспытаны,
Але даверліва-зялёны,
Аглушаны, пакорны, апантаны,
Салодкі ў думках,
ды на смак салёны.

*Узмор'е*

*19 кастрычніка, чацвер*

На мора. Балтыка, дзякуй ёй, на развітанне кінула мне кавалачак бурштыну.

Каб слова стала бурштынам
І вечным,
Пагаварыць павінна з дном
І ў прорве шліфавацца.

«Хоць выгляд у кожнай ценькі…» [у дзённіку].

Альгімантасу Бучысу[2] сёння 50. Паклікаў на чай і чарку. Мат-перамат, не столькі п'яны, як хам, хутаранін, засцянковец пад еўрапейца. Аднаго, сказаў, ведае ў Беларусі — Максіма Багдановіча, — геніальны паэт. Вуснамі немаўлят і п'яных ісціна прамаўляе. Дарэчы, сказаў, калі хлусі'ць, дык трэба таленавіта, а пасрэдна не варта.

*20 кастрычніка, пятніца*

Апошнія дні. Купіў Рудзі курыцу ў буфеце. Адломваю крылца. А яна з ходу закопвае на чорны дзень. Хоць ніколі сама не знойдзе. У сабак, як і ў жмундзякоў людзей. Марк Захараў[3] у [час.] «Огоньке»: «Штодзённае думаем — адкуль такое — усеахопная кража і злачыннасць? Гістарычныя

---

[1] Нуйкін Андрэй Аляксандравіч (1931–2017), расійскі крытык, пісьменнік, публіцыст. Кандыдат мастацтвазнаўства (1966).

[2] Бучыс Альгімантас Аніцэтас (н. 1939), літоўскі паэт, празаік, перакладчык, гісторык. Доктар гуманітарных навук (1994).

[3] Захараў Марк Анатольевіч (н. 1933), рускі рэжысёр. Народны артыст СССР (1991). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1977). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Дзяржаўнай прэміі РФ (1992).

прадпасылкі, вядома, былі да Кобы[1], ды ён сумеў лёгка пераабсталяваць магілу ў святочную трыбуну і злучыць дзве несумяшчальныя катэгорыі: уласнае крымінальнае мысленне з пралетарскай ідэалогіяй. Якраз з гэтай пары наша сацыялістычная рэчаіснасць самкнулася з лагерным рэжымам».

*21 кастрычніка, субота*

Ад'ехаць з Ніды, як з таго свету. Ледзь прабіўся ў Клайпеду і цяпер як сабака на вакзалах. Да Мінска ехаць аўтобусам, як да Нью-Йорка ляцець. «Паспець усё зрабіць…»[2]

Яна ў *казёнцы* жыве.

*22 кастрычніка, нядзеля*

*Маладзечна.* Хмыр пад інтэлігента: «Дайце «Знамя юночку».

Дома! Камароўка: чужым салам па чужой спіне.

*23 кастрычніка, панядзелак*

Тэле пра Лучанка[3]. Праца. Да Быкава. Хворы, але едзе ў Парыж. Перадаў яму Шагала. Расказваў пра ФРГ, нашыя содаўцы ў савецкім Берліне хвастом накрыліся. Трэба білет назад (бо адкрыты) забраніраваць, звярнуўся да консула, неахвотна той ўсё зрабіў, але папрасіў выступіць па тэле. І пачаў гаварыць, што павінен Васіль казаць: граніцы ў Еўропе непарушныя. Дарэмна ерапеняцца немцы пра ўз'яднанне. Васіль пачаў: «Я прыехаў у Еўропу з вялікім горам, Чарнобыль — ад яго пятая частка беларусаў пад пагрозай. Ад імя Народнага фронта, ад імя інтэлігенцыі прашу дапамогі і грашыма, і асабліва прыборамі дэзіметрыі». Карэспандэнт падхапіў, ды: «Выходзіць, урад спрабаваў схаваць становішча?» Васіль сказаў, што воляй-няволяй гэта так. Консул быў незадаволены, але машыну даў у час.

*24 кастрычніка, аўторак*

Прыехаў Убайд Раджаб[4]. Да яго.

Прывезлі на час унучачку Домначку. Нейкае новае пачуццё ўсяго агарнае.

---

[1] Коба — партыйная мянушка Сталіна; па імю героя рамана А. Казбегі «Бацьказабойца», які ўзначальваў барацьбу сялян-горцаў за свабоду.

[2] Гл.: Паспець (21.10.89) // Міласэрнасць плахі. С. 145.

[3] Лучанок Ігар Міхайлавіч (н. 1938), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[4] Раджаб Убайд (сапр. Раджабаў Убайдулло; н. 1941), таджыкскі акцёр, паэт. Народны артыст Таджыкістана (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Таджыкістана імя А. Рудакі (1998).

*25 кастрычніка, серада*

Трэба з Убайдам пахадзіць. Сумна.

*26 кастрычніка, чацвер*

На працы паседжанне.

Не змог весці вечар Сыса. Захварэў. Сыс па-свойму зразумеў: не чакаць літасці ад славы, узяць яе — задача. Але слава — карова рагатая, бадзецца і брыкаецца, бо ўраглівая.

*27 кастрычніка, пятніца*

На працы з подпісамі па лініі Савета працоўнага калектыву. Вечарам да Навума. Забораў публікацыі ў «Огоньке» ўспрыняў, як тое ж, што пісалі раней, толькі наадварот.

*28 кастрычніка, субота*

Да Радзіка. Аж маладзею душой з гэтым інтэлігентам, паэтам, ужо маладым і незнаёмым пакаленнем.

*29 кастрычніка, нядзеля*

Страшэнна баляць ногі. На дэманстрацыю на Курапаты ісці не магу. Верш напісаў «Беларусь на крыжы»[1]. Можна было б пачытаць, ды ногі. Сочыць за мной раўніва сама старасць.

*30 кастрычніка, панядзелак*

На працу. Прыехаў Ізяслаў Катляроў[2]. Званіць трэба Васілю Васільевічу Зуёнку, каб нешта з прыёмам у СП паскорыў.

Дабываў 5 Шагалаў.

*31 кастрычніка, аўторак*

Партсход. Шупа падаў заяву пра выхад з партыі. Званіў Васіль. Прыехаў з Парыжа. Аддаў адну кніжку Шагала зямлячцы, другую Сіняўскаму[3], у Сіняўскага жонка[4] з Віцебска, даваенны Віцебск помніць, ведае Пэна[5], Шагала.

---

[1] Гл.: Беларусь на крыжы (28.10.89) // Міласэрнасць плахі. С. 86.

[2] Катляроў Ізяслаў Рыгоравіч (н. 1938), рускі паэт. Супрацоўнік газ. «Светлагорскія навіны» (г. Светлагорск Магілёўскай вобл.).

[3] Сіняўскі Андрэй Данатавіч (псеўд. Абрам Тэрц; 1925–1997), рускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык. Савецкі дысідэнт. Знаходзіўся ў заключэнні (1965–1971). У 1973 эміграваў у Францыю. Прафесар Сарбоны (1973).

[4] Разанава Марыя Васільеўна (н. 1929), рускі літаратар, публіцыст, выдавец.

[5] Пэн Юрый Майсеевіч (Юдаль Мойшавіч; 1854–1937), яўрэйскі мастак, педагог.

*1 лістапада, серада*

Праца. Схадзіў у СП на паседжанне рэдкалегіі «Полымя». Раней, чым трэба.

*2 лістапада, чацвер*

Праца. Далі надбаўкі. Слёзы. Несправядлівасць. Трэба ўцякаць з [Савета] працоўнага калектыву. З асалодай чытаю Нявінскую[1] пра Пастарнака.

*3 лістапада, пятніца*

З Домначкай да ўрача. Слабая, хворая [...].

*4 лістапада, субота*

На працы вечар лірыкі перайшоў у гумар. Няма ўрачыстасцей сталінскіх, як раней. Званіў Васілю. «У вайну падчас хацелася захварэць. А выйшла, што ехалі ў тыл на фармаванне і захварэў. На саломе ў кутку ляжым, у хаце ні вокан, ні дзвярэй, тэмпература. А ўрачы толькі ведаюць рэзаць. Зрабіў намаганне над сабой, дзён 10 праляжаўшы, і да сваіх на батарэю, а то б загнуўся. А ў мірны час аслабла вось».

Вечарам званіў Васілю, і яму ў трубку плакала мая ўнучачка Домначка. Ці ўспомніць калі, каму ў трубку плакала, як вырасце?

*5 лістапада, нядзеля*

З Віцебска Вальдэмар Калінін. Працуе над зборнікам, на дзвюх мовах выдадзім. Цыганы і тыя сваю мову любяць, шануюць, а нашыя віславухі каб што. Робіць слоўнік. Цыганы з ім спрачаюцца наконт кожнага слова, у залежнасці ад рэгіёна свае словы; ад санскрыту захаваны — ісці, даваць, есці і г. д. У літоўскіх, вільнюскіх, напрыклад, літаратурнае, калі можна так сказаць, заўжды.

*6 лістапада, панядзелак*

Дачытаў Вольгу Івінскую «У палоне часу» (гады з Барысам Пастарнакам). Вялікі пісьменнік, і жанчына яго сэрца адпаведна ягонаму таленту. У нас драбната.

*7 лістапада, аўторак*

Нічога не змянілася. Па радыё зноў ура́канне, інтэрв'ю з гегемонамі. Як ахвяраваліся, так і паўзём[2]. Да Яшы [Серпера] ў госці. І за сталом раз-

---

[1] Памылкова, дакладней: Івінская Вольга Усеваладаўна (1912–1995), літаратурны рэдактар, перакладчык, аўтар мемуараў.

[2] Гл.: Як ахвяравалася ([1995]) // Здубавецьця. С. 12.

мова пра перабудову, пра Сталіна, Дзяржынскага[1] і іншую свалату. «Літфункцыянеру»[2].

*8 лістапада, серада*

Сядзеў дома. Хварэў.

*9 лістапада, чацвер*

На працу. Навошта анекдоты пра чукчаў. Калі еду ў тралейбусе, а нейкая Маруся Дуні кажа: «А чаму аб'яўляюць вул. Харужай, а не Веры Харужай?» А Дуня адказвае: «Я даведалася, што Вера — гэта імя і можна аб'яўляць Харужай».

Наша паэзія ва ўмовах *скоц*рэалізму на сталым стойлівым утрыманні. З аднаго боку, усіх стараюцца ўраўняць, акрамя назначаных ЦК кіраўнікоў, а з другога боку (пакуль усім трэба мані, плоцяць, каб толькі не памёр), трымае і змушае ўсіх трымацца за пасаду, за присутствие, і плодзяцца паўпісьменнікі, напаўінтэлігенты. І тады на гэтым падрыхтаваным фоне Гілевічы ходзяць у паэтах, нават у барацьбітах (за крэсла).

Званіў вечарам Васіль. Гілевіч навучыўся ўсё класці ў доўгую скрынку. А ў СП хлебам не кармі, а дай прыняць рэзалюцыю, адрэдагаваць дай яе. А потым гэтую рэзалюцыю кладуць у папачку, завязваюць хвосцікі — і ў стол. А памяць у так званага актыву задужа кароткая.

*10 лістапада, пятніца*

Сёння чарговае сталінска-брэжнеўскае свята мільтошы [Дзень савецкай міліцыі]. Па радыё інтэрв'ю ў міліцыянтаў. Званіў Васілю. Кажу пра фота Ніла ў «Политсобеседнике». Ён: «Варта б недзе павесіць, ну хоць бы ў туалеце». Хацеў павесіць, Валя ў крык: «У туалеце павінна быць нешта прыемнае!» Та́рас назваў яго палітычны летуценнік (для рыфмы — *цэннік*)[3].

* Дыктатура ў лайкавых пальчатках.

*11 лістапада, субота*

*п. Ушачы*. [Марыя Рыгораўна:] Во як было, чу́ды; дзяронікаў спяку, сала ёсь, намакаіць, на бяда́ вам была гэта печка; яны сядзелі лупатыя, з-за печкі торк-торк галовы; каб яе хлях трапіў.

---

[1] Дзяржынскі Фелікс Эдмундавіч (1877–1926), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. займаў пасады старшыні УЧК (АДПУ), наркама ўнутраных спраў, адначасова наркама шляхоў зносін УСНГ СССР. Ураджэнец Беларусі.

[2] Гл.: Савось Авось. Літфункцыянеру (7.11.89) // Дзень паэзіі-90. Мінск, 1990. С. 255.

[3] Гл.: Убурэлы летуценнік ([1990]) // Тамсама. С. 255.

*** Частушка з маленства: «Ах, яблочко — сбоку смалено. Убили Кирова[1], убьют и Сталина».

*12 лістапада, нядзеля*

[Марыя Рыгораўна:] Куды торкнуць, туды паедзіць; там і клеці, і павеці, і ўся балесь; ешце, каб на скавaрадзе злось не аставалася; нада кошцы даць любовага кусочак; яму рубель нада — капейку дакладаць; не ўлавіўшы, не кажы, што злодзя.

*13 лістапада, панядзелак*

Мінск. Праца. Званіў Лукашук[2]. Знайшоў пераклады Таркоўскага[3] вершаў Хадыкі[4]. Дамо ў «Братэрстве». Рыхтуе пра цкаванне Пастарнака. Пытаюся, як Броўка? «Дужа...» — адказвае. Дарагі мой зямляк гэтак стаяў навыцяжку перад усімі заклікамі і пастановамі, што ўжо жывы выпрастаўся, каб роўна ляжаць у вечным ложку. Зарабіў бочку мякіны, як у нас на Ушаччыне кажуць. І не вінаваты сын часу, вылучэнец, актывіст. А пасля пайшлі бляшні ордэнаў.

*14 лістапада, аўторак*

Каля Эўфёлкі [Эйфелевай вежы]. Негры прапануюць драўляных галубоў, запускаюць іх. Крылкамі цяжкімі палапочуць і грузна плюхаюцца на дол[5]. Гэтак і сучасныя, няхай і па-штукарску зробленыя, вершы нашыя. А выбалелыя, класічныя лёгка лунаюць у вяках.

Заходзіў мастак Анатоль Ткачонак[6], бешанковіцкі родам. У майстэрні Паўлоўскага[7] цяпер. Занядбаны, зацёрты рвачамі на ўзор Савіцкіх. Брат ягоны Уладзімір працуе на заводзе, дасканала, лёгка гаворыць па-беларуску. *Плашкі* дроў, *барбуляць* сучасныя мастакі, *удыхнуць* душу. Як дома пабыў, пагаварыў ад душы.

---

[1] Кіраў Сяргей Міронавіч (сапр. Кострыкаў; 1886–1934), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Забіты ў Смольным пры нявысветленых, па сутнасці, абставінах.

[2] Лукашук Аляксандр Міхайлавіч (н. 1955), беларускі журналіст. У 1982–1990 гг. супрацоўнік газ. «Звязда», у 1990–1992 гг. гал. рэдактар выд-ва «Беларусь».

[3] Таркоўскі Арсеній Аляксандравіч (1907–1989), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Каракалпакскай АССР (1967), Дзяржаўнай прэміі ТССР імя Мухтумкулі (1971), Дзяржаўнай прэміі СССР (1989, пасмяротна).

[4] Хадыка Уладзімір Марцінавіч (1905–1940), беларускі паэт, перакладчык. Рэпрэсаваны.

[5] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Драўляны галубок (17.12.92) // Евангелле ад Мамы. С. 253.

[6] Ткачонак Анатоль Аляксеевіч (1922–1994), беларускі мастак.

[7] Паўлоўскі Зянон Станіслававіч (1917–1977), беларускі мастак. Гл.: Зянон Паўлоўскі (2004) // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода. 2004. С. 48.

*15 лістапада, серада*

Зноў паседжанні. На працу хоць не паказвайся. Прыходзіў Віктар Казько. У Нароўлі на ўсю моц будаўніцтва. Заявы на перасяленні. А з галоднай Расіі 50 тыс. заяў на засяленне: «У Беларусі хоць пад'есці можна». Старэйшая сястра, роўная сярод роўных, заўсёды як пабірушка. Па тэле вечарам дакументальныя фільмы пра перадвайну. Прытыцкі[1] — нацгерой зусім нармальна выступае на беларускай мове. А ў свой час пры Мікіце[2], калі ён сакратарыў у Маладзечне, жонка (гісторык са званнем) даказвала, што Маладзечанская вобласць раней прыйдзе ў камунізм, бо лепей за ўсіх паддаецца русіфікацыі (а астатніх будзе чакаць). Пасля ніхто ні слова па-беларуску не чуў ад абмененага нацгероя. У суботу быў ва Ушачы, трансляцыя па радыё ўрачыстага вечара з нагоды ўз'яднання. Ні слова беларускага. Прыйшлі да камунізму. Прысунуліся ўсутыч. Адступаць няма куды — за намі капіталізм, які гніе і пахне.

*16 лістапада, чацвер*

Званіў Пятро з Ушач. Паставілі частку плота. Да зімы як гурбасховішчы будзе.

Думаю ўсё пра Данчыка[3]. Кожнае слова западае ў душу. Гэта не нашыя здэнацыялізаваныя за грошы пяюць грэбліва і фанерна. Ды і ўся сістэма адбору гэтых «талентаў» гнілая, марная.

*17 лістапада, пятніца*

Дазваніўся да Івана Роўбы. Чарапы і косці, што знойдзены на паваротцы на Завячэлле, направа ад Дземенца (вядуць дарогу), пакуль што не кэдэбісцкія расстрэлы. Знайшлі камяні з крыжамі, з выявамі. Мяркуюць, што захаванне XI ст. А пасля Вялікага Кастрычніка калі і будуць знаходзіць захаванні, дык толькі масавыя расстрэлы ў імя ідэі правíднай (не прáвіднай), як туман.

---

[1] Прытыцкі Сяргей Восіпавіч (1913–1971), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. У 1944–1945 гг. начальнік Польскага штаба партызанскага руху. З 1948 г. 1-й сакратар шэрагу абкамаў КПБ, у 1962–1968 гг. сакратар ЦК КПБ.

[2] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1953 г. 1-шы сакратар ЦК КПСС і адначасова ў 1958–1964 гг. старшыня СМ СССР.

[3] Андрусішын Багдан Паўлавіч (н. 1958), беларускі спявак (Данчык), журналіст, грамадскі дзеяч (ЗША). Яго бабуля — Яніна Каханоўская — пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, беларускіх грамадскіх дзеячаў І пал. ХХ ст. Гл.: Данчык (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 230.

*18 лістапада, субота*

Б'юся над Пастарнакам для «Беларусі» № 2. Вечар у Радзіка. Чытаў мне Чэхава[1]. Сапраўды, паэт у прозе.

«Зіма 44-года», «Адказ»[2].

*19 лістапада, нядзеля*

Увесь дзень над Пастарнакам.

*20 лістапада, панядзелак*

Запіс ў «Беларусь» Таісі Бондар[3] Пастарнака. Праца.

[…] Нейкае абыдленне грамадства ідзе, асабліва выражанае ў маладых. І разам з тым ёсць жа Радзік — расінка, прасвечаная інтэлектам.

*** Бэла Ізраілеўна карміла малога Радзіка (будучага паэта і чэхаведа) макароннымі літарамі і прыгаворвала: «Еш смачную азбуку».

*21 лістапада, аўторак*

Першы снег, першыя халады. Пачынаюцца земляныя работы. Уранні гараць агні (гарыць дрэва і паліва), як у фільмах пра Кастрычнік ў Піцеры. Вынікі ўрэшце аднолькавыя.

Учора на вуліцы сустрэў Васіля, нёс у «ЛіМ» артыкул. Сам. А майму землячку Сяргею[4] «ЛіМ» усё носіць, нават зборнікі плануе. Збор твораў Васіля ставілі на 1991 год. Да юбілею будзе 6 тамоў. Ён прапанаваў Лазара[5] на прадмоўцу. Андраюк запярэчыў — павінен нехта наш. Прапанаваў мне і паставіў мяне ў такое становішча, што трэба было адбрыквацца. Пазваніў Быкаву, ён сказаў, што хай хто з крытыкаў. Сышліся на Міхасю Тычыну. І гэтакім чынам у мяне спаў груз з душы.

*22 лістапада, серада*

Выступленне перад ветэранамі Трактарнага [завода]. Сакратар РК без паперкі. Перайшоў пра ўласнасць. «Хто можа купіць завод? Вы не купіце. Могуць купіць пісьменнікі, артысты. Ала Пугачова[6] прыехала —

---

[1] Чэхаў Антон Паўлавіч (1860–1904), рускі празаік і драматург.

[2] Гл.: Успамін з 44-га года; Адказ (18.11.89) // Міласэрнасць плахі. С. 113; 94.

[3] Бондар Таіса Мікалаеўна (1945–2005), беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1985–1991 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Беларусь».

[4] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1986–2002 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992). Гл.: Сяргей Законьнікаў (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 94.

[5] Лазараў Лазар (сапр. Шындэль Лазар Ільіч; 1924–2010), рускі крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1954). Заслужаны работнік культуры РСФСР (1977).

[6] Пугачова Ала Барысаўна (н. 1949), руская эстрадная спявачка, кампазітар, эстрадны рэжысёр. Народная артыстка СССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1995).

40 тысяч. Ратару[1] пахадзіла па сцэне пад фанаграму — 14 тыс. Яны й могуць купіць». Партакратыя нацкоўвае рабклас на інтэлігенцыю.

Мне адна партай[...] пытанне пра [Народны] фронт, пра БНФ, пра Пазняка. Я сказаў, што сам у сойме, а Пазняк — светлая галава. З месцаў, з задніх радоў крыкі: «Враг народа! Страляць трэба». Адзін дзьмухаўчык з пенай кінуўся на мяне і ўсё пра непарадкі і пра парадак пры Ка[мітэце?]. Я параіў страляць, і будзе, як было. Жанчыны падыходзілі, падпісвалі кнігі. Беларускія прозвішчы. Пад канец падышлі два дзядзькі і пытаюць: «Скажыце, вы паездзілі па свеце, дзе б вы хацелі пражыць рэшту год, дома ці ў капіталізме, які гніе?» Адказаў: «Дома, але, каб дома было, як у праклятым капіталізме».

Доўга расказвала мне жанчына — Перагуд Раіса Самуілаўна. Бацьку (прозвішча Дэйч) у 37-м у Трасцянец забралі. Да немцаў быў наш канцлагер. У пакой 12 м заганялі 100 чалавек, паміралі па-савецку — стоячы, бо ўпасці было немагчыма. Кідалі галовы селядцоў, вады не давалі. Пальцы ў дзверы, іголкі [пад пазногці], пад малы ток, а пасля пад кроплю. Маці напісала Сталіну, і яго выпусцілі аднаго, болей нікога не выпусцілі. Спісала сшытак ўздоўж. Маці помніць, як забіралі бацьку, пайшоў у пінжаку і майцы. Пазваніў Лукашуку. Заўтра да яго прыйдзе яна.

*23 лістапада, чацвер*

Па білет на Оршу. На працу. Ніяк не магу адысці ад сустрэчы з ветэранамі. З пенай на губах кідаюцца. Рускія ўвесь час былі старэйшымі братамі, першымі сярод роўных. А тут пасмелі нацыяналы ўсумніцца. Як вялікадзяржаўны шавінізм панаваў — нармальна. Ледзь нешта сказалі — русафобія. Як разумею цяпер, і асваенне цаліны не дзеля пшаніцы рабілася. Трэба было русіфікаваць, раз’яднаць казахаў, каб, барані божа, на сваіх братоў не паглядзелі. Вялікадзяржаўны шавінізм — наймагутнае вучэнне, мацней за марксізм-ленінізм. Любая імперыя можа ўзяць на ўзбраенне. Вечарам быў «Крок» [праграма БТБ]. Выступаў Васіль. Як заўсёды дакладна і шчыра, па-беларуску стрымана.

*24 лістапада, пятніца*

Званю Васілю. Пытанні былі вострыя, наконт БНФ, Пазняка. Але дужа адрэдагавалі, адсартаравалі. Кажу пра паездку дзядзькі Ягора [Лігачова] па Віцебшчыне. Васіль: «Да чаго дажыліся, што Віцебшчына на першым месцы. Нейкія лічбы знайшлі. Гэтак можам даведацца, што мы ўжо ў камунізме жывем, хоць пустыя прылаўкі».

---

[1] Ратару Сафія Міхайлаўна (Ратару-Еўдакіменка; н. 1947), савецкая эстрадная спявачка. Народная артыстка УССР (1976). Народная артыстка МССР (1985). Народная артыстка СССР (1988). Герой Украіны (2002). Народная артыстка РФ (2013).

* *г. Орша.* Хата Караткевіча. Усё па-віцебску. Як дома. Кот Філімон, які яшчэ кацянаткам помніць Уладзіміра, спаў на ложку.

*25 лістапада, субота*

г. Орша. У школе імя У. С. Караткевіча, зала Валодзева. Адкрылі вечар спевакі і танцоры школы. Выступае Наталля Сямёнаўна [Кучкоўская]. На добрай беларускай мове. Мову вярнуў Уладзімір. Школа руская, але вымаўленне наша, віцебскае. І першы клас на беларускай мове не набраўся. «Не хочам, каб невукамі былі». Самыя маленькія спяваюць «Сядзіць камар на лісточку…». Вядучая настаўніца перад пачаткам гладзіць хлопчыка па галоўцы: нібы маленькі Караткевіч завітаў.

Выступае аднакласніца. Хатняе заданне — напісаць п’есу. Адной з лепшай была п’еса Уладзіміра. Шмат што пасля ў «Чорным замку Альшанскім» [адгукнулася]. Перад урокамі палілі печку. Слухалі Валодзю. Андрэй Мельнікаў[1] — гітара, бел-чырвона-белы сцяг, Пагоня. Пяе свае песні, «Агеньчык» (на словы Караткевіча).

Кожная зямля, кожны горад наш, каб застацца ў вяках, нараджаў сваіх сыноў, каб іхнімі вуснамі гаварыць з вякамі, застацца ў вяках. Полацк даў свету Скарыну, Ушаччына — Быкава, Аршаншчына — Караткевіча. Музыкі з Крапівенскай школы. Здорава.

Школа, дзе вучыўся, дзе выкладаў. Над Дняпром, дзе стаяла хата, трэба камень. Валодзя макаў у крыніцу цукар-галаву. Музей у школе. Экскурсаводка на добрай мове. Чытае верш пра Оршу. Вядучыя адна адну змяняюць. Расказваюць біяграфію Уладзіміра. Малая вядзе. Вуліца Караткевіча раней называлася Касманаўцікаў [Касманаўтаў]. «Імя тваё, Валодзя, не сатрэцца ніколі…» [у дзённіку].

*26 лістапада, нядзеля*

А другой ночы дамоў даталалыхаўся ў самым хвасце цягніка. Крыху перакладаў Бердыназара Худайназарава[2]. Хацеў да Тáраса — той прагуляцца пайшоў. Званіў Васілю — ён на «Чарнобыльскім шляху» (не ведаў, бо быў у Оршы).

*27 лістапада, панядзелак*

Артыкул Васіля ў «Правде» і ў «ЛіМе». У «Правде» гэтак паправілі, што быццам і мала, але па зместу многа. Як панос Гілевіча, дык БелТА передрукоўвае. А Васіля не любяць, бо праўду кажа. Запісваўся на пытанні па тэле. Колькі слоў. Заходзіўся Фелікс [Бахчынян], ён быў, выходзіць, у

---

[1] Мельнікаў Андрэй (н. 1965), беларускі бард.

[2] Худайназараў Бердыназар (1927–2001), туркменскі паэт, празаік, драматург. Народны пісьменнік ТССР (1984).

«Ісλачы». Напісаў кнігу з пяці партрэтаў паэтаў. Падбор добры. Галоўнае, што няма Цыбатава.

*28 лістапада, аўторак*

Сустрэча з Феліксам. Паход на падрыхтоўчае аддзяленне [БДУ]. Гэта там, на Бабруйскай. Неяк дзікавата і ніякавата.

На пачатак пленума. Убачыў морду Ніла — і мяне вынесла з залы. Вечарам паведамленне, што ўсё-ткі знялі морду. Званю Васілю, запрашаю ў Дубулты. Кажа: «Ехаць трэба, калі ў галаве ёсць задума. А ў мяне ў галаве вецер гуляе ад левага да правага вуха». «Казку наблізілі да жыцця…»[1] […]

*29 лістапада, серада*

Званок Та́расу, Карласу. Збіраюся ў Бабруйск з Герчыкам[2] па лініі выдавецтва. На вакзале платны туалет. Удзельнікі вайны і г. д. бясплатна. Дала дзяржава абаронцам ільготы! *Бабруйск*. Гасцініца, дзе пад час выбарчай барацьбы жыў сам Чыгрынаў. Сустрэча ў кнігарні. Людзі цікавяцца ўсім. Па дарозе ў гатэль. Змрок. Снег. Перабудаванасць, але адчуваецца, што горад стары, з традыцыямі, хоць і разбураны часам, а дакладней, тымі, хто над усім уладу пяўся мець.

*30 лістапада, чацвер*

*Бабруйск.* Халаднаваты нумар, усё, як у маладыя гады ў тых далёкіх гатэлях, якіх ужо бальшыны няма. У кнігарні. Колькі кніг прадалі. «ФанДОК»[3]. Колькі кабецін. Нікому нічога не трэба. Лесатэхнічны тэхнікум. Дарога на Мінск. «Певень першы раз прапяяў…»[4]

*1 снежня, пятніца*

На працы. Да Навума. Памінала Бярозкіна.

*2 снежня, субота*

У «Огоньке» прачытаў урыўкі з пленума СП Расіі. Чарнасоценшчына, цемрашальства. Як працвітаў вялікадзяржаўны шавінізм, усё было добра. Ледзь нацыі пачалі казаць, што і мы таксама людзі, алярм! Русафобія! Хопіць Расіі — радзімы сланоў. Самая надзейная турма народаў і была, і хоча ёй застацца. […] Дажыла матухна, што нідзе пеўня не ўчуеш,

---

[1] Гл.: Як у казцы (28.11.89) // Міласэрнасць плахі. С. 100.

[2] Герчык Міхаіл Навумавіч (Майсей Беньямінавіч; 1932–2008), рускі і беларускі пісьменнік. У 1972–1992 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] «ФанДОК» — дрэваапрацоўчае прадпрыемства.

[4] Гл.: «Певень першы раз прапяяў…» (30.11.89) // Міласэрнасць плахі. С. 93.

а ўсё роўна яўрэі вінаватыя. Каго будуць вініць, дзе лавіць ведзьмаў, калі яўрэі выедуць за мяжу? Усе малыя народы Поўначы спаілі і з'елі. Не на Поўначы самаеды, а самаеды ў так званым Нечарназем'і.

*4 снежня, панядзелак*

На працы савет. У «Мутным воку» сойм БНФ. У 1919 г. у гэтым будынку [збіралася] Рада БНР. Адкрывае *Пазняк.* Два пытанні. 1. Чарнобыль, 2. Перавыбарчая кампанія (наша платформа). Ліст ад Беларуска-Амерыканскага з'адзіночання, гатовы дапамагчы медыкаментамі і апаратурай толькі на рукі прадстаўнікоў БНФ. Ліст да XIII Сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі. Ю. *Хадыка* ўносіць папраўкі. Эканамічная самастойнасць у нас цяпер дужа цяжка можа адбыцца. Беларусь задужа завязана з іншымі эканамічнымі раёнамі. 2 млн 136 тыс. [га тэрыторыі] засыпана радыяцыяй, зноў кожны чацвёрты.

*5 снежня, аўторак*

Дзень сталінскай Канстытуцыі прайшоў будзённа. На працы. На кінастудыю. Колькі слоў пра Данчыка, і верш, яму прысвечаны[1], прачытаў. Званіў Васіль. Трэба лекі. Абедаў у саюзе. Як Ніла няма, аж смачней мешанка есца. Для цішыні і лагоды і боскай гасподы як ніхто лепей падыходзіць Васіль Васільевіч Зуёнак.

*6 снежня, серада*

Да Васіля. Падарыў мне «Жалейку» купалаўскую, першавыданне. Яму букініст у Заходнім Берліне прапанаваў, калі даведаўся, што ён з Беларусі. Страшна сядзець у Васіля. Крыжуюць, чвартуюць тэлефонныя званкі, званкі ў дзверы. Будуюць яму нарэшце гараж каля хаты. Маладыя савецкія няўмекі, у якіх, як казалі ў Вушачы, рукі ў ср.цы. Нахабныя падонкі, якіх горда клічуць рабклас, гегемончыкі. Хоць разжыўся трохі на Шагала. Трэба шмат каму дарыць.

*7 снежня, чацвер*

Праца. Званіў Вінцук Вячорка. Выступленне ад імя БНФ на курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых класаў і садкоў Міншчыны. Выступалі. Цікавыя пытанні пра ўсё літаральна. Паступова, мабыць, людзі адвыкнуць баяцца. Можа, спадуць замкі з ратоў. Усім бядзіць Чарнобыль, радыяцыя.

---

[1] Гл.: Данчык (3.12.89) // Міласэрнасць плахі. С. 121.

Прэзідыум СП. Прыём. Абмеркаванне планаў выдавецтваў. Лукша[1] хутка па кубатуры морды перагоніць Таразевіча. Ніл па старой звычцы паходжвае з паставай гаспадара. [... Грахоўскі] паблісквае акулярамі, каб інтэлігентным звацца. Брыль[2] хоць гэты раз не паўтараў, што красота спасёт мир.

*8 снежня, пятніца*

Да Васіля. Праспект ягонага Збору твораў. Ірына Міхайлаўна частуе, чым можа, а можа апошнім часам меней і меней. Каўбаску з Парыжа дастала. Каб такая велічыня як Быкаў думаў пра хлеб надзённы, не мог купіць, што хоча, толькі ў лагеры сацыялізму з ягонай калючай зыгарадзю артадаксальных ідэй.

Вечарам да Алы Дзямянаўны[3] на наваселле па вул. Нікіфарава, 17–306.

*9 снежня, субота*

Да Радзіслава. Яму заўтра дзень нараджэння. А сёння — Максім Багдановіч. Чытаў мне свае новыя вершы, зімовую нізку. Чысты гук, узнёсла-канкрэтна акрылена ўсё. Паэт вялікай культуры. Вершы свае ўсе ведае на памяць. І не піша іх адразу на паперу, бо не любіць свайго почырку. Падарыў мне шэсць тамоў слоўніка Сразнеўскага[4]. Шчоды дар. Я на сёмым небе, рады, як хлапчук, якому далі патрымаць за нітачку шар зіхоткі. «Дакторкі»[5].

*10 снежня, нядзеля*

Калядныя маразы пачынаюцца. І я закончыў перакладаць пастарнакаўскую «Калядную зорку». З Зайцам на базар. Людзей — не прабіцца. Баяцца рэформы, баяцца галечы. Стараюцца нешта купіць, у нешта ўкласці грошы.

---

[1] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1980–1998 гг. дырэктар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[2] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982).

[3] Куліш А. Д., ст. рэдактар рэдакцыі збораў твораў і перавыданняў выд-ва «Мастацкая літаратура».

[4] Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам (т. 1–3. 1893–1912). *Сразнеўскі* Ізмаіл Іванавіч (1812–1880), рускі філолаг-славіст, этнограф. Акадэмік Пецярбургскай АН (1851).

[5] Гл.: Дакторкі (9.12.89) // Міласэрнасць плахі. С. 206. Верш прысвечаны доктару ўшацкай бальніцы Тамары Іванаўне Прышавалка, якая лячыла Акуліну Андрэеўну.

Чытае Радзік новыя вершы. Як быццам яны ўжо існавалі, ён іх толькі выклікаў. Бывае — вершы ў паэтаў, як звышгукавыя самалёты ў паветра ўздымаюцца, пыл і гром на аэрадроме. А сапраўдныя вершы, як птушкі. Зірнем на птушку ў паветры, здаецца, яна і намаганняў не мела, а заўсёды ў паветры была. На зямлі яе не ўяўляеш. Так і з класікам, г. зн. з сапраўднымі вершамі.

*11 снежня, панядзелак*

На працы з Радзікам. Ягоны зборнік на 2-ю карэктуру [аддалі]. Дадалі восеньскую нізку.

*12 снежня, аўторак*

Білеты на аўтобус на Ушачу. Загаловак двухмоўнай кніжачкі Пастарнака «Гарэла свечка…» — «Свеча горела…» Гэта серыя. Першы выйшаў Лермантаў[1]. На працы зноў гвалт з зарплатамі. Усім выдавецтвам даюць, нашаму — не, ледзь утрэслі.

Зайца з зубамі да Пятра Ісаевіча[2].

*13 снежня, серада*

Шчаслівая лічба, а галава баліць. Да свайго ўрача Якава Абрамавіча. Вечарам пазванілі наконт кажуха з Чачэна-Інгушэціі з Камароўкі. Заўтра павінен у нас быць Макаловіч[3]. А мне выступаць.

*14 снежня, чацвер*

Выступленне на музфаку педінстытута. Генрых Вагнер іграў. Студэнтка Эма Чэпік сыграла песню на мае словы. Падпісваў кнігі. Цікавае прозвішча Карогвіч (харугва, карогва, латышскае kārogs). Пытанні былі: ці пісаў вершы пра Сталіна, Брэжнева, пра партыю. Людзі маладыя пачынаюць думаць вольна і нова. У выдавецтве быў новы старшыня друку Макаловіч. Нічога вясёлага не сказаў. База дабіта, валюты няма. Валюта бярэ за горла люта.

*15 снежня, пятніца*

*п. Ушача.* Халепа. Усё ў снезе. «Чалавек без звяроў звярэе, Нелюдзее без людзей…» [накід; у дзённіку]. Птушкі, што ў вырай [адляталі], мелі сувязь з замяжой, па анкетных дадзеных пры Сталіне.

---

[1] Лермантаў М. Зорка зорцы голас падае = І звезда с звездою говорит. Мінск, 1989. *Лермантаў* Міхаіл Юр'евіч (1814–1841), рускі паэт і празаік.

[2] Ліфшыц П. І., стаматолаг.

[3] Макаловіч Іван Пятровіч (1940–2017), беларускі журналіст. У 1989–1990 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку. Кандыдат гістарычных навук.

*16 снежня, субота*
[Марыя Рыгораўна:] Авохці мне, баюся; ён галаву зорніў ад веку.

*17 снежня, нядзеля*
[Марыя Рыгораўна:] У дурной птушкі дурная песня.

Ай, умная-разумная дзевачка,
Сама села за сталом,
Пасадзіла калінаньку пад вакном:
— Расці, расці, калінанька, высока,
Пускай, пускай карэннейкі глыбока.
Цвіці, цвіці, калінанька, беленька,
Каб я была гэтай сямейцы міленька.

*

Умная-разумная дзевачка,
Пашла яна на рынак,
Купіла яна кубак мёду,
Свякроўку прывітала,
Работку напаткала.
— Ідзі, мая нявестачка,
У крыніцу па вадзіцу,
У клець па мучыцу,
У сянёх даёначку,
У хлеве каровачку, —
Вот твая работачка.

*

Кругло, мало балоцечка,
Там хадзіла малодачка,
Сеяла расу-красу:
— Расці, мая раса-краса,
І тонкая, і высокая,
І на лісціка шырокая.
Калі буду ў матулькі,
Буду паліваць,
А як пайду к свёкарку,
З каранём цябе вырву
І за тын цябе кіну.
Няхай цябе коні стопчуць,
Няхай цябе свінні стопчуць.
А конікі гарцуючы,
А мальчыкі танцуючы.

А конікі капыткамі,
А мальчыкі сапажкамі.

*

А вы, госцікі,
А вы, любыя,
Просім вас —
Частуйцеся-вяльмуйцеся,
Як вы ў нас.
А ўсухла без нас
Бочачка віна,
Усё длі вас.
А ёсь у нас
Коні на стайні.
Калі ні будзіць,
Конік дабудзіць
Усё длі вас.
Калі ні станіць,
Конік дастаніць
Усё длі вас.

*Цярэшка*

Шэрая зязюлечка
Па саду паляцела.
Далі мне дзядулечку,
Каго я захацела.
Боцікі шаўровыя,
Шубачка бабровая.
Кудры завіваюцца,
Дзеўкі заглядаюцца.

*

Па гарэ дудар ходзіць,
Карагод дзевак водзіць:
— Дзевачкі-пралесачкі,
Не йдзіце ў арэшачкі,
Вас заіц напугаіць,
А вы там заблюдзіце,
Дамоўкі не будзіце.

*

Чаго ж ты туляешся,
За дзевак хаваешся

Ці ты ж мяне чураешся?
А ці я ні пралліка,
А ці я ні ткаліка,
Ці ў цябе штаночкаў няма,
Ці ў цябе кашулечкі няма?
Пасядзі на печы ў кутку,
Пакуль я красёнцы вытку.
Вытку я красёначкі,
Пашыю штанёначкі.
З чырвоным каўнерчыкам —
Буду інжынерчыкам.

*

— У дарожку, мой брацітка, у дарожку,
А набірай злата-серабра ў паможку.
А будзіць табе тры прыгодачкі ў дарозе.
Перва прыгода — сівага каня падкаваць,
А другая прыгода — на дварэ цешчу прывітаць,
А трэцяя прыгода — нада дзевачку выкупляць.
— А не тужы, мая сястрыца, не бядуй,
Сівога каня я падковамі падкую,
А цешчухну зялёным віном напаю,
А дзевачку злотам-серабрам выкуплю[1].

На Мінск!

*18 снежня, панядзелак*

На працу. У «Нёман» — забраць перадрук Васіля. Перадача цягніком Шкляру.

*19 снежня, аўторак*

Для ўсесаюзнага тэле можна ўвесці перадачу «Спокойной ночи, умалиши′!»

*20 снежня, серада*

Заяц падламаў нагу. У траўматалогіі. Жанчына [сказала] слова *маўчака́*.

Да Якава Абрамавіча па лекі.

[1] Запісы, якія не ўвайшлі ў зборнік песень, запісаных паэтам у родных мясцінах; гл.: Барадулін Р. Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю…: Песьні матчыны з Вушаччыны. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2004 (2005).

*21 снежня, чацвер*
Сяджу дома. Занядужаў.

*22 снежня, пятніца*
На вуліцы абліваха. Заканчваю перакладаць Пастарнака. Да Навума.

*23 снежня, субота*
Дождж, як вясной. У магазінах усё хапаюць як перад смерцю. Чытаў Навуму з бояззю свае пераклады Пастарнака. Яму падабаліся. Ёсць заўвагі.

*24 снежня, нядзеля*
Хатні рэжым. Пастарнак.

*25 снежня, панядзелак*
На працу. Да Навума. Яму падабаўся пераклад «Мяцеліцы».

*26 снежня, аўторак*
Праца. Дазваніўся да Васіля. Вечарам да яго трэба.
У Васіля. За дзень перад смерцю Сахарава. Усе ў буфет, усе свае. Ён стаіць адзін. Ніхто не падыходзіць. Васіль падышоў. Напомніў пра сябе. Ён: «Не ваяваў, але мяне гэта тэма заўсёды хвалявала. Жонка была медсястрой». Пра яе здароўе кажа. Васіль: «Шануйце сябе, не згарайце так. Адно тое, што вы ёсць, ужо важна для дэмакратыі ва ўсім свеце». Сахараў: «Іначай не магу. Такі ўжо лёс». Назаўтра рана. Васіль да кіёска. Карэспандэнт «Вашынгтон пост»: «Што Вы скажаце з прычыны смерці Сахарава?» (Лёг спаць, сказаў, што будзе цяжкі дзень. І не прачнуўся.) Для дэпутатаў падагналі 100 новых «Ікарусаў». А ўсе дэлегаты — у гасцініцу, па магазінах. Машын 10 паехала.
Сустрэў Васіль Слюнькова: «Ваш наступнік [Сакалоў] проста ненавідзіць інтэлігенцыю. Вазьміце яго куды-небудзь на павышэнне ў Маскву». Слюнькоў адказаў, што трэба падумаць.

*27 снежня, серада*
Праца. Паседжанні. Прыходзіў Радзік. Артханаў прынёс пераклады вершаў. Папяровыя кветкі, капронавыя. З’яўляюцца і адпаведна словы.

*28 снежня, чацвер*

На Камароўку. Купіў кажух ва Ушачы. Вечар у кафэ «Адпачынак». Сумна. Тужліва. Гады прайшлі. Ізяслава Катлярова завалілі на прыёмнай камісіі — недабраў голаса. Надакучыў наш местачковы антысемітызм!

*29 снежня, пятніца*

У поўным тралейбусе жанчына: «Што гэта людзі едуць, тыле людзей!»

*** «Зямны сэнс: Малюся толькі поўнай місе я…» , «Кожнаму сваё: Чуваць далёка звон…» [1989; у блакноце].

*30 снежня, субота*

На Камароўку. Людзей процьма. Усё хапаюць. Тут адчуваеш, якія лёгкія, нікчэмныя нашыя грошы. Цяпер бы павешаць плакат: «Посторонись, советский рубль идёт!» Сапраўды, усе ўбок сыдуць, як ад нечага нікчэмнага. У крамах, у магазінах усё хапаюць. Паляк з полькай. У іх ужо гальштук каштуе 170 тысяч, хлеб каля 2 тысяч. «Чакайце, і ў вас будзе гэта», — суцяшаюць.

*Наталлі Давыдзенка*
*на «Белой яблони грома»*

Нас пониманья чаша
Не обошла в пути.
За всё, за всё, Наташа,
Спасибо!
И прости!

*Рыгор*

*31 снежня, нядзеля*

*Пімену Панчанку*

Навагодніх віншаванняў словы,
Хай растаюць недаверу ільдзіны.
Пімен Панчанка — заўсёды новы,
Як паэт і чалавек — адзіны.

*Алесю Адамовічу*

Што б конік з хутара ні пілікаў,
Зелянеючы ў нацтраве,
Пакуль у нас ёсць Адамовіч і Быкаў,
Яшчэ Беларусь жыве!

*Лявону Баршчэўскаму*[1]

Гэта свет уцяміў: цемя нацыі —
Віцебская вечная зямля.
Хоць Лявон Баршчэўскі —
Кульмінацыя,
Хай жа будуць людзі і пасля!

* * *

Адвіхурыцца сцюжа,
Спёка з выраю вернецца.
А не хочацца дужа
Жыць душы па інерцыі.
Па інерцыі рання,
Па інерцыі вечара.
Думка росная вяне,
Як ахрап'е, што ў сечыва.
Аж з запалам насеклі,
Ад старання пацеючы.
Усміхаецца здзекліва
Час, заўчасна ніцеючы.

*

Хто ў Крым, хто ў Рым,
А я ў Вушачу,
Вушача мае вушы, каб
Пачуць, калі ў нудзе заплачу,
Зарагачу да хрусту скаб.
Мая Вушача мае сэрца,
Што чуе, як душа мая,
Нібы ад пліскі цень,
Трасецца, дрыжыць…

[1] Баршчэўскі Лявон (Леанід Пятровіч; н. 1958), беларускі перакладчык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1989). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

## 1990

*1 студзеня, панядзелак*

Дзень добры, новы! Званіла Ілона. [...] Гляджу апошнія газеты. Румынія. Не трэба ніякіх вымогаў, не трэба думаць пра бізнес, трэба толькі спавядаць савецка-сталінскую ідэалогію, будаваць утапічнае светлае заўтра, каб нажыць звыш мільярда долараў. А нашыя Кунаевы[1], Брэжневы, Рашыдавы[2], Грамыкі[3]. Хто калі скажа, колькі ў іх мільярдаў, у людзей цёмных, сквапных, ідэолагаў і практыкаў ідыятызму.

*2 студзеня, аўторак*

Дайнеку адзначалі 50-годдзе. На прыпынку таксі разгаварыліся з дзядзькам нейкім (свабодна валодае беларускай мовай): цяпер нават такса ёсць забіць чалавека — 500 рублёў. Азвярэў свет сацыялізму.

*3 студзеня, серада*

З Зайчыкам у бальніцу.

Зборы на *Віцебск.* Сустрэлі Давід[4], Папковіч[5], Вальдэмар з ушацкім цыганом. Нумар такі душны, што ў Каракумах было, пэўна, халаднавата.

*4 студзеня, чацвер*

У Грыгор’ева[6] на прыёме. Абяцаў усё зрабіць з Караткевічам. Наконт Тылец. Пра высрубку ўшацкага лесу сказаў, што нават не чуў. У ЦУМе давяцца за золатам. Тэлезапіс. Са Смаленска Уладзімір Прас-

---

[1] Кунаеў Дзінмухамед Ахмедавіч (1911/12–1993), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН КССР (1952). Герой Сацыялістычнай Працы (1972, 1976). У 1964–1986 гг. 1-шы сакратар ЦК КП Казахстана.

[2] Рашыдаў Шараф Рашыдавіч (1917–1983), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч; узбекскі паэт, празаік, крытык. Герой Сацыялістычнай Працы (1974, 1977). У 1959–1983 гг. г. 1-шы сакратар ЦК КП Узбекістана.

[3] Грамыка Андрэй Андрэевіч (1909–1989), савецкі дзяржаўны дзеяч, дыпламат. Герой Сацыялістычнай працы (1969, 1979). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1982), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984). Ураджэнец Беларусі.

[4] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст. У 1961–1994 гг. супрацоўнік Віцебскага абласнога тэлебачання.

[5] Папковіч Уладзімір Антонавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[6] Грыгор’еў Уладзімір Віктаравіч (1941–2011), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч, дыпламат. У 1986–1991 гг. 1-шы сакратар Віцебскага абкама КПБ.

такоў[1]. Цёпла ўспамінаў Аляксея Пысіна[2]. Пединстытут. Сустрэў Анатоля Емяльянава[3] (пра кнігу фальклору Ушаччыны), сустрэча з выкладчыкамі беларускай мовы.

[Адрас:] г. Витебск, 33 средняя школа. Серова Зинаида Демьяновна. Паслаць матэрыялы, вершы, фота.

*5 студзеня, пятніца*

Памятны знак Петрусю Броўку ў пачатку яго вуліцы. Рабіў мінскі халтуршчык. Нейкія дурацкія яблыкі, нібы Пятрусь быў садаводам. У скульптара Івана Казака[4]. Да выставы рыхтуецца. Памятны знак Караткевічу. Марк Шагал, Маці афганскага нябожчыка. Сялянка. За спіной некалькі калкоў плота. На адным гарлач. Хаваюць, фігуры. Як арабская вязь. Іван Казак — вучань Анікейчыка. Будзе рабіць кампазіцыю памяці настаўніка.

Міхаіл Шмерлінг[5] падараваў фота. Выступленне ў педінстытуце. Продаж «Братэрства». Зайшоў Салтук[6]. Вальдэмар Калінін расчуліў. Прынёс цалафанавую торбу макарону-ражкоў, з-пад малака мех вантробкі (катлеты з печанню), катлеты, палоскі — хрушчыкі і бохан хлеба. Трохі для прыліку ўзяў, рэшту вярнуў.

*6 студзеня, субота*

У Навумчыка[7]. Канкрэтна па Шагалу і па Караткевічу дамаўляліся. Валодзю ў Оршы над Дняпром будзе хата пабудавана там, дзе стаяла. На аўтавакзале *Будзіслова* (назва паселішча). У абутковым магазіне ў парозе пры ўваходзе стаптаная пара пакінута, новая абута. Пайшоў палуднаваць у буфет. Пачаставалі булёнам, які сабе варылі, смажаную бульбу далі. «А то заставайцеся сустракаць Каляды!» Як дома прынялі. Віцебскія ўсё-ткі вышэйшая раса (не за булён і бульбу!), хай іншыя вобласці не дзяруцца, як жаба на крэў.

---

[1] Прастакоў Уладзімір Барысавіч (1926–1992), рускі паэт.
[2] Пысін Аляксей Васільевіч (1920–1981), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1968).
[3] Емяльянаў Анатоль Серафімавіч, аднакашнік; выкладчык беларускай мовы Віцебскага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава. Кандыдат філалагічных навук.
[4] Казак Іван Уладзіміравіч (н. 1959), беларускі скульптар.
[5] Шмерлінг Міхаіл Маркавіч (н. 1946), беларускі фотамастак.
[6] Салтук Алег Уладзіміравіч (1946–2015), беларускі паэт і празаік. У 1980–1999 гг. сакратар Віцебскага абласнога аддзялення СПБ. Лаўрэат прэміі імя У. Караткевіча, прэміі СПБ «Залаты купідон» (2011).
[7] Навумчык Іосіф Адамавіч (н. 1938), сакратар Віцебскага абкама КПБ (1978–1991). Бацька С. Навумчыка.

*7 студзеня, нядзеля*

Дома. Крыху туркмена перакладаў. Чакалі Ілону — не прыйшла.

*8 студзеня, панядзелак*

Праца. Перадрук Пастарнака.

Расказвалі, як [Сакалоў] на тэле [выступаў]. Наконт мовы. «Бабка, якая адзін раз у жыцці піша заяву. Хіба важна, на якой мове? Вось я праз 10 год, вы не ачуліся, праз 10 год напішу заяву на пенсію на беларускай мове». Тады пытаюць:

— Як вы такія зарплаты, партыйцы, сабе ўзялі, калі галеча ў краіне?

— А мы 4 разы адмаўляліся, але зверху настоілі.

— Ну, дык аддайце дзецям.

— А мы так і зробім. Што вы думаеце, у мяне дзяцей няма? У мяне ёсць дзеці.

*9 студзеня, аўторак*

На працы. Гвалт наконт выбараў. Партакратыя размеркавала кусты, дзе іх будуць «выбіраць». [Сакалоў] аж недзе ў Століне. Цыбатаму далі Лагойшчыну, якая гарыць у ягоных вершах. Званіў Васіль Быкаў, каб я выстаўляў сваю кандыдатуру. Падзякаваў: не трэба мне гэтая гульня ў дэмакратыю. Па-першае, не выберуць, а па-другое (калі б у лесе воўк здох), не глядзеўся б я там сярод парт[...] і выскачак. У нас хапае прафесійных крывадушнікаў.

«На тым свеце вугалькамі»[1].

*10 студзеня, серада*

На працы зноў выбары. Званіў Генадзь Бураўкін. Таксама, як і Васіль, раіў падумаць. Дзякуй і яму. А я на сваім застануся. Па-ўшацку: не хаці ты ракаў і не мачы ты — у рыфму...

*Сонца — фасонца.*

*11 студзеня, чацвер*

Тлум на працы.

Праграма «Крок». Зянон Пазняк выступіў, як перад расстрэлам, сказаў усё, што думаў. Малайчына!

*12 студзеня, пятніца*

Зайчыка з ножкай у клініку здымаць гіпс. Да Ваніцкага. Гутарка. Чытаў раздзелы сваёй брашуры.

---

[1] Гл.: На тым свеце вугалькамі (9.01.90) // Міласэрнасць плахі. С. 99.

*13 студзеня, субота*

На Камароўку. Паслаў кнігу Андрэю Вазнясенскаму[1], Бярынскаму, Бурсаву.

Сустракаем Новы год па-старому стылю. Прыехалі малыя з Домначкай. Плача. Аж за душу чапляе яе плач. Нешта роднае, сваё.

* * *

У Бога з кашалька
Пасыпалася дробязь.
Там, дзе гусцей напала —
Бачым Млечны Шлях,
Там, дзе радзей, —
Глыбее зорны коўш,
Ды закацілася далей за ўсіх
Нервова залатоўка,
Паўночнай зоркай стала.
А Богу дробязь пазбіраць
Усё не выпадае,
Па ёй ступае смела,
Каб прыклад нам падаць,
Як трэба не дрыжаць
Над кожнаю капейкай,
Бо зоркі ў небе — толькі пыл,
Падняты ступакамі Бога…

*14 студзеня, нядзеля*

Першы дзень Новага года! [Па старому стылю.]

На Камароўку. Купіў аўчыны на кажух. Рыжыя [аўчыны], і прадавалі беларусы маладыя. Адаму[2] званіў. Яшчэ нам дадуць прыкурыць польскія таварыствы. У Варшаве прадстаўнікоў зямляцтваў сустракалі як нацыянальных герояў, на п’едэстал узводзілі, цалавалі варшаўскія красуні, прымаў Мазавецкі[3].

---

[1] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак; архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Урада РФ (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[2] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі вучоны-філолаг, пісьменнік. У 1981–1991 гг. заг. аддзела беларускай дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, у 1991–1998 гг. дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філалагічных навук (1987). Прафесар (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

[3] Мазавецкі Тадэвуш (1927–2013), польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Юрыст. У 1989–1990 гг. прэм’ер-міністр Польшчы.

*15 студзеня, панядзелак*

Камедыя вылучэння ў кандыдаты на выбары ў Вярхоўны Савет БКП. Арап Дубоўскі[1] прайшоў, нёс на свайго «светлай памяці» шэфа Паўлава. Арлоў дарэмна раскрыўся да канца. З неабдымна-квадратовай мордай Лукша глядзеў, як галасуюць яго супрацоўнікі. Маса — абы хутчэй дамоў — прагаласавала за адкрытае галасаванне. Усім усё да суцэльнай электрыфікацыі.

*16 студзеня, аўторак*

Запісаў на радыё пераклады з Пастарнака. З Валянцінам [Рабкевічам] рэдагавалі двухмоўную кніжыцу.

*17 студзеня, серада*

На кінастудыі старой паглядзеў дакументальныя фільмы Ул. Стральцова[2] (85 год, яшчэ нагой прытопвае ў чачотцы) пра Белавежу (1952 г.) і пра Платонава[3]. Рэтра заўсёды на настальгіі замяшана і на наіве, які кранае.

*18 студзеня, чацвер*

Званіў Быкаў. Ніл выгаварыў: «Ну што, аж у 2-х газетах па мне прайшоўся. І наогул, не табе пра мяне казаць». Абнахабнеў Ніл. […!] На камісіі Вярхоўнага Савета Ніл палка гаварыў пра коскі, кропкі, а пра сутнасць закона прамаўчаў. Быкаў выступіў і ў знак пратэсту выйшаў. У Вярхоўны Савет Сыраегіна нагнала шушары з вуліцы. Пытаюць: «Адкуль?» — «Ад грамадскасці».

*19 студзеня, пятніца*

Дакончылі з Валям рэдагаванне Пастарнака. Дзякуй яму! Ала [Смурага] перадрукавала рукапіс «Заиндевевшая родина» — так назваў зборнік у СП [«Советский писатель», Масква]. Пераслаў Радзікам.

*20 студзеня, субота*

На Камароўку. Дома рабіў Бердыназара [Худайназарава].

---

[1] Дубоўскі Валерый Леанідавіч (н. 1948), беларускі паэт, выдавец. У 1987–1989 гг. інструктар ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ, у 1989–1993 гг. дырэктар выд-ва «Беларусь.

[2] Стральцоў Уладзімір Міхайлавіч (1905–2001), беларускі кінарэжысёр, журналіст.

[3] Платонаў Уладзімір Пятровіч (н. 1939), беларускі і рускі матэматык. Доктар фізіка-матэматычных навук (1967, член-карэспандэнт (1969), акадэмік АН БССР (1972), акадэмік АН СССР (1987). Прафесар (1968). У 1977–1992 гг. дырэктар Інстытута матэматыкі, адначасова (з 1987) прэзідэнт НАНБ. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1982). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Ленінскай прэміі (1978), прэміі Гумбальдта (1993). З 1992 г. у ЗША, Канадзе, з 2003 г. у Беларусі, Расіі.

*21 студзеня, нядзеля*

На Камароўку. Дзядзька прадае гармонік. Яму туруе ў талерку з шаргункамі. Маладзіца дае 80 рублёў. Дзядзька згаджаецца. Але дзе гарманіст? Гавораць, за гарманіста трэба даражэй. У бабкі купіў два кавалкі старога сала. Каб не стаяла. Аж разгубілася, як даў ёй 4 рублі. І 4 рублі кг агуркоў. Вагі цэн!

*22 студзеня, панядзелак*

Хлопец з гістфака. Успомніў, як Юля Жадан — Бураўкінава жонка вітала Хрушчова ад моладзі. І ён паляпаў яе па азадачку. Ён напомніў гэта Бураўкіну і сказаў, ці напісаў ён пра гэта? Святая наіўнасць!

Званіў Лукашук наконт перакладаў Пастарнака. У нас у Ленінцы[1] будзе вечар Барыса Леанідавіча. Тэлеграма ад Вазнясенскага ехаць на юбілей. Не выпадае, еду ў Дубулты.

* * *

Срэбра пашаны, абразы медзь
І дамавіны адкрытасць
Дапамагаюць адно зразумець
Родныя лютасць і літасць.
Лютасць мілосці, лютасць агню,
Лютасць глухога адчаю.
Літасць, прагнаўшы злосці гайню,
Ласкай душу выручае.
Літасць вядзе сляды напрасткі,
Лютасць кладзе ўсё мітусь на мітусь.
Гэтак і ходзяць яны праз вякі,
Лютасць уперад,
За лютасцю — літасць[2].

*23 студзеня, аўторак*

Да Ваніцкага. Яго вылучылі ў дэпутаты. Раіўся, як лепей зрабіць. Настаў час, хоць, відаць, нядоўгі, калі знікла ўпэўненасць у шмат каго. Хоць часова, але ўсё ж прыемна. Выступаць перад украінцамі прыйшлося ў «Светачы» [кнігарні].

*24 студзеня, серада*

*г. Полацк.* З Ул. Арловым. *Наваполацк*, выступіў на курсах беларускай мовы і культуры. Вячэра ў Валодзі дома.

---

[1] Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна.
[2] Гл.: Спрыяюць (25.02.94) // Евангелле ад Мамы. С. 445.

*Сяржук Сокалаў-Воюш*

* * *

Бацькоўскім клопатам расчулены,
Як піяніст у дзве рукі,
Самому Дзядзьку Барадуліну
Складаю гэтыя радкі.
Асадка з пальцаў вырываецца —
Сугуччы рыфмаў акрыліць,
У караваі караваяцца,
Каб нашы землі азямліць,
Каб з вешчым голасам зязюліным
Ісці, гарэць і ўваскрасаць.
Каб лепш за Дзядзьку Барадуліна
Хоць калі-небудзь напісаць[1].

*24 студзеня 1990, Наваполацк*

*25 студзеня, чацвер*

Мінск. Пра скарачэнне апарата:

* * *

Дзед, аглухшы ад лозунгаў і ад парад,
Добра ісціну помніць з часоў манапалькі:
— Скарачаць скарачайце сабе апарат,
Змеявік не чапайце толькі.

Васіль Быкаў неяк званіў, падабаліся вершы: «Як нектар п’ю. Некалі чалавецтва, прынамсі, беларускае чалавецтва, ацэніць».

*** На Быкаве столькі трымаецца ў нас, пачынаючы ад імя Беларусі, канчаючы яе сумленнем, інтэлектам.

*26 студзеня, пятніца*

Урэзку ў «Нёман». На Камвольны [камбінат]. Стаяла пытанне адкрыць курылку для дзяўчат. Партай [...] абуралася, калі на выбарах кандыдатаў у дэпутаты зала ў Серабранцы абсвістала партыйцаў і «старэйшага брата». Прачынаюцца браткі-беларусы! Рабская праца на камбінаце, і ў асноўным жанчыны тут. Гутарыў з работніцамі, большасць за бе-

---

[1] Надпіс на кнізе С. Сокалава-Воюша «Кроў на сумётах» (1989). *Сокалаў-Воюш* Сяржук (сапр. Сокалаў Сяргей Анатольевіч; н. 1957), беларускі паэт, перакладчык, бард. У 1988–1990 гг. заг. літаратурнай часткі лялечнай групы Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа. З 1991 г. у эміграцыі ў ЗША.

ларускую мову. Вечарам па тэле кавалак сесіі. Закон пра мовы. Тэрарыум. Вар'ятня.

*27 студзеня, субота*

На Камароўку. Дзядзька з-пад Маладзечна прадае яблыкі. «Антонаўка?» — «Гэта, запомні, камяне́чка — антон (чорная пятка)». Жылі да вайны і нейкі час пасля вайны хоць бедна, але ўсе местачкоўцы як адна сям'я са сваімі сваркамі і звадамі. Але жылі. Цяпер і мае местачкоўцы, і мінчукі некуды бягуць, нешта хапаюць, як сабакі.

*28 студзеня, нядзеля*

Дабіваў пераклады Бердыназара. Да Радзіка. Усё-ткі ў нас антысемітызм робіць сваю справу. У заўсёдным страху трымаюць людзей. А тут выбары. «Вайна пасярод га.на», — казала мама.

*29 студзеня, панядзелак*

Наконт Дома кіно[1], каб [правесці] паседжанне ПЭН-клуба. «І свая прыгажосць у смаўжа...»[2] [накід].

*30 студзеня, аўторак*

У касцёле паседжанне ПЭН-клуба. Зацвердзілі статут, абралі выканкам, мяне без грошы на Мадэйру багаславілі, на зацверджанне і прыняццё Беларускага цэнтра ПЭН-клуба. Праводзіў Быкава па дарозе. Калі ў яго спыталі, ці ёсць у нас Бразаўскас[3] свой і як ставіцца, Быкаў сказаў: «Добра, а ў нас няма», — у зале авацыі.

*31 студзеня, серада*

Сустрэча Бурсава. «А напачатку далёка да меж...»[4] Размова са Шклярэўскім.

*1 лютага, чацвер*

Шмат паседжанняў. Вечарам званіў Быкаў. Кнігу публіцыстыкі здаваць не будзе. На многае ранейшае іншы погляд. Трэба, калі выдаваць, перапісваць, а часу няма. Дый праца над Зборам твораў. Калі ўчора званіў яму і казаў уставіць у творы ўсе выкрэсліванні Галоўліта, дык адказаў,

---

[1] У той час Дом кіно месціўся ў Чырвоным касцёле.

[2] Гл.: «І свая ўзважанасць у глыжа...» (29.01.90) // Міласэрнасць плахі. С. 295.

[3] Бразаўскас Альгірдас (1932–2010), літоўскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Кандыдат эканамічных навук (1974). З 1988 г. 1-шы сакратар ЦК КПЛ, якая ў канцы 1989 г. пераўтворана ў Дэмакратычную партыю працы. У 1990 г. старшыня ВС ЛітССР. Пасля абвяшчэння незалежнасці (11.03.90) — прэм'ер-міністр ЛР (1990–1992).

[4] Гл.: «А напачатку далёка да меж...» (31.01.90) // Міласэрнасць плахі. С. 7.

што шмат нельга аднавіць, бо архіваў па прыкладу іншых не трымае. Гэтак і ў Купалы нічога такога не засталося, а ў Коласа[1] нават запіскі медсёстрам ці бяздарныя лісты выдалі. Талент сапраўдны ніколі не глядзіць сам на сябе збоку. Глядзіць на жыццё.

«З маленства чалавецтва медыцыну…»[2]

*2 лютага, пятніца*

На працы. Узяў білет на аўтобус у Віцебск, усё-ткі ўказ аб несапраўднасці кандыдатаў ад Таварystваў мовы і культуры адмянілі. А я радаваўся (Васіль Быкаў казаў, што адзін чалавек у рэспубліцы радуецца) і давядзецца нешта даказваць, рабіць палітстрып-тыз [так!].

*3 лютага, субота*

На Камароўку. Зноў гармонік прадаецца. Талерка грыміць.

Да Карласа. Праводзіны Бурсава.

*4 лютага, нядзеля*

Дабіў свае вершы на машынцы. […]

*5 лютага, панядзелак*

Праца. У Ленінскай бібліятэцы вечар Пастарнака. Цікава выступаў Алесь Лукашук. Я чытаў пераклады. Людзей мала, як у Парыжы на вечарах паэзіі. Паступова хоць па колькасці ў залах аматараў паэзіі даганяем Еўропу. Галоўная бібліятэка гэтулькі год у аварыйным стане. За гэты час ЦК (помню яшчэ ў адну столку), як гармонік ці сярэдневечная крэпасць. Наш будынак Саюза [пісьменнікаў] (дзе ўзарвалі Кубэ) замінаў ЦК распаўзацца, дык знеслі. Ленінская бібліятэка далекавата пакуль што ад трыбухатага ЦК. Кнігі, перыёдыкі раскіданы па сутарэннях і ў Оперным [тэатры], і ў Жодзіна. Мокне, гніе, плеснее. Старыя кнігі не вяртае партфункцыянер і крыху драматург А. Петрашкевіч[3]. У свой час рабаваў Панамарэнка[4].

[1] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[2] Гл.: Хто ж цяпер? (1.02.90) // Міласэрнасць плахі. С. 217.

[3] Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцьевіч; 1930–2012), беларускі пісьменнік, драматург, сцэнарыст. Кандыдат гістарычных навук (1967). У 1979–1991 гг. адказны сакратар, нам. галоўнага рэдактара выд-ва «БелЭ». Заслужаны работнік культуры БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[4] Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч (1902–1984), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч.

*6 лютага, аўторак*

Рыхтуюся і не рыхтуюся да Віцебска. Уцягнулі мяне з гэтую дурную гульню ў выбары. Пакуль кіруюць свінары з мордамі, які не бярэ ні пыл, ні вада, ні стронцый, а галовы не прабівае ні маланка, ні думка, нічога не зменіцца.

*7 лютага, серада*

*г. Віцебск.* Прамая перадача па тэле, адкрыты эфір. Пытанняў няшмат, але цікавыя. Мова. Навошта пераводзіць лес. Як стаўлюся да [Таварыства] «Памяці», наконт апаганення яўрэйскіх могілкаў. Нават тэлефонны званок быў з Ушачы.

*8 лютага, чацвер*

У буфеце гасцініцы бабка, што мые посуд, падзякавала мне за вершы пра бульбу, пра Віцебск. Найвышэйшая ўзнагарода. Вечар у палацы. 97 чалавек. Агрэсіўныя ветэраны. Супроць БНФ, супроць нефармалаў. Сталін — гэта добра. І ўсе мы ў гэтым.

*9 лютага, пятніца*

Пасля пазнога застолля ні свет ні зара на цягнік. Таксіст у Мінску: «Каб ты ўср.ўся і лазня не рабіла (была на рамонце)». Круціўся на працы. На душы пагана. Адносіны ў беларусаў да паэтаў, як да сабак, калі не горай. Вінаватыя тут і паэты. Але й народ наш здэнацыялізаваны, выхалашчаны духоўна вялікадзяржаўнікамі на працягу вякоў.

*10 лютага, субота*

На Камароўку. Сёння дзядзька не прадае гармонік. Сумна без яго. Прывык ужо.

*11 лютага, нядзеля*

Адправіў пасылку ў Рыгу са слоўнікам і тэкстамі Яна Райніса[1]. Прахварэў дома.

*12 лютага, панядзелак*

Праца. Да Якава Абрамавіча. Запіс на радыё. Сустрэў Януся Мальца[2], яны, відаць, яшчэ памянулі Яўгена Крупеньку[3]. Шчыры беларускі гаротнік, адпакутаваў, адмучыўся, адкідаўся. Усё так і не сабраўся я грунтоўна

---

[1] Райніс Ян (сапр. Пліекшанс Яніс; 1865–1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт ЛатвССР (1940).

[2] Малец Янусь (Іван Вільгельмавіч; н. 1951), беларускі паэт. Працаваў рабочым.

[3] Крупенька Яўген Міхайлавіч (1936–1990), беларускі паэт.

пагаварыць з ім. Усё на хапку, на бягу. Усё жыццё занятыя мы размовамі не з тымі, хто хоча, каб яго паслухалі, хто хоча нешта сваё душэўнае сказаць. І пахавалі як паэта. Завяшчаў пахавацьу роднай вёсцы на Магілёўшчыне разам з маці, побач з маці. Не пачую ўжо болей ягонага магілёўскага *ся'ння*. А ў СП — тлум. Усе кінуліся з новую гульню — у выбары. Дома некалі казалі: з вялікіх выбораў — лапці ды аборы. Рагойша[1] як член думы барадой трасе, выкладчык Петрапаўлаўкі — партшколы, якая дала свету Вал. Лукшу і шмат каго.

*13 лютага, аўторак*

Званіў Васіль Быкаў. Казаў яму пра гульню ў выбарах. Ён: «Болей іроніі, меней сур'ёзу!»

«І на базары, як і ў жыцці...» [накід; у дзённіку].

*14 лютага, серада*

Паход у Вярхоўны Савет адносна рэгістрацыі ПЭН-цэнтра Беларускага.

Каля Дома ўрада міліцыянты, загорнутыя ў плашч-накідкі, стаяць, як туі́. Цэрбер па дарозе да Сыраегінай (ці сама, ці муж кэдэбіст з галоднай Расіі, дзе сырое елі і тога не мелі). Ледзь прабіўся. Самой няма. Пакінуў ейнай сакратутцы. Перабудова да гэнага будынка дойдзе, калі рак свісне. Ходзяць укормленыя, выпешчаныя чыноўнікі. Галовы ўбок варочаюцца з цяжкасцю.

*15 лютага, чацвер*

Зборы ў дарогу. Настрой кепскі. Здароўе, як га.но кароўе. Гэтак заўсягды любілі казаць ушацкія людзі.

Калабок[2] быў.

*16 лютага, пятніца*

Ад'езд. Прыйшла нарэшце Ілона. [...]

*17 лютага, субота*

*Дубулты*! Сустрэў першую Та́расаву Рэню [жонку]. Ён тут дабівае апошнія дні. Хацелі пасяліць у 31-шы пакой. З крыкам засялілі ў 47-мы.

---

[1] Рагойша Вячаслаў Пятровіч (н. 1942), беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. У 1988–1991 гг. выкладчык Інстытута паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Доктар філалагічных навук (1993). Прафесар (1994). Лаўрэат Міжнароднай прэміі імя І. Франко (2000).

[2] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. З 1989 гг. літ. рэдактар час. «Вясёлка».

Тут Андрыс[1] з Вэлтай. Ліўземніек недзе ў запоі. Стары Імерманіс[2] яшчэ п’е. Не дазваніўся да Мінска. […] Тут усё-ткі не гэтак пахне Рюсью, нешта ад Еўропы, і тым прыемней гэта сэрцу крывіча.

Вечарам з’явіўся Вальдэмар Калінін. Шукаў тут цыганоў. Знайшоў цыганскага паэта, які мае свой асабняк, бо сыны бізнесмены — адзін кааператар, другі музыка — закончыў кансерваторыю. Цыганы Беларусі пакрыўджаны, што яны не ўпамінаюцца ў пераліку народаў, што жывуць у нас і маюць сваю мову. Не хочуць вучыць дзяцей дзвюм няродным мовам — рускай і беларускай. Хочуць, каб па-цыганску і па-руску. Таксама яшчэ цёмная калона ў нас.

*18 лютага, нядзеля*

Уцягваюся ў працу. Дужа цяжка. Гэтакае добрае мора і надвор’е амаль веснавое. Пачаў хадзіць у кіно. Эстонскі фільм «Страчанае пакаленне». Дазваніўся да Мінска. Супярэчлівая місія рускай мовы. З аднаго боку нібы аб’ядноўвае, а па сутнасці — рак крыві роднай мовы, напрыклад, нашай беларускай. Місіянеры заўсёды такія!

*Дубулты*

На пральнай дошцы водмелу рабрыстай
Старанна хвалі адмывае мора
Ад бруду, ад мазуту,
І пляжніц-чаек, і варон-турыстак.
Не хоча ціхнуць гамана жывая,
А сівер, як басяк разуты,
Цярплівасці марской гаворыць: «Выстай!»
І далягляду лінія крывая
Падкрэсліла вады пакуту.

*19 лютага, панядзелак*

Рыхтуюся да вялікага кітайскага скачка — пераклады Яна Райніса. Мову ведаю кепска, эпас «1905 год» мне не па душы. «Ave, sol!»[3] падабаецца. Ад часткі давядзецца адмаўляцца.

*20 лютага, аўторак*

Да Айны Карлаўны [урача]. Ілонка тут, выходзіць, добра і дужа вясёла бавіла час, аж усяго Айна Карлаўна не сказала. Праводзіў Тарасаў у Мінск.

---

[1] Веян Андрыс (сапр. Калнач Данат; 1927–2005), латышскі паэт, празаік. Велта, жонка А. Веяна.

[2] Іммерманіс Анатал (Анатолій; 1914–1998), латышскі пісьменнік, сцэнарыст, кінадраматург, журналіст.

[3] Паэмы Я. Райніса.

У Рызе ў крамах пусцей, чым у савецкіх храмах некалі. Тут, у Дубултах, прымерыў 7-рублёвую шапку. Трэба візітка, бо шапка нямецкая. Дэфіцыт па-савецку.

*21 лютага, серада*

Ведаю дужа слаба латышскую мову. Перакладаць цяжка. Настрой кепскі, хоць сёння перадавалі 13 цяпла. Дома зміру няма ў Валі з Ілонай. Як перадатчык, падключаны да ўсіх клопатаў, і адключуся хіба што ў сырой. Вечарам убачыў аднаго з Ваўкадамчыкаў — [...] Мірыка, які Шайбак. [...] Паглядзеў фільм па тэле (гэта відэасалонам завецца) «Каханне Марыі» Канчалоўскага[1]. [...]

*22 лютага, чацвер*

Нарэшце Віктар [Ліўземніек] выйшаў з запою. Папрацавалі над Райнісам. Ёсць такія тонкасці, што нефілолагу і нелатышу цяжка разабрацца. Хадзілі купляць Віктару шапку. Глядзеў балгарскі фільм «Гатэль «Цэнтральны». Як усё балгарскае. Мне не гэтак фільмы цікавяць, як цітры па-латышску. Мову вучу. Званіў дамоў. Маленькімі глыткамі цаджу пераклады Сэсара Вальехі, каб асалоду расцягнуць. Шалёны, якім і мусіць быць сапраўдны паэт.

*23 лютага, пятніца*

Працавалі з Віктарам над Райнісам. Званіў Ілоне. Быццам бы запісалі, калі не брэша, унучку і атрымалі метрыкі. Вечарам глядзеў «Позірк». Гідаспаў[2] — воўчая ўхватка, будучы звер № 1.

*24 лютага, субота*

Не ўзышла яшчэ мая куцця.
Я цяпер ні малады, ні ранні.
Дзве пяцёркі ў дзённіку жыцця
Атрымаў за ўсё сваё старанне[3].

---

[1] Канчалоўскі Андрэй Сяргеевіч (сапр. Міхалкоў; н. 1937) , рускі кінарэжысёр, сцэнарыст. Народны артыст РСФСР (1980). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1974). Лаўрэат прэміі імя братоў Васільевых (1990), прэміі «Сярэбраны леў» Венецыянскага кінафестываля (2014, 2016).

[2] Гідаспаў Барыс Веніямінавіч (1933–2007), рускі хімік; савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Доктар хімічных навук (1966), член-карэспандэнт АН СССР (1981). У 1989–1990 гг. 1-шы сакратар Ленінградскага гаркама КПСС. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981). Дарэчы, у 2004 г., у сямідзесяцігадовым узросце, стаў сведкам аварыі (машына з людзьмі звалілася ў Фантанку), не раздумваючы кінуўся ў ваду і выратаваў тапельцаў.

[3] Гл.: «Ашчэрыцца паспееш, лёх...» (24.02.90, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 28.

Тэлеграма ад Быкава, Та́раса, Лапушыных, ад маіх, ад рэдакцыі. Цэлы дзень прахадзіў Рыгай. Абедаў на сваё 55-годдзе ў прывакзальна-прыцумным кафэ «Ля вярблюда». Традыцыйным чорным гарохам з сырапеняй. Вырашыў выпіўку адкласці на пазней. Пабыць з самім сабой зрэдчас па-свойму таксама цікава.

Віктар расказаў, што ў Рэзэкне тры самыя большыя чаргі — на машыны, на кватэры, на выхад з шэрагаў слаўнай КПСС. Вольга Кучкіна[1] тут таксама. Расказвала, што Гідаспава ў Ленінградзе завуць Гестапаў. Па́ра нашаму […] галоў[…] БКП.

*25 лютага, нядзеля*

Кажуць, што ў Маскве ў падарунак дэмакратыі выпусцяць 15 тысяч крымінальнікаў. Верны метад «канторы глыбокага бурэння». У Расіі ў глыбінцы ветэранскі паёк называюць «Спасибо Гитлеру».

Сёння тэлеграма ад Глеба Артханава (Юрыя Аляксеева). Тонкага рускага інтэлігента, які цікавіцца Індыяй, рускімі заклёнамі, глыбока мысліць, і тэлеграма цікавая: «… поздравляем Вас с достижением высокой вехи на пути дай Вам Бог здоровья и силы и чтобы все что случилось случилось так как надо = Юрий Татьяна». Апошнія, як радкі з верша. Дай Бог і яму ўсяго ў ягонай творчасці і жыцці ягоным!

*Выхадзімцы*

З партыі выходзіце цяпер,
А калі ўваходзілі, скажыце,
На якой круціліся арбіце,
Чый вас грэў і гонар, і давер?

Ленінцамі вернымі былі,
Люта білі ў грудзі кулакамі,
Доўга сохлі мокрымі пляўкамі
Вы
на вамі зганьбленай зямлі.

Прадавалі прадзедаў, бацькоў
Паўлікі Марозавы — не Савы,
Вы аб'едкі елі сумнай славы
Пад салюты ўласных мацюкоў.

З хлебных кніжак вам цяпер лацно
Нарабіць караблікаў —
І ў мора

[1] Кучкіна О. (сапр. Паўлава Вольга Андрэеўна; н. 1936), рускі журналіст, паэт, празаік, крытык, драматург. Заслужаны работнік культуры РСФСР.

Іх пусціць далей,
А толькі ўчора
Іншых мецілі пусціць на дно.

Катафалкна-чорнае аўто
Вас яшчэ чакае ў перапудзе.
Анекдот смяяўся, што не будзе
Чысткі партыі.

Але за што
Засмугляеце вы чысціню
Беспартыйных мас,
Як вы іх звалі?
Празвінеў званок апошні ў зале:
А спазняцца вам не ўпершыню.

*26 лютага, панядзелак*

Хацеў праверыць на цеплыню свае свэдары, але з Балтыкай жарты слабыя. Вятры настолькі моцныя, што да касцей прабіваюць. Недарма ж вятры Балтыкі выдзімаюць з вольналюбных земляў маскоўскую пошасць, маскоўскія метастазы. Прачытаў у «Советским театре» Вольгі Кучкінай «Іосіф і Надзея, альбо Крамлёўскі тэатр». (Ява і сненне ў дзвюх частках.) Паэтычна, смела, цікава. Па прынцыпу айсберга. Як сябе я паважаю, калі чытаю. А чытаю мала. Затузаны, завалены хлам'ём, лам'ём, толькі не тым, чаго душа прагне. А Бог ужо на свой гадзіннік пазірае.

*27 лютага, аўторак*

Б'юся над Райнісам.

*28 лютага, серада*

Хадзіў узяць білеты на Мінск. Калі так пагана буду сябе адчуваць, паеду 17-га. Віктар зноў дапамагаў мне перакладаць Райніса. Дазваніўся да Мінска. Дэпартацыя трэба была яшчэ і на тое, каб засяліць рускамоўнай шушарай, каб наладзіць абаронную прамысловасць у дакладным варыянце, каб знішчыць інтэлігенцыю (толькі 5 латышскіх прафесараў засталося). Пацягнулі латгальцаў на кіруючыя пасады.

*1 сакавіка, чацвер*

Сінічкі заводзяць свае сінія гадзінначкі. Зябка пахне прыбалтыйская вясна. А мне баліць галава. Адчай. Беспрасвецце. Як на краю абрыва. З Віктарам ездзілі ў Рыгу. У СП заказаў парадкоўнікі «Ave, sol!». Нельга перакладаць звон з водзвану. Крыху ўнутрана супакоіўся. Званіў Ілоне. […] Схадзіў, выходзіць, яшчэ раз паглядзеў «Разіньку». Дакументальна-

пастановачны фільм пра Райніса. Кепска, што актор іграе паэта з падабенствам вонкавым. Цікавы момант — Райніс абмярае лоб сантыметрам і кажа, што ён мусіць атрымаць Нобелеўскую.

*2 сакавіка, пятніца*

Сёння дзень нараджэння Віктара Ліўземніека. Падарыў яму пуловер, каб не зябь на вятрах перабудовы. Зноў дапамагаў мне з Райнісам. Прыпомніў сваё ж: «Ён толькі світка важных світ, Але на від таленавіт». У Францыі танныя магазіны. Для соцлагера болей падыходзяць Таті. Такое: «Не знаю, кстати иль не кстати, Но мы в Таti идём, как тати».

*3 сакавіка, субота*

Мора сёння ў такім гневе, што ледзьве прайшоў берагам, не пакідае Балтыка праходу мігрантам. Снег крупчаты. Лёд. Зіма бярэ рэванш, як сілы антыперабудовы. Дазваніўся да Васіля, Уладзіміравага сына, стараецца Сачанка і кампанія з новай версіяй [...], што трэба хадзіць па струнцы, бо можа выбухнуць грамадзянская вайна. Сапраўды: вайна пасярод га.на.

*4 сакавіка, нядзеля*

Аж два фільмы глядзеў. Званіў у Мінск. Прачытаў Уладзіміра Арлова «Асветніца з роду Усяслава». Таленавіты Валадзімер! І добра, што чысты арыец, з Полацка родам. Настрой на раздарожжы. Мора так бушуе, што выгрызае берагі.

*5 сакавіка, панядзелак*

Забыўся прывітанне «Песнярам»[1] зрабіць дома. Званіў Радуцкі[2]. «Мой паклон вусата-барадатым «Песнярам» з нагоды круглай даты» [у дзённіку]. Прадыктаваў па тэлефоне. Званіў яшчэ ў Мінск. Папярэдне быццам бы Зянон Пазняк прайшоў на выбарах. Дай Бог! Хоць адзін чалавек у гэтым пасмешышчы быў бы нармальны. А то такія, як Дземянцей (корань літоўскі пляма, сапраўды, чорная пляма на сумленні нацыі), заяўляў, калі яго буферным прэзідэнтам [...Сакалоў] ставіў: «Я не прадстаўляю сваей жысці бяз бяларускай парційнай арганізацыі. Хто на какім языку хаціць, пускай на такім і разгавараваіць». І гэта прэзідэнт рэспублікі, дзе народ

---

[1] «Песняры» — беларускі вакальна-інструментальны ансамбль (з 1969). Мастацкі кіраўнік У. Мулявін. *Мулявін* Уладзімір Георгіевіч (1941–2003), беларускі артыст эстрады, кампазітар. Народны артыст БССР (1979). Народны артыст СССР (1990). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976).

[2] Радуцкі Аляксандр Яфімавіч, беларускі тэлежурналіст.

з такой шматвяковай культурай! Для душы чытаю Платонава[1] і Новы Запавет.

*6 сакавіка, аўторак*

Закончыў тое, што меў, Вальеху, падагнаў Райніса. Прыходзіў Віктар, ён ад’ехаў у Рыгу. Жыве, не ведаю як. Цяжка яму. Як у часы нэпа паэт.

*7 сакавіка, серада*

Званіў [Галіне] Шаранговіч, віншаваў са святам. Здаецца, пайшла паэма «Удакладненне»[2], пра бацькаву партызанскую анкету.

*8 сакавіка, чацвер*

Закончыў паэму. Здаецца, нешта атрымалася. Паглядзім. Рады за адно, што трошкі пачало пісацца.

*Перадвеснавая Балтыка*

Каб праветрыць з зімы,
касматай поўсцю дагары
вывернулі кажух,
а ён, стары,
усёй сваёй тоўсцю
цёплы трымае дух.

*9 сакавіка, пятніца*

Дазваніўся да Бурсавых, павіншаваў Рыту. Перапісваю паэмку. Хадзіў у кіно, амерыканскі фільм «Прыгожа выйсці». Стары. Пенсіянеры рабуюць банк і 70 тысяч выйграюць у Лас-Вегасе. І так на душы змрочна. І старасць блізкая, і штодзённая самота. Куды, навошта, у імя чаго бег, спяшаўся, рупіўся. Яшчэ радасць унучка. Ілону, якая яна ні свіння, дужа люблю, сам з сабой нічога не магу зрабіць.

*10 сакавіка, субота*

Начыста перапісаў паэму смутку. Дазваніўся да Быкава. Іду і сустракаю Яніса Рокпелніса[3], інтэлектуала, разумнага паэта і думніка, кажу: «Васіль Быкаў перадаваў прывітанне ўсім добрым людзям. Табе першаму перадаю». «О гэта чалавек, во з такою аўраю», — і паказвае над галавой з паўметра.

---

[1] Платонаў (сапр. Кліментаў Андрэй Платонавіч; 1899–1951), рускі пісьменнік.

[2] Гл.: Удакладненне да асабовага лістка па ўліку партызанскіх атрадаў: Паэма смутку (8.03.90, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 266.

[3] Рокпелніс Яніс (н. 1945), латышскі паэт.

Тут недзе адпачывае закаханы толькі ў сябе Б. «Красота спасёт мир», — толькі і паўтарае фразу. Смеласці хапала толькі ў застоллях ды перад старэючымі дамамі. Цяпер бы хоць што сказаў, што за душой. Ды, відаць, няма. Узяць яго і Васіля Быкава. Абодва народныя. Толькі якая розніца — неба і зямля. [...]

*Без цябе...*

*[N.]*

Без цябе я па вуліцах радасці
не хадок...
Спачуваючы патушанаму ліхтару,
Гляджу,
як сабака свой павадок
Сам прыносіць гаспадару...

*11 сакавіка, нядзеля*

Гунар Цырулiс[1] расказваў. Адзін калгас (старшыня хоча стаць прэзідэнтам Латвіі) з немцам, бізнесменам з ФРГ, а фірма ў Ліхтэнштэйне — каб падатак не плаціць, — хочуць зрабіць такі бізнес. У В'етнаме (там беспрацоўе) узяць плантацыі і гадаваць каву, у Латвіі рабіць растварымую і экспартаваць у Еўропу. Латвія заўсёды марыла пра заморскія калоніі. На старой карце, кажуць, такая значылася недзе ў Афрыцы.

«Калі трэба перайсці на планеты трансцэндэнтальнага свету, дык трэба перамяніць груба фізічнае і тонка фізічнае цела на спірытуальнае цела, таму што ў *спірытуальны свет можна ўвайсці толькі прыняўшы поўную спірытуальную форму.* Калі дасягнуць гэтага жадання, дык перамена цела пад час смерці адбудзецца сама сабой. Калі прывыкнуць да гэтага, дык можна ў момант смерці перайсці свабодна ў духоўны свет. Але гэта магчыма толькі тады, калі гэты пераход быў знойдзены ўжо пры жыцці. Дзе скарбы, там і сэрца. Толькі адданым слугаваннем можна набыць магчымасць вярнуцца ў царства Бога. [...]» (Вне времени и пространства Его Божественной Милости А. С. Бхактиведанта Свами Прабхуцада.) Спаконвечныя законы ад зямлі аднолькавыя ва ўсім свеце!

*12 сакавіка, панядзелак*

На пошту. Рэшту папераў адаслаў. Званіў Та́расу. Наконт «Апреля»[2].

---

[1] Цыруліс Гунар (сапр. Цыўян Гаўрыіл Яфімавіч (1923–2002), латышскі празаік, драматург, сцэнарыст.

[2] «Апрель» — Усесаюзная асацыяцыя пісьменнікаў у падтрымку перабудовы (з сакавіка 1990).

*13 сакавіка, аўторак*

Улёг перакласці вершы Хрыста Бекрыева[1] з нізкі «Марк Шагал». Балгарскі паэт цэлыя нізкі, а нашыя — ні радка не напісалі. Рыгор Кановіч[2] наконт падзей у ягонай Літве. «У малога народа заўсёды вялікі страх. Не люблю, калі яўрэі ідуць уперадзе перад аркестрам». Яго некалі вучыў шахматам адзін гросмайстра. І прасіў запомніць дзве запаведзі: 1. Трэба выводзіць коней ў людзі. 2. Ніколі не гуляй сам з сабой…

* * *

*[N.]*

Як той злачынца да калодкі, я
Прыкуты за грахі свае.
І думкі пра цябе салодкія.
Цябе мне не стае.

Нябёсы адказаць малю, чыя
Віна, што ўся зямля ў журбе.
Ўспаміны пра цябе балючыя.
Мне не стае цябе.

Наіўнасць растае святая ўся
Ва ўсмешкі горкай на губе,
Чаму ніяк не запытаюся:
Навошта я табе?

*14 сакавіка, серада*

Пераклаў нізку балгарына. Пазваніў у Мінск — унучка захварэла, высокая тэмпература. І адразу на сэрцы зябка. На адлегласці дрыжу, а што будзе зблізку? Унукі — гэта сустрэча са сваім маленствам, гэта і расстанне, якое прыходзіць без просу. Гэта вузельчык на памяць — не дужа доўга бавіцца ў гасцях жыцця зямнога[3].

*Люляючы ў сабе*

Грыміць навальніца баладамі.
Я слухаю і зазначаю
Без лішняй лірычнай патакі:
Дужа пасуе Латвіі
У пырсках бялюткіх чаек
Касынка сіняя Балтыкі…

[1] Бекрыеў Хрыста Недзеў (1942–2000), балгарскі паэт.
[2] Кановіч Грыгорый (сапр. Якаў Сямёнавіч; н. 1929), рускі і літоўскі паэт, празаік, драматург, перакладчык. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі ЛР (2014). З 1993 г. жыве ў Ізраілі.
[3] Гл.: Вітальная (16.03.90, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 65.

*Экспромт*

*[N.]*

Мне адсылаць твае лісты,
Нібы вяртацца ў век каменны,
Дзе неакрэсленая ты,
Дзе дзікай роспачы бязмены
Разважваюць пуды лухты,
Лухты, што быццам не было
Цябе ніколі і не будзе,
Што цела смелага святло
Пагасне ў першым перапудзе
І здрады лёд заглушыць тло,
Тхло разумення і хлусні,
Калі пагляд сустрэлі вочы,
Пагляд з захмарнай вышыні,
Сваёй раптоўнасцю прарочы,
Каб нашыя супалі дні,
Дні, ўкрадзеныя ў нематы.
Каб збудаваць з іх дом, дзе сцены
І столь даводзіць шал святы.
Мне адсылаць твае лісты,
Нібы вяртацца ў век каменны.

*15 сакавіка, чацвер*

Бог пусціў на свет яўрэяў, каб іншыя народы адчувалі іхнюю перавагу ў розуме, у жыццёвых турботах і самі стараліся зрабіцца разумнейшымі, спрытнейшымі, кемлівейшымі. А народы гэтыя часцей за ўсё ненавідзяць яўрэяў толькі за адно ўжо тое, што яўрэі разумнейшыя. І рух нейкі атрымліваецца, і гэтых нікчэмных звадаў не заўважаюць народы, як яны тупеюць, звярэюць, зноў абрастаюць поўсцю і міжвалі задам-задам і ў пячору[1]. Вось там яны самыя разумныя, грызучыся між сабой за костку, якую пад старасць і ўгрызці няма чым.

Сёння назіраў, як бацька вучыў малога латышыка страляць з лука. Лук малы зрабіў сам, а страляць не ўмее. З тэлевізарам умее абыходзіцца, неўзабаве і камп’ютэр асвойчыць, а вось лук — загадка. Простае заўсёды цяжэйшае. Вечарам крыху частаваў латышоў «Белавежскай». Гунар Цыруліс сказаў, што апошні раз ён піў «Белавежскую» ў Берліне. Вярнуўся ноччу ў нумар. Ложак сямейны. Нехта тоўсценькі ўжо храпе, а на ўвесь нумар пахне гарэлкай. Прачнуўся. Гэта Іван Шамякін. Вёз дзве пляшкі, і абедзве разбіліся, усё заліта — кашуля, бялізна. Пачалі выкручваць спа-

[1] Гл.: Рух (15.03.90, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 63.

чатку ў таз, а пасля ў шклянкі ліць і ўсю ноч пілі. Шамякіну на грошы, якія меў, давялося купляць кашулю і бялізну.

Калі Гунар спытаў: «Хто яшчэ ў Беларусі, акрамя Быкава, нармальных людзей?» Я адказаў: «Быкаў. Ёсць яшчэ Адамовіч, але яго вытурылі ў сталіцу імперыі». Да 2-х па імперскаму часу глядзелі КВН, як выбіралі Лук'янава[1], як спушчаныя са шворак выжлятнікі кусалі за пяткі Літву. І як заўсёды: «Хто за? Падлічыце цюбецейкі». Бач ты, захацелася з імперыі на волю. Расійская імперыя — гэта не Вялікабрытанія, яна на азіяцкіх дражджах! «Закрытыя фабрыкі: Адгулі каньякі…» [у блакноце].

*Вырай дзён*

Я вырай дзён сваіх перабіраю,
Пра той і думаць не хачу знарок,
Калі ў чарзе ў нябыт я стану з краю,
Калі парвецца існасці шнурок.

Дні коцяцца пад ногі гаю,
Дзе цені вечнасці далі зарок
Не варухнуць галін свайго адчаю,
Пакуль не прарасце вачыма змрок.

Душа даношвае старое ўбранне
І мусіць адляцець у тое ранне,
Што з вечнага, як і яна, святла.
І ўжо ў апратцы новай боль пачуты
Успомніць і вярнуцца на пакуты
Пад засенню нябачнага крыла[2].

*16 сакавіка, пятніца*

Апошні дзень у Дубултах. Сумна. Шкада развітвацца. Ці будзе яшчэ? Бог бацька. Ідзе размова пра выданне Максіма Багдановіча на дзвюх мовах — арыгінал і латышскае. Друкаваць мусім мы і папера нашая. Максім Багдановіч у самыя змрочныя гады сталінскага і далейшага фашызму быў адзіным вакном у Еўропу. Адзін ён з усіх хрэстаматыйных аўтараў даваў уяўленне, што такое паэзія. Адзін ён вёў за руку хлапчукоў вёсак і мястэчак, будучых паэтаў, і паказваў, адкуль святло ідзе. Купала вялікі нацыянальны скарб сусветнай велічыні, але ў хрэстаматыях і праграмах ён падаваўся вершамі аб Сталіне — сейбіце. А маладнякоўская змена ўзяла з Купалы якраз ўсё непатрэбнае. Вялікі Янка сам сябе замураваў

[1] Лук'янаў Анатоль Іванавіч (н. 1930), расійскі палітычны дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1979). Прафесар МДУ (2004.) Заслужаны юрыст РФ (2012). У 1990–1991 гг. старшыня ВС СССР. Аўтар зборнікаў вершаў пад псеўданімам А. Осенеў.

[2] З ліста да Н. Давыдзенка ад 15 сакавіка.

савецкімі вершамі. Добра, што ён склаўся як паэт і напісаў бальшыну да эры сацыялізму. А гэтае замураванне сябе вялікім паэтам нетрывалае, малалікае і лёгка збіваецца. І, вядома, Янка Купала і Максім Багдановіч — сумленне нацыі, тое зерне, якое яшчэ даець ураджай сапраўднай паэзіі без аглядкі, без сацзаказу, без лакіроўкі.

*Жыццё*
*Марскі эцюд*

За пакаленнем пакаленне
На берагах набягаюць хвалі
І разбіваюцца у імгненне,
Каб у разгубленым запале
Зноў паўтараць сваё памкненне.
Нахабнавокая надзея
Ўсё забывае пахапліва,
Самотна роспач нелюдзее,
Люляе гнеў марская ніва,
На ціхай роўнядзі залива
Бялеюць чайкі, як лілеі…

*17 сакавіка, субота*

Dubulti. Сёння ад’езд. Распіхваю барахло ў сумку, у валізку. Чалавек толькі тое і робіць, што абрастае рэчамі найбольш непатрэбнымі. А ў апошнюю дарогу ідзе лёгка апрануты, без лішніх цацак, без усіх рэгалій, за якія бальшына кладзе жыццё.

«Чаму няма мыла?: Мы з блаславення ўсіх правадыроў…» [у блакноце].

*18 сакавіка, нядзеля*

Sveiki[1], Мінск. На Камароўку. Да Навума. З «Апрелем» адбылася нейкая неразбярыха. Кожны бок сваё. Радзіку пазваніў. Ён засумаваў, чыстая душа.

*19 сакавіка, панядзелак*

На працу. Ілона прыходзіла. […]

*20 сакавіка, аўторак*

Запіс у «Кроку» пра пераклад гімна СССР. Нешта казаў з галаўным болем.

У Домначкі прарэзаўся зубок. Гэта свята!

---

[1] Sveiki — прывітанне (*лат.).*

*21 сакавіка, серада*

Праца. Шукаю матэрыялы для паганскай паэмы ценяў. Арлоў абяцаў нешта прынесці. Званіў у Талін, трэба ехаць з Куксам.

*22 сакавіка, чацвер*

Званіў Пімену Панчанку. Кажу, на траву трэба выходзіць, на цыганскі бераг. Адразу: «Усе толькі пра тыя вершы, якія ў мяне негалоўныя. А пра «Паэму майго лёсу» ніхто пяром не варухнуў, не ўспомніў. Арочка[1] ў «Полымі» піша, што «незакапаныя дамавіны» пад уражаннем Пушкіна [напісаны]. А я ж пісаў, як было. Былі на месцы расстрэлу Лізы Чайкінай[2]. І штук 10 дамавін незакапаныя, бо быў страшэнны мароз». Перадаў яму добрыя словы ад Быкава. Ён: «Такіх дзяржаўных удумлівых публіцыстаў мала. Гэта добра — прыйсці к сталым гадам з такім дзяржаўным мастацкім густам». Слабы Пімен. Шкада. Што робіць час з чалавекам!

*23 сакавіка, пятніца*

Сазваніўся з Талінам і Куксом. У магазінах — гола, як у галоднай Расіі.

*24 сакавіка, субота*

На Камароўку. Зянону Пазняку, Хадыку і Марачкіну далі 30 хвілін па тэле сказаць пра 25 Сакавіка — Дзень незалежнасці Беларусі спецыяльна а 21-ай гадзіне, калі ўсе глядзяць праграму з метраполіі «Время». Пасля іх выпусцілі гаўню афіцыйных гісторыкаў-халуёў, кэдэбістаў каля гістарычнай навукі.

*25 сакавіка, нядзеля*

Званіў Мальдзіс. Хоча стварыць ценевы кабінет з тых прэтэндэнтаў у дэпутаты, што не прайшлі. У Адама ёсць кніга па-польску пра паганства ў Літве. Уночы прачынаўся ад радкоў:

*Кусман сну*

Выгарыць на вятры
Пыхаю парусіна.
Ціхая ласка сына
Газаю ў ліхтары.
Будзеш прасіць: паўтары
Цень ад крыла жураўліны

---

[1] Арочка Мікола (Мікалай Мікалаевіч; 1930–2013), беларускі паэт, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1981). У 1966–1999 гг. ст. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

[2] Чайкіна Лізавета Іванаўна (1918–1941), партызанка, падпольшчыца ў час Вялікай Айчыннай вайны. Пакарана смерцю фашыстамі.

З дотыкам стылай гліны.
Выраю востры локаць
З тога зялёны, калі
Ён упіраўся ў лотаць
На веснавой зямлі.
Вецер, як гаспадар,
Дол падмяце слата,
Праглыне ліхтар
Язык кната[1].

*26 сакавіка, панядзелак*

Праца. З Куксом сазваніўся. У Талін не едзем, няма білетаў. Да Навума, да Тáраса. Хворыя мае самыя блізкія сябры, што засталіся ў гэтым жыцці, глядзіш на іх і пра сябе думаеш. Да Яшы па лекі.

*Не апраўдваючы*

І віні салдат, і не віні,
Што вучылі іх майстры нацкоўкі
На людзей глядзець з-пад далані
Вострае сапёрнае рыдлёўкі.

Па тэле глядзеў дыялог [...] Куняева[2] з Каротычам[3], безумоўна, Каротыч — еўрапеец.

*27 сакавіка, аўторак*

Праца. Да Лойкі. У Доме кіно «Ефрасіння Полацкая» па сцэнарыю Ул. Арлова. Патроху з прадна забыцця вяртаецца да нас слова боскае. Адзічэнне савецкіх людзей дайшло да ручкі ў апраметную. Дазваніўся да Туулікаў[4]. Падзякаваў, але ехаць не можам.

*28 сакавіка, серада*

Праца. На месца Ігрунова выбралі Камая[5]. Ніколі беларуса не назначаюць на ідэагічнага сакратара: то старавера, а цяпер татарына. Абы ненавідзелі ўсё беларускае.

---

[1] Гл.: Кусман сну (14.03.94) // Евангелле ад Мамы. С. 421.

[2] Куняеў Станіслаў Юр'евіч (н. 1932), рускі паэт, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987).

[3] Кароціч Віталій Аляксеевіч (н. 1936), украінскі паэт, перакладчык, публіцыст. Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя М. Астроўскага (1972), Рэспубліканскай прэміі імя П. Тычыны (1978), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1981), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[4] Туулік Юрый (н. 1940), эстонскі празаік, драматург. Туулік Юла (н. 1940), эстонскі празаік. Браты.

[5] Камай Аляксей Сцяпанавіч (н. 1936), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1989 г. сакратар, у 1990–1991 гг. 2-гі сакратар ЦК КПБ.

*29 сакавіка, чацвер*

Сустрэча з Ганадам, з Карласам. Справы ПЭН-клуба. Прыехаў Сімановіч. Трэба сустрэцца. Вясна ідзе, а не адчуваецца. Чарнобыль знішчыць, данішчыць нацыю, што не данішчыла нашая родная савецкая ўлада. А па калідорах выдавецтва носіць сваю воблападобную асобу самазакаханы Ніл. Вось каму ўсё да лямпачкі, хоць горлам сцвярджае, што хварэе за нацыю. Усё ў імя кар’еры. А рэспубліку неўзабаве могуць зрабіць прыеўрапейскім кар’ерам, бо ў нашых нетрах уся табліца Мендзялеева[1]. Галоўнае, каб знішчыць беларусаў, а там — адкрыты кар’ер. Наша суседка Расія і сама канае, але нас душыць халоднай кашчавай рукой не толькі вялікадзяржаўнага шавінізму. Маючы такую суседку, пра будучыню можна і не думаць — яе не будзе.

*30 сакавіка, пятніца*

Прыехаў Сімановіч. Расказваў, як праходзілі выбары. Перпенс [персанальны пенсіянер] Казубовіч (сядзеў на вечары і выказваў мне недавер), былы старшыня Фрунзенскага райвыканкама Віцебска, арганізаваў брыгады перпенсаў і ўдзельнікаў штурму Зімняга і яўрэям казалі, што я і хлопцы пагромшчыкі, а дамагаспадыням — што кірую БНФ. Сам за нешта ў свой час ляцеў. Прывёў у хату маладую дзеўку і жонцы-настаўніцы сказаў, што гэта пляменніца. Пакуль не высветлілася. Сын-кааператар хацеў нядаўна пагрэць рукі на музеі Марку Шагалу. Казубовічы — сіла і апора нашай роднай партыі, яе апарату.

*31 сакавіка, субота*

На Камароўку. Тое-сёе для Ушачы купіў. Перадрукоўваў зборнік свой.

*1 красавіка, нядзеля*

Дзень смеху, дзень спадману. І сёння ў прэсе заява ганебная нашага з дазволу сказаць Вярхоўнага Савета Літве. Пра межы ўспомнілі партмарыянеткі. Па-руску не чытае, па-беларуску не ўмее гаварыць, бо нага баліць. Што за грамацей? Дземянцей.

Быў у Навума. Званіў Лявону Дранько-Майсюку. У пятніцу сігнал ягонай кнігі[2]. Пакуль ёсць маці, бацька, ёсць каму радавацца поспеху сына, смуціцца па ягонай бядзе. А як не стане іх — усё гэта страчанае. Чалавек застаецца адзін, сам-насам з самотай да канца дзён сваіх.

Перад канчынай пры расійскім самадзержцы мусіць быць Распуцін. На гэты раз не Рыгор, а Валя [...]. Званіў Быкаву. Расійскі азіятызм страш-

---

[1] Мендзялееў Дзмітрый Іванавіч (1834–1907), рускі вучоны-хімік, педагог, грамадскі дзеяч.

[2] Дранько-Майсюк Л. Тут. Мінск, 1990.

ней за татара-мангольскае іга. Бураўкіна нібыта ў ААН замест Максімава[1] прадстаўніком ад Беларусі. Гэта ссылка.

*2 красавіка, панядзелак*

Праца. Катляроў. Званю Пімену. «Раніцай пісаў рэкамендацыю Катлярову. Напісаў. Ці гэта гады, ці абставіны ў свеце, дрэнна адчуваю сябе. Адной Зоі [жонцы] даказваю, выказваю, размахваю рукамі. Цяпер на фонд пенсіянерам няма, а функцыянеры павысілі сабе ўдвая аклады». Кажу, што запланавалі аднатомнік 15 лістоў. Яўна незадаволены, кажа, што зараз Зборы твораў не плануюць. У заключэнне з панчанаўскім гумарам: «Няхай жыве савецкая ўлада і камуністычная партыя! — адзін выгук рвецца з сэрца».

Павел Вераб'ёў прынёс свой зборнік. Яны абое — зборнік і Павел сімпатычныя, і дужа. Званіла Пушчыха [жонка], калі будзем выпускаць Пушчу, каб яна дажыла. Сустрэча з Алегам Маціевічам[2]. Запланаваў усё-ткі зборнік паэтаў імперыі пад назвай «Аблачыны Айчыны»[3].

*3 красавіка, аўторак*

У «Вожык». Болтач[4] узяў смелыя чатырохрадкоўі. Расказаў, як дзейнічаў партапарат і дэбісты (дыбісты — на сучасныя дыбы людзей і цяпер распінаюць). Прыходзіла Ілона з Косцем. Рыхтуюцца да паездкі ва Ушачу. Чакаю званка Ганада. Дужа даўно ў Вушачы [не быў]. Сазваніўся з Васілём. Даў па тэлефоне тэлеграму: «Вильнюс Верховный Совет Литовской республики поддерживаем ваше стремление к свободе счастью и справедливости надеемся на успех с братскими чувствами. *Василь Быков Рыгор Бородулин*». Хай будзе і нашая падтрымка. А ў БНФ, Васіль казаў, нейкая валтузня. А трэба было адразу БНФ заявіць сваю падтрымку Літве.

*4 красавіка, серада*

На працы. […] Ніл у дзікім гневе, што 3-ці том анталогіі паэзіі адкрываецца не ім. Шупеньку[5] цюкнула ў галаву рэдкая думка. Калі па часе надрукавання першага верша, дык Алег Лойка ў 1943 годзе [надрукаваў]. А для лагойскага […] гэтае імя як халодная брытва пад адно мейсца.

Званіла Пушчыха. Сыходзіць тэрмін спадчыны, а запланаваны двухтомнік толькі на 92-гі год. Лужанін, які памог пасадзіць лепшых паэтаў,

---

[1] Максімаў Леў Іосіфавіч (1928), беларускі дыпламат. Прадстаўнік БССР у ААН (1986–1990).

[2] Маціевіч Алег Мікалаевіч (н. 1947), беларускі мастак.

[3] Беларусь мяне збеларушвае: Словы любові. Мінск, 1993. Пер. Р. Барадуліна.

[4] Болтач Валянцін Уладзіміравіч (псеўд. Блакіт Валянцін; 1938–2007), беларускі пісьменнік. У 1987–2000 гг. гал. рэдактар час. «Вожык».

[5] Шупенька Генадзь Серафімавіч (1936–2010), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1982–1996 гг. заг. рэдакцыі серыйных выданняў выд-ва «Мастацкая літаратура».

двойчы зборы твораў выдаў, і 2-томнікі, і аднатомнікі. А гаротнікі нашыя адпакутвалі, і жонкі іхнія ў галечы дажываюць адведзены ім век Богам. Лужанін да гэтага часу вызначае ад імя і па даручэнню КДБ, што каго выдаваць з рэпрэсаваных літаратараў.

*5 красавіка, чацвер*

Толькі сёння прачытаў Быкава ў «Литературке» [«Литературной газете»] ў абарону Карпюка. Якая вытрымка ў Васіля, з якой годнасцю адхвастаў па мордзе і партапаратчыкаў, і берыеўцаў. А ім — каб што. Савецкая ўлада задумана грунтоўна, каб дзясяткі пакаленняў знішчыць — усіх, хто думае, хто бачыць, куды вядзе родная камуністычная партыя. Відаць, і слова *цыкаць* таксама ад ЦК, адкуль цыкаюць, тупаюць, гаўкаюць, рычаць і г. д. Заўсягды ўспамінаецца, як ушацкія казалі пра нейкую шлюшку з беларускага ЦК камсамола: «Нейкая сцыʹка прыехала». Толькі націск перанеслі, а колькі падтэксту з'явілася. Камсамольцаў у нас называлі камасрайцы.

*6 красавіка, пятніца*

У падпісным забраў кнігі. Паездзіў па горадзе. Усюды ўсё хапаюць, як перад канцом свету. Адно што хамутоў няма — і тыя б ухапілі, на шыю ўздзелі б. Асабліва голыя галодныя расійскія турысты. Першая сярод роўных першай прыйшла амаль да голаду. А ўключыш тэлевізар — гэтулькі разумных размоў. Імперыі прыйшоў капэрус, а гэтага хочуць не заўважаць, страусы — ад палітыкі на платформе КПСС толькі і думаць пра пасады. Гэта ж толькі ў дзікай імперыі сакратар райкома, партай[…] ўказваюць селяніну, дзе садзіць, што садзіць, калі садзіць. Лепей бы гэтых указчыкаў пасадзіць у клеткі і паказваць, хто давёў усё да ручкі. […]

*7 красавіка, субота*

Сёння Звеставанне, Багавешчанне. Зябка, стыла, а на душы светла, сёння мусяць прыляцець буслы. Так і аджыву: думкамі і душой — на Ушаччыне, а здароўе пакладу ў Мінску. Увесь час хочацца туды, быць там, хадзіць там, а прыедзеш — усё змененае, з'іначанае, не тое, але любая драбяза ўганяе ў расчуленне, бо яна звязана з мамай, адзінай маёй святой, маёй доляй, маёй радасцю. У дачкі ўжо цягі такой няма да роднага мне кутка.

*8 красавіка, нядзеля*

Камароўка. Вычытваў карэктуру Пушкіна, свае пераклады. Здаецца, нічога, а можна было лепей. Званіў Фелікс Бахчынян, ён у «Ісласы».

*9 красавіка, панядзелак*

Праца. Прыехаў Фелікс. Паедзем з ім на вялікае свята — Вялічка ў Вушачу. Прыходзіў Карлас. Клопаты па ПЭН-клубу. Званілі Грыбоўскай[1]. Сёмуха нейкія лініі лёсу крэсліў, навараражыў. Мне эмацыянальную сілу, інтуіцыю, прадбачанне, слабую фізічную сілу бытавання, адсутнасць анёла-ахоўцы. З Феліксам дазваніліся да Быкава. Прыйшоў нумар «Крестьянки», дзе ёсць мае вершы ў перакладзе Ігара [Шклярэўскага], колькі слоў прадмовы Быкава. Шалёны тыраж — 22 мільёны.

*10 красавіка, аўторак*

*Ушача.* Завезлі тое-сёе з мэблі, барахла, абування. Вадзіцель Франц Станіслававіч Раманоўскі з Будслава, працавіты, сціплы беларус. Бацька хацеў назваць Францам, маці — Фёдарам, бацька запісаў па-свойму.

Пайшоў у магазін у канец Зялёнага Лугу. Прадаўшчыца, як звярыца, […], што партыя велічае рабочым класам, ледзь выпусцілі з бутэлькамі. Азвярэнне, абыдленне! У Франца дзядзькі адзін у Аўстраліі, двое ў Польшчы. Адзін пры Герэку[2] ў канцылярыі пісьмы-скаргі разбіраў. Як прыязджаюць польскія, маці кажа: «Прыехалі ўжо лейкі», — бо п'юць, як палякі. Аўстралійскі толькі губу мочыць. Бо працуе і ўсё мае.

[Марыя Рыгораўна:] А гэты мальчуганчык; пайшоў рунію трусам ірваць і памёр.

*11 красавіка, серада*

Праца. Лісты [кнігі] Радзіка прыйшлі. Трэба на вечар Пысіна, а не магу — слабею нешта і галава не тая.

*12 красавіка, чацвер*

Чысты чэцвер. Мыліся да ўсходу сонца. А 10-ай сустрэча з Ганадам. Да Радзіка. Ён свае радкі вылізвае, як кошка кацянят, да бляску, да ільснення пільсці.

Глядзеў артыкул Дубаўца[3] ў «Крыніцы». Дубаўшчына. Вялікія ўсе самыя малыя. Нахабны наступ, злосць. У «Огоньке» праехаліся па Някляеву з вітаннем Брэжнева[4].

---

[1] Грыбоўская Галіна Уладзіміраўна, супрацоўніца «Литературной газеты» (Масква).

[2] Герэк Эдвард (1913–2001), польскі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1970–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК ПАРП.

[3] Дубавец Сяргей Іванавіч (н. 1959), беларускі журналіст, пісьменнік, крытык. У 1987–1990 гг. супрацоўнік час. «Нёман», у 1991–2000 гг. гал. рэдактар газ. «Наша ніва» (газ. выдавалася ў Літве ў 1991–1996 гг.).

[4] У. Някляеў зачытваў вітанне ад камсамола XXVI з'езду КПСС (1981).

*13 красавіка, пятніца*

На Ушачу аўтобусам. *Ушача!* У гаспадарчым магазіне ўсялякае прычындалле. Фелікс дапамагаў цягаць.

*14 красавіка, субота*

Каля хаты трохі зграбаў сушшо. Фелікс капаў ля калодзежа. Мікола складваў шафы.

*15 красавіка, нядзеля*

Заходжу да Марыі Рыгораўны: «Хрыстос васкрос!» — «Ваісціну васкрэсе!» Цёплы дожджык. Вялічка дома, толькі без мамы не тое свята.

*16 красавіка, панядзелак*

Чысцілі з Феліксам гарод ад бетону будаўнікоў. Прыйшоў Прыжэннікаў Васіль Іванавіч. Родам з Пуцілкавічаў. Працаваў на Поўначы. Прынёс кілаграмы са два цыбулі. «Хачу паглядзець на жывога пісьменніка». Броўку помніць. Быкава чуў і цэніць. Пасля, адыходзячы: «Дай мне рублёў 5, толькі каб жонка не бачыла. А сястра Броўкава казала, што Броўка, што ні радок — 1 рубель, а калі ў газеце — таксама ідзе». А расказваў мне, як любіць красу прыроды, толькі сам не можа пісаць. Прасіў напісаць пра яго. І ўспомніўся мне верш Купалаў «Госці». Цяпер іншыя часы.

Ад Лепеля да Мінска за спіной дзядзька расказваў суседцы, як ён пабыў арандатарам у Кублічах, як яго ціснуў ўвесь апарат саўгаса. Урэшце з'елі. Зараз судзіцца, каб хоць заплацілі заробленае. Ён бычкоў адкормліваў.

*17 красавіка, аўторак*

Праца. Званю Васілю. Фелікс казаў, кажу яму, што ў Літве праліецца кроў. А Васіль: «Падушкай задушаць. У нас майстры».

У горадзе ўсе заклапочаныя, усе нешта хапаюць, цягнуць, давяцца ў чэргах. Шаноўнаму прэзідэнту трэба б было не ласаваць ласом Літву, а ўсе рэспублікі аддаць у арэнду. Нікуды ж тэрытарыяльна не з'едуць. Хоць накармілі б самі сябе.

*18 красавіка, серада*

Быкаў вырашыў ставіць пытанне пра званне народнага [Рыгора Іванавіча]. Нічога не будзе, а ў смале і пер'і выкачаюць. Прыходзіў Чыгрынаў. Яму страшэнна, як дурню стрэліць, хочацца звання.

У Радзіка сігнал «Три взгляда». Добрая кніга. Казалі з ім пра новую хвалю. Ідзе сінтэтыка на змену ўсяму натуральнаму ў побыце, у мысленні, у слове. Гэта жахліва. Гэта скразная рабатызацыя.

*19 красавіка, чацвер*

Праца. Сёння прэзідыум СП быў. Прынялі цэлую гайню. Бедны Васіль Уладзіміравіч з ягонай прапановай наконт народнага ў такую твань акунуўся. Раўлі нема, расказваў, Грахоўскі — рупар Ніла, «Красота спасёт мир», іншай банды, Барыс Сачанка — рупар Лужаніна, [...] Дудараў[1], які дагнаў Макаёнка[2] па грашах, пясняр БАМа і камсамола — Вова[3]. Справа не ўва мне. А ў агульным азвярэнні СП. Мяне як у брудных абмылках выкупалі. А шкада Васіля, ягоных нерваў. Ён па сваёй дабрыні думае, што СП — зборня сяброў, а гэта — хлеў іклатых свіней, вепрукоў, якія гатовыя абгрызці адзін аднаму і лычы, і капыты.

*20 красавіка, пятніца*

Занёс Тáрасу сваю паэму на суд і, магчыма, калі ўпадабае, пераклад. У яго і высока, і ціха — ад смуроду СП. Як падумаеш, СП — гэта той жа самы сталінскі калгас са старшынямі, цівунамі-парторгамі. Літаратура і нармальная (у тав. Леніна партыйная) рабілася па намаганнях зверху колцамі і вінцікамі. Літаратараў назвалі інжынерамі чалавечых душаў, лепей бы сантэхнікамі душаў у ванных. Да робатаў яшчэ чалавека ўспрымалі як механізм.

*21 красавіка, субота*

Забралі Домначку да сябе на выходныя. Намінальная мама Лана недзе брыкае. Якая гэта радасць — трымаць на руках сваё, роднае, жывое! Унучка, мне здаецца, дужа прыгожая. Хай толькі здаровенькая расце, наколькі гэта можна ва ўмовах, дзякуй партыі за гэта, Чарнобыля.

*22 красавіка, нядзеля*

З раніцы да ночы радыё і тэле пра Вову [Леніна]. Яму сёння 120. Кашу заварыў густа і крута, расхлібваемся сем дзясяткаў гадоў і прыйшлі, як загнаныя коні, да пустых ясляў. Быў на Камароўцы. Троху парадкаваў кнігі і паперы. Яны мяне неўзабаве выжывуць. Наведаў Навума. Хворы, стараваты. Усіх гэтае чакае. Паступова патухае ўвага да жыцця, застаюцца толькі ўмоўныя рэфлексы.

---

[1] Дудараў Аляксей Ануфрыевіч (н. 1950), беларускі пісьменнік, драматург і кінадраматург. У 1991–1999 гг. рэдактар час. «Мастацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1985). Гл.: Аляксей Дудараў (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 96.

[2] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1974).

[3] Карызна Уладзімір Іванавіч (н. 1938), беларускі паэт, перакладчык. У 1981–2001 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

*23 красавіка, панядзелак*

Праца. Сустрэча з Феліксам. Зайшлі да Юлі Бураўкінай. Збіраюцца ў Амерыку.

*24 красавіка, аўторак*

Нарада з кнігарамі. Прыехаў на з'езд [СП БССР] Сураўцаў[1], Грыбоўская. У Маскве Вярхоўны Савет называюць палатай мордаў. Паездка мая на Мадэйру пад вялікім пытаннем. Няма валюты. І ўсё!

*25 красавіка, серада*

Адкрыццё X з'езда СП. Палац прафсаюзаў. Зуёнак [прачытаў] добры нетрадыцыйны даклад. Як заўсёды 45 хвілін Ніл адказваў на любыя рэплікі ў свой адрас. Геніяльнае выступленне Васіля Быкава. Аўдыторыя не дарасла да яго.

*26 красавіка, чацвер*

Вэрхал па статуту. Ніл усіх угаворваў за [...] і свайго боталіза Жалязоўскага[2]. П'яны Сыс хадзіў у прэзідыум з бутэлькай да Чыгрынава. Спойваюць Ваўкадамчыкі, бо самі бяздарныя. Выключылі Саўку [Паўлава] старавера з Саюза [пісьменнікаў]. Ледзь пад гарачую руку не трапіў і Навуменка. Калі кандыдатурылі ў намеснікі старшыні, нехта слабым голасам назваў і мяне. Я, вядома, адмовіўся адразу. Сачанка, адмаўляючыся, колькі часу тлумачыў сваю занятасць і важнасць.

*27 красавіка, пятніца*

Працягваўся гвалт пры аб'яўленні вынікаў падлікаў. З бюлетэня знік Глобус. Цэлы мітынг. Сёння ад'ехаў Бурсаў. Зуёнак — старшыня. [...] Жалязоўскі прайшоў невядома як. Хоць вядома.

*28 красавіка, субота*

Праца. Пазваніў Ігару Шклярэўскаму, павіншаваў. Як снег на галаву — ехаць на Мадэйру 4 мая. Я хворы і негатовы.

*29 красавіка, нядзеля*

Брудную ананімку ў рыфму прыслалі. Бруд, брыдкія словы. Відаць, творчасць нашага філіяла «Памяці». Раблюся, значыцца, фігурай, раз ананімкі шлюць. Хочуць запалохаць, зламіць.

---

[1] Сураўцаў Юрый Іванавіч (1931–2001), рускі крытык, літаратуразнавец. У 1976–1992 гг. сакратар праўлення СП СССР (РФ).

[2] Жалязоўскі Анатоль Пятровіч (н. 1943), беларускі пісьменнік. У 1989–1990 гг. сакратар праўлення СП БССР, у 1990–1994 гг. нам. старшыні СПБ.

*30 красавіка, панядзелак*

Напярэдадні свята працоўных перачытваю Эклезіяста. Гэта вечнае, а не саўлозунгі, саўзаклікі. У жахлівай краіне народзішся і ў ёй жа памрэш. Сама па сабе нашая Беларусь — матчына душа, але ў складзе імперыі жыць і ў ёй цяжка. Таму можна зразумець бунт маладых. Яны інстынктам яшчэ неўсвінелым адчуваюць усю афіцыйную ману, фальш, усё прытворства і роднай камуністычнай, і цёмнага, як пляшка пад піва, так званага ўрада. У нас два сталых фактары праз ужо даўнюю гісторыю — паланізацыя і русіфікацыя. У касцёлах, каб пахрысціць малое, ставяць умову запісацца палякам. І ў нас ужо аж пад 2 млн касцельных палякаў. Русіфікатары імі аўтаматычна робяцца і чыноўнікі, паходжаннем беларусы. Нацыянальнасць выбіраюць па жаданню, пры перапісах пытанне: «Рускай мовай валодаеце? Рускі». А тут яшчэ: «Руский язык — язык партии», — (зразумела, мудрай камуністычнай). І гоняць беднага цярплівага беларуса, як ваўка, абкладзенага сцяжкамі. Да палякаў прымкне — там дзяржава, Ватыкан, да рускіх — імперыя ад мора да мора. «Всем известно, что земля начинается с Кремля». А ў беларусаў ні дзяржавы, ні падтрымкі, вялікадзяржаўнікі зрабілі ўсё, каб не было сувязі з эміграцыяй. Праз колькі стагоддзяў беларусы паддоследныя і прасвету не відаць!

*1 мая, аўторак*

Дзень міжнароднай [салідарнасці працоўных]. Сяджу дома. Хварэю. Была Ілона.

*2 мая, серада*

Ніякіх змен. Хворы. Што будзе?

*3 мая, чацвер*

Прыязджаў Мікалай Дзмітравіч Ладуценка. Паслухаў. Параіў не хвалявацца.

*4 мая, пятніца*

Да Якава Абрамавіча. Даў нейкіх моцных і дужа дарагіх лекаў. Стала неяк лепей. Патроху чытаю Афанасьева[1] «Дрэва жыцця», рыхтуюся да паэмы. Нашыя крытыкі ад паэзіі шмат хто нагадваюць сталінска-савецкіх атэістаў. Ні радка Святога Пісьма не чыталі, а ўсё абвяшчаюць опіумам, хімераю.

---

[1] Афанасьеў Аляксандр Мікалаевіч (1826–1871), рускі гісторык, літаратуразнавец, фалькларыст.

*5 мая, субота*

Званіў Фелікс. Трэба да ягонага ад'езду перакласці ягоную беларускую нізку. Шмат пра Ушачы. А гэта галоўнае майму сэрцу.

*6 мая, нядзеля*

Пазваніў Алесю Звонаку[1], павіншаваў з вершамі ў «ЛіМе». Сказаў, што дзве памылкі друку, не далі чытаць карэктуру. Пад дзевяноста, а захаваў і мудрасць, і майстэрства. Дай Бог!

*7 мая, панядзелак*

Закончыў пераклады «Беларускага сшытка» Фелікса Бахчыняна. Нават няблага атрымалася.

*8 мая, аўторак*

Перадрукаваў Феліксавы вершы і Вальдэмаравы [Калініна]. Прыехала з Масквы Ілона. Нейкія карціны ў яе купілі італьянцы. Можа, з мафіі?

*9 мая, серада*

Прыязджаў Фелікс з «Іслачы». Здзіўляецца, як шмат п'юць у нас жанчыны. Асабліва вылучаецца В. К. Нейкі стары ўкраінец спытаўся ажно ў Фелікса: «Гэта жанчына ці мужчына?» Адчуваю сябе кепска. Нешта са мной здарылася.

*10 мая, чацвер*

На працы. Фелікс паехаў.

*11 мая, пятніца*

Паседжанне сойма БНФ. Адкрыў *Пазняк:* «Калі прымалі платформу, заяўлялі пра нашыя адносіны да КПСС, да апарату, да самастойнасці Беларусі. Апошнія падзеі паказалі, што пры дыктатуры КПСС мы не можам атрымаць незалежнасць. Вакол нас суседзі варушацца, а мы як застойны востраў. Мы можам знікнуць з палітычнай карты. Адносіны БНФ да пытання адносін з КПСС і да незалежнасці. Беларусы цяпер як паддоследныя. Эксперымент працягваецца. Пакуль эканоміка будзе ў каланіяльнай залежнасці, мы не вырашым пытанне Чарнобыля. Няспеласць нашага грамадства. Выбары паказалі згубнасць «кансалідацыі» з апаратам. Канкрэтызацыя прапаноў. Склікаць палітычную канферэнцыю Фронта».

Справаздача аб палітыцы Фронта — *Юрась Віктаравіч Хадыка*: «Ідэя незалежнасці пачынае хваляваць народ. Станоўчы прыклад Літвы. Ва-

---

[1] Звонак Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

ндэя абвінавачвае ў самаізаляцыі БНФ. Для нас прыклад Брытанскай садружнасці народаў, якая дазваляе дзяржавам заключаць рэгіянальныя саюзы. Гісторыя нашай краіны — перспектыва для нас. Ёсць і эканамічныя падставы для лакальнага аб'яднання. Эканамічнае аб'яднанне — гарантыя супроць новага захопу. Блакаду Літвы Масква робіць рукамі беларусаў, каб нацкаваць народ на народ. Асацыяцыя свабодных рэспублік Прыбалтыкі, Украіны і Беларусі».

*Вінцук Вячорка*: «Беласточчына, Літва, Віленшчына. Клопат БНФ пра беларусаў, якія на спаконнай зямлі, але не ў Беларусі. Выхаванне Вільняй вяртае нас у Еўропу, гэта знак нашай еўрапейскай цывілізацыі. Дзямянцеева заява народ не ўзварухнула, але вадараздзельчык прайшоў. Пра якую Еўропу мы марым? Па межах змяніліся ўяўленні. Заява Дзямянцея сканцэнтравала ўвагу на беларусаў Віленшчыны. Стварэнне двухмоўнага перыёдыка. У Вільні будзе адноўлена друкарня Скарыны. Беларускі рух на Віленшчыне слабы. Праблемы па абодва бакі мяжы — польскі чыннік, польскі клін, геапалітыка яшчэ скажа сваё. Сітуацыя на Беласточчыне дужа складаная. Выданне «Нівы» скарочана ўдвая, тыраж у Беларусь не ідзе. Афіцыйны ўрад Беларусі спрыяе палякам, а адпаведнасці няма ў Польшчы».

*Трусаў*[1]. Пераадольваць імперскі сіндром на Беларусі. За незалежнасць праз рэферэндум[2]. Актывізаваць культурна-асветніцкую дзейнасць.

*Пётра Садоўскі*. Пра касцельных палякаў.

*Юры Дракахруст*: «БНФ можа апярэджваць народ на крок і не болей. Ёсць прычыны паражэнняў на выбарах. Трэба ўлічваць градус жадання аддзялення. Сталінскія міны, пакладзеныя пад беларускую эканоміку, могуць спрацаваць. Лозунг: "Камунізм болей ніколі"».

*Адам Мальдзіс*. Канферэнцыя ў Рыме.

*Літоўцы*: выратаванне Беларусі ў далучэнні да Літвы.

Прафесар *Хінка* (Канада): «А чым вы дакажаце, што патэльня Рэчы Паспалітай лепей за патэльню расійскую? Папа Рымскі даў зразумець, што яму вядомы клопаты беларусаў. «Беларусы, не забывайце пра розныя ўзроўні свядомасці, не ўпадайце ў эйфарыю».

*Міхась Чарняўскі*[3]: «Кажуць, што мы прайгралі. Прайграў той, хто нічога не мае. Мы нічога не мелі, а частку, якую выйгралі, праіграла наменклатура. Пра садружнасць Балтыйска-ўкраінскую. Саюз ствараўся

---

[1] Трусаў Алег Анатольевіч (н. 1954), беларускі археолаг і гісторык архітэктуры, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1981). У 1990–1996 гг. дэпутат ВС РБ. Нам. старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (1991–1996).

[2] Падрыхтоўка да Усерасійскага рэферэндуму аб захаванні СССР (адбыўся 17 сакавіка 1991).

[3] Чарняўскі Міхась (Міхаіл Міхайлавіч; 1938–2013), беларускі археолаг, пісьменнік. Кандыдат гістарычных навук (1971). У 1990–2001 гг. заг. аддзела Інстытута гісторыі НАНБ.

не рэферэндумам, а пастановамі. Як уваходзілі, гэтак і трэба выходзіць. Частку «Нівы» друкаваць у нас». (А выходзіць, праблема з транспартам, дастаўкай.)

*В. Сядоў.* «Эканамічна незалежная Беларусь, бо яна эфектыўная. Адрадзіць чалавечую асобу».

*Зянон Пазняк*. Пра структуру БНФ. Перарэгістрацыя членаў і групаў. «Паколькі БНФ не стаў масавым рухам, трэба змяніць структуру».

Надзіманыя шары —
Маладыя геніі.
Толькі ўздымуцца вятры,
Вас адразу менее.
Справа надзімаць сябе
Не такая хітрая.
Нават з зоркай у ілбе
Трэба…

*12 мая, субота*

Званіў Васіль Уладзіміравіч. «У ФРГ добра, толькі суткі цягніком цягнуцца цераз 4 граніцы. Выяўленчае мастацтва нікога не цікавіць, на адкрыццё выстаўкі Арлена Кашкурэвіча[1] чалавек 40 актывістаў, аркестр іграў нават «Лявоніху». Берлінская сцяна стаіць, ля Брандэнбургскіх варот сетка і прапускная сістэма. У цэнтры ля вакзала спекуляцыя (*шпіку*ляцыя) валютай аж кішыць. Штучна робяць, і нараджаецца варожасць да літоўцаў, а вякамі мірна жылі. Падаткі, як Чарнобыль, як сухоты, як рак. Нянавісць да інтэлігенцыі, абавязкова трэба некага есці. Адно суцяшэнне, што нам нямнога засталося, горай тым, хто пачынае жыць».

*13 мая, нядзеля*

Дабіваў рукапіс М. Казакова[2]. Перапісаў «Б’ецца ў берагі…»[3]. Дзякуй мудраму маладому майстру Лявону Дранько!

*14 мая, панядзелак*

Прыйшлі ў галаву два радкі: «Беларусь — апора Дзядзюшкі Ягора[4]». Гэта пацвердзіў Баршчэўскі — вытанчаны пародзісты крывіч, сапраўдны беларускі інтэлігент, пасля першага знаёмства з Вандэяй Вярхоўнага Са-

---

[1] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).

[2] Казакоў М. Вянок васільковы (1990). *Казакоў* Міхаіл Аўрамавіч (1938–2000, Ялта, РФ), беларускі, рускі і ўкраінскі паэт. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Чэхава.

[3] Гл.: Б’ецца ў берагі… (22.04 90–13.05.90) // Міласэрнасць плахі. С. 220.

[4] Я. К. Лігачоў.

вета Беларусі паўтараў толькі адно слова — «фашысты», дадаючы, што ён не здзівіцца, калі паставяць дзве шарэнгі паліцыянтаў, каб дапускаць да мікрафона.

*15 мая, аўторак*

На працы. Хадзілі ў Камітэт [па друку] наконт пакоя[1]. Звон Бубнаву[2].

*16 мая, серада*

Праца. Тэлеграма з Літвы — на Вясну паэзіі запрашэнне. Трэба абавязкова ехаць, бо гэта Літва, якая кінула выклік імперыі.

*17 мая, чацвер*

Бегаў-бегаў па даведкі на кааператыўную кватэру Ілоне і нічога не выбегаў. Та́рас дапамог узяць білет на Вільнюс.

*18 мая, пятніца*

Крыху слухаў, крыху глядзеў беларускую «Палату мордаў». Апаратчыкі вядуць па-руску. А закон прыняты. Дзве родныя мовы, хоць маці адна. Можна яшчэ сумнявацца ў бацькоўстве. Затое толькі адна родная камуністычная партыя. Вечарам «Палата мордаў» абрала сабе бацьку — цёмнага, як бутэлька з-пад піва, Дземянцея. Літоўскі корань — плямісты. А ён аднаго колеру — цёмны.

Гардзіцкі[3] днямі званіў, ён робіць даведнік СП. Трэба было б выходзімцам з шэрагаў нашай слаўнай ставіць БЧ [былы член] КПСС. Ніхто сілай не заганяў. Нават Артур Вольскі[4] […] пагаворвае аб выхадзе. […]

*19 мая, субота*

Пайшоў ў хімчыстку. Загадчыца гаворыць з нейкай жанчынай на мінскай рускай мове, і раптам слова *высачыня'.* Аж настрой мой угору пайшоў. Якое свежае слова! Быў у Навума. Званіў Васілю Уладзіміравічу. Ён кажа, што Шушкевіча апарат прыбярэ да рук і будзе па-руску шпарыць. Кажу, што паеду ў Літву. Ён просіць перадаць прывітанне ўсім людзям і пісьменнікам літоўскім. Кажу: «Ці дамаўляцца наконт Ніды?» Кажа: «Паспытайся. Але цяпер на машыне не паедзем, бо Клайпеда дый Калiні-

---

[1] Рэдакцыю Рыгора Іванавіча чамусьці неаднаразова перасялялі.

[2] Бубнаў Генадзь Фёдаравіч (н. 1948), рускі паэт, перакладчык. У 1984–2002 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Нёман».

[3] Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999), беларускі пісьменнік. Аўтар кніг дыялогаў, інтэрв'ю, гутарак пра літаратуру, складальнік біяграфічных даведнікаў. З 1972 г. працаваў літкансультантам СП БССР.

[4] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2005), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

град. І ў самой Нідзе, у той самай сталоўцы, не будзем кожнаму даводзіць сваю пазіцыю, будзем беларусамі, якія перакрывалі літоўцам кісларод».

*20 мая, нядзеля*

Дзень прайшоў з галаўным болем, маім. Здаецца, хмары цяжкія сунуцца ў галаве. У «ЛіМе» паэма Сокалава-Воюша «Два ангелы». Добра прачытаны малады Купала. Толькі атрыбутыкі без купалаўскай снежнай, марознай свежасці. Да слёз хочацца жыць у Беларусі, а не ў калоніі, якая абрывіятурна кляймуецца БССР. Усё вынішчана, усё зрусіфікавана, дакладней — ссавечана, у рыфму так і просіцца *авечына.* Авечая пакора, барановыя мазгі нашых партайгеносаў усё акарыкатурылі. Адчуваеш сябе індзейцам. Ды, веру, і індзейцы маюць болей правоў. Вунь, чытаў у газеце, аслоў, якіх хочуць судзіць за зрыў суда, бо качаліся па траве і паднялі пыл, што суддзя перапыніў чыніць суд, спачатку на абследаванне ў спецыяльную лякарню [адправілі]. [...]

*21 мая, панядзелак*

Праца. Бегаў па горадзе Васілю лекі. Нейкі Дземянцей ці ніжэйшы чынам грамацей мае ўсё, а для гонару і сумлення нацыі нічога няма. З таксістам ехаў. Дык і ён абураны, што Скарыну нейкі завулак адвялі. Трэба, лічыць ён, аддаць Францыску Ленінскі праспект. Гэта вечна. А то партыя рэцэдывістаў усё захапіла.

*22 мая, аўторак*

Праца. Браць хацеў літоўскую анталогію ў кнігарні «Дружба народаў СССР», нічога літоўскага няма. Гэта добра. Дазваніўся да Васіля, прыехаў Карлас з Кубы. Здабыў поўнага Вальеху. Закончым пераклад, значыць.

*23 мая, серада*

Праца. Бегатня перад дарогай. Зяцю лекі ў Яшы. Тлумны Савет працоўнага калектыву. Усё толькі на горла браць. У «Светачы» выстава балгарскай кнігі, на адкрыццё не пайшоў, каб не бачыць Цыбатага з хромавым горлам.

*24 мая, чацвер*

На *Вільню*. Дзень добры, Вільня! На Вострай браме Пагоня вітала мяне радкамі вялікага Максіма. Раньком яшчэ людзей няма, жабракі. Бабка, якой даў колькі грошай, падзякавала на чыстай беларускай мове. Неяк ўсё прыглушана. Жанчына маладая, што давала ключ ад 202 нумара «Асторыі», крыўдзілася, што паспяшалі. Што 40 тысяч чакаецца беспрацоўных, а калі здаровыя дзядзькі пасля піва пойдуць да Дома ўрада,

невясёла будзе. Са мной гаварыла па-руску, тут жа падышоў мужчына — на добрай літоўскай мове.

Валянцінас Свянціцкас тлумачыў, што запрасілі 40 чалавек. Масква нікога не пускае. Візы вяртае, прабіліся з Аўстраліі, Амерыкі, са Славакіі. У магазінах усё хапаюць, як і ў нас. Вечарам з Варшавы гутарка са Збігневам Бжэзінскім[1]. Колькі ён у Штатах, а якая цудоўная польская мова. У нас у Мінску каля [... Сакалова] паходзіць і ўжо мову забывае. Бжэзінскі бачыць адно з выйсцяў палякаў — супрацоўніцтва з немцамі, як французы забыліся на вайну і ў інтарэсах справы. У гасцініцы сустрэў украінскага паэта. Ён выйшаў з КПСС, першы раз прычашчаўся на Вялікдзень, «і гэтак гарно стала на душы, аж заплакаў». Увесь украінскі характар. Гэтак жа, пэўне, плакаў, калі ўступаў у слаўныя рады.

*25 мая, пятніца*

*г. Вілкавішкас*. Аб партпрыналежнасці пракурор, міліцыя, самаўлада. З прызывам у армію таму туга. Салдаты прадаюць бензін па 60 капеек за літр, але ўсю цыстэрну. Дарога на Каўнас вольная. У Вільні добра дыхаецца. Часцей фурманкі і веласіпедысты.

*Сядзіба Саламеі Нерыс*[2]. Яблыні, што яе помняць у лісці, а сарцавіны пустыя, бо карані жывыя, ёсць ліст і цвет.

*Сядзіба Кудзіркі*[3]. 30 год жыў. Наш Максім у нейкай ступені. Калі ехалі з семінарыі, запяялі літоўскую песню, і ён адчуў і падумаў, што ён, зрэшты, не паляк, а літовец. Песня вяртае.

*Сядзіба Басанавічуса*[4]. Пасадзілі дубовы гай нядаўна. Рэстаўруецца будыніна (склеп з праломленым чэрапам захаваўся) — гэта старэйшына духу Літвы.

У сядзібе Саламеі пяе салавей, як па заказу для свята паэзіі. Стаў запушчаны [сад] і таму яшчэ болей рамантычны.

*26 мая, субота*

*г. Шакяй.* Утульнае мястэчка. Базарчык, скверык, нешта робяць у духу новабудоўляў савецкіх з рэчышчам. Помнік Кудзірку ўратавалі цудам, на адным баку поўны тэкст забароненага гімна. Пры ўваходзе ў магільнік крыж, свежая магілка, тэкст на крыжы пра радзіму. Гэта захаванні ці рэшткаў, ці сімвалічныя па ўсёй Літве сваіх гаротнікаў з сібірскай зімы. Ма-

---

[1] Бжэзінскі Збігнеў Казімеж (1928–2017), амерыканскі палітолаг, сацыёлаг.

[2] Нерыс Саламея (сапр. Бачынскайтэ-Бучэнэ; 1904–1945), літоўская паэтэса. Народная паэтэса ЛітССР (1954, пасмяротна). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, пасмяротна).

[3] Кудзірка Вінцас (1858–1899), літоўскі паэт, празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар літоўскага дзяржаўнага гімна.

[4] Басанавічус Іонас (1851–1927), літоўскі грамадскі дзеяч, навуковец.

гіла бацькі Снечкуса[1], маці за мяжой памерла. Кудзірка перад смерцю настолькі выхудзіў (скасілі сухоты), што ямінку між указальным і першым пальцам наліваў і меў гэта за мерку (бо рукі ўжо не слухаліся) раствор з якога наркотыка, морфій.

У Шакяі (шякі — галіны, а сук — развівацца, разгаліноўвацца) вясна паэзіі на пляцоўцы ў скверы. Калгаснік стары чытае вершы свае (авоська чырвоная, капялюш, вымыты дажджамі, і вершы, перапісаныя яшчэ цвёрдай рукой), работніца культуры, школьнікі. Жыве паэзія Літвы. Бензіну не хапае, затое на высокаактанавай паэзіі ідуць і едуць у заўтра, хоць галоднае, але незалежнае. Блакада — ганьба для Масквы.

*27 мая, нядзеля*

Сёння апошні дзень, будзе заключны вечар. Бурштын з халоднай памяццю, а гарыць белым полымем, якое не задушыш. Званіў Васілю. Быкаў: «Хай трымаюцца. Мы на іх спадзяемся. Нашай любай сястры Літве, калі ўбачыш Юстынаса Марцінкявічуса[2], перадай прывітанне. Я шчаслівы, што ў мяне такія сябры, як ён, Слуцкіс[3]». «Літве вольнай» [у дзённіку]. На вуліцы гулянне, кірмаш. У нацыянальных касцюмах. Адчуваецца, што народ на волі, адрастаюць карані. Гучыць полька, скачуць. Дзеткі з гліянымі званочкамі, каб не адбіліся, не згубіліся[4]. Ткацтва, ганчарства. Кубачак піць ваду ці малако 6 р. Індэкс забароненых кніг у СССР [склалі ў] ЮНЕСКО, ёсць і кніга Віт. Бложэ «Прэлюды» (1972).

Паэт Балтакіс і Літва,
Як спарышы, два гэты словы.
Схіляюць класікі галовы,
Маўчыць зайздроснікаў жарства.

*(На «Белой яблоне грома...)*

Альгис! В качестве нагрузки
Прочитай меня по-русски.

Кнут Скуеніекс[5] пра выбары старшыні Латвіі: «Улада валяецца цяпер пад нагамі, і ніхто не хоча браць». Вітаўтас Бложэ пра Гяду: «Ён хоча

[1] Снечкус Антанас Юозавіч (1902/03–1974), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1936–1939 і 1940–1974 гг. 1-шы сакратар ЦК КПЛ. Герой Сацыялістычнай Працы (1973).

[2] Марцінкявічус Юстынас (1930–2011), літоўскі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1975). Народны паэт ЛітССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1957, 1969), Нацыянальнай прэміі ЛР (2001).

[3] Слуцкіс Мікалас (1928–2013), літоўскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў ЛітССР (1978). Народны пісьменнік ЛітССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).

[4] Гл.: Гулянне пад час блакады (27.05.90, Вільнюс) // Міласэрнасць плахі. С. 107.

[5] Скуеніек Кнут (н. 1936), латышскі паэт, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны (1962–1969).

быць вялікім паэтам, а для гэтага трэба быць вялікім чалавекам, а не дробязным і зайздрослівым». А наогул, нам давядзецца зайздросціць і зайздросціць літоўцам — іхняй волі, іхняй вытрымцы, іхняй нацыянальнай нязломнасці. На свяце паэзіі ў Шакяі той калгаснік, што чытаў вершы, быў на нарадзе ў 41 годзе, нарадзе маладых. Лёс паслаў яго ў прыгон савецкі — у калгас. І ён з абмытым дажджамі і выскубленым вятрамі капелюшом і чырвонай авоськай (французскага паэта ў Расіі ўразіла авоська, і ён мне паказваў у Парыжы, смешна вымаўляючы гэтае слова) даў пачытаць Гаспару Алексе[1] Уітмэна на літоўскай мове.

[Адрас:] 232044, Vilnus, Mėnulio 13–69. Aleksa Gasparas, tel. 46–05–57.

*28 мая, панядзелак*

На Мінск! Дрызінай. Адразу ў вагоне кідаецца беларуская нівеліраванасць, безаблічнасць. «Свой похап развагай прыструнь…» [у дзённіку].

*29 мая, аўторак*

Праца. Перасяліліся дзяўчаты [у іншы пакой] адны. Ніхто не дапамог. Клопаты з Валяй. Лена [Стральцова] ўзяла да сябе.

*30 мая, серада*

Прыехаў маскоўскі паэт, ураджэнец Парычаў, Ул. Карпека[2]. Сустрэліся. Пагутарылі. Ён супроць «Апреля» і ПЭН-клуба, не ведаючы, што я і там членам, і там прэзідэнтам Беларускага ПЭН-клуба. Паэт ён так. Культурна-масавы, але затое памяць на дэталі, на нейкія вузельчыкі магутная. Яму б прозу пісаць.

*31 мая, чацвер*

Праца. Званілі з Літфонда з Літвы наконт пуцёвак у Ніду. На працы нейкія крэслы хапаюць, як перад смерцю, наогул, ні ў краму, ні ў браму, нікуды не ўціснуцца. За 70 год вучылі толькі *будь взях*, а забыліся на *будь дах.*

*1 чэрвеня, пятніца*

Як перад пагібеллю, усё хапаюць — ад гуталіна да нітак, усё знікае. Зноў будні сацыялізму, зноў наперадзе светлая, як праседжаныя на азадку штаны, светлая будучыня. Партыя крымінальнікаў давяла да ручкі ўсё. Уключыш тэлевізар — па трох каналах не могуць «определиться,

[1] Алекса Гаспарас (н. 1945), літоўскі паэт, празаік, драматург.

[2] Карпека Уладзімір Кірылавіч (1922–1993), рускі паэт. Лаўрэат прэміі імя. А. Фадзеева (1981).

пробуксовывают, на два порядка выше, архиважно». Як ад марской хваробы, ванітуе ад гэтых «палат мордаў».

Быў у Ілоны. [...]

*2 чэрвеня, субота*

Сядзеў дома. Хварэў. Перапісваў верш. Дзякуй Лявону Д.-Майсюку, мае добры густ. Гэта надзея нашай паэзіі і культуры. Бо маладыя дэмагогі вычхаюцца, як маладое віно адкупоранае.

*3 чэрвеня, нядзеля*

Хадзіў да Навума. Адзін, хворы, стары. У мяне, хоць і не такая сям'я, як хацеў бы, але ўсё-ткі маецца. Адна надзея — унучачка Домначка. Каб Бог даў ёй здароўя. Хоць з надзеяй, што з яе выйдуць людзі, памрэм. Хоць не самая вясёлая надзея, але ўсё ж ёсць.

*4 чэрвеня, панядзелак*

Праца. Пошукі рукапісаў пасля пераезду [на працы].

*5 чэрвеня, аўторак*

Праца. Лятучка. Тлум. Нікога нічога не гайдае. Дажыліся да талонаў на крупы, на макарон. Дзякуй, сацыялізм і родная камуністычная!

*6 чэрвеня, серада*

Зноў беганіна за пашпартамі, можа, Ілоне кааператыўная свеціць. Быў сват Васіль Васілевіч [Клімаў]. Пра голад на Украіне. Праводзіць дзеўчыну і пытае: «Ці праўда, што вы Аксану з'елі (малодшая)?» Яна адказвае: «Аксану і суседа Цімоха». Не стаў болей падыходзіць да дзяўчыны.

Званіў Васіль. Зачытваў абзацы з газеты гадзіннікавага завода. Скобелеў[1] з кампаніяй і там угнездіўся. Як спрут. Парт [...].

*7 чэрвеня, чацвер*

Праца. Званю ў Малдавію. Літкансультант адказвае, што сакратар на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Пытаюся пра Дом творчасці. Кажа, што вада не ідзе. А запрашалі на 1 красавіка. Кажу, што вы асноўная частка Савсаюза, паколькі такі бардэль. Ён мяне папярэджвае, што няма болей слова *товарищ*. А ёсць *господин.* Ці пан, ці прапаў. Дазваніўся да дырэктара, ён сказаў, што ўсё ёсць.

---

[1] Скобелеў Эдуард Марцінавіч (1935–2017), беларускі пісьменнік. У 1966–1991 гг. супрацоўнік апарата ЦК КПБ. Заслужаны дзеяч культуры РБ (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

*8 чэрвеня, пятніца*

Да Васіля. Ірына Міхайлаўна зварыла мне кашу рысавую з разынкамі. На сподачку скрылёчкі каўбаскі. Гэта сацыялізм і родкампартыя забяспечваюць — гэта сусветнаславутага, сумленнейшага пісьменніка, які ў любыя часіны быў Быкавым. Казаў, што зорная гадзіна Ніла. Трэба было адразу служыць [Сакалову] і партыі. Цяпер ужо нашая культура будзе нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце. Васілю заўсёды агідныя людзі, якія сябруюць не з чалавекам, а з пасадай. Наконт Літвы. Нацкоўваюць два самыя блізкія народы. Нам варта падтрымаць Літву. А калі б самі дамагаліся незалежнасці, тады б ужо можна было на роўных гаварыць пра нейкія межы. У беларускага народа Зянон Пазняк — гэта другі Каліноўскі[1]. Ён рэзкі, прамалінейны, але за ідэю пойдзе на плаху.

*9 чэрвеня, субота*

З Ілонай на Камароўку, малады часнык і старую бульбу купілі. Хоць благая, хоць ніякая, але дачка. І душа ляжыць дужа да роднай істоты, адзінай на няўтульнай і халоднай зямлі.

*10 чэрвеня, нядзеля*

Цэлы дзень наводзіў парадак з кнігамі, што цяпер ні ступіць, ні павярнуцца. Без разбору, што ў рукі ішло, збіраліся кнігі. А трэба даведнікі, слоўнікі, нацыянальная літаратура навуковая (а яе мала, амаль няма) і класіка. Якое жыццё, такая і бібліятэка.

*11 чэрвеня, панядзелак*

З Яшам і Мірай [Серперамі] Зайчыка вазілі. Праца. Дома развярнуў усю папяровую труху, канца няма. Не дае спакою ўнучка, як яна там у гэнай бабы? [...] Адчуванне нейкай канчыны. Адначасова запахла паслявайной і нечым непрадбачаным. Імперыя, як лёд на перадпаводкавай рацэ, патрэскалася, але адчуванне ранняга лёду: трашчу-трашчу, а не пушчу. А трэба, каб вясноўвага: ступіў — і шусь.

*12 чэрвеня, аўторак*

Да Радзіка. Глядзелі вершы Ігара Паглазава[2], які трагічна загінуў у 14 гадоў. У такім узросце вершы пішуцца самі, і ні тлумачыць, ні правіць іх нельга. Тым болей нябожчыка. Яшчэ раз глядзеў альбом Пірасмані[3]. Ён трымаецца на абрыве толькі нацыянальным каларытам, толькі нацыянальным светаўспрыманнем. Шагал іншая справа. Высокая тэарэты-

---

[1] Гл.: Каліновец (05.93–22.04.94) // Евангелле ад Мамы. С. 70.

[2] Паглазаў Ігар Валянцінавіч (1966–1980), рускі паэт.

[3] Піросманішвілі Нікалай Асланавіч (Пірасмані Ніко; 1862? — 1918), грузінскі мастак.

чная падрыхтоўка, а нацыянальнае, яўрэйскае робіць яго найадметным. Сыс паэт натуральны, Ваўкадамчыкі сінтэтычныя. Яны хочуць спаіць яго і рабіць дурнем. Цяпер не часы Ясеніна[1], і эпатаваць публіку хамствам не модна. Тады былі інтэлігенты, і іх можна было шакаваць хамствам. А цяперашняе хамства хамствам не шакуеш. Радзік Лапушын працуе па японскаму метаду: на малой плошчы з паветра робіць вершы, не скарыстоўваючы прывознага сыравіннага матэрыялу. Паэт, які можа з нічога напісаць верш акварэльна вытанчаны.

*** [Без даты:] Хацелі б мы таго ці не хацелі, а ў нас як у паэтаў ёсць адсотка сінтэтыкі (у каго большая, а ў каго меншая). А ў паэтаў ранейшых, якія перад намі былі, на сто адсоткаў воўна ці кужаль.

*13 чэрвеня, серада*

На працы паседжанне. Дзелім новыя аклады, павелічаем дэвальвацыю. Расказваюць, хто глядзеў камедыю праз слёзы — Вярхсавет БССР, Цёмянцей не змог выгаварыць і сказаў: «Саюз сувенірных дзяржаў». На гэты раз непісьменнасць да сэнсавай гульні прывяла.

*14 чэрвеня, чацвер*

Зноў засядалі. Дырэктар наш у крутой вадзе немаўлём купаны. Заводзіцца, любую заўвагу бярэ, як той паляк у анекдоце, на сваю конту. Успомніўшы цыбатага Ніла, напісаў: «Хромавыя горлы» [у дзённіку].

*15 чэрвеня, пятніца*

Цалюсенькі дзень сяджу дома. Валэндаюся з кніжнымі заваламі. Хачу нейкага парадку, а гэта не ўдаецца.

*16 чэрвеня, субота*

Археалагічныя раскопкі ў кнігах раблю. Цюкую. Збіраюся ў Вушачу.

*17 чэрвеня, нядзеля*

Сазваніўся. Здаецца, будзе грузавік. Павязу ў Вушачу перыёдыку беларускіх часопісаў і такія-сякія кнігі.

*18 чэрвеня, панядзелак*

*Ушача!* Пятрок сёрбае халаднік. Цвярозы, таму і ўрачыста-замаруджаны ў рухах. Хоць па талонах, але прывёз сваёй апошняй радні па бацькавай лініі. Марыя Рыгораўна з казой. Прынесла мне малачка і пад хуры'мам расказала, што землячкоў забрала як казлоў за яйцы. Мураванка бяльмом у воку. Адны сказалі, што я пабудаваў хату за казённыя

[1] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

грошы і мяне сключылі з пісацеляў. Сусед — я ў Амерыцы нажыўся. Дзякуй землякам — любяць, цэняць і паважаюць! Зайшоўся да мамы, пасыпаў цукерак на траву-мураву. Пры выхадзе ў загароджы адной магілы стол. На ім ляжыць чорны кот. Як смутак жывы.

*19 чэрвеня, аўторак*

Праца. Зноў вэрхал з зарплатамі. Зайшоўся ў сувеніры, купіў ручнічкі.

*20 чэрвеня, серада*

Гэтак і не высветліў, што рашыла паседжанне ўдзельнікаў штурму Зімняга наконт кааператыўнай кватэры Ілоне. Сталін імперыю праектаваў на вякі — моцна і трывала, на крыві. Паўсюль мудры сталінскі закон дзейнічае, у сіле, а на словах кажуць пра перабудову. КПСС, КДБ, ВУС (ваенна-ўзброеныя сілы) — на трох кітах трымаецца самая крывавая імперыя за ўсё існаванне людства. Сцены пачалі хістацца, але камяні, якія вывальваюцца са сцен крывавага мура імперыі, забіваюць насмерць, бо б'юць па цемю галовы, якія сабе дазваляюць раскошу думаць, задумацца, сумнявацца. Колькі народаў знішчана. На патоку наш, беларускі. Геаграфічна мы самая што ні ёсць Еўропа, а на справе пад бізунамі […] Сакалова і […] Цёмянцея. Самая занюханая ўскраіна імперыі з чатырох літар, лепей бы з трох! Бог пракляў гэтую яміну, якая завецца Савецкім Саюзам.

*21 чэрвеня, чацвер*

На працы. Збіраўся ехаць у Вушачу, але закруцілі справы. Пазваніў Шклярэўскі, што прыязджае.

*22 чэрвеня, пятніца*

Дзень вайны. Сумны ўсімі ўспамінамі дзень. Памятаю яго яшчэ з дому, з малых дзён. Нейкім страхам адгукаецца ў крыві. Прыехаў Шклярэўскі. Хадзілі ў Вярхсавет да Кебіча[1] наконт перасялення чарнобыльцаў, каб 16 млн з рахунка аддаць людзям, хай самі будуюцца. Кебіч абяцаў дапамагчы будаўнічымі матэрыяламі. Лявонаў[2] з Магілёва расказваў, што ў «Палаце мордаў» усё супакойваецца, калі не ідзе тэлетрансляцыя. Мне ў галаву прыйшла думка, а чаму б не прыдумаць гульню накшталт марскога бою, футболу, гульню ў партапарат. Хай бы дзеці прывыкалі!

---

[1] Кебіч Вячаслаў Францавіч (н. 1936), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1985–1990 гг. нам. старшыні СМ БССР, старшыня Дзяржплана БССР, у 1990–1994 гг. старшыня СМ РБ. Кандыдат эканамічных навук (1990). Заслужаны машынабудаўнік БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1978).

[2] Лявонаў Васіль Севасцьянавіч (1938–2015), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

*23 чэрвеня, субота*

Праводзіў Шклярэўскага. Выдатны паэт, але чалавек, сканцэнтраваны на ўласнай асобе. Добра з ім і цяжка. Лявонаў даў яму машыну, на радзіму ў Магілёў паехаў як белы чалавек на белай «Волзе». Глядзеў кавалак прамой трансляцыі з Магілёва. Лявонаў яшчэ выглядае чалавекам, а рэшта апарату — неандэртальцы магілёўскія.

*24 чэрвеня, нядзеля*

Да Навума. Адзін ваўком. Старасць рэч невясёлая. Усіх чакае, але не ўсіх дачакацца хапае ў яе цярпення[1].

*25 чэрвеня, панядзелак*

Устаў ні свет ні зара сустрэць Бурсава. Не сустрэў.

На працы зноў дзялілі грошы на страхаванне. Надакучыла скваппнасць і дробязнасць.

*26 чэрвеня, аўторак*

Нарэшце дапаў да Бурсава ў гатэлі. Увесь у справах, пачаў добра гаварыць па-беларуску. Бачыў сваю кніжку пра вожыкаў у кааператараў за 4 рублі, а яна каштуе недзе 1,5 рублі. Збіраецца напісаць казкі па-беларуску. Зварот да дзіцячага свету, да маленства. Партыя крымінальнікаў зрабіла ўсё, каб у беларусаў не было беларускага маленства. Свінакомплексы, дзіцячыя комплексы — усё на мове старэйшага брата.

*27 чэрвеня, серада*

Заходзіў да Навума. Та́рас дужа хворы. Навум самотны, выбіты з клапотаў грамадскіх. Развітаўся з Бурсавымі. Яны паехалі ў сталіцу савецкай імперыі.

*28 чэрвеня, чацвер*

Да Карласа. Расказваў пра Кубу. Сацыялізм савецкага гатунку ўсіх даводзіць да галечы.

*Домначцы*

Здаецца, ува мне разбіўся звон
На тысячу і адзін званочак.
Распаўся ланцуг на пырскі звён,
Прыплыў без вясла чаўночак.
І кожны званочак баліць-пяе,
Напінаецца кожнае звёнка, —

---

[1] Гл.: «У невядомасць галаву высоўваю...» (25.06.90) // Міласэрнасць плахі. С. 171.

Усё гэта ўнучачка, гэта яе
Плач ува мне засмяяўся звонка.

«Журкевічу, каб не журыцца…» [у дзённіку]. Наваселле ў Паўла Паўлавіча[1]. Аднапакаёўка на 11-м небе. Яшчэ пуставата. На стэлажах амаль усе тамы беларускага фальклору.

*29 чэрвеня, пятніца*

Нешта часта ўвальваецца ў мяне немач. Аж смешна — зноў хварэю. Ці не пераношу гэтую спёку, ці першыя званкі. Прыйшла «Вясёлка» № 6, надрукаваны вершык, прысвечаны маёй унучачцы — Домначцы. У дзеда адна радасць і адна надзея, можа, з яе хоць людзі будуць. […]

*30 чэрвеня, субота*

Ледзь падняўся к паўдню. Паехаў да паляка ў «Мінск». Актыўны ўдзельнік «Салідарнасці» Рычард Капусцінскі[2]. Расказваў, як быў у гасцях у членаў Народнага фронта чукчаў. З раніцы ўсе былі ўжо добра п'янаватыя. Гарэлкі мора ўпершыню ў Савецкім Саюзе, бо зараз хоць са сваёй у госці ідзі. Аб'ехаў свет. Толькі цяпер сталі друкаваць у Маскве, раней за «Салідарнасць» — не.

Перадалі ў праграме «Час», як расправіліся ўказам прэзідэнта з кэдэбістам Калугіным[3] («Комсомолка» [«Комсомольская правда»]). Напярэдадні чарговага гістарычнага з'езда партыі уголовников паказваюць, што «кантора глыбокага бурэння» недатыкальная. Калі што — і Мішу [Гарбачова] на месца паставяць. Званю Васілю Быкаву, ён каментуе, што, відаць, генерал у адстаўцы вырашыў рабіць палітычную кар'еру. Калі б перад выбарамі выступіў, быў бы ў Вярхоўным Савеце. І камісію б узначаліў, як у нас Піскароў[4]. Зайшла гаворка пра Кугульцінава[5]. Васіль: «Трэба глядзець не як чалавек у Маскве выглядае, а як дома. Гэта тычыцца і Алейніка, і Ніла. Ніл нейкі час у Маскве слыў дэмакратам».

*** Чыталі, што [адбываецца] ў Маскве, а дома — не.

---

[1] Журкевіч П. П., нам. дырэктара па вытворчасці выд-ва «Мастацкая літаратара».
[2] Капусьцінскі Рышард (1932–2007), польскі пісьменнік, публіцыст, журналіст. Ураджэнец Беларусі.
[3] Калугін Алег Данілавіч (н. 1934), генерал-маёр запасу КДБ СССР. А. Калугін раскрыў некаторыя справы КДБ, якія, на яго думку, несумяшчальныя з прынцыпамі дэмакратычнага права дзяржавы. У 1990 г. быў пазбаўлены дзяржаўных узнагарод, воінскага звання і пенсіі (узноўленыя у 1991). З 1995 г. жыве ў ЗША.
[4] Піскароў Віктар Аляксеевіч, нам. старшыні КДБ БССР.
[5] Кугульцінаў Давід Нікіціч (1922–2006), калмыцкі паэт. Народны паэт КАССР (1969). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1976).

*1 ліпеня, нядзеля*

Вязу Капусцінскага на сесію БНФ, заязджаемся па Быкава. Едзем разам. Канферэнцыя БНФ «Незалежная Беларусь».

*Вячорка:* «Адроджаная, незалежная, некамуністычная Беларусь! Рэальная, але не цацачная шматпартыйнасць».

*Віктар Івашкевіч* пра аргпытанні.

*Ігар Чарняўскі*[1]: «Стварэнне агульнагарадскога дэпутацкага клуба і рэспубліканскага».

*Алесь Емяльянаў*[2]. Нацыянальнал-дэмакратычная партыя.

*Банкевіч*[3] супроць крыкунства Емяльянава, супроць ягонага гультайства. «Падняць дзейнасць суполак. Праца па падпісцы на прэсу БНФ. Структуру трэба ўдасканаліць».

*Васільеў:* «Адносіну да КПБ — злачынная арганізацыя. За ідэю ў турму лепш. За сярэдневечча 36 чалавек, гэта кропля ў моры. Маці гаворыць: «Няма вайны і хлеба хапае». Гэта псіхалогія цэлага пакалення».

*Міхась Паўлаў*[4] (Віцебск): «Многія прыхінуліся да руху, не ведаючы ні статута, ні праграмы БНФ».

*Іофэ*: «Беларуская дэмакратычная партыя (Гродна) — ідэалогія кампартыі камунізму як ілжэнавуковая павінна быць адхілена. Праграмы многіх партый дубліруюць кампартыю. Не даваць бальшавікам крэдытаў, не дазваляць пратэсту агоніі бальшавікоў. Агонія бальшавізму».

[Мал. В. Быкава] «Канферэнцыя БНФ «Адраджэнне» «Незалежная Беларусь. Менск, 30.6.90». Злева направа: Хадыка, Ткачоў, Пазняк, Трусаў. Гэта мне намаляваў Васіль Уладзіміравіч.

*Бельмач*: «Партыя злачынцаў, а бюракратыя толькі служка ў яе. Нельга [быць] ў БНФ і ў КПСС».

*З Гомеля*: «Ці добры камуніст, ці кепскі, як добры фашыст і кепскі. Каб у нас не было камуністаў».

*Алег Трусаў*: «Калі запішам «некамуністычная Беларусь», будзем як паў-Афрыка і Турцыя. Тузаць за хвост мёртвага тыгра не так і смела. Можам дайсці да Румыніі. Павінны напісаць не «некамуністычная» Беларусь, а «нетаталітарная» Беларусь».

*Райко*[5]*:* «Ганебна казаць: ліквідацыя вынікаў Чарнобыля. Трэба ратаваць чалавека».

---

[1] Чарняўскі Ігар Мяфодзіевіч, у 1990–1996 гг. дэпутат Мінскага гарвыканкама, старшыня пастаяннай камісіі па ахове культурнай спадчыны і СМІ.

[2] Емяльянаў Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; 1952–2005), беларускі паэт. З 1986 г. літкансультант СП БССР.

[3] Банкевіч Генадзь (1930–2007), ваенны інжынер; падпалкоўнік.

[4] Паўлаў Міхаіл, сябар камісіі па культуры Віцебскай рады БНФ.

[5] Райко Эдуард, вайсковец; падпалкоўнік запасу.

*Шкірманкоў*[1] (Слаўгарад): «Трэба адрозніваць, хто ёсць хто, а не агулам супраць ўсіх камуністаў».

*Ткачоў:* «Выпусцілі важную частку грамадства — моладзь. Партыя ад 16 да 30 год «Маладая Беларусь», «Моладзь незалежнай Беларусі». Крайнасці змыкаюцца. Сакалоў [казаў]: «Камуніст не можа быць у БНФ», — а мы наадварот. Віншую. Не біць нагамі ў пустое вядро антыкамунізму. Прыбалтыйскія франты перацягнулі ўвесь інтэлект, які і ў партыі [знаходзіўся]».

*Берштэйн*: «Зрабіць юрыдычны вышук кампартыі і маёмасць нацыяналізаваць. Пашырыць сферы ўплыву БНФ. Зрабіць рухам, які аб’яднае ўсе дэмакратычныя аб’яднанні».

*Сацэвіч:* «Пытанне экалогіі — базіс камуністычнае спажыванне на ачышчэнне, пакаянне, сумленнасць, у галаву вугла паставіць — экалагічная партыя Беларусі».

*Фелікс Янушкевіч*[2]: «За хрысціянства. 16 чэрвеня з’езд каталіцкай грамады. Беларускае каталіцкае грамады. 50 ксяндзоў з Польшчы».

*Пазняк*: «Трэба асцярожна з членствам КПСС. Фронт — рух партыі супроць таталітарызму. Камуністы перасталі баяцца мітынгаў».

*Вінцук Вячорка*. Заўвагі да рэзалюцыі.

З Васілём паехалі дамоў. «SOS: Рассыхается ралля…» [у блакноце].

*2 ліпеня, панядзелак*

Праца. Лявон Баршчэўскі расказваў, як удалося выбраць на пасаду старшыні камісіі Садоўскага. Апаратчык Борыс на машыне збіў хлопчыка. Шафёру нічога не было. Маці хлопчыка прыйшла да Вярхоўнага Савета. За 5 хвілін (каб не раіліся са [… Сакаловым]) Кавалёнак[3] падышоў да Борыса, і той зняў сваю кандыдатуру. […] Мілаванаў, які цкуе Быкава, паехаў у Літву як дэпутат, а там яму напомнілі пра дзейнасць у КДБ і як член ЦК Літвы катаваў, знішчаў, высылаў літоўцаў. Усе, хто падымае руку на Быкава, дрэнна заканчываюць.

Аддаў артыкул у «Беларусь», можа, дадуць.

*3 ліпеня, аўторак*

На працу да нас прыходзіў Васіль, прынёс рукапіс (расклейку) 1-га тома шасцітомніка і фота. Гэта цэлы космас, на кожным фота Васіль і такі, якога ведаеш, і не такі. Але паўсюль унутрана зясяроджаны, недаступны

[1] Шкірманкоў Фелікс Уладзіміравіч (н. 1926), беларускі паэт, грамадскі дзеяч (Слаўгарад).

[2] Янушкевіч Фелікс Язэпавіч (н. 1954), беларускі мастак.

[3] Кавалёнак Уладзімір Васільевіч (н. 1942), лётчык-касманаўт СССР (1971), генерал-палкоўнік авіяцыі (1993). Кандыдат ваенных навук (1986). Прафесар (1991). Акадэмік Расійскай акадэміі касманаўтыкі (1991). Герой Савецкага Саюза (1972, 1978, 1981). У 1984–1992 гг. дэпутат ВС РБ. Ураджэнец Беларусі.

для мітусні цікаўных вачэй. Прагін[1] запытаўся: «А ці шмат у Вас ваенных фота?» Васіль: «Мяне ж не атакавалі фотакоры. Два разы сфатаграфаваўся ў 1944 годзе — адзін раз у Малдавіі, другі у Румыніі». Прагін паказвае фота, дзе салдату ўручаюць узнагароду. Васіль: «Гэта камандзір уручае, а не я, а мяне абрэзалі на фота». Пасля праводзіў яго трошкі. Ён мне сказаў колькі быкаўскіх прыемна-ашчадных словаў. Як мала трэба чалавеку. На ўвесь дзень мой настрой быў у зеніце. А тут яшчэ дома прыйшло пісьмо ад Эміна, дзе ён добрыя словы кажа пра «Белую яблоню грома». Прачытаў у бальніцы. І напісаў. Дзякуй яму, чалавеку, якога ведаюць далёка і па якім ведаюць Арменію. Сёння ў мяне як імяніны. Нават іх не азмрочыў каркат з з’езда[2] рэцыдывістаў у цэнтры імперыі.

*4 ліпеня, серада*

На працы. Прыходзіў Іван Шамякін. Клапаціўся пра аплату, пра тыраж. Пасля, калі праводзіў яго, са смуткам заўважыў, што калі і далей так пойдуць справы, галадаць будзем. Народ і цяпер галадае, заўважыў народны пісьменнік, але можа гэтак здарыцца, што і мы будзем галадаць. Вечарам пазваніў Быкаў. Яго прасілі мы даведацца год нараджэння Сіняўскага, 8.X.1925 г. Андрэй Данатавіч. Яму званіў Та́рас, хваліў артыкул у «Литературной газете», толькі сказаў, што шмат сказана пра Зянона. Мы з Васілём пагадзіліся, што не дужа калі чуе Зянон добрае слова, толькі б’юць і б’юць чалавека і апаратчыкі, і марксісты-ленінцы, уся шваль гісторыі, усё ашмоцце. Пры такой занятасці Васіль знайшоў час і знайшоў нам для даведкі і год, і дату нараджэння Сіняўскага.

*5 ліпеня, чацвер*

Сягоння ўнучачцы аж цэлы год. Залатая мая Домначка недзе ў свацці. [...] Усплываюць у памяці, чым далей, тым болей ушацкія словы. Раптам усплыло з яўна неславянскай агаласоўкай — *лавэр* — беспарадак, развал у хаце. Нешта паміж яўрэйскім і цыганскім. Трэба спытацца ў Вальдэмара Калініна.

*6 ліпеня, пятніца*

Да Якава Абрамавіча. Ягоныя малыя навастрылі лыжы ехаць, усе бягуць з гэтай клятай краіны. А тут яшчэ на з’ездзе думаюць, як умацаваць аўтарытэт партыі, якая прывяла да краху гэтакую краіну. З Ілонай хадзілі купляць падарунак Валі. Скрозь гола. Чытаю «Старажытную вышэйшую магію».

---

[1] Прагін Леанід Якаўлевіч (1925–1986?), беларускі кніжны графік; мастацкі рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».
[2] XXVIII з’езд КПСС (2–13 ліпеня 1990 г.).

*7 ліпеня, субота*

На вечар Марка Захарава. Смелы, дасціпны, тут ён сябе крыху цугляў. Пачынаў добрымі словамі пра Быкава і ў сярэдзіне пры адказах на пытанні паставіў Быкава як узор грамадзяніна і пісьменніка. Па тэле лепей глядзець і слухаць Захарава.

*8 ліпеня, нядзеля*

Задажджыла, зацягнула. Надоўга, відаць. З Віктарам Дзміт. з'ездзіў на лехі[1]. Усё зялёна, ціха. Гаспадара няма. Пажыць бы крыху ў цішыні, якая нагадала б цішыню мамінай хаты. Толькі ў мамы было і ціха, і ўтульна, і ўежна, і ўлежна. Адчуванне гнязда, наколькі можа сабе чалавек уявіць гняздо ў прымяненні да сябе. Толькі ў мамы[2].

*9 ліпеня, панядзелак*

Сёння ў Валі дзень нараджэння. Пайшла адзначаць на працу, цэлы дзень кухарыла ўчора. Ілоны не чуваць, можа, паехалі абабіраць ягады. На працы ўсё ціха. Усе нармальныя людзі недзе на поўднях. Думаю, што па часе і пісьменнікаў будуць разбіраць як саўдзельнікаў у сталінскіх злачынствах, бо славілі, бо ўбівалі людзям у галовы вар'яцкія ідэі камунізму. За ўзор быў узяты Маякоўскі. Пад яго рабілі вершы, пад яго пісалі агідкі (менавіта пра *д*, а не пра *т*).

*10 ліпеня, аўторак*

Сёння лятучка. Вынікі тыражных камісій. На Вальеху заказ недзе 320 ці 360 экз. На Норвіда[3] каля 600. Анталогія малдаванаў 600 экз. З беларускай забітасцю нельга выходзіць на рынак. Дый які ў нас рынак можа быць, калі на адных шалях будуць [… сакаловы], а на другіх нігіліст-пакупнік.

*11 ліпеня, серада*

З самай раніцы па кватэрных пытаннях Ілоны. З Сашам Зэйфам ездзілі на ўчастак браць Ілону. На запраўцы, як на ўсходнім базары. Усе нервовыя. Блакада Літвы мітраполіяй адгукнулася і тут, сталі браць у запас. Літоўцам прадавалі па 1 руб. літр. Нажыліся каралевы бензакалонак. Жывем у крыдыт вялікіх пісьменнікаў, нашых папярэднікаў. Крэдыт сыходзіць на не. Тут і самаспадман, што і мы пісьменнікі. У савецкай імперыі адзінкі могуць наблізіцца да звання пісьменнік, а рэшта — рэвалюцыяй

---

[1] Дачны ўчастак Барадуліных у Заслаўі.

[2] Гл.: «Звыкаю слухаць глухую стому…» (10.07.90) // Міласэрнасць плахі. С. 36.

[3] Норвід Цыпрыан Каміль (1821–1883), польскі паэт, драматург, мастак, скульптар.

мабілізаваныя і закліканыя, літаратурныя шарыкавы[1]. Народ цярплівы, але да пэўнай мяжы.

*12 ліпеня, чацвер*

На працу. Сёння 70 год Ядвізе Юльянаўне Раманоўскай[2]. Сямейны вечар у Музеі Янкі Купалы. Прачытаў ёй верш: «О пані Ядвіга…» [у дзённіку]. Вечарына прайшла хораша. Лёлін брат[3] расказваў пра Грахоўскага. Як ён выжыў. Усе кэдэбісты-ахоўнікі вучыліся на юрфаку Ленінградскага універсітэта. Грахоўскі за іх пісаў курсавыя, дыпломныя. Перадавалі яго адзін аднаму. Таленавітыя адразу загінулі, а прыдуркі і цяпер жывуць! Расказваў яшчэ, як у кержанскіх лясах, у туалеце, прачытаў: «Тут загінуў беларускі Ракіта[4]». Гэта дзядзька Сяргея. Трэба сказаць Законнікаву.

*13 ліпеня, пятніца*

Трынаццатае, яшчэ надзяліць да яго панядзелак — маё шчаслівае супадзенне. Аббегаў цэлы дзень у пошуках Якава. Нічога не атрымліваецца з кватэрай Ілоне. На працы віншавалі Галіну Шаранговіч. Чытаў радкі ў гонар Галачкі.

*14 ліпеня, субота*

Дажджы. Сум. Хочацца ў Вушачу. Трымаюць справы.

*15 ліпеня, нядзеля*

Вечар Галі ў «Свіцязі». Два рэктары — Шаранговіч і Казінец[5]. Як расцвіла нашая культура, сацыялістычная зместам і нацыянальная формай. Сумна стала на банкетах. Шмат няшчырасці, стомленасці гадамі. Марыя Мальдзісава засталася натуральнай, і гэтым яна арыгінальная. Колькі песень, колькі папевак. Колькі слоў пачуў ад Казінца добрых, ад Каляды[6]. ! У гэтым ёсць свой аксаміт.

---

[1] Шарыкаў — герой рамана М. Булгакава «Сабачае сэрца». *Булгакаў* Міхаіл Афанасьевіч (1891–1940), рускі празаік і драматург.

[2] Раманоўская Я. Ю. (1920–2011), пляменніца Я. Купалы. Арганізатар беларускай музейнай справы, захавальніца літаратурнай і архіўнай спадчыны Я. Купалы.

[3] Рыдзеўскі Ігар Міхайлавіч (1916–1994), брат Алены Міхайлаўны (1911–1982), жонкі П. Броўкі. Быў рэпрэсаваны (1944–1946). У 1983–1994 гг. працаваў галоўным захавальнікам фондаў Літаратурнага музея П. Броўкі.

[4] Ракіта Сяргей (сапр. Законнікаў Сяргей Васільевіч; 1909–1942), беларускі паэт. Рэпрэсаваны.

[5] Казінец Міхаіл Антонавіч (н. 1938), беларускі дырыжор, педагог. Народны артыст БССР (1987). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978). Прафесар (1990). У 1985–2005 гг. рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

[6] Каляда Анатоль Данілавіч, беларускі фотамайстар.

*16 ліпеня, панядзелак*

Цэлы дзень пратырчэў на тэлефоне дома, чакаючы, што вынікне з перамоў па кватэры Ілоне. Перачытаў нобелеўскую прамову (лекцыю) Бродскага[1]. Слоўная тканіна добрая, глыбіні і адкрыццяў няма. Адчуваецца, што доўга думаў, як лепей сказаць.

*17 ліпеня, аўторак*

Цэлы дзень бегаў і ездзіў па справах куплі кватэры Ілоны. Даведкі, подпісы, пячаткі. Здаецца, з іх складаецца ўсё нашае жыццё ў імперыі. Усяго не хапае, толькі, відаць, партбілетамі можам і Кітай забяспечыць. Дапамагаў адзін вараціла з мафіі — нахабны, упэўнены, важны, п'янаваты. Партапаратчыкі і ценявыя дзялкі і вершаць баль[2].

На вуліцы хлопчык едзе на веласіпедзе, адзін абаранак вялікі кусае, два вісяць на рулі, як у баранчыка на рагах. Хоць гэтая сцэнка распагодзіла мой настрой.

*18 ліпеня, серада*

Сёння дзень нараджэння Ілоны. Бегаем, афармляем ёй кватэру. Добры падарунак на дзень нараджэння. Хоць і свінка яна добрая, але ж дачка. Наогул, кожны бацька варты сваіх дзяцей. Здаецца, што ўсё вырашылі.

*19 ліпеня, чацвер*

Праца. Абмеркаванне планаў 1992 г. Узнікла Эдзі Агняцвет[3]. Большына супроць нават упамінання гэтага прозвішча. А Дайнека Леанід Партыйнавіч: «Гэта ахвяра часу, усім трэба жыць...» Тое, што яна з Кучарам[4] на той свет адправіла сотні і сотні, выходзіць, нічога. Псіхалогія кормніка — амаль наша нацыянальная рыса. Трэба было б напісаць верш «Крывавыя савецкія святыя» пра ўсіх [...] камандармаў і членаў ленінска-сталінскага ЦК і ЧК.

*Барысу Забораву*
*(на «Самоце паломніцтва»)*

Барыс, бяры ж
Парыж смялей
У дужыя абдоймы.

---

[1] Бродскі Іосіф Аляксандравіч (1940–1996, ЗША), рускі паэт, перакладчык. У 1964–1965 гг. знаходзіўся ў ссылцы за «дармаедства». З 1972 г. у эміграцыі ў ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1987).

[2] Гл.: Чым багаты (17.07.90) // Міласэрнасць плахі. С. 191.

[3] Агняцвет Эдзі (сапр. Каган Эдзі Сямёнаўна; 1913–2000), беларуская паэтэса і перакладчыца.

[4] Кучар Алесь (Айзік Евелевіч; 1910–1996), беларускі крытык, драматург, сцэнарыст.

П'ючы барыш,
І сам хмялей,
А парыжанак плоймы
Няхай плывуць у нераты,
Якія ўмееш ставіць ты!

*20 ліпеня, пятніца*

Учытваюся ў Мандэльштам[1]. Падступаюся да перакладаў.

*Кляніце Дземянцея, а ён сыцее.* «Свінаферма Сакалова…» [у дзённіку]. Пісаць пра гэтых […] — марна студзіць язык. Пакуль трымаецца кіроўная і накіроўная сіла, нічога не зменіцца.

*21 ліпеня, субота*

Здаецца, пайшлі пераклады Мандэльштама. Цэлы дзень б'юся. На асалоду душы зазіраю ў слоўнік Ластоўскага[2]. Па радыё спяваў стары з Дубровеншчыны. Пазычаныя слёзы, — пра маладую, якая не плача.

*22 ліпеня, нядзеля*

Да Та́раса. Занёс яму лекі. Цікавую думку С. Ліпкіна[3] працытаваў Валянцін: «Чалавек мінус Бог — фашыст». Таму так зацята змагаліся з опіумам для народа бальшавікі, каб зрабіць бязмозглай і бездухоўнай масу, а яе можна называць і фашыстамі, і камуністамі. Сэнс адзін. Толькі ўлады розныя. «І дождж, і кроў зямля ўбірае…» [у блакноце].

*23 ліпеня, панядзелак*

Разлічыўся за Ілоніну кватэру. Цяпер, як у маладыя гады, лёгкі ад грошай і цяжкі на клопаты. Званіў Васілю, ён недзе перад лётчыкамі ідзе выступаць. Не даюць яму ні хвіліны продыху, разрываюць на кавалкі. Адкуль у яго яшчэ клёк бярэцца? Але пакуль ёсць у нас Быкаў, нацыя можа лічыцца паўнацэннай, не дземянцеепадобнай.

*24 ліпеня, аўторак*

На працу. У так званым парламенце нашым ідзе барацьба за партфелі міністраў. І жук і жаба дзярэцца. Мышленне яшчэ сталінскае — міністр, значыць, сакратутка, машына і шмат падмызнікаў-халуёў. Няўжо нічога не зменіцца?

---

[1] Мандэльштам Осіп Эмільевіч (1891–1938), рускі паэт, перакладчыкі. Рэпрэсаваны.

[2] Ластоўскі В. Руска-беларускі слоўнік. Коўна, 1924. *Ластоўскі* Вацлаў Юсцінавіч (1883–1938), беларускі крытык, літаратуразнавец, паэт, празаік, публіцыст. Рэпрэсаваны.

[3] Ліпкін Сямён Ізраілевіч (1911–2003), рускі паэт, перакладчык. Народны паэт Калмыцкай АССР (1968). Герой Калмыкіі (2001). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ТаджССР імя Рудакі (1967).

*25 ліпеня, серада*

Званіў Васілю, заўтра сустракаемся а 10-й раніцы. Наконт афармлення і фота да ягонага Збору твораў. Сустрэў Перагуда[1], з актора, з рэжысёра стаў штампоўшчыкам на тэрмапласце — турмапласце, як называюць рабочыя. Ён мне сказаў: «Вітаю лепшага паэта нашага пакалення». І сумна мне стала, і горка. Час мінуў, цягнік пайшоў. І я ўжо ў мінулым часе. Як ні тужся, як ні пніся. Яшчэ расказваў мне Перагуд. Ля Першаёў вёска, здаецца, Баравікі. Улюбёныя мясціны Перагуда. Пад'язджае на машыне, там мясціна — мясцовыя людзі завуць Пасекай. Шыльда, кажа Перагуд, па-беларуску — гэта прыемна. А далей — слёзы самі паліліся. «Увага. Радыяцыя. Збіраць грыбы, ягады і г. д. забараняецца». Але ж рука сама за 30 метраў далей пацягнулася за малінінай. Мы яшчэ цёмныя ў новай сітуацыі, у нас яшчэ даатамнае мышленне, думанне.

*26 ліпеня, чацвер*

Прыходзіў Васіль. Адабралі фота да ягонага Збору твораў. Пра Ніла — ссучыўся, так і сказаў. Партакратыя новыя формы барацьбы [вынайшла] — захопліваюць у свае рукі друкарні і паперу. Набор няўгодны можа знікнуць у невядомым кірунку. Набяруць як хочуць. Некаторыя думаюць, што з гадамі лепей пішацца. Наадварот, вопыт перашкаджае. А маладому, што ў галаву прыйдзе, нават самае вар'яцкае, тое і піша.

На Ушачу. *Бягомль.* Пад'язджае аўтобус. Чародка вачапораў так пасля 10-ці гадоў тут як тут. І адразу ў туалет, пазадзіралі голыя срачкі і робяць выгляд, што нешта робяць. І толькі галасы: «Глядзі-гладзі [...]». Бо праз сценку, у якой яны, як пацукі, натачылі дзірак, жаночы туалет. [...] Што вырасце з гэтакіх? Ні царквы, нічога ў былым райцэнтры няма. Советский образ жизни.

*Ушача!* Прыехалі з цёмным. Пад бацькавым вязам пастаўлена скамейка казённая і кашачы канцэрт падшывальцаў за поўнач. Моладзі няма сябе куды дзець. Без выйсця, без перспектывы. Бацька камсамол сам нічога не можа, бо рэзерв КДБ і крыху партыі злачынцаў, крымінальнікаў, бязмозглы, непатрэбны мачаадстойнік.

*27 ліпеня, пятніца*

Крыху парадкуем у хаце. Разлічыўся за ваду, якую ў хату прывялі. Быў у Марыі Рыгораўны. Мялеюць мае моўныя крыніцы, старэюць і паміраюць мае слоўнікі. Без іх без'языкі я. У хаце ўсё, што падабалася некаму з пасуды, пакрадзена. Вялікая славянская звычка: ляжыць, а гаспадара блізка не відаць, бяры і цягні ў сваё кубло.

---

[1] Перагуд Эдуард, беларускі рэжысёр.

*28 ліпеня, субота*

Ушача. З раніцы звінчвалі з Петраком ложкі. Пад канец так налаўчыліся, што маглі б працаваць на гэтым працэсе. У госці да Роўбіхі. Надзея Сцяпанаўна, 75 год. Успамінала, як жылі на хутары. Бацька мой і яе Роўба на рыбу ледзь свет, хто першы. Калі ў аднаго акуні бяруцца, першы прыйшоў на гэтае месца, а другі ідзе, першы ўцякае, каб сябра не заўважыў, дзе рыбна. Закон заядлых рыбакоў. Расказвала пра блакаду. Чытае шмат, любіць чытаць Быкава, а пра вайну глядзець па тэле не любіць. Гэта першая хата, відаць, ва Ушачы, дзе ёсць кнігі землякоў. Я падпісаў ёй колькі кніг з яе бібліятэкі, маіх кніг. Расказвалі, як райкомаўцы разрываліся за Дземянцея: «Свой малец, ён жа за руку здароўкаецца». Да слёз гэтае рабства перад функцыянерам. У Глыбачанах парторг сабраў усе бюлетэні і за ўсіх дзядоў, бабулек, дзядзькоў і цётак галаснуў за Дземянцея. Вясёлае раённае застолле, з каньяком, гарэлкай, віном, як у застойныя часіны. Ну, а мяне абкармілі клёцкамі. Упершыню адчуў, што землякі мяне трохі чыталі, трохі добра ставяцца да мяне. А гэткае ж адчуванне ў любога прыбалта-паэта. Нам да іх расці і расці!

*29 ліпеня, нядзеля*

Пайшоў на Ваўчэнскае возера (жыхароў вёскі Ваўчо завуць, дарэчы, ваўчэні). Усё пазаліло, усё пазарасло. Кнігаўка нада мной[1]. На гарэ пасецца белы конь. Ля дарогі каля ільнозавода дзве аблавухія авечкі. Адна чэша за вухам чорным капытком задняй ножкі. Дужа забаўна, пацешна. Наша котлішча засеена. Нейкая маладзіца кажа другой: *там, дзе ўзарата*. І гэтая форма родная. А да возера не прабіцца. У лесе, пад засенню дрэў, рэчка Крывуха, настояная на каранях як залатая цячэ.

Заехаўся Мікола Латышаў і завёз нас у Мінск. Вечарам званіў Васілю, перадаў паклон ад сястры Валі, што чакаюць яго дамоў, што дарога да Бычкоў асфальт, што да Міколавай[2], братавай, хаты засыпалі гразкае месца. «Дождж з багром…»[3]

*Паратунак*

Ад жыцця толькі смерць ратуе.
Жыць — прыспешваць штодзённа смерць.
Вечна помнячы ісціну тую,
Што не прымуць душу пустую, —
Поўні смуткам і радасцю ўшчэрць!

---

[1] Гл.: Ушацкай кнігаўцы (29–30.07.90) // Міласэрнасць плахі. С. 14.

[2] Быкаў Мікалай Уладзіміравіч (1930–2000), брат В. Быкава.

[3] Гл.: За бугром з багром (1989–1994) // Ішоў коця па канапе. Мінск: «Полымя», 1997. С. 55.

*30 ліпеня, панядзелак*

Праца. Сазваньваюся з Малдовай наконт Дома творчасці, каб разам з Куксом з’ездзіць. Дамоў па абедзе званок. З радыёстанцыі «Свабода». Мае думкі наконт Дэкларацыі аб суверэнітэце рэспублікі. Ну, вядома, папяровы суверэнітэт. І сталінская Канстытуцыя была самая дэмакратычная на паперы. У складзе імперыі не можа быць суверэнітэту. І калі мы выйдзем з імперыі, дык самыя апошнія, бо рэспубліка эксперыментальная, супрацьтанкавы роў паміж Прыбалтыкай і Украінай. Але часіны змяніліся. Раней бы ўслед за гэтым званком быў бы другі — і давялося б даваць доўгае пісьмовае інтэрв’ю ў КДБ.

Вечарам зноў званіў Васілю. У яго дакорліва-ўпіклівае слова, не з вялікай злосцю, — парасёнак (ушацкая форма): «Вярцінскі, парасёнак, ідзе ў нейкую камісію ў Вярхоўны Савет і нічога не сказаў». Кажу, што рыхтуюць мейсца для цыкоўскага кундаля Пашкова. «Трэба, — кажа, — зрабіць нешта, каб цыкоўцы не трапілі. Адна была нармальная газета ў нас, і тая можа знікнуць».

*31 ліпеня, аўторак*

На працы. Засядалі. Ідэі дырэктара пра супольнасць. Сляпыя мацаюць сцежку. З аднаго боку ўрад і партыя злачынцаў абяцаюць спрыянне нацыянальнай культуры, з другога боку рэжуць паперу, садзяць на самаакупнасць. За 70 год планамерна вынішчылі нашую мову, свядомасць, а цяпер можна спасылацца, што кнігі на беларускай мове не ідуць. І не ідуць, і не едуць. Школаў няма, ВНУ нацыянальных няма. Партыйны і савецкі апарат завучыў папугаіста неабходны набор словаў і — дастаткова, каб прысланыя з метраполіі партапаратчыкі разумелі нашых выродкаў, якія зракліся маткі-бацькі. Пакуль будзе імперыя, ніякой самастойнасці, ніякога развіцця і пашырэння беларускай мовы не будзе. Званіў Васіль. Ён чуў інтэрв’ю. «Пацверджанне: А час, на знявагу няскоры…» [у блакноце].

*Як без бацькі жыць?*

А пры бацьку Сталіну
Ўсё ішло як след,
Усё было расстаўлена,
І адзін партрэт
Быў на кожным покуце,
Бог адзін — усім.
І ніякай поскудзі
Не было зусім.

Не было ні Быкава,
Ані Пазнякоў.
І начальству выкалі
Ўсе з усіх бакоў.
Вёў антысаветчыкаў
Шлях на Калыму.
Раілі дасведчыкі
Палюбіць зіму.

З думаю пра партыю
Жыць — адзін наказ.
І пад Курапатамі
Крык пратэсту гас.
Нефармалаў з'едлівых
Не было нідзе.
Той, хто на партседалі,
Той і рэй вядзе.

А пры бацьку Сталіну
Ўсё прасцей было,
Усё было скагалена
У адно кубло.
На любой прагалінцы
Страх дасюль дрыжыць.
Ссірацелі сталінцы,
Як без бацькі жыць?

*1 жніўня, серада*

Не магу дазваніцца да Малдовы. Несур'ёзны народ. Віно і сонца звадкавала і клёк, і працавітасць. Адчуванне, калі зойдзеш у якую краму, што марудна, але няўхільна апускаешся ў яму. І паскарэнне адчуваецца не ў перабудове, а ў апусканні ў прорву. Няма нацыі, няма народа, ёсць савецкая трасянка — русскоязычное население, асабліва ў Беларусі гэта адчуваецца. Столькі гадоў, не адно стагоддзе Масква, давячыся, глытала нас і праглынула, як шчупак рыбіну жыўцом. А тут яшчэ цацку далі розным Нілам гуляць у палітыку пад кіраўніцтвам […] Сакалова і Дземянцея. Халуі трэніруюць галасавыя звязкі. А жменька Баршчэўскіх, Пазнякоў, Садоўскіх такая мізэрная перад сакалоўскай гайнёй, што аж плакаць хочацца.

*2 жніўня, чацвер*

На працы. Прыходзіў Лявон Баршчэўскі. Яму як намесніку старшыні камісіі («хромавага горла» [Гілевіча]) 650 рублёў і даюць 3-пакаёвую за

вакзалам недзе. Старшыням камісій паклалі на душу 700 р. Барацьбіты за шчасце народнае будуць задаволеныя яшчэ цэлым спісам прывілей.

*3 жніўня, пятніца*

Прыехаў на лехі. Хата без людзей знелюдзела. […] Памыў сабе двое джынсаў і адны сінтэтычныя штаны. Трохі адшараваў посуд. Патроху ўзяўся за Убайда Раджаба — вершы для «Братэрства». Абедаў у Та́расаў, як бабыль.

*4 жніўня, субота*

Перакладаю Мандэльштама. Варыў сабе бульбу. Знаёмых літмордаў амаль не відаць, сонца пратомлена-ласкавае. Недзе грукаюць, крыюць дах. Жыць і пры ідэях камунізму бывае добра. Дзякуй Табе, Божа, што доўжыш дні мае! Дзякуй за прыгажосць, за ласку Тваю!

*5 жніўня, нядзеля*

Закончыў нізку вершаў Мандэльштама перакладаць. Чамусьці ўспомнілася, што са мной нядаўна ў Цэнтральнай кнігарні паздароўкаўся негр. Няўжо вершы па-беларуску піша? Усё можа быць.

*6 жніўня, панядзелак*

На працу. Амаль нікога няма. Белыя людзі на поўдні. Сустрэў Небышынца, англаман з Магілёва не мае чаго курыць, кажа, што спрабаваў курыць гарбату — духмяна. Дажыліся! Добры беларускі анекдот. Падпалілі стог, стог гарыць, усе бягуць. Як заўсёды хітранькі дзядок: «Як падпаліць, дык няма каму, а як грэцца — усе бягуць». Гэта нешта нагадвае перабудову ў імперыі зла.

*7 жніўня, аўторак*

Жэня Коктыш[1], выдатны фотамаг, расказваў ад Адамовіча, што апальны генерал КДБ Калугін у «Новым міры» сказаў у рэдакцыі, што Сіняўскі агент КДБ і ён мае дакументы. Пазваніў Васілю, ён кажа, што лягчэй палічыць, хто не быў і не ёсць агентам. Але тут можа быць і гульня кэдэбіста, яго жаданне дагадзіць «Памяти». Ішоў з працы. У клубе імя Фелікса Жалезнага [Дзяржынскага], у клубе КДБ, ідзе фільм Васіля Быкава «Круглянскі мост». Званю Васілю, да чаго дайшла дэмакратыя; ён толькі ўсміхаецца ў тэлефон. Кажа, чытае 8-мы «Наш [Политический] собеседник», дзе зноў абліваюць памыямі і яго, і нават прадажную шкуру Ніла, які недоусердствовал, бо не так і даўно вузкакалейныя вочы з усёй

---

[1] Коктыш Яўген Фаміч (н. 1940), беларускі фотамайстар.

лычнасцю ўпрыгожвалі «Наш сов.» [«Политический собеседник»] на ўсю старонку.

*8 жніўня, серада*

Адмянілі рэйс на Кішынёў. Бегаю, дробныя зборы. Прыходзіла Ілона. Як сустрэнемся, так і схопімся зуб за зуб.

*9 жніўня, чацвер*

Нарэшце адлятаю. *Кішынёў.* Вечарам з маладым жулікаватым вадзіцелем ледзь знайшлі Дом творчасці за сялом Перасечынам. Сучасны ДТ у лесе паўднёвым. Хлопцы прынеслі ежу, Аўрэл Чакану вялікую цыбуліну. Вогнішча, печаная бульба, віно, чача. Мяне б сюды ў маладыя гады, калі мог і калі хацеў піць! Нанач далі са студні вады ў літровай бутэльцы з-пад малака, з пластмасавым коркам. І са студні вада пахне віном, бо ваду рэдка ў гэтай пляшцы трымаюць. Кастусь Куксо з новай жонкай з Масквы ў майцы, дзе слова «Москва»; параіў я і гаспадары зняць, бо дзёгцем замажам. [...]

*10 жніўня, пятніца*

Хадзілі з Віталем Батлагам[1] і ягоным сынком па ваду ў студню. Глыбокая, нязвыклая для ўшацкага чалавека, дзе ў нас вада блізка. Сын ягоны захапіўся Ясеніным. Ішоў-ішоў да аўтобуснага прыпынку, і яму не хапіла Ясеніна чытаць па памяці. Вечарам шашлыкі. Усё, як у застойныя часіны. Прыехаў літовец, сябра Лукшы. З сельскіх настаўнікаў аж у галоўныя рэдактары выдавецтва. Адпаведная літоўская мястэчковасць. У Куксо спытаў, як Барадулін мае смеласць пісаць на мове, на якой не чытаюць? Літоўская самаўпэўненасць ад малалікасці.

*11 жніўня, субота*

Здаецца, зрушыўся пераклад «Міярыцы»[2]. Віталь падарыў мне «Румынска-рускі слоўнік» на 60 тысяч слоў. Вялікая блытаніна з хвастатай кірыліцай, якую навязалі ледзь як не ўсёй савецкай імперыі. Гэта ўжо зрокава абражае і прыніжае народ, мову ягоную зводзіць зрокава да нейкай тарабаршчыны. Цёмныя русаманы глядзяць і кпяць, бач, кастрычнік прынёс нават алфавіт, а галаср.кі рускі брат падцягнуў да свайго ўзроўню — галаср.касці. Са мной па суседству класік гагаузскай літаратуры Міна Васілевіч Кёся[3]. Гагаузы, якіх 156 тысяч у Малдавіі, маюць сваю

---

[1] Дакладней, Балтаг Віталь Мікалаевіч, малдаўскі перакладчык. Гл.: Ідылія (16.08.90) // Міласэрнасць плахі. С. 155.

[2] «Міярыца» — малдаўская народная балада.

[3] Кёся Міна Васільевіч (1933–1999), гагаузскі паэт, фалькларыст; аўтар гімна Гагаузіі.

газету тыражом звыў 76 тысяч («Ана сӧзӱ» — «Роднае слова»). Мараць паступова перайсці на лацінскі алфавіт, як і браты іхнія — туркі. Боўдзіла Бодзюл[1] закрыў школы, цяпер гагаузы адраджаюць і мову, і школу. У Міны зборнік 2 тыс. экземпляраў. А ў нас? Туркі падтрымліваюць гагаузаў, для іх гэтая мова першароднa-родная. У турэцкай ужо болей запазычванняў, тэхніцызмаў. Аднак гагаузы, балгары, яўрэі ў Малдове ў Інтэрфронце — фронце імя Берыя[2].

*12 жніўня, нядзеля*

Цяжка ідзе Каратынскі[3]. Як ніколі. А перакласці трэба, як дурню стрэліць хочацца, каб не падвесці рэдакцыю Шупенькі. Трэба мне меней браць перакладаў. Усе сокі яны з мяне выцягнулі, а праца ўся на вецер ідзе. Адносіны да перакладной літаратуры ў нас яшчэ горшыя, чым да роднай. І перакладчык як сабака бяздомны.

*13 жніўня, панядзелак*

Шчаслівае чысло і дзень мае нешта мала мяне парадавалі, калі каламбурыць. Цяжка ідзе Каратынскі, дакладна, прыземлена, дыдактчына напісана паэмка «Wypił Kuba do Jakuba». Малдаване п’юць і п’юць. Мне б сюды маладому трапіць, усё б было ў вясёлках! Прыходзіў Есіненка[4], яму сёння 50 год. Віталь б’ецца над перакладамі народных песень і баладаў на рускую мову. Ён узяўся разбіраць атамную бомбу, маючы філалагічную адукацыю. Гэта будзе блізка (можа быць, прынамсі) да арыгіналу, але не па-руску. Калі працуеш, забываешся на розныя дробязі адзежы, ежы, моды, пагоды. Калі я шмат працую, адчуваю нейкі прыліў лагоды ўва мне і адліў злосці, тарапату, мітусні. Аднаго баюся — адчаю, роспачы — за мной ўвесь час сочыць адчай, як чорны чалавек, ён некалі можа мяне давесці да рысы. Баюся яго!

*14 жніўня, аўторак*

Міна даваў развітальную вячэру. Шашлык. І, як у нас бульбу, пяклі ў агні кукурузу. У Парыжы каштаны смажаныя нагадалі мне бульбу, тут — кукуруза. Бульбяное ўспрыяцце свету. Можа, і няблага, бо на бульбе вырас, дай Бог, каб памянулі клёцкамі. Румынскі мастак расказваў: дзе

---

[1] Бодзюл Іван Іванавіч (1918–2013), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1961–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КП МССР.

[2] Берыя Лаўрэнцій Паўлавіч (1899–1953), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Міністр унутраных спраў СССР (1938–1945), адначасова нам. старшыні СМ СССР (1941–1953). Расстраляны.

[3] Каратынскі Вінцэсь Аляксандавіч (1831–1891), беларускі і польскі паэт, публіцыст. Каратынскі В. Творы. Мінск, 1994. 2-е выд. (1981, 1-е выд.)

[4] Есіненку Нікалае (сапр. Есіненка Мікалай Гаўрылавіч (н. 1942), малдаўскі паэт, празаік.

праязджаў Чаушэску[1], пасадзілі дрэвы і прывязалі яблыкі. Усё, як і ў нас. Сацыялізм сабачы паўсюль аднолькавы.

*15 жніўня, серада*

Дабыў дырэктар ДТ Кандрат Міхайлавіч мне білет на самалёт. Выпісалі на імя Віеру[2], а пасля дырэктар перарабіў. Расказваў як быль, што Ельцын прыслаў ліст Віеру, каб той пераклаў на рускую мову тэкст ягоны песні «Вяртайцеся, дзеці, дамоў». Любоў да рускіх ва ўсіх рэспубліках прышчаплялася арміяй і КДБ. Адсюль і ўраджай.

*16 жніўня, чацвер*

Спёка — можна ашалець. Куксо са сваёй мухалоўкай для лапухоў паехаў у райцэнтр. Я не адважыўся. Хадзіў вечарам па ваду ў студню з Віталем. Уся пасуда тут прапахла віном, ад сценак да накрывак. Трохі пачаў перакладаць «Лучафэра» Емінеску[3], дакончыў пераклад Лівіу Даміана[4]. З ім некалі збіраліся пісаць вершы, нават паэму на адну тэму задумалі ва Узбекістане. Няма яго. Светлай памяці, быў цікавы чалавек, паэт, праўда, адчуваў сябе задужа сакратаром СП, як наш Вова Паўлаў[5] — аж раздзімаецца. Цяпер, дый спачатку, «Інтэрнацыянал» спяваць так: «Мы свой, мы новый мир построим...» Амаль ніякіх змен, да *р* з другога боку дужку прыстроіць. Партайгэносы і партай[...], відаць, у душы паўтараюць, толькі тае: «Patria o muerte!» [«Радзіма альбо смерць!»] Асноўная карміцелька, асноўная дойная кароўка, якая і цяпер дае сырадой улады і выгод адпаведна месца на лесвіцы партбыдлядства, каму кубачак, каму сподачак, каму кварту ўкоптур з пенай.

*17 жніўня, пятніца*

Бывай, Малдова. Самалётам на Мінск. На аэравакзале савецкі бардак, і за грошы не заехаць. Таксісты-ханыгі выбіраюць, каго везці, куды. Усё па-савецку. Няма ні АК-сістэмы, ні дзелавых, грашовых адносінаў. І ў Кішынёве, і ў Мінску на аэравакзалах бруд, тлум, убогасць, забітасць. Вынішчыла савецкая, хай будзе яна тройчы праклятая, улада з чалавека годнасць, адчуванне ягонай прыналежнасці да роду людскога, пакінула

[1] Чаушэску Нікалае (1918–1989), дзеяч румынскага і міжнароднага камуністычнага руху. З 1965 г. Генеральны сакратар ЦК РКП, з 1969 г. Генеральны сакратар РКП; з 1967 г. старшыня Дзяржсавета СРР, з 1974 г. прэзідэнт СРР. Расстраляны па прыгавору ваеннага трыбунала.
[2] Віеру Грыгорэ Паўлавіч (1935–2009), малдаўскі паэт.
[3] Эмінеску Міхай (сапр. Эміновіч Міхаіл; 1850–1889), румынскі і малдаўскі паэт.
[4] Даміан Лівіу Сцяпанавіч (1935–1986), малдаўскі паэт, эсэіст, перакладчык.
[5] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1990–1998 гг. нам. старшыні СПБ. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя СП РБ імя І. Мележа (1997).

адчуванне «новой общности советских людей». Як тыя ў статку свінні, якіх Хрыстос накіраваў тапіцца, бо ў іх сядзелі нячысцікі.

*18 жніўня, субота*

На Камароўку. Да Радзіка. Расце прафесійна і духоўна, глыбее, рознабаковее. Казалі пра Гейне[1]. Мне прыйшло ў галаву: Гейне — геніяльны Міхаіл Святлоў[2].

*19 жніўня, нядзеля*

На Камароўку. Купляў саламяныя шкатулачкі ў Кітай. Па 2 штукі на рукі, па-беларуску ў рыфму. Неўзабаве ўвядуць, што і кукішы даваць каму не болей як па два на адзін нос ці ў адзін нос. Прыехаў Адамовіч. Хадзіў да яго. Праводзілі. Сёння Спас яблычны. На вакзале стаім, салют, кажу, што салютуюць партапаратчыкі і кэдэбэшнікі, што Алесь Адамовіч з Мінска з'язджае. Артыкул ягоны ў «Литгазете» магутны. Упершыню, што савецкі лад жыцця знішчыў 110 мільёнаў душ. На з'ездзе ён дае інтэрв'ю амерыканцы. Падыходзіць кэдэбэшнік: «Пра што казалі?» Алесь: «А ты хто?» Ён: «Я наогул».

«Памяць — гэта дрэва...» [у блакноце].

*20 жніўня, панядзелак*

На працу. Нашы прыехалі з Балгарыі. Як на сабак глядзяць на савецкіх. Нават братушкі. Павел Паўлавіч [Журкевіч] расказваў. Паехаў на Спаса памянуць маці. Раніцай выйшаў за хату. Паглядзеў на будку, дзе быў пры маці сабака Мальчык. Яго аддалі далёка, чужым людзям. Толькі падумаў, а з будкі вылазіць Мальчык. Парваў ланцуг, схудалы, бо здалёку бег, прыйшоў. Пайшоў разам на магільнік. І двое катоў, якія пры жыцці маці Паўла баяліся, аднекуль прыйшлі, лашчыліся. Адзін лёг у нагах спаць. Нейкая неспадзяваная сіла ёсць, якую марксістам не паказаць і даказаць.

*21 жніўня, аўторак*

Праца. СП. Сустрэў кітайскага прафесара, дапамог сазваніцца з Васілём. У Элькінда ўзяў білеты, выкупіў Бурсавым пуцёўкі ў «Іслач». З Мархелем[3] удакладніў Каратынскага.

---

[1] Гейнэ Генрых (1797–1856), нямецкі паэт і публіцыст.

[2] Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч (1903–1964), рускі паэт, драматург. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1967, пасмяротна).

[3] Мархель Уладзімір Іосіфавіч (1940–2011), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, паэт. Кандыдат філалагічных навук (1982). З 1978 г. супрац. Інстытута літаратуры імя Я. Купалы.

*22 жніўня, серада*

Праца. Спрабую сазваніцца з Масквой, калі назад з Кітая, каб узяць білет.

*23 жніўня, чацвер*

Дазваніўся да Сураўцава. Усё ясна. Занёс вершы ў «Маладосць». Сёння памёр Стральцоў. У дзень ягонай памяці займаўся пытаннямі помніка. З Ліпенем[1] хадзілі да Заньковіча[2]. Згадзіўся рабіць.

*24 жніўня, пятніца*

Забег на працу. Лецка[3] даў праграму Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», павінен выступіць[4]. Хоць заднім чыслом правядзем праз Савет працкалектыву, але на ўстаноўчы сход «Бацькаўшчыны» перавёў 5 тыс. выдавецкіх грошай.

* У магазіне рабочы Вася: «Бабка, што ты ломішся, як конь па капусце?»

*25 жніўня, субота*

На Камароўку. Да Зэйфаў. Купляем мэблі для Ілоны. Падганяў Каратынскага, замучаў ён мяне, а я — яго.

*26 жніўня, нядзеля*

Да Тáраса ў бальніцу.

*27 жніўня, панядзелак*

Радыё. Праца. Кнігарня. «ЛіМ». Зборы. Ад’езд.

**** Наталлі Давыдзенка*
*(на «Самоце паломніцтва»)*

Наталачка! Табе адной,
Якая добра разумее
Усё відушчаю душой,
Дару няўклюдны зборнік свой,
А з ім
І ўшацкую завею,

---

[1] Ліпень Аляксандр (1926–2006), беларускі скульптар.

[2] Памылкова, дакладней Засімовіч Ігар Сяргеевіч (н. 1966), беларускі скульптар.

[3] Лецка Яўген Рыгоравіч (н. 1944), беларускі крытык, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук (1980). У 1987–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі прозы, заг. рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура». Старшыня Аргкамітэта (1989–1990) і рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» (1990–1993).

[4] Гл.: Да беларусаў свету (24.08.90) // Міласэрнасць плахі. С. 296.

Адлегі ўсе і халады.
Датуль,
Пакуль душа гавее,
Дух застаецца малады!

*Менск, 90* *Рыгор*

*28 жніўня, аўторак*

*[Масква.]* Да Бурсава. У саюз. Білет на Кітай. Сураўцаў прапануе змыць надпіс на вазе і перадарыць.

*29 жніўня, серада*

Перад дарогай вяласць і традыцыйная разгубленасць. Ад няма чаго скарагаворку выдумаў [у дзённіку]. Вылет на Пекін.

*30 жніўня, чацвер*

*Пекін.* Пагрузілі нас на «Таёту». Ахалодненька, хораша. Едзем, вадзіцель хоча заправіцца, бензіну няма, як і ў нас. Думаў, запраўшчык з ім па мікрафону гаворыць, аж гэта ён лыжкай чарэпае разрэзаны кавун. Другі кітаец нясе ў руках чатырохкутую металічную міску і лыжку трымае. У гэтай місцы-накрыўцы нейкае сёрбала. Размясцілі ў гатэлі «Пекін», новая прыбудова. Вечарам парна, як у лазні. На плошчы Цяньаньмэнь партрэт кормчага[1], Маўзалей, Народны сход, Гістарычны музей, помнік ахвярам барацьбы за незалежнасць. Плошча адной з дзвюх імперый — нашай і кітайскай, запускаюць драўляную птушку, як жывая лётае вялікая. Маленькую запускае, трымае на валаску ніткі інвалід з каляскі. Спакойна і разморана ад спёкі, парнасці. Ідзе жанчына і спакойна агаляючы грудзі, чухае, бо толькі сукня на ёй. І гэта ў Азіі. Не тая ўжо зусім Азія. Яны хочуць утрымаць патрыярхальнасць з капіталістычнымі капіталамі. Як раствор цэменту падмёрзлы, рана ці позна разарве граніт імперыі. Нашыя нумары каштуюць 100 долараў ў суткі. Такую раскошу можа дазволіць толькі АК-сістэма. Маскоўцы трымалі кітайцаў у гасцініцы «Урал».

*31 жніўня, пятніца*

Пекін. Пры любых рэжымах сонца ўзыходзіць. Першая раніца ў Кітаі[2], дзе не спыняецца час. Вечнасць тут задумалася. Добра і самому засяродзіцца, засамоціцца, зажурыцца. Дзён чалавечых мала застаецца.

[1] Мао Цзэдун (1893–1976), кітайскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1943–1976 гг. старшыня ЦК КПК.
[2] Гл.: Мая першая ноч у Пекіне (30.08.90, Пекін) // Міласэрнасць плахі. С. 195.

Адно што ў Бога дзён не рэшата, як казалі ў нас дома. *Забаронны горад*[1]. Чым імператар выклікаў наложніц, у залежнасці [да] каго пасылаў талісман у выглядзе загнутагаловай палачкі з махрамі, кожная ведала, каго выклікаюць. Захаванне валасоў маці імператара, якая памерла. Калі не абрэзаць валасы і кіпцюры, прылятуць совы і забяруць разам з душой. «Боінгам» на Далянь. Унізе гадзюкі неспрамлёных, не выпрастаных рэк. Межыраву[2] расказаў задуму, каб хто выдаў анталогію апошняга верша. Маэстра ў захапленні быў.

*г. Далянь* (Дальні). Прыём мэрам горада. У Кітаі адчуваеш сябе, як у Расіі, на кожным кроку чуеш х.й у розных варыянтах, з рознымі адценнямі ў голасе. У Дальнім зона эканамічнага, тэхнічнага развіцця з прыцягненнем капіталу Японіі, Ганконга і шмат якіх дзяржаваў. 10 класаў у вёсках, у гарадах 12 класаў школы. Вячэра [з] мэрам горада.

*1 верасня, субота*

г. Далянь. Едзем. Мятуць дарогі. Твар закрыты, як у ліквідатараў Чарнобыля. Горы ўскрытыя, як разрэзаныя лёгкія каровы. Адкрыццё дарогі, бубны, змеі, піянеры [з] рознакалёрнымі сцяжкамі. Шары, як чарада птушак, якім на момант волю далі. З-за калючай загароджы нейкія людзі — ці не будаўнікі дарогі, з міліцыянтамі. Усё ад нас. Зона вольнага прадпрымальніцтва. Школьнікі ўжо еўрапеізірваныя, усе амаль на веліках, у джынсах. Рабочыя да сталоўкі з міскамі і лыжкамі, як зэкі. У гутарцы неспакой, што рэспублікі незалежнымі ў нас могуць быць. Імперскае савецкае мысленне ў іх: тады ж падарвецца магутнасць. Каго? Навошта суседзяў трымаць у страху? Ці не лепей у дружбе жыць, у дабраце, дабрабыце?

*2 верасня, нядзеля*

г. Далянь. Помнік савецкім воінам. Тэлевежа. Зала «Чайная аблачына». 220 м. Пра біфакальныя акуляры ў 1965 г. Анекдот: «Гэтую возьмем, а маму з’ямо». На рынку, у крамах усяго даволі. Цяпер трэба рыфмаваць *Кітай — каўтай* слінкі зайздрасці, савецкі чалавек! У Забаронным горадзе імператар пускаў па вадзе кубак з віном, супраць каго ён спыняўся, той мусіў скласці верш на зададзеную тэму і прачытаць альбо выпіць. Нашыя родныя алкашы ніколі б ні радка не прыдумалі, а толькі пілі б. Еўрапеізацыя Кітая ідзе даволі хутка, але гэта верхні слой, карані будыз-

[1] Гл.: Наведваю Забаронны горад (31.08.90, Пекін — Далянь) // Міласэрнасць плахі. С. 195. У вершы ўспамінаецца Маўджуда Хакімава (1932–1993), таджыкская паэтэса, з якой пазнаёміліся на з’ездзе латышскіх пісьменнікаў у 1965 г. і якой прысвячаліся вершы тых гадоў.

[2] Межыраў Аляксандр Пятровіч (1923–2000, ЗША), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1986). У 1992 г. выехаў у ЗША.

му глыбокія. Кітайцы не гэтулькі набожныя, як верацць і шануюць культ продкаў. І ў самыя змрочныя ці жалезныя часы і партбілеты насілі, а да Буды на паклон хадзілі. Усе яны настолькі абчасаныя вякамі, настолькі вытанчаныя, што еўрапейцы з імі побач такія няўклюды. А каленькі ў паненак, як сонца з-пад далягляду, туману выглядаюць, каб вабіць, цікавіць[1].

Ад'езд з Даляня. Вагон, відаць, наш, але ўнізе два вялікія тэрмасы з кіпятком на чай, зручныя сучасныя сандалеты. Амаль усе вязуць на колцах чамаданы. Ва ўсіх амаль сучасныя лёгкія сумкі, відаць, японскія. А мы ўсё са сваімі жабрачымі торбамі для збору міласціны. Па ходу цягніка буслысяляне ў белым. Усё дагледжана, душой абмілавана. І чамусьці прыйшло, што пярун ад слова перыць, як мароз-скварун, мароз-траскун, мароз-прагун, гром-пярун.

*3 верасня, панядзелак*

*г. Харбін.* Крыху ранішні халадок наш нагадвае. Няма такой здухі. Павет Хулань. Вакол глінабіткі, глінабітныя платы. Уязджаем у цэнтр. Адгароджана цэглам пляцовачка пры будове, у ёй стаіць жыхар павета і спакойна пісь-пісь робіць[2], пісь-пісь амаль па-кітайску гучыць. Увесь павет 630 тыс., павету 270 гадоў. Сельская гаспадарка ў асноўным 612 кв. км, 8 пасёлкаў, 16 валасцей, ворнай раллі, зямлі 2 млн 520 му. 1 млрд зерня дзіняў (дзінь — 0,5 кг). Апошнім часам рыс вырошчваецца 30 цэнтнераў з га. Радзіма пісьменніцы Сяо Хун[3]. Касцёл пакуль не адкрыты, бо ёсць каталікі 20–30 чалавек. Асноўная — будзісты, ёсць мусульмане, пры асацыяцыі Таварыства аматараў літаратуры 200 чал. Літаратурнае свята на дзень нараджэння Сяо Хун, бывае да 300 тыс., у модзе дыскатэка. Нават старыя танцуюць пад музыку дыска. *Музей Сяо Хун.* Бацька памешчык. Захоўваецца сад, які прыносіў асалоду паэтэсе, пісьменніцы (1911–1942). Шмат псеўданімаў перамяніла. З жаніхом у гасцініцы [спынілася]. 600 юаняў і цяпер павінна. Жаніх уцёк і не заплаціў.

Па дарозе за машыну ці за трактар, учапіўшыся, едуць веласіпедысты, толькі трымаюцца, а іх вязе. У школе дзеткі маленькія і настаўніца, як наша першакласніца, яшчэ меншая. Чытаюць, як пяюць. Нібыта ўрок у нейкім птушыным царстве.

Веласіпеды, веласіпеды —
Глядзі і сліну каўтай,
На веласіпедзе,

---

[1] Гл.: Бачу ранішнюю далянку (6.09.90, Сіань) // Міласэрнасць плахі. С. 197.
[2] Гл.: Жывы фантанчык ля Харбінскага базару (23.09.90) // Тамсама. С. 196.
[3] Сяо Хун (1911–1942), кітайская паэтэса.

А не на ракеце
Абгоніць Еўропу Кітай.

Паэт спяваў верш у гонар гасцей: «Вашы аблічы, вашыя ўсмешкі застануцца ў нашых сэрцах і на вадзе». Сустрэча з пісьменнікамі Харбінскага аддзялення. Уступ. Як у нас 30 год назад. Ідзе будаўніцтва сацыялізму, вы бачыце зрухі (а яны за кошт іншакапітала ў асноўным: дапамагае той, на каго брэшуць, так, як і ў нас!). Тры віды членаў (пісьменнікаў): 1) усекітайскія, 2) аддзяленне правінцыі Дэйлунцзян (рака Чорнага дракона, альбо Амур), 3) Харбінская пісьменніцкая арганізацыя. Усяго ў правінцыяльным аддзяленні звыш 500 [чал.], на зарплаце пісьменнікі. Зарплата залежыць ад таго, кім працаваў раней. 10 з пяцісот [атрымліваюць] зарплату. Відаць, жыў каў[каз]скі варыянт. Калі кніга карысна для душы народа, яе выдаюць, дзяржава падтрымлівае, пісьменнік жыве добра. Вяршынная, чыстая літаратура цяжка ідзе. Класіка, відаць, называецца чыстай. (А чысціню, вядома ж, вызначае партыя.) У грамадстве не дужа ідзе сур’ёзная літаратура, а ідзе масавая. Рыначная эканоміка ўплывае на масавага чытача. Тыраж раней быў 205 тыс., цяпер 5 тыс.

Гарачыня, а таварышы кітайскія пісьменнікі большасць у пінжаках, і з-пад штаноў выглядаюць споднікі, ім, значыць, холадна, як у анекдоце. Тут ёсць часопіс на карэйскай мове, перадача на радыё. Дракон, які плыве па рацэ і б’е хвастом, выклікае навадненне. Пры ім пакутуюць невіноўныя. Сураўцаў тлумачыць, што такое *скоц*рэалізм. Я б так растлумачыў: гэта шоры на вачах у каня, які ходзіць па кругу, рэжа драніцы. Дзя́лі хуй лай — вяртаемся дадому[1].

*4 верасня, аўторак*

Сёння трошкі па горадзе пабудзем. Панда — бамбукавы мядзведзь, есць толькі бамбук, сімвал дабрабыту (благополучия). У магазіне Гурына. Так і засталася кампанія Гурына. Кітайскія лічыльнікі. Адзін кітаец у спаборніцтве перамог камп’ютэр. Магазін-гастраном «Імклівая барацьба». А ў нашых магазінах адпачывае вока. Абед у гастраноме. (Каб абысці ўсе гастраномы раёна, спатрэбіцца 240 дзён.). Паэт чытае верш у гонар гастранома. І пытанне ў вершы: ці гарэлка творыць паэзію, ці паэзія творыць гарэлку? Страва «вока дракона», «галава малпы», «мазгі малпы імітаваныя». Прыём у райкоме. Сакратар чытаў «Анегіна» [А. Пушкіна], Горкага[2], Чарнышэўскага[3], Астроўскага[4]. Але пэўны час су-

[1] Гл.: Мой сон у Харбіне (3.09.90, Харбін) // Міласэрнасць плахі. С. 197.

[2] Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868–1936), рускі пісьменнік, крытык, грамадскі дзеяч.

[3] Чарнышэўскі Мікалай Гаўрылавіч (1828–1889), рускі рэвалюцыянер-дэмакрат, навуковец, пісьменнік, крытык.

[4] Астроўскі Мікалай Аляксандравіч (1904–1936), рускі пісьменнік.

вязі былі перапынены, цяпер наладжаваюцца. У раёне горада 11 ВНУ з дзяржаўным статусам. Раней 10 год мяса 1 кг на душу, масла — 0,5 кг. Цяпер шмат мяса, рыбы, малака, садавіны, гародніны. Паміж дзяржавамі павінны быць адносіны як паміж зорамі, каб яны асвятлялі адзін адно. Сумесныя прадпрыемствы з Аўстраліяй, Канадай, Японіяй, Польшчай. Раён укладвае капітал у Аўстралію на золата, права на зямлю і дамы. Пан (гаспадзін) па-кітайску даслоўна — раней народжаны, той, хто нарадзіўся раней, старэйшы.

Экскурсія на харбінскі піўзавод. Лозунгі вітаюць гасцей пісьменнікаў на ўваходзе, у зале лозунг: [вітаюць] дзяржаўную дэлегацыю савецкіх пісьменнікаў. Усё, як у нас у 50-я гады. Піўзавод называецца «Сонечны востраў». У год 100 тыс. тон варыць піва. 1700 рабочых, 200 тэхнічных работнікаў, 9 інжынераў, аснашчаны камп’ютэрамі і вылічальнай тэхнікай. Усекітайскае таварыства піва, адпаведна ў паветах і гарадах аддзяленні. Бутэлькі ставяцца ў шарэнгі жалезнай рукой аўтаматыкі, як жалезнай рукой Сталіна людзі ў калоны будаўнікоў міфу камунізму. 12, 11, 10, 9, 5, 8 градусаў выпускаецца піва. Самая вялікая каштоўнасць — сённяшні дзень і самая лёгка губляемая каштоўнасць сённяшні дзень, таксама сённяшні дзень. 12 гатункаў піва. Ёсць піва з чыстай пшаніцы, ёсць новы гатунак піва «Снежны чалавек». Моцная канкурэнцыя на ўнутраным рынку. У Харбіне адначасова прадаецца 60 гатункаў піва, у Харбіне любяць піва і разумеюць у ім толк. «Калі ў нас якасць, рынак у нашых руках, а калі рынак у нашых руках, эканамічны эфект прыйдзе», — тлумачыць адзін з кіраўнікоў завода. Усё абсталяванне на свае грошы [закуплена]. Піва ў бляшанках тут не цэніцца. Увесь прыбытак па]?] падатку, 60 % сабе. Узялі ў дзяржавы валюту ў крэдыт. Вялікія грошы ў кантроль за якасцю ўклалі, 800 тыс. долараў, 25 апаратаў купілі. Піва [пастаўляюць] ў Хабараўск, Уладзівасток, намер маюць і ў Маскву.

У Кітаі на мільярд 100 тыс. насельнікаў 450 прозвішчаў. Усе сябе радней адчуваюць. Вечарам гулялі па начных вуліцах. Кітайскія ліхтарыкі, як кветкі півоні чырвонай, якой дождж выпратаў пялёсткі. Межыраў чытае два геніяльныя вершы, з болю і адчаю сатканыя. У паэзіі, падкрэслівае ён, важны гук. […] Сёння, грэшны, еў вераб’я[1], чарапаху і лапкі жабкі. Усе як мяса, толькі не лезлі лапкі ў горла.

*5 верасня, серада*

Парк Сталіна на беразе ракі Сунгары. Просяць пакатацца на лодках. Фатаграфуемся нашым гаспадарам. Кавалкі расійскай архітэктуры. Рэстаран «Сліва ў цвеце», былы рускі рэстаран, цяпер рэстаран заходняй кухні. Звісае вінаград са столі, калісьці тут расійскі дух лунаў, цяпер хіба

[1] Гл.: Грэшны, я шкадую вераб’я (22.09.90) // Міласэрнасць плахі. С. 202.

што боршч, дзе многа перцу, і белы хлеб. Міхал Георгіевіч Дамагацкіх[1] перад узлётам у аэрасенцах паказаў каменьчык, якімі звычайна на рэчках збіваюць «баб». Думаў, талісман, а гэта семя дрэва з Камбоджы, якога варта з іголку адшчыкнуць, і такі яд, што, каб сканаць, хапае 3,5 секунды. У самалёце амерыканізаваныя запісы песняў. Учора ўвечары бачылі парачку, якія цалаваліся на вуліцы. Вецер з Захаду раз'есць трэшчыны і ў Кітайскай імперыі. Будзе нешта непрадбачанае, калі расплешчыцца Кітай і зусім самкнецца з Японіяй, якая да таго часу будзе недзе ў XXII стагоддзі. Як гэта ні страшна, белая раса стане рэдкімі белымі плямкамі на планеце. Гэта ж цяпер кітайцам можна мець 1 дзіця. А як развяжуцца кашалькі! Цікава, што ўжо амаль не ўскрываюць чэрап малпы і не ядуць мазгі лыжачкамі жывыя, але страва ёсць «мазгі малпы» і лыжачкі па краях сподка вялікага. Мазгі, вядома, з нейкага мяса ці травы. Цяжка адрозніць. І суп, дзе варыцца бамбук, тут жа на стале ў спецыяльных прыборах накшталт нашага самавара, смачны. І бамбукавыя лустачкі, як лустачкі морквы, цвёрдыя.

*г. Сіань* — горад заходняга спакою. Шоўкавы шлях ішоў тут. Па вуліцах палынаўскіх [?] едуць спакойна, пашанліва веласіпедысты, на спінах у аўтобусаў веласіпедысты і вялікія плеценыя кашы; прадалі і дамоў вяртаюцца, самі едуць, і веласіпедысты іхнія едуць на спіне ў аўтобуса. Кіраўнік кажа, што горад невялікі, сярэдні, толькі гарадскога насельніцтва за 2 млн. Як Ушача амаль, толькі людзей болей. Начны горад. Адчынены сотні крамак, усё ёсць, вырабы з каменя, фарфоравыя вазы, на вагу са шкарлупку плісчынага яйка, пулятыя, але з густам, капы, кілімчыкі. Тут жа вараць на такім агні, што можна вулканізаваць шыны (у бочках, адкуль агонь маторчыкі [падаюць]), і агонь палае, як некалі вепрука паяльнай лямпай смалілі. Тут жа на зямлі раздзяляюць і качак, і тушкі, мыюць са шлангу. Уся кітайская кухня на дужа вялікім агні, адсюль і малая магчымасць атручвання. Расцягвае цеста і б'е яго аб стол. Можна сказаць — не гуму цягне, а цеста. Тут жа ў тазах мыюць ногі, рукі. Дзядок спіць. У краме матрац, малыя яшчэ не спяць, галасрачанькія, галапузенькія — самыя прыгожыя ва ўсіх народаў. У сталярні не спяць, нешта майструюць. Жабрак пералічвае перакамечаныя, як і ягонае жыццё і аблічча, паперкі, што завуцца грашышкамі. Як ва ўшацкай весялушцы: «Было трошачкі грашышкаў, і тыя дзеўкам расшышкаў». Варацца пельмені, супы. Усе крычаць, запрашаюць пакаштаваць. Парэзаныя дыні, прадаўцы крычаць, што дужа смачныя і сакавітыя. Так яно і ёсць сапраўды. Усе людзі занятыя, маюць навар і грамадству карысныя. Праблема мільярда такая ж, як і праблема мільярда грошай.

---

[1] Дамагацкіх Міхаіл Георгіевіч (1923–2000), рускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры РСФСР.

*6 верасня, чацвер*

г. Сіань. Імператар: фаварытка, ад сына ўзяў, яму 44, яна маладая. Фамэнсы — шлях да будызму. Толькі маленькая рысачка Буды тут, 1393 год назад пабудаваны храм. Брыты манах чытае сутру. Пагада адрэстаўравана. Пад пагадай храм. Прах Шахілуні. Пагада 47 м, 13 паверхаў, храм з кончыка пальца Буды. 2400 археалагічных знаходак эпохі Тан[1]. Пагада архітэктуры дынастыі Мін[2]. Храм здалёк, як какосавы арэх даўгаваты, на грудзях свастыка — чакра. Маўзалей фаварыткі, магільня, на галаве ў фаварыткі півоня. [Чужой рукой:] «Янь Гуйфэй, фаворитка пятого императора Танщюанцзун династии Тан. 718–756». Калі ў храме ў ахвярніцу кідаеш драбязу, манах б'е ў ціхі звон, Бог пачуў і прымае дар. Кітайскія дарогі. Табуны веласіпедыстаў. На веласіпедах [вязуць] па 5 вялізных матрацаў, з двух бакоў вялізныя плеценыя кошыкі, балансіруе, як з вагамі, шалямі жыцця і смерці, да зямлі пляцёнкі часныку, сена, салому. У вазках, упрэгшыся па аднаму і па двое, цягнуць усё, што можна — і будаўнічы матэрыял, і кавуны. У вазку у аглоблях маладая сучасная жанчына, а мужчына сядзіць.

Межыраў раіў напісаць александрыйскім вершам з усмешкай, як я піў [каньяк] «Напалеон», бо колькі разоў ні піў апоўначы, пасля ледзь не тармазной вадкасці. І такі не ўлавіў ягоны смак.

Учора вечарам на вуліцы ў крамках запрашала мяне яшчэ адна праехацца на матацыкле[3]. Страшнаватая. Назвы вуліцы дробнымі іерогліфамі на тэлеграфных слупах. Як некалі і цяпер у нас, каб вораг не даведаўся. Мул на вуліцы, як спынены вентылятар.

*7 верасня, пятніца*

г. Сіань. Пачаў галіцца. Вада пырснула, чмыхнула і замоўкла. Засталася толькі гарачая. Аж узрадаваўся, што ўсё, як у нас. Радасць была кароткая — праз колькі хвілін пайшла і халодная, і гарачая. У нас бы так і стаяў намылены ці студзіў бы гарачую.

Сяло *Баньпо* эпохі неаліта, мумія мужчыны — 3200 год. Крычыць жахліва рот: «Задумайся, спыніся, о чалавечы род, не імкніся прагна ўвысь, зямля твая спачын»[4]. Сцяна даўжынёй 10 тыс. лі. 10 тыс. лі абазначае вечнасць. 10 тыс. год жыві! — вечна! Сцяна 10 тыс. лі — Вялікая Кітайская сцяна.

---

[1] Тан — кітайская імператарская дынастыя (618–907).

[2] Мін — кітайская імператарская дынастыя (1368–1644).

[3] Гл.: З сумам успамінаю прапанову начной рыкшы ([1990]) // Міласэрнасць плахі. С. 203.

[4] Гл.: Верш, які ўзварухнуўся ў музеі ў Сіані (10.09.90, Пекін) // Тамсама. С. 200.

Лінь Сю — правадыр, мясцовасць Лін Тун. Імператар Цынь Шы-Хуандзі[1] дынастыі Цынь II ст. да н. э. Імператара пахавалі і закапалі скульптуры воінаў, коней, у яме 8 тыс. скульптур толькі ў адной, гэта лепей, чым жывых. Імператар аб'яднаў Кітай і злучыў, аб'яднаў усе сцены. А раць — у кожнага свая сцяна, фігуры на ўвесь рост стаяць. У ірвах ахоўваюць і пад зямлёй. Колькі пры жыцці было воінаў, коней, чыноўнікаў, столькі фігур. Селянін капаў студню і наткнуўся на тэракотавыя фігуры. Сталін жывых закопваў. 200 калідораў па 5 з кожнай часціны свету. А канфуцыянцаў[2] закапаў жыўцом, бо любіў будызм. Лёгка згубіцца ў натоўпе кітайцаў, так і згубіцца белая раса. А калідоры па тры ў шарэнзе ахоўвалі, у руках зброя з дрэва, але згніла.

Абед — клубні лотаса, батат — салодкая бульба даўгаваценькая.

Крыніца Хуа-Цынь, Хуа-Цінь. Купалася фаварытка, у яе дужа далікатная скура. Летняя рэзідэнцыя імператараў. Ду Фу[3] тут спыняўся. «Па вуліцах людзі паміраюць ад голаду і холаду, а тут мяса і гарэлку п'юць», — напісаў Ду Фу, калі пабачыў раскошу. Таксама [тут] была рэзідэнцыя Чан Кайшы[4]. Сялянская хата. Сцяна з цэглы, як дувал у нас у Азіі. Агульныя палаці, засланыя цыноўкай. Камень замест падушкі, шыю класці. Пры ўваходзе дамавіна, дзед падрыхтаваўся. Камень кварцыт летам холад трымае. Кітаец мыўся 3 разы ў жыцці, калі нараджаўся, калі жаніўся, калі паміраў. Раней кітаец марыў мець цёплую коўдру і цёплую вопратку, веласіпед і абавязкова швейную машынку. Цяпер гадзіннік, веласіпед ці матацыкл, тэлевізар, вядома, швейную машынку.

Вячэра сіаньскай кухні, між іншым, арыгінальны кісель, вавёрка з рыбы. Класічны гасцявы абед са 120 страў. Кавун па-кітайску даслоўна: заходні агурок. Глядзелі фільм «Чырвоны гаалян». Нездарма атрымаў у Берліне «Залатога мядзведзя». Нечакана зусім іншае, чым думалася пра кіно Кітая. На вакзал пускаюць па пропусках — зусім дэмакратычна. Наогул, усё, як у нас год 25 назад.

*Чакае труна*

У тлумным Кітаі
Ў хаціне ратая
Я ўбачыў труну,
Што жывога чакае.

---

[1] Цынь Шы-Хуандзі (259–210 да н. э.), правіцель царства Цынь, імператар (з 221).

[2] Канфуцый (Кун-цзы; каля 551–479 да н. э.), старажытнакітайскі мысліцель, заснавальнік канфуцыянства.

[3] Ду Фу (Ду Шаалін; 712 —770), кітайскі паэт.

[4] Чан Кайшы (Цзян Цзэшы; 1887–1975), галава рэакцыйнага гамінданаўскага ўрада Кітая (1927–1949), які быў звергнуты ў выніку народнай рэвалюцыі.

З Туроўлі ці з Рыма
Хада пілігрыма, і
Ў кожнага з нас
Па труне за плячыма.

Час ціха ступае.
Цярпення хапае,
Чакае труна —
Адналюбка сляпая.

*17 ліпеня 1994*

*8 верасня, субота*

Сустрэча з сіаньскімі пісьменнікамі. Лаўрэат прэміі на лепшы верш. Ёсць і такое званне ганаровае. Двойчы лаўрэат Усекітайскага конкурсу на лепшае апавяданне. «Літаратурны агляд: 1) аналіз галоўных метадаў, ідэя творчасці, абставіны; 2) аналіз твораў пісьменнікаў; 3) вывучэнне літтэорый; 4) азнаямленне чытачоў з замежнай літаратурай, як у краінах да кітайскай літаратуры і кітайскай літаратуры да замежнай літаратуры. Часопіс чытаюць не толькі у правінцыі. «Марксізм-ленінізм, ідэі Мао Цзэдуна глыбока ў нашых сэрцах. Літаратура мусіць служыць народу. 100 кветак. Пісьменнікі павінны глыбей ісці ў жыццё, каб адлюстраваць жыццё народа. Усе пісьменнікі згодныя з гэтымі асноўнымі прынцыпамі. Падзеі на Цяньаньмэнь[1] вялікія, але мы на сваім шляху, падзеі не шкодзяць творчасці некаторых пісьменнікаў. Супроць буржуазнай дэмаралізацыі, адстойваюць шлях сацыялізму і кіраўніцтва партыі і маюць права пра гэта сказаць пісьменнікі. Пісьменнікі ўспрымаюць падзеі паразнаму. Падтрымлівалі лозунг супроць бюракратаў, а не ўбачылі адмоўнага, што ўсе не падтрымліваюць. Падзеі мала перашкодзілі творчасці пісьменнікаў, мала твораў, прысвечаных падзеям. Асобныя вершы. Гэта не гаворыць, што мы не асмельваемся пісаць. Бярэм урокі». Вядомыя фразы, ужо амаль забытыя ў нас. Пырнік палітызацыі глыбока пусціў карані ў свядомасць старажытнага народа. Кітайскія літаратары напісалі нарысы пра Саюз па 10 і 30 тысяч іерогліфаў. Пытанне, ці гэтак спакойна ў Маскве, ці вялікая чарга ў Маўзалей Леніна? Быкава ведаюць меней, чым Айтматава[2]. Межыраў: «Рэформы ў Кітаі праводзіліся, дзе захавала-

[1] Студэнцкія выступленні супраць карупцыі партыйна-дзяржаўнага апарата, якія былі жорстка разагнаныя вайскоўцамі з вялікай колькасцю ахвяр.

[2] Айтматаў Чынгіз Тарыкулавіч (1928–2008), кыргызскі і рускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч. Народны пісьменнік КіргССР (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Герой Кыргызскай Рэспублікі (1997). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1963), Дзяржаўнай прэміі СССР (1968, 1977, 1983), Дзяржаўнай прэміі КіргССР (1976), Літаратурнай прэміі «Этрурыя» (Італія, 1980), Міжнароднай прэміі імя Дж. Нэру (1985), Еўрапейскай літаратурнай прэміі (1993).

ся сялянства, якое ўмее і жадае працаваць». «А ў Кітаі рэформа пачалася з вёскі», — удакладняюць кітайцы. «Ахматава[1] казала, што недарэчна пражыць жыццё, не прачытаўшы «Боскай камедыі» Дантэ[2] па-італьянску. А я, кажа Межыраў, — недарэчна пражыць жыццё, не ўбачыўшы Кітая».

У правінцыі ≈ 400 пісьменнікаў. Сярод 400–70 членаў Усекітайскага аб'яднання пісьменнікаў, ёсць і сяляне, і рабочыя, якія з'яўляюцца членамі аб'яднання. Выдаць кнігу можна толькі са спонсарам, бо і паліграфія даражае. Пісьменнік піша кнігу, дзе прапагандуе фірму ці сябра выдаўца. Кнігу паэзіі можна выдаць за 2–3 месяцы.

Мячэць, на маладзіку громаадвод.

Кітайскім пісьменнікам, калі яны едуць за мяжу, у СССР, напрыклад, даюць 5 долараў. На іх разгуляешся, як сабака ў торбе! Прыгубіў віна[3], якое любіла наложніца імператара і пасля якога Ду Фу пісаў свае неўміручыя вершы. Як цёплы сырадой, толькі разведзены. З рыса гоніцца. Закусь і салёныя агуркі, і ананасы, і мяса, і куры, і крыветкі — усё ўпокат, уперамешку. На вуліцах загоны для табуноў веласіпедаў. На вуглу прадае стары яйкі, шклянкі чаю — яду для беднякоў. Шафёр перад атэлем спіць, а босыя ногі вытыркнуў з кабіны. Па тэлевізары рэкламуюць і памаду, і шампуні, і моды кітаянкі амаль як парыжанка ў даволі вольных паставах.

*9 верасня, нядзеля*

Па начах сніцца мама, ушацкая хата, многа знаёмых. Адчуванне, што ў гасцях і тут, і на зямлі, зліваецца ў нейкую тугу, аж сэрца паколвае. На вуліцы ахалодна, займаюцца бегам і старыя, і малыя, у вялізных кашах вязуць так тут называемы хлеб, праснакі камкаватыя, ацеслівыя. Вялікая пагада дзікіх гусей VIII в. (648 г.), сутру з Індыі манах пераклаў на кітайскую мову. Манастыр імператар у гонар маці [пабудаваў]. Манах цвёрда ішоў на захад, у пустыні страціў прытомнасць, але пайшоў дождж. 11 год у Індыі [пражыў]. «Вандраванне на захад» — раман ёсць пра манаха. Пагада ў індыйскім стылі, але матэрыял кітайскі, ён робіць яе аскетычнай, 7 ярусаў, арачныя праёмы з Індыі. У крамах усё вытанчанае, але дужа дарагое. Сваіх, як у нас у «Бярозку»[4], не пускаюць, гоняць вон. «Вялікая пагада дзікіх гусей, Замоўклых стагоддзяў званіца»[5].

---

[1] Ахматава Анна (сапр. Гарэнка Анна Андрэеўна; 1889–1966), руская паэтэса, перакладчыца.

[2] Дантэ Аліг'еры (1265–1321), італьянскі паэт і празаік.

[3] Гл.: Смакую віно, якое любіў Ду Фу (8.09.90, Сіань) // Міласэрнасць плахі. С. 198. Верш прысвечаны Гао Ману. *Гао Ман* (1923–2017), кітайскі вучоны-філолаг, русіст, паэт, перакладчык; народны мастак Кітая.

[4] Сетка валютных магазінаў у СССР.

[5] Гл.: Захапляюся Вялікай пагадай дзікіх гусей (9.09.90, Сіань) // Міласэрнасць плахі. С. 199.

Малы перад машынамі бегае. Штонікі ззадзі з разрэзам — для хуткасці. Сцяна дынастыі Мін — адзіная захаваная гарадская. У Сіані каліграфія моцная. Музей «Лес мемарыяльных стэлаў» [закрэслена: дзе занесены важнейшыя даты гісторыі] і каменных слупкоў, якія служылі канавяззю, кожны непаўторны. Увесь [неразб. 1] храм Канфуцыя. На вяршынях слупкоў-канавязях фігуркі жывёл. Лес стэл у Сіані ў 1087 г., памер 650 тыс. іерогліфаў. Стэлы на чарапахах, чарапаха — сімвал доўгажыцця. У 635 [?] г. нестэрыя Пятра каталіцкая, галава дракона, панцыр чарапахі. З каменя здымаюць малюнак і прадаюць звіткі. Канавязь каменная, на кожным слупку фігуры звяроў, людзей. Перад уваходам у грабніцу дракон, птушка Фенікс і колца, як ручка ўвахода. «Плызлежащий девушк», каменныя ільвы, драконы, насарогі. 3 тыс. год назад бронзавыя фігуры. Старажытнакітайскай ніхто не ведае, ведаў Го Можо[1]. Трапілі ў такі натоўп, што заплакаць хацелася, [неразб. 1] і ўнізе дзеткі па годзіку ідуць, як шляхта на фэст. Яйкі перавязаны чырвонымі жычкамі — святочныя на базар вязуць. Мячэць кітайскага стылю, як пагада.

Пекін. «Боінг», як казачны самалёт-кілім данёс у Пекін. Вечарам прайшліся і самай шырокай вуліцай, і вузенькай вулачкай. Начное жыццё кіпіць. Афіцэр з жонкай кормяць з лыжачкі супам малую сваю. Лупіць прадавец цеста для лапшы аб стол, як быццам скруткі бялізны пратае. У вёсцы паказвалі камень-падушку, на якую кладуць галаву: летам ахалода, зімой цёпла. І мне прыгадалася: «Рад камення, рад палення, жалезную ступу пад галаву». Па тэлевізары вельмі выяўна ідзе праграма АВМ з Амерыкі.

*10 верасня, панядзелак*

Цяжкім грузам на мне заказы Ілоны. Ёй здаецца, што ўсё проста. А грошы абмежаваныя, горада не ведаю, мовы таксама. Усіх прасіць, перад усімі передкаваць.

Вуліца ліхтароў (робяць ліхтары з 1079 г.). Парк Байхай з белай пагадай (паўночнага мора). «Хай будзе багаславён народжаны ў лотасе», — пачатак малітвы будзізму. Парк, возера-сажалка ў лотасе і помнік Буду ў лотасе, і побач пафарбаваны ў белы залацісты рабочы з сялянкай. Лотас павялічыць вытворчасць агульнымі сіламі. Зялёныя лакатары лотаса.

Сустрэча з кітайскімі пісьменнікамі ў рэстаране «Пекінская качка». У 15-ці правінцыях доўгія канферэнцыі напярэдадні Усекітайскага з'езда. Перакладчык перакладае: «Вярнуўся на родную Радзіму», — і гэта не такая ўжо таўталогія. «Азіяцкія гульні перашкодзілі Усекітайскаму з'езду пісьменнікаў, і мы разбілі на кавалкі па правінцыях міні-з'езды,

[1] Го Можо (1892–1978), кітайскі пісьменнік, вучоны, гісторык, археолаг. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1951).

гэта дае магчымасці чуць думкі нізоў. А ўсё-ткі чарговы V з’езд будзе, а гэтыя з’езды лепей назваць канферэнцыямі. 30 аддзяленняў СП, усяго 3,5 [тыс.] чалавек членаў СП. У кожнага аддзялення свае члены. Прыём 2 разы ў год, у сакавіку і ў верасні. Усе пісьменнікі атрымліваюць месячную зарплату, глядзяць, кім працуе, на якім адміністрацыйным рангу. Пісьменнікі 1 разраду — 180 ў месяц, усяго 4 разрады. Калі кніга тыражом меней 20 тыс., падаткі не бяруць.

Рэстаран «Пекінская качка». Качка разразаецца на 200 пласцінак умела. Бліны тонкія, у іх загортваюцца кавалкі качкі, нешта накшталт цыбулі, і ўсё макаецца ў смачную мачанку. Нешта нагадвае нашую мачанку. Потым булён з вады, якая варылася ў качцы. Спрабаваў зноў есці люгашку, крыху ўкусіў і ўсё-ткі далей не змог — гідка стала. Як прыгатаўляюць настойку на гадзюцы. У бутэльку гадзюку, яна стараецца трымаць галаву ў пустэчы ў горле бутэльцы, кісларод канчаецца, яна спрабуе ўкусіць, пракусіць корак і вылівае свой яд, памірае, і гэтак робіцца настойка. Пекін даслоўна — паўночная сталіца.

*11 верасня, аўторак*

Пекін. Сустрэча ў Інстытуце замежнай літаратуры Акадэміі грамадскіх навук Кітая, дзе валодаюць 30-цю мовамі. Чань Шань-Шчын, Ван Шоўжэнь, Чжан Цзе[1], Цзі Юаньчжан, Гуо Дзя-Шын, Люй Шаоцзон, Су Хан, У Сяоду[2], Чжоў Цігао. Пра Горкага пішуць на аснове замежных даследаванняў. Пасля Культурнай рэвалюцыі змяніліся адносіны да савецкай літаратуры, пацягнуліся многія да лацінаамерыканскай, да агламоўнай. У Межырава пытаюцца пра ўплыў Ясеніна, чаму няма датаў у вершах Межырава? Адказ: «З верша павінна быць зразумела, калі напісана». Межыраў не лічыць сябе прафесійным паэтам. «Колькасць вершаў у якасць не пераходзіць, і колькасць чытачоў не пераходзіць у якасць. У вялікага паэта павінен быць вялікі чытач, а цяпер яго ў Расіі няма. Хоць скажу, што шкадую, што не ставіў датаў». Кітаец кажа, што сціплага чалавека цэняць болей. Вольпін: «Ёсць ступень блізкасці, якая выключае магчымасць мемуараў». Межыраў: «Нельга гаварыць пра паэзію, не нагаварыўшы глупства. Я не смею перад абліччам Канфуцыя паказваць свой гнілы тавар». «Чарга на Галгофу, — сказала Ахматава пасля XX з’езда. — Як там у вас чарга на Галгофу?»

Прыём у пасольстве. Прыём цікавы размовамі. Усё, што творыцца ў нас, кітайцы ўжо даўно перажылі. Верх ціснe на нізы, армія вялікую сілу мае, але дэмакратызацыя прабівае ўсё.

---

[1] Чжан Цзе (н. 1937), кітайская пісьменніца.

[2] У Сяоду, кітайскі русіст. Нам. дырэктара Акадэміі грамадскіх навук КНР.

Прыём у перакладчыкаў. Асацыяцыя выпускнікоў ВНУ краін Амерыкі і Еўропы. У перакладчыкаў сотні тысяч членаў Ф і Т. Шмат перакладаецца па перабудове літаратуры. Дзяржаўная датацыя маленькая ёсць для асацыяцыі. Сунь Шэн'у[1] перакладаў Янку Купалу, назваў «Жалейка», пісаў у энцыклапедыю пра беларускую літаратуру. Вялікі кормчы сказаў: «Вінтоўка нараджае ўладу». Феадальны сацыялізм у Кітаі, як у нас асабліва ў Сярэдней Азіі. Моладзь жыве адным днём, ідэалаў няма. Пасля падзей хочуць прымірыць армію. Армія падмятае вуліцы. Выпадак: едуць на работу раніцай. Салдат аддаў чэсць, а хлопец упаў на зямлю, думаў — той замахваецца на яго. Салдаты з горных галодных раёнаў, дзікія. Глядзяць на пекінцаў і кажуць: «У вас жа ёсць мука, вы кожны дзень ясцё муку (вырабы з мукі, бо ў гарах нічога няма) і чаго вы яшчэ хочаце?» Моладзь ідзе ў гандаль. Прафесар мае жабрацкі аклад. А ў дзяўчат спачатку ў гандаль, а пасля выйсці за фірмача — ідэал.

*12 верасня, серада*

Пекін. «Ён зрабіўся ўжо дрэвам, толькі дыхаў», — [значыць] стары. Дарога, хоць яйкі катай на Вялічка. На фунікулёры. Кітайская сцяна! Шматпазваночная каменная змяя[2]. «На Вялікай Кітайскай сцяне…[3]» З вежы на вежу падаваліся светлавыя сігналы. На гэтай гарэ, дзе мы стаім, другая здаецца вышэй. Па металічных жалабах цыкады. Рачулка, кладка з каменьчыкаў, як шнурок качак, на вадзе бялеюцца лілеі качак. Бульба сушыцца на асфальце. Асфальт мятуць увесь час. У марлевай павязцы села і вяжа на спіцах. «Прадзед лотаці…»[4] Цэнтр светабудовы. Калі гаворыць, чуе неба, імператар маліўся, калі неба ўраджай паслала. Лічба 9, прыступкі па 9, усе кругі па 9 і г. д. 9 кругоў светабудовы. 9 — найвышэйшая лічба. Прыносяць ахвяру жывёл. Асаблівае рэха, у кантакт з небам уваходзіш. Сцяна рэха — усё чуваць, сцяна мяне чуе, але не ты. Увесь абшар называецца Храм Зямлі: 1) Нябеснага круга храм; 2) Вароты новага года; 3) Храм — малітва аб ніспасланні ўраджаю. Вышыня 37 м, дыяметр 30 м. 4 слупы — 4 сезоны. 12 чырвоных слупоў — месяцы. Без цвіка, слупы з цэльнага дрэва. Перад алтаром камень, на якім кленчылі. Маліўся імператар за ўраджай, а Рыжкоў[5] наадварот маліўся перад тэлеэкранам, каб ураджай быў меншы.

---

[1] Сунь Шэн'у, кітайскі пісьменнік, перакладчык. Нам. старшыні Кітайскага таварыства па вывучэнні савецкай літаратуры, нам. адказнага сакратара Саюза кітайскіх перакладчыкаў.

[2] Гл.: Гледзячы на Кітайскую сцяну (20.09.90) // Міласэрнасць плахі. С. 201.

[3] Гл.: Варажу на Вялікай Кітайскай сцяне (13.09.90) // Тамсама. С. 200.

[4] Гл.: Захапляюся вечным лотасам (22.09.90) // Тамсама. С. 201.

[5] Рыжкоў Мікалай Іванавіч (н. 1929), расійскі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1985–1990 гг. член Палітбюро ЦК КПСС і (па 1991) старшыня СМ СССР.

*13 верасня, чацвер*

Сустрэча з міністрам культуры. Маладжавы па-кітайску, мардаты, у светлым касцюме, з рамнём з бліскучай жоўтай пражкай, якая кідаецца ў вочы сваёй анадзіраванай зыркасцю. Любоў да ўсяго пулятага. Міністр піша вершы, паэт. Сказаў, што міністр — гэта часовая пасада, а сталая — паэт. У маладосці быў госцем Маршака[1]. Пры шыкоўнай гасцініцы, пасля яе Міністэрства культуры нібы ў часовым бараку, як у раённай рэдакцыі. Міністр лаўрэат Сталінскай прэміі. Выходзіць, гэта будынак не Міністэрства культуры, а будынак СП Кітая. Культурная рэвалюцыя была генацыдам інтэлігенцыі, усіх у вёскі [выслалі] араць зямлю, даглядаць жывёлу, падбіраць конскія яблыкі мусілі і дактары навук, і паэты. Акуляры — першы прызнак інтэлігентнасці, адразу бралі. Паабразалі тэлефоны, каб і паміж сабой не перамаўляліся. Пра кантакт з савецкімі і размовы не магло быць. Усё задумала «банда чатырох» пад час культрэвалюцыі. На слупах адкрыта віселі скрынкі для даносаў. Кожны павінен быў выявіць не меней 2-х.

*14 верасня, пятніца*

Ісай Калашнікаў[2] «Жорсткі век» — пра Чынгісхана[3]. Ад'езд, адлёт. Апошні абед у рэстаране аэрапорта. Адразу перад адчуваннем, што хутка ўжо будзе Белакаменная, падае настрой. Зноў акунацца ў бязладдзе, марную мітусню, нікчэмныя клопаты, з якіх і так амаль усё жыццё ў краіне, дзе перамог сацыялізм, складаецца, падае настрой. Не ўбачыш ужо вачэй Кітая, дзе ў нетрах начы і вогнішчы пячораў, і шаленства ордаў, вачэй, дзе тысячагоддзі запяты запапонай спакою і традыцыйнай усмешлівасці. Будучыня за гэтай вялікай дзяржавай, за гэтай вялікай нацыяй, за гэтым незлічоным народам. Калі толькі не паб'ецца гэтая крохкая чара на дробныя цурачкі. Бо вопыт знішчаць, раствараць у сабе цэлыя народы ў Кітая і традыцыйны, і набыты. Рускім заваёўнікам, рускім каланізатарам ёсць у каго павучыцца!

Здаецца, былі шмат дзе, шмат чаго пабачылі, а таямнічасць, загадкавасць, нераскрытасць Кітая яшчэ болей узрасла, яшчэ толькі болей хочацца адкрыць нешта тое, што ніколі не раскрыецца. Не ведаеш, ці гэта адчуванне мінулага, ці будучага — адчуванне Кітая. Еўрапейская самаўпэўненасць — малечае дзівацтва перад аблíччам Кітая, які ўсё бачыў, усё ведае, усё помніць, усё можа. Мядзведзямі, якія ступаюць у гушчары па

[1] Маршак Самуіл Якаўлевіч (1887–1964), рускі паэт і перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1946, 1949, 1951), Ленінскай прэміі (1963).

[2] Калашнікаў Ісай Калістратавіч (1930–1980), рускі празаік.

[3] Чынгісхан (Тэмуджын, Тэмучын; каля 1155–1227), заснавальнік і вялікі хан Мангольскай імперыі (з 1206), арганізатар захопніцкіх паходаў супраць народаў Азіі і Усходняй Еўропы.

ламу, здаюцца еўрапейцы сярод нячутных сваёй вечнай прысутнасцю ў гэтым свеце кітайцаў. Пра кітаянак і казаць страшна — настолькі вытанчылі іх тысячагоддзі, як самыя дасканалыя гадзіннікі, што ідуць дакладна, бясшумна, несупынна і магічна-велічна. Вечнасць Кітая ў ягонай бясконцай даўнасці, у ягонай несупыннасці, у ягонай еднасці з зямлёй і нябёсамі, — і нябёсы, і зямлю Кітай разумее. І разуменне гэтае ўзаемнае. Цяга еўрапейца ў Кітай — гэта не толькі экзатычная мара, гэта марная мара Захаду сустрэцца з Усходам, сустрэцца — у сэнсе паразумецца. Далей узаемнай цікаўнасці ніколі не пойдзе разуменне. Еўропа, калі можна так сказаць, танюсенькі пласт чарназёму. Еўропа нішто ў параўнанні з плоднай зямлёй, якой глыбока і трывала ў вечнасці Кітая. А нашыя ідэі светлай будучыні чалавецтва — нюшок калійных угнаенняў, ад якіх нічога не вырасце. Страшна падумаць, але белая раса пажаўцее ўнепрыкметку і хутка. Пакрасаваліся, пафанабэрыліся — і годзе, падумаў недзе Усявышні.

На фоне прыгарадных гораў
Цішэе пагады яліна,
Лагодзячы свой скрыты нораў,
Што грэўся ля агнёў пячораў.
Святлее раніца Пекіна.

Дракон нябёсаў дол наведаў,
Марскою бліскае луской.
І табуны веласіпедаў
Імчаць спакойных непаседаў
Праз пляц Нябеснага спакою.

*** Кітайцы робяць поле — цыкаду каля акна.

*Поле*

А поле ў кітайца маленькае самае —
Цыкада пасаджана ля вакна,
А поле ў ратайца вялікае самае:
Спявае й поле стварае яна,
Цыкада,
І ў полі раздолле,
За брамаю маладзічковай,
Дзе з цемры сцяна.
І ўсё забытае, ўсё забранае
Вяртае даверлівая мана.

*3 верасня 1994*

*15 верасня, субота*

Дамоў! Дзякуй Зоі Аляксандраўне Межыравай — прывязла нас з Кенешам[1] з Шарамецьева-2, дзе савецкі бардакізм у поўным росквіце сілаў і магчымасцяў. Пазваніў Васілю, тое-сёе пра паездку сказаў. На мой расказ, што пад час культрэвалюцыі на слупах былі прымацаваныя скрынкі для даносаў, ён сказаў, што такія б скрынкі нашым стукачам, а то крыху разгубіліся, меней працы стала, а працаваць хочацца. У мяне мільганула, што гэта шлях сацыялізму, гэта столбовой путь нашых ідэй — ад слупа да слупа са скрынкамі даносаў.

Хадзіў на Камароўку. Паўсюль чэргі, дакладней — адна бясконцая чарга ў светлае заўтра, якая даўжынёй болей чым у 70 год, і ўсё не менее. Прывабныя ўсё-ткі ідэі светлай-прасветлай будучыні, пра якую цяпер, дзякуй Богу, меней крычаць. Так і памрэш у чарзе…

*16 верасня, нядзеля*

Другая раніца дома. Сёння святая нядзелька. Хоць за вокнамі золка і маразяна, нейкая ўрачыстасць, перамешаная са смуткам, заўсягды прысутнічае ў нядзелі. Трошку быў на Камароўцы, трошкі прыходзіў у сябе пасля падарожжа па Кітаю. Гартаў слоўнік, знайшоў, што наша Бондар у перакладзе на англійскую *cooper* (ku:pэ). Кітай выходзіць з мяне, як некалі раніцай выходзіла гарэлка — і п’яна, і горка, бо шкадую, што болей не ўбачу.

* * *

*[N.]*

Ты — мой сум,
Які мяне аднойчы даканае,
А пакуль жыву
Ім адным,
Каб белы дзень ад ночы
Аддзяліць па звычцы —
На плыву,
Разлучаць,
Як тым багром бярвенне,
Што паскручваў клопат
У плыты.
Ты — маё світальнае барвенне

---

[1] Жусупаў Кенеш (н. 1937), кыргызскі празаік. Народны пісьменнік Кыргызстана (1999). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола КіргССР (1975), Дзяржаўнай прэміі Кыргызстана (2004).

Неба,
Дзе пагоду робіш ты.

*17 верасня, панядзелак*

Сазваніўся з Ушачай. Наконт вагонкі, каб хату ўнутры абабіць.
На працу. Сустрэўся з Бурсавымі.
Купляў гарэлку ў Вушачу і білет на аўтобус.

*18 верасня, аўторак*

Нездаровіцца. Сядзеў дома. Чытаў Мальдзісаву кніжку пра Караткевіча[1]. Здзіўляе ўчэпістасць і ўседлівасць Адама. Усё занатаваць, усё запомніць. Факталогія таксама паэзія.

*19 верасня, серада*

Праца. Заходзіў Карлас. Каб не ён, справы б з Беларускім ПЭН-клубам ляжалі б мокрай дубовай калодай на дне бюракратычнай рэчкі. Лявон Д.-Майсюк даў пачытаць сваё эсэ пра Грэцыю. З Вадзімам Спрынчаном знялі пытанні па перакладах Мандэльштама. Яму ўвогуле пераклады спадабаліся. А густ у яго ўедлівы.

*20 верасня, чацвер*

Шмат беганіны. Зноў званіў Карлас, з ПЭН-клубам фатыга, трэба будынак, а яго Гарвыканкам не хоча даваць. Трэба да Мазаіхі[2] ісці, клянчыць.

*21 верасня, пятніца*

Праца. Да Андраюка з неўміручым Лужаніным. Усё ніяк не награбецца. А ў выдавецтве з прыходам Барысіка [Сачанкі] з генералам КДБ Лужаніным носяцца, як са святой каровай у Індыі.

Чытаў царыста Салжаніцына[3]. Выходзіць, што пры царызме нацыянальнага пытання не было. І мара ягоная зрабіць хоць міні-імперыю са славян, дзе, вядома ж, будзе верхавенства старэйшага галас.акага рускага брата. Гнеў ягоны супроць партыі крыміналістаў і КДБ бліскучы. Адчуваецца — выпакутавана.

---

[1] Мальдзіс А. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека. Мінск, 1990.

[2] Мазай Ніна Мікалаеўна (н. 1950), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дыпламат. У 1985–1994 гг. нам. старшыні СМ РБ.

[3] Падобна, маецца на ўвазе праца А. Салжаніцына «Как нам обустроить Россию» (1990).

*22 верасня, субота*

Камароўка. Пісаў кітайскія вершы. Званіў Д.-Майсюку, чытаў вершы па тэлефоне.

*23 верасня, нядзеля*

Камароўка. Пісаў вершы пра Кітай[1]. Званіў Лявону.

*24 верасня, панядзелак*

Прыехаў Ліўземніек. У Саюзе пісьменнікаў бардак, як і ва ўсім Саюзе-імперыі. Ледзь уладкаваў у інтэрнат АН праз Тамару Карласаву [жонку]. Зрабілі ліст Мазай наконт ПЭН-цэнтра. Званіў Васіль вечарам. У Віцебску, у рэкламным дадатку, нашае пісьмо наконт музея Шагала. Там жа і зварот Ліхачова да [...] Сакалова. Дужа шырокую прэсу далі! Казалі, што П. і яму падобныя ў Літве, гэта кадравыя стукачы, якія баяцца, што КДБ іх аддасць на разрыў масам, як сыдуць з цугундэра.

*25 верасня, аўторак*

З Віктарам Ліўземніекам займаўся перакладамі Багдановіча. Два разы без званка хадзіў да Васіля — не застаў. Хацеў яму перадаць кітайскі жэнь-шэнь, напісана, што дапамагае ад астмы. У трох выданнях Багдановіча шукалі «Пагоню» — не знайшлі. Савецка-кэдэбісцкая пільнасць. Усё пад слухам, усе пад слухам. Дый цяпер мала што змянілася.

*26 верасня, серада*

Праца. Уладзімер Арлоў падарыў лонданскае выданне беларускага малітоўніка. Дзякуй яму. Хай Бог беражэ гэтага слыннага палачаніна. Напісаў верш верлібрам[2]. Пачытаў Л. Дранько-Майсюку. Той кажа, што даўно мяне збіраўся папрасіць напісаць што-небудзь не ў рыфму, каб інтанацыю змяніць.

*** [Без даты.] Галоўнае, каб праз белы верш чырвонай ніткай праходзіла думка.

*27 верасня, чацвер*

Працавалі з Ліўземніекам. Праводзіў яго дамоў, тое-сёе сабраў у дарогу. У іх, як і ў нас, нічога няма ні з абування, ні з аддзявання. Аж вусцішна.

*28 верасня, пятніца*

*[п. Ушачы.]* І маміна, і не маміна хата. Але душа маміна тут жыве, бо абжыта гэтая мясціна ёй, душой мамінай. Былое мястэчка вынішчана,

---

[1] Гл.: А што я пажадаць маю? (23.09.90) // Міласэрнасць плахі. С. 204.

[2] Гл.: «Тралейбус прыстоіў...» (26.09.90) // Тамсама. С. 168.

застаўлена халоднымі цэгламі, хоць яна і белая. Кучкі нейкіх выраджэнцаў спітых, падоначных, мяргуюць, як на траіх здабыць «чарніла». Халодна ад непрытульнасці, ад дзікаватасці.

** І лес няроўны, і людзі няроўныя… Жаўталіст даланю прыкладае да зямлі, ці не зусім астыла, правярае…*

*29 верасня, субота*

Абіралі яблыкі. Амаль біблейская лагода на душы. Вечная таямніца яблыка, як і жыцця. Хадзілі з Валяй на магілу мамы. Трава, зяляніна, напалая ігліца — сведкі вечнага спакою, прымірэння з лёсам. Назад ішлі — бачылі вожычка-сігалетка. Не баіцца нікога, перакінуў, узяўшы шапкай, праз зыгарадзь, а то на асфальце яшчэ машына пераедзе. Вечарам зайшоўся да Марыі Рыгораўны. Даю паўсотню, выцягвае насовачку, загортвае і перавязвае рагі, як вузельчыкі на памяць.

Імжака, цемра. Гараць вокны хаты нашай — і вокны не тыя, і святло не тое. Колькі мінула, а помню, як прыязджаў з цёмным у Вушачу. Калі мама не чакала, грукаў у вакенка, і рэзка [стукаць] баяўся, каб не спалохаць, і разбудзіць маму трэба. Уставала, прымала з дарогі, частавала. Ніколі ўжо не адчую я шчырасці столькі і дабрыні. Памірае маці — чалавек сірата, вакол яго ўсе чужыя, нават залатыя дзеткі, пра жонак і казаць не варта. Усё добра, жонка добрая, а як што — невядома што, куды і як. А дзеткі глядзяць толькі, каб узяць дзе-ткі.

*30 верасня, нядзеля*

Уночы, раніцай пастаяў каля дрэваў, якія вынянчаны мамінымі рукамі. Навальнічныя галіны яблыняў ледзьве утрымліваюць сакавіты град. Дух мамы тут. Таму і сумна, і журботна, і шчымліва. На дарогу перахсціла Марыя Рыгораўна, мая рэдкая радня, якой даражу, якой жыву.

Вечарам да Радзіка Лапушына, да гэтага асколка інтэлектуальнай часціні. Добрыя ў яго новыя вершы, хоць і без глебы, без пяску, без каранёў. Паэзія мусіць быць align="right"знаякай, інакш яна нія́кая і нiяка́я.

*1 кастрычніка, панядзелак*

Радыё паведамляе, што ў Пінскім раёне паспяхова гадуюць аленяў. Што ж, беларусы ўжо як чукчы робяцца клопатамі галоўсвінара Сакалова […]. Лён давялі да ручкі, на палях стаіць, школьнікі частку грузяць ў кузаў, частку паляць, каб абагрэцца. Выгода па-савецку: і грузіць меней, і дымком (хай дарагім) абагрэцца льга.

Званіў Васілю. Ірына Міхайлаўна пытаецца пра надвор’е, Васіль: «У Вушачах не можа быць дрэннага надвор’я, а ў крамах усяго поўна». Казалі пра артыкул А. Сідарэвіча ў «ЛіМе». Выдатны. Васіль: «Адносна

нацыянальнага пытання яўрэй спагадае і зразумее, а рускі ніколі. Салжаніцын тыповы рускі». Наконт Ніла і Боруся Алейніка: «Люблю легальных дэмакратаў, якія смелыя строга ў межах, адмераных партыяй. Ніл нарэшце дасяг таго, да чаго пяўся ўсё жыццё: вярхі паважаюць, сам Дзямянцей».

*2 кастрычніка, аўторак*

Да Быкава. Ён абкладзены, як воўк, ні пісьмы ягоныя, ні пасланні не даходзяць. Раней, кажа, хоць чыталі, але пускалі. А цяпер нічога, толькі калі па тэлефоне наконт самастойнасці рэспублікі. Свядомасць ў нас яшчэ нізкая. У чые рукі незалежнасць — дзямянцеям ці [сакаловым]? Вось калі б Пазняку, іншая гаворка. Але яго адпіхваюць на задні план. Замежныя станцыі дападаюць, каб ён выказаўся адносна Салжаніцына. Яму лепей маўчаць. Сам я запісаўся для праграмы «Крок» адносна рускага барана ў нацыянальным пытанні.

*3 кастрычніка, серада*

Праца. Да Мазай наконт ПЭНа. Мазаіха не можа прыняць ужо з месяц. І нічога не вырашае, але на роўным месцы тырчыць. Памочнік, вучыліся разам, запыханы, паслужліва-бездапаможны, з стукачыкаў. Нічога ў апаратах не змянілася і не зменіцца. Навука чынавества вельмі даўняя.

* * *

Бог быў тварбою шэсць дзён заняты,
Веяў жыцця маладыя зярняты
І адпачыць прылёг у нядзелю,
Скончыўшы клопат, кволіў надзею.

Поле жыццёвае закаласіла,
Зноў з ураджаем клопату — сіла.
Летам спякотна, зімою сцюдзёна,
То суха, то слота, і так штодзённа.

Неба абута, зямля разута.
І зноў ён, клопат, і зноў пакута.
Вольнай хвіліны не мае Ўсявышні,
Выходзіць, што клопат і нам не лішні.

*4 кастрычніка, чацвер*

У гатэлі «Турыст» прэс-канферэнцыя з дацкімі журналістамі. Сказаў усё, што ведаў і ўсё, што думаў. У лепшыя часіны забяспечыў бы месцы на Салаўках і праўнукам. Сталінізм-кэдэбізм дасюль давіць нас і не паслабіць пятлі.

*5 кастрычніка, пятніца*

Мучаюся з Вальехам. Настрой, як надвор'е. Перспектыва нашай мовы, пакуль мы ў складзе савецкай імперыі, плачэўная. Наогул, у свеце пануе мова, чые грошы пануюць. Цяпер долар прымушае вывучаць англійскую. Хвалёны савецкі рубель толькі мягкі трэба выпускаць, каб хоць прымяненне меў.

*6 кастрычніка, субота*

Сямён Саламонавіч [Элькінд] здабыў мне білет у Кіргізію, лячу на юбілей класіка. Мыўся пад восеньскім ліўнем. Званіў Лявону Д.-Майсюку. Буду весці ягоны вечар 30-га. З усіх маладых ён самы адукаваны, самы шырокі ў інтарэсах, самы нацыянальны каранёва, а не лісцёва, бо ліст пры першым сівярку аблятае.

Званіў Васіль. Ён быў на Ушаччыне, начаваў у брата Міколы ў Бычках. Праехаўся старой дарогай на Полацк. Яшчэ лазенькі каля азёраў стаяць, дарога забытая, але дужа мілая. Спытаўся, хто з СП выйшаў з шэрагаў нашай роднай камуністычнай. Яны, знаходзячыся ў шэрагах злачыннай арганізацыі, нешта яшчэ вякаюць пра нацыянальную культуру. Прыязджаў Бураўкін на сарачыны бацькі з Нью-Ёрка. У ім даверлівы Васіль толькі цяпер заўважыў чыноўніцкую струнку. Іх з Нілам яднае прага ўлады, вернасць партыі злачынцаў. «Пра вышыню: І запытала вашаня…» [у блакноце].

*7 кастрычніка, нядзеля*

Заканчваў перакладаць Вальеху. Геніяльны, бо вар'ят, вар'ят, бо геніяльны. Нельга навучыць паэзіі, можна навучыць рыфмаваць. Як навучыць таму, што чалавек згубіў свой цень на пажары!

Мае радкі, як тыя ніткі,
З якіх саткана мне кашуля,
Са словаў наскіх, крывічоўскіх,
З чабору, з верасоў, са шніткі…

*8 кастрычніка, панядзелак*

З раніцы хачу прабіцца хоць па тэлефоне да Станіслава Ст. Шушкевіча наконт памяшкання пад ПЭН-клуб. Пазваніла Яўгенія Мальчэўская[1]: «Віцебскі рабочы» пераходзіць на рускую мову. Пакуль даюць цераспалосіцу. Усё па просьбе працоўных, а на справе па ўказцы абкома партыі

[1] Мальчэўская Яўгенія Еўдакімаўна (1949–2008), беларуская паэтэса. У 1980–1989 гг. настаўніца Талачынскай СШ № 2, з 1989 г. у Віцебскай СШ № 40.

рэцыдывістаў. І вобласць, і наплоены, напудраны Грыгор'еў — любімцы Ягора Лігачова.

Лявон Д.-Майсюк любіць вобраз аскетычна-акмеістычны, эстэт народнага паходжання, ён так абчэсвае палявыя камяні давыд-гарадоцкіх словаў, што на іх праступае крэўны ўзор, каб не сцерціся, не пацямнець, а застацца, запасці ў душу нашчадку, разбудзіць у ім душу беларуса.

*9 кастрычніка, аўторак*

У дырэктара на дні сем пятніц. Ужо не будзе выдавецтва аддзяляць частку рэдакцый на «Беларускі пісьменнік». Хітра партакраты робяць з нацыянальным пытаннем. З 1 верасня ўвайшоў нібыта [у сілу] закон, і, напрыклад, «Віцебскі рабочы» пачынае выходзіць як каланіяльная газетка, дзе даецца трошкі матэрыялаў на мове тубыльцаў. Дзе ж вучыць мову, дзе яе чуць, дзе яе вокам бачыць? Адной душы мала. Дый з душы партыяй злачынцаў усё вытручана.

*10 кастрычніка, серада*

Прафсаюзны сход у выдавецтве. Некаторым нашым выступоўцам толькі браневіка не хапае.

*Леаніду Дранько-Майсюку*
*(да дня нараджэння)*

Не паглядаю на славу гала,
Са смагай прагнасцю сысунка,
Як перакладчык Марка Шагала,
Як знаўца Лявона Дранько-Майсюка.

*11 кастрычніка, чацвер*

У Ленінцы заказаў Асмонава[1], трэба ехаць на 75-годдзе ў Фрунзе. Бібліятэка цэнтральная Дзяржаўная гэтулькі гадоў хлявее, а побач цэнтр цемрашальства — ЦК на чале са [... Сакаловым]. Бібліятэкары атрымліваюць грашы, а партыйцы, якія нясуць цемру і бездухоўнасць з марксісцкай падаплёкай, маюць грошы. За невуцтва. Шарлатанізм-ленінізм ужо гэтулькі дзесяцігоддзяў корміць да адвісласці лычоў партапаратчыкаў. І канца не відаць.

*12 кастрычніка, пятніца*

У Ленінцы чытаў Алыкула Асмонава. Адчуваецца, што жывы паэт. Але, перапёрты на язык родных осин, гучыць амаль як Лёва Ашанін[2],

---

[1] Асмонаў Алыкул (1915–1950), кыргызскі паэт, драматург, перакладчык. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола КіргССР (1950, пасмяротна).

[2] Ашанін Леў Іванавіч (1912–1996), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950).

яшчэ болей няўклюдна. Пераклад паэзіі — і выратаванне, і забойства паэзіі. Нават перакладчык не заўсягды робіць тое, што жадае. Хочучы ўратаваць, топіць у віры іншай мовы, ад арыгіналу толькі бурбалкі застаюцца, і нават яны не заўсягды могуць выбіцца на роўнядзь перакладу.

*13 кастрычніка, субота*

Прывезлі ўнучачку Домначку. Адразу ў хаце вясёлы вэрхал — усюды хочацца, усюды цікава нос уторкнуць, паглядзець, узяць, кінуць. Якая гэта радасць — адчуць крэўную змену, адчуць, што цябе нехта змяняе, замяняе, невядомы, незразумелы, неспазнаны. Але свой![1]

*14 кастрычніка, нядзеля*

Праседзеў дома. Радаваўся з унучачкі. Гэта вялікае шчасце — пабачыць свой працяг, хай зменены, хай непадобны, але свой па крыві і, цепліцца надзея, па духу.

*15 кастрычніка, панядзелак*

Праца. Да Наталлі Сямёнаўны. Абмеркавалі святкаванне 60-годдзя Уладзіміра [Караткевіча] ў Оршы. Хай бы сам быў. Усё было б прасцей і складаней. Пры жыцці таго не меў і дазволу на шмат што не меў. Заходзіў да Навума. У яго рамонт. Гаспадар, як вязень Асвенцыма.

*16 кастрычніка, аўторак*

Праца. Запіс пра Марка Шагала на тэле. Сказаў, што думаў. І кандовага партапаратчыка Петрашкевіча ўспомніў.

*17 кастрычніка, серада*

Устаў а 4-й раніцы. Таксі не далі па заказу, прыехаў нейкі ахламон, які прастаяў ля 8-й кватэры замест 8-га пад'езда. Калі сказаў, што ехаць у далёкі аэрапорт, спаслаўся, што няма бензіну і наогул ён заканчвае змену. Давёз да аўтавакзала. Сказалі, што таксі не ходзіць — туман. Там таксіст траіх нас за трыццатку давёз, і туман паменшыўся. І гэтак далей цягнулася эпапея нашай расхлябанасці, нашага савецкага бардакізму. Нашае светлае будучае, якога мы ўжо дасяглі, не камунізм, а бардакізм. У Маскве самалёт замест Шарамецьева сеў ва Унукаве. Дабраўся аўтобусам і трамваямі да Бурсавых. Потым уночы на *Фрунзе.*

*18 кастрычніка, чацвер*

Самалёт сеў у аэрапорце Манас. Адразу згадаўся рымскі Леанарда. А тут ніхто не сустрэў, а сустрэў савецкі ідыятызм на азіяцкай гле-

[1] Гл.: «А цяпер мне і падумаць дзіка...» (13.10.90) // Міласэрнасць плахі. С. 167.

бе. Ледзьве ўладкаваўся ў саўмінаўскую гасцініцу «Іссык-Куль». Тут пра свайго[1] дземянцея перарабілі анекдот. Ідзе кіргізскі прэзідэнт са свіннёй, а яго пытаюць: «Навошта ты гэтага асла вядзеш?» Той пярэчыць, што гэта не асёл, а свіння. «А мы не ў цябе пытаемся». Каменданцкая гадзіна Фрунзе каштуе 20 тыс. за ноч. Ужо з лета пайшлі мільёны. Калі ляцеў, падумаў, што трэба, як аэрапорт, назваць і горад, змяніць гэтае крывавае Фрунзе на Манас. Выходзіць, гэтая ідэя ўжо жыве тут. Рух накшталт Народнага фронта забараняецца. Але нацыянальнае прабіваецца паступова. Ужо ў Фрунзе 5 кіргізскіх школаў, моладзь сілай захапіла ўчасткі зямлі сталіцы, і ўлады вымушаныя былі прызнаць іхняе права будавацца, гэта кіргізы, бо ў Фрунзе па заклятай савецкай традыцыі ≈ 30 працэнтаў кіргізаў. Вядомая сітуацыя. З Кенешам [Жусупавым] заходзілі ва ўтульную шатрападобную чайхану. Нацыянальныя стравы, зэдлічкі нізкія. Заходзяць маладыя, іхняя памяць продкавая нешта роднае ўспамінае.

*19 кастрычніка, пятніца*

Фрунзе. На вуліцы светла. Выпаў снег на зялёнае лісце. Не да часу. Значыць, нешта ў Казахстане ваякі выпрабоўваюць. Усё звязана. Былі на магіле Алыкула Асмонава. Сціплы помнік добраму паэту, не аблашчанаму савецкай уладай. Як у Літве Кудзірку. Усклалі кветкі. Прамовы. Потым усе сядзелі на кукішках, адзін нехта прачытаў малітву. На галоўнай алеі магільніка безгустоўна-павялічаны помнік бацькам Чынгіза Айтматава. Танна для Чынгіза, але плошчы шмат, і, здаецца, мармуровая крошка.

«На свой юбілей нас усіх запрасіў сваім вечным словам верны сын Киргизии Алыкул Асмонаў. Так у Расію запрашае Пушкін, у Беларусь Янка Купала. І гэтакае запрашэнне слова паэтаў болей аб'ядноўвае нас, нячым заканадаўчыя акты і ўказы, падмацаваныя сілай арміі і міліцыі. Кожны народ вольны сам выбіраць, дзе яму жыць і з кім дружыць. Адзінае, што мусіць берагчы кожны народ і чалавек, — сваю мову, сваё роднае, крэўнае, спрадвечнае».

Вечар Алыкула ў філармоніі. Застолле, як у застойныя часіны. Ш. [...], выходзячы з застолля, яшчэ з сабой папрасіла бутэльку шампанскага, — маскоўская звычка хапаць усё, што дарма, хоць траву есці.

Увесь кафлікт у Ошы, выходзіць, з-за ўзбекаў, якія хочуць паглынуць усе цюркамоўныя рэгіёны і ўтварыць вялікі ўзбек-кагал. Тут ёсць рука і ішака ішаковіча, персанальнага Рафіка Гарбачова.

*20 кастрычніка, субота*

Усё пераблыталася, ноч з днём, дзень з ноччу. Сёння едзем на радзіму Алыкула Асмонава. У вялікай катлавіне збой народу. Снег стаў граззю,

[1] Масаліеў Абсамат Масаліевіч (1933–2004), першы сакратар ЦК КПК (1985–1991).

тлустай граззю Азіі. На ўзвышэнні адкрыццё помніка, мітынг, адкрыццё музея Алыкулу. Далі запрашальныя білеты, дзе памечана, хто ў якой юрце. Мне далі 4-ю юрту, як нумар у гатэлі. Там папаска. Конныя скачкі. Дагані дзяўчыну[1]. Схапі манету. На скаку трэба ўхапіць завязаную ў чырвоную анучку манету. Малыя хлапчукі — забег, хто першы разразае путы двухгадоваму хлапчуку, каб той бегаў. Сімвалічнае разняволенне. Па мацюгальніку выступаюць гумарысты. Імітуюць Гарбачова па-руску і свайго ішака з ЦК па-кіргізску. Гэта ўжо зрухі перабудовы.

Ад'езд. Ніхто з кіраўнікоў з намі не паехаў, засталіся на дармавую гарэлку. Азія ёсць Азія. Цалуюцца, называюць лепшымі сябрамі, а як запахне п'янкай, забываюцца ўмомант. Ледзь паспелі на самалёт.

Вядома ж, да Івана [Бурсава].

*21 кастрычніка, нядзеля*

*[Масква.]* Ваня адвёз у Шарамецьева. Мінск! Холад, золь, зазімак. За мной ехала жанчына з Прымор'я з сынам. Беларуска. Сын вырас там. Цікава ўспрымаў сваю фактычна і нашу прыроду. У іх таксама ў крамах гола.

*22 кастрычніка, панядзелак*

Праца. З Карласам заўвагі ягоныя па Вальеху. Добрую прадмову напісаў як заўсёды, бо ён таленавіты, Карлас!

*23 кастрычніка, аўторак*

Гарвыканком наконт ПЭН-клуба. Выбівалі ў мэра памяшканне. Усё ідзе туга. На працы Сачанку спецыяльна расказаў наконт кэдэбісцкай дзейнасці Лужаніна, кашчэя неўміручай нашай беднай літаратуры. Барысу хоць у вочы, усё роўна скажа, што раса з неба. […] Па горадзе паніка. Хапаюць соль, запалкі, тлушч, — усё, што можна яшчэ ўхапіць. Паслявайной запахла. Жудасна. Давялі бальшавікі да ручкі.

*24 кастрычніка, серада*

Праца. З Сёмухам рэдагавалі Вальеху. Па крамах хапун праходзіць, хапаюць усё. Ніхто не ведае, што яго чакае. І вайны не трэба. Ад нерваў ды ад Чарнобыля колькі сканае. Дзякуй партыі за гэта. А яна здае ў арэнду свае палацы, свае гмахі, напіхваючы партыйную каліту. Гебельсаўская[2] сістэма прапаганды не спыняецца.

---

[1] Гл.: Кыз кумай! (5.11–5.12.90) // Міласэрнасць плахі. С. 154.

[2] Гебельс Йозеф (1897–1945), кіраўнік прапагандысцкага апарату фашысцкай Германіі (1933–1945).

*25 кастрычніка, чацвер*

З Васілём Сёмухам даканалі Вальеху. Усе пытанні знялі. У «Падпісных выданнях» выкупіў кнігі. З усіх куткоў, з усіх размоў — жах, разгубленасць: што будзе, як жыць? Як спявалася ў сталінісцкіх песнях: жывем у казачнай краіне. Гэтакай безвыходнасці яшчэ не было. Спачатку мы адмовіліся ад Бога, а цяпер Бог ад нас адмовіўся.

*26 кастрычніка, пятніца*

Праца не йдзе. Хвора мне. Абыякавасць ад нейкага душэўнага і фізічнага болю.

*27 кастрычніка, субота*

На Камароўку.

Пакутую ад Эмінеску, над паэмай «Лучафэрул» [«Лучафэр»]. Дужа рамантычна-ўзнёслая, недзе пад ўплывам лермантаўскага «Дэмана». А ў Лермантава, відаць, быў свой узор. Уся літаратура ўзаемазвязана, як і чалавецтва. Ланцуг разрываюць на час толькі вайны, а ў нашыя дні Чарнобылі. XX век — як забітыя вокны хатаў, якія пакідаюць ашалелыя ад пакутаў людзі. «І раптам прыходзіць канец...»[1] З такім настроем пачынаю жыць.

*28 кастрычніка, нядзеля*

Хварэў. Качаўся з жыватом, усё дрэннае перадумаў.

*29 кастрычніка, панядзелак*

Праца. Закончыў пераклад «Лучафэрула». Накідваў слова пра Лявона Д.-Майсюка. Знайшоў аж з Магілёва мяне Шклярэўскі. Уюны яму не даюць спакою ў адным месцы. Сябруе з начальствам, заўтра на прыём у Саўмін. Страшэнна не люблю, не хачу і не ўмею хадзіць па начальству. У Ігара талент на гэты конт.

*30 кастрычніка, аўторак*

Прыехаў Ігар на машыне Лявонава. Хадзілі ў Саўмін да памочніка Кебіча Кеніка[2] Івана Альбінавіча. Квадратнатвары, пад вожык падстрыжаны крамяны мужчына, яўна з балцкімі дамешкамі. Размова ішла, каб з рахунка, які так цяжка адкрывалі, грошы трапілі ў рукі чарнобыльцаў. У дзяржавы і свае грошы вырваць цяжка. Потым быў вечар Лявона Д.-Майсюка. Вёў гэты вечар. Выступалі па-рознаму. Артыстычна вы-

[1] Гл.: «І раптам прыходзіць канец...» (27.09.90) // Міласэрнасць плахі. С. 170.
[2] Кенік Іван Альбінавіч (1937–2017), нам. старшыні СМ БССР (да 1991).

ступіў Георгій Марчук[1]. Потым большасць з-за гэтага і прыйшла — пайшлі на банкет. Моладзі, аднагодкаў па літаратуры было дробна. Дзіўна.

*31 кастрычніка, серада*

Запіс на тэле. Колькі слоў пра Уладзіміра Караткевіча. З Валодзем Арловым у беларускіх класах у Серабранцы. Рэзервацыя для дзетак абарыгенаў. А дзеткі добрыя, вымаўленне чыстае, самі душою чыстыя. Аж сэрца заходзіцца. Гэтак, калі б не партыя злачынцаў КПСС, магло быць па ўсёй Беларусі. Калі б яна была дзяржавай.

** Каб стаць класікам, трэба памерці.*

*1 лістапада, чацвер*

З раніцы ў Вярхоўны Савет. Уручэнне медалёў Францыска Скарыны. Кэдэбісты з узнагароднага аддзела сталінска-берыеўскімі галасамі гнюсявяць прозвішчы. Уручае нам. старшыні непісьменнага Дземянцея, таксама невук, нейкі Шаладонаў[2]. Па-руску ўсё. Калі я, атрымліваючы з гэтых брудных рук медалёк, запярэчыў, чаму, хаця б скарынаўскі медаль уручаючы, не маглі ў так званым Вярхоўным Савеце так званай рэспублікі хоць па-беларуску абвясціць, гэны ж Шаладонаў запярэчыў, што галоўнае любіць радзіму, бач ты, дзе хлеб, там і радзіма, і выціснуў з палескага свайго мурла некалькі словаў трасянкі. Затое тлустаму пісьменніку Шамякіну падкрэсліў па-руску (з палескім выгаварам), што ён яго чытаў некалі (прынамсі, на вокладцы кнігі). Кэдэбісту Лужаніну ўручалі ордэн Леніна за заслугі перад дэпартаментам Берыя. Апладысментаў не было. Зайшоў у Міністэрства гандлю, занёс заяву з рэзалюцыяй Кебіча наконт машыны [для ПЭН-цэнтра].

*2 лістапада, пятніца*

Перакладаў Эмінеску. Званіў ва Ушачы Ілоне. Яна там разам з Косцем.

*3 лістапада, субота*

Дзяды. Устанаўленне ў парку Чалюскінцаў крыжа-капліцы — ахвяр сталінізму-кэдэбізму ўшанаванне. Васіль Хомчанка[3] выступаў рэзка, не па чыну пракурора вайсковага, а як вязень сталінізму. Ну што ж, і калугіншчына таксама мае права на жыццё. Выступала дачка Тодара Кляшто-

[1] Марчук Георгій Васільевіч (н. 1947), беларускі празаік, драматург, сцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[2] Шаладонаў Васіль Іванавіч (1948–2007), нам. старшыні ВС РБ (1990–1992).

[3] Хомчанка Васіль Фёдаравіч (1919–1992), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны.

рнага[1], Зянон Пазняк, Вольга Іпатава[2], Кукабаба[3]. Спявае царкоўныя песні. Святароў не было. У беларусаў ні мовы, ні дзяржавы, ні свае рэлігіі, ні святароў. Я чытаў верш «Куцця»[4]. Вечарам званіў Васіль. У Рыме ягонае выступленне еўрапейцы ўспрынялі добра, не падабалася яно русапятам. У «ЛіМе» я прачытаў ягонае выступленне. Па-еўрапейску, з годнасцю. Пра вечнае і сучаснае на ўзроўні вечнага, як гэта і ўмее Васіль Быкаў.

** З віроў — звяроў.*

*4 лістапада, нядзеля*

На Камароўку. Мучаўся з малдаванамі. Званіў Радзік.

*5 лістапада, панядзелак*

Прыехаў Роўба. Размовы наконт ушацкай хаты. Званок Зуёнку — як будзем праводзіць вечар Караткевіча. Званіў Додзік [Сімановіч], у Віцебску вечар у Коласаўскім тэатры 23-га. Званіў Наталлі Сямёнаўне. Сустрэча з Карласам і Аляксандрам Іванавічам[5] у «Планеце». Прыходзіла Ілона, яна з Косцем прыехала з Ушачы.

*6 лістапада, аўторак*

Кароткая праца перад чатырма днямі адпачынку. Званіў Васіль.

*7 лістапада, серада*

Мітынг БНФ антыкамуністычны. Зянон — адзіная (Быкаў не ў лік) фігура ў нашым кароўніку, у нашым свінарніку. Зянон прапанаваў да помніка Леніну пакласці ўсе дары, якія даў ён нашаму народу — пудзіла камунізму, шыбельніцы, вянкі з калючага дроту. Лозунг: «Хай жыве КПСС на Чарнобыльскай АЭС!» Хоць міліцыя і амонаўцы ў некалькі рэдзяў стаялі, прарваліся людзі. Кіраваў Зянон, звяртаўся да палкоўніка міліцыі зрабіць калідор і прапусціць 10 чалавек. Прарваліся. Нехта на помніку пабіў паўлітроўку гарэлкі. Натоўп скандзірваў міліцыі і амонаўцам: «Фашысты». Пакуль ішоў мітынг, хлопчыкі ў цывільных джынсоў-

---

[1] Кляшторная Мая Тодараўна (н. 1937), беларускі архітэктар; дзеяч нацыянальнага адраджэння. Навуковы кіраўнік грамадскага праекту ўзвядзення у Курапатах памежных камянёў. Дачка Т. Кляшторнага. *Кляшторны* Тодар Тодаравіч (1903–1937), беларускі паэт. Рэпрэсаваны.

[2] Іпатава Вольга Міхайлаўна (н. 1945), беларуская пісьменніца, крытык, публіцыст, перакладчык. У 1989–1991 гг. заг. аддзела, нам. гал. рэдактара час. «Спадчына», у 1991–1996 гг. гал. рэдактар газ. «Культура».

[3] Дакладней, магчыма Кукабака Міхаіл Ігнатавіч (н. 1936), рабочы; беларускі праваабаронца, публіцыст, быў рэпрэсаваны (1970–1976, 1978–1980). Жыве ў Маскве.

[4] Гл.: Куцця (3.11.90) // Міласэрнасць плахі. С. 18.

[5] Елізараў Аляксандр Іванавіч, супрацоўнік ПЭН-цэнтра.

ках знялі ўсе дары крывавапму Валодзю. Добра выступіў Хадыка. Мітынг супроць партакратыі, але ў крыві ў нас яе гульні. І таму пратакол амаль партыйны. Ад усіх арганізацый аднастайна многа выступоўцаў на лютым сіверы. Трэба было кропку ставіць на дарах Валодзю Леніну, крываваму дэспату ўсіх часін і народаў.

* * *

Хаця табе усё да печкі,
Нашто, пра што і як пішу,
Ды не спяшай па мне імшу
Заказваць.
Мне твае павечкі
Дрыжаць спалохана ўваччу.
Стаіць твой голас мне ўвушшу.
Не задзімай таемнай свечкі,
Цябе прашу, табе крычу.

*8 лістапада, чацвер*

Званіў Алесь Адамовіч, прыехаў дамоў на выходныя дні. У Маскве, казаў, каля Лубянкі валун з Салаўкоў паставілі. Меўся быць сам «прычэпшчык» [Гарбачоў], але захварэў, як і трэба ў такіх выпадках. Званіў Ул. Паўлаў падпісаць нейкі дурацкі ліст у Саўмін, каб на культуру спагадлівым вокам зверху зірнулі. Мне як аргумент прывёў тое, што Кандрат Кандратавіч[1] падпісаў. Гэты сталінскі выпладак, якога Бог на зямлі трымае, каб пакутаваў за сваю абразу Бібліі. Васіль Быкаў правільна сказаў, можа б, і прыслухаліся апаратчыкі, каб увесь Саюз пісьменнікаў выйшаў са злачыннай КПСС. Але гэтыя свінні, у якіх вушы да мешанкі прымерзлі, не выйдуць. Не!

*9 лістапада, пятніца*

Госцем быў цыганскі паэт Вальдэмар Калінін. Усе цэрквы, выходзіць, маліліся супроць ведзьмара Тарасава. Галоўнае — як гучыць на афішах: «Галоўны вядзьмар Расіі», амаль як галоўны «прычэпшчык». Дамовіліся, што Вальдэмар напіша верш пра Караткевіча, а я зачытаю ў перакладзе, а Вальдэмар у арыгінале.

---

[1] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Народны пісьменнік БССР (1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

*10 лістапада, субота*

Скончыў мучыцца над малдаўскімі перакладамі. Нейкі адчай у паветры і ў душы. Цікава, што ў Пушкіна няма вершаў пра маці. Бо маці чыста ўмоўная, Арына Радзівонаўна гадавала. Караткевіч пісаў у класічнай манеры, а гэта куды цяжэй, чым кідацца ў навацыі. У класічнай манеры і стаў нязмушана класікам.

*11 лістапада, нядзеля*

На працы. Сачанка ўсё палохае, што можа праліцца кроў. Уся інфармацыя з КДБ. Іхні почырк. Свінарня — ЦК КПБ надрукавала пратэст супроць антыкамуністычнага мітынгу. Па тэле пачалі брахаць. Дабрэшуцца. Якая можа быць грамадзянская вайна, хто з кім? На адным баку ўсё — армія, КДБ, стукачы, амонаўцы, спецпрызнач[энцы], партапарат. А хто з чым на другім баку? Гебельсаўская палітыка называць мітынг каля 40 тысяч зноў «купка экстрэмістаў». Гэта свінарня, якая ЦК Беларусі называецца, купка, ад якой смярдзіць трупным пахам. Але за ўладу да сініх кіпцюроў трымаюцца. Як убачыць чырвоныя зоркі? Трэба гэтак чалавека біць (што і рабілі кэдэбісты і партапаратчыкі), каб з вачэй чырвоныя зоркі пасыпаліся.

*12 лістапада, панядзелак*

Зноў валэндаліся з паперкамі ПЭН-цэнтра. Паперы, паперы, паперы. Манбланы.

*13 лістапада, аўторак*

Да Васіля Быкава. Узяў у яго кнігу па медыцыне — перазняць. Гутарылі. Партыйна-гандлёвая мафія адкрывае свае банкі, валюта за мяжой. А савецкіх вязняў цяпер замяжа не ўбачыць, бо ўвялі — на паездку за мяжу нават на задрыпаны аэрафлот трэба валюта. Партапаратчыкі і стукачы асабліва баяцца не рынку, а што ўслед за рынкам можа быць дэмакратыя, а там адкрыюць архівы, стукачы без працы застануцца, а ўся вярхушка, пачынаючы ад с.анага камсамола, звязана з КДБ, прайшла школу стукачоў, выслужвалася, даносячы, кляпаючы[1].

Сёння ў саюз заходжу, у крэсле сядзіць Б. і пазірае, як свет глядзіць на яго. Гэта ён на камісію на прэміі прывёз сваю персону. Спытаў з’едліва, ці я ў камісіі. Я адказаў, што не. Услед пайшла [...] пстрычка, што люблю толькі браць, а не даваць. Сам дык набраўся цераз хамут. Зайшла размова пра святкаванні ў Оршы юбілею Караткевіча. Зрабіў ласку заўважыць, што правінцыйна тры дні святкаваць, можна было ўсё ў адзін

[1] Гл.: Палачка-стукалачка (7.11.90); Падайце голас! (14.110.90) // Міласэрнасць плахі. С. 189; 194.

дзень укласці. Пасля смерці яго, можа, і дня не будуць святкаваць. А Караткевіч — класік, усім Б. разам узятым і да мезінца Караткевічава не дацягнуцца. Не дай Бог дажыць да такой старасці, калі думаеш, што ўсё сказанае і напісанае (у двух значэннях) геніяльнае. А Б. ужо ў такім стане, што гатовы «вы» казаць уласнаму ценю. У Васіля Быкава сумны лозунг: «Сустрэнемся на стадыёне!» (Як некалі Піначэт[1] зганяў, толькі гэта дзіцячы варыянт у параўнанні, што савецкія могуць зрабіць.)

*14 лістапада, серада*

Клопаты па юбілею Караткевіча. Гілевічавы боталіз спартсмен Жалязоўскі хаміць Наталлі Сямёнаўне. Гэта ж сястра Валодзі. Наогул, Саюз пісьменнікаў нават не асвінае гняздо, а цёмнаяе дупло савінае. Наконт цёмнага пішу па традыцыі, бо ні разу ў савіным гняздзе не быў. А саюз цёмны.

*15 лістапада, чацвер*

На працы знайшлі нейкую валюту і кінулі на ўвесь калектыў. Транты купіць. І сапраўды голыя і сквапныя ўзварушыліся. Толькі і размоў. Відаць, начальства зверху купіла сабе нешта прыстойнае, а рэшцэ — рвіце, чэрці, на чвэрці. Выйшаў чарговы «Политический собеседник», цэбры памыяў выліта на ўсіх, асабліва на Быкава. Любая б нацыя, маючы Васіля, баялася б дыхаць над ім. А мы, дэнацыяналізаваныя, атабуненыя ў савецкую масу, слухмяныя і рахманыя перад свінарамі і цёмнымі партыйнымі прахадзімцамі накшталт сакалова і дземянцея.

Вершы пішуць тады, калі шалёная маланка б'е ў шалёную галаву. Рэдка б'е яна і ў рэдкія галовы.

*Уладзіміру Караткевічу*
*на 60-годдзе і на вякі*

Імя тваё — дрэва высокае
Небасхілы веры трымае.
На адужэлых суках
Нядрэмнага дрэва
Карціць пагушкацца, пагутатацца
І тым,
Хто тужыцца ўспомніць цябе,
І хто забыцца стараецца,
І запабежнікам,
Што сталі сябрамі цяпер,
І зласліўцам,

[1] Піначэт Аўгуста Хасэ Рамон Угартэ (1915–2006), чылійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, які захапіў уладу ў выніку ваеннага перавароту (1973).

Якія ў магутнай зайздрасці
Сіпець стаміліся, —
Усе за сукі чапляюцца.

А дрэва расце дужэй і вышэй.
Усё стрывала.
І ўсё і ўсіх вытрымае!

*16 лістапада, пятніца*

На працу. Карлас з ПЭН-цэнтрам. Да Наталлі Сямёнаўны. У Валодзевым пакоі і голас ягоны на плёнцы. Здаецца, пабыў са сваім любым сябрам, пагаварыў з ім. У ім была хлапчукоўская задзірыстасць усё спасцігнуць, усё даказаць, усё усім паказаць. Да канца дзён заставаўся ён хлапчуком, які хоча сцвердзіць сваё, паказаць умельства, нават выхваліцца, вылучыцца з усёй грамады. Невераемная памяць і дасведчанасць праз горы прачытанага. Усё спрыяла ягонаму генію. Ён адчуваў, што ён значыць для роднай культуры, што ён застаецца ў ёй поплеч са славутымі іменамі. Гэта яму шалёная маланка біла ў галаву, каб свет здзіўляў.

Схадзіў да Тáраса, аднёс яму вершы на пераклад у «Нёман». Бронік[1] сам прапанаваў.

*17 лістапада, субота*

Не паехаў у Вільню на ўрачыстасць Скарыны. Кепска мне. І з галавой. І з нагамі. Як падумаю, што хутка нафтабуд датруціць Ушаччыну, хоць на сценку лезь. 3-га катастрофа атруціла ўсю рэчку, загінула рыба ў нашай рэчцы. Яна і так была даведзена да ручкі, як беларуская мова. А тут яшчэ дзецішча (колькі іх хімічных па ўсёй Беларусі) прыгожай легенды партапарата Машэрава, які ніяк не мог супакоіцца ў насычанасці рэспублікі шкоднымі, устарэлымі заводамі-гігантамі. Усё, каб заўважылі і ў Маскву ўзялі! Снечкус Літву збярог і прыродна, і народна (генафонд), а пры Машэраве зачыніліся апошнія беларускія школы. Некалі ў Саюзе пісьменнікаў на з’ездзе бэкаў, мэкаў, кавэркаў беларускі тэкст прывітання ад партыі злачынцаў. Нібыта ён недзе ў Гусі-Хрустальным вырас. А *жизнь* усё роўна вымаўляў *жизинь.* Наладзіў прымусова-паказальныя пахавальныя працэсіі Сурганава[2] [...]. А Лабанка[3] (бо раўнаваў да партызанскай славы) хавалі як чалавека, які выпадкова ўтапіўся ў сажалцы. Мне шкада маю

[1] Спрынчан Браніслаў Пятровіч (1928–2008), рускі паэт, перакладчык. У 1966–1991 гг. заг. аддзела паэзіі час. «Нёман».

[2] Сурганаў Фёдар Анісімавіч (1911–1976), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1971–1976 гг. старшыня Прэзідыума ВС БССР.

[3] Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), беларускі дзяржаўны дзеяч; камандзір беларускага партызанскага злучэння (1941–1944). Герой Савецкага Саюза (1943).

сажалку, якую помню з тых дзён, як і сябе. Партыйна-сталінскія халуі вынішчылі ўсю прыроду, толькі б выслужыцца перад Масквой.

*18 лістапада, нядзеля*

На Камароўку. Людзі прадаюць усё, як пасля вайны. Азія і тут бярэ верх і цэнамі, і колькасцю сваіх доблесных працаўнікоў гандлю. Еўропа толькі на атамнай [бомбе] і трымаецца. Але і ў азіятаў яна ўжо ёсць, і болей будзе.

*19 лістапада, панядзелак*

Да Васіля. Занёс яму праваслаўны беларускі малітоўнік. Узрадваўся, якраз перад дарогай. «Прычэпшчыку» адно выйсце — самому ўзначаліць ваенны пераварот, каб застацца. Ніл званіў Матукоўскаму[1], што [газ.] «Известия» дэстабілізуе абставіны, вось «Правда» іншая справа, яна зараз іншая газета і дужа добрая.

*20 лістапада, аўторак*

Праца. Крутаніна. Сустрэча з Рэмам[2].

*21 лістапада, серада*

Зноў ПЭН-цэнтр. Паперы. Званкі. Падключылі Васіля. Толку мала. Дырэктар задумаў новую асацыяцыю пры Вярхоўным Савеце сумесна з паліграфкамбінатам. Зноў прасіў Васіля ўзначаліць. Ірвецца Ніл. Усё, каб мог, узначаліў бы, абы нічога не рабіць.

*22 лістапада, чацвер*

Зборы ў Віцебск. Званкі наконт ПЭН-цэнтра Кебічу. Сноўдалі па Мінску цэлыя банды, міні-банды, галёшнікі: двое падымаюць даму, трымаючы за рукі, а трэці разувае і дае ўзамен галёшы ці яшчэ якія атопкі. Вырываюць сумачкі, здымаюць завушніцы, пярсцёнкі.

*23 лістапада, пятніца*

Дзень добры, *Віцебск!* Родны сэрцу, блізкі душы горад з своеасаблівым паветрам, дыханнем, хадой горад, які перажыве ўсе жахі і сацыялізму, і ўсіх наступных ізмаў. У Грыгор’ева. Расказваў, як спынілі паніку з маслам. Далі бутэрброднае, яно не топіцца, а на патэльні робіцца ва-

---

[1] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929–2001), беларускі драматург, публіцыст. У 1970–1993 гг. заг. Беларускага аддзялення рэдакцыі газ. «Известия».

[2] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр’янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. У 1987–1993 гг. кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. З 1995 г. жыў у ЗША.

дой. Дасягненне камуністычнай думкі! У Навумчыка. Абед у абкамаўскай сталоўцы. Паказаў, што і ў іх раскошы няма. Паказваць за гады савецкай улады навучыліся. У Грамадска-палітычным цэнтры выступалі. Вечар Ул. Караткевіча ў Віцебскім абласным акадэмічным [тэатры]. Малайцы землякі, што ўцёрлі нос пыхліва-несхлямяжым мінчукам. Як бы зноў пабыў са сваім сябрам. Шчымліва, балюча, неспакойна на душы. Мог быць сам на сваім юбілеі. Выступаў цыган Вальдэмар Калінін. Я чытаў пераклад ягонага верша. Як заўсёды ўсё трымаецца на Додзіку Сімановічу. Салтук развёўся, бо ён заўсёды быў з пляшкай, а жонка прыраўнавала да пляшкі і знайшла сабе субяседніка. У гасцініцы адміністратарка гаворыць з сяброўкай па-руску, па-віцебску, і раптам: «Яна яму як пялёхнула». Свае родныя словы выскачылі, каб паказаць сябе.

*24 лістапада, субота*

*г. Орша.* Ветрана, маразяна. Па-нашаму — бадзёра. У Мінску млява, мітусліва. А тут і паветра іншае. Здаецца, убачу Караткевіча ў шараватым паліто з каракулевым каўняром, пад паліто свэдэр, звязаны Рагнедай. Пакрыўджана-здзіўленыя вочы дасюль глядзяць мне ў душу. Валодзя, добры дзень на тваёй вялікай радзіме, дзень добры ў Оршы. Дзякуй Богу, што доліла мне ласкаю Ягонай мець такога сябра.

Вечар Валодзі ў Палацы [льно]камбіната. Выступае Казак (у дзявоцтве Галубовіч) Нэлі Уладзіміраўна, якая помніць Валодзю яшчэ малога недзе з 35-га года. Аднойчы яны фарбавалі плот малыя. Валодзя расфарбаваў кожную плаціну ў розны колер. Яго спытала яна, чаму так, так не бывае, трэба ж усе ў адзін колер. Валодзя адказаў: «А калі ўсе аднолькава — гэта ж дужа сумна». Калі глядзелі на ваду з кладкі, пыталіся, хто што бачыць. Валодзя адказаў, што бачыць вершы. Наогул, усе ўспаміны шчырыя, непасрэдныя, нелітаваныя.

* Калі яна [Нэлі] захварэла на сухоты, дык Валодзя злавіў ёй сабаку на лячэнне.

*25 лістапада, нядзеля*

Выступленне ў школе № 1, дзе выкладаў Уладзімір, адкрыццё дошкі на хаце, дзе жыў, дзе цяпер жыве Ляля (яна Раіса, але калі нарадзілася ў 38-м, Валодзя пацягнуў за нагу і кажа: «Ляля, лялька». Адкрыццё гарэльефа на вуліцы Караткевіча (была і Варашылаўская, і Касманаўтаў) і дошкі, дзе, нарэшце, правільна напісана «народны пісьменнік».

Абед у хаце, дзе Валодзя жыў. Гасцёўня, пры свечках гучалі вершы Уладзіміра. Тут, у Воршы, думалася і думаецца тэма «Меднага конніка». Караткевіч як гаспадар зямлі нашай і як верны сын перамог прышлага

Заслонава[1], яму, помніку, вартаваць вакзал і то, відаць, да часу. Цікава, як Караткевіч прымушае гаварыць па-беларуску нават партыйных манкуртаў, як вучыць ён, перавучвае нанова сваіх землякоў беларускасці.

*26 лістапада, панядзелак*

г. Орша. На беразе Дняпра з Цвятковым. Выратавальнікі пытаюцца, а ці тапіўся Караткевіч, ці ратавалі яго? Адказваем, што добра плаваў. А што цяпер кажа дырэктар школы ці настаўнік, якія ганялі яго? Напэўна, даюць інтэрв'ю. У густым пуху стыні хвалі Аршыцы, дзе яна ўпадае ў Дняпро, каб далей плысці на Магілёў. Калыхаў Дняпро радкі Купалы, Шаўчэнкі і Караткевіча. Дзядзька ідзе і пытаецца, дзе вуліца Караткевіча (ён прывёз газ), паказваю, а ён адказвае, што Касманаўтаў, бо канец вуліцы з памянянымі шыльдамі.

З Наталляй Сямёнаўнай, Музай[2] і Панамарэнка[3] на магільнік аршанскі, дзе пахаваны Валодзеў дзед і бабуля Наталля (яе імя далі Наталлі Сямёнаўне). Урачыстасці ў школе імя Караткевіча. Асабліва расчулілі шасцігодачкі, як хараша яны па-беларуску шчабяталі!

Ад'езд. Туман, галалёд, цемра. Як экскурсія па пеклу.

*** [Асобныя запісы пра У. Караткевіча 90-х гг.]

Цёплы летні малады дзень. Сядзім на ганку мамінай хаты. У келіху гарбузовага цвету клапаціцца чмель. Уладзімір кажа: «Вось пра гэта й напішы».

Вечка труны мамы [Барадуліна] ўперадзе [нёс Караткевіч].

Ул. Караткевіч любіў размалёўваць велікодныя яйкі.

Званю Валодзю. Расхваляваны. Прыйшлі славільшчыкі, такія харошыя, а іх Клімковічыха[4] здала ў міліцыю.

Супешнік варыў; настоены былі йгрушы, ледзь не гайкі. У чыстай кашулі [сядаў за працу], на лепшай паперы [пісаў], не адрываючы рукі, старонак 10 (а машынапісу каля 17-ці). «І коскі з месца не зрушу!»

*Мэталёвыя рублі.* Піцунда (1980). У паселішчы чача [прадавалася]. Валодзя паехаў. Грошы скончыліся, прыслаў Васілю пляшку каньяку з паметкай: «Асцярожна, шкло!» — і тысячу рублёў.

Ідзем з Валодзем. Афіша: «Алег Янчанка[5]». Валодзя: «А ён мне павінен 75 рублёў і не аддаў». У запісных кніжках памечана, хто колькі пазычаў.

---

[1] Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч (1909/10–1942), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі (г. Орша). Герой Савецкага Саюза (1943).

[2] Сняжко Муза Яўгеньеўна, студэнцкая сяброўка У. Караткевіча (Кіеў).

[3] Панамарэнка, выкладчыца Кіеўскага ўніверсітэта часоў вучобы У. Караткевіча.

[4] Жонка М. Клімковіча. *Клімковіч* Міхась (Міхаіл Мікалаевіч; 1899–1954), беларускі паэт, драматург, празаік, лібрэтыст, крытык.

[5] Янчанка Алег Рыгоравіч (1939–2002), беларускі і расійскі кампазітар, арганіст, педагог. Народны артыст РФ (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984).

Рыфмаваў: «Сцяпан Захарыч Гаўрусёў[1] Уцёк ад жонкі без трусёў».

Паўтараў, смакуючы піва: «Чэска півэчка любяць усе». «Однако гуса пошла». Валодзя любіў пад настрой на добрае надвор'е цытаваць Тувіма[2] ў расійскім перакладзе. Верабей з п'янкі вяртаецца й апраўдваецца перад жонкай:

Вечер был такой хороший,
Не волнуйся, дуся.
Не хотелось мне лететь,
Я решил — пройдуся!

*27 лістапада, аўторак*

Запіс на радыё (дзіцячая рэдакцыя) пра Караткевіча. Запіс па тэле пра Шклярэўскага, у сувязі з чарнобыльскім рахункам. Увесь Караткевічаўскі тыдзень, як бы зноў з ім жывым. Дужа цяжка паверыць, што ён зноў не вернецца, здаецца, ад'ехаў некуды. Сапраўды, некуды. Толькі не хутка вернецца. А як і вернецца, дык у якім абліччы?

Як дзяцей чарнобыльскіх крыўдзяць. Расказваў аператар Цвяткова Ларачкін[3] Аляксандр Генадзьевіч. У Аксакаўшчыне ім замежная нейкая фірма падарыла касеты з мульцікамі і да т. п. Але дзядзькі забралі сабе (з ЦК ці Саўміна) амерыканскую апаратуру, а далі нашу, а на ёй — не ідуць замежныя касеты. Акімушкін[4] расказваў: у ягоным двары ходзяць мардавароты і ўплятаюць амерыканскія вітаміны. «Дзе бралі?» — «Мамы прынеслі з Аксакаўшчыны. А што, дзядзька, і вам даць?» Дзяцей, якія ўжо на той свет кіруюцца, і тых абдзіраюць. Азвярэлі людзі. Звяры за іх куды болей людскія!

*28 лістапада, серада*

Праца. Тлум. Гаварыльня. Усе разгубленыя. Усе дні, як з Валодзем разам. Прыехаў Фларыян [Няўважны] з Варшавы.

*29 лістапада, чацвер*

Узяў білеты на Ушачу. Сёння вечар Уладзіміра Сямёнавіча. Караткевіч глядзеў на свет праз павелічальнае шкло рамантычнай узнёсласці, шкло гэтае не толькі ўзбуйняла і гіпербалізавала, але і дапамагала ўбачыць самыя дробныя дэталі. Чытаю ліст Караткевіча, дзе ён апісвае ката як аграмаднага, як тыгра ў мініятуры, сумесь хатняй кошкі і ўсурыйскага ката,

[1] Гаўрусёў Сцяпан Захаравіч (1931–1988), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1987).

[2] Тувім Юліан (1894–1953), польскі паэт, перакладчык.

[3] Ларачкін Аляксандр Генадзьевіч, аператар Рэспубліканскага вытворча-тэхнічнага аб'яднання «Белвідэацэнтр».

[4] Акімушкін Вячаслаў Дзмітрыевіч (н. 1941), беларускі рэжысёр кіно і тэлебачання.

а гэта было простае пушыстае кацянё сібірскай пароды, дужа пухнатае. Паездку ў Мсціслаў, як паездку ў жахлівую пургу недзе на неабжытых нетрах. Род вёў, што Іван Кабыла [быў яго продкам]. А ў Маскве паказваў, як іней, морась затушоўвае імя Сталіна на Маўзалеі. Ён падкрэсліваў ці празмерна, каб не было рускага вымаўлення, і асабліва помніцца гэтае караткевічаўскае ва ўшацкай папеўцы, якую праспяваў яму: «А лісіца і барсук Кахаліся цераз сук…» Ён быў самай шырокай і самай шчодрай натуры, але пры выпадку падкрэсліваў, як паслаў свае творы Крапіве, а той адказаў: «З Вашым талентам лепей абчэсваць камяні». І ён абчэсваў камяні, толькі роднага слова. Караткевіча стараліся і прыручыць, і прывучыць, і спрасталінеіць і паслужлівыя крытыкі, і апаратчыкі з ЦК, якія ўзначальвалі то прыгожыя легенды партапарата, то заслужаныя тылавікі і нарэшце ўжо без Валодзі тэарэтыкі свінакомплексаў. Але ён не схіляўся, не прасталінеіўся. Такім застаўся ў роднай літаратуры, у вечным слове.

*30 лістапада, пятніца*

На *Ушачу!* На дарозе ранняя зіма. На елках снег аж прагінаецца. Дарогу падціскае. Сустрэлі Іван Сцяпанавіч і Пятро. Марыя Рыгораўна зварыла бульбу. Як некалі мама. Але не тая бульба, не мама варыла. У хаце мышыныя сляды. Усё-ткі хата нежылая. Толькі дух мамы, дух продкаў жыве ў хаце.

*1 снежня, субота*

Першы дзень зімы афіцыйнай у Вушачы! Жанчына кажа: змерзла на костку. Пятро кажа: галава не бязмен, куды перакуліцца, туды і добра. Прыходзіла Марыя Рыгораўна. Слабая. Шкада. Апошняя радня адыходзіць.

*2 снежня, нядзеля*

На могільнік Бутаўскі. Па дарозе каток, чорны з белым гальштукам. Мяўкае. Галодны. Даў хлеба. З'еў з ахвотай. Першы памянуў маму. Праход на магільнік загароджаны магіламі Драгуна і Гарбукаў[1]. Як і пры жыцці, усё ў начальства ср.нае гуляюць. Пад нагамі ў людзей, каб выпендрыцца. На магільніку ў мініятуры гарпасёлак, са ср.най іерархіяй саўпартыйнай. Савецкая ўлада і над нябожчыкамі сілу мае. Няма гібелі ёй пакуль што. Магільнік заснежаны, ідзе мяккі сняжок, здаецца, цёплы-цёплы, бо дома, бо падае на дарагія магілы родных і суседзяў. Вечны ім спакой.

---

[1] Бацькі Г. Гарбука. *Гарбук* Генадзь Міхайлавіч (1934–2018), беларускі акцёр; аднакласнік. У 1962–2018 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), прэміі РБ «За духоўнае адраджэнне» (2007).

*3 снежня, панядзелак*

На працы. Дырэктар хацеў стварыць асацыяцыю пры Вярхсавеце Беларусі. Ніл узяўся дапамагаць, але, як заўсёды, падвёў, выдаў Бутэвічу задуму. Хцівасць, зайздрасць, здрадлівасць — у характары Ніла, сын старшыні сельсавета.

Званіў Васіль. Прыехаў з Германіі. У былой ГДР разруха, беспрацоўе расце, выганяюць з работы камуністаў (у нас бы так!), згортваюць выдавецтвы. Наша светлая будучыня. Сапраўды, беларускую інтэлігенцыю — тонкі слой чарназёму на шэрай глебе нацыі ні 37-мы, ні 47-мы не данішчылі, данішчыць эканоміка сацыялізму, рынак па-савецку.

*4 снежня, аўторак*

Праца. Дзеляць нейкую рыззявіну. Гвалт. Крык. Званіў Быкаў наконт асацыяцыі. Часта думаю, што савецкім пісьменнікам, як памаўзлівым катам, трэба кара — носам ў га.но, якое наклалі яны, славячы то ўсіх правадыроў, то партыю злачынцаў, то гэную сав. уладу, якая добрай была і ёсць для кіраўнікоў. На верхніх эшалонах светлае будучае пабудаваўшы даўно. І самому трэба было б вялікую кучу з'есці, бо многа славіў, за што цяпер сорамна.

*5 снежня, серада*

Праца. Фелікс Бахчынян прыехаў з «Ісласы». Ён яшчэ не ведае, што кнігу ягоную зарэзалі. Потым у Гарвыканкоме сустрэча з мэрам і генералам наконт будынка ПЭН-цэнтра. Цяжка ўсё ў нашай краіне — імперыі злосці.

*6 снежня, чацвер*

Заходзіў да Навума. Сумны і самотны. Разгублены, як і ўсе людзі ў нашым канцлагеры сацыялізму. Партыя злачынцаў баялася нацыянальнай моладзі, атрымалі дэнацыялізаваны статак вылюдкаў.

*7 снежня, пятніца*

Праца. Феліксу перадаў ягоныя вершы ў перакладзе на беларускую мову. Не дае спакою паганская паэма. І яе не пішу, і нічога не раблю. Як падвешаны.

*8 снежня, субота*

Праграма «Крок». Машыны без чаргі, вядома ж, Дзямянцей і Ніл Гілевіч (аж дзве). Каб не прапалі грошы за горладранне. «Каб павялічыць талент свой блашыны...» [у дзённіку]. Праграма «Час» [Масква]. Рэпартаж з арганізаванага КДБ і Масквой мітынгу з Літвы вядзе наш Жук. Ніхто

сумленны не ўзяўся нават з вялікадзяржаўнай Масквы. А беларусы і тут уперадзе па лізанню зада Масквы.

*9 снежня, нядзеля*

На Камароўку. Павінен прыехаць Бурсаў. Не сустрэў, бо кепска з нагамі.

*10 снежня, панядзелак*

Да Тáраса. Цудоўна пераклаў для «Нёмана» падборку. Ён цяпер лепшы перакладчык на рускую з беларускай мовы. Праца. Да Мазай — усё з будынкам ПЭН-цэнтру фатыга цягнецца.

*11 снежня, аўторак*

Да Бурсава ў гасцініцу «Свіслач». Ён мне тое-сёе перадаў, і я яму. Жабракі дзеляцца падарункамі. Беларусы цяпер багатыя толькі хіба на радыяцыю, з усімі падзяліцца можам! Гэтым Масква не пакрыўдзіла. Каляды ў Купалаўскай бібліятэцы. З блінамі. З вязаннем з саломкі птушачак. Зачараваў гурт «Купалінка». Палескі акцэнт. А мне перад вачыма залатая, дарагая Жэня Янішчыц. Як быццам яе пачуў. Кампазітар Ігар Добры. Цікавы і як чалавек. Патроху нарастае крэўная змена.

*12 снежня, серада*

Праца. Выбіваем людзям грошы, перахітрыць хочам нашую дзяржаву, хоць гэтую махлярку з 17-га года не перахітрыш. Карэктуру ў «Маладосць».

*13 снежня, чацвер*

Праца. Да Мазай. Міністр культуры[1], Гуляка[2]. Мы з Карласам зноў галавой б’емся ў мур. А будынка так і няма.

Ірына Дабрыян[3] расказвала, што ўжо ў школе пяцікласнікі цягнуць, хто выцягне (5 пар ботаў). З малых гадоў у душах сеюць крыўду, зайздрасць, недавер. Дэмаралізуюць, падганяюць пад жывёльны стан. Дзякуй партыі за гэта!

---

[1] Вайтовіч Яўген Канстанцінавіч (н. 1937), міністр культуры РБ (1989–1994). Кандыдат эканамічных навук.

[2] Гуляка Леанід Паўлавіч (н. 1949), супрацоўнік Апарата СМ РБ (1977–1992).

[3] Дабрыян Ірына Пятроўна (н. 1950), у 1973–2009 гг. мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*14 снежня, пятніца*

З Шаўнём[1] на лехі. Машына (прыгнаў з Італіі) колькі разоў садзілася на лядок. Прыехалі, аднекуль узяўся кот рудавата-шэры і гэтак ужо мяўкаў, думаў — ён год не еў нічога. Даў масла — не есць. Яшчэ была бляшанка атлантычных сардын, апошняя, выпадковая. Ускрыў, сам ем, а кот не хоча. Відаць, проста пагаварыць няма з кім. У Шаўні акрамя гэтай машыны, прыгнанай з Італіі, там яшчэ 5 тыс. долараў. Можа цэлы статак прыгнаць у жабрацкі саюз. А якія грошы мае Быкаў? Яму на паездку выдзяляюць столькі, што глядзіць, каб чай які ў падарунак каму прывезці. У хаце ціха, але нейкі дух абжытасці ёсць. Захацелася пабыць, пажыць, падумаць.

*15 снежня, субота*

Раптоўны сойм БНФ. Як заўсёды даўгавата, тлумна. Зянон да мяжы напяты. Нікуды гэтыя нападкі не знікаюць, працінаюць яны гэтага рыцара нацыі. Шкада, што Пазнякоў дужа мала. Расія і царская, і савецкая папрацавала, каб з нашага крывіцкага цела душу выбіць.

*16 снежня, нядзеля*

Да Радзіка. Як свята якое быць у яго, быць з ім. Маладая ўтрапёнасць і разгубленасць, вера і знявер'е, — усё ў гэтым чыстым, ранішнім сэрцы. Крый, Божа, яго!

*17 снежня, панядзелак*

Праца. Карлас. Клопат з ПЭН-цэнтрам. Выступленне ў ін'язе. Аўдыторыя невялікая. Але лёд крануўся, як выгналі з рэктараў партай[…], выхаванку роднай камуністычнай Краснову[2].

*18 снежня, аўторак*

Праца. Занёс Радзіку «Архіпелаг [ГУЛАГ]» і томік Багдановіча. Ён перакладае, і здорава.

*19 снежня, серада*

Запіс на радыё — свае вершы пра Кітай і пераклады Вальдэмара Калініна. Брыдкая справа — разбор на прафкоме […] Шупы. Аблаяў дзяўчат салдацкімі словамі. Прыйшоў з дыктафонам. Мовы ведае, а за душой ні-

[1] Шаўня Анатоль Аляксандравіч (н. 1930), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1981–1990 гг. рэдактар студыі «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

[2] Краснова Ніна Георгіеўна (1928–2012), рэктар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моваў (1971–1990).

чога святога, капрызлівы падлетак у 30 гадоў. Гэта нашая змена. Робаты з камп'ютарнымі мазгамі, па трупах пойдуць, абы сваё вырваць.

*20 снежня, чацвер*

Сяджу дома. Хварэю. Думаюся з Мандэльштамам.

*21 снежня, пятніца*

Дома. Хварэю. Думаюся з Мандэльштамам. Званіў Радзіку. Добры, забыты ўжо, снег. А на душы не снежна, не святочна[1]. Званіў Тáрасу. Ён таксама сумны.

*22 снежня, субота*

Сядзеў дома. З'ездзіў на Галоўпаштамт па грошы. Дачытваю Афанасьева «Дрэва жыцця». Увесь час рыхтуюся да паэмы пра паганства. Дужа шмат матэрыялу трэба!

*23 снежня, нядзеля*

Прыехала Ілона. Збірае такія-сякія вархопкі, пераязджаюць у сваю хату. Хай шчасліва жывуць толькі! Грошы — вецер. Чамусьці ўспомнілася, як нашыя ўшацкія дзівіліся, што немцы ўсе пяюць песні і ўсе ведаюць. І ў нас колькі год адны і тыя ж заказныя халуйскія фальшыўкі ў гонар леніна-сталіна-савецкага ладу культываваліся. Наш рэжым і гітлераўскі з аднаго кораня. Цяпер трохі далі пабрахаць, і зноў рука на рычагу, каб перакрыць.

*24 снежня, панядзелак*

Да Яшы па лекі. Праца. Карлас. Зноў фатыга з ПЭН-цэнтрам. Трэба зарука выдавецтва на тое, каб банк пазычыў нам грошы.

*25 снежня, аўторак*

Праца. Зноў з Карласам чакалі дырэктара. Усе пачынаюць насіць нейкія прасціны талонаў на ўсё, чаго ў прынцыпе не будзе. Вечарам званіў Васіль, ён вярнуўся з сесіі[2], сумна. Радасці мала.

*26 снежня, серада*

Нарэшце дырэктар падпісаў заруку. Да Цвяткова ў відэацэнтр. Мелася мяне запісаць тэле з навагоднім вітаннем:

---

[1] Гл.: «Нічога мой імгненны лёс...» (21.12.90) // Міласэрнасць плахі. С. 19.

[2] В. Быкаў выбіраўся дэпутатам ВС БССР (1978–1990) і народным дэпутатам ВС СССР (1989–1991).

Я жадаю ўсім не ведаць гора,
Толькі праўду чуць з высокіх тронаў.
Горы закусі, гарэлкі мора,
Радасці і шчасця без талонаў!

У Цвяткова ў плане фільм пра заслужанага стукача ўсесаюзнага падпарадкавання Максіма Лужаніна. Сам выбіў у міністра культуры. Вядома ж, КДБ не можа абысці ўвагай сваіх любімчыкаў, што ўскокваюць на поўным твары пачвары, як хацімчыкі.

*27 снежня, чацвер*

З раніцы па радыё. У Салігорску створаны фонд абароненасці сацыяльнай камуністаў. Рэцыдывісты здорава арганізаваны, цяпер партбязмозглікі будуць на ўсё новае брахаць, пад'еўшы партпадкормкі. А бедныя Агаты ды Тэклі, што адпіцавалі ў калгасным прыгоне, як нічога не мелі, так і не будуць мець. А віцэ-прэзідэнт[1] — правая рука Мішуткі [Гарбачова] — чысты гэбіст. Яно так і ёсць, што жалезная рука КДБ паставіла М. С., а цяпер ім кіруе. У магазінах нічога няма, а чэргі па золата вялізныя. Маладыя барыгі, джынсовая шваль скупляе ахэлкамі золата ад завушніц да ланцугоў, прычым ва ўсіх у руках кіпа соценных. Адмываюць капітал, нажыты цёмна і чорна. А бедныя дзядзькі і цёткі купляюць у запас вешалкі і падстаўкі пад гарачую пасуду. Ніколі яшчэ не было гэтакага сумна-безвыходнага пераднавагоддзя!

*28 снежня, пятніца*

Праца. Па магазінах, дзе нічога няма.

*Наталлі Давыдзенка*
*(Пастарнак Б. Гарэла свечка…*
*/ Свеча горела… Пер. Р. Барадуліна. 1990)*

Наташа!
Па даручэнні Пастарнака
І асабіста ад сябе
Падпісваю,
Як той сабака,
Што вые жаласна ў жальбе,
Бо поўню добра бачыць вока,
Але не ўхопіш — задалёка!

*Менск, 1990* *Рыгор*

---

[1] Янаеў Геннадзій Іванавіч (1937–2010), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч СССР. Віцэ-прэзідэнт СССР (1990–1991). Кандыдат гістарычных навук.

*29 снежня, субота*

Праца. Давалі дазіметры — лепшы падарунак савецкай ўлады перад Новым годам. Дзякуй партыі — кіраўніку і арганізатару нашай перамогі над дабрабытам, над чалавечым жыццём! Нідзе няма беларускай паштоўкі. Нават у самых адсталых калоніях ёсць свае паштоўкі, свая атрыбутыка. А Беларусь закашпіравала[1] партыя злачынцаў, і спіць яна камуністычна-літаргічным сном. Купіць якую бразголку — трэба і пашпарт, і чэргі, і абразы ад прадаўшчыц-пасудамыек.

*30 снежня, нядзеля*

Раніцай снег густы, але макраваты. Усё роўна прыемна, што Бог хоць снегам кампенсуе нястачы, якія зрабілі камуністы, хочучы голадам скарыць народ, дабіць яго канчаткова. У крамах гола. Даюць доўгаграючыя цукеркі-лядзяшкі. Мужчыны бегаюць ад чаргі да чаргі перад адкрыццём магазінаў, можа, дзе дадуць гарэлку на талоны. Пішу віншаванні.

«Пойдуць з часам партпадбрэхічы на ўтыль…»[2]

*Пімену Панчанку*

Хто моліць чын, хто паўчынка
У грамацея Дземянцея,
А горды Пімен Панчанка
У гневе праведным люцее.
Хай новы год і ўсе наступныя
Паэту ў помач будуць рупныя!

*Івану Бурсаву*

Ва ўсе наступныя гады
І ў век, што пройдзе неўзабаве,
Цябе, Іване, заўсягды
Люблю і помню.
Верны славе краіны крыўскай
Ты адзін
Не выракся свае матулі
І мовы нашай,
Добры сын
Зямлі, што не аглухла ў гуле
І войнаў, і навал усіх.
Ты казкамі аддзячыў краю,
Хай будзе светлы кожны міг

---

[1] Кашпіроўскі Анатолій Міхайлавіч (н. 1939), расійскі псіхатэрапеўт, вядомы з 1989 г. дзякуючы папулярным перадачам тэлебачання.

[2] Навагодняе віншаванне В. Быкаву гл.: Дажыцць да зялёнай травы… С. 38.

Твой.
Б’ю чалом і абдымаю!

*Алесю Адамовічу*

Алесь, ты ўвесь імпэтны, гонкі
І апантаны ў барацьбе.
Дык пацалуюць хай табе,
Куды дазволіш, партпадонкі!
І ў новым годзе, і ў стагоддзі
З хлуснёй і здрадай будзь не ў згодзе!

*Адаму Мальдзісу*

Доля — такая мадам,
Што падабае дужых.
Хай будзе шлях твой, Адам,
Хоць і ў калючых — ружах.
Ружаў з садоў навук,
А не з гародчыкаў здрады.
Хай на цябе свой лук
Будзе нацэліць рады
Сукрысты, як ты, купідон.
З Новым! Salut! Паклон!

*Леаніду Дранько-Майсюку*
*(гучыць, як радок «Адысеі»)*

Жадаю на літтаку ўмалоту,
А ўсім — пасеі застануцца няхай,
Калі не захочуць прызнаць, што ў вершы
І на эсээстычнай раллі
Пан Лявон і Найлепшы, і — Першы!

*Давіду Сімановічу*

Сімановіч без Віцебску,
Як слова без націску.
Віцебск без Сімановіча,
Як слон без слановішча.
У Віцебску быць
І не ўбачыць Давіда,
Як у Парыжы,
Не маючы гіда.
Ад Сіма ці Адама
З’явіцца антыподыку?
Хачу і ў новым годзіку

Я падабацца Додзіку
І Віцебску — таксама!

*Васілю Зуёнку*

Васіль,
Мой дружа люба-даўні,
Няхай табе у новым годзе
Мурожней будзе і атаўней,
Прыступней на расе й на лёдзе!
У год Авечкі, ці Казы,
Гарцуй, марцуй!
Хай маразы
Не выстудзяць тваю душу!
Будзь, як і быў, такі,
Прашу!

Пад вечар выйшаў у цэнтр. Ад міністэрства замсправ, гляджу, нейкі пуцкалаваты Вася з двума дыпламатамі — сав. дыпламат і замежны кейс. Падыходзіць бліжэй — Краўчанка[1], аўтар пабоішча ў Траецкім прадмесці[2]. Ведае, што маюся ехаць у Віцебск на Шагалаўскія чытанні. У «Нью-Йорк таймс», кажа, можа, дадзім паведамленне. КДБ усё вядома, дзе, хто, каму, калі. Ніводзін чын, ніводная пасада не даецца таму, хто не звязаны з КДБ. Метаста́зістыя.

*31 снежня, панядзелак*

«Чалавек, як і дрэва...»[3] «Апошні сёлетні дзянёчак...»[4]. Пабегаў па магазінах. Зайшоўся да Лапушыных. Былі радыя як свайму роднаму. Як мала такіх шчырых хатаў застаецца і ў Мінску. Забягалася Ілона, бо трэба былі прыпасы на Новы год. Сустракалі новы, 91-шы, унучка Домначка, баба Таня[5], Валя і я. Сумнаваты гэты Новы. Старыя Новыя былі весялейшыя. З паветра перадаецца трывога.

---

[1] Краўчанка Пётр Кузьміч (н. 1950), беларускі дзяржаўны дзеяч, гісторык, дыпламат. У 1985–1990 гг. сакратар Мінскага гаркама КПБ, у 1990–1994 гг. міністр замежных спраў РБ.
[2] 20 красавіка 1986 г. у Траецкім прадмесці гараджане адзначалі свята «Гуканне вясны». Падгавораныя былыя воіны-«афганцы» — нібыта тут сабраліся ледзь не маладыя неафашысты — збілі навучэнцаў Мастацкай школы імя І. Ахрэмчыка, якія вадзілі карагоды. Падазрэнне, што правакацыю зладзілі не без «падначкі» гаркама, падала на П. Краўчанку. Гэтае здарэнне мела доўгі розгалас.
[3] Гл.: «Чалавек, як і дрэва...» // Міласэрнасць плахі. С. 20.
[4] Пераклад радка вядомай народнай рускай песні «Последний нонешний денёчек Гуляю с вами я, друзья...».
[5] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005), маці В. Барадулінай.

* * *

Дарагія дзеці!
Без маці-Беларусі,
Без беларускай мовы
Вы будзеце сіротамі,
Вам стануць сцежкі вузкімі.
І ў радасці, і ў скрусе
Гарніце ў сэрцы словы,
Расціце беларусамі,
Расціце беларускамі!

*1990*

*Калядка*

Святыя Каляды.
Калеюць калоды.
Цяплеюць пагляды
Ад боскай лагоды.

Каб свет не нудзіўся,
Блукаючы горка,
Хрыстос нарадзіўся —
Сагрэлася зорка.

Калядная зорка
Душу сагравае,
Нібыта гаворка
Хрыстова жывая.

Ідзем, як з паходняй,
З крывіцкаю мовай
Дарогай Гасподняй
Пад зоркай Хрыстовай!

*1990*

## 1991

*1 студзеня, аўторак*

Добры дзень, Новы год! Адвядзі бяду, абнадзей, абагрэй, дай хлеб і ваду! «Малітва за Беларусь»[1]. Пісаў верш. Хацелася нечым набліжаным да святога пачаць год. Даўно марыў напісаць нешта накшталт псалма. Наогул, хачу напісаць цэлую нізку на біблейскія сюжэты, матывы. Вечарам хадзіў да Навума. Самотны. Некалькі віншавальных. Н. Кісліку[2].

*2 студзеня, серада*

На працы перадаў праз Анатоля Белага[3] [...] прывітанне часопісу «Полацак»[4] [у блакноце], «Малітву за Беларусь» і зборнік падпісаў айцу Аляксандру Надсану[5].

*3 студзеня, чацвер*

Да Васіля Быкава. Занёс яму карэктуру першага тома ягонага Збору твораў, армянскую (ён па-армянску) кніжку і 3 экз. Шагала (малютка з вершамі). Ірына Міхайлаўна прынесла ў кабінет каўбасу, тоненька нарэзаную, сала з прараззю, адчыненую толькі бляшанку з забытай дарагой рыбай і кабачковую ікру. Нейкія долькі ў слоіку. Пытаюся ў Васіля, што? А гэта брынза. Нейкі немец прыязджаў, прывёз. І ў сусветна вядомага, сумлення нацыі няма чым пачаставаць. Дае дзяржаве мільёны прыбытку, а сам на амаль галодным пайку ў цесных пакойчыках.

Галоўны метад КГБ — раскол нацыі. Пры акупацыі Польшчы немцы не змаглі знайсці палякаў у паслугачы. Цяпер ствараецца «Грамада»[6], як быццам ў БНФ нельга палітычна разгарнуцца. Партыя злачы-

---

[1] Гл.: Маленне за Беларусь (1.01.91) // Міласэрнасць плахі. С. 17.

[2] Гл.: «Наум, ты — ум эпохи...» (1.01.91) // Толькі б яўрэі былі!.. С. 215. (На «Самоце паломніцтва».)

[3] Белы Анатоль Яфімавіч (1939–2011), беларускі грамадска-культурны дзяч, навуковец, калекцыянер. У г. Старыя Дарогі заснаваў прыватны Мастацкі музей (1990).

[4] «Полацак» (1991–1997) — беларускамоўны грамадскі, гісторыка-культуралагічны і літаратурны час., які выдаваўся Беларуска-амерыканскім культурна-асветным цэнтрам «Полацак» у г. Кліўленд (ЗША).

[5] Надсан Аляксандр (сапр. Бочка; 1926–2015), уніяцкі святар, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа. Магістр тэалогіі. У 1944 г. выехаў з Беларусі, з 1946 г. жыў у Вялікабрытаніі. Дырэктар Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане.

[6] Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя Грамада (БСДГ; 1991–1996). Заснавальнікі М. Ткачоў, М. Чарняўскі, А. Сідарэвіч.

нцаў і КДБ будуць дапамагаць ствараць партатыўныя, кішаньковыя партыі, яны не пагроза, галоўная пагроза — БНФ. А гэтыя партыйкі будуць размываць нацыянальны рух, будуць чубіцца з падтрымкай партапаратчыкаў і берыеўцаў.

Апоўдні да Мазай наконт будынка пад ПЭН-цэнтр. Быў сам Ст. Ст. Шушкевіч. Ад гарсавета намеснік, а не той, хто вырашае, гэтак і звялі ўсё ў свіныя галасы.

Памёр Рудавільт Акіндзінавіч Собалеў[1]. Пухам яму зямелька. Быў залаты чалавек. Ён мяне ратаваў у ААН ад нашых так званых дыпламатаў, кадравых кэдэбістаў. Супакой, Гасподзь, душу ягоную…

*4 студзеня, пятніца*

Сядзеў дома. Званіў Радзік. Ланцужок забойства цягнецца. Што задумала КДБ? Званіў Васілю, і ён не разумее. Калі пагнаць хвалю антысемітызму, дык Мень[2] — хрышчаны яўрэй. Ці гэта пачатак 30-х гадоў і ў нас, і ў Германіі. Учарашняй ноччу зрабілі налёт на «ЛіМ» і «Нёман». Практычна нічога не ўзялі. Раскідалі паперы. У Кудраўца[3] ў шуфлядзе імпартны шакалад і піва пачалі і пакінулі. Гэта не злодзеі, гэта нейкі акт запалохвання, папярэджання.

*Уладзімеру Арлову*

З Калядамі, горды нашчадак Скарыны,
Арлінапалётны Уладзімер Арлоў.
Што робіш не ты, стане бітаю глінаю,
Ты ззяцьмеш у вечнасці, Золатаслоў!
Ва ўсе калена твае радні —
Здароўя, бадзёрасці, дабрыні!

*5 студзеня, субота*

У саюзе ўзяў пуцёўку ў Дубулты з 20 лютага па 30 сакавіка. На працу. Заходзіўся Та́рас. Віктар Шрамякоў[4] ніяк не можа разабрацца з уладамі, якія выкінулі ягоныя палотны з майстэрні. Даў тэлефон [Яфіма] Лапушына. Накіраваў да Правасуда[5]. Званіў Васілю, у «Навінах» ганебны артыкул Яўменава. Буду чытаць. КДБ выходзіць на паверхню. А наконт за-

---

[1] Собалеў Р. А., беларускі дыпламат.

[2] Мень Аляксандр Уладзіміравіч (1935–1990), расійскі святар, рэлігійны пісьменнік. Забіты невядомым.

[3] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік, перакладчык. У 1978–1997 гг. гал. рэдактар час. «Нёман».

[4] Шрамякоў Віктар Рыгоравіч (н. 1930), беларускі мастак.

[5] Правасуд Уладзімір Рыгоравіч (1934–2010), беларускі пісьменнік. З 1967 г. супрацоўнік час. «Вожык».

бойства айца Лазара, які расследаваў справу забойства Меня, дык проста замятаюць сляды. Накшталт, як з Кіравым. Хоць Сталін не памыліўся б, калі б усіх сваіх прыспешнікаў знішчыў, падонак падонкаў, у ягонай бандзе нармальных людзей не было. Гэта пайшло яшчэ ад Валодзі [Леніна].

Заходзіўся да Навума. Арганізуецца новы часопіс «Ковчег»[1] на рускай мове і на іўрыце. Навум перакладзе мае вершы.

*6 студзеня, нядзеля*

Уночы снілася, што седзімо з Быкавым і ў абодвух голыя, босыя ногі. У мяне кепскія кіпцюры, а ў Васіля круглыя, круглыя ногі і вялікі кіпцюр, прыгожы, круглы на вялікім пальцы на назе. Потым снілася, што выклікалі ў КДБ, калі сказаў, што яны свалата, як і былі, мяне затрымалі. Пакуль не прачнуўся, страшна было. Вясёлыя сны сняцца вязню канцлагера сацыялізму!

*7 студзеня, панядзелак*

Вечар у СП. Святары розных канфесій выступілі, хоры спявалі. Асабліва хор пратэстантаў Сібілы. Праваслаўны святар аб'явіў, што праспяваюць беларускія калядкі — і ні слова па-беларуску. Праваслаўная спрадвеку вялікадзяржаўная духам сваім і словам. Наша рэлігія — унія. Але зампаліты філарэты[2] касцямі палягуць, а не дадуць разгарнуцца ўніятам. На пачатку вечара хораша выступіў Васіль Быкаў. Закончыў белчырвона-белым сцягам і «Жыве Беларусь!». З Амерыкі святар і пісьменнік з жонкай. Простыя, проста апранутыя. Не скажаш, што з-за мяжы. Ці такі стыль, ці каб не вылучацца на фоне савецкай галазадасці. Вечар праводзіла «Бацькаўшчына».

*8 студзеня, аўторак*

Прыехаў з-пад Іллі Ваўжынец Януковіч, збіральнік фальклору. Цікавае слова стрэх — вада са стрэх. Стрэху набрала. Быў пяюн, ды забіў пярун. Два разы радзіўся і ні разу не хрысціўся, а чорт яго баіцца (певень). Арымы плуг. Ішла баба з цестам, паваліласяя мяккім местам. Чым ты думаеш? Цікавы прыгавор: не русі на Беларусі! Закончыў універсітэт, выкладае. Натуральны, як і ўсе людзі, што яго акаляюць. Звонку нават бзікаваты, але натуральны Ваўжынец.

---

[1] «Ковчег» — альманах яўрэйскай культуры на рускай мове і іўрыце (1990–1994). Былі перакладзены і надрукаваны вершы «Апошнія паэты яўрэйскія» і «Рыгор Бярозкін».

[2] Філарэт (свец. Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч; н. 1935), праваслаўны царкоўны дзеяч Беларусі. У 1983 — 1992 гг. Экзарх Беларускі з тытулам мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх Беларускі. Герой Беларусі (2006).

*9 студзеня, серада*

Праца. Утрасаю патроху дарослы і дзіцячы зборнікі. Трывожныя весці з Літвы. Сястра Расія ў асобе Масквы не выпусціць з абдымкаў жалезных Прыбалтыкі. Вялікадзяржаўны шавінізм большы езуіт, чымся Рым.

*10 студзеня, чацвер*

На працу прыходзіў Карлас з Аляксандрам Іванавічам. Заключыў ПЭН выгаднае пагадненне з Венесуэлай. Там Карласаў знаёмы. Званіў Та́рас. А то колькі дзён не чуў яго — засумаваў.

*11 студзеня, пятніца*

Віншаванне Уладзіміра Мулявіна ў Купалаўскім музеі. Мяне занесла, і назваў установу насупроць туалета Купалаўскага тэатра, якая і стрыгла «Песняроў», і муштравала. […] Макаль[1] чытаў нейкія на ўзроўні Дзеружынскага[2] радкі, кажучы, што гэта экспромт. А напісаў ў рэдкія хвіліны прасвятлення. Павел Якубовіч[3] расказваў, як Ваўкадамчык ледзьве не давёў да інфаркту Някляева. […]

Вечарам у бібліятэцы Купалаўскай сход Біблейскага таварыства. Цікава, што гэтулькі гадоў выхоўвалі, выводзілі савецкіх робатаў, што і тут агаварваюцца: «таварышы». Яшчэ таварыства няма, а ўжо палкія дэбаты за членства ў праўленні. Трэба колькі пакаленняў, каб нармальныя людзі нараджаліся.

*12 студзеня, субота*

У домакіраўніцтве атрымаў пропуск у камунізм — візітку, талоны. Трэба яшчэ адзін універсітэт закончыць, каб разабрацца ў гэтай колькасці.

Званіў Васіль. Сапраўды, Літву акупавалі, як пасля вайны, жулікі. Падыходзіць падшыванец і просіць рубель альбо гадзіннік. Натуральна, дзядзька ўпіраецца, тады падыходзяць амбалы і пачынаюць сарамаціць дзядзьку, чаму малога крыўдзіць. Аддай гадзіннік, не ўводзь у плач дзіця. Спачатку дэсантнікаў скінулі як быццам лавіць у армію дэзерціраў, а праз дзень ужо гэтую байку забыліся. Ельцын у гэтай сітуацыі на ўзроўні застаўся. Ну, тут барацьба амбіцый. Абодва людзі аднае сістэмы.

---

[1] Макаль Пятрусь (Пётр Міхайлавіч; 1932–1996), беларускі паэт, драматург, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

[2] Дзеружынскі Авяр’ян Сафонавіч (1919–2002), беларускі паэт.

[3] Якубовіч Павел Ізотавіч (н. 1946), беларускі журналіст. У канцы 80-х гг. супрацоўнік час. «Крыніца». Заслужаны дзеяч культуры РБ (2000).

*13 студзеня, нядзеля*

Нешчаслівая лічба для братоў нашых літоўцаў[1]. Рожкі імперыялізму вылезлі і ў Мішы [Гарбачова], і ў вайскоўцаў. Паўтор Чэхаславакіі, толькі на бліжэйшай дыстанцыі.

Хадзіў на мітынг каля Дома ўрада, пад навагодняй ялінай насупроць пакрыўджанага БНФ дзядулі Вовы [помніка Леніну]. Добра выступаў Зянон. Хай беражэ яго Бог. Увесь ён знерваваны, загнаны, насцярожана-імпульсіўны. Ахоўваць яго трэба ад партбанды. Званіў Альгісу [Балтакісу]. Кажу, мітынг, увесь свет за Літву. Альгіс сумна адказвае: «І як у Чэхіі былі падзеі, і ў Кітаі, мітынгі былі, а толк адзін». Званіў Васілю, ён узрушаны. Хворы. Шкадаваў, што не мог быць на мітынгу. Яно і без яго нармальна было. Не варта з гарматы і па вераб'ях, і па варонах смаліць. Ягоная зброя — быкаўскае слова.

*14 студзеня, панядзелак*

Праца. У паветры трывога. Новы стары год. Сустрэлі віцебскай гарбатай.

*15 студзеня, аўторак*

Ад'езд у Віцебск. Купэ — Васіль, Рэм [Нікіфаровіч]. Васіль: «У Віцебск еду з двайным пачуццём. Успамінаецца і стары горад, які люблю, помню. А на яве зусім іншы, новы горад». Зразумеў і я, чаму была перагружана восенню чыгунка — за Урал войска перакідвалі, заміталі сляды язаўцы[2].

*16 студзеня, серада*

*[г. Віцебск.]* Абком. Грыгор'еў. Шагалаўскія чытанні толькі на энтузіязме Додзіка. Домік шагалаўскі на вул. Дзяржынскага. Кажу Васілю: «Замяніць трэба». А ён кажа: «Трэба пакінуць, бо Шагал адзін з тых маладзікіх, хто ўцёк ад Жалезнага Фелікса». У Цэнтры культуры адкрыццё Шагалаўскіх дзён. Угаварылі Грыгор'ева адкрыць. Скрыпач Казаннікаў[3] беспадобны. Сазваніўся з Мінскам. Усё быццам бы спакойна.

---

[1] Пасля спробы захопу парламента прыхільнікамі прасавецкі настроенай арганізацыі «Адзінства» 8 студзеня прэзідэнтам СССР М. Гарбачовым быў аб'яўлены ультыматум аб аднаўленні дзеяння Канстытуцыі і законаў ЛітССР. Пасля адмаўлення ўлад ужо незалежнай Літвы (з сакавіка 1990) савецкімі вайскоўцамі быў прадпрыняты (безвыніковы) штурм Вільнюскага тэлецэнтра. Загінула 14 абаронцаў.

[2] Язаў Дзмітрый Цімафеевіч (н. 1924), савецкі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Маршал СССР (1990). У 1987–1991 гг. міністр абароны СССР.

[3] Дакладней, Казінік Міхаіл Сямёнавіч (н. 1951), беларускі скрыпач, музыказнавец, мастацтвазнавец, культуролаг, педагог, пісьменнік. З 1991 г. жыве ў Швецыі.

*17 студзеня, чацвер*

Пачалася вайна[1]. Можа закончыцца вялікай бядой для чалавецтва. Учора з Васілём. Рукі падчас апускаюцца: няма ў нас ні народа, ні мовы, ні рэлігіі. Усё вынішчалі, зруйнавалі.

[*Шагалаўскія] чытанні. Шацкіх[2]:* «Шагал нарадзіўся ў Віцебску 6 ліпеня 1889 года. Тады вялікі пажар [здарыўся]. Пасля нават цэрквы маліліся за выратаванне. Пэн пераніцоўваў штаны ў краўца, заўважыў малюнкі дзіцячыя і ўгаварыў бацьку аддаць Марка вучыцца маляваць».

*Валадарскі[3]* расказвае пра Шагала ў Траццякоўцы[4]. «У Рэпіна[5] партрэт Мусаргскага[6], Саўрасава[7] любіў «Гракі прыляцелі». «Мне падабаецца — гэта шчыра, ад сэрца», — пра «Алёнушку» [Васняцова[8]]. — Я гатовы аддаць тры свае працы за адну Левітанаву[9]». Сурыкава[10] ацаніў іконы. «Моцна, як Сезан[11], — (пра абраз). — Уплыў містыкі мацней, чым літаратура. Абразы лепей, што стварыў жывапіс. Я магу крытыкаваць іншых, акрамя сябе. У маладосці цвікі кідалі ў газу, каб нешта выцягнулі. Самі фарбы рабілі. Цяжка рабіць у шэрых тонах. Ды нельга быць і мяккацелым. Зрабіце музей для маіх карцін, і яны будуць».

*Марына Бяссонава[12]*: «Шагал — складанейшы феномен у гісторыі мастацтва. Сам рыхтаваў выстаўку да свайго стагоддзя. Містыка засвоена Шагалам праз рэлігію. Жыццё — гульня, дзе Шагал дазваляў сабе любыя прыхамаці. Які мастак Шагал — адназначна не адкажаш. Вечны шлях — яго жыццё. Глыбока рэлігійны чалавек. Любоўны цыкл носіць таксама біблейскі характар. Шмат на прыказках, на фальклоры. Беларускія летуценні, народныя іконы, якія былі толькі ў Беларусі. Шагал цытуе і інтэрпрэтуе Пэна. Стварае новы яўрэйскі фальклор і новую іконаграфію. Ша-

---

[1] У час вайны ў Персідскім заліве пачалася аперацыя («Бура ў пустэльні») па вызваленню Кувейта ад іракскай агрэсіі сіламі шматлікай кааліцыі (да 30 краін, у асноўным ЗША, Вялікабрытанія, Францыя і інш.).

[2] Шацкіх Аляксандра Сямёнаўна (н. 1956), рускі мастацтвазнавец.

[3] Валадарскі Усевалад Мордухавіч (н. 1935), расійскі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1964). Заслужаны работнік культуры РСФСР (1982).

[4] Траццякоўкая галерэя. Заснавана ў 1856 г. П. М. Траццяковым (1832–1898), адным са знакамітага рускага купецкага роду. У 1892 г. галерэя была перадана ў дар Маскве.

[5] Рэпін Ілья Яфімавіч (1844–1930), рускі мастак.

[6] Мусаргскі Мадэст Пятровіч (1839–1881), рускі кампазітар.

[7] Саўрасаў Аляксандр Кандрацьевіч (1830–1897), рускі мастак.

[8] Васняцоў Віктар Міхайлавіч (1848–1926), рускі мастак, архітэктар.

[9] Левітан Ісак Ільыч (1860–1900), рускі мастак.

[10] Сурыкаў Васілій Іванавіч (1848–1916), рускі мастак.

[11] Сезан Поль (1839–1906), французскі мастак.

[12] Бяссонава Марына Аляксандраўна (1945–2001), рускі гісторык мастацтва, крытык, музейны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства.

гал стварыў пэўную аўру ў Віцебску. Малевіч[1] і Шагал — занова адкрытая ікона асяняе іх. Малевіч [стварыў] сваю антыікону. Віцебск вечны, як Ерусалім».

*Аркадзь Падліпскі[2]* пра віцебскія адрасы М. Шагала.

*Яўг. Жыгуноў[3]* (Малевіцкі цэнтр, хочуць зрабіць цэнтр авангарду ў Віцебску). Шагал: «Я пішу карціну, як шавец, бяру скуру і кручу».

*Валадарскі:* «Чаму 7 пальцаў — як сем фарбаў, святая лічба, цудатворства. Брук на аблачынах. Вось Шагал. Чаму галава асобна ідзе ноччу, і раптам святло. Ён ужо тут, а галава, думкі там, у небе».

*Рыўкін[4]. Грыг. Казоўскі[5]*: «Марк Шагал і яўрэйская мастацкая праграма». «Яўрэйскі жанр у мастацтве. Не было ні гледача, ні мецэната. Уціск царызму. Рыба з хасідскай сімволікай. Певень — мужчынскі пачатак. Яўрэйскі майстра не мог маляваць людзей і маляваў птушак і жывёл, а ў іх чалавечыя постаці. Яўрэйская літаратура дае магчымасць графічнага афармлення. Мадэрнізм і народная творчасць. Два пункты, на якіх адраджаецца ўсё нацыянальнае».

[Малюнак В. Быкава] «Возвращение Шагала», 16–17 студзеня 1991. Віцебск». Гэта мне наалюваў Васіль. Вярталіся. Завёў, дзе быў скульптурны клас, клас Ахрэмчыка[6]. Нічога няма. Пустка. Запусценне. Рамонт робяць, робяць горш. Сумны пайшоў Васіль.

Вячэра ў так званым абкомаўскім Доме лесніка. Банкетная зала часоў застою. Успаміналі пляменніца, як Шагал прыязджаў да сястры ў Ленінград. Яму, які рускай мовай валодаў выдатна, далі аж трох перакладчыкаў-кэдэбістаў. Нават гадзіны не далі пагутарыць з роднымі: «Марк Захаравіч стаміўся», — адказалі за маэстра. У Ленінградзе ён ўцёк ад кэдэбістаў і пайшоў у Дом мастацтва. Швейцар пазнаў. А мастакі дзялілі плошчы — майстэрні і кватэры. Калі Шагал зайшоў, нехта на момант адарваўся ад галоўнай баталіі і сказаў: «Нейкая вядомая галава, чыя б гэта магла быць?» Адзін пабег услед і запытаўся: «Марк Захаравіч?» Маэстра адказаў: «А вы мяне пазналі». Калі зайшоў зноў, сказаў, што адрывае іх ад галоўнага.

---

[1] Малевіч Казімір Севярынавіч (1878–1935), рускі мастак.

[2] Падліпскі Аркадзь Міхайлавіч (н. 1946), беларускі журналіст, краязнавец.

[3] Жыгуноў Яўгеній Карнільевіч (1939–2001), рускі гісторык-архівіст. Кіраўнік цэнтра імя К. Малевіча (Масква).

[4] Рыўкін Міхаіл Сцяпанавіч (1931–2010), выкладчык, дацэнт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. Машэрава; краязнавец.

[5] Казоўскі Грыгорый (Гілель) Іосіфавіч (н. 1956), расійскі гісторык яўрэйскай культуры (Масква). З 1992 г. жыве ў Ізраіле.

[6] Ахрэмчык Іван Восіпавіч (1903–1971), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1949).

*18 студзеня, пятніца*

З раніцы запіс Васіля на Віцебскім тэлебачанні. Рэм вёў. Васіль здзіўляе і глыбінёй, і даходлівасцю, і смеласцю, і незгінальнасцю сваёй. На тэле: адна жанчына з рэпрэсаваных выменьвае, любыя кнігі аддае, на кнігі Быкава (расказала тэлежурналістка). Абком даў машыну. Васіль стомлены, але веселаваты, бо ў родным Віцебску пабыў.

Калі Рэм сказаў, што будуць купалаўцы ставіць «Цынкавых хлопчыкаў»[1], Васіль амаль сур'ёзна прапанаваў ход. На сцэну ўносяць цынкавую труну. Адкупорваюць. З яе выскоквае хлопчык і скача ламбаду. Пасля напрыканцы, расчараваны, просіць, каб яго зноў закупорылі ў труну. І зазначае: «Калі «афганцы» не падпаляць тэатр». Загаварылі пра армію. «Чым болей салдатаў, тым болей генералаў. У нас на 600 салдатаў 1 генерал. Казаў, што ёсць задума (а наогул магу прадаваць сюжэты па дзясятцы за штуку)». Стальмашонку[2] раіў напісаць «Тайную вячэру» з нашымі славутымі людзьмі, тут і Скарына, і Каліноўскі, і Купала, і Багдановіч. Дык Стальмашонак замест гэтага намаляваў тры фігуры сумніцельныя: Кнорына[3], Адамовіча[4], Чарвякова[5]. [Сюжэт:] Як у адным парадку стаіць помнік герою, музей мае аддзяленне, піянеры вывучаюць. І раптам ён жывы, ды яшчэ ў палоне быў, і з жонкай развёўся, і спіўся. І ніяк не ўпісваецца ў звычайныя рамкі. Адно выйсце — сканаць. Дарэчы, у Віцебску, калі [...] каментатар тэле Жук зайшоў, Васіль: «Пясняр мінскай наменклатуры». Той аж сцяўся, але мусіў цярпець.

*19 студзеня, субота*

Дома. Званіў Альгісу ў Вільню. Сын днём спіць, а ўночы ходзіць на дзяжурства, без зброі. Дачка з траімі дзецьмі без працы, бо літоўскія тэлевізійнікі ніхто не ідзе на тэлевежу. Прадажнікі паказваюць, колькі

---

[1] П'еса па дакументальнай кнізе С. Алексіевіч, у якой сабраны аповеды салдат, якія ваявалі ў Афганістане. *Алексіевіч* Святлана Аляксандраўна (н. 1948), беларуская пісьменніца. Лаўрэат літаратурных прэмій СП СССР імя М. Астроўскага (1984), імя К. Федзіна (1985), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Нобелеўскай прэміі (2015).

[2] Стальмашонак (Сцэльмашонак) Уладзімір Іванавіч (1928–2013), беларускі мастак, педагог. У 1957–2000 гг. выкладчык БАМ. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981). Народны мастак БССР (1988).

[3] Кнорын (Кнорыньш) Вільгельм Георгіевіч (1890–1938), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч, гісторык, публіцыст, крытык. Доктар гістарычных навук і прафесар (1935). Рэпрэсаваны.

[4] Адамовіч Язэп Аляксандравіч (1897–1937), беларускі дзяржаўны дзеяч. У час масавых рэпрэсій скончыў жыццё самагубствам.

[5] Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч (1892–1937), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч БССР і СССР. У 1924–1937 гг. старшыня ЦВК БССР. У час масавых рэпрэсій скончыў жыццё самагубствам.

хвілін літоўскія сюжэты, а ўвесь час — Масква. Калі стары рускі чалавек пачаў пытацца ў салдат: «Што вы робіце?», на яго з прыкладам. Стралялі па нагах. Маладыя людзі пацярпелі — студэнты, гіманазісты. Літва ў адчаі, у чаканні наступных падарункаў з Масквы.

*20 студзеня, нядзеля*

Хадзіў да Навума. Ён пераклаў маю падборку для «Ковчега».

У Латвіі падзеі па адным і тым жа сцэнарыі. І зноў: і Аўгіння нявінна, і Ігнат не вінават, а вінавата хата, што пускала Ігната. Ідзем да светлых даляглядаў гарбавізму. Цяпер новы канец кшчэння: «У імя Айца і Сына і Святога духа. Амон». Бо на першым плане амонаўцы[1].

*21 студзеня, панядзелак*

У купалаўцаў «Тутэйшыя»[2]. Вядома, раней п’еса ісці не магла. Пінігін[3] здорава паставіў у вадэвільным, бурлескным плане. Купала ўсё прадбачыў, і нашыя дні. Сапраўды прарок.

*22 студзеня, аўторак*

Праца. Званіў Бурсаву. Званіў Васілю.

*23 студзеня, серада*

Новая радасць ад прэзідэнта. Усе, як аглушаная рыба, носяцца з сотнямі і пяцідзесяткамі[4]. Вось табе і рыначная эканоміка. Мафіёзі якраз не пацерпяць. Горай бедным бабкам, інвалідам, якія трымалі на чорны дзень гэтую паперчыну. А Васілю якраз з Малдавіі за кніжку прыслалі поштай і далі буйнымі паперкамі. Яму, першаму чалавеку нашых дзён, трэба хадзіць па райвыканкомах.

*24 студзеня, чацвер*

Праца. Засядалі. Усе бегаюць з грашыма. Сачанка як член ЦК мог здаць у камерцыйнай партыі Беларусі, а ён па месцы работы афіцыйна здае. Вечарам у БДУ.

---

[1] ОМОН — отряд милиции особого назначення = АМАП — атрад міліцыі асобага прызначэння.

[2] Трагікамедыя Я. Купалы (1922, апублікавана ў 1924, пастаўлена ў 1926 і 1990).

[3] Пінігін Мікалай Мікалаевіч (н. 1957), беларускі рэжысёр. У 1984–1998 гг. рэжысёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1993).

[4] Адбылася так званая «паўлаўская рэформа»: у кароткі абмежаваны тэрмін выводзіліся з абарачэння 50- і 100-рублёвыя купюры ўзору 1961 г. Але выдача налічнымі з укладаў грамадзян у ашчадбанках абмяжоўвалася 500 рублямі. *Паўлаў* Валянцін Сяргеевіч (1937–2003), расійскі дзяржаўны дзеяч. У 1989–1991 гг. міністр фінансаў СССР, у студзені — жніўні 1991 г. старшыня СМ СССР.

Сойм БНФ. Адкрыў *Зянон Пазняк:* «Учора было паседжанне фракцыі апазіцыі ў Вярхсавеце. Канфіскацыйная рэформа. Ашчадкасы не прымаюць ад насельніцтва грошы. Страты ў эканоміцы рэспублікі за 3 і болей дзён, страты не пакрываюць рэформу. Людзі, якія рэформу зрабілі, маюць свой клан альбо нічога не ведаюць. Гэта палітычны акт. Пацерпяць малазабяспечаныя, пенсіянеры ў глыбінцы і ветэраны, якія абараняюць ідэі Саюза, кааператывы пацерпяць. Высокія ценевікі былі папярэджаны. Папулісцкая задача ўдарыць якраз па тых, хто падтрымлівае папулісцкую ідэю. У рэспубліцы няма грошы, каб абменьваць валюту. Рэспубліку абрабаваў цэнтр, укладаў няма. Сам факт раптоўнасці з падключэннем КДБ — ідзе захоп улады. Гэта першы крок, які зрабіў Крэмль. Парушаны закон рэспублікі аб банках і дзеяннях банкаўскіх. Гэта павінен быў рабіць Вярхсавет. Раптоўнасць, канфіскатыўны характар, парушана прэзумпцыя невіноўнасці. Любая ўспышка незадаволенасці выгодная, каб увесці прэзідэнцкае праўленне, а няма механізму ўводу і закона. Увесці яго, не парушаючы законы, немагчыма. Пралічаны пэўныя варыянты, ці польскі, ці які іншы. На трэці ці на які дзень магчымыя нейкія акцыі. ПТР[1] і танкі ў цэнтры Наваполацка ўчора апынуліся. На выпадак узнікнення бунту. Шкада, калі пара выйдзе марна і будзе сітуацыя выкарыстана іншымі сіламі. Зараз важна дэпутатам сустракацца з людзьмі, тлумачыць сутнасць рэформы, яе магчымыя вынікі. Нас заганяюць у Саюз танкамі, рэспубліка бяспраўная».

Выступае *Беленькі*[2]*:* «Звязалі з падзеямі ў Літве. Абарачэнне грошай лёгка прасачыць. Гэта мэта выцягнуць грошы. Чорны курс долара за год павялічыўся ўдвая. Ценевікі і ў валюту, і ў брыльянты, і ў золата [перавялі грошы]. Грошы замаражваюцца, і магчымасць браць (цэнтр ужо забраў 20 млрд ад нас) цэнтру. Беларусь у пройгрышным стане. Дзяржбанк забраў у нас грошы. Гэта рэпетыцыя ці перавароту, ці іншых радыкальных мераў. Элемент дыктатуры, прэзідэнцкага праўлення, грашовы абарот — рычаг для адзінаўладдзя».

*Юры Хадыка:* «Прэзідэнцкае праўленне — будзе табу на ўсе дэманстрацыі і маніфестацыі, рэальная перспектыва. Ці будуць гэтыя крокі, каб выклікаць бунт? Не будуць. Сэнс рэформы, каб скараціць масу вольных грошай, на працягу года 500 руб., ілюзію [стварыць], што рынак насычаны. Тавараў няма, і грошы не будзе. Запалкі 6 капеек. Паўзучае падвышэнне цэнаў. На мяжы грамадскага незадавальнення. Аўтарытарная ўлада будзе мець аблічча дэмакратычнай. Яшчэ адзін крок, каб захаваць

[1] ПТР — противотанковое ружьё = супрацьтанкавае ружжо.

[2] Беленькі Юрый Адамавіч (н. 1960), беларускі палітык; у 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

Саюз. Надзея камуністаў на рэферэндуме атрымаць перавагу. Паўмеры, каб не давесці да выбуху. Трэба агітаваць супроць рэферэндуму».

*Сяржук Сокалаў-Воюш:* «Меркі інтэлігента да тых, хто гэтак не думае. Быць гатовымі павесці людзей за сабой».

*Валеры Сядоў:* «На прадпрыемствах грошы абменьвае камісія. Рэкецёры грошы адмываюць. Выступ супроць Ельцына на расійскія незалежныя банкі. Камуністы адціснулі канкурэнтаў з рынку, з якога хочуць нажыцца. Наркотыкі ваеннымі самалётамі [перапраўлялі], наркотыкамі гандлявалі, чалавечымі членамі».

*Кастусь Лабко*[1]*:* «Вярхсавет і Саўмін недаўгавечныя. Трэба мець выразную праграму, калі людзі выйдуць на вуліцу. Агітацыю [весці], сусракацца з дэпутатамі. Інтэлігенцыя вядзе страусіную палітыку. Мітынгі цяпер малаэфектыўныя. Трэба падпісныя лісты і анкеты. Да кожнага чалавека даходзім, бачым, хто за намі стаіць».

*Зянон:* «Анкетамі, так званымі адозвамі карыстаецца і Дземянцей. Проста кручкі ставяцца, а хто за імі?»

*Алесь Емяльянаў:* «Аднавіць інфармацыі ўлёткамі, каб 200–300 у абласныя цэнтры траплялі».

*Зянон:* «Улёткі можам выпусціць. Але апынёмся без грошай. Калі заява з’явіцца, можна на ксераксе».

*Вінцук Вячорка:* «Найбольш эфектыўны парламенцкі шлях. Непрадказальны Вярхсавет у некалькіх працэнтаў. З вуснаў фракцыі павінен прагучаць заклік. Прымусіць Вярхсавет узначаліць нацыю. Ваенна-прамысловы комплекс сапраўдны гаспадар становішча. Байкот рэферэндуму ў Беларусі. Перспектыва нелегальнай працы ў БНФ».

*Зянон:* «Усе структуры ў Беларусі ў руках КПСС. Трэба, каб як меней прыняло ўдзел у рэферэндуме».

*Віктар Івашкевіч:* «Максімальна, на што можа пайсці абывацель — не выйсці на працу. Будзе ціхае ўдушэнне. Страйкавыя камітэты ствараць штучна немагчыма. Трэба цэнтр інфармацыі. Нам трэба надрукаваць улётку. Варта прыняць удзел у галасаванні».

*Алег Белавусаў*[2]*:* «Калі і як [адбылася] сустрэча 4-х рэспублік?»

*Зянон* тлумачыць: «Нашыя халуі [прапаноўвалі], што грамадзянінам усіх рэспублік робіцца кожны». Зянон падводзіць вынікі: «Шмат хто мяркуе на спакойны ход падзей. Дэпутатам трэба сустракацца з людзьмі. Калі пачнецца нейкі рух, важна, каб усе структуры Фронта і дэмакратычных сілаў не павінны заставацца ўбаку. На выпадак падзей заклікаць

---

[1] Лабко Канстанцін Мікалаевіч (н. 1946), беларускі навуковец. Кандыдат хімічных навук (1983). Выкладчык БДУ.

[2] Белавусаў Алег Паўлавіч (1945–2009), беларускі мастак-мультыплікатар, кінарэжысёр, сцэнарыст, журналіст.

Вярхсавет узначаліць нацыю (хоць наш Вярхсавет нічога, акрамя страху, не адчуе). Важна стварыць орган, дэлегаваны ад дэмакратычных сілаў, і з Вярхсаветам [весці] перагаворы. Няма інфармацыі, гэта нашая самая вялікая бяда, пераход на лістоўкі магчымы. За мяжой выдаваць складана. Мець на ўвазе згуртаванне камітэтаў, страйкамаў. Даць права кіраўніцтву Фронта вызначаць патрэбныя захады, на выпадак надзвычайных абставінаў (у Польшчы ўсе кіраўнікі былі інтэрнірваны)».

*25 студзеня, пятніца*

На працу. Перадрук. Рыхтую зборнік «Міласэрнасць плахі». Можна б было *міласэрцасць,* але на кім ні правяраў, усім не падабаецца. Па тэле астабрыдлі чарговыя ўказы і фальшывая інфармацыя.

*26 студзеня, субота*

Прыходзіў Валянцін Ждановіч. Сфатаграфаваў Домначку і нас ўсіх з ёй. Аддаў яму адказ пракурора наконт разбою ў Траецкім прадмесці, калі білі навучэнак мастацкага вучылішча. Яму прыдасца, бо піша пра гэта і мае дакументы. Вечарам да Радзіка. Чытаў мне новыя вершы. Расце.

*27 студзеня, нядзеля*

Да Навума. Ягоны брат прынёс мне ад Сурскага[1] два альбомы Забарава і фота з Парыжа. А то ніяк не мог я забраць вестку ад Барыса. Цёплыя подпісы і ўсюды ўспамінае маю матчыну хату. Дзякуй яму, што не забыўся Ушач.

*28 студзеня, панядзелак*

Да Быкава. Яму званіў Шаляговіч[2], каб падтрымаў паляшуцкую мову. Гэта гагаузскі[3] варыянт раскалоць нацыю. Яшчэ нас чакае раскол па рэлігійнаму прызнаку. Званіла яму і Ягорава[4], спецкар «Комсомолки». Як кошка нашкодзіла ў матэрыяле пра Шагала, а цяпер хоча лапамі загрэбсці. Стаўленіца Саўкі Паўлава, яна ж пахабна і хлусліва асвятляла з'езд БНФ.

---

[1] Сурскі Алег Аркадзьевіч (1928–2012), беларускі дызайнер, мастак, мастацтвазнавец.

[2] Шаляговіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1956), беларускі гісторык, філолаг. Ініцыятар і апалагет ідэі самаідэнтычнасці жыхароў Заходняга Палесся (палеская мова) і стварэння палескай аўтаноміі.

[3] Гагаузы — народ тюркскага паходжання, які жыве ў Малдове і Украіне.

[4] Ягорава Вольга Аляксандраўна (псеўд. Вольская Вольга; н. 1953), беларуская журналістка, спецкарэспандэнт газ. «Комсомольская правда» (1985–1995). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1984).

Прыходзіў да Васіля Та́рас, раіўся, як рабіць яму ўступ да дзённіка Ларысы Геніюш[1]. Васіль зноў паўтарыў сумную думку, што сустрэнемся на стадыёне, толькі б да травы дажыць, бо на траве лепей ляжаць, чым на снезе. ПінаЧэтаўскі варыянт можа быць. Ужо ў пашпартах робяць адзнаку, калі здымаеш з ашчаднай кніжкі свае ж грошы. Дазвол здымаць не звыш 500 руб. Які ж чарговы будзе ўказ прэзідэнта? Адбіткі пальцаў, калі дадуць купіць буханку хлеба?

*29 студзеня, аўторак*

Прыехаў Шклярэўскі. Сёння цяжкі дзень, ледзь не памёр.

*30 студзеня, серада*

Сніўся Уладзімір Караткевіч. Вясёла. Лёгка. Жартавалі.

Да Шклярэўскага ў «Кастрычніцкую» (для парт[…] гатэль). З ім на кінастудыю. Фільм «Пранясі, Божа, хмару»[2]. Пяюць людзі ў радыеактыўнай зоне, адпяваюць сябе. Маладзіца з пустым кошыкам у радыеактыўным лесе — імправізаваны плач, галашэнне па лесе, па грыбах, па ягадах. Як па нябожчыку. А кавалкі Купалля недзе каля Ушач! Здаецца, фільм зроблены на ўспамін пра часіны, калі яшчэ людзі жылі, захоўвалі паганскія звычаі, спявалі. Наступным сінтэтычным пакаленням усё гэта будзе проста не зразумела.

*31 студзеня, чацвер*

Праца. Праводзіны Шклярэўскага. Ларыса з тэлебачання, магіляўчанка родам, спявала пад гітару. Зноў усё, як у забытыя часіны, як кадры з забытага кіно. Ці будзем мы калі ў гэтай краіне, якая паглынула і маю Беларусь, жыць як людзі? Бо ўсё нечага чакаем, апошнім часам чарговых указаў, якія, здаецца, камп'ютэр выдае, а не чалавек.

*1 лютага, пятніца*

Пачаўся мой месяц. Хоць з маразамі, а то чарнобыльская навала выкінула 76 тонаў паліва, гэта на цэлую эпоху неба грэць. У Хірасіме 7 зімаў

---

[1] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса. Была рэпрэсавана (1948–1956).

[2] Фільм (другая назва «Ой, жураўка, жураўка») студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». Сцэнар З. Мажэйка, рэжысёр А. Шклярэўскі. *Мажэйка* Зінаіда Якаўлеўна (1933–2014), беларускі этнамузыколаг, сцэнарыст і паляўнічы рэжысёр. Доктар мастацтвазнаўства (1992). У 1966–2011 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1987). Лаўрэат прэміі імя Б. Асаф'ева (1991), Дзяржаўнай прэміі РБ (1994), Гран-пры ЮНЕСКО (1988). *Шклярэўскі* Алег Іванавіч (н. 1946), беларускі кінарэжысёр, аператар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1994). Брат І. Шклярэўскага.

не было зімы, а ў нас жа болей, бо мы савецкія, з зоркай у ілбе, як цяляты з зорачкай. Гарбачова магіла выправіць — можна перайначыць старую прымаўку. Быў на працы. Знадакучылі сёстры Дусі Лось[1]. Загарэлася бяроста ў ср.цы кватэру-музей зрабіць у доме, дзе жыла апошнія гады. Не да музеяў цяпер. І ў гэтыя, што ёсць, не дужа ходзяць. Музеі літаратурныя трэба рабіць клубамі, зборышчамі аднадумцаў. Каб яны хоць трохі галасамі людскімі былі сагрэтыя.

*2 лютага, субота*

Хадзіў на Галоўпаштамт, рабіць адзнаку ў пашпарце — здымаў трошкі грошай. Як у Радзіі ці яшчэ горай. Што за новы ўказ выдасць перабудоўшчык? Хацеў ён зрабіць касметычны рамонт сацыялістычнага канцлагера, а падзеі размахнуліся — і ён сам спалохаўся, а ім тузаюць сілы, што яго выкінулі, пакуль не засунуць.

Званіў Васіль, хваліў паэму[2] ў «Полымі». Шкада, казаў, што вершаў не пішу, аж самому захацелася вершам напісаць. Хораша ты пра бацьку свайго напісаў, казаў, а колькі ўшацкіх дэталяў, рэалій. Дзякуй яму, светламу розуму нашай затлумленай, затуканай Беларусі, за шчодрыя авансы!

*Міхасю Ткачову*
*(на «Кахаць — гэта значыць...»)*

Дастаслаўнаму пану Ткачову
Ў перакладзе на крыўскую мову
Свет паэзіі — шаны даніну
Я падпісваю ўсмешкамі зор.
Даўні панаў прыхільнік Рыгор.

*3 лютага, нядзеля*

Абмазгоўваў паэму[3]. Чым болей матэрыялу чытаю, тым болей нічога не ведаю, тым болей разгубліваюся. Хочацца ўсё, што паганскага маю ў сабе, укласці ў паэму.

*** Ва́да. У паэму!

Ішла вадою Ва́да.
А як Ва́да-удава
Паехала па драва,
Зачапілася за пень,
Прастаяла цэлы дзень.
Каб не тыя панічы,

---

[1] Лось Еўдакія Якаўлеўна (1929–1977), беларуская паэтэса, празаік.

[2] Удакладненні да асабовага лістка па ўліку партызанскіх атрадаў: Паэма смутку (8.03.90, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 266.

[3] Гл.: Аблачына-самабранка: Бяседа багоў (29.03.91, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 223.

Прастаяла б да начы,
Каб не тыя кавалеры,
Прастаяла б да вячэры…

*4 лютага, панядзелак*

Развітваўся з Станіславам Пятровічам Шушкевічам[1]. Выхудалы, як бразджэль, ляжаў у труне. Мёртвыя пальцы, у іх уваткнёна насовачка ў клетачку, як сшытак, каб мог пісаць. Добры быў чалавек, пакутнік. У Сібіры ўсе маладыя сілы паклаў. Кучар[2], Агняцвет і іншыя стукачы ў Мінску адажываліся. Нябожчык, бывала, любіў прыслаць у канверце якуюнебудзь цытату з Кучара 37-х гадоў. Прыгадаўся Кактэбель пачатку 60-х. Стах мне тады здаваўся да зялёнасці, да бронзавай зялёнасці стары, а ён расказваў, як з нейкай дамай хадзілі ў горы. Мне гэта тады здавалася смешным. А яшчэ мы пісалі для «ЛіМа» навагоднія рэпартажы-пародыі. А яшчэ ездзілі летам да піянераў. І расказваў Стах, як пад яго началам была рачная флатылія на вольным пасяленні. Замаразкі. Везлі бульбу, і ён аддаў загад раздаць бульбу зэкам. Прыехаў потым бухгалтар Скрыганок[3] і пачаў палохаць неадпаведнасцю інструкцый. І тады Стах звярнуўся да начальніка лагера, і тога, сталінскага звяра па абавязках, абурылі паводзіны Скрыгана: «Ты же, сука, сам лагерный. Это же твои братья». І згадалася, як праўляў Стах свой юбілей і вагаўся — клікаць Агняцвет і Кучара, якія сваімі даносамі пасадзілі Стаха. І адышоў пакутнік на пакуты вечныя, а можа, у рай. Пухам яму зямля! Хаваць павезлі на радзіму, у Станькава. Гэтакая была і воля другога пакутніка сталінска-кэдэбісцкіх лагераў Пальчэўскага[4]. Дужа, відаць, хацелася ў стылай Сібіры легчы ў родны, беларускі дол. Мара, пэўна, была гэтакая ў іх, азяблых, азяблая мара.

*5 лютага, аўторак*

Да Васіля. Занёс яму лямцаваныя чаравікі хадзіць у хаце, каб ногі ягоныя не зяблі. Некалі ў Гародні у 60-м годзе я, карэспандэнт «Советской Белоруссии», прамачыў ногі ў лямцавых чаравіках і атруціўся сасіскамі ў гродзенскай гасцініцы. Раніцай прынёс мне Васіль тры пары свайго абутку мерыць і сушыць ногі і адпойваў мяне армейскім спосабам — разбавачкаю марганцоўкі. Васіль у размове сёння: «Празаікі рознаманер-

---

[1] Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (1908–1991), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Быў рэпрэсаваны.

[2] Кучар Алесь (Айзік Евелевіч; 1910–1996), крытык, драматург, кінасцэнарыст.

[3] Скрыган Янка (Іван Аляксеевіч; 1905–1992), беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976). Быў рэпрэсаваны.

[4] Пальчэўскі Алесь (Аляксандр Восіпавіч; 1905–1979). Беларускі пісьменнік, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

ныя. Французы пішуць эканомна, невялічкія аповесці, немцы грунтоўна, нават Бёль і той паважае паважныя памеры. Я ўзяў сабе за манеру, за ўзор французаў, хоць любую маю аповесць магу разгарнуць у раман». Да вайны, успамінае, прывозілі мануфактуру рэдка, як свята якое. Давалі па 3 метры пайшчыкам, чэргі. Каб пашыць гарнітур (а гатовыя не прадавалі), трэба было купіць і матэрыял, і падкладку, каб пашылі ў арцелі. Штаны, натуральна, у хлапчукоў драліся, усе ў лапіклах, не паспявалі ставіць лапіклы. На дарослы розум, і што з таго, а тады гэта дужа перажывалася. Успамінае, трэба было ісці на вечар у школе, кашулі няма, маці пашыла з дзвюх шлякастых хусцінак у гарошынку. І адзін шлячок быў відаць, вытыркаўся; як перажываў, хай бы шлячок гэты не відаць быў, думалі б, што не з хусцінак сшытая кашуля. Расказаў зноў, як кэдэбісты забыліся картатэку ў Гародні; прыйшлі немцы — стукачы да немцаў; вярнуліся Саветы (картатэка ў Маскве няйначай была такая ж) — яшчэ люцей працавалі на сталінска-кэдэбісцкіх катаў.

Я Васілю расказаў, як стараўся звесці стукача Лужаніна з Валодзем Караткевічам, каб не дужа рэзаў у рэцэнзіі «Каласы пад сярпом [тваім]». Яму заданне гэтакае было. Як аднойчы зайшлі мы да жывога мерцвяка Лужаніна з пляшачкай «Lāsite», а зайшоў Куляшоў[1] і, як хлапчука, адцягаў старога стукача. Ці не была тут субардынацыя па службовай лініі? Васіль раіў пра ўсё пісаць. Гэта цікава. Гэта гісторыя.

*6 лютага, серада*

Складаю зборнік. Шмат чаго, болей нават, чым шмат, не падабаецца. Надрукаванае слова неяк мёртва выглядае. Як бы жывую душу з яго выцягнулі. Куды знікаюць і раса, і пахі, і вецер, і аралля?

*7 лютага, чацвер*

Званіў Шкляраўскі, абураўся супроць злоўжывання слова *Чарнобыль*, яно ад шматразовых ужыванняў траціць сілу і не дзейнічае.

*8 лютага, пятніца*

Сяджу перакладаю для Валодзі Арлова Валерыя Шаўчука[2] — вершы ў празаічны твор украплены. Званіў Алесь Адамовіч. Прыехаў на колькі

---

[1] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970).

[2] Дакладней, Шаўчук Юрый Юліянавіч (н. 1957), рускі рок-музыкант, паэт, акцёр, мастак, грамадскі дзеяч. Народны артыст Рэспублікі Башкартастан (2003).

дзён. Да Алеся вечарам. Быў Васіль Быкаў, Валодзя Бойка[1]. Васіль сказаў, што на рэакцыю ў «Литгазете» на артыкул Адамовіча ён вызначае стукачоў. Пасля выступлення Адамовіча прэзідэнт [Гарбачоў] недзе на дачы здзівіўся: «Я ж так добра ставіўся да Быкава і да Адамовіча, а што ж яны?» Пакрыўдзіўся сардэчны.

*9 лютага, субота*

Сёння дзень нараджэння Та́раса. Павіншаваў, ён запрашаў на гарбату, не пайшоў — баліць галава. Зноў перакладаю Шаўчука. Не люблю перакладаць правільныя і дужа зразумелыя вершы, люблю, каб круціць, каб да сэнсу прадзірацца. Правільныя і дужа ясныя вершы па часе будзе перакладаць кампазітар.

*10 лютага, нядзеля*

Хадзіў да Радзіка. Адбіралі з ім мае вершы на пераклад Шклярэўскаму. Сам выявіў жаданне перакласці нешта маё і аддаць у «Литгазету». Дай бог чутае бачыць. Пасля на вакзал, каб Адамовічам перадаць вершы. Зноў да Лапушыных. Званок Валі. Да Ілоны. […] Адно шкада маленькую ўнучачку. Яна такая кволенькая. Пра тое, што пахаваць мяне не будзе каму, і казаць не даводзіцца.

*11 лютага, панядзелак*

Застаўся тыдзень да Дубултаў. Увесь у зборах і разам з тым увесь разабраны — усё з рук валіцца. А там праца наваліцца. І так праз гады замкнёны цыкл. Нешта даганяю, а яно, гэтае нешта, прывіднае, няўлоўнае і, галоўнае, непатрэбнае. Пачынаем думаць, што зрабіў, — нічога, што пасля цябе застанецца — нічога. Сапраўды, тлум тлуму і лоўля хукаў у космасе, як у настылай пасляваеннай хаце. Пачаў гэтую запісную кніжку, і вясёла падумалася, што і неахайнае вонкава вароніна гняздо, і дасканала-паветранае ў ластаўкі, гэта іхнія запісныя кніжкі, у якія птушкі занатоўваюць вобразы і дэталі па сваёй прыродзе, каб пасля нарадзіліся вараняткі, ластаўчаняткі; так і просіцца ў рыфму: вачаняткі.

Іду па вуліцы, нейкі яўна адстаўнік з нашага дома: «Вы часам не Бураўкін, дужа Вы падобныя да яго?» Адказаў, што Бураўкін у Амерыцы. Не трэба блытаць. Можна так перарабіць выраз: ёсць яшчэ порах у нашых порхаўках — пра старых ленінцаў-кэдэбістаў.

---

[1] Бойка Уладзімір Андрэевіч (1932–1996), беларускі мастацтвазнавец, крытык, сцэнарыст, паэт, мастак. У 1979–1990 гг. аўтар і вядучы радыё- і тэлевізійных перадач. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1984).

*12 лютага, аўторак*

Праца. Пазваніў у Маскву, пацвердзіў, што падпісваю ліст у абарону дэмакратыі. Пазваніў Быкаву. Карлас. ПЭНаўскія пытанні. Званіў Шклярэўскаму, ён атрымаў вершы і знайшоў раней яму аддадзеныя. Абяцаў перакласці. Хоць цяпер вершы друкуюць, як некалі красворды. А ў выданнях цэнтраў нацыянальных паэтаў і слухаць, і нюхаць не хочуць. Парадкаваў свой зборнік вершаў. Званіў Дранько-Майсюку, ён абяцае хутка прачытаць. Ягонаму густу я веру, гэта тонкая душа, тонкая натура.

*13 лютага, серада*

З раніцы ў Краўчанкі з Карласам і Аляксандрам Іванавічам па пытаннях ПЭН-цэнтра. Краўчанка іграе дэмакрата, па-беларуску гаворыць нават крыху з вымаўленнем да разбою ў беларускім правапісе. Думае стварыць фільм пра беларусаў ў свеце, але зноў жа з размежаваннем у палітычных поглядах. Карлас раіў яму рабіць усе колеры. Можа падключыцца наш ПЭН, у стварэнні фільма ўдзел прыме. На развітанне перадаў прывітанне ад Юлі Бураўкінай. Пытаю: «Якая яна?» Адказвае: «Імклівая». Цікавы эпітэт да жонкі функцыянера, хоць і паэта. Занёс у «Юнацтва» зборнік вясёлых вершаў «Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне»[1].

*14 лютага, чацвер*

Сёння дзень нараджэння Мішы Стральцова. Хай доўжыцца памяць яго! Праца. Беганіна. Званіў Шклярэўскі. Трэба падпісаць ліст у абарону асецінаў. Ігар не разумее, дый яму не дакажаш, што гэта ўсё па адной схеме раскол рэспублік, якія выказалі непаслушэнства імперыі і імператару-генсеку [Гарбачову], па схеме КДБ і партыі злачынцаў камерцыйнай партыі Савсаюза.

*15 лютага, пятніца*

Ілона пазваніла, што будуць ксціць Дамінічку, прыйдзе дамоў святар. З дзяўчатамі [у рэдакцыі] не толькі чаем адзначылі адпачынак мой.

*16 лютага, субота*

Валянцін Ждановіч прынёс фота ўнучачкі і нас з ёй. Прачытаў мне матэрыял, які пойдзе ў «Маладосці» пра разбой у Траецкім прадмесці, калі да гэтага часу прэзідэнт не выдасць чарговы ўказ пра зноў цэнзуру. У «Народнай газеце» матэрыял Галіны Нужковай[2] пра Палессе і радыяцыю. Цяпер зразумела, навошта асушалі так. Валянцін курыць, глядзіць

[1] Барадулін Р. Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. Мінск: «Юнацтва». 1996.

[2] Нужкова Галіна Барысаўна, беларуская журналістка, былы рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

у вакно і моліцца, каб болей снегу напала, можа, хоць трохі Чарнобыль згоніць вясной разводдзе. Пад Оршай, казалі яму геолагі, шмат нафты.

*17 лютага, нядзеля*

Цэлы дзень чытаў Давіда Сімановіча рукапіс, усё-ткі вялікую дозу слоў у рыфму цяжка пераварыць. Напісаў невялічкае слова пра Давіда для кнігі[1] ягонай да 60-годдзя яго.

*18 лютага, панядзелак*

Утрасаў свой зборнік, рабіць другі экземпляр для мастака. Занёс Лявону Дранько-Майсюку. Перад ад'ездам хоць разарвіся.

*19 лютага, аўторак*

Лявон прачытаў зборнік. Сказаў, што наогул кніга ёсць. Дзякуй яму за ўвагу! Раптоўна схапіла галаву і так, што не змог ехаць ў Дубулты.

*20 лютага, серада*

Зборы ў дарогу. Адчуваю, што і сёння не змагу ехаць. Баюся нечага, і галава разломваецца. Так і не паехаў. Бедны [Яфім] Лапушын, ён гэтулькі намаганняў прыклаў, каб здабыць мне білет.

*21 лютага, чацвер*

Стан той жа, але ехаць трэба, як вядомы анекдот кажа. Зноў-такі Яфім Сямёнавіч вызваніў білет, а Радзік забраў, аддасць на вакзале. Будзе праводзіць мяне. Як хораша, калі ёсць чулая маладая душа. Не гэтак самотна на свеце.

*22 лютага, пятніца*

Дзень добры, *Рыга!* На душы цёпла. Вяртанне да нейкіх вытокаў, вяртанне трывожнае і небезнадзейнае. Добра, што ёсць Прыбалтыка, хоць сцёртая, але манета Еўропы, якая прадзірае кішэні ўсім крамлёўскім «імператарам».

*23 лютага, субота*

Трохі пахадзіў каля мора. Паглядзеў, што ў крамах ёсць. Як і ва ўсёй імперыі зла. Званіў Васілю, запрашаў яго сюды адпачыць, папісаць. Пытаўся, як мне пазваніць, каб павіншаваць з днём нараджэння. Я адказаў, што пазваню сам і паслухаю добрыя словы з адпаведнай нагоды. Дачытваю

---

[1] Гл.: Радасць бліскавіцы (аўтапераклад з рус., 1991–1992) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 98.

«Шляхціца Завальню»[1]. Даходжу да месца: «Так заўсёды ў нас, — сказаў пан Латышэвіч, — за Дзвіною ва Ушачах сабраліся на раду. ... Але досыць ужо пра гэта...» І тут абрываецца думка пра маю Вушачу. Можа, гэта распавяданне пра шумныя ўшацкія сеймікі. Але нічога болей. Шкада.

*24 лютага, нядзеля*

Вось мне і 56! Дзякуй Богу за дазвол затрымацца на зямлі гэтай грэшнай маёй душы! Пахадзіў узмор'ем. Атрымаў тэлеграмы з Мінска. Дзякуй усім, хто ўспомніў. Падумаў, можна дажыць і да таго, што ніхто і не ўспомніць, і будзеш у свой дзень самотны сядзець. З кожным годам мацней і мацней да сэрца горнецца самота. Самая верная з усіх жанчын на свеце. Самая сталая, самая ўчэпістая.

Дачытаў «Шляхціца Завальню». Якая любая сэрцу полацкаму ідылія, колькі цеплыні! Мова перакладу сакавітая, хатняя, наская. Там-сям рознарэдактарскія агрэхі. Як мала ў нас літаратуры і арыгінальнай, і перакладной з добрай мовай. На чым жа можа навучыцца моладзь? Яна і так чужэе, халаднее сэрцам да ўсяго крывіцкага. За малым выключэннем. Ідзе агульны працэс атабунення, дзе ніякай добрай мовы наогул не трэба. Паасобныя словы, гукі — і дастаткова. Партыя злачынцаў і КДБ рэзалі пад корань, ведалі, чаго дабіваюцца, — сярэднеарыфметычнага савецкага чалавека, якому ўсё да суцэльнай электрыфікацыі і матчына, і сраччына.

*25 лютага, панядзелак*

Пачаў патроху перакладаць «Ave, sol!» [Я. Райніса]. Дужа хочацца засесці за паганскую паэму. Нешта мяне стрымлівае, ці няўпэўненасць, ці неакрэсленасць. А трэба нахабства і ўпартасць. Юры Аляксееў прыслаў тэлеграму. Яшчэ адна чыстая, глыбокая душа. Зноў-такі рускамоўны паэт. Нашыя маладыя ўсё неяк не могуць падскочыць, як некалі казалі дома, вышэй свайго азадку. Азадак дужа цяжкі.

*26 лютага, аўторак*

У Рызе на радыё запісаўся са зваротам да братоў-беларусаў, каб мы падтрымалі пры апытанні і незалежнасць Латвіі. Вядома, вынікаў ніякіх не будзе. Гэта ў асноўным цёмная, спітая, сляпая маса, русскоязычное население. Мне там жа на радыё расказалі, што латышы прапанавалі маім

[1] Баршчэўскі Я. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Мінск, 1990. Пер. з пол. М. Хаўстовіча. *Баршчэўскі* Ян (1794–1851), польскі пісьменнік, беларускамоўны паэт, фалькларыст, выдавец. Першае выданне твора здзейснена ў 4-х т. 1844–1846 гг. *Хаўстовіч* Мікола (Мікалай Валянцінавіч; н. 1959), беларускі філолаг. У 1988–1991 гг. аспірант БДУ. Доктар філалагічных навук (2003).

землячкам беларускія школы, кнігарні, дык гэтая зрусіфікаваная быдла закрычала: «Гэта зноў, як у Беларусі. Не хочам!» Трэба гарэлка і закусь, а болей нічога. Каля Дома ўрада Латвіі мяхі з пяском, блокі. На адной пліце: «Пасячэм Алксніса[1] на дровы». Alksnis — вольха, alkšņu malka — альховыя дровы. Перад радыё таксама блокі, у калідорах міліцыя з аўтаматамі, мяхі з пяском. $^2/_3$ міліцыі Латвіі дало прысягу ўраду Латвіі, рэшта — блудныя сабакі. Усё нешта нагадвае кадры з фільмаў пра захоп бальшавікамі Смольнага. З той розніцай, што латышы хочуць вярнуць сваю волю і незалежнасць, вярнуць належнае ім ад Бога.

Заходзілі ў выдавецтва з Віктарам [Ліўземніекам] наконт выдання двухмоўнага Максіма Багдановіча. Былі ў Саюзе пісьменнікаў. Скрозь нейкае запусценне, няўпэўненасць. Каля ўцэненых крам чэргі большыя, чым некалі ў Маўзалей да «кузнечика» ў Маскве.

Праграма «Час» паказвала прыезд у Мінск «імператара» Міхаіла [Гарбачова]. Рабочы Вася на Трактарным сказаў: «Калі паціснуў руку прэзідэнту, забыўся ўсе пытанні». Нацыя халуёў, народ селекцыянаваны вялікадзяржаўным шавінізмам і яго прадаўжальнікам — ленінізмам-сталінізмам-кэдэбізмам. Паказвалі, як наш [...] дземянцей ускладвае разам з «імператарам» вянок у ножкі Вову, якога БНФ абразіў.

*27 лютага, серада*

Патроху перакладаю «Ave, sol!». Напісаў «Слухаючы мора»[2], нешта і самому незразумелае. Званіў Васілю, ён расказваў, як нашыя лізаср.кі лістам слаліся перад «імператарам», шчырэў Іван Гаўрылавіч [Чыгрынаў]; абавязкова прысутнічаў, бо яшчэ з запольскіх часоў любіць начальства, мудры маўчаннем у рашучыя хвіліны Б. Кажу Васілю, што горача. І ён мне дае параду абгарнуць газетамі і ўвязаць батарэі. Па тэле «імператару» падносяць хлеб-соль у пакутнай Ветцы, нават не дакрануўся — баіцца радыяцыі.

*28 лютага, чацвер*

У Віктара латышскі стралок[3] Баранаўскас. Таварыства стралкоў моцнае. Ніхто — ні паляўнічыя, ні стралкі зброю не здаець. У выпадку чаго сяло перастае даваць гораду ежу. На раёне ўсе згуртаваныя, нацыянальна свядомыя. Усе валодаюць мовай. Калі якія непераліўкі — грамадзянская.

---

[1] Алксніс Віктар Імантавіч (н. 1950), народны дэпутат СССР (1989–1991).

[2] Гл.: Слухаючы мора: Хваля-паэма (27.02.91) // Міласэрнасць плахі. С. 29. Паэма прысвечана Л. Дранько-Майсюку.

[3] Назва, якая засталася ад вайскоўцаў латышскіх фарміраванняў расійскай арміі (з 1915), удзельнікаў Першай сусветнай вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. і Грамадзянскай вайны на баку бальшавікоў. Армія Савецкай Латвіі расфарміравана ў 1920 г. Гл.: Латышскія стралкі (11.03.79) // Дзённікі і запісы. Вып. 3. 1979–1982. Мінск, 2016. С. 23.

Гаварыў з Янісам Рокпелнісам. Ён на барыкадах быў увесь час, адчуў, што зусім не страшна памерці, калі за Радзіму сапраўды. Знікае звыклая боязь, зусім іншы душэўны стан. Пасля ў мяне пытаецца, што беларусы за народ, ні 37-мы, ні 48-мы, ні нават Чарнобыль не вывеў з пакоры. Асабліва яго ўразіла рэакцыя на прыезд «імператара». А што маю адказаць? Што вынішчылі лепшых, што забрудзілі расійскай шушерай, што дужа аддадзеныя партыі злачынцаў.

*1 сакавіка, пятніца*

І яшчэ адзін сакавік сустракаю ў любай сэрцу Латвіі. Смяецца мора, як у казцы. Лебедзі лятуць над самай галавой, хоць папрасі, каб пер'іну скінулі. Здаецца, што гэта музычныя стрэлы зрабіліся крылатымі і пяюць над морам. А мне на душу цісне нейкі цяжар нязбытнасці. Толькі зусім да азвярэння нешта робячы, забываюся на сум. Але ён, хітры, штохвіліны пра сябе нагадвае. З вялікай асалодай чытаю казкі.

*2 сакавіка, субота*

З Кнутам Скуеніекам прайшлі ўздоўж мора. Расказваў пра справы ў Балтыі. У Латвіі партыя злачынцаў поўнасцю праваліласяя. Хіба на штыках і танках вяртаць. Кнут папеўку расказаў:

Под горою пашет трактор,
За горой горит реактор.
Если б шведы не узнали,
Мы б и дальше так пахали.

Дзень нараджэння ў Віктара Ліўземніека. Прыехалі і студэнцкія сябры ягоныя. Кожны падарунак прынёс, сціплы, з густам. Кнігу гасцей, дзе Віктар, калі я адыходзіў, дазволіў мне першаму напісаць колькі беларускіх слоў зычэння. Наогул, латышы народ загадкавы, яны як бурштын — агонь унутры.

*3 сакавіка, нядзеля*

Б'юся над «Ave, sol!». Агульнаватая рэч, нешта кепскім Якубам Коласам дыхнула. Да вялікага Янкі Купалы далёка многім так званым вялікім у іншых народаў. Усё нашая сціпласць беларуская. Паглядзеў фільм дакументальны пра «імператара». Любімы музычны інструмент маленства — балалайка. Адсюль шмат чаго зразумела. Дый яшчэ ў універсітэт прыйшоў з ордэнам, гэтак да нас некалі Жэня Клімаў[1] прыйшоў (сынок партфункцыянера) з партбілетам і паўтараў: «Дэмакратыяй трэба ўмела кіраваць».

[1] Клімаў Яўген, аднакурснік.

*4 сакавіка, панядзелак*

Кепска мне. Увесь час нейкі адчай са мною. Нідзе няма мне апоры, нідзе спакою душы маёй няма. Зайшоў да Ліўземніека. Ён з перапою са сваіх імянін. Шчаслівы, як малое купаючыся ў начоўках, такая лагода на твары разліта, вочы лагодныя гэтакія. У кожнага сваё шчасце, сваё гора. Толькі кожны ўспрымае іх па-свойму, адпаведна характару, а характар зоры даюць. Віктар паглядзеў на мяне і сцепнуўся: вочы мае нагадалі яму маю маму. Мама і Ліўземніека і прымала, і вельмавала. На ўсіх хапала ў яе цеплыні і ласкі. Бог пасылае маму чалавеку, каб пасля толькі па ёй і тужыў.

*5 сакавіка, аўторак*

Падганяю да канца «Ave, sol!». Спякло, як яблык у духоўцы, мяне гэтае сонца. Усё-ткі занудна. Нямецкі характар у латышоў моцна праяўляецца.

[…] Пакараў мяне Бог, што не пачуў апошніх слоў маміных, усё гарэлка неяк не выпускала сваімі чарамі. Самае страшнае, што і паміраць буду неспакойна, бо калі з дзяцей толку няма, які ж спакой можа ў душы быць?

Патроху пішу паэму, назву, відаць, «Застолле», а падзагаловак — «Паганская паэма ценяў».

*Сакавіцкі снег*

Сакавіцкі сціплы снег
Хіліцца-ва́ліцца,
Грукаецца на начлег
Ватнымі пальцамі.

Пальцы мокрыя зусім,
Трохі азяблыя.
І здароўкаюцца з ім
Голыя яблыні.

Ім пачулася, што цвет
Роспаччу ўспыхвае.
Чорны след.
Белы свет.
Рэха ціхае.

*6 сакавіка, серада*

Нарэшце скончыў перакладаць «Ave, sol!». Заварушыліся мазгі і на сваю паэму. Пазваніў Васілю. У Мінску сачылі за апытаннем у Латвіі. Уразіла Латгалія, Даўгаўпілс. Званю дадому — нікога, дазваніўся да Ілоны. […] На мне ж цяпер і ўнучачка яшчэ. Адна думка пра яе салодзіць сэрца, душу грэе.

Уночы глядзеў перадачу пра Ясеніна, чыталі вершы Ясеніна паэты, маладыя яшчэ Бэла[1], Яўген[2], Андрэй [Вазнясенскі]. Горай за ўсіх чытаў Яўген, пасля яго Андрэй, бо і чытаючы Ясеніна, коўдру на сябе цягнуць. Уразіў калючы дрот чарнавікоў Ясеніна. Моцна закрэсленыя словы пасярэдзіне, а літары па абодва бакі лініі — і поўнае амаль падабенства на калючы дрот, на церні. Мама мая дужа любіла слухаць Ясеніна. На паэзію ў яе было незвычайнае чуццё, ніколі не памылялася.

*7 сакавіка, чацвер*

Званіў у Мінск. [...] Тут заўважыў усю небяспеку прыёму ў Саюз пісьменнікаў шмат жанчын. Пакуль маладыя — каб што. А пад старасць — гэта нейкая страшэнная жамяра, агрэсіўная, смешная. Вясковыя жанчыны старыя прыгожыя, бо яны натуральныя, старэюць па законах прыроды, зямлі. У іх, калі Бог дае дажыць, усе чатыры паравіны года вабныя. А ў так званых паэтэс і празаічак усё выламанае, манернае, хадульнае, старасць іхняя нейкая сінтэтычна-клоунская. Хай мяне асуджаюць за гэтакія ацэнкі, ды я люблю ўсё натуральнае. Дый, відаць, пад старасць вока кладзецца болей на маладых, адсюль і старэчая буркліваcць. Лепей на сябе ў люстэрка глянуць[3].

*8 сакавіка, пятніца*

На людзях вечна сорамна за нашых драмлюг-беларусаў. Медсястра робіць мне ўкол і кажа, як сябравала год 20 з адной беларускай, а потым муж у гасцях спытаўся (яны аднекуль з-пад Гародні, асіміляваныя лёгка, як бальшына заходнікаў): «Чаму вы сваю мову не шануеце?» Адказалі: «Навошта беларуская, руская ёсць». З тога часу яны і не ходзяць у госці і нават не вітаюцца.

Чытаю беларускія народныя казкі без непісьменнай апрацоўкі непісьменнага Якімовіча[4]. Гэта чытаць трэба кожнаму беларусу. І характар, і мова — усё крынічна крывіцкае.

---

[1] Ахмадуліна Бэла (Ізабела) Ахатаўна (1937–2010), руская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), прэміі «Трыумф» (1994), Пушкінскай прэміі (1994), прэміі Прэзідэнта РФ (1998), Дзяржаўнай прэміі РФ (2004).

[2] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (1933–2017), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

[3] Гл.: «Са страхам падыходжу да люстэрка...» (4.03.91, Дубулты) // Міласэрнасць плахі. С. 82.

[4] Якімовіч Алесь (Аляксандр Іванавіч; 1904–1979), беларускі пісьменнік, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974).

*9 сакавіка, субота*

У Рыгу на пасяджэнне ПЭН-клуба. У зале з камінам, адрэстаўраваны купецкі дом. Звычайная гаварыльня. З Літвы быў Карнеліус Плацяліс, сапраўды адукаваны ліцьвяк. З Масквы — [...] апошняй хвалі Святлана Раманенка. Дамовіліся сустрэцца праз год на адным з астравоў Даўгавы. Прыехаў. Пазваніў дамоў — хоць радасная навіна: Домначку пераксцілі. Хай Бог яе засланяе ад ліха. Званю пазней, кажуць, што забілі Анатоля Грачанікава. Вечная яму памяць. Добры быў чалавек, паэт. Кола і маладзейшых сяброў, таварышаў усё вузей і вузей. Аж халадок прабівае.

*10 сакавіка, нядзеля*

Чытаю казкі. З іх трэба пачынаць вучыць мову, а не з нашых калькаваных газет. Не выходзіць з галавы Грачанікаў. Часцей і часцей званочкі напаміну. І ўся нікчэмнасць нашых пакутаў і жарсцей нашых, і ўся вабнасць жыцця, прагнасць жыць — усё ў адно зліваецца. Адзінае, чым Бог надзяліў чалавека, — забыўлівасцю, яна і трымае яго, і гуляе ім, бо каб помніў усё, звар’яцеў бы, і колькі дзён не пражыўшы. У казках жывеш нейкім іншым жыццём.

*11 сакавіка, панядзелак*

Сазваніўся з Мінскам. Падступаюся да паэмы. Нешта баюся. Нейкі страх і вялікая стома трымаюць пяро. Па тэле — адзіная інфармацыя ў мяне — бэсцяць Ельцына. Савецкая Атлантыда паволі ідзе на дно, але пускае дужа вялікія бурбалкі. Жывем у 4-м свеце, у нейкім ірэальным. Як падумаеш пра Беларусь — апору партакратыі, ехаць дамоў не хочацца.

*12 сакавіка, аўторак*

Паслаў тэлеграму сям’і Грачанікава. Званіў Васілю. Казаў, што хавалі Анатоля, што «ЛіМ» шырока даў стварэнне сацыял-дэмакратычнай партыі, не тое, як давалі пра з’езд БНФ. Партыі крымінальнікаў выгодна мець як мага болей кішаньковых партый, каб зводзіць чубы, абы не прызнаць БНФ.

Узяўся за пераклад «Saules gadi»[1]. Віктар ад’язджаў у Рыгу, дапамог з уступам разабрацца.

*13 сакавіка, серада*

Дзень званкоў у Мінск. Да ўсіх дазваніўся. Мае каталі Домначку, запрэгшы ў калясачку ката свайго рыжага. Цяплее на душы, калі думаю пра ўнучку. Незразумелае пачуццё пяшчоты, трывогі, боязі за маленькае

[1] Зборнік вершаў Я. Райніса «Сонечныя гады».

жыццё перапаўняе ўсяго. Мудрае жыццё трымае чалавека ў абдымках прывіднага шчасця і пасмейваецца. Дзякуй Богу за ўсё, што ні пашле!

*14 сакавіка, чацвер*

Перакладаю «Saules gadi». З бляскам напісаная рэч. І маленства, і асэнсаванне жыцця, і багацейшая латышская мова. Званіў у Мінск. Усё ціха. Па тэле немагчыма глядзець агалцела-базарную прапаганду за савецкую Атлантыду. Уночы была цікавая праграма Рыгі пра доблесных кэдэбістаў, ад пачатку і да канца ўсе кіраўнікі — мяснікі, садысты, падонкі.

* * *

Пакуль раўную, датуль кахаю,
А я раўную, пакуль жыву.
Няхай адчаю пятля глухая
Маю ўсівелую галаву
Даўно чакае,
Хай напінае
Лёс гнеўны ростані цеціву,
Пакуль раўную, датуль кахаю,
А я кахаю, пакуль жыву.
Няхай знявер'я каса тупая
Наіўнай веры косіць траву.
Пакуль раўную, датуль кахаю,
Цябе раўную, пакуль жыву.

*15 сакавіка, пятніца*

Званкі ў Мінск. Перакладаю. Як паглядзіш праграму «Время», аж моташна робіцца ад гебельсаўска-савецкай прапаганды. У Латвіі, прынамсі, усё спакойна, а паглядзіш на блакітнае балота — жахаюць.

*16 сакавіка, субота*

Прыязджаў Віктар. Дапамог мне прачытаць некалькі раздзелаў. Цяпер да ад'езду трэба перакласці «Saules gadi» ўсё. А ў Мінску ўсё закруціцца, заверціцца — не дыхнеш.

*17 сакавіка, нядзеля*

Здаецца, каб не сурочыць, зрушылася паэма з месца.

Пра камічныя выпадкі ў савецкай Атлантыдзе расказвалі Бацьвіннікі[1]. Людміла Ш. (немка па маці) была каханкай у Чарненкі. Цікава, хто

[1] Батвіннік Марат Барысавіч (1928–2008), беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1970). У 1977–1992 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ.

што з кім рабіў? Вучылі страляць з кулямёта, ездзіла ў Афганістан і ўжо была падрыхтавалася атрымаць зорку Героя імперыі. Ці смерць [... Чарненкі], ці што перашкодзіла. Не далі. Фарс.

*18 сакавіка, панядзелак*

Падганяю паэму і «Saules gadi». Усё ідзе як сучка баразной, — так у нас некалі казалі. Тэлевізар немагчыма глядзець, ад слова «рэферэндум» як ад марской хваробы цягне як ката на варацакі.

* * *

*[N.]*

Павеяла журбой,
Як туманом з нізіны.
Ці выдыхнуў прыбой:
«Мой любы... Мой адзіны...» —
Чакануюю ману,
Жаданую такую.

Не веру туману,
Але за ім цікую.

Магчыма, ў тумане,
Рахманым і ружовым,
Няўрымсцілася мне
Тваім паверыць словам.

Ці гэта снежкай ты
Ў мой смутак гарбаспінны
Шпурнула з нематы:
«Мой любы... Мой адзіны...»

Адыдуць туманы,
Растануць снежак кпіны,
Паўтораць мне званы:
«Мой любы... Мой адзіны...»

*19 сакавіка, аўторак*

Меўся прыехаць з Рыгі Віктар, каб папрацаваць над перакладамі з Максіма Багдановіча. Ён з Веянам робіць тысячарадковую двухмоўную кнігу нашага геніяльнага Максіма.

Цяжка на душы. Нейкае адчуванне благое. Чым усё скончыцца калі? Падыйшоў Яніс Рокпелніс — разумная галава — і выказваў спачуванне

ў сувязі з такім галасаваннем Беларусі[1]. А днём Гунар Цыруліс пытаўся, што гэта ў нас творыцца, чаму Беларусь ставяць прыбалтам у прыклад паслушэнства імперыі? Жах!

*Мікола Аўрамчык*

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Мы не ласыя на пернікі,
Хоць пакпіў аднойчы Броўка,
Што з табою мы — супернікі
На прэстыжныя вандроўкі.
Пад чыімі толькі сцягамі
Не ўздымалі па аўралу
Нас заместа сілы цяглавай
Для вясельных генералаў?
Ад Амура да Бярэзіны,
Ад Нарыльска і да Кушкі
У натуршчыцы Паэзіі
Мы былі на пабягушках.

Золата ў пяску з каменнямі,
Як зярняты — у палове.
Вычарпаеш рэчку жменямі —
Залатую рыбку зловіш.
Слынных пляжаў не вытоптвалі
Мы з табою галышамі.
Я таптухай дапатопнаю
Акунёў лавіў з яршамі.
Смаката яна найпершая
Для трайной рыбацкай юшкі.
(Іншы раз бывалі вершамі
Без засолкі і засушкі,
Калі сам не быў рассеяны,
Не трапляў якімсьці цудам,
Як калісь Андрысу Веяну
На кручок ягонай вуды).

Ты ж як сын зямлі азёрнае,
Вывучаны землякамі,
Закідаеш сеткі зорныя,
Ловіш вершы касякамі.
Не ў пагоні за рамантыкай,

[1] Рэферэндум аб захаванні СССР быў падтрыманы ў Беларусі большасцю галасоў.

А таксама па аўралу,
Ты багаты ўлоў з Атлантыкі
Выняў паэтычным тралам.

Загартаваныя ў полымі,
Пешчаныя ў маладосці,
Выраслі мы не кволымі,
Не таілі ў сэрцах злосці.
Хоць падчас і спатыкаліся
Ці ў Нурэку, ці на БАМе,
Але мы не сутыкаліся
Анідзе з табою лбамі[1].

*19 сакавіка 1991, Ялта*

*20 сакавіка, серада*

Дазваніўся да Васіля. З'езд БНФ будзе 23–24-га. Васіль будзе выступаць. Улез у паэму, як у дрыгву, ці выберуся на бераг.

*21 сакавіка, чацвер*

Званіў у Мінск. Усё быццам добра. Калываюся ў паэме. Іншы раз здаецца, што ўсё выходзіць, іншы раз думаеш, што ўжо нічога не можаш. Гэтак і пражывем жыццё, сумняваючыся, ці варта табе было пісаць, ці не. Асаблівы адчай на закоце веку твайго. Няўжо людзі ёсць, якім усё зразумела, яны вераць, што ўсё рабілі і робяць тое і так, як трэба?

*22 сакавіка, пятніца*

Па дажджу хадзіў на тэлеграф даваць тэлеграму з'езду БНФ. Дазваніўся да Лявона Дранько-Майсюка.

*23 сакавіка, субота*

Званіў Васілю. Ён на з'ездзе, дома адказала Ірына Міхайлаўна. Ішоў дробны град. Хутка не стала. Мора перад градам нахмурылася.

*24 сакавіка, нядзеля*

Званіў Васілю. З'езд БНФ прайшоў добра. Мяне зноў абралі ў БНФ. Я дужа рад. Згаджуся БНФ. Ні ў якую партыю не пайду, а пакуль БНФ у няміласці ўлад, ганаруся, што я член БНФ, член сойма. Абрэвіятура блізка да БНР.

[1] Надпіс на кнізе М. Аўрамчыка «Анкета» (Мінск, 1990).

*25 сакавіка, панядзелак*

Сёння Рыгораў дзень. На Рыгора зіма ідзе ў мора (рэкі йдуць у мора), а мора дужа сцюдзёнае, люты вецер з мора. На свой дзень зрабіў сабе падарунак — начорна закончыў паэму «Аблачына-самабранка», а таксама пераклад «Saules gadi», якраз беларускі раздзел «Даўгінаўскае жыццё». Званіў Ілоне. […]

*26 сакавіка, аўторак*

Сёння мокры снег. Як «імператарскія» ўказы, нетрывалы. Баліць галава. Нічога мне не дапамагае. Толькі ўшацкі рэцэпт: адкруціць галаву і ў азадак заторкнуць.

*27 сакавіка, серада*

Хаджу на пошту. Здаю рукапісы, кнігі, адзежу — цяжка стала насіць на руках. Купіў Дамінічцы дзве цацкі пацешныя. Які гэта салодкі клопат пра ўнукаў! Прыехаў на колькі дзён Юры Туулік. Святлей стала.

*28 сакавіка, чацвер*

Перапісваю начыста паэму. І падабаецца падчас нешта, і ўрэшце ўсё не падабаецца.

*29 сакавіка, пятніца*

Перапісаў. Дай бог, каб добра была ўспрынята. У мяне ўжо мазгі ад яе ў ствол пайшлі, як некалі казалі ў нас дома. Быў у Тууліка. Мастачка яму падарыла карціну. Андрыс [Веян] з Вэлтай сядзелі ў мяне за «Зуброўкай». Андрыс чытаў пераклады Багдановіча. Добрая паэзія і ў перакладзе гучыць. Асабліва «Пагоня».

*30 сакавіка, субота*

Апошнія зборы. Доўга хадзіў ля мора. Кожны раз баішся, што гэта апошні. Не ўяўляю сябе без Прыбалтыкі. Хоць трошкі паветра яе глынуць. Вечарам сядзелі зноў з Веянам. Ужо настае час успамінаў, падлікаў, хто са знаёмых жывы, каму колькі.

*31 сакавіка, нядзеля*

Вялічка сёння. Мяне ж усё-ткі ксціў ксёндз. Самы светлы дзень Вялічка ў душы маёй. А стаў пад душам і прыйшлі ў галаву зусім празаічныя радкі: «Як казаў Антон Бялевіч у застольныя часы…» [у дзённіку]. На вуліцы сустрэў Яніса Рокпелніса. Ад'язджае ў Рыгу. Павіншавалі адзін аднаго з Вялічкам. Яніс кінуў лозунг: «Сустрэнемся пасля вайны». Глядзеў па тэле прамую трансляцыю (Латвія падключана, відаць, да інтэрбачання)

з Ватыкана. Урачыста, свята, не савецкія сабачыя маніфестацыі і мітынгі. Папа Павел II[1] у прывітанні звярнуўся і да нас: «Дарагія беларусы! Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!» Якая асалода чуць беларускае слова з Вечнага горада, святога места. А за вакном Балтыка махае сваім сінехалодным падалом у карунках белапеных хваляў. Сёння раніцай карміў чаек і двух варон хлебам. І ў іх жа павінен быць Вялікдзень!

* * *

*[N.]*

Прэч назолу-самоту ганю.
Расстаюся з тваімі лістамі,
Што прыносілі мне цеплыню,
Што ў душы яснатой прарасталі.

Толькі ты, толькі ты, толькі ты
Можаш высветліць цемру расстання.
Адрасата на свеце не стане,
А твае застануцца лісты

Зелянець і шумець пра вясну
На пакручаным дрэве ўспаміну.
Свет я са шкадаваннем пакіну,
Што сустрэў гэтак позна
Адну…

*1 красавіка, панядзелак*

Ад'езд. Снег. У латышоў гэта завецца жаўранкавай мяцеліцай, г. зн. прыляцелі птушкі, жаўрук. Ехаў як у філіяле пекла. Гэтак душна. У буфеце гола.

*2 красавіка, аўторак*

А 3-й дома. На таксі новы тарыф — 40 кап. км + 5 % Раі на каралі.

На лятучку. Галаўны боль неймаверны.

3 красавіка, серада

Але [Смурага] на перадрук.

Прыходзіў Карлас. Далі колькі пакояў для ПЭНа.

Паўсюль шалёныя цэны і нічога няма.

---

[1] Ян Павел II (свецк. Вайтыла Кароль Юзаф; 1920–2005), Папа Рымскі (1978–2005).

*4 красавіка, чацвер*

Карлас. Ала перадрукавала. Пачытаў — і не падабаецца нічога. Здаецца, не я пісаў, а нехта іншы. Элькінду грошы на білет у Маскву. Выходзіць, мяне выбралі на з'езд.

Нарэшце рабклас выйшаў на дэманстрацыю. Калі смажаны певень дзеўбануў у зад. Звычайна так званы рабочы клас — апора партыі злачынцаў і русіфікацыі. Супроць нацыянальнага ўсяго, як цюцька, цкавалі. «Імператар» на сустрэчы з рабкласам. Віталі. Кляліся. А як эканамічна адчулі, дык трохі ачухаліся.

*5 красавіка, пятніца*

Да Цвяткова на відэацэнтр. Фільм пра Караткевіча. Партрэт у партрэтах, здаецца, атрымаўся. Да Дранько-Майсюка занёс паэму.

*6 красавіка, субота*

Прывезлі вечарам ўчора Домначку. Поўна хата радасці, беспарадку. Жывы званочак у наступнасць. Хай звініць!

*7 красавіка, нядзеля*

Хрыстос васкрос! Самае светлае свята зямлі, дзень добры! Хай уваскрасае душа. Хай уваскрасае нашая крывіцкая культура, наш дух крывіцкі. Першы мой званок Васілю Быкаву. Пахрыстосаваліся. Беражы яго Гоcпад! У святы дзень мусіў пісаць эпіграмы на малдаван у «Братэрства». Праца ёсць праца.

*8 красавіка, панядзелак*

Праца. Бегатня. Званіў Хелемскаму[1].

*9 красавіка, аўторак*

Праца. Сустрэліся з Лявонам Дранько-Майсюком, пытанні па зборніку майму здымалі. Які ён адукаваны, тонкі, таленавіты паэт, чалавек, рэдактар. Паэму ён успрыняў добра. Я дужа шчаслівы. Бо з кожным годам больш знявер'я і меней сіл, а галавой усё разумееш. Хочацца ж, каб не звесці ўсё ў свіныя галасы.

*10 красавіка, серада*

Праца з Лявонам, зняў усе пытанні па рукапісу. Дзякуй яму, таленавіта-маладому шчыруну нашай культуры. Быў на мітынгу. Нарэшце да рабочых дайшло, што імперыя — яма з крутымі берагамі, яна дужа

[1] Хелемскі Якаў Аляксандравіч (1914–2003), рускі паэт, празаік, перакладчык.

прадонная. Нарэшце сталі кідаць кліч: «Жыве Беларусь!», і плошча ўся падхоплівае. Хоць бяда прымусіла і словы беларускія ўспомніць.

*12 красавіка, пятніца*

Прымалі па лініі ПЭНа славенца Драга Янчара[1] ў СП.

Званіў Васілю.

*13 красавіка, субота*

*Ушача!* [...] Цікава працуе КДБ на раённыя масы, п'яны Пятро крычаў, што Ельцын — яўрэй, і імя [таксама] (а Барыс Гадуноў[2]?), і нават па-бацьку. Сумна. Можа, адзін дамавік тут ахоўвае ўсё. Можа, толькі ён робіць утульнасць, бо ён захоўвае традыцыі, трымае дух дома.

*14 красавіка, нядзеля*

На магілку да мамы[3], да бабы Маланні Несцераўны[4]. На возера. На ўшацкі лёнзавод прывезлі радыеактыўны лён. Палілі, закопвалі.

*15 красавіка, панядзелак*

Ад'езд. Яшчэ раз на магілку Маланні Несцераўны на лёнзаводзе. Дырэктар лёнзавода сказаў, што радыеактыўны лён перапрацавалі і адаслалі. Не адзін наш лёнзавод, толькі адыходы спалілі і закапалі.

*16 красавіка, аўторак*

Праца. Да Радзіка. Новыя вершы і пераклады з Максіма Багдановіча цудоўныя. Успомніў яму, як пісаў адзін стары пра ігру Віктара Тарасава[5]: «Дужа падобны. Толькі адна дэталь — у імператара ніколі не рыпелі боты». Так заўсёды рыпіць, калі хочам нешта ўзнавіць.

*17 красавіка, серада*

Праца. На выставу «Чарнобыльская навала». Уражае фільм, кадры з зарослымі ходнікамі. І тут марадзёры ўсё разрабавалі, развярнулі. Чалавецтва непапраўнае.

---

[1] Янчар Драга (н. 1948), славенскі пісьменнік.

[2] Барыс Гадуноў (каля 1552–1605), рускі цар (з 1598).

[3] Гл.: Адказ рэху (27.03.91, Дубулты — 10.07.99) // Халодная памяць вады. Мінск, 2010. С. 126.

[4] Гайко М. Н. (1887–1947), бабуля па маме.

[5] Тарасаў Віктар Паўлавіч (1934–2006), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1967). Народны артыст СССР (1982). У 1957 г. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1966).

*18 красавіка, чацвер*

У Беларускай нацыянальнай гімназіі № 189 уручэнне лаўрэацкіх знакаў «Вясёлкі». Самая высокая ўзнагарода, бо не спалітазаваная. І медаль найрэдкі. Там жа ў школе выстава «Чарнобыль вачыма дзяцей». Цікава, што дзеці з так званых чыстых раёнаў малююць ўсё ў змрочных, чорных фарбах, а чарнобыльцы наадварот — у светлых. Мара не знішчаецца ні вінтоўкай, ні атамам.

*19 красавіка, пятніца*

Дапісаў выступленне ў ПЭН-клубе ў Парыжы[1]. Аддаў Ірыне Ідэльчык[2] на пераклад на ангельскую мову. У нас магчымы лозунг: «Пад сцягам […] Сакалова, пад кіраўніцтвам мардара Малафеева — уперад да валютных вышыняў *кама*ізму».

*20 красавіка, субота*

Да Навума.

*21 красавіка, нядзеля*

Правіў і рыхтаваў латышоў на машынку. Што кажу, латышоў, Яна Райніса.

Пераклаў для татарскага таварыства верш Тукая[3] «Родная мова».

*22 красавіка, панядзелак*

Праца. Падрыхтоўка да ад’езду.

*23 красавіка, аўторак*

Званіў Васіль. Зборы. На Маскву.

*24 красавіка, серада*

*[Масква.]* Да Бурсава. Выцягванне нерваў з пашпартамі. Кэдэбіст з Беларускага прадстаўніцтва не забраў у час пашпарты з візамі. Усё-ткі дзякуючы Івану прарваліся ў Шарамецьева-2.

Аэрапорт Арлі.

Салют, *Парыж,* яшчэ раз добры дзень. Будзь спагадлівы да паломнікаў!

«Месту, каб стаць Парыжам…»[4]

---

[1] Гл.: Ён рухаецца… (19.04.91) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 119.

[2] Сляповіч Ірына Якаўлеўна (дзявоч. Ідэльчык; н. 1952), вядучы рэдактар ПЭН-цэнтра (1990–1993).

[3] Тукай Габдуллла (Тукаеў; 1886–1913), татарскі паэт, публіцыст.

[4] Гл.: «Месту, каб стаць Парыжам…» (24.04.91, Парыж) // Міласэрнасць плахі. С. 257.

*25 красавіка, чацвер*

Па-вясноваму маразяна і па-парыжску смагавіта — і смага і смог аб'ядналіся. У Саюз літаратараў. На вуліцы парыжане прагульваюць сабак. Сабакі гавораць пра сваё сабачае, гаспадары — пра сваё, чалавечае. І ўсе знаходзяць агульную мову. Паджарая француженка нясе ахапак доўгіх-доўгіх батонаў, паджарых таксама, як ахапак смалякоў у грубку, каб пагрэцца, перад сабой. Званю Забораву, і зноў, пачуўшы голас з маладосці, не веру, што гэтулькі часу мінула.

У Саюз літаратараў, узялі паперы. Далі біркі, якія можна павешаць на лацканы і хадзіць з імі. Прыехаў Барыс. У рэстаране «Гіпапатам». Мяса сакавітае, як рускі мат (выраз польскай п'есы), уторкнута пластмасавая фігурка гіпапатама. У Люксімбургскі сад. Цвіце гліцынія, каштаны цвітуць. Людзі стаяць не ў чэргах, а адпачываюць. Барыс рады, што можа працаваць на сябе, пісаць, што хоча. А ў нас бы давялося змагацца з ветракамі. З галерэйшчыкам Бернарам кантракт не існуе. Цяпер Барыс сам распараджаецца сабой. Японскі галерэйшчык заключыў з ім згоду — права першага прагляду і выбару, што ён хоча купляць. Неўзабаве дзве выстаўкі адразу побач. Прычым адна з чырвонымі паметкамі, што карціны прададзены. Гэта падымае вагу імя. Барыс інфармаваны пра справы і ў цэнтры імперыі, і ў Беларусі. Хоць падкрэслівае, што палітыка яго не цікавіць. Прыязджаў Краўчанка і запрашаў лавіць рыбы і партыйна-сталінскім мышленнем падкрэсліваў, каму далі народнага мастака, каму заслужанага, чым выклікаў у Барысу настальгічную агіду. Хваліў Бураўкіна як дзеяча, на што Барыс сказаў, што яму падабалася Юля [Бураўкіна], і Краўчанка адразу замоўк. Колькі ні называў Барыс маё імя, так званы дэмакрат-міністр маўчаў, хутка пераходзіў на рускую мову. Барыс яму падкрэсліваў, што ён добра ведае беларускую. Для міністра-кэдэбіста мова беларуская не абавязковая.

Расказваў Барыс, што ішоў фільм, дзе рыптыліі ў чалавечым абліччы беспамылкова пазнавалі адзін аднаго ў людскім моры (яны з нейкай планеты прыляцелі), толькі скура чалавечая. Гэтак і камуністы, функцыянеры і нашыя, і французскія камуністы пазнаюць адзін аднаго. Выходзіць, не памыляўся, што камуністы Францыі такія ж, як і нашыя, толькі не маюць улады. Неўзабаве Барыс паедзе рыбаліць на Аляску з унукам Чэхава — Антонам Чэхавым[1], які ведае колькі слоў па-руску і гэтага саромеецца. Ірына[2] давала яму ўрокі рускай мовы. Барысу нявыгадна, каб працавала Ірына, бо яе зарплата вылічваецца з Барыса — вялікія падаткі, да 50 %. Французскі сацыялізм — бедныя жывуць за кошт багатых. Ба-

[1] Чэхаў Антон Сяргеевіч, французскі калекцыянер мастацтва. Праўнук дваюраднага брата А. П. Чэхава.

[2] Заборава (Басава) Ірына Барысаўна (н. 1937), руская паэтэса; жонка Б. Заборава.

рыс кажа, што ён псіхалагічна разумее, помніць, як сам хадзіў без грошы, нават не меў франка купіць булачку Кірылу[1]. Але падчас падкочваецца пратэст. Відаць, яму хочацца прыехаць у Беларусь, але цяжка.

А 18-й быў прыём. Уражанне, што сабраліся літаратурныя аматары, каб не казаць шарамыгі, гэта як у нас чарговыя канферэнцыі. Уцэненыя амбіцыі, самасцверджанне. Вечарам прайшлі да гасцініцы паў-Парыжа. На Манмартскім узгорку ў садзе за агароджай спявае салавей. Парыжаначка, як ільдзінка ў крыгаломнай рацэ машын[2]. На вуліцы фотарэклама: лепшая срачка Францыі 1991 года ахінута нацыянальным сцягам[3]. Вечарам Карлас з Аляксандрам Іванавічам пілі з горла французскае віно, прывезенае з Мінска. Карлас, як паглядзеў, любіць кулінарыю шуму, кулуараў. Месца нараджэння і нацыянальнасць робяць свой уплыў. Відаць, болей на такія прадпрыемствы не паеду. Нічым ад нашых не розняцца, акрамя незразумеласці выступаў, бо мову англійскую ведаю дужа слаба, а французскую — колькі слоў.

*26 красавіка, пятніца*

З раніцы пасяджэнне. Зноў тыя ж. Па спіску ўдзельнікаў пачытаў, нікога ніколі нават імя не чуў і не пачую. Тлум, марнасць духу. Ніхто не дапаможа нашаму гору з Чарнобылем, ні цэнтр імперыі, ні міжнародныя арганізацыі, а ПЭН-клуб недарэмна называецца клубам. Тут можна сытым і галодным толькі язык пачасаць. У каго пабразгачы, у таго і паслугачы. Савецкаму клеймаванаму за мяжу ехаць хіба для шокавай тэрапіі. Убачыць, як жывуць людзі і яшчэ раз пераканацца, што ў нас, пакуль імперыя яшчэ трывае, ніколі як людзі жыць не будзем.

Рыфмаў дужа мала...»[4]

Доўга-нуднае паседжанне. Уцёк. Пакуль знайшоў гатэль, прайшоў 60 тысяч крокаў. Вечарам пазваніў Барыс, сказаў, што ў Ілоны ёсць свой свет і яна за яго трымаецца. Яшчэ паглядзіць слайды на спецыяльным прыстасаванні нейкім. Барыс ніяк не мог супакоіцца, праглядзеўшы ўчора японскі фільм пра чарнобыльную Беларусь. Барталамееўка, жыта стаіць сцяной, жанчыны, як і спрадвеку, пяюць жніўную песню, а гэта жыта не будзе жацца, не будзе сеяцца і праз 50 гадоў. Якая душа ў Барыса балючая па беларускіх мясцінах наогул, з Заборавым адбываецца тое ж, што з усімі выхадцамі з Беларусі, якім яна радней, калі з яе выязджаюць.

---

[1] Забораў Кірыл Барысавіч (н. 1970), французскі піяніст, кампазітар.

[2] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Выходзіць... (21.07.93) // Евангелле ад Мамы. С. 257.

[3] Гл.: Выдыхаючы Парыж: Запомнілася (5.04.92) // Тамсама. С. 257. Верш прысвечаны К. Шэрману.

[4] Гл.: «Рыфмаў дужа мала...» (26.04.91, Парыж) // Міласэрнасць плахі. С. 257.

*27 красавіка, субота*

Працяг Асамблеі ПЭН-клуба. «Ледавік, калі ішоў на Еўропу...»[1]. Да Заборава ў атэлье[2]. У самім месце Парыжа маленькі лужок. Барыс корміць вераб'ёў, у яго іх цэлы статак тут. Паехаць у Парыж, каб вераб'ёў карміць і стаць славутым майстрам. Па дарозе Барыс (не па талонах) забег у магазін, узяў віна, піва, вады. Нас сустрэла Ірына. І яна, і Барыс для мяне не пастарэлі, а ўсё, як з тых гадоў. Можа, гэта асаблівасць зроку з гадамі цьмець, каб бачыць як у ранейшых абрысах ўсё? Ірына кажа, што зраблю бульбу па-ўшацку з кропам. Зеляніна, шампіньёны. На рынку пытаюцца, для чаго бульба: для пюрэ, для супу. Успамінаем старых знаёмых, як у Мінску некалі, сядзім. Хоць часу гэтулькі прайшло. Адцвітае вялікая старая сліва, упершыню сёлета зацвіў каштан. Працаў у майстэрні амаль няма, усе ці куплены, ці ў дарозе, на выставах.

Барыс дужа добра казаў пра Ілону. Здзіўляўся, адкуль у яе ўсходні свет у творах. Можа, па генах? Сказаў, што трэба шмат працаваць. Шкадаваў, што не бачыў палотнаў у алеі. Абяцаў недзе паказаць, толькі каб Ілона не цешыла сябе надзеяй здзівіць Парыж. З Ірынай гаварылі, што і лёс наш, і ўсе звычкі мы носім з сабой, таму й дзе мы ні ёсць, мы такія, як ёсць. Барыс сапраўдны майстра і ўнутрана, і вонкава. Ірына падкрэсліла, што ў Еўропе гады, узрост не мае таго значэння, як у нас, у смярдзючай імперыі зла. Пасля з Барысам у кафэ, дзе сядзеў крымінальнік веку № 1 — Вова і Хэм[3] і ўсе славутасці. Вечарам сюды не ўбіцца. Усе столікі ў дошчачках. Хто перашкаджае напісаць на дошчачцы, што мяноўна за гэтым сталом нехта сядзеў. Казалі пра Васіля Быкава. Барыс усё-ткі адтаў душой да яго, перадаваў прывітанні і, калі паспее да нашага ад'езду вярнуцца з Лондана, перадасць Васілю альбом свой. Калі пайшоў дождж, абед працягнуўся наш у Барыса на кухні. З Ірынай казалі пра дзяцей. Яна пра Кірыла свайго, займаецца музыкай, піша сам. Характарам увесь у бацьку — хоча быць толькі самым, толькі першым. Барыс, калі развітваліся, казаў, што Парыж — бязлітасны горад, толькі натуральны адбор і нічога нашага савецка-імперыялістычнага. Сумна атрымліваецца, я не ўяўляю сабе жыцця без Беларусі, удзячны бацькам, маме асабліва, што нарадзіўся і жыву ў Беларусі, хоць і расплюшчанай чыгунным задам імперыі. А Ілона ўжо, як і бальшына моладзі, з радасцю б пакінула яе і не думаю, што ўдзячная мне дачка, што нарадзілася тут. Па тэле ідзе нешта накшталт «Кола дзіваў». Заўсягды нешта ўкрадзём, а пасля за сваё выдаем. Партыя пачыналася як зладзейская, імперыя савецкая — таксама такая ж. Барыс прызнаўся, што пабойваецца ехаць ў Беларусь — тое, што жывое ў памяці,

---

[1] Гл.: Даруй і пачуй (27.04.91, Парыж) // Міласэрнасць плахі. С. 258.

[2] Гл.: У майстэрні ў Барыса Заборава (9.05.91) // Тамсама. С. 262.

[3] Хэмінгуэй Эрнест Мілер (1899–1961), амерыканскі пісьменнік, журналіст. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1954).

можа памерці, яго ўжо можа не быць, таго паветра, тых пахаў. Нават ў лесе будзеш збіраць грыбы, а падсвядома думаць, што яны могуць быць атручаныя радыяцыяй.

*28 красавіка, нядзеля*

Раніцай прыехаў Віктар Сяргеевіч Калбасін[1] — прадстаўнік Беларусі ў ЮНЕСКО. На Рускі могільнік[2]. Усё дагледжана, нічога не апаганена. Магілы драздоўца[3] цэлы ўчастак. Тут і Талстыя, і Мусіны-Пушкіны — усё, што ацалела ад чырвонай сякеры. Бунін[4], Таркоўскі[5], Някрасаў[6]. Цэркаўка. Ідзе служба. Званы звоняць на невялічкай званіцы. Нейкая святасць і сусветная абыякавасць магіл і могільніка да мурашынай мітусні магіл. Ёсць магіла нейкага Васіля Быкава, які памёр у 1937-м як быццам ад Саветаў, бо 37-мы жах выклікае. Цэлая фамілія Ватацы (можа, якія галіны нашай бібліятэкаркі[7] славутай). На [могільнік] Пер-Лашэз. Пастаяў каля Мальера[8]. Тут ужо спаборніцтва помнікаў у пампезнасці і пысе. Сцяна камунараў[9]. На Марыса Тарэза[10] пайшло граніту гэтулькі ж, як нашаму Варвашэню[11], — каб і дух не ўвас[крэс?]. Почырк у камуністаў адзін. «Трава паўсюль трава…»[12], «Гром грукне…»[13].

---

[1] Калбасін Віктар Сяргеевіч (н. 1930), прадстаўнік Беларусі ў ЮНЕСКО (1984–1991).

[2] Гл.: «На Рускім могільніку Парыжа…» (6.05.91) // Міласэрнасць плахі. С. 261.

[3] Драздоўцы («Дразды») — назва служачых Дабравольніцкай арміі, па імю аднаго з арганізатараў Белага руху Расіі, генерал-маёра Міхаіла Гардзеевіча Драздоўскага (1881–1919).

[4] Бунін Іван Аляксеевіч (1870–1953), рускі пісьменнік і перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

[5] Таркоўскі Андрэй Арсеньевіч (1932–1986), рускі кінарэжысёр, сцэнарыст. Заслужаны дзеяч РСФСР (1974). Народны артыст РСФСР (1980). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1990, пасмяротна), Гран-пры Канскага фестывалю (1983, 1986). З 1982 г. у эміграцыі.

[6] Някрасаў Віктар Платонавіч (1911–1987), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1947). У 1974 г. эміграваў у Францыю.

[7] Ватацы Ніна Барысаўна (1908–1997), беларускі бібліёграф, літаратуразнавец. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1963). У 1945–1990 гг., супрацоўніца, заг. аддзела беларускай літаратуры і бібліяграфіі Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна.

[8] Мальер (сапр. Паклен Жан Батыст; 1622–1673), французскі драматург, акцёр, тэатральны дзеяч.

[9] Сцяна камунараў — частка сцяны парыжскіх могілак Пэр-Лашэз, каля якой былі расстраляны 147 абаронцаў Парыжскай камуны (1871).

[10] Тарэз Марыс (1900–1964), дзеяч французскага і міжнароднага камуністычнага руху. Генеральны сакратар ФКП (1930–1964). У 1940–1944 гг. адзін з арганізатараў Руху Супраціўлення.

[11] Варвашэня Іван Дзянісавіч (1904–1957), беларускі партыйны дзеяч. З 1941 г. 2-гі сакратар Мінскага падпольнага абкама КП(б)Б і камісар Слуцкага партызанскага злучэння. У 1950–1957 гг. 1-шы сакратар гаркама КПБ.

[12] Гл.: «Няма замежнае травы…» (29.04.91, Парыж) // Міласэрнасць плахі. С. 259.

[13] Гл.: Парыж канца красавіка (7.05.91) // Тамсама. С. 260. Верш прысвечаны І. Заборавай.

*29 красавіка, панядзелак*

У Парыж уцягваешся, як у п’янку. І ведаеш, што пасля будзе блага, бо не будзе ўсяго гэтага, але п’еш і п’еш. У тваю свядомасць Парыж уваходзіць дужа рана з кніг і пасля жыве ў табе, вабіць, цвеліць, уцякаючы, запрашае.

Паход па горадзе. Вечарам у склеп, дзе гаспадыня — бежанка з Пецярбурга, у 56-м уцяклі праз Польшчу. Аляксандр [Елізараў] ёй пра настальгію, яна ў адказ: «Па чым настальгія, па ўсіх жахах і пакутах, па турмах?» Частка яе радні ўцякла яшчэ пасля рэвалюцыі. Прыгожая мініятурная яўрэечка. Дала нам, як жабракам, нейкія сувеніры. І брацьсорамна… І пачаўся дождж, хмарна, хмурна, а ўсё роўна Парыж нейкі асаблівы.

*30 красавіка, аўторак*

Усю ноч ліло. Едзем на ўскраіны, паглядзець, што купіць. Метро. Па склепах. Маладзейшае пакаленне шустрэйшае, яно, можа, і выжыве. Нам, зробленым у імперыі са знакам якасці, адыходзіць у цень. Нацыя пазнаецца па адносінах да паэтаў, маю на ўвазе сапраўдных, а не зробленых нашай сістэмай. Літаратараў напладзілі, зрабілі прафесіяй літаратуру. І ў выніку — пшык. Нікому ніхто не патрэбны, нікому не патрэбна ні паэзія, ні проза.

*1 мая, серада*

Paris. Паўсюль прадаюць канваліі. Цвітуць каштаны. Скроні каштанавыя Люксембургскага саду пабялелі. Нотр-Дам. На прылаўках на вуліцах у бляшанках, як сардзіны, па 15 фр. «Паветра Парыжа»[1]. Як у нас у склепах бульба, толькі ў каляровых капронавых сетках, дровы. У Парыжы мы з’елі па «сабаку». Крыху разнасіў туфлі, гэта трэба было ехаць у Парыж, каб разношваць, тут можна ногі знасіць і згубіць вочы. На вуліцы ляжаць у развалку клашары, цягнуць з горла віно. На адным дужа дарагая па мерках саўімперыі дублёнка. На рагу вуліцы катрынка. Кот з сабакам на павадках. Дарагое сэрцу рэтра. Катрынка пастаўлена на нейкі дзіцячы вазок на гумовых колах. У нас у раёнах бабулі і дзядулі, выгадаваўшы ўнукаў, на вазках такіх возяць на базар яблыкі, гародніну. Сумныя гукі яшчэ чуюцца ў агульным гуле. Непадалёку мім пад магнітафон працуе.

Прыехаў Барыс з Ірынай і Кірылам. Кірыла, як малады Барыс, толькі рослы і моцнага целаскладу. 21 год, хочацца быць дарослым, адсюль вуглаваты. Пытаюся, куды пасля навучэння музыкай? «Или работать, или на улицу, бл.дзь». Кажа слова, ужо не ведаючы ягонага значэння. 10 год як у Парыжы. Зусім француз. Крывіцца, калі Ірына чытае меню ў рэстаране (паехалі у кітайскі рэстаран). Барыс казаў, што болей за ўсё помніць

[1] Гл.: «Як і некалі полацкі...» (12.05.91) // Міласэрнасць плахі. С. 263.

пах пылу на летняй вясковай вуліцы. Гэты пах за ім паўсюль. І паўночны беларускі пейзаж. Калі ў Англіі нешта падобнае (без сілуэтнай прамысловасці і горада) убачыў, зашчымела сэрца. Нават рускі лясны пейзаж не дзейнічае на яго так, бо шмат жа і па Расіі паблукаў. Ірына паказвала французскі пашпарт, там ўсё роўна ёсць, што з імперыі. Магнітную чэкавую картку, яна ж і застрахавана на мільён франкаў. Усё ў гэтай картцы. «Чалавек чалавеку чужы...»[1]

*2 мая, чацвер*

«Адзьё, Парыж!»[2] Аэрапорт Шарль дэ Голь. Усю дарогу імперскія стукачы галдзелі, доўга маўчалі ў замежнай камандзіроўцы, слухалі, нюхалі, а тут далі волю сваей лакейскай натуры. У Някрасава[3] геніяльна: «Люди холопского звания сущие псы иногда».

*[Масква.]* Сустрэлі Рыта з Ванем, нейк упакавалі нас у машыну.

На Мінск!

*3 мая, пятніца*

Дома. Душна. Усё здаецца, што было ў Парыжы, здалося, уроілася. Хадзіў да Навума.

Барыс мне прапанаваў зрабіць падборку ў «Континент»[4], а Ірына ў «Русской мысли»[5]. Навум перакладзе па-руску.

*4 мая, субота*

З раніцы пайшоў у магазіны. Добра, што нервы ў жыхара імперыі моцныя. З сонечнага дня ў глухую ноч, якая будзе яшчэ доўга і доўга цягнуцца, пакуль крымінальнікі са злачыннай партыі будуць пры ўладзе, нічога не зменіцца. Дзяржава (і неяк абразліва гучыць да імперыі слова) створана на хлусні.

*5 мая, нядзеля*

На працы. Усё рухаецца да разладу. Па інерцыі яшчэ механізм выдавецкі працуе, а вынікаў меней і меней.

Званіў Радзіку. Нейкі цяжкі асадак на душы ад паездкі ў немагчымае для нас будучае.

---

[1] Гл.: «Чалавек чалавеку чужы...» (1.05.91, Парыж) // Міласэрнасць плахі. С. 260.

[2] Гл.: Адзьё, Парыж! (2.05.91, Парыж) // Тамсама. С. 264.

[3] Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821–1877/78), рускі паэт і празаік.

[4] «Континент» — рускамоўны час. (1974–2013, друкаваны; Парыж). Заснавальнік і гал. рэдактар (1974–1992) У. Максімаў. *Максімаў* Уладзімір Емяльянавіч (сапр. Самсонаў Леў Аляксандравіч; 1930–1995), рускі пісьменнік, публіцыст. З 1974 г. у эміграцыі (Парыж).

[5] «Русская мысль» — рускамоўная газ. Францыі (з 1947).

*6 мая, панядзелак*

Праца. Пісаў прывітанне выдавецтву «Беларусь» да 70-годдзя. З Андраюком здымалі апытанні па «Братэрству». Званіў Васілю. У яго настрой, як заўсёды, сумны. На працу заходзіў Лявон Баршчэўскі, ён з Зянонам ездзілі ў Штаты і ў Канаду. Добры поспех мелі. Слава богу, не адных стуібнёў ад Беларусі дэлегуюць у свет, у добрыя людзі. Адчуванне нейкага сумнага канца. Апускаюцца рукі. Сёмуха расказваў, што выклікалі ў пракуратуру наконт 7 лістапада, калі Вову дарункі на манумент ускінулі ад беларускага народа. Рыюць.

*Вітанне выдавецтву «Беларусь»*
*з нагоды 70-годдзя*

Выйшлі мы ўсе з «Беларусі»,
Усе выдавецтвы, таму
У сённяшняй заварусе
Скажам свой «дзякуй» таму,
Хто нам пракладваў дарогу
Ў ранішні свет чытачоў.
Разам нам рушыць аблогу.
Хопіць балот і карчоў
На паліграфскіх загонах,
Каб не драмаць выдаўцам.
Аб генеральскіх пагонах
Думаць няма калі нам.
Манкай карміла салодкай
Доўга ты ўсіх, «Беларусь».
Будзь з беларускай паходкай,
Праўду сказаць сябе змусь.
Згадваць не хочацца ў тосце
Пра кнігазбыт, тыражы.
І ў паважаным узросце
Чэсцю сваёй даражы.

*7 мая, аўторак*

Праца. Паседжанне СПК. Віцязь у бабровай шкуры, пры ўсёй флегматычнасці, да грошай неабыякавы. У імперыі створана гэтулькі фондаў у дапамогу Чарнобылю, а грошы ідуць у казну «імператара».

*8 мая, серада*

У Траецкім прадмесці выстава з жыцця і творчае працы Уладзіміра Караткевіча. Адкрываў невялікім словам, як быццам пагаварыў з Валодзем, сустрэўся. Усё жывое і роднае.

*9 мая, чацвер*

Сумнае свята. Нікуды не пайшоў. Шкада ветэранаў — што баранілі, што атрымалі за перамогу? Прыехаў на лехі. Ілона з Косцем па-сапраўднаму працуюць. Можа, давядуць да ладу ўчастак. Схадзіў да Та́раса. Прыйшлі Шаўні, абодва п'янаваценькія. Шаўня цяпер з доларамі, адчувае сябе багатым і самастойным. Дырэктар наш з Дайнекам не толькі суседзі, але і сучарнікі. З Дайнекі Кузьму Чорнаму[1] можна было б пісаць заможнікаў, якія хапаюць учэпіста ўсё.

Не ведаю, як адчувае, што адчувае курыца, калі хоча знесці яйка. Здаецца, нешта падобнае адчувае паэт, калі ў яго зараджаецца верш і просіцца на паперу.

*10 мая, пятніца*

Не буду маладым перашкаджаць працаваць. Паеду ў Мінск. У электрычцы цікава было гутарыць з маладзіцай з Ратамкі, якая прадае расаду памідораў і агуркоў. Ад лехаў да электрычкі — 5000 крокаў. Кракамер лічыў крокі, а я пісаў верш[2]. Вечарам да Радзіка. Душой адпачыў.

*11 мая, субота*

Сойм БНФ. Адкрывае *Хадыка.*

Маскоўская суполка БНФ *(Ігар Паўлоўскі*[3]). Расказвае пра дзейнасць суполкі ў Маскве.

Справаздача пра паездку ў ЗША і Канаду. Выступае *Пазняк:* «3.IV–3.V. Наладзіў кантакты. Праўдзівая інфармацыя пра Беларусь і Чарнобыль. Сувязь з іміграцыяй. Магчымасці чарнобыльцаў эміграваць у Канаду. 24 спатканні ў ЗША. У Канадзе 25 спатканняў, выступаў, бясед, інтэрв'ю. Спатканні з лідэрамі эміграцыі Польшчы, Украіны, Літвы. Паездка была паспяховая. Зразумелі, што выгодна спатыкацца з апазіцыяй, бо за апазіцыяй будучае. Добра падрыхтавала ўсё эміграцыі. Страйкі на Беларусі таксама спрыялі паразуменню з нашай дэлегацыяй. Прыём у Канадзе на найвышэйшым узроўні. Рэйганаўцы гатовыя выслаць экспертаў. Пытанне пра консульства ў Менску. Акрамя самога верху, усе ў Амерыцы супроць падтрымкі цэнтра, бо імперыя мусіць распасціся. Летам чакаецца прыезд уладыкі Мікалая[4] (сабралі помач Чарнобылю). Лічыць уцекачоў-чарнобыльцаў як эмігрантаў (бо чарнобыльскі генацыд). Магчымасць заключэння кантрактаў на выкарыстанне земляў ў Канадзе.

---

[1] Чорны Кузьма (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900–1944), беларускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны.

[2] Гл.: «Як у п'янку, ўцягваешся ў Парыж...» (10.05.91) // Міласэрнасць плахі. С. 264.

[3] Паўлоўскі Ігар, расійскі вайсковец, падпалкоўнік у адстаўцы.

[4] Уладыка Мікалай (сапр. Мацукевіч Міхаіл Кандратавіч; 1917–2002), мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы (ЗША).

Часова жыць, каб захаваць нацыю. Пол Мур вырашыў прысвяціць сваё жыццё (на бліжэйшыя 10 год) выратаванню беларускага народа, адраджэнню духоўнага. Сустрэча з з Томасам Бэрдам[1], расказвалі пра палітыку Польшчы (ганаровая ссылка Кандрусевіча[2], прыхільніка Беларусі, у Маскву). Падрыхтоўка святароў. Там дужа мадэрнізаваны касцёл у ЗША, задужа, і ў нас не будзе стыкавацца. Дапамога ў друку».

*Уладзімір Мікалаевіч Заблоцкі*[3]: «Тры блокі: эканамічны, палітычны, чарнобыльскі — разглядаліся пад час сустрэчы. «Круглыя сталы» ў універсітэтах. Правы чалавека там — не пусты гук. Чалавек — галоўны ў Дзяржаве, усё служыць чалавеку. Парушэнне правоў чалавека — галоўнае парушэнне закона. Пакуль на Беларусі няма эканамічнага парадку, Беларусь мае права на свае грошы, але ўсё складана, тут і мытня, і дзяржаўная мяжа. Камуністычныя структуры не могуць прыйсці да рынкавых адносінаў, бо гэта самазабойства для іх жа саміх. На выратаванне Беларусі трэба сотні мільярдаў, іх і можа зарабіць сам народ. Наша дэлегацыя не хадзіла з працягнутай рукой. Галоўны ўпор — на правы чалавека. Ядзерны генацыд. Беларусы такое ж права маюць, як, напрыклад, яўрэі пад час генацыду. Галоўнае пытанне — прарыў інфармацыі».

*Зянон Пазняк* знаёміць з членамі сойма БНФ з Канады, з ЗША. Пытанне пра страйкавы рух».

Інфармацыя *Віктара Івашкевіча*: «У Мінскі гарадскі страйкавы камітэт увайшло шмат бэнээфаўцаў. БНФ узяў за палітыку не навязваць сваю думку, а сумленная праца і падтрымка».

*М[іхаіл] Собаль* аб сваім выхадзе з БНФ, бо рабочы рух павінен быць цалкам незалежны, сойм БНФ імкнецца ўплываць.

*Хадыка* больш падрабязна пра страйк: «Фронт займаў пазіцыю дарадцы, памачніка».

*Зянон Пазняк*: «Збіралася фракцыя Вярхсавета. За 4 месяцы бюджэт на палову павялічваецца, да канца года — 7 мільярдаў. Калі не будзе радыкальных перамен у бок рыначных адносін, то ў канцы поўны фінансавы крах рэспублікі. Тактыка апазіцыі палягае на наступных для змен палітычныя ўмовы, трэба суверэнітэт і дэпалітызацыя. Сучасны Вярхсавет і сучурад не могуць забяспечыць палітычныя ўмовы, бо яны без даверу. Гэта прывядзе да нявер'я дэмакратычнаму і страйкаваму руху. Наданне канстыт[уцыйнага] статусу праекту суверэнітэту, дэпартызацыя. Трэба ставіць пытанне аб урадзе народнага даверу, але для гэтага

---

[1] Бэрд Томас, прафесар славянскіх моваў, даследчык беларускай літаратуры (ЗША).

[2] Кандрусевіч Тадэвуш, каталіцкі святар. У 1989–2002 гг. апостальскі адміністратар Мінскай епархіі, а таксама адначасова ў 1991–2007 гг. апостальскі адміністратар у РФ.

[3] Заблоцкі Уладзімір Мікалаевіч (н. 1939), беларускі навуковец; у 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання. Кандыдат тэхнічных навук.

нечарговыя выбары ў урад і Вярхсавет. Пакуль будуць 23 ракетныя базы ў рэспубліцы. Трэба вывесці ракетныя базы з Беларусі. Пазіцыя народа з рэальных умоў. Ельцын з палякамі дамаўляліся аб раздзеле Беларусі на расійскую і польскую часткі. Кнопачная палітыка Вярхсавета. Апазіцыя бярэ курс на жорсткую палітыку. Не праходзіць іхняя прапанова — ісці з Вярхсавета».

*Пётра Садоўскі*: «Ці ёсць у нас тыл?»

*Новік*: «Поўная незалежнасць. Тэхнічную інтэлігенцыю перацягнуць на свой бок».

Да канца не выседзеў, уцёк. Не створаны я для грамадскай дзейнасці. Люблю з гадамі толькі канкрэтную справу. Прачынаецца пад старасць ува мне селянін, крывіч. Вечарам хадзіў да Радзіка. Ён здорава пераклаў вершы з нізкі «Места» Максіма Багдановіча. Якая інтэлектуальная змена ёсць у рускамоўнікаў, а ў нас па-ранейшаму дужа і дужа мала. Баліць душа па маіх маладых — такія безабаронныя, такія худыя. І кот у іх, як і яны, худы, з худым даўгім хвастом. На лехах шчыруюць.

*12 мая, нядзеля*

Усё зблыталася з-за святаў. Калі панядзелак, калі нядзеля, калі ісці на працу, калі не ісці. Прыходзіў Яўген Кулік[1]. Збіраў грошы для БНФ. Я даў сотню. Казаў Яўген пра Мальдзіса. Сябра [...] Краўчанкі адмовіўся, бо дужа шмат грошай і так ідзе на грамадскія справы. Не было ў яго грошай, калі збіраў я на пахаванне Міхася Стральцова. [...] Прыходзіў Глеб Артханаў. Перадаў яму на пераклад паэму «Аблачына-самабранка». Вечарам званіў, кажа, што цікава. Пачаў перакладаць.

Хадзіў да Яшы. У аптэцы ўсё знікае. Лекаў маіх ужо няма, будзе не здабываць.

*13 мая, панядзелак*

І чысло, і панядзелак мае шчаслівыя. Шчасце па цяперашнім часе мала. Пракруціўся на працы. Лявон ухваліў маю парыжскую падборку. Дадасць да кнігі. Мікалай Казлоў[2] зрабіў афармленне. Як і трэба было чакаць ад яго — з густам, кніжна, лаканічна, без развесістых прыгажосцяў а ля Басалыгі[3].

Званіў Радзіку, падзякаваў за падтрымку маральную, бо ён першы ўхваліў падборку.

---

[1] Кулік Яўген Сяргеевіч (1937–2002), беларускі мастак, графік.

[2] Казлоў Мікалай Раманавіч (1945–2011), беларускі кніжны графік. У 1981–1989 гг. гал. мастак выд-ва «Юнацтва».

[3] Басалыгі Уладзімір Самойлавіч (н. 1940) і Міхаіл Самуілавіч (н. 1942), беларускія графікі. Браты.

*14 мая, аўторак*

На працы крутаніна. Пазваніў Але Сямёнавай[1], што на анкету «Нёмана» адкажу, прыехаўшы з Ашхабада. Ала [Смурага] перадрукавала нізку парыжскую, аддаў Лявону. Сёння ў саюзе вялікі загон з дэвізам: «Аюсь-аюсь — усе ў саюзь!» Планка ўжо гэтак апусцілася, проста ўпала на зямлю, яе пераступае любы, хто толькі можа падняць нагу.

*15 мая, серада*

На *Ашхабад. [*Святкаванне Дзён Махтумкулі[2].] Як доўгая казка, дарога з частымі паўторамі, прызямленнямі. Арэнбург, Ташауз. Суседка-случанка да Арэнбурга. Хораша надзвычайна гаворыць па-беларуску (прыклад тэхнічнай інтэлігенцыі: вылічальная матэматыка), у руках «ЛіМ». Сусед з Жодзіна лейтэнант (закончыў у Кіеве агульнавайсковы профіль), па-беларуску разумее, але не гаворыць. Расслаенне нацыі на адным авіярадзе. (Арэнбургскія козы ў Канадзе пуху не далі — няма буранаў.) Руская мова для іншых моваў імперыі, як гербіцыды, — быццам рост, і ўсё жывое забіта. У самалёце сундук-прапаршчык азіят і жонка славянка. Малы ў іх мардаты, вочы аж блішчаць, такія чорныя. І цераз рад здаравенная-здаравенная расійская Дуня, а дзіця бледнае, пастрыжанае нагала. Чорная, жоўтая раса, як трава, наступае на белую. Нікуды ад гэтага не ўцячы. Са мной ляцеў да брата Міхала Васіль Ткачоў[3]. У аэрапорце сустрэлі. Калгасная гасцініца без шклянкі, без лямпачкі над ложкам, хоць прасторнейшая, чым у Парыжы на Распай.

*16 мая, чацвер*

Раніцай стук у дзверы. Другі жыхар — Сааранбай Джусуеў[4] з Кыргызстана. Адразу заявіў, што ён народны паэт, што яму далі прэмію (як і нашаму Святлейшаму Чыгрынаву) імя Фадзеева. На рынак. Барахолаўка. Побач аднапавярховы тэатр оперы і балет. Упершыню сустракаю такое суседства. Цэны шалёныя, як і ў нас. Цікава дарогу пераходзяць аксакалы ў шапках, як бусловых гнёздах. Нібыта гэта не машыны, а бязгорбыя вярблюды. У Саюзе пісьменнікаў як сонныя мухі. Госці не трэба. Паездка ў *Фірузу*. Чынары [?]. 7 братоў Фірузу купілі ў Іране ў 1848 годзе (Гры-

---

[1] Сямёнава Ала (Альбіна Іванаўна; н. 1938), беларускі крытык, празаік. У 1986–1994 гг. літсупрацоўнік, заг. аддзела мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі час. «Нёман».

[2] Махтумкулі (псеўд. Фрагі; каля 1730–80-я), туркменскі паэт і мысліцель.

[3] Ткачоў Васіль Юр’евіч (н. 1948), беларускі празаік, драматург. У 1989–2005 гг. сакратар Гомельскага абласнога аддзялення СПБ.

[4] Джусуеў (Жусуеў) Сааранбай (1922–2016), кыргызскі паэт, перакладчык. Народны паэт КіргССР (1981). Герой Кыргызскай Рэспублікі (2007). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Тактагула (1998).

баедаў[1] паспрыяў). Намесніку, які прадаў па п'янцы Фірузу, расплавіўшы золата, якое атрымаў, улілі ў горла.

Узбеку Лукша [казаў] пра ідэю наконт Еўрапарламента — Туркестанскі парламент. Адкрыта кажа, што асімілююць белую расу. Адкрыў мне вочы, што Лукша — кэдэбіст. Адсюль і паездкі, і такая ўпэўненасць.

* На Фірузу. Сексуальныя схілы Капет-Дага[2]. Чынара колькі ўгору, столькі ў даўжыню карані. Як сохне — чорным робіцца і сама ламаецца чынара.

*17 мая, пятніца*

На *Каркалу*. Кіламетраў 300 на аўтобусе. З міліцэйскімі «канарэйкамі», прэзідэнт[3] у сваім лімузіне. Аналі ўзначальвае «Бацькаўшчыну» (па-туркменску забыўся як), [...]. На планету наступае пустэльня, 1 км штогод у асобных рэгіёнах. Чарнобыль — 35 км штогод. Навыперадкі, як заяц з чарапахай. Сумны гумар выходзіць з усяго гэтага.

*Гёркез* — магчымая радзіма Махтумкулі. Дзяўчаты ў нацыянальных убраннях. Поўны ўбор з чаканкай — 12 кг (колькі вадалазу трэба). Упрыгожванні мелі баявое прызначэнне. Жанчыны ваявалі. І стрэлы Амура цяжэй прабівалі грудзі. Упрыгожванні носяць коні, вярблюды, хлопчыкі і жанчыны. А джыгіту конь і зброя. Анекдот: госць ужо сабіраецца ад'язджаць, бо доўга быў, а гаспадар просіць для прыліку: «Ну пагасцюй яшчэ». Госць пытаецца, згадзіўшыся: «А за што каня навязаць?» Гаспадар, злуючыся на сябе: «За мой язык». Гэтак жа анекдот распавядае і пра беднага старога, які не меў нічога ў доме і, убачыўшы джыгітаў, якія скакалі ў суседняе паселішча, запрасіў да сябе, пасуліўшы добры пачастунак. «А за што прывязаць коней?» — «За мой язык».

Па дарозе пустэльня і стамляе, і радуе. У аднастайнасці ёсць свая і перавага, і нават радасць — думаеш разам з пустэльняй нетаропка і грунтоўна.

Вечарам да сябе запрасіў Авездурды Непесаў[4]. На кілімах з падушкамі чай, манты, гарачыя праснакі. Сын у 8-м класе ў музычнай школе, пачынае ездзіць па Еўропе, сам піша музыку, імправізуе. Цікава гучала вядомая яўрэйская мелодыя. Усход блізка сыходзіцца мелодыямі і рытмамі. Па дарозе, думаючы разам з пустэльняй, пісаў. «Туркменскі абразок: Вярблюд, быццам знак задыяка...» [у дзённіку].

---

[1] Грыбаедаў Аляксандр Сяргеевіч (1795–1829), рускі паэт, драматург, дыпламат.

[2] Гл.: «На сябе нацягваюць коўдру...» (16.05.91, Фіруза) // Евангелле ад Мамы. С. 146.

[3] Ніязаў Сапармурад Атаевіч (1940–2006), туркменскі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1985–1991 гг. 1-шы сакратар ЦК КПТ, у 1991 (кастрыч.) — 2006 гг. прэзідэнт Туркменістана.

[4] Непесаў Овездурды, туркменскі вучоны-філолаг, пісьменнік. Народны пісьменнік Туркменістана.

Наогул, такія святы зжылі сябе разам з сістэмай. «Канарэйкі», чорныя машыны, пыха прэзідэнта і потныя вочы і вушы кэдэбістаў каля замежных гасцей. А прыехала сюды багата з Еўропы. Вечарам у Авесадурды. Узбек прапанаваў паставіць мячэць — арганізуе ўсё і будаўнікоў з-за мяжы імперыі прывязе. Але туркмены не дужа набожныя. У іх рэлігія болей рытуальна-побытная. Фанатызму няма. Рана ці позна мусульмане аб'яднаюцца, і не паможа ні хвастатая кірыліца, якой Сталін хацеў іх разгарадзіць, — перабойкі папяровыя і з дужа тонкае паперы — усё і чуваць, і відаць. І на планеце будзе белая раса белымі плямкамі значыцца ў гарачым агні жоўтай і чорнай расы. Страшна за ўнукаў. Генетычная памяць гэтых расаў помняць і здзекі, і абразы, і прыгнёт. І пры традыцыі па крывапраглівасці і бязлітаснасці будзе дзіка гуляць па планеце, асабліва і неўзабаве ў межах, думаю, Бог дасць, былой імперыі.

* Зялёнае кратавінне пустэльні, апустэльванне планеты. Укрыты чэр — чэран гораў. [...] Упрыгожванні ў коней, вярблюдаў, хлопчыкаў і жанчын, а для джыгіта конь упрыгожаны, а рэшта — ягоны спрыт. Кырк-пырк, 40 — усё (пшык). Пасля сарака — пшык.

*18 мая, субота*

На Рускі базар, дзе барахолаўка і побач театр оперы і балета. Усё дорага. Не дужа багаты базар. На пераходзе, дзе падземны ля ўнівермага, сядзяць з шапкамі жабракі. Гумаўцы мяняюць у іх грошы на дробязь, бо ў універмагу не хапае, а падчас вечарам самі прыносяць мяняць, бывае, што і рублёў па 40.

Афіцыйнае ўручэнне прэмій Махтумкулі. Прэміі і пасмяротна, і з Англіі даследчыку творчасці і папулярызатару. Ён туркмен. Усім туркменам, якія жывуць па ўсім свеце, надзявалі халаты чырвоныя і белыя тульпекі. Аднаму халат не чырвоны, ён адразу папрасіў замяніць на чырвоны. Вялікі канцэрт. Як заўсёды пакараюць хлопчыкі і дзяўчаткі, бо непасрэдныя. Вечарам рады са стравамі і чаем, і шашлыкамі, і з розным печывам.

*19 мая, нядзеля*

Калгас [імя] Махтумкулі. Башлык [старшыня] — член-карэспандэнт Акадэміі навук і г. д. Гедлы Мухамедаў частаваў ад душы. Рэшткі славутай мячэці. Анау, якая разбурана землятрусам 1948 г. Новы метад супроць ДАІ [падказаў] Атамурад Атабаеў[1] — запаліць лаўровы ліст і тушыць яго ў шклянцы гарэлкі. І той валэнды. Вакол мячэці быў горад старажытны. Бугаркі ад хат (дамоў), як цвёрдыя мазалі на далані забыцця, як кратовыя лапы пярэжнія (мама так і казала: пярэжнія, успомнілася). Камяні ад жорнаў, на адным праямінка ад яйка, алах скінуў з неба, і яно

---

[1] Атабаеў Атамурад (н. 1948), туркменскі пісьменнік. Народны пісьменнік Туркменістана.

не разбілася, а прабіла камень. Тут жа на руінах горада пачуў зязюлю. І гадамі баюся лічыць, раптам абарвецца, але гэтая, дзякуй ёй, Саул, кувала доўга-доўга, каб суцешыць мяне.

Потым дахаты да Бердыназара-ага [Худайбердыева]. У блочным доме. Бердыназар у мантанаўскім спартыўным касцюме. Усё шчыра. Я нахінуўся да падваконніка, каб падпісаць Бердыназару зборнік, чую, нешта мне на плечы кладзецца. Аж гэта святочны, чырвона-паласаты халат. Яшчэ падарыў альбом народных узораў, дойчляндаўскае выданне. Узбек расказваў, як нехта на юбілеі Арыпава[1] казаў: «Мы ямо баранаў, і характар у нас ад іх, але ніколі не ямо свіней». Намёк на старэйшага брата. У Бердыназара мілая жонка, ціхая, як ноч маладой восені. Бердыназар як прарок ходзіць. Нешта ад прарока ёсць у сувязі з узростам і кліматычнымі ўмовамі. Акрамя плову і розных прысмакаў была і бульба. Смачная. Можа, трошкі вадзяністая, але як і ў нас маладая бульба яшчэ не зацвярдзела. Сыну 22 гады, 45-ты [памер] абутку, пад 2 м., на трэцім курсе Літінстытута. Перакладчык. З туркменскай мовы на рускую. Аж пішчаць — хочуць за яго дочкі русафіла Б. і Г. Г. Будуць бедныя і яны, асабліва дзеці. З гэтым згодныя і жонка, і Бердыназар (у перакладзе — позірк бога). На развітанне Бердыназар сказаў, што апошняе слова за бацькам тут.

* Пад страхам смерці забаранялася выяўленне жывое. Бо, напрыклад, калі намаляваць каня, то на малюнку застанецца, а жывога забяруць духі. Так і з чалавекам. І ўсе партрэты класікаў — гэта чысты вымысел. Аб'яўляецца конкурс, 5–6 мастакоў малююць, а ЦК зацвярджае, хто болей падобны на Махтумкулі.

Камень. Адбітак яйка — св. прарок кідаў з неба, не разбіла, а прабіла камень. Калі ты святы, упадзі на камень. Апранахі, як камень ад жорнаў.

*20 мая, панядзелак*

Апошні дзень у спякотным Ашхабадзе. Купіў у ўнівермагу чамаданчык. Падыходжу да аддзела, дзе трусы. Гляджу. Нейкі добразычлівы туркмен раіць мне, што лепей за ўсё купляць чорныя. Як некалі ў гады студэнцтва. На пошце паслаў колькі кніг — усё ж лягчэй у дарозе. Алі Бабаджану разы тры тлумачыў, як рабіць бальзамін. Здаецца, так і не ўцяміў. Кажу, у бутэльку поўную даліць да канца горлачка. Некалькі разоў перапытаў, колькі грамаў. Вось табе і чалавек Усходу, амаль перс. Ікар Пасеўеў[2] быў маім добрым спадарожнікам, і памочнікам, і дарадцай.

---

[1] Арыпаў Абдулла (1941–2016), узбекскі паэт і перакладчык. Народны паэт УзбССР (1983). Герой РУ (1998). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УзбССР імя Хамзы (1983), Дзяржаўнай прэміі Узбекістана імя А. Наваі (1994).

[2] Пасеўеў Ікар Расціслававіч, рускі пісьменнік, журналіст.

Аэрапорт. І курс — на Мінск. Да Запарожжа ляцеў здаравенны хахол. Кажу так, бо ён колькі разоў паўтараў «бульбашы». Усе супроць чырвона-карычневай імперыі, а яна стаіць і толькі ахвяры заглынае. На Рускім базары ў Ашхабадзе гэтак жа смачна ляжаў сабака на асфальце, спаў як нежывы. Трохі дагледжаны, трохі зануджаны (ушацкае значэнне слова — карэлы, запушчаны), але з гаспадарскім царскім спакоем. Аж хацелася падысці і пагладзіць. Прыляцелі а палове першай. Пакуль рэчы, пакуль дамоў — каля трох. […]

*21 мая, аўторак*

Праца. Лятучка. Пасля Ашхабада такая халадзіна — дождж, вятруга, проста жах. Па дарозе на працу і ў абед пісаў[1]. Званіў Радзіку. Ён хадзіў з перакладамі Максіма Багдановіча да Бубнава. Генадзю ў прынцыпе падабаліся пераклады. Але, відаць, іх не дадуць, бо раней даваў у часопісе Бронік [Спрынчан]. Паглядзеў, як і там не дужа ганяюцца за кніжкай ні за сваёй, ні за рускамоўнай. Нейкім чынам кнігу прыраўнялі апошнім часам да папярос, да віна, каб мець прыбытак. Шалёнае грамадства, як і належыць жабраку і духоўнаму, хоча мала даць, а багата атрымаць. У азіятаў ёсць яшчэ глыбінны пласт мовы, але таксама, як і ў нас, няма чытача ні прозы, ні паэзіі. Яшчэ відовішча прываблівае, асабліва калі шашлыкі смажацца побач, з выступленнем стопрацэнтна народных так званых паэтаў. Распісацца ўмее — народны.

Азіяты, дык яны выжывуць, а мы?

*22 мая, серада*

Пісаў адказы на анкету «Нёмана»[2]. Прыходзілі Ілона з Косцем. Паранейшаму на душы змрочна. Няўжо я падыходжу да мяжы? А здаецца, учора толькі жыць пачаў. Што далей, дык увесь час успаміны вяртаюць ў маладыя гады, у маленства. Аж пачынаеш верыць, што ты там і жывеш.

*23 мая, чацвер*

Раніцай у «Радыёфакце» дзядзька з Магілёўшчыны, што робіць і сані, і вазкі, кажа, што здароўе ўжо такі паднасілася. Як дакладна сказаў. Сёння паглядзеў на загадчыка рэдакцыі паэзіі. Які сквапны, які ўчэпісты да рубля. Ідзе сярэдняе пакаленне ў наступ па захопу крэслаў і аброку ад гэтых крэслаў. Хай жывуць, хай сыцеюць! Крыўдна, што ўсё гэта робіцца пад лозунгамі беларускасці, вяртання да спадчыны, да гісторыі.

---

[1] Гл.: Усё жыве (21.05.91) // Евангелле ад Мамы. С. 234.
[2] Гл.: Ці цяпер адродзімся, ці ніколі! (22.05.91) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 123.

*24 мая, пятніца*

Сёння дзень бегаў разносіў адказ на анкету «Нёмана», рэкамендацыю Паўлу Вераб'ёву, «Аблачыну-самабранку» ў «Полымя». Прыехаў Бурсаў. Заходзіў да Зуёнка. Заўтра Сусветны кангрэс беларусістаў, трэба вітаць ад імя Беларускага ПЭН-цэнтра. Вечарам нагрукаў староначку тэксту, каб эканоміць час і не адхіляцца ад тэмы.

*25 мая, субота*

Адкрыццё Сусветнага кангрэсу беларусістаў. Пазнаёміўся яшчэ раз з Янкам Запруднікам[1]. Прыехала Юля Бураўкіна. Удзельнічае 10 краін свету. У ЗША 66 беларусістаў. У рэспубліках каля 200 беларусістаў.

*Васіль Быкаў:* «Беларусь самая няшчасная нацыя. У нас апошні шанец. Ці скарыстаем яго? Галоўнае апірышча — нашая мова. Без мовы ад нас нічога б не значылі, як ад яцвягаў нічога б не засталося. Рэлігіяй нашай па-ранейшаму сацыялізм. Толькі ў беларускай дыяспары застаецца Беларусь за мяжой. Бальшавізм з ласкавым чалавечым тварам хочуць захаваць канфармісты».

Выступае *Джым Дынглі*[2] (Англія): «Межы праходзяць праз усіх нас. Карэнныя жыхары і новыя. Гэта ўсё ўмоўна. Вось мы падыходзім да мяса, як кажуць ангельцы. Праблемы нашых і нянашых у беларускасці, як быць з паняццем «здраднік» у літаратуры. У Францыі былі, хто ішоў на згоду і з Гітлерам, і са Сталіным, але яны частка французскай культуры. Трэба беларускую літаратуру разглядаць не толькі ў звязку з рускай літаратурай, а ў еўрапейскім кантэксце літаратуры, як арміі, якая штурмуе вяршыні, адпаведна свае генералы. Але якія эпалеты насіў Янка Купала?»

Скаланаў паветра, арыентуючы ўвагу на сваёй асобе, *Гілевіч.*

*Алесь Барскі*[3]*:* «Пасля вайны на Беласточчыне было каля 300 тыс. беларусаў. Беларускае аддзяленне ў Варшаве 300 асоб, а завочна 40 чалавек».

*Сядоў, Ткачоў [М.].*

*Мажэйка:* «Фальклор — самы безабаронны. Разбурэнне не забаронай, а падабенствам нішчыць фальклор».

*Янка Чыквін*[4] найсампершы.

---

[1] Запруднік Янка (сапр. Вільчыцкі Сяргей Мікалаевіч; н. 1926), беларускі гісторык, палітолаг, паэт, літаратуразнавец, публіцыст, грамадскі дзеяч. Жыве ў ЗША.

[2] Дынглі Джым (н. 1942), англійскі русіст і беларусіст, выкладчык Лонданскага ўніверсітэта. Віцэ-прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

[3] Барскі Алесь (Баршчэўскі Аляксандр Андрэевіч; н. 1930), беларускі паэт, літаратуразнавец, фальклbackарыст, драматург, публіцыст, перакладчык, педагог. Доктар філалогіі (1986). Прафесар. Польшча. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (1991).

[4] Чыквін Ян Арцёмавіч (н. 1940), беларускі паэт, літаратуразнавец, перакладчык. Доктар габілітаваны гуманітарных навук (1984). Прафесар (1993). Польшча.

*Жыдліцкі*[1]*:* «Паэзія толькі ў час мадэрнізму аддзялілася ад прозы».

Спявае *Мархель*[2]*:* «А ў полі-полі калючая йгруша, Яна ж майму дзіцетку кашульку пасуша».

Побач сядзіць Янка Запруднік. Зірнуў на ягоныя чаравікі — люкс, касцюм, кашуля. Адчувае сябе чалавекам. А мы перад пагрозай галечы. Што маем? Што яшчэ будзе? Ён эмігрант, а я як быццам на сваёй зямлі зарабіў бочку мякіны. Высокапрафесійны калектыў «Неруш», зладжана працуюць, як КДБ у 1937 годзе.

*Водзван*

Юнак, амаль ужо мужчына,
Мне нагадаў пра тыя дні,
Калі блакітна ў вышыні
Імя тваё звінела — Рына.

Ці гэта разгайданы звон
Баяўся,
Толькі б не зваліцца
З набожна схіленай званіцы,
Разбіўшыся ў аскепкі дзён.

Бо, не сціхаючы, ўва мне
Палынна,
Потайна,
Нахлынна
Звініць і сёння водзван — Рына,
Нібыта ў возеры на дне.

*26 мая, нядзеля*

Працяг кангрэсу. Абмеркаванне статуту. У нас праблема з мовай складаная. Як авалодвае рускай мовай, забываецца родную. На адным няведанні іншых моваў доўга не ўтрымацца. Задача, каб і вывучыўшы не адну мову, вяртаўся, звяртаўся і да сваёй, каб меў патрэбу ў роднай мове.

Вера Рыч[3] расказвала, як пасля выхаду анталогіі нашай паэзіі (а падгалосак імперыі БССР, урад і КДБ былі супроць). Так зрабіла наша КДБ, што ёй ударылі па галаве (ірландзец, падкуплены КДБ), што надоўга адбілі ахвоту да паэзіі.

---

[1] Жыдліцкі Вацлаў (1931–2002), чэшскі літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалогіі (1967). Прафесар. Ганаровы доктар БДУ (1996).

[2] Мархель Таццяна Рыгораўна (н. 1939), беларуская актрыса. У 1987–1994 гг. у Тэатры-студыі кінаакцёра. Заслужаная артыстка БССР (1984).

[3] Рыч Вера (1936–2009), англійскі перакладчык, журналіст, гісторык. Гл.: Трывершнік: Чытае Вера Рыч «Пагоню» (26–30.05.91) // Евангелле ад Мамы. С. 97.

*27 мая, панядзелак*

Сход дыяспары беларускай КДБ зрабіў спецыяльна ў канферэнц-зале, каб было душна, цесна, каб ніхто не чуў нічога. У кіруючы склад зноў выбраны Ніл Гілевіч. Без яго і трава расці не можа. Калі б у туалетах вешалі партрэты, ягоны б павешалі першы. Выступаў шмат, сэнсу і клёку мала. Ніл, выходзіць, плакаў у Вярхсавеце, што камуністаў крыўдзяць. Як быццам можна пакрыўдзіць нячыстую сілу. Хутчэй яны пакрыўдзяць любога.

Настаўніца просіць дапамогі — дачка хворая, рак шчытападобнай залозы. У дзень выбуху была ў паходзе, купалася ў Нёмане — ён быў цёплы, бо выпаў радыеактыўны дождж, бо гасілі рэактар. Праз пяць год на дзень Чарнобыля маці даведалася, што дачка хворая.

«Камунары, камунізм, Каму — нары, каму — ніз».

*Ляўковіч [Анатоль]:* «Усе дадзеныя па Чарнобылю засакрэчаны. Японскія дадзеныя адкрыты. Стала набірацца пры хранічных апрамяненнях малыя дозы. Разбураюцца клетачныя мембраны, і ў выніку — радыеактыўны СНІД. Каровы пра радыефобію нічога не знаюць, а хварэюць. Парушаецца імунітэт чалавека. Страта прытомнасці, слабасць, галаўныя болі. Сістэмныя захворванні, лячэнняў, не абавязкова прамянёвая хвароба. Розныя эвалюцыйныя эфекты. Рэзка набіраюцца дозы ў маладыя гады, калі фарміруюцца арганізмы».

Яўген Кулік прышпільвае мне значок БНФ (бел-чырвона-белы) высока на лацкане, каля пятліцы. Побач стаіць Васіль Быкаў і смяецца: «Ты не ведаеш чыноўных рытуалаў, чым большы начальнік, чым болей ён прывык да адзнакаў, чапляее яго як ніжэй». І тут жа з жартам прышпільвае. «Светлыя думкі твае...»[1] Банкет у «Планеце». Пад канец афіцыянты цягаюць бутэлькі, як паэты рыфмы і вобразы ў класікаў.

*28 мая, аўторак*

У ГУМе. Забулдыга купіў пахмяліцца адэкалон і падыходзіць да азіята. «Што купіць?» — «Касцюму». — «Ну, хадзем».

Сустрэча з Пенкай Кыневай[2]. Перадаў зборнік, вершы і сувенірчык.

Учора на банкеце наіўны Янка Запруднік верыць, што яны вакол пальца абвялі КДБ, як рыбы выслізнулі. Пытаю, а хто вас загнаў у гэты нерат пад назвай Міжнародны кангрэс славістаў? Ці не забыўся, як таптухай ловяць рыбу? Таптуны савецкія пазаганялі ў каменныя закрачаныя нераты, у кратаваныя нераты мільёны нявінных душаў. «Хадою ціхаю ступае старая...»[3]

---

[1] Гл.: «Светлыя думкі твае...» (27.05.91) // Евангелле ад Мамы. С. 295.

[2] Асенава Кынева Пенка (н. 1942), балгарская перакладчыца.

[3] Гл.: «На вуліцы хадою ціхаю...» (28.05.91) // Евангелле ад Мамы. С. 309.

Праводзіў Івана Бурсава ў Маскву. Днём хадзіў на перамовы з паліграфкамбінатам (разам з нашымі з работы). Ні паэзія, ні проза беларускія не трэба. Камбінату трэба гешэфты, вал, прыбытак. Ён і задуманы пасталінску, каб з'есці малатыражную беларускую кніжку. Вось «Тарзана» яны мільённымі тыражамі выдаюць, разам з кааператарамі ці рэкецёрамі. Пенцы Кыневай колькі разоў дзякаваў за пераклад і слова пра майго незабыўнага Міхася Стральцова. І як прыемна было чуць самыя высокія словы пра Міхася. Шкада, што ён іх так і не пачуў пры жыцці. Лёс усіх сапраўдных.

*29 мая, серада*

А што калі напісаць колькі вершыкаў «Дзіцячыя цвялілкі для дарослых»: «Стукач», «Амон», «Апаратчык», «Ветэран», «Камуністы», «Рэкецёр», «Міліцыянер», «Дземянцей», «Рынак», «Камсамол» [у блакноце]. «Не хапала абсягу чалавеку...»[1] «Уздых удагон»[2]. Прачытаў рукапіс вясёлай прозы[3] Лявона Дранько-Майсюка. Гумар — цяжкая праца. У Лявона шмат удач.

*30 мая, чацвер*

Праца. З Лявонам над яго зборнікам прыселі трохі. Зборнік будзе чытацца. Паўдня круціў радкі, бо Лявону не падабалася «грымотная мова Байрана» ў вершы пра Рыч. Сапраўды, на паверхні ўсё ляжыць. Можа так: «На ветразевай мове лорда...» Ідучы дамоў, пастаяў у чарзе па зімовыя боты сумеснай віцебскай фабрыкі, пастаяў разам з народам. Пераканаўся, што ў экстрымальных умовах па мне пайшла б юрма ашалелая.

*31 мая, пятніца*

Учора прыходзіла ўдава Кулакоўскага[4]. Дужа старая стала. Яна адна і займаецца спадчынай зануды. «Заходжу, — кажа, — у кабінет і здаравею». А гэты верны муж не мог ніводнага каленка прапусціць, каб хоць пагладзіць. А яна без яго нейкая безабаронна-непатрэбная. Самыя лютыя ў свеце гэтым дзве сяброўкі — старасць і смерць.

Вечарам на дзень нараджэння да майго збаўцы — Якава Серпера. Без ягоных лекаў даўно б быў там, дзе Макар цялят пасвіць. Меней і меней сяброў, знаёмых, сваіх. Адна самота!

---

[1] Гл.: Імкліва (29.05.91) // Ксты. Выд. 1. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2005. С. 348.

[2] Гл.: Уздых удагон (29.05.91) // Евангелле ад Мамы. С. 208.

[3] Дранько-Майсюк Л. Пра тое, як я...: 13 несур'ёзных апавяданняў. Мінск, 1992.

[4] Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч (1913–1986), беларускі празаік. Заслужаны работнік культуры БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986, пасмяротна).

*1 чэрвеня, субота*

У «Падпісных» узяў другі том Скарынавай «Бібліі»[1]. Вечарам да Радзіка. Хоць душой адпачыў. І малады, і таленавіты, і чысты. Рэдкія якасці ў наш час. Табуны, ці пакаленні, якія гадаваліся ў канцлагеры сацыялізму, людзі беззваротна страчаныя ў першую чаргу для сябе саміх. Літаратараў ідэйна стэралізавалі. Адна надзея на моладзь, але ў ёй мала натуральных каранёў, яны болей фальклорна-капронавыя. Хоць і не гніюць, затое без натуральных сокаў. А сокам тым быць адкуль, калі воўчая ідэалогія імперыі ўсё вынішча́ла і вы′нішчыла. Лаўлю сябе на тым, што нават у гэтых похапных занатовачках не магу сабе самому даверыцца да канца. Наглядач над сабой самім — сам. Гэта ўсё параджэнне заклятай сістэмы сацыялізму, з ягоным КДБ і партыяй злачынцаў. Нарабілі літаратараў-папугаяў, падбрэхічаў, карыталізаў, абвешалі іх, як папуасаў у дурных фільмах markers розьнымі бляшкамі, цацкамі — гаўкайце, каб бляшкі бразгацелі, калі ў бок звернеце. Наверсе ўсё чуваць, бо вушы ў кэдэбістаў, як лакатары, — усё чуюць, нос — таксама.

*2 чэрвеня, нядзеля*

У нас Домначка. Які гэта любы сэрцу званочак. Пачынае гаварыць, лапатаць. Як другую маладосць перажываеш. Каб толькі Бог даў ёй здароўя і долю. Спагадай, Божа, душы нявіннай. Трохі парадкаваў рукапісы, кнігі.

*3 чэрвеня, панядзелак*

Каля ЦУМа дошкі агароджы ад аб'яў пра абмен, пра гандаль, як недачышчаная рыбіна шэжыцца. На працы на дублікаты[2] Лявонаву кнігу здаў. Званіў Радзіку, ён занёс вершы Бубнаву. З Ушачы прыйшло запрашэнне на свята беларускай культуры на 9 чэрвеня. Якраз 10-га дзень нараджэння мамы. Схаджу на магілку, памаўчу разам з адзіна дарагім на ўсёй зямлі чалавекам.

*4 чэрвеня, аўторак*

Праца. Прыходзіў паэт з Гародні, Пальчэўскі, пляменнік залатога чалавека Алеся Пальчэўскага, гулагаўскага пакутніка. Пляменнік вайсковец, піша па-руску. Званіў паэтэсе Адзе Ланд, што кніжкі ў яе няма. Даводзіцца казаць непрыемныя рэчы. Раніцай званіў мне Бураўкін, пытаўся тэлефон [Яфіма] Лапушына, хоча параіцца, ці падаваць яму ў суд на чарнасоценны лісток «Славянские ведомости». Іхнія бацькі — [...] з ЦК

---

[1] Біблія. Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынай ў 1517–1519 гадах: У 3-х т. Мінск: «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі», 1990–1991.

[2] Тэхнічная падрыхтоўка рукапісу да друку.

партыі [...] Скобелеў і Саўка Паўлаў, а фармальна парт[...] Бумажкова[1] вядзе.

Не магу дазваніцца да Роўбы наконт рамонту ў Вушачы. Учора званіў Блакіту, прапаноўваў вершы ў «Вожык». Прыходзіў Русецкі, кажа, што не чытае, запомніць цяжка. Жартуе: можа, не варта чытаць. У 93-м будзе 80 гадоў. Трымаецца, як агурочак бачковай засолкі. Пачалі гаварыць пра словы. Запытаўся, што такое *зносак* у нас. Апошняе яйка. Купала і даў герою з «Тутэйшых» гэтае мяноўе. Падпісвалі фота да ягонай кнігі. Бацька на шахтах працаваў. Прыязджаў у поўнай форме. Ліпень, а ён у гарнітуры, ланцужок цераз жывот, што гадзіннік ёсць, боты і яшчэ галёшы. Выбірайце, дзеўкі! Цікава, што паглядзеў, ці ёсць фота жонкі-нябожчыцы. Яна памерла год 12 назад.

Вечарам сустракаўся з Аўрамчыкам. Перадаў ад М. Казакова пляшку віна, свой зборнік з вершам-прысвячэннем. Праз усе пеклы захаваў па-юнацку здзіўленую душу. Гэтая рамантыка, відаць, і ўтрымала і яшчэ дасюль трымае. Казаў, як здзіўляўся [...] Макаль, калі ў перапынку ў прэзідыуме Ніл падышоў да Машэрава і запытаўся, ці атрымаў ён. Вядома, што гэта быў чаргові боталізны допіс у гонар прыгожай легенды апарату. Трэба ж было караскацца па службовай лесвіцы, хацелася сакратаром у СП і дэпутатам.

*5 чэрвеня, серада*

На працы. Званю дамоў Васілю Макарэвічу. Трубку падымае маці: «Ну, хто гамоніць?» Якое ласкавае, хатняе, крывіцкае слова, а не казённае «хто гаворыць». І мне адразу ўспомнілася, як мама мая адразу пыталася ў тэлефон: «Ну, што трэба?» Людзі працы не любяць пустых размоў па тэлефонах. Гаварыць трэба, калі бачыш вочы гаваруна, які з табой гукаіць.

*6 чэрвеня, чацвер*

Ларыса Шлапо[2], выдатны майстар сваёй справы, віцебская, размячае ўжо мой зборнік. З Лявонам, дзякуй яму, паспеў дадаць верш «Да беларусаў свету». Паставілі апошнім. Паправіў верш: «з 300 Хірасім на Беларусь прыпала 210» [верш «Жалоба»]. Гэта важна. З Лявонам гаварылі, што нашыя няшчасныя маладыя не ведаюць натуральнае мовы, штучна выдумляюць словы накшталт *сумоўе*. Яны не чулі натуральнае мовы, не ведаюць каранёў, усё вынік сталінізацыі і кэдэбізацыі.

---

[1] Бумажкова Таццяна Макараўна, беларускі журналіст; на самой справе заснавальнік і гал. рэдактар газ. «Славянские ведомости» (90-я гг.).

[2] Шлапо Ларыса Мікалаеўна, тэхнічны рэдактар выд-ва «Мастацкя літаратура».

*7 чэрвеня, пятніца*

На *Ушачу!* Пятрок кажа, што не чуць ні кукулак, ні ластавак не відаць. Вераб'ёў даўно ўжо звялі. Хімія ідэалагічная і хімія ў прымяненні да глебы і паветра аб'ядналіся разам. Знішчэнне душы і ўсяго жывога — мэта заклятага сацыялізму, як бы яго ні называлі, ці лагерным, ці быццам бы з чалавечым абліччам, а лепей з абліччам вылюдка! Глыбінкі — крыніцы нацыі, усяго нацыянальнага ў побыце і думках знішчылі п'янкай, нішчымніцай, чэргамі па самае неабходнае, нават для біялагічнага жыцця.

*8 чэрвеня, субота*

Ушача. Пахадзілі з Зайцам па магазінах. Таксама пуста, як і ў Мінску. Цэны шалёныя. Запрасіў суседа Бялеуша на шкляначку гарэлкі. Пятрок у сваім рэпертуары — п'е да ўпору. Дождж. Вечарам цішыня. З алешніка салаўі. Яшчэ іх хімія не звяла. У нас у гародзе вожык смела ішоў і ад густой травы мокры здаваўся зеленкаватага колеру. Хоць жывое нешта ёсць. Бацькаў вяз перарос і бацьку, і мяне перарос, перашумеў[1]. Цэлы зялёны космас.

*9 чэрвеня, нядзеля*

Свята беларускага мастацтва — так назвалі ўшацкія выступленне на эстрадзе ў сквэрыку пад невялікім дажджом. Людзей мала, як у Францыі на вечарах паэзіі. Ушача, што ні кажы, таксамам Еўропа. Бальшына людзей там, дзе нешта даюць, дзе піва і да піва. Сустрэў знаёмых школьных: Канстанцін Паўлавіч Баразна, настаўнік мой, які заахвоціў мяне да вершаў, да літаратуры, дужа пастарэў, мае 81 год. Узрост ладны. І паводзіць сябе ў адпаведнасці з узростам. Калі [я] выйшаў чытаць вершы, і сам адчуў свой узрост. Няма ўпэўненасці, адчуваеш усю ўмоўнасць урачыстасці, што нікому нічога не трэба. Самасуцяшэнне ў Мінску, што мы некаму патрэбныя. Праўда, па абедзе ў новым рэстаране дзяўчаты з культуры распагодзілі настрой, з добрым вымаўленнем гавораць пабеларуску, гавораць лёгка. Хоць нейкая надзея не тухне.

Заходзіў дамоў да мяне Змітрок Міхейка, марак, разам вучыліся. Ён у Уладзівастоку на навукова-даследчым судне плавае. Брат маладзейшы — капітан I рангу. Ушацкіх здаўна цягнула да мора. Гэты Міхейка ўзначальваў лепшую партарганізацыю па Далёкаўсходняму флоту і год назад ці два здаў партбілет, бо нельга, казаў, верыць у прывід. Дайшло і да маіх землякоў на краі земляў імперыі, што партыя злачынцаў нічога акрамя тэрору не можа.

Вечарам гэтак добра — цёхкаюць салаўі, ціхі дождж, як класічны верш гучыць, трава на вачах расце. Сакавіта. Свежа. Зелена. Толькі дома.

---

[1] Гл.: Вечар бацькавага вяза (10–13.06.91, Ушачы — Мінск) // Евангелле ад Мамы. С. 62.

*10 чэрвеня, панядзелак*

Сёння дзень нараджэння мамы. З раніцы пайшоў на Бутаўскі магільнік. Дадждыць. Мокрая трава. І гэтакі спакой ля магілы, якога не было ў яе жыцці ніколі. Хай бы мне сённяшні розум ды тады, калі жыла мама. Колькі не пачуў, колькі не зразумеў, колькі не запісаў! Відаць, толькі застаешся адзін, тады разумець пачынаеш маці, разумець самоту сваю, разумець, што толькі адзін чалавек у свеце бывае шчыры да цябе, чалавек, які падарыў табе самае дарагое ў свеце — жыццё, які падарыў разам з жыццём свет.

Райвыканком даў «Волгу», і як пана з песняй адвезлі ў Мінск. Ехалі не дарогай — ехалі ў сакаўным леце, якое кароткае, што і жыццё нашае, таму такое і жаданае. Вечарам званіў Уладзімір Паўлаў. Памёр Уладзімір Шахавец.

*11 чэрвеня, аўторак*

Пахаванне Шахаўца. У нашым азвераным грамадстве, якое, пачынаючы з 17-га года, азверыла партыя, звыклі мы збірацца з нагоды дзвюх датаў. На дзень нараджэння, юбілей — шмат людзей. І на дзень смерці — людзей звычайна мала. Хоць на Шахаўца людзей трохі было. Чалавек быў залаты, пухам яму зямелька! Менее добрых людзей, более пагані.

Прыходзіў Косця. З Ілонай справы кепскія. Заходзіў да Навума. Вечарам званю Васілю. Ён прыехаў з Германіі, па 500 км па аўтабанах. Жылі ў сутарэннях (і тут нямецкае слова ў нашую мову заскочыла). Кажу, што 5 ліпеня ўнучцы Домначцы будзе 2 гады. Васіль з іранічнай быкаўскай сур'ёзнасцю раіць заказаць рэстаран.

*12 чэрвеня, серада*

Рада ў Саюзе пісьменнікаў. Прыём. Прэміі. Гублер[1], вядома ж, не прайшоў. Дужа мацнее антысемітызм. Пад гарачую руку і Зміцер Колас[2], перакладчык [...]. Хацеў, каб прэмію далі Лявону Дранько-Майсюку — не атрымалася. Атрымаў Кусянкоў[3], імя Мележа — Сачанка за публікацыі [...] матэрыялаў. Прыходзіў на раду Дзямчук[4], цяпер ён Мазаіхай [Мазай] працуе. [...], цэкоўскі прыкарытнік. Петрашкевіч папёр на Энцыклапе-

---

[1] Гублер Навум Якаўлевіч (н. 1933), беларускі пісьменнік. Жыве ў ЗША.

[2] Колас Зміцер Георгіевіч (н. 1957), беларускі перакладчык; выкладчык. Сын Г. Коласа.

[3] Кусянкоў Мікола (Мікалай Сяргеевіч; 1935–2004), беларускі пісьменнік. З 1985 г. нам. галоўнага рэдактара выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі імя А. Куляшова (1991), Дзяржаўнай прэміі РБ (2000).

[4] Дзямчук Міхаіл Іванавіч (н. 1946), беларускі дзяржаўны дзеяч; фізік. У 1988–1991 гг. міністр адукацыі, у 1991–1994 гг. нам. старшыні СМ БССР. Доктар фізіка-матэматычных навук (1983), член-карэспандэнт АН БССР (1986). Прафесар (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

дыю. Яўна яго хочуць на пенсію, а [...] не хоча. У саюз прынялі Куртаніч[1], Скоблу[2], Казловага[3], Ігара Жука[4]. Невялікая вячэра. З дому нехта прынёс сала і кручонікаў нарабілі. Гэта неяк міла на фоне савецкай галечы. Гарэлкі было досыць. Сыс мне прынёс напітак персанальны. «Хто высах, хто азыз, Адзін крамяны Сыс!»

*13 чэрвеня, чацвер*

Не магу ачухацца ад рады. Га.наеды нашыя пісьменнікі, драбната. Бедны Каршукоў[5] баіцца, каб пасля партыйнай маёмасці не ўзяліся і за асабістую. КДБ дало ўстаноўку наконт партмаёмасці. А што ў Каршукова апрача гнідаў, якіх ён ушчаміўшы сядзіць, можна канфіскаваць? А чаго варты парт[...] Петрашкевіч. Нікчэмнасць з ЦК партыі злачынцаў. Перад начальнікам на свайго ліць памыі. Гэта па-партыйнаму. Дзе можна падняць літаратуру з драбнатой, і атрымліваецца дземянцееўшчына паўсюль.

*14 чэрвеня, пятніца*

Да Васіля. Ён прыехаў з Германіі. Умовы не вельмі былі. Былі і на ласкавым хлебе. Ён начуе ў сутарэнні ў нейкага паштовага чыноўніка, а пасля чыноўнік купляе таўшчэнны двухтомнік Васіля і нейкая ніякаватасць між імі ўсталёўваецца. Гордаму Васілю, вядома, такое гасцяванне не магло падабацца. Гэта масквічам — міжнародным вераб'ям там радзіма, дзе кормяць. Яны паўсюль дома, вечныя папрашалы і абіралы. Наконт Брыля казаў: «Абгаблёўвае кожную фразу ў чаканні, што вечнасць ацэніць. Убаку ад усіх падзей. У мяне, — кажа Васіль, — любы сказ можна правіць». Сышліся на думцы, каго не ведалі пры жыцці, не будуць ведаць і пасля.

Васіль лічыць, што выбары прэзідэнта не да часу. Гады праз тры можна б было выбраць Зянона, а цяпер ён не пройдзе ні на бальшавісцкім

---

[1] Куртаніч Вольга (сапр. Мешчаракова Вольга Іванаўна; н. 1963), беларуская пісьменніца. З 1987 г. супрацоўніца выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Скобла Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч; н. 1966), беларускі паэт, літаратуразнавец, эсэіст, публіцыст. У 1984 і (пасля арміі) 1987–1991 гг. студэнт філфака БДУ, у 1991–1995 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Роднае слова». Лаўрэат Літаратурнай прэміі ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2000).

[3] Казловіч Анатоль Мікалаевіч (1946–2011), беларускі журналіст, нарысіст, паэт, дакументаліст, сцэнарыст. У 1977–2001 гг. заг. карэспандэнцкага пункта «Литературной газеты» па Беларусі.

[4] Жук Ігар Васільевіч (1957–2017), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Дэкан факультэта філалогіі і культуры Гродзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы.

[5] Каршукоў Яўген Іванавіч (н. 1932), беларускі празаік, перакладчык. З 1989 г. кансультант СП БССР.

Вярхсавеце, ні пры ўсенародным вырашэнні. Перамогуць апаратчыкі з партыі злачынцаў. «Паслядоўнасць: Чалавек гадуе гавяду…» [у дзённіку]. Гаварылі яшчэ з Васілём наконт новай змены, якая ўсё да іх адмятае, але таксама не мае будучыню, бо не мае свайго чытача нацыянальнага. Усё інтэлектуальнае ў бальшыне сваёй пакуль рускамоўнае і рускаўспрымальнае.

*15 чэрвеня, субота*

Раніцай іду з хлебам каля сваёй высокай мураванкі. Недзе з балкона крычыць нехта: «Бураўкін». І паўтарае. Божа мой, да магілы будуць блытаць, як некалі Броўку з Глебкам[1]. Пераглядаў запісы ўшацкіх слоў, выразаў. Усё думаю, як зрабіць нетрадыцыйны слоўнік «Словы матчыны з Вушаччыны». Можа, так назваць?

*16 чэрвеня, нядзеля*

На Камароўку. Крыху смачнага для Домначкі. Цэны шалёныя, як камуністычны лад. Лаўлю сябе на думцы, што ў Мінску ўжо хаджу, як у Штатах ці ў Францыі — нічога ўжо прыстойнага купіць не магу, хіба паглядзець. Такім чынам наблізіліся мы да Захаду. Вечарам хадзіў да Навума. Надзя зноў не паступіла. Навум перажывае за пляменніцу. Адзін. Самотны. Забыты. Мая будучыня. «Адзінадушша»[2].

*17 чэрвеня, панядзелак*

Білет на Рыгу. Сазваніўся з Андрысам Веянам, ён сустрэне. Распадаецца саўімперыя і распадаюцца традыцыйныя сувязі. Пры ўсёй казённасці паездак, дэкад ішоў і другі план па прыязнасці, па душэўнасці. Многа было сяброў сапраўдных у калоніях імперыі, якія называліся і яшчэ прадаўжаюць называцца рэспублікамі. Цяпер абломкі імперыі яшчэ моцна трымае цэмент КДБ і партыі злачынцаў.

*18 чэрвеня, аўторак*

Прыйшоў ліст са славянскага ПЭНа. Там мадэль імперыі той самай. Не хочуць выпускаць рэспублікі на волю. Заходзіў Ан. Белы. Ён разам робіць з […] Нінай Іванаўнай Гілевічыхай[3]. Крыўдзілася, што недаацэньваюць Цыбатага. Ён жа, бачыце, разам з Б. Алейнікам за нацыю (пад крылом партыі злачынцаў абавязкова) выступаў. А цяпер кішанёвы клоун «імпе-

---

[1] Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905–1969), беларускі паэт, нарысіст, крытык і публіцыст. Акадэмік АН БССР (1957).

[2] Гл.: Савось Авось. Хвіліна мычання (Жывёльная лірыка): Адзінадушша (16.06.91) // Дзень паэзіі-92. Мінск, 1992. С. 179.

[3] Гілевіч Ніна Іванаўна (1931–2003), выкладчык філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук. Жонка Н. Гілевіча.

ратара» аж у Крамлі разам з «імператарам» сядзіць. «А і Ніл жа там мой сядзіць». Блакітная мара ідыёта [...]. Барацьба за беларускае для Ніла толькі шырма, фон [...]. А то гэтулькі прыкідваўся дэмакратам!

*19 чэрвеня, серада*

*Рыга!* Зноў я ў дужа любімым сэрцу майму месце. Сустрэў Андрыс Веян. Падаліся ў гатэль «Viktoria». Там сказалі — толькі пасля 12-ці. Гляджу ўказальнікі туалетаў. Значыць, хоць царскі яшчэ гатэль, без усіх выгод ды яшчэ разам з нейкімі спартсменамі змесцяць. Паехалі ў *Дубулты.* Далі мне 89-ты пакой. Мора аж просіцца ў пакой. Зноў бачу, зноў чую, як дыхае святая Балтыка. Тут Межыраў, Храмаў, Турбіна з дачкой. У Рызе ў выдавецтве «Rakstieks» забраў фотанабор Максіма Багдановіча палатышску, па-латыську, як казала мая мама некалі. Віктар хоць запіў, але дамовіўся наконт набору, ён жа і ўклаў і пераклаў частку, а частку Андрыс. Латвія таксама разгубілася, толькі цэны на ўсё не разгубіліся. Растуць і растуць, як некалі ў прэсе дабрабыт савецкіх працоўных — рабоў імперыі. Сервіс і ў кааператывах з савецкім мышленнем і савецкімі ўхваткамі. Паэты ж апынуліся на вуліцы. Нікому не трэба ні вершы, ні паэмы. І паэт ссі сабе лапу і зайздросці кааператарам і бізнесменам. «Квактуха»[1].

*20 чэрвеня, чацвер*

Dubulti. Прыязджаў двойчы Віктар Ліўземніек, прывёз змест і арыгіналы Багдановіча. Праводзіў яго. Каля станцыі ў чароце вывадак качыны. Праз палатно да нас прыбег чорны коцік з белым гальштукам. Відаць, засумаваў адзін у траве. Далі хлеба. Не еў. Проста захацелася з людзьмі пабыць. Такому даверліваму нельга быць у наш час. Заб'юць, скалечаць бедненькага. Віктар п'е і не можа спыніцца. Шкада, бо дужа таленавіты.

*21 чэрвеня, пятніца*

Dubulti. З Андрысам Веянам зрабілі змест перакладаў Багдановіча. Праводзіў сябра. Калі яшчэ пабачымся. Адчуваю сябе кепска, ці застуда, ці, можа, магнітныя буры. А ўсё гэта, карацей, кажацца — гады′, як га́ды, цiснуць, бяруць сваё. Як ні харахорся — з кірмашу ісці невясёла.

*22 чэрвеня, субота*

Dubulti. Дзень пачатку вайны, якая забрала бацьку, маму раней часу зжыла са свету. Учора «імператар» звярнуўся да жыхароў імперыі і зноў пра вераломны напад, зноў пра гераізм. Коль[2] дык хоць прызнаў, што

---

[1] Гл.: Квактуха (19.06.91, Дубулты) // Евангелле ад Мамы. С. 128.

[2] Коль Гельмут (1930–2017), германскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Доктар філасофіі. У 1982–1998 гг. федэральны канцлер ФРГ.

палітыка фашысцкая прывяла Германію да бяды. А наш «імператар» і словам не заікнуўся, хто прывёў да вайны. Калі б не было бальшавізму, не было б падтрымкі і фашызму і г. д. Ніхто ўжо на вуліцах і на пляжах не помніць і помніць не хоча вайну. Свае клопаты, свае радасці, свае згрызоты.

Прыязджаў Віктар з англічанінам з беларускім прозвішчам: Фердынанд Русак, ведае 60 моваў, дужа цікавіцца беларускай, відаць, кліч крыві ўсё-ткі ёсць. Падарыў яму «Новы Запавет» па-беларуску. Хоча беларускую біблію. Параіў звярнуцца да айца Надсана, яму ў Англіі беларускую біблію лягчэй здабыць, чымся мне ў Беларусі. Успамінаў, як чуў радыё: «Гаворыць Менск». Нешта ўсё ж цягнула душу да спаконнага, хоць вучыўся ў рускай гімназіі ў Рызе, хатняй мовай была нямецкая, латышскую вывучаў сам. У Віктара адразу накінуўся чытаць беларускія народныя казкі ў арыгінале.

Званіў дамоў [...] «Здаецца, сам сабе я знадакучыў...»[1] На душы цяжка. Ці я дужа хворы, ці я дужа стары, ці я дужа стомлены, забеганы, запыханы. Дзе спакой? Няўжо толькі там?

*23 чэрвеня, нядзеля*

Dubulti. Апошні дзень неба з морам мяняюцца, аж не разбярэш, дзе адно, дзе другое, за маім акном. Перачытаў Максіма Багдановіча. Гэта той паэт, які вечна з табой, вечна вядомы і вечна новы. Гэта тая класіка, без якой няма нацыі, няма народа — ніколі не знадакучыць, ніколі не састарэе. Жыў як паэт і памёр як паэт, і паэтам застаўся навечна. Балтыка нашэптвае мне параўнаць радкі Максіма Багдановіча з бурштынам. Усё сонца, уся лютасць агню ў глыбіні, і не гасне, не астыне з вякамі. Гэта Паэзія. Пішу сумныя радкі[2].

**** Паэзія разводу не дае.*

*24 чэрвеня, панядзелак*

Dubulti. Кінуў ў мора капейку срэбную (белую), чайкам пакрышыў акрайчык хлеба. Хачу, каб зноў вярнуцца сюды. На Рыгу. У духаце да Мінска. Пад Маладзечна пад'язджалі, нейкая маладзіца шукала праваднічку. Як гэта па-беларуску — праваднічка. І ласкавасць у форме, і пашана. У дарозе дачытаў «Чонкіна»[3]. Зацягнуты фельетон. Мясцінамі не можаш сябе стрымаць ад смеху. [...]

---

[1] Гл.: «Сам ад сябе з дакукі лямантую...» (22.06.91, Дубулты) // Евангелле ад Мамы. С. 368.

[2] Гл.: «Чым больш старэю...» (23.06.91, Дубулты) // Евангелле ад Мамы. С. 302.

[3] Раман У. Вайновіча «Жыццё і і незвычайныя прыгоды салдата Івана Чонкіна» (1969–1975). *Вайновіч* Уладзімір Мікалаевіч (1932–2018), рускі пісьменнік. Быў высланы з СССР. У 1980–1990 гг. жыў у ЗША і ФРГ. У 1992 г. вярнуўся ў Расію.

*25 чэрвеня, аўторак*

На працу. Засядалі. Званіў Артханаў. Радзік мне купіў цудоўныя кнігі. Дзякуй яму, майму маладому сябру.

*26 чэрвеня, серада*

У Палацы мастацтва выстава дыпломных работ нашых мастакоў. Добрая графіка. Ёсць і жывапіс някепскі. Увогуле, патроху ўсё хіліцца ў нацыянальны бок. Расійскае тэле перадало, што падонкі амонаўцы захапілі тэлеграф у Вільнюсе і Каўнасе. Ясна, у чыёй руцэ павадок, шворка ад гэтых сабак — у кэдэбістаў.

*27 чэрвеня, чацвер*

Прыязджаў гаротнік Прохараў[1] з Оршы з дачушкай Светай. У раёне кражы, безвыходнасць. Добра, што яшчэ захаваліся чыстыя, светлыя ў даверы сваім людзі, як Прохараў. Нацыя дае ўжо свету падскрэбкаў. Дзяжа не трымае ўжо кіслі′.

*28 чэрвеня, пятніца*

Пад вечар Валі прынеслі талоны, якія гарац, на віно і гарэлку. Палову горада абгаляпаў з хворымі нагамі, нічога нідзе. Затое ля вінарных аддзелаў тыпы, вартыя геніяльных пэндзляў.

*29 чэрвеня, субота*

Валя паехала ў «Іслач». Я не магу туды ездзіць з-за мордаў накшталт [...] Грахоўскага. Званіў Васіль, пытаўся тэлефон майстра па друкачках. У яго быў стары. Стаіць спёка, і ў мяне, як быццам у чалавека поўдня, душна і пуста адпаведна.

*30 чэрвеня, нядзеля*

Апошні дзень месяца. Дзякуй, Чэрвень, што быў спагадлівы да мяне, не дужа ціснуў хваробамі. Апошнія дні чытаў і «Маладосць», і «Беларусь». Прэса нашая слабавата-нецікавая, няма інтэлектуальнага патэнцыялу. А прымусіць чытаць толькі з-за патрыятызму немагчыма.

*1 ліпеня, панядзелак*

На працу. У нас пытанні па карэктуры здымаў гайнаўскі [... Гілевіч]. Маланкай па загаду набралі два тамы пустаты і яшчэ зборнік без плану. Запісаўся на радыё, запісаў некалькі слоў на Маскву пра Лявона Дранько. «Зноў ісціна...»[2]

---

[1] Прохараў Анатоль Васільевіч, беларускі паэт.

[2] Гл.: «Зноў ісціна з прадоння цемры выплыве...» (1.07.91) // Евангелле ад Мамы. С. 274.

*2 ліпеня, аўторак*

Праца. Зарплата. Званіў Зайцу ў «Ісланч». Суседа Згурскага[1] абрабавалі белым днём. «Паэма, закончаная толькі што…»[2]

*3 ліпеня, серада*

Ад спёкі, здаецца, растанеш, як здор на патэльні. Усё гарыць і на двары, і ўнутры. З Радзікам хадзіў у аптэку. На працы забраў перадрук Максіма Багдановіча. Да ночы сядзеў разбіраў. Трэба, каб сёлета двухмоўны томік выйшаў да юбілею.

*4 ліпеня, чацвер*

Праз Рэма Додзіку [перадаў] «малютку» Шагала. Да Навума — узяў пераклады. Толькі майскі нумар «Нёмана» выйшаў. Дзякуй Тáрасу, добра пераклаў падборку. Ад спёкі, як ад сацыялізму ў імперыі, няма куды ўцячы. Дадушыць.

*5 ліпеня, пятніца*

Сёння 2 гады Домначцы. Нідзе ніяк не дазваніцца […]. Божанька, беражы маё зернятка на араллі жыцьця. А па старым правапісе лепей — жыцьця, сцьвярджэнне ёсць жыць! Хадзіў на радыё, запісваў вершы на Маскву і пераклады Сэсара Вальехі. Вечарам да Дранько-Майсюка. Перадачу Валі. Лявон чытае Ясеніна. Пачаставаў мяне бацькавымі памідорамі, расолам і кавай. Дзівосны пачастунак.

*6 ліпеня, субота*

На радыё (маладзіца з Віцебшчыны) Купалле:

А хто ў нас да дзевак лас?
А ў нас Васілька да дзевак лас.
Узлез на елку,
Думаў — на дзеўку,
Узяў за сукі,
Думаў — за рукі,
Узяў за шышкі,
Думаў — за сіські.
Зваліўся з елкі,
Думаў, што з дзеўкі.

Прымусілі маладзіцу замяніць — і тым псаваць рыфму, якая дужа звязвае сэнсава-гукава, — сіські на цыцкі. Савецкая цнатлівасць. Як бы-

---

[1] Згурскі Грыгорый Антонавіч, нам. дырэктара па вытворчасці выд-ва «Юнацтва».
[2] Гл.: «Паэма, закончаная толькі што…» (2.07.91) // Евангелле ад Мамы. С. 215.

ццам дзеці нараджаюцца ад пастаноў ЦК партыі злачынцаў. Для купальскага радыёмарафону напісаў «Купалле»[1]. Выступіў, прачытаў. На пытанне, калі на Беларусі зацвіце папараць-кветка, адказаў: «Калі стане вольнай, роўнай Еўропе і ў свеце, а не ў складзе савецкай імперыі». Перада мной выступіў Зянон, як заўсягды па-зянонаўску. Нейкі адстаўнік-кэдэбіст не выцерпеў і пазваніў Сямашку[2], ці ёсць там рэдактар, што робіцца? Сямашка адказаў добра: «Не толькі рэдактар ёсць, але і галоўны». Настрой і мне, і Пётру Садоўскаму сапсавала дырэктрыса школы № 26, на якую пад будучы Нацыянальны мастацкі беларускі ліцэй збіралі ахвяраванні. Пічужка з Палесся, відаць, жонка адстаўніка-кэдэбіста, толькі по-рюсски шчабеча.

*7 ліпеня, нядзеля*

Званіў Васіль. Расхваляваны: створана камісія па перагляду Курапатаў. Ужо, бачыш ты, не доблесныя савецкія чэкісты, а немцы расстрэльвалі. Кэдэбісты ўслед за партыяй злачынцаў вылязаюць з акопаў. У Мінску ў Палітпросе два дні будзе кукарэкаць парт[…] Андрэева. Яшчэ і пасланнікі Юрыя Бондарава[3] з «Садружнасці» сюды ж, у Вандэю беларускую, прыляцелі. Рэспубліка — апошні фарпост чорных сілаў. Ганебна і крыўдна. Але ж ва ўладзе то […] сакаловы, то мардары малафеевы.

*8 ліпеня, панядзелак*

На працу. Спёка. Да Навума. Нічога не магу рабіць. Не паўднёвы я ўсёткі чалавек. Мазгам маім трэба холад. Сазваніўся з Бураўкіным. Заўтра, можа, сустрэнемся па пэнаўскіх і сяброўскіх пытаннях.

*9 ліпеня, аўторак*

Праца. Сустрэча з Бураўкіным. Пайшлі з Карласам. Нарэшце Генадзю стала зразумела, што такое Ніл Гілевіч. Юля ўзрадавалася, пра сябе пачуўшы слова Заборава. На ўсіх узроўнях свае клопаты. Двое дзяцей у Генадзя. Пры велізарнай кватэры пытанне кватэраў дзецям і ў яго ёсць і будзе. Ніл, выходзіць, настойваў, каб сельсавет ставіў помнік бацьку — актывісту, сельсаветчыку-сталінцу. Генадзь увесь у палітыцы, у маркоце чыноўных клопатаў, а ён жа паэт. «Засмяглы ліпеньскі ліст…» [у дзённіку].

---

[1] Гл.: Купалле (6.07.91) // Евангелле ад Мамы. С. 308.

[2] Сямашка Віталь, рэдактар на Белрадыё.

[3] Бондараў Юрый Васільевіч (н. 1924), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі імя братоў Васільевых (1975), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1983), Міжнароднай прэміі імя М. Шолахава (1994), Вялікай літаратурнай прэміі Расіі (2012), Дзяржаўнай прэміі імя маршала Савецкага Саюза Г. Жукава (2014).

*10 ліпеня, серада*

На працы сустрэча з Карласам, з Рэмам. Рэм прыехаў з Віцебска. Вечарам званіў Васіль. Заўтра ведзьмін дзень. З песімізмам глядзіць Васіль на будучае нашае культуры, мовы. Згодзен ён з думкай Зянона, які выступаў у «Ліры» [тэлепраграме].

*11 ліпеня, чацвер*

Канаю ад галаўнога болю, водзіць убакі, як Ніла ад уяўнай славы. Думаю з дурной, цяжкой галавой над вершам пра Грунвальд. Як мала трэба, каб адразу задумацца над сваёй імгненнасцю.

*12 ліпеня, пятніца*

На працу. Чытаю як рэдактар тома Язэпа Пушчу. Які з яго вырас тонкі, гнуткі, па-сапраўднаму лірычны, дужа беларускі паэт. А то атрымліваецца, на самай завязі, на самых пупышках скасілі. А потым пажыў мала, дый ужо, відаць, не ён жыў, а страх, што ўвагналі ў нутро кэдэбісты-нелюдзі, жыў за паэта яго страх. Успамінаецца, як у час чарговага з’езда Саюза пісьменнікаў па традыцыі быў афіцыйны прыём. У цэнтры каля партыйных бульдогаў прыслужнікі, літвыжлы, боталізы. А ў самым канцы стала спалоханы сельскі настаўнік постаццю і выглядам, хворы-хворы паэт Язэп Пушча. Мы з Нядзведскім[1], маладыя і п’яныя, а таму рашуча смелыя, падышлі да Язэпа і паднялі за яго (а халуі за партыю ля партбульдогаў пілі). Ён шчыра і па-дзіцячы непрытульна заплакаў. Увесь час думаю, ці такі добры нюх быў у кэдэбістаў, ці такія добрыя кансультанты былі, што ніводнага таленавітага не пакінулі, усіх падграблі. Бездар засталася наядаць морды і насядаць зады.

*13 ліпеня, субота*

Сойм БНФ. Пачынае *Зянон:* «Рэпрэсіі супроць БНФ. Арыштаваны Валеры Сядоў. Ён толькі як адзінкавы факт наступу на дэмакратыю».

*Міхась Ткачоў* — каб дэпутаты ўсё-ткі стаялі ў пікетах, а Зянон лічыць, што гэта не дэпутацкая праца.

*Зміцер Абразцоў*[2] з Вілейшчыны: «З БНФ не хочуць гаварыць, раз не ідзе размова пра зброю».

*Уладзімір Заблоцкі*: «Пра незалежнасць Беларусі. Стварэнне такіх умоў, калі беларускі народ стане носьбітам суверэнітэту, культурнанораўнае асяроддзе стварыць. Новыя выбары. Патрэбны іншы склад Вярхсавета ці канстытуцыю новую, ці праз рэферэндум можна зрабіць новыя выбары. Саюзны дагавор прынялі недапушчальны тэкст: дзяржа-

---

[1] Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч (1929–1973), беларускі паэт.

[2] Абразцоў Зміцер, інжынер-металург завода «Зеніт».

ва ў дзяржаве — гэта вечная барацьба адной дзяржавы супроць другой. Ці зможа эканамічна існаваць рэспубліка самастойна і разлічыцца з даўгамі. У нас ёсць рэзервы. Ці зможа прадукцыя Беларусі канкурыраваць на заходнім рынку. Напачатку не можа. Толькі абмежаваная можа. Ідэя Балта-Чарнаморскага аб'яднання існуе. Можа, прывядзецца ўводзіць і ўласную валюту. Без інвестыцый рэспубліка не выйдзе на рынак. Сацыял-дэмакратычныя асновы рынку. І прыватызацыя зямлі і жытла. Суадносіны грамадзянства Беларусі з саюзным. Незалежнасць паступовая. Народ мусіць усвядоміць неабходнасць незалежнасці. Па дагавору не застаецца і прызнакаў суверэнітэту рэспублік. Вушы адзінага дзяржаўнага вытыркаюцца».

*Папкоў*[1]*:* «Да незалежнасці мы прыйдзем не сваім жаданнем, нас прывядзе да яе і ўрад верху, і ўрад рэспублікі. Частка камуністаў і іх дзяцей, якія не могуць займацца камерцыяй, як іншыя. Яны ўсё тармозяць. Інтэлект увесь у эканоміцы саюзнага падначалення. Важна падрыхтоўка людзей да рынку. Дэмакратызацыя сельскай гаспадаркі дасць дэмакратычны зрух усёй эканомікі, бо сучасная сельская гаспадарка — аснова партакратыі».

*Голубеў*[2]*:* «Адмова ад развіцця вёскі, буйнейшыя гіганты, каб адцягнуць патэнцыял вёскі, завязка на іншыя рэгіёны. Неабавязкова эканамічная незалежнасць адэкватная палітычнай незалежнасці. Няма поўнасцю эканамічна незалежных дзяржаваў. Камуністы хочуць скарыстаць ідэю незалежнасці, але толькі ў складзе СССР. КПБ — КПСС могуць існаваць толькі ў імперскай сістэме. Яны пра два суверэнітэты рэспублікі саюза кажуць, хоць гэта несумяшчальна. Людзі ўсведамляюць, што ратавацца мусяць самі. Пры дапамозе камуніста прэзідэнта ўладкаваць усю партнаменклатуру. БНФ бачыць Беларусь як парламенцкую рэспубліку. Цяпер прэзідэнт не зможа працаваць на незалежнасць. Прафесійны парламент. Цяпер саветы нічога не вырашаюць. Прамыя выбары парламента і мэраў, старостаў. Можна і канфедэрацыйны саюз. Будзе рэзкая змена ў рэспубліцы. Новая канстытуцыя дасць магчымасць новых шматпартыйных выбараў. Можа быць новы ўздым народнага руху, бо пагоршыцца жыццё. Гэта дасць магчымасць новых выбараў на шматпартыйнай аснове. Новы дагавор страшней за [дагавор] 1922 г. Спроба ўсе камуністычныя жахі замацаваць заканадаўча».

*Пазняк:* «Калі ствараўся БНФ, пытанне аб незалежнасці так не ставілася. Канфедыратыяльнае аб'яднанне гучала рэвалюцыйнай тэзай.

[1] Папкоў Сяргей Пятровіч (н. 1940), у 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

[2] Голубеў Валянцін Фёдаравіч (н. 1955), беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (2012). Прафесар (2014). У 1990–1992 гг. ст. навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

У канцы 89-га ў семінарах ідэя незалежнасці [абмяркоўвалася]. На рэферэндуме больш за мільён беларусаў выказалася за незалежнасць, гэта ўплыў працы БНФ. Красавіцкія страйкі паказалі, што ідэя дэпартызацыі не заглухла. Апошні этап Саюзнага дагавора. Нейтральная, бяз'ядзерная дзяржава Беларусь! Палітычна прыцягальны і зручны для нас тэзіс. Бралі пазіцыі, распрацаваныя Радай БНР. Альтэрнатыўныя сілы за падпісанне Саюзнага дагавора, бо ён кансалідуе наменклатуру. У большасці людзей ілюзіі наконт Саюзнага дагавора. Другая пазіцыя наменклатуры — прэзідэнцтва. Яна ўзнікла асабліва пасля страйкаў. Ціхі дзяржаўны пераварот. Тут наменклатура не так з'ядналая. На першым раундзе гэтая палітыка правалілася. Прэзідэнцтва выгадна наменклатуры, пакуль існуе яе ўлада, аўтаматычна яны атрымліваюць паўнату ўлады. Ідэя парламенцкай рэспублікі. А ідэя ўстаноўчага а пачатку ХХ стагоддзя. А наменклатура (яна ва ўладзе) паказвае на Расію, Грузію, бачыць — там жа прэзідэнт».

Спадар *Хадыка.* Пра формы дэмакратыі. «Законы тымі людзьмі змяняюцца, якія выбіраюцца па закону. Узнікае алігархія, палітычная манаполія. Алігархія параджае дыктатуру ці тыранію. Чалавек робіцца дзяржаўным рабом. Тыран стварае спадчынную манархію. Ідэалогія толькі вызначае кола асобаў, якія канстытуцыйна выконвалі волю тырана. Тут ужо узнікла імперыя. Выбары ў нас прайшлі з падачы алігархіі. Гарбачова на пасаду падсадзіў клан. Яго прэзідэнства хутчэй нагадвае дыктатуру, якая абмежавана алігархічным Вярхсаветам. Кандыдатура прэзідэнта павінна быць адна, але каб яго ведалі, каб быў ён маральна чысты, не звязаны з партакратыяй».

*Лявон Баршчэўскі*: «У свядомасць народа ўкладваюць некалькі блокаў, не распыляцца».

*Кулік:* «Наконт прэзідэнтства і Саветаў, бо Саветы поўнасцю непрафесійныя, самадзейныя».

*Абразцоў:* «У таталітарным грамадстве не патрэбны інтэлект, асоба гіне ў гэтых умовах. Залежнасць ад сваёй дзейнасці і зямлі, на якой жывеш. Бо пры таталітарным рэжыме чалавек спадзяваецца на дзяржаву».

Пасля дыскусій *Пазняк*: «Трэба дапамагаць сялянскай партыі. Падатак 5,5 млрд з абароту. А падатак на армію, амаль 40 % падатку на чужое войска. Балтыйска-Чарнаморская садружнасць — БЧС. Рэлігійна-канфесійнае пытанне ў БНФ правалена. Супроць дэмакратычнага руху канфесійнае насельніцтва. Сабраць канферэнцыю па пытанню незалежнасці і канфесійнай палітыкі».

*14 ліпеня, нядзеля*

У Купалаўскім скверыку імпрэза з нагоды гадавіны бітвы пад Грунвальдам. Людзей малавата. Усе адны і тыя на ўсіх масавасцях. Забег да Навума. Надзя гэтакая ўжо дарослая, значыць, якія мы ўжо старыя. Сёмуху прачытаў слова пра Багдановіча ў двухмоўную кніжыцу, Васіль ухваліў. На сваце чытаў «Грунвальд»[1].

*15 ліпеня, панядзелак*

Праца. Да Пятра Ісаевіча [Ліфшыца]. Яго на месцы не было. Напісаліся па дарозе радкі: «Белорусская Нина Андреева — Нил В странном сне демократом себя возомнил…» [у дзённіку]. Усякая нечысць лезе ў галаву.

*16 ліпеня, аўторак*

На лехі. Да Тáраса. Сядзяць з Рэняй і сочаць, каго ў правадыры Расіі выберуць.

Домначка такая далікатная і кволенькая, аж страшна. Мая апошняя галінка, якой упіраюся ў гэтым свеце ў блакіт.

*17 ліпеня, серада*

Праца. Сустрэча з Карласам. Заўтра, можа, прыме пэнаўцаў Кебіч. Надакучыла бюракратычная лесвіца. Карлас гэта любіць.

*18 ліпеня, чацвер* Цэлы дзень прывязаны да дроту — званю Карласу, а ён памочніку Кебіча. З гэтага рая не выйшла раю. «Мамы не стала — не стала радзімы…»[2] На працы гвалт. Дайнека хоча мяняць кватэру панэльную на цагляную, гэта не тое, што панэльную жонку на цагляную. Хоць невядома, што лепей. У рэдакцыі паэзіі бруд. Выдае Дайнека нейкага Сілкіна са штаба арміі ў Маскве, бо сын ахвіцэр. Без плана з вялікім памерам ідзе сельскагаспадарчы графаман Марозаў[3], бо нечым Дайнеку патрэбны. Тое самае і са Шрубам[4]. Прынцып Дайнекі: а мне пляваць на ўсіх, у мяне сям'я, трэба карміць. Былы лесаруб метады лесапавалу прынёс у літаратуру. А рэкамендаваў яго ў рэдакцыю цішайшы Зуёнак. Прынцыпы ў Васіля — абы яму скразняк не дзьмуў.

---

[1] Гл.: Грунвальд (14.07.91) // Евангелле ад Мамы. С. 101. Верш прысвечаны А. Марачкіну.

[2] Гл.: «Мамы не стала…» (19.07.91) // Евангелле ад Мамы. С. 296.

[3] Марозаў Зміцер Змітравіч (н. 1953), беларускі паэт. З 1986 г. у Дзяржаграпроме Беларусі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988).

[4] Шруб Павел Міхайлавіч (н. 1955), беларускі паэт. З 1983 г. выкладчык-метадыст Мінскай спецыяльнай сярэдняй школы міліцыі.

*19 ліпеня, пятніца*

Зноў калатня з-за кватэры. Не давядзецца ехаць у аўторак у Вушачу, бо трэба засядаць. Чарэпаць вядром укоптур кватэрна-бытавы бруд.

Хадзіў да Навума. У «Знамени юности» цікавы фельетон Уласа Дарашэвіча[1] пра Леніна. Калі б усё было раней даступна. Не гэтак бы глуха шоры засланялі ўсё. Але партыя ўгалоўнікаў стварала савчалавека. І тыя, хто не сядзелі, сядзелі, чакаючы, калі пасадзяць. І невядома, што страшней. А ў нашых членаў СП барацьба, хто ў якой кватэры жыве [...]. *Ніл*гілізм беларускай літаратуры ўключае з сябе шматлікія адхіленні ад нормы чалавечай: ірвачоўства, боталізства, самазакаханасць, вужызм. Усяго не злічыш.

*20 ліпеня, субота*

Выклікаў майстра тэлефона, чакаў, дзяўчаткі службы го.ножующим маладзёжным голасам забыліся. Прыйшоў нарэшце, крутнуў, тэлефон загучаў, выйшаў — тэлефон замаўчаў, усё ў баечную рыфму. Панёс да Навумавага Валянціна [брата Кісліка], той пакорпаўся — гучыць, прынёс дамоў — маўчыць. Званіў Балтакісу наконт Ніды. Запытаўся пра вуліцу Купалы. Яны, выходзіць, змянілі ўсе назвы, пакінулі гістарычныя, нават сваіх пісьменнікаў не пашкадавалі. А мы аднабакова заўсёды інфармуем. «Паэзія»[2].

*21 ліпеня, нядзеля*

Правалэндаўся з тэлефонам. Нічога не атрымалася. Пад вечар пачаў пісаць нізку пародыя-баек «Жывёльная лірыка»[3].

*22 ліпеня, панядзелак*

Сустрэў Валю з «Іслачы». Забегся да Навума. На працы калатня за кватэру. Дайнека паказвае рогі. Крычыць, што ён лаўрэат. Маладзейшыя яшчэ большыя сталінцы. Псіхалогія і мышленне эпохі вялікага бацькі народаў.

*23 ліпеня, аўторак*

Праца. Дачытаў Язэпа Пушчу. І ён, бедалага, агітаваў за сацрэалізм, за авангард рабочай клясы. На сваю галаву. Засядалі наконт кватэры. Дома аж двое знаёмцаў рамантавалі замкі.

---

[1] Дарашэвіч Улас Міхайлавіч (1864–1922), рускі журналіст, тэатральны крытык.

[2] Гл.: Паэзія (20.07.91) // Трэба дома бываць часцей... Мінск, 1993. С. 319.

[3] Гл.: Савось Авось. Хвіліна мычання (Жывёльная лірыка): Байкот; Не патрэбна; Вясной і ўвосень; Заява; Пленум; Пратэкцыя (21.07.91); Сон у руку; Здзяйсненне мары (22.07.91); Абмінай (23.07.91) // Дзень паэзіі-92. С. 179.

*24 ліпеня, серада*

На *Ушачу.* У хаце рамонт. Залу ababілі вагонкай. Чужэе Ушача. Марыя Рыгораўна — мая апошняя абаронка, якая звязвае з усім тым, што грэе далёка ад дому, што жыве ў душы некранута. Душа застаецца, як адзічэлыя яблыні на забытым хутары. Можа, сагрэецца, калі вернецца на мясціны гэтыя ў новым абліччы? Прыходзіў Іван Сцяпанавіч [Роўба]. Дзякуй яму. Бо толькі ягонымі клопатамі маю гэтую новую хату на старым котлішчы.

*25 ліпеня, чацвер*

Ушача. Гарод зарос травой. Марыя Рыгораўна пасвіць казу. Каза хітра навязана. На шыі хусцінка, за хусцінку вяроўка. Пятрок казаў, што па гародзе хадзіў буцян, шукаў жаб. Гэта боскі знак на добрае, раз буцян ходзіць, не мінае хаты. Схадзіў на Ваўчэнскае возера. Не падысці, узрасло і зарасло. Гэта соткі, якія далі мястэчкоўцам. Пакупаўся ў Вечаллі, пішу па інерцыі, пакупаўся я ў Ваўчэнскім возеры. Хораша глядзіцца з вады лінія чаратоў. «Васількі»[1], «Посахам грукаюся ў зямлю…»[2]. Вечарам да Марыі Рыгораўны. За ёй толькі трэба паспяваць запісваць словы і выразы. Не стане яе, застануся без крыніцы, адкуль п’ю свежае слова. Ішоў з возера. На латавіне навязаныя і ненавязаныя галасы — авечкі, козы, каровы. Разам такі аркестр, такі ансамбль, такое суладдзе, бо рознае і сваё. Цягуча, па-хатняму карова, спалохана і цьвялíста авечка, пакрыўджана, да гаспадыні, якая забылася, каза.

*26 ліпеня, пятніца*

Ушача. На возера з Валяй. Купаўся зноў. Вада сцюдзёнаватая. Хутка Ілля. Купілі кавалачак хлеба, думалі — ужо й рыбы няма. Як пачалі дзяўбаць, ласавацца, ганяць па вадзе кавалачак дробныя рыбінкі. Сяджу на гарышчы. Раптам пачуўся тэлефонны званок, сучасна-рэзкі. А гэта каза недзе. Да чаго агараджаніўся, што голас казы гучыць тэлефонам. Вынікі цывілізацыі ў дзеянні недарэчным. Калі ішлі з возера, дык на месцы парасніка, дзе колькі дзесяцігоддзяў стаялі, як прыдуркі, скульптуры 50-х — хлопец і дзяўчына (пра іх казалі: выйшлі з кустоў), узводзяцца такія харомíны, што не зразумееш, ці жыць дамы′, ці ўстановы якія. Спытаўся ў Роўбы, кажа: два старшыні калгаса, начальнік ПМК цяпер стараюцца адгрохаць катэджы, а пасля іх за бесцань у дзяржавы купіць. «У запушчаным…»[3] Пачынаю наноў прывыкаць да зялёнага спакою, да роздумнай няспешнасці, пачынаю прарастаць на сваіх каранях. Асаблі-

---

[1] Гл.: Васількі (25.07.91, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 182.

[2] Гл.: «Быццам у дзверы глухія…» (25–27.07.91, Ушачы) // Тамсама. С. 299.

[3] Гл.: «У запушчаным…» (26.07.91, Ушачы) // Тамсама. С. 258.

ва хараша пазным вечарам. Смялее цішыня, апуджаная і абражаная за дзень грукатам, трэтарам, гáласам. Смялее раса. І душа смялее ў сваёй спакойнай шчырасці.

*27 ліпеня, субота*

«Дзве жанчыны на свеце…»[1] Хадзілі ў Вушачу. Нарасло шчэні і моладзі нахабнай, настырнай, як і ва ўсёй саўімперыі. Днямі слухаў па радыё, як хлусіў Вялюгін. Вершы [… панапісваў] паміж п'янкамі, а вяшчае, што пад час вайны, у якой ён ніколі і не ўдзельнічаў. Хлусня ў жыцці — хлусня ў паэзіі.

Вечарам да Марыі Рыгораўны. Запісваў, як толькі паспяваў, словы, словы, словы. Як мёд п'ю, калі чую ўшацкую, яшчэ ўцалелую ад бальшавізму гаворку. Ад касмічнага да камічнага меней, чым крок. Як пачаўся касмічны бум, наш Пятрок сустрэў паўдурка Пяцюшу, які залатарыў. «Ты яшчэ ўсё сральні чысціш. А ці ведаеш, што ў космас вярбуюць? Вун ужо Гагарын паляцеў». Пяцюша бразь аб зямлю і вядро, і чарпак — і ў пасялковы савет. «Хачу завербавацца ў космас». Дар'я Піліпаўна, камсамолка 20-х гадоў, старшыня, пытае: «Хто табе параіў?» — «Пятрок Трафімаў». — «А я так і ведала, што гэны Берыя што-небудзь учудзіць». Так і не ўзляцеў Пяцюша ў космас[2].

*28 ліпеня, нядзеля*

Ушача. На Бутаўшчыну да мамы. Валя, малайчына, палола магілку. Пятрок быў добра пафарбаваў. На возера. Скрозь турысты, палаткі, лодкі, дачныя каровы і іхнія […]. Па дарозе на возера лезла ў галаву, што разам з дэпартызацыяй у Беларусі трэба дэпартызанізацыю праводзіць. Трэба паставіць на месца і заслугі, і віну партызанаў. Радавыя, яны паднявольныя. А камбрыгі, камісары, асабісты ў вайну пілі, бл.давалі, нажываліся, а пасля вайны працягвалі займацца любімай справай і, атрымаўшы адказныя пасады, развальвалі рэспубліку, прыспешвалі нам сённяшні дзень.

А ўсё-ткі добра плыць на возеры Ваўчэнскім, выходзіць і студзіць ногі ў сцюдзёнай Крывусе. Яна, настоеная на каранях, як гэты чай.

*29 ліпеня, панядзелак*

Праца. Клопат пра двухмоўную кніжыцу Максіма Багдановіча. Назвалі радком «Цвяток радзімы васілька…»[3]. У Шаранговічыхі такія-сякія заўвагі па слову пра Багдановіча. Пакінуў гэты свет Няхай[4] Рыгор.

---

[1] Гл.: Дзве (27.07.91, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 300.

[2] Гл.: У космас ([1995]) // Здубавецьця. С. 20.

[3] Багдановіч М. Цвяток радзімы васілька… = Jau roka ruzupuķi… Рыга, 1992.

[4] Няхай Рыгор Восіпавіч (1914–1991), беларускі паэт і празаік.

У партызанах забіваў парашутыстак. Гэта адна з доблесцей партызанскіх асабістаў. Сачанка ўдакладніў, што па апавяданнях Няхая — і пілой разразалі, і абухом галовы мязджулілі. А на пахаванне Барыс пайшоў. […] Ад усяе брыды толькі ратуе ўспамін пра Ушачу, празябкую Крывуху, пра ціхія апоўначы, пра нешта такое, што запаўняе ўсяго толькі на родных мясцінах. Каб у мяне адабраць маю Ушаччыну, я не вытрымаў бы доўга, як шчупак на беразе.

*30 ліпеня, аўторак*

На працы падчытваў Галі [Шаранговіч] Багдановіча. Дабіваем двухмоўнае выданне. Вечарам званіў Васіль. Сумныя ў яго перспектывы на будучае. Як пачынаў, кажа, з галечы, да галечы ў канцы мусяць прыходзіць. А яшчэ ж акрамя голаду і холаду трэба ўлічыць крымінальны элемент, апору КДБ і партыі злачынцаў. Хваліў выступленне Астаф'ева ў «Комсомолке».

«Голас вякоў: Мне чуецца голас душой не забытых вякоў…» [ песня; у блакноце].

*31 ліпеня, серада*

Праца. Званіў Грушавы[1], трэба было падпісаць паперу на грошы «Дзецям Чарнобыля». Чакаў да вечара — не прыехаў. Чытаю і перачытваю Максіма Багдановіча. Думаецца, Караткевіч ўсё-ткі з Багдановіча. І гэта добра. І век галоснасці, і быццам бы няма цэнзуры, а выдаць поўнага Максіма Багдановіча ні ў кога чамусьці жадання ці ўказання няма. Вось мерцвячыну Максіма, які стукач Лужанін, толькі тое і робім, што перавыдаем. Наогул, калі задумацца над словам, дык *пера*выдаваць — *даваць лішняе*. […]

*1 жніўня, чацвер*

Жнівень, і спёка стаіць, як перад жнівом дала абавязацельствы. Праца. Дайнека бегае […], рукі ў гэнага паэта-празаіка, як у крата дзве пярэжнія лапы. Такая ж у іх ухвацістая сіла, заграбучая. Доўга думаў, на каго ж ён падобны з твару. На павялічаную дужа і чырвона-поўную мордачку кажана. Толькі ў кажана мордачка, а тут морда, мурло. Гэтак і здаецца, што з зубоў не выкалуплена нешта смачнае, дармавое з пагасцін ці з хаўтураў.

---

[1] Грушавы Генадзь Уладзіміравіч (1950–2014), беларускі філосаф, грамадскі дзеяч. У 1972–1991 гг. выкладчык БДУ, з 1991 г. прарэктар Інстытута сучасных ведаў. Доктар філасофскіх навук (1994). Прафесар (1995). Заснавальнік і старшыня Беларускага дабрачыннага фонду «Дзеці Чарнобыля» (з 1989). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання.

*2 жніўня, пятніца*

Сёння Ілля. Кажуць, якая пагода на Іллю, такая і ўсю восень. Дык дужа цёпла і сонечна было ўвесь дзень. Хадзіў да Пятра Ісаевіча з зубамі. Справы кепскія, давядзецца рэштку ніжніх выдзіраць і з месяц хадзіць з голай ляпай. Перад раніцай дужа балела галава і адпаведна прысніліся радкі: «А выйсці замуж гусі Ляцелі за шпака. Дзяўчаты Беларусі Хацелі Лучанка».

«Прысмакі: Сабака захацеў прысмакаў...» [у блакноце].

*3 жніўня, субота*

Пазваніў Алесь Адамовіч прыйсці з Валяй да яго на абед. Глянуў наш даведнік СП, нарадзіўся ў верасні. Прыйшлі, аж выходзіць памылка. 3 жніўня ў Алеся дзень нараджэння. Занялі ружы. Прыйшлі разам з Васілём Быкавым. Васіль апрануты як еўрапеец у касцюм колеру хакі, летні. Застолле вясёлае. Васіль расказваў пра Карпюка неверагодныя гісторыі, асабліва ўражвае пра ваенкома і Жукава[1]. Алесь быў на пахаванні Лазара Кагановіча[2]. У інтэрв'ю «Свабодзе» там жа сказаў, што чакае, калі аддасць канцы КПСС. Пазней прыйшоў Навум, бо ў Алеся быў ягоны стары тэлефон. Толькі па сябрах сваіх бачым, як старэеш, непатрэбнееш бальшыне, хіба меншыне старых сяброў ды трохі сабе ты яшчэ прыдаешся. Васіль зноў паўтарыў свой сумны жарт, што на стадыёне лепей летам, а зімой кепска будзе, калі задумаюць сагнаць жменьку няўгодных людзей савецкім піначэтам.

*4 жніўня, нядзеля*

Цэлы дзень спякота. Чытаю Максіма Багдановіча. Дзіўлюся, колькі ён паспеў, як глыбока і ўсебакова быў адукаваны наш геній. У артыкулах, дарэчы, ёсць і русафільскія ноткі. Усё-ткі ён чалавек у першую чаргу рускае культуры.

«Хачу сустрэцца»[3].

*5 жніўня, панядзелак*

Да Карласа. Аляксандр Іванавіч [Елізараў] выявіўся як дробны прахадзімец. Давялося падпісаць загад аб звальненні і скасаванні пасады. Бруд не вяжацца з ПЭНам.

Да Навума, ён едзе ў Дубулты.

---

[1] Жукаў Георгій Канстанцінавіч (1896–1974), савецкі военачальнік. Маршал Савецкага Саюза (1943). Герой Савецкага Саюза (1939, 1944, 1945, 1956).

[2] Кагановіч Лазар Майсеевіч (1893–1991), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1943).

[3] Гл.: Хачу сустрэцца (4.08.91) // Евангелле ад Мамы. С. 223.

*6 жніўня, аўторак*

Праца. Грушавы. Падпісаў разам са Шклярэўскім паперу, каб пераявлялі фонду дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыля, мільён. Вечарам Грушавы звоніць, што Кенік (пам. Кебіча), сказаў: «Мы самі ведаем, як распараджацца грашыма». І тут апаратчыкі абдурылі. Майстры ха́паць і хапа́ць. Сапраўды, добры апаратчык — мёртвы. Званіў Купава[1], трэба падпісаць ліст, каб перанесці прах вялікага Максіма Багдановіча на радзіму. Хоць пры нашых адносінах да памяці продкаў невядома, што лепей. Магчыма, там болей гарантый захавання магілы. Хоць у саўімперыі і мёртвы не гарантаваны на спакой. У выдавецтва прыходзіў Дубавец. Арлоў даў мне другі нумар «Нашай нівы»[2]. Голыя азадачкі, вымцы. Мазгавы панос Ваўкадамчыка, які Глёбус. «Сон неўмежаванае аблогі…»[3] Вечарам доўга гаварылі з Лявонам Дранько. Функцыянер Бураўкін умудрыўся перадаць яму «Святое пісанне» ад Кіпеля[4] праз дзверы. Баяўся, што сурочыць таленавіты паэт багацце барацьбіта за прагрэс і справядлівасць, за мір ва ўсім свеце.

*7 жніўня, серада*

Званіў з «Крокодила» [час.; Масква] нехта наконт рахунку нашага, накіраваў да Шклярэўскага. Званіў Васілю. Мяне шукаў Еўтушэнка — трэба філія Асацыяцыі незалежных пісьменнікаў [АНП]. Вечар займаўся званкамі, марны занятак. Няма ў нас людзей. Кулік і Купава прыходзілі на працу, каб падпісаў просьбу аб пераносе праха Багдановіча. Званіў Пімену — адмовіўся. Хоць і рэвалюцыянер, але гады і загартоўка даюць адчуванне. «Ракі не ў Ракаве»[5].

*Часам*

На накіроўчую руку гляджу,
І думаецца часам,
Што зараз правадыр «ку-ку»
Скартавіць,
І партыйным масам
Пакажа зайчыка й ваўка
У ценях на сцяне ЧК.

---

[1] Купава Мікалай Мікалаевіч (н. 1946), беларускі графік. У 1990–1996 гг. дырэктар Мінскага мастацкага вучылішча.

[2] «Наша ніва» — грамадска-палітычная і літаратурная газ. (з 1991), узнаўленне аднайменнай газ. (1906–1915). З чэрвеня 2018 г. выходзіць у электронным фармаце.

[3] Гл.: «Сон неўмежаванае аблогі…» (6.08.91) // Евангелле ад Мамы. С. 174.

[4] Кіпель Вітаўт Яўхімавіч (н. 1927), беларускі гісторык, бібліёграф, грамадскі дзеяч беларускага замежжа. Дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (ЗША, Нью-Ёрк).

[5] Гл.: Савось Авось. Хвіліна мычання: Ракі не ў Ракаве (7.08.91) // Дзень паэзіі-92. С. 180.

*8 жніўня, чацвер*

Праца. Збіраў членаў Асацыяцыі незалежных пісьменнікаў. Дазваніўся да Еўтушэнкі. Прасіў, каб я ўгаварыў Васіля прыехаць у аўторак у Маскву.

Чытаю і чытаю Максіма Багдановіча. У маленькіх рэцэнзіях гэтулькі артыстызму, роздуму, глыбіні. Яго трэба чытаць усяго, каб зразумець, што гэта на справе вялікі пісьменнік.

*9 жніўня, пятніца*

Ездзіў на тэле. Памёр Яркоў[1], выдатны дыктар, 50 год, сэрца нікуды не варта. Званіў Ештушэнка, хоча прыехаць у Мінск, каб правесці арггрупу. Сілы старога саюза дрогнулі. Васілю не трэба ехаць. Яўген прасіў, каб выбачыцца перад Васілём. «Запытацца»[2].

Пад вечар званіў Валянцін Ждановіч. Прыехаў з Тураўшчыны. У маі месяцы ў Тураве ў балоні між Струменем і Прыпяццю (≈ 5 кв. км) Гомельскі ўніверсітэт збіраў яйкі качак і кулікоў на праверку на радыенукліды. У ліпені ў Прыпяцкім запаведніку карту біядаследаванняў рабілі. На радыенукліды ўсё ў норме. Затое выяўлены новы элемент — калій-40, ізатоп калія, які ў 10 тысяч разоў перавышае нормы. Віна Салігорска — у калійных угнаеннях не раздзелены элементы, ідзе калій-40. Меліяраваныя землі патрабуюць шмат угнаенняў, у тым ліку і калійных, якраз з Салігорска. Калій яшчэ да Чарнобыля сцёк у лагчыны пад час павадак. Качкі і кулікі жыруюць у іле, ва ўсім тым, што спадае з рэк, з каналаў. А ў Тураве багатыя калгасы. І малачко ў Мінск. Чарнобыль толькі ўзварухнуў праблему на Салігоршчыне, на Любаншчыне, на Случчыне, — усё, што прымыкае да шахтаў. Генетыкі заўважылі яшчэ даўно, што ўраджай «эліты» вырас, зерне сабралі, а ў другую рэпрадукцыю ўсё ўжо вырадзілася. Хоць рэпрадукцыя з «эліты» не мусіць выраджацца. Усё гэта калій-40. Яшчэ ў Тураве. У траўні прыляцелі буслы (шмат буслянак), усе чорныя, брудныя. Пакуль не вылінялі, тады сталі зноў белыя. Прыляцелі з Кувейта.

Вечарам зноў званіў Еўтушэнка. Прыязджае ў аўторак. Хоча, як сказаў, пачаць з радзімы сваіх продкаў. Званю Васілю. Вырашылі заказаць гатэль і білет назад праз Элькінда.

*З вайны*

За што гэтак Госпад карае
Усіх з беларускага краю?

[1] Яркоў Уладзімір (1941–1991), дыктар Белтэлерадыё. Заслужаны артыст БССР.
[2] Гл.: Запытацца (9.08.91) // Евангелле ад Мамы. С. 313.

Дамоў прыляцелі буслы,
Вярнуліся з выраю ў Тураў,
А быццам са свежых хаўтураў,
А быццам з гарачай смалы

Вярнуліся чорныя ўсе,
А светлыя ў вырай ляцелі.
Ці ў ночы схавацца хацелі
У сваёй белапёрай красе,
Ці скруха ўчарніла датла?
Пад восень бялюткімі зноўку
Зрабіліся — гэта абноўку
Вяртанню радзіма дала,
Каб потых Чарнобыля злы
Світальныя крылы дакурыў.

З Кувейта вярнуліся ў Тураў,
З вайны прыляцелі буслы.

*10 жніўня*

*10 жніўня, субота*

Перачытаў зноў «Загадку Багдановіча» Міхася Стральцова, ласкавага сябра майго, самага дасведчанага і вытанчанага пісьменніка нашага часу ў нашай літаратуры. Проста дзіва, аж не верыцца, што мог так напісаць твой сучаснік, твой адначаснік.

Званіла Ягорава з «Комсомолки», што ў нас апаганілі помнік Максіма Багдановіча. Буду выясняць. [Перакрэслены аўтарам верш: «Адпускаю матылька...» [у дзённіку]. Званіў Еўтушэнка. Прыязджае 13-га, цягнік № 1, вагон 12. Трэба сустрэць. Як ні круціў верш, а далей Пушкіна не пайшоў — усё роўна «на волю птичку выпускаю», хоць і ў матылька хацеў думкі пусціць. Класікі доўга перабягаюць дарогу не толькі ў гумарыстычных творах.

*11 жніўня, нядзеля*

Перачытваю паэзію Максіма Багдановіча. Чым класіка адрозніваецца ад навацый яўных і ўяўных? Здаецца, даўно чытаў гэта, здаецца, з пачатку свету напісана было, а напісана навечна. Эпіграфам узяў Максіма Багдановіча ў верш свой[1]. Вечар сядзеў на тэлефонах, абзваньваў, каб у аўторак а 12-й прыйшлі ў СП, бо прыедзе Еўтушэнка. «Такое жыццё: Не ў ціхім, а ў крутым віры...» [у блакноце].

[1] Гл.: Трывершнік: Святло (11.08.91) // Евангелле ад Мамы. С. 98.

*12 жніўня, панядзелак*

Дазваніўся (!) да Алексіевіч і Казько. Дурны панядзелак, усё не клеілася, усё валілася з рук. Сустракаўся з Ілонай. Худая як трэска ці траска. Аж сэрца аблілося жалем. Свая ж. Родная.

Дарэмна ганяўся за слоўнікам Ластоўскага. Абяцалі на заўтра ў кіёску лагойскага [...]. Стаяў каля касы ашчаднай у чарзе. Падышоў чарнявы малады чалавек. Запытаўся, ці я гэта. Пасля дае мне кнігу нейкую на адгорнутай старонцы і пытае, што напісаў бы я чалавеку, які адчаіўся ў жыцці, бо, як бы мовіць, лекар душаў людскіх. Я запытаўся: «А хто гэты чалавек?» Малады хлапец адказаў, што гэта ён сам і ёсць. Параіў мець Бога ў душы, каб святло цемра не засланіла. Разгубіўся я ад гэтакай просьбы.

Вечарам званіў Васілю, Тычыну, Тáрасу, Еўтушэнку ў Маскву наконт заўтрашняга дня.

*13 жніўня, аўторак*

Сустракаем з Васілём Яўгена Еўтушэнку. Яўген у размове: «У мяне 70 % дзярма. Самая большая кара была б мне, каб выдалі Поўны збор твораў». Чытаў новыя вершы ў парку Горкага. Расказваў, як цынік мастак [пропуск] купіў Распуціна на тым, што ён любіць стары Іркуцк, што будзе абараняць старую Расію. У СП сабраліся Алексіевіч, Сёмуха, Тычына, Лявон Баршчэўскі, Букчын, Казько, Някляеў, Быкаў, Еўтушэнка, Тáрас (так, як селі за круглы стол. Пасля абед, які перарос у вячэру ў «Беларусі». Саліст за сталом быў Еўтушэнка. Цікава сказаў яму амерыканскі паэт: «Не пішу вершаў, бо памерлі ўсе, каму я чытаў і хто слухаў мяне». Еўтушэнка чытаў новыя вершы. Адзін, як ён выртаецца на радзіму ў нечуваную дабрыню. Васіль пытае, дзе ён такую дабрыню бачыў? І расказвае, як партызаны ў Гародні далі глуханямому фальшывыя карткі на прадукты, на харчы. Сказалі, колькі табе, а рэшта нам, як атаварыш. Пасылалі на яўную смерць, на праверку. Усё ўдалося. Пасля вайны гэны нямко глухі ўбачыў свайго «дабрадзея» і ледзь не рукі цалаваў яму.

Казько казаў, што ён з адной вёскі, адкуль нібы радня Еўтушэнкі (бабуля Казько пражыла 112 гадоў, любіла ўкрасці на сконе яйка і выпіць), а калі гэта радня Яўгена, дык яны мелі прозвішча Еўтушкí. Гэта хоць пабеларуску, а то на ўкраінскі манер. Гледзячы на акторства Еўтушэнкі, успамінаў Шкляру. Адзін почырк. Просіць пачытаць вершы, а сам робіць выгляд, што яму цікава. Яму слухаць і бачыць толькі сябе самога хочацца. Пілі «Зуброўку», недзе ўбачыў шампанскае, заказалі. Не змаглі дапіць. Казько сказаў, што ў яго ёсць вэнджаны карп. Узялі піва і да залатога чалавека і празаіка Віктара ў госці. Застаецца гадзіна да цягніка. Віктар выцягвае амаль мятровага карпа. І ў Еўтушэнкі ажывае комплекс масквіча. Пытаецца, а ці няма яшчэ аднаго такога ж, каб яму ў Маскве паказаць

жонцы. Гаспадар дастае апошняга і яму, госцю, закручваюць у газету і звязваюць. За сталом усё пытаўся, а ці ёсць у нас «Белавежская», адказвалі, што гэта рэдкі дэфіцыт. Букчын за рулём, часу няма, аказалася, што няма сумачкі госця. Дзе мог забыцца? П'янаваты-п'янаваты, а ўспамінае, што вешаў у Віктара на нейкі крук. Тут жа дадае, што з гэтае прычыны — сваёй разгубленасці не мог бы быць падпольшчыкам. Нарэшце імчымся. У гатэлі ледзь не забыўся, што шапачку ў клетачку. Мы з Та́расам каля вагона, а ні госця, ні Букчына. Выходзіць, калі Букчын ставіў машыну, яму захацелася паглядзець, наколькі спрытна той прыпаркуецца, паколькі ён ас. Пасадзілі ў вагон. Ад'езд. Запрашае нас у 1993 годзе на станцыю Зіма (будзе 60), выцірае слязу расчулення, яна кропка ў акторстве.

*14 жніўня, серада*

Раніцай званіў Васіль, пытаўся, як праводзілі. Ён не змог. Праводзіў сына ў аэрапортах старым і новым. Пагаварылі, што ў кожным самым найдэмакраце з цэнтра сядзіць вялікадзяржаўнік. Як згаварыўшыся, толькі пра інтэграцыю, спасылка на Еўропу, якая будзе бязвізавай. Еўтушэнка ўчора падкрэсліваў, што калі спытаўся ў грузінскага сябра, якія грошы будуць ў незалежнай Грузіі, той задумаўся, бо забыўся свае грошы. Што тут дзіўнага. Гэты закляты рубель рубілі з мяса і касцей калоній імперыі і царскай, і савецкай. Васіль сказаў, што ў нас адна гара — праблема незалежнасці.

Быў на працы. Прыбягаў Аляксандр Іванавіч; гэты лацінаамерыканскі Карлас, здаецца, заварыў кашу з гэным Сашам. Як расхлябаемся? Дужа шмат можа бруду выліць на ПЭН.

*15 жніўня, чацвер*

Пачынаюць падымаць хвалі супраць удзельнікаў стварэння Беларускага СНП. Сачанка ўжо Сёмуху даспанаваў, што жыдамасоны сабраліся. Яўна сваіх думак паляшук ніколі і не меў, і не выказваў [...]. Званіў Васілю. Званіў Бубнаў, прыспешваў наконт артыкула пра Заборава.

*16 жніўня, пятніца*

Чытаў Максіма Багдановіча. Чым болей чытаю, тым болей страшней сказаць нешта пра яго. Дужа выгодна было бальшавіцкай ідэалогіі паказаць яго як паэта і толькі, без яго глыбінных, сучасных і цяпер, артыкулаў, эсэ, разваг. Гэтак, як Тараса Шаўчэнку без ягонага дзённіка. Сядзеў дома. На службу не хадзіў. Напісаў верш «Любоў да Радзімы»[1]. «Адпаведна: Каму дык манны нябеснай мяхі...», «Падцёк свядомасці: Пад'есці любіць тлуста...» [у блакноце].

[1] Гл.: Любоў да Радзімы (16.08.91) // Евангелле ад Мамы. С. 74.

*17 жніўня, субота*

Пачаў дзень з Максіма Багдановіча. Хадзіў на Камароўку. Паджылы дзядзька доўга пляваўся і ледзь не мацюкаўшы, прыгаворваючы: «Да чаго бальшавікаі давялі, ужо катоў прадаюць». Уразіла, што катоў. Вось каб некалі настаў час, калі б прадаваць пачалі ка́таў. Ды гэтага ніколі не будзе. У мяне ўжо алергія ад сучасных бардаў — гэтых акынаў з дыпломамі і без дыпломаў. Словы жахліва-бездапаможныя, адну нейкую фразу ці два слова жвуць як жвачку падлеткі, адцягваючы ад зубоў і зноў да іх лепячы. «Чаму гром злуецца»[1]. «Нестратэгічныя аэрадромы: Хаваюцца ў траве шпакі…» [у блакноце].

*18 жніўня, нядзеля*

Сядзеў дома. Чытаў. Пісаў патроху. Зноў на Камароўку. «Вачыма селяніна»[1]. «Базарная радасць: Гандлююць. Сошкі дробныя і сохі…», «І скачуць звадкі…», «Дзе тата?: Малы гадуецца ў *дзед*доме…», «Ты: Ты ідзеш хадою баладнаю…», «Калектывіст: За чуллівасць кпіў ён з татак…» [у блакноце].

*19 жніўня, панядзелак*

З раніцы па радыё расійская гутарка-матутарка 50-х гадоў. Ніяк не мог даслухацца надвор’е. І нарэшце далі надвор’е. Пераварот[2] на чале з часовым Янаевым, камсамольска-кэдэбісцкім кадрам, бабнікам і выпівакам. На працы ажылі стукачы […] тыпу Б. С. і яго пляменнічка Мятліцкага. У натоўпах каля магазінаў яўней і часцей гучыць: абы было што есці, надзець, абуць. Крычым: народ-народ, а народу начхаць на ўсё, ён сапраўды, па Багдановічу, «цёмны, глухі, быццам крот». У крата ж амаль няма вачэй, затое дзве пярэжнія пяцярні, як у Л. Д. Пад вечар званіў Васіль: «Цяпер ужо ноч перажыць важна, бо ўначы якраз усё страшнае ды бруднае робіцца». «19 жніўня 91 г.: Калі былы не ўспёр штаноў яшчэ…» [у блакноце].

*20 жніўня, аўторак*

На працу. Давалі нейкія пажарныя грошы, хоць, дзякуй богу, усім пароўну. Не будзе звягі. Лавэр у імперыі, і дома лавэр. […] Нідзе няма цішыні і хоць бы якой утульнасці. Вечарам званіў Васілю. Ён ужо даў інтэрв’ю

---

[1] Гл.: Чаму гром злуецца (17.08.91) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. С. 26.

[2] ГКЧП — Государственный комитет по чрезвычайному положению = Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы. Самаабвешчаны орган улады СССР (18–21 жніўня 1991). У яго ўваходзілі высокапастаўленыя службовыя асобы савецкага ўрада, якія выступілі супраць палітыкі перабудовы, распачатай прэзідэнтам СССР М. Гарбачовым, падпісання новага Саюзнага дагавора і пераўтварэння СССР у канфедэратыўны Саюз Суверэнных Дзяржаў, у які планавалі ўвайсці 9 з 15-ці саюзных рэспублік.

па радыё. Сумленне нашай нацыі, рыцар волі. Радыёхвалі пачынаюць глушыць, пачнуць неўзабаве, як у лепшыя часы, ірзаць коні ў эфіры і іншыя страхоцці.

*21 жніўня, серада*

Адымаецца галава. Болі невераемныя праз увесь дзень. Учора ў «Народнай газеце» Валя Аксак[1] добрыя словы сказала ў аглядзе часопісаў пра мае вершы. Дзякуй ёй. Думаў, што маладыя толькі адмаўляюць і ўсё. А тут нарэшце тэле Расіі перадало радасную навіну, што хунце скруцілі рогі. Гэта пакуль. Бо пакуль існуе ва ўладзе партыя злачынцаў — КПСС, пакуль армію ўзначальваюць гарылы накшталт Язава, пакуль КДБ кіруе ўсім. У любы дзень можна прачнуцца ў 1937 годзе.

*22 жніўня, чацвер*

З раніцы весялейшыя навіны. Аляксій[2] аддаў анафеме хунтаўцаў. Колькі слоў для радыё і тэле сказаў Гарбачоў. Цікава, няўжо з Кручкова[3] ні валасіны не зляціць? Ведамства, вядома, непатапляльнае. Цікава б паглядзець на свінавожыка [Валянціна] Паўлава, ці аплюхла ягонае чэрава. Вечарам «імператар» зноў кляўся ў вернасці сацыялістычнаму выбару. Нічога памочніка камбайнёра не навучыла. Званіў Васіль. Званіў Еўтуху [Еўтушэнку]. Даваў тэлеграмы ад імя ПЭН-цэнтра, каб выключылі сакратароў СП, якія падтрымалі путчыстаў.

*23 жніўня, пятніца*

Сёння дзень нараджэння Пімена Панчанкі. Званю. Падыходзіць Зоя Кірылаўна. Кажа, што пакліча да тэлефона. Пімен: «Я прыехаў на сваім фаэтоне, у мяне крэсла на калёсіках. Мне дапамагае мой міністр замежных спраў (мае на ўвазе жонку). Не шанцуе нам на правадыроў (пра выступленне «імператара»). Так мне прыкра пасля ўчарашняга. (Кажа цяжка, задыхаецца). У мяне адна частка [лёгкага] падбіта. Як люблю Куляшова і Мележа[4], так цяпер люблю цябе і Быкава. Падабаюцца вершы

---

[1] Аксак (Арлова) Валянціна Іванаўна (н. 1953), беларуская журналістка; паэтэса. У 1979–1990 гг. супрацоўніца газ. «Сцяг камунізму» (г. Полацк), у 1990–1992 гг. «Народнай газеты» (Мінск).

[2] Аляксій II (сапр. Рыдыгер Аляксей Міхайлавіч; 1029–2008), Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі (1990–2008). Доктар багасловія (1984). Акадэмік Расійскай акадэміі адукацыі (1993). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (2005).

[3] Кручкоў Уладзімір Аляксандравіч (1924–2007), савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1988–1991 гг. старшыня КДБ СССР.

[4] Мележ Іван Паўлавіч (1921–1976), беларускі празаік, драматург. Народны пісьменнік БССР (1972). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1962), Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976, пасмяротна).

з Заходняй Беларусі. Да Сіпакова стаў з прахалодай адносіцца. Я яшчэ, калі да 75-годдзя дажыву, вып'ю каньяку. Гарэлка ёсць. Не п'ю 7 гадоў, курыць не куру 6 гадоў. Колькі навалілася на Максіма [Танка], і Максім ужо ў стане адмірання, як і я. У мяне ёсць 5–6 вершаў. Нягледзячы на ўсе наменклатурныя гульні, ігрышча вакол цябе, пасля Куляшова ты самы, пішы, не губляй часу. Абдымаю цябе, дзякуй, што пазваніў…»

*24 жніўня, субота*

З Валяй на ўчастак. Да Тáраса. «Імператар» пайшоў на рашучыя меры. Нарэшце! Няўжо сам датумкаў ці абставіны і Ельцын на шлях ісціны паставілі? Няўжо дасць бог, што партыя д'яблаў, крымінальнікаў рухне? Усё яны спаганілі, усе яны добрае і святое з душаў людскіх выкарчавалі. Няўжо ж не будзе ім уздадзена па заслугах? Божа, пакарай нячысцікаў, знішчы!

*25 жніўня, нядзеля*

Паход з участка. Пераклаў колькі вершаў Чарказяна. Добрая навіна. Аб'яўлена нашым Вярхсаветам незалежнасць БССР[1]. Саюза няма. А савецкая і сацыялістычная — як гразь за чыстыя туфлі эпітэты чапляюцца. І гэта дасягненне для такога рассадніка цемрашальства, як наш Вярхсавет. Зянон з ягонымі паплечнікамі — чыстая сляза ў твані камуністаў. Нават тэле[…] Жук змушаны быў даць на праграме «Час» Зянона. Вось хто быў бы прэзідэнтам.

Яшчэ радасць: болей не будзе чуваць скапечага голасу непісьменнага дземянцея, […] адпусцілі на пенсію. Разам са […] сакаловым дземянцей папоўніць статак партпенсіянераў.

Яшчэ нам пакажуць нашыя незалежныя суседзі, і Расія, і Украіна. Прачнецца наноў апетыт і ў Польшчы. На Беларусь заўсёды ўся пошасць, як на мокрую п…у блохі (казалі ў нас дома некалі).

У суботу на Камароўцы таргую нож, пытаюся, ці востры, дзядзька адказвае: «Нож як гад». За адно гэтае купіў. Як гад злы, бо востры.

«Сталь: «Камуністы» — гэта слова, як са сталі…» [у блакноце].

*26 жніўня, панядзелак*

На службу не пайшоў. Разломваецца галава, як гаршчок на дробныя цурачкі.

Званіў Ганаду. Вырашылі з Валяй з'ездзіць у Вушачу. «На заручыны: Дзень учарашні сам сябе ўсталёўвае…» [у блакноце].

[1] 27 ліпеня 1990 г. прынята Дэкларацыя ВС Беларусі аб дзяржаўным суверэнітэце; 25 жніўня 1991 г. Дэкларацыя набыла статус закона.

*27 жніўня, аўторак*

Браў білеты. Васіль таксама браў сыну білет і сабе ў Маскву на з’езд. Пабедавалі над нялёгкімі днямі, якія чакаюць нашу Беларусь. Ужо вялікадзяржаўнікі, хоць і пераможцы, дзякуй ім, абʼявілі пра перагляд межаў. Гэта можа перарасці ў ланцуговую рэакцыю і ў рэакцыю вялікадзяржаўную.

На працы зноў клопат з двухмоўным Багдановічам.

*28 жніўня, серада*

Прыносіў вершы Грыгорый Маргоўскі[1]. Прыходзіў з маленькім сынам. Шкада яго, мястачкоўскага бунтара. Званіў Янка Брыль, што Аскоцкі[2] (новы сакратар СП) запрашаў і мяне на сакратарыят. Трэба ехаць 31-га. Не паеду. Быць статыстам не хачу.

Званіў Васілю, ён умацаваў мяне ў рашэнні. Перадаў паклон землякам роднай зямельцы.

*29 жніўня, чацвер*

*Ушача!* Пракалываліся на шынакапытным вярблюдзе — аўтобусе. Сустрэў Пятро. Хата амаль закончана. Прыходзіў Іван Сцяпанавіч. Нашыя кіраўнічкі паспяшаліся падтрымаць і вітаць путчыстаў. Наш жа раён высоўваў і непісьменнага партпапугая дземянцея. Наогул, глыбінка заўсёды небяспечная сваёй кансерватыўнасцю, туга даходзіць усё новае. А цяпер пераход на рынак па-савецку данішчыць усю прыроду. Ушацкія бізнесмены (так і хочацца назваць бязмены) з палякамі хочуць гешэфт заключыць. Мэблю з дрэва. Палякі даводзяць да паўфабрыкатаў, а мы да канца і лес наш. Прычым не павінна ні сучка [быць]. Вядома, палякі абдураць, бо гэта ісці будзе ў Нямеччыну. Лепшы лес спляжаць. Бо гэта трэба недзе стогадовік, ад камля сукі адміраюць у такім узросце зусім.

*30 жніўня, пятніца*

У магазінах нічога няма. Гола. Паныласць. Усе пад нейкім нябачным грузам. Якім далёкім, ірэальным сном бачыцца адсюль дагледжаная, багатая Еўропа. Дзе цэнтр, дзе ўскраіна, цяжка разабрацца. У нас, калі і засталося што ад прыроды дзякуючы маруднасці руху прагрэсу, дужа імкліва нішчыцца, нікне.

---

[1] Маргоўскі Грыгорый Аркадзьевіч (н. 1963), рускі паэт. З 1993 г. жыў у Ізраілі, з 2001 г.— у ЗША.

[2] Аскоцкі Валянцін Дзмітрыевіч (1931–2010), рускі крытык, літаратуразнавец, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1968).

*31 жніўня, субота*

Ушача. З раніцы на Ваўчэнскае возера. Спелая восень. Сонца яшчэ пячэ, але з халадком у душы. Ля возера, як мурашкі, людзі, якім выдзелілі ўчасткі пад бульбу, буракі, ячмень — садзіў і сеяў хто што мог. Няма таго аскетычнага, вечнага спакою надазер'я. Сяджу ля затокі. Нейкі ахламон са спінінгам, у гумовіках, з таннай цыгарэткай у вядома ж нячышчаных зубах. Сцёбаў-сцёбаў і нічога не высцебаў. «Да партрэта...»[1], «Сэнс»[2].

*1 верасня, нядзеля*

Ушача. Колькі гадоў сплыло з першавераснёўскіх ушацкіх дзён. Да гэтага помніцца, як мама перад першавераснем мые мне кашулі. Палошча на лужыне ў проламцы. Туманок. Ласка. Гэтак шмат наперадзе гадоў, здавалася тады. На магільнік да мамы. Сёлета 20 гадоў, як мамы няма на свеце, а яна са мной увесь час. Я адчуваю яе прысутнасць скрозь. Зборы ў дарогу. Марыя Рыгораўна праспявала мне цудоўную песню. Шмат цікавых слоў запісаў ад яе. Невычэрпны ўшацкі слоўнік. Шкада, што няма падрыхтаванага апантанага, які давёў бы да толку ўсё. Па дарозе нешта трызнілася:

* * *

Ты мне бачышся ў снах,
Ты мне мроішся ў марах,
Як на боскіх чаўнах
Праплываеш па хмарах.
Распінае цябе
Ядзерная Галгофа,
Ў запазнелай мальбе
Просіш ты Саваофа,
Каб расчуліцца змог
Над табой, сіратою,
Сыплеш модлаў гарох,
Ды не помніш пра тое,
Як хацела хутчэй
Адрачыся ад Бога.
Не хавай жа вачэй,
Каб нічога благога
Паўтарыць не магла
І ў далёкіх нашчадках,

[1] Гл.: Да партрэта Ваўчэнскага возера ў гуках (31.08.91, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 151.

[2] Гл.: Савось Авось. Дурноты: Паэт-зямельнік (31.08.91) // Дзень паэзіі-93/94. Мінск, 93. С. 195.

Каб магла да святла
Верніцай прычашчацца.
Не часовая — вечная,
Верасовая ды асвечаная
Беларусь.

*2 верасня, панядзелак*

На працу. У [час.] «Беларусь» занёс тры вершы «У вянок Максіму Багдановічу» і пераклад верша Івана Драча[1]. Прыехаў Навум. Пабыў у яго. Кепскія справы з Піменам. Інсульт. Хай бы да 75-годдзя дацягнуў. Выдатны чалавек і паэт. Рэдкае спалучэнне пры рэжыме *скоц*рэалізму. Па тэле глянуў кавалак: Лойка, Вольскі і гісторык прафесар Грыцкевіч. Прафесара не чуў, а Вольскі чытаў нешта супроць партбілета, напісана гэтак жа бяздарна, як ён зусім нядаўна пісаў пра партбілет. Палітыка — прастытуцыя, і, палітыкунствуючы, паэт робіцца таксама ёй жа.

*3 верасня, аўторак*

На працу заходзіўся Ан. Белы, перадаў ад Янкі Запрудніка такія-сякія сувеніры. Васіля ўвялі ў сябры часопіса «Полацак». Са мной завагаліся — і не трэба. Не прасіўся ж я, самі прапанавалі.

*4 верасня серада*

Праца. Не відаць нешта члена ЦК партыі злачынцаў Борачкі Сачанкі. Прышчаміў гніды. Чакае новага перавароту, каб падняць пархі. Усе нашыя камаісты (па прозвішчу [...] Камая), як у Вушачы казалі — тры п...ы попелу не варты. А колькі дзесяцігоддзяў псавалі паветра, поўнячы наваколле псінаю тухлаю. Прафесар Шаранговіч быў сябрам усіх загадчыкаў культуры ЦК. Цяпер сябра [...] Краўчанкі, які займаецца замежнымі справамі [...]. Сёння Галя [Шаранговіч] ўспаміналА, што перад Шаранговічам, каб паказаць яму поўны давер, лаяўся ў свінарні супроць туалета Купалаўскага тэатра адборным матам (і каньяк у партмафіёзнікаў адборны — усё адборнае, уключаючы бл...й). Тады б мы пазбавіліся ад заразы, каб адкрылі архівы воўчай ямы — КДБ, каб і нашчадкі дзясятаму заказалі.

*5 верасня, чацвер*

Праца. Скончылася гаварыльня ў Маскве[2]. Быццам бы імперыя сканала, але ўсё быццам бы. Доўга яшчэ будзе камуністычны смурод зрываць

---

[1] Драч Іван Фёдаравіч (1936–2018), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006).

[2] V пазачарговы з’езд народных дэпутатаў.

насы ўсяму свету. Правільна сказаў Лявон Дранько-Майсюк: «Дзяржава новая тады, калі новыя грошы. А салдаты адны адступаюць, пакідаюць зямлю, калі іх гоняць іншыя». «Перахрысцімся!: Звычайна, калі здаваліся зданькі…» [у блакноце].

* «Усе мы ходзім пад ценем смерці», — а[йцец] Надсан.

*6 верасня, пятніца*

Схадзіў на выставу Анатоля Чайкоўскага (Нямеччына). Свае творы наш мастак, мастак беларускага замежжа, назваў агульна «Геапаэзія». Сапраўды, паэзія колераў, роздум, маланкі думак у колеры. Сумна, але фактычна ўсе карціны па-нямецку падпісаны аўтарам, толькі ёсць пераклад. Гэта паэт колеру. Бо самі назвы кажуць за сябе. «Маланка на летнім небе», «След птушкі», «Бярозы каля дарогі». Сумна і тое, што мала наведвальнікаў і мала водгукаў у кнізе. Пачынаецца рускамоўна з нейкага адстаўнога салдафона. Яшчэ рускі шчэбет. Адна толькі, здаецца, ухвала па-беларуску. А дзе ж нашыя нацыянальныя маладыя? Дзеляць кватэры, дзеляць курыцу адсутнай славы. Напісаў радкі ў водгукі:

Маланка пасецца на небе раніцы,
Стынуць студні — пад'земныя Гладышы.
Застанецца след птушкі — выгнанніцы
На небе крывіцкім і ў крывіцкай душы.

Калі б такая выстава была ў Балтыі, было б і люду, і гуду! Ішоў вуліцай пад дажджом, а пад нагамі хрупацеў вераснёўскі град. Убачыў гадзіннік насупроць катоўні — КДБ — без стрэлак. «Неадступнасць напаміну: Насупраць айсберга КДБ…» [у дзённіку]. Сёння быццам бы дакляравалі волю Балтыі. Lai dzīvo![1] Дапамажы, Божа, набыць волю Балтыі, можа, пасля і мы дзяржавай станем. Званіў Васіль, ён прыехаў са з'езда з Масквы. У Балтыі добрыя перспектывы стаць людзьмі. У нас малыя. Нашыя камуністы трымаюць практычна ўсе рычагі, фармальна нават выйшаўшы з партыі. І ядзерную зброю будуць трымаць у нас, назваў нестратэгічнай. Іван Сцяпанавіч расказваў, як у Цітавізне хацелі пад 18-метровы слой торфу загнаць ракеты, ніякая касмічная тэхніка не выявіць. Васіль пахваліў мае развагі наконт гімна ў «Звяздзе».

*7 верасня, субота*

Збіраюся на БНФ, звоніць Васіль, што меўся таксамам быць, але кепска сябе пачувае. І раптам нашае, ушацкае слова — *засцюдзянела.* Адразу дыхнула домам. Які глыбока нацыянальны Васіль Быкаў — ад характару

---

[1] Lai dzīvo! — Жыць! (*Лат.*)

да мовы, да знешняга вобліку. Дзякуй Богу, што Беларусі паслаў прарока ў мове нашай, у вобразе крывіцкім!

Сойм БНФ. Выступае *Зянон [Пазьняк]:* «На сённяшні дзень кампартыя на Беларусі як структура не існуе. Ставіць пытанне аб незаконнасці рэгістрацыі КПБ. Бо рашэнне аб ануляванні рэгістрацыі можа быць аспрэчана судом. Фатальная небяспека аднаўленай кампартыі не такая, як яе ўяўляюць. У структурах улады членства ў партыі патрэбна было па інерцыі. У нас павінна [быць] дзяржаўнае мысленне, падтрымліваць дэмакратычныя рухі. Нянавісць да тых членаў партыі, якія толькі насілі білет, — працяг апазіцыі. Будуць старацца мафіёзныя групы з былых. Кабінет міністраў адразу распускаць было небяспечна, бо нельга заставацца без улады. Паступова эвалюцыйна ствараць новыя структуры. Захаваць у грамадстве адзінства. Мы павінны прыняць факт прыстасавання былых наменклатуршчыкаў. Без прыняцця заканадаўчых рашэнняў мы не вырашым праблему з былымі функцыянерамі. Маёмасць нацыяналізіраваць. Юрыдычна аформіць роспуск кампартыі. Канкрэтныя кадравыя перастаноўкі трэба. Ад расійскай дэмакратыі засталіся цяпер рожкі ды ножкі. Тэндэнцыя да «единой и неделимой» Расіі. Імперская ментальнасць у расійскага грамадства. Ельцын выйшаў на хвалі, на спіне дэмакратыі і ўмацаваў сваю ўладу. Старая імперыя распадаецца і ўтвараецца новая імперыя на аснове метраполіі — калоніі, ці залежныя рэспублікі. У Расіі крызіс дэмакратыі. Усе крычаць: «Ельцын. Адзіная і недзялімая!» Рыхтуецца анексія Беларусі. Мы тэрмінова павінны стварыць дзяржаўныя адзінкі — армія, межы, валюта. У Беларусі найбольшыя магчымасці стаць дэмакратычнай дзяржавай. Для Ельцына не існуе Беларусі, таму і не кажа пра ядзерную зброю ў Беларусі. Чыстых апаратчыкаў у Вярхсавеце 105 чалавек. Шушкевіч той палітык, што падтрымлівае большасць».

*Заблоцкі:* «Эканоміка суверэннай Беларусі. Амаль 100 % эканомікі дзяржаўная ўласнасць, сюды ж і калгасы, энергаёмная сыравіна з Украіны і Расіі. Неапраўдана інтэгрырвана, 54 % усесаюзная ўласнасць. Эканоміка на інтэрэсы моцнай дзяржавы. Да чвэрці пасяўных плошчаў забярэ Чарнобыль. Жывёлагадоўля ў жаху — лейкемія. Гіганцкія комплексы. Падзенне вытворчасці цяпер 10 %, будзе 15 %. Грашовая сістэма ў нас парушана, сведчанне — замежная валюта. Вызначыць эканамічныя і мытныя прасторы. 1-шы варыянт — застацца ў эканамічнай прасторы Саюза і праводзіць сумесна ўсё. Прыняўшы такія ўмовы, значыць, адзіная дзяржава. Значыць, адмаўленне ад суверэнітэту. Тады палітыку дзяржаўнага суверэнітэту нельга абвяшчаць. Палітычная пазіцыя рэспублік — дыктаваць сваю волю. 2-гі падыход — увядзенне ўсіх дзяржаўных адзінак, мытная прастора, межы на ўсёй тэрыторыі: з чатырох бакоў ёсць — Украіна, Польшча, Балтыя. З боку Балтыі ёсць мытні, кантроль, а ў

нас няма. Напрыклад, Літва скупіла ўсе медыкаменты ў прымежжы, бо ў іх даражэй на 7 разоў, свая валюта, свой банк. Аб перадачы долі Беларусі, яе долі валюты, золата, алмазнага запасу. Каб канвертаваць свае грошы, трэба мець рэальны курс. Цяпер рэальны курс 1–3 (долар — рубль), а нас рабуюць — 32 рублі. Можам у крэдыт узяць валюту, каб падтрымаць курс свае валюты. Мы працуем [за] 10 долараў у месяц, 60 долараў у год. Удвая горай, чым у Індыі. Варта [абвясціць] дзяржаўны суверэнітэт. Ці атрымалі мы згоду ад народа? Пабудова рыначнай эканомікі, тады прынцыпы — свабоду таваравытворцаў і свабоду спажывання. Грашовая рэформа і цэнавая. І рублёвая новая адзінка грашовая на пераходны перыяд. А пасля свая валюта. Праблема манетнага двара СССР, бо там наша доля. 370 млн долараў трэба аддаць Англіі за друкаванне новых грошай. Свабода эканамічнага дзеяння і рэгістрацыя. Попыт — прапанова, спажываць прадукцыю вольна, ліквідаваць размеркаванне. Стварэнне картэляў забараніць. Захаванне дзяржаўнай эканомікі будзе штурхаць да дыктатуры. Уласнасць абавязвае і таго, хто мае яе, і хто яе атрымае. Знешняя запазычанасць СССР 60 млрд долараў, і Беларусь — 1,8 млрд».

*Вячорка:* «Канферэнцыя «Незалежнасць і адраджэнне. Інфармацыйная блакада Беларусі». Змена посткамуністычных структураў улады».

*Івашкевіч.* Аб скліканні надзвычайнага з’езда БНФ. Правесці новы набор.

*Пазьняк* лічыць, што з’езд цяпер склікаць не варта, усё можна зрабіць на канферэнцыі палітычнай з праграмнай заявай.

*Мальдзіс.* Скарынаўскі цэнтр. Паведамленні з абласных цэнтраў.

*Хадыка*. Пра дзеянне БНФ у Мінску. «Дэмакратычны рух Расіі ў большыне сваёй шавіністычны. На дзяржаўным узроўні ні шантажу, ні шавіністычных заяваў не было. Былі выступы на асабістым узроўні. Ніколі не былі этнічнымі рускімі землямі землі Украіны і Казахстана. Узровень масавай свядомасці — узровень рухаў і партый. Яны распальваюць міжнацваражасць. Гэта другі бок медаля, дзе напісаны адзін Саюз, единая и неделимая. Нас чакаюць складаныя пытанні. Ці будуць перавыбары. Наогул, не можам адмаўляцца ад прэзідэнцкай формы праўлення. Няма ваенна-палітычнай канцэпцыі. Трэба і хутка каля 7-мі канцэпцый».

*Баршчэўскі:* «Няма ў нас экстрэмістаў. Гэта дае стабільнасць. У нас болей магчымасці да дэмакратыі, бо не гадзяць помнікі, не разбураюць культуру. Мы на пераходны перыяд глядзім як на пераходны перыяд да незалежнасці. Садружнасць суверэнных дзяржаў. Міжнароднае прызнанне залежыць, ці змаглі б мы правесці рэферэндум, на яго ж вынесці праект канстытуцыі. Выстройвацца па эканоміцы. Без дэманапалізацыі нельга пачынаць прыватызацыю. Прыватызацыя павінна вывесці на паверхню актыўных людзей, а не проста раздача, якая ні да чога не прывядзе».

Вечарам па тэле выступаў у адкрытым эфіры Зянон Пазьняк. Гэта наш Кастусь Каліноўскі. Таксамам незразуметы, таксама самотны, таксама вырачаны. Але якая радасць чуць яго, бачыць, адчуваць, што ў адным часе з ім жывеш. І самому нешта хочацца рабіць, каб быць не проста жыхаром беларускім, а змагаром, наколькі талент дазваляе. А то апошнім часам красуюцца на тэлеэкране выхадзімцы з партыі. Уступіў нагой, дык адыдзіся ўбок ці аб траву, ці чым вытры, каб не бачыў ніхто цябе. Колькі разоў назіраў, як з айсберга КДБ выбягаюць, як з грамадскай сральні, што навідавоку стаіць. З будынку насупроць туалета Купалаўскага тэатра раней выходзілі чынна. Цікава — адзін насупроць другога — будыніна ЦК і туалет. Супрацьстаялі. Туалет выстаяў і перамог, бо людзям болей неабходны быў і застаецца[1]. І тут разам з нечысцю варта прыгадаць і камсамол — рэзерв КДБ. Нашыя камасрайцы, як называлі іх ушацкія людзі, далі прыклад ажно кітайцам.

*8 верасня, нядзеля*

Артыкул Быкава пра Пазьняка ў «Н[ароднай] г[азеце]» за 6-е. Правільны і па-быкаўску мудра-ўзважаны. Вечарам хадзіў да Радзіка. Сёння, выходзіць, яўрэйскі Новы год. Радзік паліў 2 свечкі — іх трэба паліць, як запальваецца першая зорка. Ставіў Радзік і яўрэйскую музыку. Трэба есці мёд і яблыкі — елі. Як камуністы абяднілі чалавецтва, пазнішчыўшы ўсе абрады, веры, народы. А Богам задумана багацце, разнаякасць, шматаблічнасць чалавечай радасці, бяды, надзеі. Кожная істота на мове сваёй славіць Бога за тое, што даў ёй магчымасць пабыць у гэтым часовым зямным застоллі, піць мёд і палын. Але ўсё ж яўрэі не дужа вітаюць незалежнасць Беларусі, ёсць нейкая векавая боязь. Як быццам у савецкай імперыі ім было лепей ці лепей будзе. І нават смешны аргумент, што ў Кіеў ці ў Маскву званіць, як за граніцу, будзе дарага.

*9 верасня, панядзелак*

Праца. Дачытаў рукапіс Смагаровіча[2]. Мог быць паэтам, але час зрабіў сваё, тым болей, што без рук [чалавек]. А дэталі ёсць, падмеціць можа шмат чаго. Дырэктар увесь у рэформах з галавой. Напісаў паэму пра Пагоню. Наогул, страшна ажно, як беларусы не гатовыя да дзяржаўнасці, як ў той ушацкай прытчы пра жабрачку. Звыкла да кускоў. І раптам далі муку. Яна плача, не ведаючы, што рабіць з мукой: «А нашто ж мне гэта

---

[1] Знакаміты туалет у Аляксандраўскім скверы быў пабудаваны польскім архітэктарам Сенкевічам у 1912 г. У юбілейны год — 2012-ты ператвораны ў сувенірную лаўку і білетную касу Купалаўскага тэатра.

[2] Смагаровіч Марк Станіслававіч (н. 1927), беларускі паэт.

мучанька, а нашто ж мне гэта горанька!»[1] Гэтак і беларусы з незалежнасцю, з дзяржаўнасцю.

*10 верасня, аўторак*

Праца. Маладая паэтэса з Лепля. Напор, наіў, правінцыяналізм — усё разам. Хачу ў літаратуру не з чорнага ходу. Пайшлі ў сталоўку, бо не меў часу весці куды прыстойней. Чарга. Яна: «Ведаеце, хто гэта стаіць?» Дурацкае становішча.

Расказалі сёння, як Лучанок хваліўся, што распранаецца ў Лук'янава, бо пісаў песні на словы гэнага генія. Лучанок хоча быць міністрам культуры, хоць па дакладных дадзеных ніводнай кнігі за жыццё сваё не прачытаў. Толькі ў зборніках паэзіі выбіраў словы на песні. Сапраўдны савецкі міністр культуры! Бо наш міністр замежных справаў Краўчанка Бяссмертных[2], калі ён адпачываў ў Беларусі пад час путчу, падаваў мяч, як сабака кій гаспадару, калі міністр саўімперыі гуляў у тэніс. «Палітычны бутэрброд: Палітыка — гэта такі бутэрброд…» [у дзённіку].

*11 верасня, серада*

Праца. Дырэктар задумвае нейкія рэформы. Марнасць марнаты. Наогул, усе як падвешаныя. Вечарам званіў Ганаду.

*12 верасня, чацвер*

Праца. Дырэктар пасля моцнага перапою злёгку пахмелены, пачаў размаўляць з Андраюком. Нічога не атрымалася. Добры ён па натуры чалавек, а ўнутры сядзіць апаратчык-князёк, і князька гэтага ніяк не можа ён выпендзіць.

Выступаў у Вучылішчы алімпійскага рэзерву № 1. Гэта кузня рэкордаў, яшчэ ўсё на савецкіх рэйках. Моладзь мяняецца, былі дужа цікавыя пытанні наконт БНФ. І спартсменаў ужо крыху праняло палітыкай. Хоць нашыя спартсмены ўвесь час былі цацкамі ў руках палітыканаў (нашых бальшавікоў не назавеш палітыкамі).

*13 верасня, пятніца*

Праца. Барысок Сачанка закруціўся як вуж. Пачаў крычаць пра заслугі свае, што без яго, члена ЦК, і сонца не ўзыходзіць. Выступаў у 10-хвіліннай перадачы «Свободное слово» [БелТБ], чытаў вершы, нешта казаў. Вечарам пазваніў Васілю. Яго ўстрывожыла, што пазваніў Мальдзіс наконт прэзідэнцтва, прапанаваў спачатку яго, пасля Адамовіча. Аналагічна мне

---

[1] Гл.: А нашто мне ([1995]) // Здубавецьця. С. 20.

[2] Бяссмертных Аляксандр Аляксандравіч (н. 1933), расійскі дыпламат. Са студзеня па жнівень 1991 г. міністр замежных спраў СССР. Кандыдат юрыдычных навук (1970).

званіў Жак[1]. Гэта парткэгэбісты ўсяляк завальваюць Зянона, папярэдне зандуючы глебу. Сачанка ўбрыкнуў Васіля ў «ЛіМе». Пасля раздрукавання архіваў КДБ выслужваецца перад партмафіяй, бо гэта блізняты-браты. Васіль сказаў, што яму досыць палітыкі, не толькі ў прэзідэнты, але ні ў адзін Вярхсавет не пойдзе. «Пайду на абыватэльскае жыццё. Буду жыць са свайго хлеба. А калі беларускі народ дасць сябе правесці на мякіне, нічога не зробіш». Цікава, што ў праграме «Вольнае слова» пастаўлена, калі ў агульнаімперскай ідзе «Поле дзівосаў». Вядома, усе будуць глядзець толькі яго. Даецца без прозвішчаў выступоўцаў. Усё і вольна, і кансператыўна. Як у лепшыя часіны. Мысленне ж у апаратчыкаў, а ўсімі сродкамі прапаганды кіруюць выкармкі ЦК ці абласных аддзяленняў банды. Цікава, што мне дырэктар шкадаваў, што ён не надзеў маёрскую форму і са зборнікам сваіх дэмакратычных вершаў не паехаў пад час путчу да Ельцына. А Павел Паўлавіч [Журкевіч] казаў Кусянкову, што перажываў дырэктар, што давядзецца апранаць форму і выконваць абавязкі, бо ён жа капітан КДБ. І зразумей, дзе хто, дзе праўда, дзе хлусня.

*Не той*

Не сябра твой, хто лашчыць слых,
Шчыруе у хвальбе,
А той, што ворагаў тваіх
Прымае на сябе.

*14 верасня, субота*

На Камароўку. Гандаль ад шыкоўнага імпарту да зламаных замкоў. Як у Амерыцы блашыныя рынкі. Вечарам да Навума. […] «Суботні вечар»[2].

*15 верасня, нядзеля*

[…] «Як трываеш?»[3], «Ідэал: Не куміліся з плачом…» [у блакноце].

* * *

А Грамніц вясёлых да Каляд,
Ад мяжы імшы да небакраю
Я твайго пагляду далягляд
Даганяю.
Чым бліжэй я, далягляд далей
Ад мяне нявогляддзю ўцякае.
Даганяй сябе, шалей, залей —

---

[1] Жак Віктар Герасімавіч (1931–1998), дэкан інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Кандыдат педагагічных навук.
[2] Гл: Суботні вечар (14.09.91) // Евангелле ад Мамы. С. 417.
[3] Гл.: Як трываеш? (15.09.91) // Тамсама. С. 398.

Не чакае.
Звык да страт я, стратамі багат,
Як нястрымным цветам сад у маі.
Тым я і жыву, што далягляд
Некалі дагнаць надзею маю.

*Верасень*

*16 верасня, панядзелак*

Праца. Вечарам званіў Васілю, абураецца, як былыя цэкоўцы, апаратчыкі пралязаюць усюдых, тармозяць, як па-ранейшаму КДБ працуе пятай калонай у рэспубліках, якія пажадалі стаць вольнымі. У нас, як трэба, створаць хутка пятую. Сумна, і ён згодны, што яўрэі займаюць не самую лепшую пазіцыю. У Сачанкі палескі комплекс непаўнацэннасці, і таму ён ў сваёй пісаніне ўсё малюе і малюе вобраз пакутніка, удзельніка ўсіх падзей. А ён проста [...] чаляднік [...] Максіма Лужаніна, стукача ў высокім рангу. Калі б рабіць помнік Сачанку, дык варта было б мець выяву лесавіка-балотніка з вялікім вухам і шырокай глоткай. П’едэстал — кіпы пісаніны, так званай прозы [...].

*17 верасня, аўторак*

Званілі мне. У цырульні цырульніца сказала, што Роўда[1] прыносіў паказаць фота з Папам Рымскім. Шкадавала, што Фінберг[2] увесь час за мяжой. Толькі адзін раз удалося пабыць на канцэрце. Здавалася б, што ёй да музыкі.

*18 верасня, серада*

Павіншаваў Максіма Танка з учарашнім ягоным днём нараджэння. Кажу: «Трымайцеся», — а ён жартам пытаецца: «За каго?» І яму знадакучыла ўся палітычная балбатня. Кажу: «Не бярыце ў галаву», — адказвае, што тут і безгаловага дастане. Кажа: « Парадкую паперы, трэба ры-

[1] Роўда Віктар Уладзіміравіч (1921–2007), беларускі харавы дырыжор, педагог. Народны артыст БССР (1978). Народны артыст СССР (1990). Кандыдат мастацтвазнаўства (1956). Прафесар (1975). У 1965–2007 гг. мастацкі кіраўнік і гал. дырыжор Акадэмічнага хору Белтэлерадыё, а таксама мастацкі кіраўнік Канцэртнага хору Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, у 1963–2007 гг. заг. кафедры БДАМ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990).

[2] Фінберг Міхаіл Якаўлевіч (н. 1947), беларускі дырыжор. Прафесар. Народны артыст РБ (1994). Мастацкі кіраўнік і дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра РБ (з 1987). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1990). Лаўрэат прэміі Саюзнай Дзяржавы (2008).

хтавацца ў далёкую дарогу». Сумна гэта. Па старэйшых за цябе адчуваеш, як час ідзе, як сам старэеш[1]. На сабе не так гэта адчуваеш.

*19 верасня, чацвер*

Нарэшце наш так званы спартыязаваны, паралізаваны парламент прыняў Бел-Чырвона-Белы і Пагоню. Усё гэта дзякуючы Народнаму фронту і спадару Зянону Пазьняку. Ніл, трымаючыся за штаны партыі злачынцаў, нічога б не дамогся. А цяпер робіць выгляд, што ён таксама араў, як авадзень на рагу ў вала.

*20 верасня, пятніца*

Званіў Васілю. Тыраж ягонага Збору твораў 15 тыс. Гэта някепска. Казаў, пакуль не ссунем дубовую калоду партыі, нічога не будзе, ніякага ходу. Пішу для «Нёмана» невялікае слова пра Барыса Заборава. Пімен прыслаў ліст, хваліць падборку ў жнівеньскім «Полымі». У яго хвароб на аднаго замнога. Хай бы частка іх дземянцеям і малафеевым, іншым партбандытам.

*21 верасня, субота*

Хадзіў на Камароўку па традыцыі. Там ужо пульс жыцця такі кіпучы — хоць яйкі вары. Гандлююць усім, чым можна і чым уявіць нельга. Нэндза, як уладная жонка, гэтак бярэ чалавека ў рукі, што ён сам сябе не пазнае.

*22 верасня, нядзеля*

Перачытваю «Бесы»[2]. Пісаў верш. Вечарам званіў Васіль. Хваліў жнівеньскую падборку ў «Полымі». На Захадзе, казаў, калі чалавек чаго дасягае, яму ўздаецца пры жыцці. У нас жа — абавязкова пасля смерці. Здзіўляўся празорасці Зянона Пазьняка і Алеся Адамовіча, іхняй інтуіцыі. Напачатку, як кажуць, аж жах нязвычны, а пасля выявіцца, што праўда на іхнем баку. Гэта сапраўдныя прарокі.

*23 верасня, панядзелак*

Ілона забрала раніцай Дамінічку. Без яе сумна. На працы ўсё тая ж прыціхлая твань. Дырэктар, зайчык наш, толькі бурбулкі пускае. Збіраў каштаны. Восень. Яшчэ адна. Колькі мне Бог адпусціў іх? Дзякуй за ўсё, дзякуй загадзя. Званіў Роўбу.

---

[1] Гл.: «Гэтулькі часу на гэтай зямлі...» (18.09.910 // Евангелле ад Мамы. С. 359.

[2] Раман Ф. Дастаеўскага. *Дастаеўскі* Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, крытык, публіцыст.

*24 верасня, аўторак*

У выдавецтве новая пературбацыя. Нарэшце не будзе Савета працкалектыву. Надакучыла збіраць усіх ды крэслы насіць. Званіў Васілю.

*25 верасня, серада*

Да Навума, у яго заўтра дзень нараджэння. А адзначае сёння. Даўно не бачыў Фёдара Яфімава. Па-ранейшаму просты, і ў сэнсе прамы, і ўпарты. У сэнсе няхісткі. І разумны ва ўсіх сэнсах. Сышліся на думках пра паэзію рускага замежжа. Болей там палітыкі, гульні ў палітыку, чымся паэзіі. І ва ўсе часы за чорнае сямідзесяцігоддзе ўсё-ткі была паэзія. Можна выбраць і ёсць з чаго. Немагчыма ў такой колькасці чытаць Цвятаеву[1]. Сапраўды, «паэзію забілі вершы». Адносна даўжэзных цыклаў Фёдар правільна сказаў, што гэта як стральба па жывой (рухомай) мішэні чаргой. Трапляе толькі першая куля, а рэшта мэты не дасягае. Зноў я пераканаўся, што яўрэі супроць суверэнітэту і Беларусі, і іншых былых калоній імперыі. І на Навуме. Мудры, а тут мудрасць перасядае камяком у горле.

26 верасня, чацвер

На працу забягаўся Іван Бурсаў з Рытай. Едуць у Белакаменную з «Іслачы». Заходзіў да Яшы. Ён вярнуўся з Зямлі ўладкаванай. Задаволены. Дзеці добра ўладзіліся. Відаць, і ён паедзе. Застануся без любімага ўрача і без лекаў. Сёння па радыё для школьнікаў нейкі рэпартаж вяла дачка Шабаліна[2], рэдактара «Беларусі», выкармка, як і ўсе ў нас рэдактары, сумнай славы ЦК. Ужо гэтак по-рюсски, аж болей немагчыма. У нас усе деткі цэкоўскіх [...] і большасці так званых пісьменнікаў (асабліва народных, Быкаў тут не ў рахубу) дужа добра, без ніякага акцэнту, па-расійску шчабечуць. А што ж мы тады хочам ад старшыняў калгасаў, якім у галовы ўкладзены гатовыя касеты з кепскай рускай мовай, і яны толькі ратамі зяваюць, агучваюць. Простаму чалавеку і ў душы беларусу з каго тады ўзяць прыклад, каго пераймаць?

*27 верасня, пятніца*

Чытаў Лявону Дранько новыя вершы. Адзін дужа яму падабаўся. Кажу, што ў «Нёмане» падборка тарбахвата Дайнекі называецца меч і яшчэ нешта. Лепей было б назваць у адпаведнасці з ягоным характарам «Шчыт і таўкач».

Купляў зялёную гарбату і зайшоўся ў камісійны. Скураныя курткі восем тысяч с хвосцікам. Хто можа купіць, хто сумленна працуе? Толькі

---

[1] Цвятаева Марына Іванаўна (1892–1941), руская паэтэса.

[2] Шабалін Аляксандр Андрэевіч (1938–2013), беларускі журналіст, пісьменнік, дзяржаўны дзеяч, спартсмен. З 1978 г. гал. рэдактар час. «Беларусь».

мафія. Недарэмна ўчора перадавалі па радыё, што ў Хабараўску адбыўся ўсесаюзны з'езд злодзеяў у законе. Ён мог бы паставіць лічбу чарговага з'езда КПСС — гэта аднолькава.

Па радыё па-ранейшаму расказваюць пра подзвігі воінаў-інтэрнацыяналістаў. Прафесійныя забойцы, ахвяра рэжыму знішчылі 2 млн, і гэта інтэрабавязак. Перад кім?

*28 верасня, субота*

Ледзь не сканаў ад болі галавы. Пад вечар прарваўся дождж, адвіло ад матылёў, як казалі ў нас дома. Вечарам званіў Васіль. Нашыя ср.ныя сакратары СП падпісалі нейкі зварот разам з расійскай чорнай сотняй. Аскоцкі званіў Васілю, прасіў рэагавання. Няма яшчэ «Лит[ературной] России», дзе гэтае дзярмо змешчана. Званіў Паўлаву, каб даведацца, — паехаў на злучку з народам. Васілю званіў Акулаў, рускі з Малдовы, устрывожаны русафобіяй Беларусі. Яна, можа, у абмежаванай дозе і трэба б была. Ды на жаль няма яе ў нас. Вялікадзяржаўны шавінізм у лаптемщихлебателей называецца чувством родины, а ў іншых народаў, якія і старэй, і мудрэй, — русафобіяй. Такая самазакаханасць ідзе ад абмежаванасці і адчування сваёй непаўнацэннасці. Божа, за што ты так пакараў Беларусь, адабраў у яе памяць. І яшчэ большая кара бацькам — гэта іхнія дзеці. Маці Беларусь пакарана люта — такіх дзяцей не пажадаеш ніводнай краіне. Зневажаюць, прадаюць, веру мяняюць, мову заганяюць у казіны рог. Крывічы з чужой крывёй. Жахліва! Па старонках газетаў, як некалі Брэжнева, морда лагойскага [...]

*29 верасня, нядзеля*

Хоць на Камароўцы перабіў сабе ўражанне ад цыклопскага позірку Ніла Гілевіча са старонак усіх газет. Як не пашэнціла, што перабудова. Быў бы і Гертруда, і ўсім, што ў свінарні, якая ЦК звалася, даецца. Гэта ж трэба, і ў партыю ўскочыў, а тут не тое! Гандаль, як у літаратуры, прапануюць на Камароўцы ўсё.

«У адпаведнасці»[1].

Вечарам званіў Ул. Паўлаву, любімаму пляменнічку [...] дзядзькі Максіма (Лужаніна). Падпісалі ў «Лит[ературной] России» нейкае га.нянае пісьмо разам з [...] рэсэфээраўскага саюза. Упэўненасці ў Паўлава, як у індыка перад атакай чырвонага. «Я — арыец»[2].

[1] Гл.: У адпаведнасці (29.09.91) // Евангелле ад Мамы. С. 233.
[2] Гл. Я — арыец (29.09.91) // Тамсама. С. 55.

*30 верасня, панядзелак*

На працу прыходзіў Васіль. Прынёс рукапіс 3-га і 4-га тамоў сваіх. Падарыў мне «Вялікалітоўска-рускі слоўнік» Станкевіча[1]. Не ведаю, як і аддзячыць за такі дарунак.

Званіў Сачанку. Яму прыйшла «Лит. Россия». Нашыя ср.ныя сакратары падпісалі брыдоту. Трэба даваць адпор. Здрабнеў і вырадзіўся саюз, ён такі адразу і быў задуманы.

*1 кастрычніка, аўторак*

Па дарозе на працу сабіраў каштаны, і неўпрыкмет пачалі прыходзіць радкі пра жалуды. Усё ж беларускае мышленне перамагае прыгожы экзатычны антураж[2].

Званіў Васіль. Трэба пісаць усім ліст у пратэст нашых ср.ных сакратароў. Нілку далі народнага. Трамбонную графаманію ўзводзяць у ранг. Сам сабе даў як старшыня камісіі ў ВС. Раней быў самвыдат, а цяпер Ніл у Вярхсавеце зрабіў самдат, сам сабе дае. Хоць гэтая праблема не вартая выедзенага яйка.

*2 кастрычніка, серада*

На працу прыходзіў Васіль. Падпісвалі пісьмо ў «Литгазету». Уключыў на троху аб'езджаную праграму «У свеце жывёлін» і «Вакол смеху» — сесію Вярхсавета. Крымінальнікі-бальшавікі кладуцца на рэйкі, як тыя рускамоўныя Дунькі ў Малдове. Калі б каго і вешаў я з бальшавікоў, дык у першую чаргу партай[...]. Учора адна з настаўніц выступала ў абарону кампартыі. Фальшыва-[…] голас з абавязковай дрыготкай. Ну, ветэран выступаў, дык ён і не цяміў, дзе і калі выступае. Пра партызанскі рух, пра падпольныя райкомы. Прыйдзе час, і паставяць кропку над і ў партызанскім пытанні. Зноў шакіравала ўсімі зверствамі партызанаў партыя, яна ж і КДБ у адной асобе.

*3 кастрычніка, чацвер*

Праца. Сум нейкі незразумелы. У атмасферы разліты адчай. «Прыйшлі канцы к гародам…»[3] Прачытаў верш Дранько-Майсюку. Яму спадабаўся, здаецца. Дужа надакучаю яму чытаннем вершаў. Ды Стральцова няма, а болей няма з кім параіцца.

---

[1] Станкевіч Янка (Ян; псеўд. Скарыніч Брачыслаў; 1891–1976), беларускі мовазнавец, гісторык, палітычны дзеяч. Доктар славянскай гісторыі і філалогіі (1926). З 1944 г. у Германіі, з 1949 г. жыў у ЗША.

[2] Гл.: Збіранне жалудоў (1.10.91) // Евангелле ад Мамы. С. 178.

[3] Гл.: «Прыйшлі канцы к гародам…» (3.10.91) // Тамсама. С. 335.

*4 кастрычніка, пятніца*

Сядзей пісаў нешта накшталт эсэ пра Барыса Заборава. Зразумеў, што, каб прозу пісаць, трэба мець здароўе. Верш можна і на адной назе стоячы пісаць. На кінастудыі глядзеў фільм прытчавага плану, з выкарыстаннем батлейкі. Еўрапейскі фільм. Нават Гарбук нармальна іграе. Паводле ранніх апавяданняў Кузьмы Чорнага і Гарэцкага[1]. Рэжысёр — зяць Адамовічаў[2]. Таленавіты хлопец. Вечарам званіў Васіль, наш пратэст супроць ср.ных сакратароў пісьменніцкага саюза (хацеў напісаць хаўрусу, але не змог — хаўрус нешта чалавечае і разумнае) ў «Литгазете». Васіль падаў слушную думку, каб КДБ адклікала сваіх стукачоў з СП. З усіх структураў як быццам адклікаюць, а з нашага свінарніка не спяшаюцца. Калі намі будзе кіраваць [...]-камсамолец Жалязоўскі, далей ехаць няма куды. Прыехалі!

*5 кастрычніка, субота*

На Камароўцы. Здравіла-кааператар, ён жа, можа, і рэкецёр, літаральна адкручвае галаву дохленькаму зладзюжку. Той просіцца, а гэты гатовы забіць чалавека за тое, што сам жа ўкраў. Улада сілы і ў імперыі, і на базары. Кааператары-рэкецёры ўсе ў скуранках, як заклятыя камісары ў бальшавіцкі пераварот. Гэта ўжо новыя — камісары базару. Учарашні фільм таксама пра ўладу і права сілы. Бальшавікі гэтую ўладу насаджалі 70 год. І насадзілі. Пра якую інтэлігентнасць можна казаць у краіне перамогшага (дзякуй Богу, амаль здохшага) сацыялізму-вандалізму. Сёння Валя сказала вясёлае: «Жанчыне, каб сталі вялікія вочы, трэба колькі дзён не хадзіць у магазіны, а пасля пайсці і паглядзець на цэны». Наогул, ад палітыкі і ад цэнаў хочацца забрахаць на Месяц. Дзе спакой, дзе развага, дзе розум у людзей?

«Віднее паволі...»[3]

*6 кастрычніка, нядзеля*

Маленькімі глыткамі цаджу Дастаеўскага. Мог бы быць беларускім класікам, калі б даў Бог нам дзяржаўнасць. Тады б мова наша развівалася як дзяржаўная, абслугоўвала б усе пласты насельніцтва і сферы. Хадзіў на Камароўку. Толькі й магу сказаць, як некалі плакаты крычалі: «Камунізм — наша будучыня», — дык я паўтару: «Камароўка — наша будучыня». «Пачынаю восень адчуваць..»[4]

---

[1] Гарэцкі Максім Іванавіч (1893–1938), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, лексікограф, фалькларыст; дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння. Рэпрэсаваны.

[2] Шувагін Віталь Вітальевіч (1947–1996), беларускі кінарэжысёр.

[3] Гл.: «Віднее паволі...» (5.10.91) // Евангелле ад Мамы. С. 144.

[4] Гл.: «Пачынаю восень адчуваць...» (6.10.91) // Тамсама. С. 385.

*7 кастрычніка, панядзелак*

Даканчыў для машынкі слова пра Барыса Заборава. З бальшыны прыгроб паэму Грышановіча. Аж у галаву калоць пачало. Нясе як трэску ў паводку, за які корч рыфмы зачэпіцца, там і прыпыніцца. Вечная бяда з дырэктарамі. Усе ў пісьменнікі ірвуцца. Яшчэ пасля вайны Павэлак Кавалёў[1] з ЦК прыйшоў у літаратуру. Дасюль не можа выйсці.

*8 кастрычніка, аўторак*

Праца. Задумаў дзіцячы верш, дзе хачу паказаць усё пра каня, усю збрую. І сам успомню. Званіў Навуму. Да яго прыходзіў Артханаў з паэмай маёй, якую пераклаў. Навум даваў заўвагі. Карлас прыходзіў. У яго самыя лепшыя надзеі на эканамічны бок нашага ПЭН-цэнтра. Дай Бог!

*9 кастрычніка, серада*

Праца. Напісаў дзіцячы верш «Акула ў акуліста»[2]. Трэба дадаць у зборнік. Вечарам званіў Васіль. Захворвае. Кажа, трэба мецьабавязковыя лекі і, удакладняючы Ірыну Міхайлаўну, з быкаўскім гумарам сказаў — «ад дурной галавы і ад таўстога жывата». Але гэтакіх лекаў няма.

*10 кастрычніка, чацвер*

Сам злёг. Усю ноч была то спёкай, то холадам. Паход да свайго галоўурача Якава Абрамавіча. Вечарам у праграме «Крок» Алесь Адамовіч. Разумна, востра, прарочa. Сёння Лявону Дранько-Майсюку дзень нараджэння.

*11 кастрычніка, пятніца*

Дырэктар абяцаў перавесці БНФ тысяч 100. Быў у добрым настроі. Пра партыю Законнікава сказаў: «Што гэта за партыя, калі няма з кім выпіць?» Калі ён запытаўся Бутэвіча, чаму той не выйшаў з партыі, партапаратчык адказаў, што ён жонцы і партыі не здраджвае. [...] Занёс у «Нёман» слова пра Барыса Заборава.

*12 кастрычніка, субота*

Каля гадзіны шукаў Музей Максіма Багдановіча і не знайшоў. Ніхто не ведае. Толькі харчэўні ды розныя [...] Камітэты міру (грошы ідуць на зброю і на інтэрнацыянальную дапамогу накшталт Афганістана). І дом Максімаў перашкодзіў будынкам для савецкай партмафіі і суроваўскіх вучылішчаў, і музею людскага памяшкання не знайшлося. Толькі ездзяць

---

[1] Кавалёў Павел Нічыпаравіч (1912–1995), беларускі празаік, нарысіст, перакладчык. Заслужаны работнік культуры БССР (1978).

[2] Гл.: Акула ў акуліста (9.10.91) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. С. 50.

розныя дэлегацыі ў Яраслаўль. А на шыльду-ўказальнік і грошы няма, капеек нейкіх. На банкеты і прыёмы ў гонар тысячы пойдуць. Вечарам званіў Васіль. Дэлегацыю ў ЮНЕСКО ўзначальвае Вярцінскі, намеснік Сачанкі. [...] Былі Сачанку і Бутэвіча са спіска выкрэслілі. Дык за члена ЦК уступіўся Пётра Садоўскі. [...]

*13 кастрычніка, нядзеля*

Цікава рэагаваў Васіль на прапанову Адамовіча па тэле, каб ён быў прэзідэнтам. «Падкінуў Адамовіч мне вожыка. Я яму адплачу тым жа, скажу, што Адамовіч не супроць быць прэзідэнтам, але хоча, любіць, каб яго ўгаворвалі». Пакуль усе кішаньковыя партыі і рухі змагаюцца, Чарнобыль не спіць. Зноў пажар на АЭС. Чарнобыль — боская кара нам за вераадступніцтва, за бальшавізм. Як помста, што пяцікута-рагатая зорка была ў нас у пашане, зорка Палын цяпер над намі неадступна. Вечарам званіў мне Шклярэўскі і доўга мне даказваў, што не трэба было за герб браць нашую Пагоню. Беларусы, бачыце, земляробы, адкуль рыцар і г. д. Яшчэ падкрэсліваў, што нібыта Адамовіч Пазьняку выгаворваў, бо Зянон хоча прыхінуць беларусаў да Польшчы і Літвы, а яны лічаць беларусаў за другарадных. Вось Расія здаўна любіць і шануе беларусаў. Даўняя тэорыя добрага рускага пана. Усе любяць, каб беларусы на іх гарбелі, а яны панавалі. Бокам выходзіць нам нашая талерантнасць. А Шклярэўскі заўсёды любіў уладу і асабліва каб улада любіла яго і лашчыла.

*14 кастрычніка, панядзелак*

Пакроў. Напамін пра зіму, якая ўжо не за гарамі. Тут у горадзе ўсе святы, і паганскія, і хрысціянскія, гучаць як экзотыка. Няма напаўнення. Няма зямлі ў каранях. Асфальт. Прыязджаў Іван Сцяпанавіч. Перадаў тое-сёе Петраку і Марыі Рыгораўне.

* * *

За спёку і ахалоду,
Пакуту і асалоду,
Знявагу і ўзнагароду —
За ўсё ў гэтым хуткім жыцці
Сваім жа жыццём заплаці,
Каб ціха з жыццём развітацца,
Але ў даўжніках не застацца
Ў зямлі, дзе вузельчыкам ты
Жыццём завязаны на памяць,
Каб мог і наступнік твой цяміць,
Што доўг закрычыць з нематы.
Прарэжацца голас з адчаю

І ўзыйдуць кругі на кругі.
Жыццё нам усё пазычае,
А смерць спаганяе даўгі.
І ў руху няспынным гэтым
Мы смешныя з нашым імпэтам.

*15 кастрычніка, аўторак*

Першы дзень кастрычніка [па старым стылі]. Дождж і нейкая парнасць. Усё-ткі Чарнобыльскі кацёл дае чаду. Хоць афіцыйна крычаць, што ўсё ў парадку. Краіна дзівосаў самых пачварных. Выклятая Богам. За мной неадступна ходзіць сум. Аж баюся. Усё абрыдла, усё апастылела. Адзін спадман, адно крутадушша ад нізу да ср.ных вярхоў. Сапраўды, як казалі ў нас: пан га.ном напхан. Зноў камедыянты сабраліся на чарговую сесію.

«Плытчэе, святлее…»[1]

*16 кастрычніка, серада*

Да паўдня разграбаў рукапісы, шукаў артыкул пра Пімена. Не знайшоў. Знайшоў вершы пра Беларусь. Днём прывозілі Дамінічку. Толькі яна і радуе. Толькі яна і надзея.

*17 кастрычніка, чацвер*

Праўка «Застолля пад час чумы» [А. Пушкіна]. Для Варанецкага[2] і ў «ЛіМ». Званіў Бубнаву, перадаваў вершы Шагала праз Алу [Сямёнаву]. Ён сказаў Але: «Добрыя вершы пісаў Шагал у перакладзе Барадуліна». На працы і ў саюзе гляджу на нашых так званых пісьменнікаў. І гандляры б былі добрыя, і рвачы, і штурхачы. А іх нячыстая заперла ў літаратуру. Ну якія з бальшыны пісьменнікі? Аўтары газетных нататкаў. Талентаў для гаспадаркі, для гандлю загінула! Для партыі крымінальнікаў было выгодна трымаць на шворцы літгайню, што вынюхвала і вылізвала кожны след ад ботаў галаварэзаў з ЦК. Халуі і падбрэхічы. Цяпер Ніл узначальвае нейкую камісію па напісанню гімна. Сталінска-кэдэбісцкае мышленне. Хоць на ўзроўні Клімковіча Ніл напіша, бо талентам роўны яму. Дарэчы, па-беларуску расейскае гебисты гучыць лепей, канкрэтней — дыбісты, тыя, хто на дыбу людзей садзяць — дыбісты.

---

[1] Гл.: «Плытчэе, святлее…» (15.10.91) // Евангелле ад Мамы. С. 333.

[2] Варанецкі Фама Сільверставіч (н. 1938), беларускі акцёр, педагог, мастак. З 1971–1998 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Адначасова ў 1990–2014 гг. выкладчык БАМ. Заслужаны артыст БССР (1990).

*18 кастрычніка, пятніца*

Вершы ў «Маладосць» і «Застолле пад час чумы» ў «ЛіМ». Сабраліся ў Вушачу. Таксі не прыйшло. Давялося браць білеты на заўтра. Усё нячыйнае. Гаспадара няма.

*19 кастрычніка, субота*

На *Ушачу!* Усё зроблена ў хаце. Вагонка добра глядзіцца. І цэгла, і дрэва — усё натуральнае. Іван Сцяпанавіч расказваў, што будзем з італьянцамі прадаваць ваду з Вечалля. А італьянцы ў Афрыку, дзе бутэлька вады каштуе болей, чым пляшка віна. З Ушачы на Клайпеду, а там — у свет пойдзе наша чыстая вада. Хутка будзем прадаваць валасы разам з галавой. Застанецца разбураная пустэльня.

*Наталлі Давыдзенка*

Наталля Аляксееўна!
З днём нараджэння!
З днём Ліцэя![1]
І вось — у падарунак Вам,
Як ад самоты панацэя,
Нямецка-рускі Мандэльштам![2]

*19 X 91* *Rygor Baradulin*

*20 кастрычніка, надзеля*

У *Кавалеўшчыну.* Пахадзілі з Іванам Сцяпанавічам лесам, дзе будуць карпусы санаторыя «Вечалле». Вядуць дарогу. Як статак свіней, як віхор прайшоў — так груба працуюць дарожнікі. Усё ідзе на тлум. Усё нічыё. Усё камуністы пазнішчалі, хочучы свой новы свет збудаваць. На Бутаўшчыну да мамы схадзілі. Валя, дзякуй ёй, выпалала магілку. Вечарам аўтобус на Мінск. П'яная кампанія з вяселля. Адна п'яная-п'яная, але казала: «Паедзем у Бычкі, Васіля Быкава паглядзім». Калі ўжо і ў п'яных на розуме імя, дык гэта нешта значыць.

*21 кастрычніка, панядзелак*

Праца. Званіў Васіль. Збіраемся ў Маскву. З учарашняга прыйшлі радкі: «Райцэнтр», «А святлом да святла прабіцца…»[3].

---

[1] Царскасельскі Ліцэй, у якім вучыўся А. Пушкін, быў заснаваны 19 кастрычніка 1811 г.

[2] Надпіс на кн.: Ossip Mandelstam. Hufeisenfinder: russisch und deutsch. Verlag Philipp Reklam jun. Leipzig,1983.

[3] Гл.: Нашча: Райцэнтр; «А святлом да святла прабіцца…» (21.10.91) // Евангелле ад Мамы. С. 378; 291.

*22 кастрычніка, аўторак*

Надыходзяць халады. А з імі нейкі першабытны страх голаду, страх цёмнае невядомасці. Ніяк не магу сесці за артыкул пра Багдановіча. Усе кіёскі завалены і сексам, і забойствам. З поля зроку знікае сапраўднае слова. Відаць, ва ўсе часіны адны п'юць самагонку, барматуху, а іншыя сапраўднае віно ды каньяк стары. Апошніх заўсёды меней. Няшчасная Беларусь разбаўлена русскомычащим стадом, як гарэлка сапраўдная вадой. І толькі пах нацыі і дзяржавы, а моцы няма, не бярэ ні за душу, ні за глузды.

*23 кастрычніка, серада*

Перачытваў Бярозкіна пра Багдановіча. Разумны, дасціпны, а ўсё роўна пад уплывам афіцыйных шаблонаў, падчас да наіўнасці. Казалі з Лявонам Дранькам, што Сталін зрабіў такую сістэму, як японская тэхніка: пры ўскрыцці элементы аплаўляюцца. І ні з месца.

*24 кастрычніка, чацвер*

Праца. Дырэктар наіўна пытаўся, хто паслаў Сачанку ў Парыж. Вядома ж, КДБ і партыя, што адно і тое ж. Званіў Васілю. У «Дружбе народов» пасля прадмовы Быкава да Геніюш яшчэ вялікае [...] дасье Б. Сачанкі. Прыводзіць нават тэкст тэлеграмаў Гітлеру. Што, у Вялікім Бары пад пнём захавалася? Калі б быў сумленны, дык указаў бы крыніцу. І яшчэ казалі пра рускіх дэмакратаў — усе ў адзін голас разам з габрэямі супроць суверэнітэту рэспублік. Прыклад інтэграцыі ў Еўропе. Дык там жа спачатку паасобку кожны на сябе працаваў. Чаму ж мы разам у імперыі 73 гады нічога не дамагліся, калі нам разам лепей?

*25 кастрычніка, пятніца*

Званіў Васіль. Яму падабаліся вершы ў «Знаменке» [«Знамени юности»], асабліва празаічнае замест уступу. Букчын напісаў памфлет на Зянона Пазьняка. Калі б, Васіль сказаў, крыху раней напісаў, быў бы ў членах ЦК разам з Сачанкам і Чыгрынавым. Доўга шукалі парткэгэбісты клін, якім пачаць раскалваць беларусаў, і знайшлі букчыных. Усё-ткі цягне на галоўны штаб «Памяти». Расейскі бот біў лепей пад зад. А беларусы што, прытулілі. Дабро забываецца хутка. Пачалі вэрхал — «русафобія». А вялікадзяржаўны шавінізм — гэта добра, выходзіць.

*26 кастрычніка, субота*

Да Лучанка. Падпісаў яму «Вяртанне»: «Усё жыццё — вяртанне...» [у дзённіку]. Ігара недзе ў «Добрым вечары» па-камарынаму ўкусілі. Падняў вэрхал. Паказаў альбом з Кітая, дзе ён разам з Лук'янавым як родныя.

Пісаў жа песні. Таленавіты як чорт і дробязны як апошня бяздарнасць. Усё сумяшчаецца. Хадзілі да Мулявіна, «Песняры» едуць у ААН з праграмай Багдановічавай. Мне была просьба старонку ўступу пра Максіма Багдановіча напісаць. Напісаў. Мулявін ухваліў. Яго бянтэжыла «літоўская» Пагоня, параіў яму замяніць на крывіцкую. Лучанок увесь час паўтараў, што пасвяціў бы песню Гарбачову, бо як старшыня Саюза кампазітараў выбівае кватэры.

*27 кастрычніка, нядзеля*

На Камароўку. Каб адчуць, як страшна зімна дыхае жыццё, як падступае галеча да чалавека, якога лёс на выпрабаванне кінуў у збальшавікаваную краіну. Пісаў для «Комсомолки» слова пра Багдановіча.

*28 кастрычніка, панядзелак*

Да адубення ў нагах стаяў у чарзе па гарэлку. І талоны, а ўсё па-савецку. Каб нагадвала чаргу ў Маўзалей. «Усё роўна»[1]. Нарэшце закончыў слова. Чытаў па тэлефоне майму маладому сябру Радзіку, той ухваліў. Панясу на перадрук, а то трымае мяне гэта слова за горла.

*29 кастрычніка, аўторак*

Гам на працы. Тыражы падаюць. На Язэпа Пушчу 326, на Гаўрусёва 500. Гэта атака супроць нацыянальнага. Квітнее выдавецкая суполка, якая выдае дэтэктывы, адмываючы партыйна-кэдэбісцкія грошы. Партыя не здаецца. «Я ўсё збіраўся жыць…»[2]

*30 кастрычніка, серада*

Узяў з машынкі слова пра Багдановіча. Падрыхтаваў Емінэску для Баршчэўскага. Чытаю новы зборнік Законнікава «Заклінаньне». «Усё сваёй чакае кары…», «Супернік вечнага Тварца…»[3]. У саюзе членаў СП бедны Васіль Быкаў даказваў ідыётам дэмакратычныя шляхі арганізацыі. Не падтрымалі. Парсюкі ля каравага карыта.

*31 кастрычніка, чацвер*

Завёз спецкару «Комсомолки» слова пра Багдановіча. Вечар кнігі Законнікава. Сабраў ад Быкава да міністра культуры [Вайтовіча]. Як яшчэ Малафеева не запрасіў. Народу няшмат. Усё, як у запойныя часы. Сам дужа крычаў і залішне сябе ж хваліў. Можна было б і сціплей. Вёў

[1] Гл.: Усё роўна (28.10.91) // Евангелле ад Мамы. С. 269.

[2] Гл.: «Я ўсё збіраўся жыць…» (29.10.91) // Тамсама. С. 150.

[3] Гл.: «Усё сваёй чакае кары…»; «Сапернік вечнага Тварца…» (30.10.91) // Тамсама. С. 306; 334.

Дудараў. Спрытны, але недалёкі, як пра яго заўважыў Васіль. Зборнік не адрэдагаваны і, калі быць шчырым, не напісаны яшчэ. Але аўтару відней. Хочацца ўлады і славы з роўнай сілай. Усіх ўспомніў, і Ніла, і Бураўкіна, а Броўку — не.

*1 лістапада, пятніца*

З раніцы званіў Васіль, напісаў для газеты наконт таго, каб за гімн прынялі тэкст Краўцова[1], а не новы кан'юнктурны, які, вядома, дзярэцца напісаць Ніл.

*2 лістапада, субота*

Вечарам званіў Васіль. Казаў, што назіраецца дзіўная перамена званкоў. Некаторыя пастаянна званілі. Цяпер перасталі. У КДБ іншыя задачы і аб'екты. КДБ паспела распіхаць свае кадры ў новыя дэмакратычныя сістэмы.

*3 лістапада, нядзеля*

Званіў Пімену. Пішу пра яго слова ў аднатомнік. Слабы. «Не так бачыцца, не так чуецца, не так радуецца… Ёсць вечныя людзі з вечным здароўем, здаецца, у іх нічога няма апроч апетыту, здароўя, рогату… У Сонешкі павінен з'явіцца праўнук. Унук жаніўся. Узяў прыгожую дзяўчыну, вышэйшую за сябе… Нeяк званю Кандрату: «У мяне ўнук», — а ён: «У мяне праўнук…» Крапіва перад смерцю званіў: «Чуў, што ты захварэў…» Прызнакі смерці: павярну галаву і павалюся… Іншым маладым і маці не маці, і хлеб яму не хлеб… Калі не чуць болю, будзе толькі здароўканне… Напісаў нарыс пра Мележа… Стаміўся змагацца супроць апарату… Апаратчыкі, здаецца, збіраюцца зрабіць новы пераварот».

«Bono sensu»[2].

*4 лістапада, панядзелак*

На працы. Званіў Васілю. Збіраюся ехаць у Вушачу. У зборах гэтых і радасць уся, і сум увесь. У мінулае езджу і кожны раз не знаходжу яго. А ўсё роўна нейкая ўпартая надзея трымае і цягне туды. Ілона званіла, абяцала прыехаць, не прыехала. […]

«Tibi et igni»[3].

[1] Краўцоў Макар Мацвеевіч (сапр. Касцевіч; 1901–1939), дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, паэт, публіцыст, перакладчык. Рэпрэсаваны. Ягоны верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі…» стаўся гімнам БНР.

[2] Гл.: Bono sensu (3.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 328.

[3] Гл.: Tibi et igni (4.11.91. N.) // Тамсама. С. 337.

*5 лістапада, аўторак*

Леся Сёмухава [дачка В. Сёмухі] прынесла тэкст і ноты гімна краўцоўскіх словаў. Доўга і цікава гутарылася з Дранько-Майсюком. Каб не такая моладзь, хоць у пельку галавой. Пакуль чакаў Алесю Сёмухусішку, пісаў вершы адзін у рэдакцыі, як некалі ў першы год службы ў парикмахерской газете «Советская Белоруссия». Добра аднаму ў пустым пакоі. «Ліст у Межава»[1].

Чамусьці ўспомніўся Парыж, які, відаць, будзе грэць мяне да апошніх дзён нечым невыказным. «Адвячорак, які заўсягды са мной»[2]. Такі ў мяне выпаў пісучы дзень. Дзякуй Богу!

*6 лістапада, серада*

На працу. На вуліцах няма заклятай саўчырвані. Абапал вуліцы ў трох ражках тырчаць два сцягі белыя і чырвоны ўсярэдзіне. І атрымаўся наш векавечны й святы сцяг Бел-Чырвона-Белы. На душы святочнее, калі бачу бел-чырвона-белы. Хацеў бы, каб і над труной маёй быў гэты колер, а пасля — у вечную цемру.

*7 лістапада, чацвер*

Выезд у Вушачу. Аўтобус перапоўнены. Смярдзіць анучамі, якія кураць усе падшыванцы і абдзіранцы. Нават на вуліцы ў Плешчаніцах чадна і душна. Па дарозе пісаў. «Радасць»[3]. «Паслушнік: Заклаўшы палец за камізэльку…» [у дзённіку]. Ехалі старой лепельскай дарогай. Цёмначчу. Ішлі радкі пра Каляды: «Каля ды Каляды …» [накід; у дзённіку].

Нарэшце *Ушачы!*

*8 лістапада, пятніца*

Ушача. Не хочацца прачынацца. Хочацца расплюшчыць вочы і пачуць, а потым убачыць маму. Бо ўсё тут, хай і ў новай хаце, маміна. Дух яе, душа яе вітае госця тут, тут лунае яна. Рабілі госці. Багдановічыха і Пятро, Марыя Рыгораўна. Багдановічыха кажа, што разаб'е некалі тэлевізар, бо не можа пераносіць Гарбачова. Цікава, яна за савецкую ўладу, а камуністаў ненавідзіць. Казала, чысцілі студню — аж 7 вёдзер выцягнулі (3 эмаляваных) і дзіцячы веласіпедзік. А колькі ўсяго ў нас за жыццё набіраецца. Калі б гэта пачысціць — студню душы. Студня і душа, яны роўнавялікія ў сваёй чысціні.

---

[1] Гл.: Ліст у Межава (5.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 336. Верш прысвечаны аднакласніку, журналісту А. Лобкісу.

[2] Гл.: Адвячорак, які заўсягды са мною (5.11.91) // Трэба дома бываць часцей… С. 325.

[3] Гл.: Савось Авось. Дурноты: Радасць (7.11.91) // Дзень паэзіі-93/94. С. 193.

*9 лістапада, субота*

Ушача. Дажджыць. Гнілая восень, якая яшчэ нядаўна залатая была. Нейкі смог і тут. На вуліцы дыхаць цяжка. У хаце вешалі партрэты мамы і бацькі. Ад Марыі Рыгораўны запісваў словы. Цікавае *родзілка* — змеценая мякіна, каласы, рэшткі зярнят. Вясёлы куплет: «У цыганкі хвартух новы, А ў цыгана х.. дубовы». Трэба будзе Вальдэмару [Калініну] прапяяць. Тут жа Марыя Рыгораўна расказала прыпавесць. Калі распіналі Хрыста, муха села[1]. І цыганка, божучыся, прысягнула, што гэта цвік. За гэта цыганам можна ў царкву хадзіць, маліцца Богу. «Каляды»[2].

*10 лістапада, нядзеля*

Ушача. Уночы сніўся верш:

*Зашуміць!*

Родная мова, вечная мова,
Словы жывучыя, як жалуды,
Прагна праб'юць чужамоўя хлуды,
І зашуміць па-крывіцку дуброва.

На Бутаўшчыну. Магільнік не дагледжаны. Кожны сваю магілу чысціць, а смецце на суседнюю магілу скідвае. Дужа зялёны чубок хвой магільніка. Аж страшнавата. Пахадзіў Ушачай. Нейкае запусценне і сум. На польскім, як у нас кажуць, магільніку ўсё перавернена, смецце на магілы скідваюць. А побач акуратна пераараныя гароды. Касцёл усё-такі трывае. Што з ім толькі не рабілі. Як толькі зубамі не грызлі гаспадарлівыя мястэчкоўцы. «Я раскланьваюся са старымі…»[3]

*11 лістапада, панядзелак*

Пахадзілі з Зайчыкам па пустых крамах ушацкіх. Пайшоў мокры снег. На зіму йдзе. Прыходзіў Іван Сцяпанавіч, расказваў, як на паляванні забілі былога ўшацкага першага сакратара Дзятлава. Захацелася дармавога мяса. […] дземянцей перацягнуў у Мінск у сельскую гаспадарку, у міністэрства. Парт[…] нават адпявалі. Партапаратчыкі не маглі дачакацца, калі нап'юцца, цэлую гадзіну святар адпяваў.

Ад'езд. Маладзічок над лесам ішоў з намі аж за Лепля, потым знік. Сапраўды, як у Багдановіча — зялёны. Звінелі драбязой, каб не звялася. Дарогай ад духаты радкі пра розную брыду лезлі ў галаву. «Ён: Ён паперу арэ, быццам вол…» [у дзённіку]. Гэта наш Б. І. Сачанка.

---

[1] Гл.: Блаславёны спадман: Вушацкае паданне (12.04.2000) // Босая зорка. С. 17.
[2] Гл.: Каляды (9.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 364.
[3] Гл.: У матчыным краі (10.11.91) // Тамсама. С. 107.

*12 лістапада, аўторак*

Праца. Званіў Адамовіч. У Васіля ягоная новая аповесць у трохтомнік. Прыехаў Найдан Вылчаў[1]. Рэм ускуліў на мяне ганаровы абавязак перакласці вершы Найдана. Пераклаў два. Мне дужа цяжка перакладаць. Калі вершы настолькі правільныя, як электралямпачкі, на колькі ват разлічаны, на столькі і гараць.

*13 лістапада, серада*

Запіс на радыё з Найданам. На выстаўку італійскай мэблі. Найдан па запрашэнні Савета Міністраў. Жыве ў асабняку на Фрунзе, за СП (цяпер гэта не Саюз пісьменнікаў, а сумеснае прадпрыемства бездары з аферыстамі). Унізе пакоі прыёму, кухня з прыслугай, наверсе адпачывальні. Тэлефоны выклікаюць афіцыянтку, шафёра, бо за госцем замацавана машына. Гэта ж яшчэ не самая вышыня раскошы, а [...] морды сакаловых, [...] слюньковых ды малафеевых яшчэ ў шыкоўнейшых і сваіх, і не сваіх. Зразумела, як цяжка партмафіі і кэдэбістам здаваць такія аб’екты і пазіцыі. Найдану падарыў біблію на старабалгарскай мове, якую прывёз з Марсэля. Быў дужа рады. Шагала. Сваю кнігу [«Самота паломніцтва»] падпісаў:

Не матэматык я,
Ды хутка вылічыў
І вылушчыў,
Як зерне ў пацярусе,
Нанова ісціны, што
Найдан Вылчаў
Адзіны верны саябра Беларусі.

У Балгарыі гэтакі ж бардак, як і ў нас. Табар сацыялізму. «Аблава» быкаўская не выходзіць, хоць і набраная. Крыміналістычная літаратура і секс і ў Балгарыі запаўнаводзілі рынак. Сацыялізм цікавая з’ява. У Балгарыі, дзе яна, соль з 14-ці стацінак вырасла да 5-ці леваў, як і бензін, што каштуе 6 леваў за літр.

*14 лістапада, чацвер*

Запіс на кватэры Уладзіміра Сямёнавіча [Караткевіча] нейкага новага фільма, дзе сцэнарыст Верабей[2], запісвалі Кісялёва[3] і мяне.

[1] Вылчэў Найдэн (н. 1927), балгарскі паэт, перакладчык, эсэіст, журналіст. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны (2000).

[2] Верабей Анатоль Леанідавіч (н. 1950), беларускі літаратуразнавец, крытык. У 1974–1990 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, з 1990 г. выкладчык філфака БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1978).

[3] Кісялёў Генадзь Васільевіч (1931–2008), беларускі гісторык, архівіст, літаратуразнавец. У 1971 г. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Доктар філалагічных

*15 лістапада, пятніца*

Да следчага Ашыгава наконт Елізарава. Хлус і нахабнік наш Аляксандр Іванавіч. Следчы сімпатычны чалавек, з крымскіх грэкаў, прозвішча зמененае. Бо Сталін за тое, што Канарыс[1] быў грэкам, разагнаў і распыліў грэкаў. Цікава сказаў, што плаціў партыйныя ўзносы, каб яго каралі. Антыкамуністычна настроены.

Званіў Васілю. І яму не да спадобы, што Вылчаў нас прымае, а мы яго не можам як людзі [прыняць]. У крамах пуста. Пахадзіў дзікаватай Грушаўскай вуліцай, калі ішоў да следчага. Якое жабрацтва, якое запусценне. А якія затуканыя людзі.

*16 лістапада, субота*

Сёння ў саюзе вечар Вярцінскага. Не магу ісці, даводзяць галаўныя болі да забыцця. Даў тэлеграму [у дзённіку]. А як падумаў, што на вечары будзе Ніл, дык радкі пайшлі: «Ещё такого нет тратила…» [у дзённіку]. Вечарам пазваніў, ці паступіла адна юная асоба ў аспірантуру пры АН. Паступіла. І тэмай будзе браць Ул. Дубоўку[2] ці Міхася Стральцова-крытыка і эсэіста. Новая змена мае густ. Пасля вечара Вярцінскага званіў Васіль. Дзіўна, але на вечары не было Ніла.

*17 лістапада, нядзеля*

Па традыцыі ездзіў на Камароўку. Дажджліва і тлумна.

* * *

Мы не давіліся кавалкам ласым,
Ад атлушчэння нам не трэба лекі.
Раслі мы, так бы мовіць, самапасам,
Не без апекі органаў бяспекі.
Перапілі гарэлкі горкай рэкі,
А пахмяляцца давялося квасам.
Мазгі нам прасавалі недарэкі
Тупым, як бот,
Цяжкім партыйным прасам.
Пасля цяжкога праса
Гэта праца
Цяжкая —
Зноўку ворсам падымацца.

навук (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1990).

[1] Канарыс Вільгельм (1887–1945), германскі ваенны дзеяч; адмірал (1940).

[2] Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962).

Чытаў і Лявону, і сам адчуваю, усё вядомае. Кепска. «Homo homini lupus est…»[1]

*18 лістапада, панядзелак*

Да Васіля. Тэкст і ноты «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і Карты Беларусі на вятрах гісторы[2]. Сяргей Навумчык[3] забегся да Васіля падпісаць кнігі ў Парыж, куды ён разам з Лукашуком едзе. Гутарка пра БНФ. Рэферэндум трэба правесці якраз у час спрыяльны. БНФ нейкую папулісцкую ідэю трэба, няхай сабе, да прыкладу, што трэба танней гарэлку прадаваць. Прапаганды для ўсіх узроўняў і слаёў грамадства. Вечарам пабег на вакзал перадаць Барысу Забораву (дарэчы, Васіль яшчэ раз сказаў Навумчыку, каб перадаў, што памыліўся ў Савіцкім Міхаіле і Барыс быў рэальны ў ацэнцы) пераклады вершаў для «Континента» (калі спадабаецца) і экз. свайго слова пра Барыса і парыжскі цыкл па-беларуску. Ілона напісала Барысу ліст з нейкімі просьбамі, бо ён сам прапанаваў па тэлефоне, калі званіў Навуму.

*19 лістапада, аўторак*

На працы паседжанне. Герчык як з браневіка выступаў з радыкальнымі прапановамі. Выдавецтва развальваецца пад напорам партмафіі, якая перабегла, як блохі, у розныя СП і помсціць усяму нацыянальнаму. Адкуль жа ў нас будзе нацыянальная свядомасць, калі бальшавікі-крымінальнікі селекцыяніравалі новую сацыялістычную нацыю без усялякіх адзнакаў нацыянальнага. Нешта сярэдняе паміж буйнарагатым быдлам і сярэднім быдлам. «Кум з кумою»[4]. Пачытаў, не ўтрымаўся, Лявону Д.-Майсюку (дзякуй яму, таленавітаму і ўважліваму, за цярпенне слухаць і верна даваць ацэнкі), яму спадабалася, сказаў, што душой слухаў. Дарэчы, калі прачытаў яму «Каляды», сказаў, што як свежай вады напіўся. Ён трымае мяне ў веры пісаць, калі рукі апускаюцца ад таго, што вакол робіцца.

Вечарам званіў Васіль, раіў паўдзельнічаць у спаборніцтве гімнаробаў. Ці варта?

---

[1] Гл.: «Homo homini lupus est…» (17.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 338.

[2] Ширяев Е. Беларусь: Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах. Минск: «Навука і тэхніка», 1991. Гл.: Пытаньне перад картамі Беларусі (17.11.91) // Дажыць да зялёнай травы… С. 38.

[3] Навумчык Сяргей Іосіфавіч (н. 1961), беларускі журналіст і палітычны дзеяч. У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ 12-га склікання. З 1996 г. жыве ў Празе. Лаўрэат Літаратурнай прэміі ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2006). Прысвечаны яму верш гл.: Яблыня (15.07.88) // Міласэрнасць плахі. С. 160.

[4] Гл.: Кум з кумою (19.11.91) // Трэба дома бываць часцей…. С. 329.

*20 лістапада, серада*

Учора міліцыя. Бо Валя […]. Сігналізацыю не пазваніла адключыць. З учарашняга вечара замаўчаў тэлефон. […] На працы аддаў Ан. Беламу ў «Полацак» «Каляды». Ён мне напытаў майстра зрабіць пячатку з Пагоняй.

*Ці*

Памітусіцца ў мітусні,
Накалаціцца ў калатні
І паштурхацца ў штурханіне,
Абы адбыць зямныя дні, —
Ці для таго на свет прыйшлі
Мы кватарантамі Зямлі?

Вечарам ні да кога не дазваніцца. Звычка да тэлефона як зараза. Тэлефон — сучасная прывязь. Як навязаны каля яго.

*21 лістапада, чацвер*

Адразу аж гэтулькі. Майстра па тэлефонах. Парамантаваў. Загаласіў мой тэлефон на ўсе пакоі. Двое вадаправодчыкаў. У іх нічога няма з таго, што трэба. Галяпаваў па Мінску, купляў рознае прычындалле. «Што трэба»[1]. І яшчэ напісаў вязку вясёлых аб'яваў «Па ходу ракі» [Патрабуецца; Правярае; Бартар такі; Напракат; Абмяняць; Мяняецца; Урокі; Вучыць; Купяць; Бярэцца; Прышчэпліваюць; Перасылаюцца. У блакноце]. Відаць, у «Вожык» адтарабаню.

*22 лістапада, пятніца*

На працу. Званіў Васілю. Крыўдзіўся, што ўночы Шклярэўскі дурыў мне галаву, каб напісаў і тым самым яго падтрымаў, што ССГ гучыць кепска, лепей ССР. Як вялікадзяржаўніка цягне да імперыі. Васіль сказаў, што цяпер у модзе нацыянал-камуністы. І не камуністы ў чыстым сталінскім выглядзе, і не нацыяналісты ў патрэбным накірунку, у кірунку суверэнітэту. І атрымліваюцца барысаалейнікі ды нілагілевічы. Цікава, што Шклярэўскі пачаў даказваць, што і Французская рэвалюцыя была крывавая, слова ў слова, як Ніл на трыбуне Вярхсавета. [Працяг нізкі «Па ходу ракі: Дарэчы; Хочацца; Біржа; І яшчэ». У блакноце.]

*23 лістапада, субота*

Перакладаў слова пра Багдановіча на крыўскую мову для радыё, дамовіўся з Макарэвічам. Насіў капусту, трэба на зіму паставіць. У Лапушына старэйшага непрыемнасці. Чым дапамагчы?

---

[1] Гл.: Што трэба (21.11.91) // Грыша, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. С. 32.

*24 лістапада, нядзеля*

На Камароўку. Домначцы мандарынкаў, арэшкаў, сабе цыбулі і кміну ў капусту. Усё каштуе астранамічныя лічбы. «Дзедава просьба»[1]. Прачытаў ў 10-м «Полымі» вялізарную падборку Бураўкіна, здаецца, едзеш па амерыканскіх дарогах — гэтак усё гладка. З кнігі «Узмах крыла». У вершах ёсць добрае словазлучэнне, ім бы і назваць «Тайнапіс вачэй».

*25 лістапада, панядзелак*

Праца. На перадрук слова пра Багдановіча. Дамовіліся з радыё, што на 9-е выступ. Піліпаўка. Ночы даўжэюць і даўжэюць, здаецца, што суцэльная ноч настане. «Гэта, гэта»[2].

*26 лістпада, аўторак*

Шум на працы. Загады дырэктара. Лецка ідзе ў [...] «Бацькаўшчыну» на [...] аклад. Купіў зборнік Максіма Багдановіча[3]. Хораша выдалі ў нас. Укладанне і прадмова Ан. Клышкі. Усё добра, але зноў Таўлай[4]. Бачыце, ацэнка Таўлая гэтак важна неўміручаму класіку. Таўлай-паэт са здольнасцямі, яўна ж выконваў заданні КДБ у Заходняй Беларусі. Досыць ужо ўвесь час падымаць кэдэбістаў! «Хто ўцягнуўся ў палітычную батлейку...» [у «Вожык» на С. Шушкевіча; у блакноце]

*27 лістапада, серада*

Зрабіў урэзку для падборкі перакладаў Радзіка багдановічаўскіх вершаў у «Знаменку». Званіў Васіль. Яго не пакідае ідэя, каб мяне «абнародзіць». Цяпер гэта ўжо страціла ўсялякі здаровы сэнс. Дый тым болей, што Ніл і рогам, і лычом упрэцца, каб не даць. З раніцы хадзіў па справах кранаў на кухні. У домакіраўніцтве нічога няма, але паперы пішуць спраўна — саюз. І цемра ранняя дзейнічае нейкім прыгнётам. «Белаю робіцца барада...»[5]

*28 лістапада, чацвер*

Для «Знаменки» ўрэзку да перакладаў Радзіка з Максіма Багдановіча. Перадаў яму. Расказаў, наколькі бяспраўны ў нашай краіне нават юрыст. Нейкую аферу з бацькам зрабілі. Помсцяць за ягонае заступніцтва за Пазьняка і інш. Вобыск у хаце. Грошы рассыпаюць, як карты, фатаграфуюць. Мяне расчуліла, што маці на чорны дзень збірала Радзіку кашулі.

---

[1] Гл.: Савось Авось. Дурноты: Не дай... (24.11.91) // Дзень паэзіі-93/94. С. 195.

[2] Гл.: Гэта, гэта (25.11.91) // Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. С. 30.

[3] Багдановіч М. Зорка Венера. Мінск, 1991.

[4] Таўлай Валянцін Паўлавіч (1914–1947), беларускі паэт. Член Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі 30-х гг., партызан у час Вялікай Айчыннай вайны.

[5] Гл.: «Белаю робіцца барада...» (27.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 380.

Выцягнулі. 15. Сфатаграфавалі. Бацьку трымалі трое сутак без яды. А бацька, не ведаў, усё пытаўся, дзе ягоныя кашулі новыя, што купляў? Любая маці так бы зрабіла.

Рыхтаваўся да прэзентацыі Акадэміі мастацтваў. Вася [Шаранговіч] стане акадэмікам. Мара хітрасплеценай жоначкі. «Неакадэмічнае слова пры адчыненні Беларускае акадэміі мастацтваў» [у дзённіку].

*29 лістапада, пятніца*

Звяршылася. Адкрыццё ператварылі ў тэатральны капуснік. Вядома ж, гундосіў, як дзячок, напачатку Ніл. Пасля розныя спонсары. Трос барадой Рагойша, [...]. Розум меў Быкаў, што не прыйшоў. Я й за яго папрацаваў комікам. Тлусты, як пячурны кот, міністр замежспраў Краўчанка. [...] Болей на такія зборышчы нагі маёй не будзе.

*30 лістапада, субота*

Вычытваў карэктуру «Міласэрнасці плахі». Пазваніў Сяргей Навумчык, вярнуўся з Парыжа. Яны з Лукашуком удваіх жылі ў нашых эмігрантаў. Двухпакаёвая кватэра ў старадаўнім асабняку. Працягла там жыў Абрамчык[1]. На фасадзе недзе Пагоня. Пытаюся ў Сяргея, ці знялі. А ён (усё ж савецкае выхаванне): «А як, навошта?» (У прамым сэнсе зразумеў пытанне. А яны ж былі з кінагрупай.)

«Табе»[2]. Пачытаў Лявону. Ён забракаваў. Хіба падарыць Генадзю ў ААН?

«Тады»[3].

*1 снежня, нядзеля*

Апошні сёлета. Божа, дай дажыць і да налетняга! З раніцы званіў Васіль. У «Худ[ожественной] лит[ературе]» [Масква] не будуць выдаваць ні 3-томнік Караткевіча, ні аднатомнік Багдановіча. Некамерцыйныя. Трэба нешта рабіць, каб выдаць у нас, бо ў іх, здаецца, ужо ёсць карэктура. Дажыліся!

Па традыцыі на Камароўку. Цэны, як шалёныя сабакі, кусаюцца. Пляцёначка часнаку 40 рублёў. Дабрабыт уніз. А цана — угору. Кучы мала.

У «Вожык» подпіс пад шарж: «То Шушкевіч прымярае цюбецейку...» [у дзённіку].

---

[1] Абрамчык Мікалай Сямёнавіч (1903–1970), беларускі палітычны дзеяч, публіцыст. У 1939–1944 гг. рэдактар газ. «Раніца» (Берлін). У 1943-м і 1947–1970 гг. старшыня Рады БНР. З 1944 г. жыў у Парыжы.

[2] Гл.: Табе (30.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 87.

[3] Гл.: Тады (30.11.91) // Тамсама. С. 96.

*2 снежня, панядзелак*

Праца. Доўга гутарылі з Сёмухам. Ён, наіўны, не разумее, чаго так Філарэт з кампаніяй супроць яго. Філарэт [...] цкуе яго. КДБ не можа даравацць Васілю, што не пайшоў сабакам у іх рабіць.

Навумчык ад Барыса.

*3 снежня, аўторак*

Раніцай ва Ушачу, паўднём назад у Мінск. Тое-сёе з рэчаў завезлі ў хату. Усё на хапку. Вечарам званіў Лучанок, трэба ў філармоніі выступіць перад «Песнярамі» з багдановічаўскай праграмай. Прасіў пра яго ўспомніць, што ён у Маскве вырашае прафсаюзныя справы. Можа, яшчэ песню на словы Лук'янава-Осенева напіша. «Незамшоны ізруб...» [у блакноце].

*4 снежня, серада*

Запісаўся на радыё. Вечарам зноў званіў Лучанок з той жа думкай. «Каму як»[1].

Добры, крыху мітуслівы, але дзелавы Карлас увесь у клопаце. «Інтэлігент у першым пакаленні...»[2]

*5 снежня, чацвер*

На працы. Прыходзіў Яшкін[3] з Інстытута мовы, каб выдавецтва дапамагло яшчэ грашыма на выданне слоўніка. У свой час мардар Малафееў адмовіўся, каб дзяржава дапамагла, навошта партыі злачынцаў нацыянальныя мовы. «Будзем жа!»[4]

*6 снежня, пятніца*

Васілю званіў, ён сказаў, што сёння ведзьмін дзень. Таму так блага. Параіў, калі хочацца пасварыцца ці з жонкай, ці з начальствам, сварыся з начальствам. Зусім даходжу з галавой. А яшчэ дома лавэр.

*7 снежня, субота*

На Камароўку. Як у анекдоце пра рэбе і замежную дэлегацыю. Навошта карова, дадай яшчэ 10 рублёў і купі курыцу. Куры́ца — 40 рублёў. Будзе болей. У «Вожык» пішу:

---

[1] Гл.: Савось Авось. Дурноты: Каму як (4.12.91) // Дзень паэзіі-93/94. С. 195.

[2] Гл.: «Інтэлігент у першым пакаленні...» (4.12.91) // Евангелле ад Мамы. С. 147.

[3] Яшкін Іван Якаўлевіч (1932–2016), беларускі мовавед. Ст. навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства (з 1959). Кандыдат філалагічных навук (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2000).

[4] Гл.: Будзем жа! (5.12.91) // Руны Перуновы. Мінск: «Радыёла-плюс», 2006. С. 192.

*Вячаслаў Кебіч*

Дарогай ці выбоістай, ці коўзкаю
Трасецца воз, былую страціўшы апору.
Шукае Кебіч з вытрымкай цэкоўскаю
Эканамічную адзіную прастору
То ў Лазані, то ў Пхеньяне, то ў Разані,
А воз глыбей у твань цэнтральную ўгразае.

[Для «Вожыка» тэкст папраўлены.] «Зянон Пазьняк: Марна свінары ў ЦК…» [у дзённіку].

*8 снежня, нядзеля*

Вітаю першы снег і замаразак. «Снег толькі-толькі выпаў…»[1]

*9 снежня, панядзелак*

Па радыё пра Багдановіча[2]. Пазваніў Васіль, павіншаваў і сказаў добрае слова. Я шчаслівы ад яго ацэнкі. У Оперным вечар 100-годдзе Максіма Багдановіча. Павінен быў весці Шушкевіч, вёў Ніл. Як свой юбілей, расцягваючы і гундосячы кожнае слова. Дзякуй Богу, што праспект Леніна стаў праспектам Францыска Скарыны! Максім Адамавіч пацясніў пасваяцку вялікага пралетарскага [М. Горкага]. Будзе вуліца імя Максіма Багдановіча насіць. СНД[3], якую ўтварылі ў Белавежы, дрымуча-няўцямная, як і сама пушча. Чаму сталіца не ў маці гарадоў рускіх, а ў нас? Краўчук[4] не хоча пускаць Барыса [Ельцына], а мы — просім. Учора Гайдар[5] па расійскіх «Весцях» дагаварыўся да федэрацыі Расіі і Беларусі. Зноў пад цяжкую руку старэйшага брата.

*10 снежня, аўторак*

З раніцы званіў Васіль. Яму спадабалася — мой выступ на вечары. Перад гэтым званок: быццам нейкі настаўнік Савіцкі Міхал. Запытаў, дзе Багдановіч казаў пра неабходнасць беларускай мовы ў царкве і касцёле.

---

[1] Гл.: Urbi et orbi: III. Снег толькі-толькі выпаў… (8.12.91, Дубулты) // Евангелле ад Мамы. С. 209.

[2] Гл.: Не разбіць, не спыніць, не стрымаць… (1991) // Аратай, які пасвіць аблокі. С. 5.

[3] Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД) падпісана 8 снежня 1991 г. кіраўнікамі БССР, РСФСР і УССР у Віскулях у Белавежскай пушчы (Беларусь).

[4] Краўчук Леанід Макаравіч (н. 1934), украінскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Кандыдат эканамічных навук (1970). У 1990 г. 2-гі сакратар ЦК КПУ, у 1990–1991 гг. старшыня ВС УССР, у 1991–1994 гг. прэзідэнт Украіны.

[5] Гайдар Ягор Цімуравіч (1956–2009), расійскі дзяржаўны і грамадскі дзеяч; эканаміст. Доктар эканамічных навук (1990). У 1990–1991 гг. дырэктар Інстытута эканамічнай палітыкі Акадэміі народнай гаспадаркі, у 1991–1992 гг. нам. старшыні ўрада РСФСР, міністр эканомікі і фінансаў.

Я сказаў, што ў 2-м томе. Пасля папёр, што БНФ і ўсе вы атэісты, а толькі прыкідваецеся. Пасля запытаўся ў мяне, якое я канфесіі. Па душэўнай наіўнасці стаў тлумачыць пра прабабку ўніятку, пра праваслаўную сям'ю, пра тое, як ў часы савецкай культурнай рэвалюцыі ксцілі мяне ў ксяндза, які ехаў праездам. Тут ён мне адразу: «Вам трэба ў сінагогу хадзіць». Нашто яму я пажадаў пацалаваць і глыбока роднай кампартыі. Гэта з кэдэбісцка-партыйных актывістаў. Асноўны канёк — антысемітызм, падзел на веру.

Радзіку сёння дзень нараджэння. Якраз у «Знаменке» выйшлі пераклады Багдановіча з маім слоўцам. Як віншаваннне другога, маладога паэта. Пасля да вечара ў відэацэнтры засядалі. Прапанаваў я тэму Белавежскай пушчы наадварот, ад царскіх і каралеўскіх паляванняў і баляванняў да саўімперыі. Даць слова і егерам, і пакаёўкам, і абслузе, і дырэктару рэстарана. Каб была карціна саўімперскага жыцця. Цікава расказалі, што калі такое зрабілі з гарэлкай, гомельскія цыганы пачалі казаць: «Дзякуй Міхаілу Гарбачову, мы сваім коням залатыя зубы ўставілі». Бо ўся спекуляцыя гарэлкі ў руках вольнага племя.

*11 снежня, серада*

Да Яшы. Лекі маме Ул. Арлова. Праца. Званіў у «Вожык». І шарж, подпіс да Шушкевіча ў сувязі з Белавежай устарэлі. Трэба новае.

Змікіціўшы на трох пад вецер свежы,
Рашылі тры дзяржаўныя зубры
Пасунуць Спаскую да Белай вежы,
Дзе вольна палявалі ўсе цары.
Шушкевіч заклапочана мазгуе:
«Свой Менск не прамяняю на Маскву я!»

Званіў Васілю. Пра непрасійнасць здарава сказаў: «Як негру прыехаць у ЦК партыі і наняцца на работу». Хваліў артыкул Зянона ў «Звяздзе». Трэба пачытаць у бібліятэцы. «Мы ёсць таму»[1].

*12 снежня, чацвер*

На працы. Правадзілі на пенсію Сароку[2], Жычку[3], Прагіна, Куліш[4]. Зайчык наш, які дырэктар, расхваляваны — Гілевіч выкрэсліў з праграмы багдановічаўскага вечара ў Оперным ягоны верш-паэму. Па тэле

---

[1] Гл.: Мы ёсць таму (11.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 86.

[2] Сарока Валянціна Мартынаўна, бухгалтар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Жычка Хведар Змітравіч (1927–2007), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Віцезслава Нэзвала (1983).

[4] Куліш Ала Дзям'янаўна, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

цікавая сустрэча з Максімавым, які «Континент». Для «Вожыка» пісаў і перапісваў: «Да ўлады Пазьняк не хадзіў у залёты…»[1] […]

*13 снежня, пятніца*

Чытаю «Споведзь»[2] Ларысы Геніюш. Няма ў нас болей такіх паэтак. Гэта крамнёвая парода, на якой трэба настойваць, ачышчаць ваду і прычашчацца ёй як беларушчынай. Камуністы ведалі, што рабілі, — выбівалі мазгі нацыі, інтэлект.

*14 снежня, субота*

Сойм БНФ. Абмеркаванне сітуацыі ў сувязі з СНД. Дакладчык *Зянон Пазьняк:* «Перажываем важны час. Трэба выпрацаваць нейкія ацэнкі і не збіцца з дарогі. Палітыку будаваць на незалежнасці, стварэнне дзяржаўных структураў. Да пачатку снежня сітуацыя склалася выбуховаю. 5 рэспублік Азіі, дзе ўзялі ў рукі ўладу камуністы. Палітыку іхнюю дыктуе і гісторыя, і менталітэт. Эканоміка тыпова каланіяльная — на вывазе сыравіны. З эканамічнага боку яны зацікаўлены ў аб'яднанні. З другога боку іслам узмацняецца. Часовае пагадненне ісламу з камуністамі. Трэба войска чужое (славянскае), бо свае супроць ісламу не пойдуць. Асцяк саюза ёсць. Войска як партыя ўзброеная да зубоў. Аб'яднанне войска і зноў таталітарызм. Эканоміка Расіі на вывазе сыравіны (нафта). Геапалітычны фактар. Тыповая імперыя на працягу тысячы гадоў. Такая дзяржава можа існаваць толькі ў рэжыме імперыі. Імперскія інтарэсы як быццам бы дэмакратычнай Расіі. Захаванне на пэўным этапе структуры. А пасля ў імперыю класічную [ператворыцца] пераемніца Саюза. Пазіцыя Украіны, Балтыі, Малдовы, аб'ектыўна Беларусі. Беларусь [вядзе] палітыку прыстройвання. А ўсе незалежнасць, уваход ў Еўропу. Наспяваў канфлікт Расіі з Украінай. Але часовая унія Расіі з Украінай пры ўдзеле Беларусі. Кіраўнік Беларусі іграў службовую ролю. Палітыку саўмінаўскай, партыйнай вярхушкі. За Саюзны дагавор па канцэпцыі Гарбачова. Ельцын і Краўчук з гатовай канцэпцыяй прыехалі. Гэтае пагадненне [мае] часовы характар. І імперская Расія, і незалежная Украіна супроць гарбачоўскага цэнтра. Аб'ектыўна і Беларусь. Рэальна быў пераварот правых сілаў. Яго баяліся. Як толькі выказана будзе агульная задача, усё будзе наадварот. Утварэнне ўнітарнай дзяржавы. Толькі ратыфікацыя дала магчымасць дэнансаваць Усесаюзны дагавор. Калі ўступяць азіяцкія рэспублікі, усё пойдзе іначай. Калі бел. дэлегацыі [будуць дзейнічаць] ў рэчышчы Ельцына, гэта будзе самагубства. Расія ніколі не выконвала дагавораў.

---

[1] Гл.: «Да ўлады Пазьняк не хадзіў у залёты...» (12.12.91) // Асобы рознай пробы. Мінск: Бібл-ка «Вожыка» № 3 (225), 1994. С. 8; Зянон Пазьняк (2004) // Дуліна ад Барадуліна. С. 52.

[2] Геніюш Л. Споведзь. Мінск, 1993. Першая, часопісная, публікацыя 1990 г.

Каб Расіі стаць дэмакратычнай, ёй трэба распасціся. Міраж дэмакратыі ў Расіі. Працэс члянення — гэта самазахаванне. Мы павінны гандляваць з Расіяй. Калі ў палітычныя [адносіны], сажыцельства зайца з удавам, ніколі ніякія саюзы. Не станавіцца ў залежнасць ад рэсурсаў Расіі. Аналагічныя адносіны з Польшчай. Не зрабіць памылкі 1569 года[1]».

*Трусаў:* «Некаторыя акцэнты. Атрымалі перамогу, гэта не заслугі ні Кебіча і ні Шушкевіча. Мэта — прарваць інфармацыйную блакаду, хоць нас душаць і Расія, і Польшча. На аснове дакументаў БНФ трэба падкрэсліць, хто бачыў далей. Гэта супольнасць Чарнаморска-Балтыйскага супольніцтва. Рэзка мяняць адносіны да Расіі. Трэба браць канкрэтныя імёны і канкрэтных палітыкаў. Трэба арганізаваць ценевы кабінет».

*Віктар Нагнібеда[2]* (Масква). Паведамленне, што робіцца ў Маскве. «Спад палітактыўнасці. Спрэчкі між мэрыяй і Массаветам. Антыбеларускі, антыўкраінскі, антылітоўскі псіхоз. Прэса назвала Шушкевіча — Станислав Кроткий».

*Піваварав.* Ад беларускіх вайскоўцаў. «Шмат прыхільнікаў Жырыноўскага[3]. Іншыя акрыялі духам, што ўсё будзе, як было. Іншыя — на кароткі час. Афіцэры ўсе глядзяць на Маскву. Ельцын на пасаду галоўнакамандуючага. У Беларусі афіцэраў-беларусаў ≈ 10 %, крыху вышэй у ППА [проціпаветранай абароне]. Масква [праводзіць] сваю тэматыку выхавання воінаў. Хто пабудзе на службе, будзе разбураць беларускі генафонд. У кіраўніцтве беларусаў няма. СНД распадзецца».

*Ал. Марачкін:* «Расія імперскай закваскі. Нельга пераносіць у Мінск структуры СНД».

*Ю. Хадыка:* «Чалавек і грамада робіць нейкі выбар. Незалежнасць не дасягаецца раптам. Ёсць інерцыя эканамічная, палітычная, вайсковая і інш. Падпісанне пагаднення і рэалізацыя палітыкі Фронта і крок наперад. Выбівае грунт з-пад ног цэнтру. Юрыдычна канец цэнтру. У Маскве крах цэнтру азначае перамогу ельцынскага цэнтру. Ельцын шмат зрабіў для дэмакратыі. Палова дэмакратыі не дэмакратычная, бо яны шавіністы, яны супроць самавызначэння нацыі. Рыхтавацца да рэферэндума пра незалежнасць. Нельга адмаўляцца ад каардынацыйнага цэнтру ў Мінску».

*Івашкевіч:* «Усё вернецца да Усесаюзнага дагавора. Нам не трэба падлажвацца пад сённяшні настрой сялянства. Людзі момантам крычаць, дзе праграма БНФ. Трэба канцэпцыя».

[1] У 1569 г. была падпісана Люблінская унія, паводле якой ВКЛ аб'ядналася з Польшчай у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую.

[2] Нагнібеда Віктар, вайсковец.

[3] Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч (н. 1946), расійскі палітычны дзеяч; юрыст. Доктар філасофскіх навук (1998). З 1990 г. старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі СССР, з 1991 г. — Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі (ЛДПР).

*Голубеў:* «Няма згоды ў ацэнцы СНД, ці каардынацыйны цэнтр у Мінску, мы з аднаго кораня. Нельга прыстасоўваць падзеі, якія адбыліся, пад сябе. Што адбылося ў Бярэсці, не перамога. Спроба кіраўнікоў прыпыніць [?] крызіс. Ельцын — адсунуць убок Гарбачова і самому на [яго] месца. Спроба аднаўлення імперыі, і тое, што ўрад адмаўляецца рабіць свае грошы, даказвае, што падняў лапкі ўгору. Эканамічны саюз можна, але ніякога палітычнага. Толькі незалежнасць».

*М. Ткачоў:* «Белавежская падзея, што яна прынесла беларусам. Па-рознаму. Ажыў панславізм. Адзіная праваслаўная царква. Прынесла ў палітыку масу праблем. Не цягаць за хвост рускага мядзведзя. Стаяць на сваіх прынцыпах самастойнасці, незалежнасць. Праблема ўласнага войска. Доўнар-Запольскі[1] «Гісторыя Беларусі». Да той пары, калі не будзе свайго войска, нічога не будзе. Вярнуць афіцэраў у Беларусь. Дэпутатам апазіцыі трэба сустрэцца з Шушкевічам. Пытанне былых камуністаў і сённяшняя банда, якая адрадзілася. Стварэнне ўрада народнага даверу. Усе беларусы павінны вярнуцца дадому».

*М[іхась] Мядзёлка.* Міхась. Святар. На добрай мове крывіцкай. «Заўсягды павінны помніць, што мы беларусы. У нас павінна быць усё сваё, а пасля заключаць кантракты. Павінны ўсе [вярнуцца], хто жадае тут жыць».

*Зянон* на заключэнне: «Урад наш не праводзіць палітыку на незалежнасць, чакаюць, што вернецца Саюз, войска падымецца. Як на вайне: упе-радзе немцы, а ззаду кэдэбісты страляюць. БНФ сее ідэі ў галовы ўрада. Нас выратуе войска і грошы, якія павінны былі быць учора. Дамоўлены з англійскімі фірмамі. Ішла праца. Саўмін скасаваў Дзяржзнак, дзе быў бэнээфавец. Урад самазагубцаў. Гэты ўрад не павінен быць. Ён павінен быць заменены. Трэба выбары, роспуск. Не трэба быць у стане эйфарыі. Тактычны ход да новага. У Ельцына і ў Краўчука. Гэта тыповы камуністычны шлях — ашуканства, папулізм. Фронт бачыць далей, вяшчуе наперад. Усім было ўтлумлена ў галовы. Крытыкаваць канкрэтныя дзеянні палітыкі Расіі. З Шушкевічам апазіцыя сустракалася».

*15 снежня, нядзеля*

Чытаю Геніюш. Гэта не споведзь — а заціснуты ў жменю цярпення крык.

«Цемра хрыпне…», «Горад — тая зямля…»[2].

---

[1] Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. (1926; 1994). *Доўнар-Запольскі* Мітрафан Віктаравіч (1867–1934), беларускі гісторык, эканаміст, этнограф.

[2] Гл.: Urbi et orbi: IV. Цемра хрыпне…; I. Горад — тая зямля… (15.11.91) // Евангелле ад Мамы. С. 210, 209.

*16 снежня, панядзелак*

Перачытваю паэзію Геніюш. Складальнік Сачанка не даследчык, а дасьетчык. У двукоссе ў прадмове бярэ «прэзідэнт» БНР Васіль Захарка[1]. […] Зборнік складзены («Белыя сны»[2]) неахайна, не вычытаны, з памылкамі, з паўторамі адных і тых жа вершаў. «Гораду сняцца…», «Захацелася urbi…»[3].

* * *

Перабудова — перабядова.
Усё на словах заўсёды ружова.
Класічная пара: воўк і авечка.
Дасьетчыкі
Пераапрануліся ў даследчыкі.

*Снежань 1991*

*17 снежня, аўторак*

Званіў Васіль. Сусед па гаражы падышоў і спытаўся: «Хто Вас угаварыў падпісаць заяву ў «Народную газету», падпісацца пад гімнам, які быў паліцэйскім?» Васіль, вядома, абурыўся і сказаў, што ён сам адказвае за свае словы. І запытаўся, а што, гэтаму былому пракурору хочацца гімна, пад якім у ГУЛАГах мільёны нішчылі? Гэта КДБ дало след, і аўчаркі бягуць, з імі і Ніл, бо прагне сам напісаць гімнюгу.

*18 снежня, серада*

Званіў Адамовіч. Расказваў яму пра гутарку Васіля з кэдэбістам. Запытаўся, якім гімнам яго сустракаць у панядзелак з Масквы? З усмешкай адказаў: «Паліцэйскім».

Занёс Палякову[4] сцэнар пра Геніюш.

«Паэта хадзіў па зямлі…» [у дзённіку]. Гэта да небажыхара Алеся болей падыходзіць, які ў складчыну кафэ ў СП купіў[5].

---

[1] Захарка Васіль Іванавіч (1877–1943), беларускі палітычны дзеяч, публіцыст. Прэзідэнт БНР (1928–1943). З 1919 г. у эміграцыі.

[2] Геніюш. Л. Белыя сны. Мінск, 1991.

[3] Гл.: Urbi et orbi: VI. Гораду сняцца… VII. Захацелася urbi… (16.12.91) // Евангелле ад Мамы. С. 211.

[4] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012), беларускі журналіст, кінасцэнарыст. Гал. рэдактар студыі дакументальных фільмаў «Летапіс». Лаўрэат Літаратурнай прэміі ПЭН-цэнтра РБ імя А. Адамовіча (1995).

[5] Некалькі пісьменнікаў зрабілі ўнёскі на, нібыта, выкуп кафэ Дома літаратара; праз год тыя грошы вярнулі, на тым, па словах А. Разанава, ягоны і, магчыма, іншых удзел у «бізнеспраекце» і скончыўся.

*19 снежня, чацвер*

Да Якава Абрамавіча ў аптэку. Паўтары гадзіны праседзеў і не мог нічога дабіцца. Народ, блатнякі і ягоная нейкая начальніца, партай[…] візела на тэлефоне. Хочуць адкрываць камерцыйныя аптэкі. «Ашуканка»[1].

*20 снежня, пятніца*

Лекі Васілю. Кажу, што Законнікаў купіў кафэ. Ён з глыбінным быкаўскім гумарам кажа: «І правільна зрабіў. Можа, і мы ў складчыну што купім, і будуць нашыя жонкі прадаваць сабачыну за бараніну». Да Васіля прыехаў сын[2] з Горадні. Інтэлігентны, сухапары. Сёмуху нацыянальны гальштук падпісаў: «Гэты гальштук Васілю…» [у дзённіку]. Давялося для зборніка эпіграм і шаржаў[3] (з Тумашам Варанецкім) дапісаць на Дубашынскага [тэкст у кніжку не ўвайшоў]:

Ён не хапаў ласейшы кавал,
Не садзіўся на голы трон.
Поль Дубашэ і шчыры Павал
Бярэ любы дыяпазон.
Пан у Варшаве,
Дзядзька ў Мінску.
І як празаік не прастак.
І чарку ўзяць па-дубашынску
Умее, бо на ўсё мастак!

*21 снежня, субота*

*Ушача!* Ранняя зіма падобная да ранняй вясны[4]. Надвор’е як па заказу. Дарога хутчэй, хутчэй бяжыць дадому. А калі б магла яна прыбегчы ў мінулы дзень, дзе мама мяне чакала. Веташок жыцця свайго жывеш, чакаючы сустрэчы з мамай. Верыш, што там сустрэнеш. Сустрэў Пятро. Недагледжаны, як усе нашыя райцэнтры і жыхары ў іх. Цямнее рана. Сёння, здаецца, дзень нараджэння Юзіка Жахлівага [Сталіна]. Сімвалічна, што мяноўна сёння самая доўгая ноч. Ноч, якая на адной шасціне сушы вось ужо 73 гады.

Учора пряцягнуў яшчэ нізку «Urbi et orbi»[5].

---

[1] Гл.: Ашуканка (19.12.91) // Евангелле ад Мамы. С. 332.

[2] Быкаў Васіль Васільевіч (н. 1957), малодшы сын В. Быкава; урач.

[3] Барадулін Р., Варанецкі Ф. Неакадэмічная калода. Мінск, 1993. (Выданне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Тэксты выпраўлены; чарнавікі захоўваюць варыянты і дадатковыя эпіграмы.)

[4] Гл.: Радоўка (20.12.91) // Евангелле ад Мамы. С. 148; Пад іншай назвай гл.: Няма… // Ксты. С. 311.

[5] Гл.: Urbi et orbi: II. Пад’езды ў цёплых воллях… (21.12.91, Ушачы) // Евангелле ад Мамы. С. 209.

*22 снежня, нядзеля*

Ушача. На Ваўчэнскае возера. Верасовачка[1]. Усё пераарана. Засняганая аралля шарэе. Не застаецца знакаў памяці ў зямлі. Падступаюць цагляныя пабудовы. Не відаць і валуна. Ваўчэнскае возера стала. Паравеі гурбаў. Рыбакі круцяць і прабіваюць праламкі. Некалі бацька хадзіў з ку́камі на рыбу. З маладой мамы смяяліся, успаміната, калі яна сказала, што Іван рыбы закукаваў. «Мы, як і нашыя дамы′…»[2] Вечарам да Марыі Рыгораўны. Пятрок цвярозы, сумны і нейкі бездапаможны. Сын і маці. Два старыя чалавекі. Самотныя. Уклад жыцця, як і ў вёсцы Кавалеўшчыне, гэтакі ж. Ёсць козы, ёсць куры. Ёсць каты. І ўсяе гаспадаркі тае. Пазваніў Роўба, што будзе машына на Менск. Усю ноч прачынаўся. І за вугал бегаў. У валёнках, у сподніках. Марозна, поўнена, добра! І баяўся праспаць.

*** Пятрок Трафімаў: «Калі бачыш чарку, тады і цыбуля мяса».

*23 снежня, панядзелак*

На Менск. За рулём ушацкі начальнік па камунальай гаспадарцы. Наш. Таму і добры. Лесу ў раёне спелага засталося 1 %. А трэба, каб не меней 15-ці. Хаты, бывала, будаваліся з непадсочанага лесу, каб прастаялі 2 пакаленні. Бо за адно пакаленне (≈ 60 гадоў) лес не адновіцца. Трэба не меней 100 гадоў. Размовы пра палітыку. Ён кажа, што ў лесе выжываюць з статкаў той, дзе дужы важак, а дужы важак бязлітасны. Карацей, народ за моцную руку, якая б’е балюча, але дае нешта з’есці. Пад Полацкам, у Туроўлі, муж з жонкай у бацькоўскую хату з поўначы прыехалі. Муж некуды адлучыўся, з’явіліся з панчохамі на мордах, як куклуксклanaўцы, яўна, вясковыя. «Аддавай грошы і золата». Якія грошы былі — выклала і шкатулку з дарагімі бразголкамі адчыніла. Яны ўсё забралі. А пасля паглядзелі на яе. «Дык з табой можна яшчэ і пазабаўляцца». Яна і змікіціла: «Не чапайце вы мяне лепей. У мяне ж СНІД, таму і з Поўначы выслалі!» Яны ходу. У сенцах выкінулі і грошы, і каштоўнае ўсё. Словы на іх жах навялі.

У Менску на працу. Чакалі Адамовіча. Вечарам пазваніў Васіль — у Алеся інфаркт у цяжкой форме. Расказаў пра […] Жалязоўскага.

*24 снежня, аўторак*

На працу. Unser Direktor паводзіць сябе як камсахлопчык. Назначыў лятучку — не прыйшоў. Да Ваніцкага. Мяне ўвялі ў склад праўлення Таварыства «Беларусь — Ізраіль». Для сачанкаў розных калібраў будзе пра што пабрахаць. А можа, мая мара збудзецца: наведаць Ерузалім. Ваніцкі

---

[1] Верасоўка — былы бацькоўскі хутар каля Ушачаў, Рыгор Іванавіч называў яго ласкава Верасовачкай.

[2] Гл.: Адны (22.12.91, Верасовачка) // Евангелле ад Мамы. С. 143.

на Каляды даў мне пакет з рацыёнам салдата Вермахту. І бляшанку соку. Дажыліся. Як пасля вайны. Узяў з-за ўнучкі. І сорамна, і неабходна.

У саюзе нейкае паседжанне. Не пайшоў. […] «Вудаўё дрыжыць ці рука?»[1]

*25 снежня, серада*

На Камароўку. Гэтак, відаць, трэба маляваць ці сканчэнне свету, ці пекла. Народу гэтулькі, што людзей не відаць. Усіх гоніць голад і страх. «Бог спачатку неба стварыў…»[2] Званіў Васіль. Казаў, што нібыта прайшоў камісію аднагалосна[3]. Дзіўна, як гэта Сымонавіч не ўпёрся рагамі. Мо на слова што задумаў.

*26 снежня, чацвер*

На працу. Паўсюль бегатня і страх будучага. Да Навума. Адзін. Сівы. Беспрытульны. Таксама баіцца голаду. Прачытаў мне верш пра ваўчыны вышчар. Нікому цяпер не патрэбныя вершы. Імі толькі грэцца самому вершару, каб на ўсё забыцца. Стаяў у чарзе ў сталоўцы. Адна нейкая клеркушка сказала, што на панэль пойдзе. І прыйшлі радкі: «Горад чыста дамёў…»[4] Учора ў «Вестях» цікавая прыгода. Расійскі парламент паслаў ліст у НАТО. І такі бардак у краіне, што ў тэксце прапусцілі часцінку *не*. Гэтак можа здарыцца з атамнай кнопкай. «Як матылёк…»[5]

*27 снежня, пятніца*

Праца. Білет Якаву Абрамавічу. У «Полымі» карэктура «Аблачыны-самабранкі». Заўтра раненька трэба занесці.

*28 снежня, субота*

Бегатня па рэдакцыях. Вечарам званіў Васіль. Прарочымі былі рэзкія на першы погляд словы Пазьняка. Наконт расейскага менталітэту. Расейская імперыя паказвае пакуль кіпцікі, а неўзабаве ашчэрыць іклы. «Васілёк-Васіль у жыце нашым беларускім…»[6]

*Пімену Панчанку*

Ад Малпы да Малпы за семдзесят год
Пераваліла, калі мы
У бой наш апошні, ў рашучы паход

[1] Гл.: «Вудаўё дрыжыць ці рука?» (24.12.91) // Евангелле ад Мамы. С. 324.
[2] Гл.: «Бог спачатку неба стварыў…» (25.12.91) // Тамсама. С. 331.
[3] Вылучэнне Р. Барадуліна на званне народнага паэта.
[4] Гл.: Шаблон (26.12.91) // Евангелле ад Мамы. С. 207.
[5] Гл.: «Як матылёк свой кокан цёмны…» (26.12.91) // Тамсама. С. 307.
[6] Гл.: «Васілёк-Васіль…» (28.12.91) // Дажыць да зялёнай травы… С. 39.

Ішлі і плылі, як налімы.
Нарэшце прыйшлі, прыплылі і глядзім,
Што будзе у годзе наступным,
Ці выслезіць вочы мінулага дым,
Ці ўсыпле наступнасць хоць круп нам,
Каб кашу зварыць на святую куццю
Жывых памянуць, злых аддаць забыццю.
Не будзем жа больш малпаваць, малпавець,
Панець жыватом і душою гавець.
Паэтавы слаўныя 75
Мы будзем амаль як Вялікдзень чакаць.

*Максіму Танку*

Як і цыганка,
Спакойна на ганку
Слава не дрэмле,
Падданка дарогі.
Шчыра жадаю
Няўрымснаму Танку
Быць улюбёнцам у перамогі.
Хай і ў двухтысячагоддзі
Дванаццаць
Лічба пачне юбіляру ўсміхацца.

*Адаму Мальдзісу*

Ішоў вясёлы Новы год
Па невясёлай Беларусі.
Ішоў праверыць лёд і брод
У доўгім, як зіма, кажусе.
Мароз — сівая барада —
Ступаў на лёд азёрны смела.
І маладая Каляда
Ад лёстак маладых хмялела.
Шукалі ўсе Скарынаў дом,
Каб выказаць сваю падзяку
Вучоным, што як пад ільдом
Жывуць,
А праца ўсім да смаку.
Ды хто ж працуе там,
А там
Цягун, шчырун, мудрэц Адам!
Адам адказны рэй вядзе,
Бярэ адкрыццяў зоры ў жменю.
А рупная Марыя дзе?

Чакае мужа ля агменю.
Хай іхняй згоды поўны келіх
Багаслаўляе поўні келіх!

*29 снежня, нядзеля*

Сойм БНФ. Адчыняе Пазьняк. Аб палітычнай сітуацыі (дакладчык Зянон), пра вайсковае пытанне*. Пазьняк:* «Знешнія абставіны ў сувязі з стварэннем СНД. У Алма-Аце падведзена рыса стварэння Садружнасці. Берасце было выгадна для Беларусі ў траякай садружнасці. Цяпер баланс сілы змяніўся. Інтарэсы Расіі і Украіны на ранейшым узроўні. Але яны не маюць патрэбы ў Беларусі». Зянон удзельнічаў у падрыхтоўцы дакументаў. «Але не выказаны пункт — не прымаць дзяржавы, якія ваююць (Азербайджан, Арменія, Малдова). Асобная думка Беларусі была выказана. Дакумент ёсць ва ўсім свеце, але не друкаваны ў нас. Украінцы глядзяць на ўсё, як на бесперспектыўнасць. Галоўнае, каб не было Саюза і Гарбачова. Наш курс — шлях у Еўропу, незалежнасць, інтэграцыя ў еўрапейскую структуру. Унутраная абстаноўка значна пагоршылася. Няўменне ўзяць на сябе дзяржаўнае кіраўніцтва. Ні войска, ні мытняў, вяла ідзе прызнанне ў свеце. Апазіцыя аб'явіла аб стварэнні ініцыятыўнай групы па правядзенні рэферэндума. Канстытуцыйная змена ўлады. Мы ўжо рэальна маем на сваёй тэрыторыі чужое, акупацыйнае войска. Пытанне аб адпушчэнні народнай ініцыятывы па стварэнні войска, каб абараняць свае інтарэсы. Новую канцэпцыю след стварыць».

*Хадыка:* «Аб магчымым развіцці падзей пасля падвышэння цэнаў. Клімат іншы, чым у красавіку. На карысць апарату прыклад суседзяў. Спрыяе ўнутранай згодзе. Уведзены купоны. На продаж кінулі мяса. Страйкамы абяцалі патроіць заробкі. Страйкамы медработнікаў і настаўнікаў. Народ страціў афіцыйнага ворага ў асобе КПБ. Але дэзінфармацыя, распаўсюджваецца азлобленасць. Шалёная прыватызацыя, камуністычная наменклатура расцягвае ўсё. Гэта не лібералізацыя, а проста павышэнне цэнаў (па Рыжкову), бо няма шырокай прыватызацыі і антыманапольнага заканадаўства. Цяжка чакаць выбуху ў студзені. Нарастаць будзе незадаволенасць на люты — красавік. Правакацыі з боку згуртавання Собаля (Канфедэрацыя працы). Гэта падрыў страйкамаў. Таму ўзмацніць сувязь са страйкамамі, эканамічную праграму, спыніць супрацоўніцтва з урадам. Грашовая рэформа, а пасля яе прыватызацыя. Чакаем ад парламенцкай апазіцыі дзеяння і хоць да Новага старога года эканамічную праграму».

*Анцулевіч:* «Пытанне аб рэферэндуме. Трэба выдаць патрабаванне закону. Пытанні могуць быць абавязковыя альбо кансультацыйныя. Пытанне аб звальненні службовых асобаў. Пытанне аб ураду выносіць нельга. Роспуск Вярхоўнага Савета. Не менш 350 тыс. подпісаў. Адна ініцыятыўная група можа выносіць адно пытанне. «Ці лічыце Вы, што трэба

распусціць Вярхоўны Савет і назначыць новыя выбары?» Збор подпісаў па Мінску і па буйных гарадах».

*Пазьняк:* «Гэты Вярхоўны Савет можа прагаласаваць за ўсход сонца з захаду».

*Віктар Івашкевіч:* «Пра гатоўнасць Фронта да рэферэндума. За межамі Мінска актыву 300 чалавек і па Менску 150 чалавек. Прадстаўнікі партыяў павінны ўвайсці. У ініцыятыўную групу ў першую чаргу ўвесці дэпутатаў. Падключыць мясцовы друк».

*Вінцук Вячорка:* «Спатрэбіцца правесці [шэраг] інструкцыйных нарадаў. Уважліва [правесці] падбор сяброў у ініцыятыўную групу. Правядзенне рэферэндума — паяднанне ўсіх дэмакратычных рухаў, партыяў. Стварэнне палітычнай карты Беларусі».

*Сяргей Міхно:* «Тэхнічны бок рэферэндума складаны. Ён не на сойме. Трэба толькі пытанні».

*Кастусь Лабко:* «Вырашыць эканамічнае пытанне. Скарыстаць ваенную тэхніку на народную гаспадарку».

*Гурыновіч:* «Важнейшыя праблемы. Саюз трaціў на армію шмат, на Беларусь прыпадзе цяпер 20 мільярдаў. Кадры з Латвіі, з Масквы падцягваюцца цяпер. Звычайнае падвышэнне цэнаў, а не лібералізацыя. Гэта сабаку, шкадуючы, адсякаюць хвост па частках. Інтэлігенцыя самая бедная. Выклікае метазгоднасць правядзення рэферэндума».

*Банкевіч:* «На рэферэндуме адно пытанне — аб роспуску Вярхоўнага Савета. Каардынацыя ўсіх сілаў і рухаў».

*Сташынскі:* «Пытанне эканамічнае найбольш важнае. Але з гэтым Вярхоўным Саветам ніякога пытання не вырашыш».

*Раманькова.* Магілёўская філія ахвяраў сталінізму. «Дзейнасць пайшла на спад».

*Пазьняк.* Падводзіць вынікі. «Рэферэндум праводзіць трэба. З гэтым Вярхоўным Саветам нічога не будзе. Калі што й прыме, дык толькі ў стане шоку. Кансалідацыя сілаў, актывізацыя БНФ. Павесіцца дамоклаў меч над Вярхоўным Саветам. Пытанне фармулёўкі. Упраўе сойма інструкцыі падрыхтаваць і нараду дэм. партыяў і арганізацыяў, падрыхтаваць фармулёўку». Пазняк: «Мы не ў Вярхоўным Савеце і не будзем гаварыць усе разам».

Вечарам пазваніў Васілю, расказаў пра сойм. Ён лічыць, што палітычная сітуацыя не спрыяе правядзенню рэферэндума. Пісаў шмат вершаваных навагодніх віншаванняў. Здаецца, адно атрымалася як самастойны верш. «Смех вазоў»[1]. Учора ў метро шмат міліцыянтаў. Па фені: *мента*літэт (зборышча) можна і так: джэнтэль*менты*ʹ.

---

[1] Гл.: Смех вазоў (29.12.91) // Евангелле ад Мамы. С. 187. Верш прысвечаны В. Калініну.

*Віктару Шніпу*[1]

Калі паставіць націск Шніпу,
Тады жадаю вершаў кіпу,
А перанёсшы — як Шніпу́,
Жадаю зборнікаў капу!
Ды Віктар — пераможца значыць.
І гэта свет чытацкі бачыць.
Няхай жыве ў палоне муз
Сямейна-творчы ваш саюз![2]

*30 снежня, панядзелак*

Праца. Захаканы стары год хоча ўсюды паспець і ўсіх за сабой цягне бегаць, мітусіцца, растрачваць час, як турыст драбязу перад ад'ездам (наш турыст, вядома). Для Мальдзіса пераклаў з нямецкай мовы каляду: «Ціхая ноч, святая ноч!»[3]

*31 снежня, аўторак*

Апошні дзень. Сёлета, дзякуй Богу, і снегу ёсць, і мароз дае адчуць моц сваю. А ў магазінах даўжэзныя вяроўкі чэргаў па хлеб надзённы. Камуністы давялі да пераможнага канца. Што ж, народ пайшоў за антыхрыстамі, за нячысцікамі, а яны могуць толькі ў балота. Раніцай падумалася:

*Ашалелая думка*

Яшчэ спадзяюся й жыву.
Раніцай апранаюся.
І ў галаву
Ашалелая думка ускочыла:
Калі мяне апранаць пачнуць
Апошні раз,
Раптам майку надзенуць
Задам наперад.
І будзе мне дужа нязручна,
Ды запярэчыць
І нічога сказаць не змагу,
Адыходзячы навечна ў імглу…

**** Мілосці, як міласціны, прашу, жабрую…*

---

[1] Шніп Віктар Анатольевіч (н. 1960), беларускі паэт. У 1987–1991 гг. супрацоўнік час. «Беларусь». Лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага СМ Грузіі (1987).

[2] Жонка В. Шніпа — Людміла Іванаўна Рублеўская (н. 1965), студэнтка БДУ (1989–1994); беларуская пісьменніца, крытык.

[3] Магчыма, гл.: Святая ноч (30.12.91; пер. з ням.) // Ксты. С. 162.

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

**Дзённікі і запісы**
*Выпуск 5. 1989–1991*
*Выданне 2-е*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, І. Сляповіч*

Падпісана ў друк 12.02.2020. Фармат 70x100 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. 13,90 арк.
Ум. друк. 27,55 арк. Наклад 60 асобнікаў. Зак. 34.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.




Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з'яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org




Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары, — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 29 кніг і 3 кнігі ў падсерыі «Людзі Беларусі».

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.by